**Генрых Далідовіч**

# Кліч роднага звона

Раман
апавяданні
мініяцюры

Мінск
«Юнацтва»
1997

## Кніга першая
## Мір сярод вайны

### Раздзел першы

#### I

З-пад Гары, альбо Гарбоў[1], ішло-каціласся сюды, на раўніну, цяжкое рэха ад металічнага лязгату, чалавечых крыкаў і стогнаў, ад конскага храпу. Праўда, з кожнай хвілінаю гэтае рэха ўсё больш аддалялася і глушэла.

Сонечна-яркі, з блакітнаватым мроівам, спякотны дзень паволі згасаў і атухаў, на ўзгоркі з камянямі і на горныя спадзістыя адхоны, парослыя шызаватым борам, нясмела, але няўхільна поўз цень, а з ім і прыцемак, ды па-ранейшаму было душна, выядаў вочы пот, а заадно мляўка пахла ад лужын нагрэтай крыві.

Усяслаў, зняўшы амаль з мокрай ад поту галавы шлем, сядзеў на каленях на ператаптанай коньмі і людзьмі жвірыстай зямлі і няўцешна-пакутліва пазіраў на цёмнавалосага юнага, яшчэ са светлаватым пушком малойца. Той — цяпер вызвалены ад ратных даспехаў, у шэра-карычневых мяккіх ботах з бліскучымі шпорамі, у сініх нагавіцах і белай кашулі, яшчэ па-маладому вузкаваты ў плячах — ляжаў на спіне на сваім карзне[2] і нібы спаў. Але па тым, які быў доўгі ад нерухома выцягнутых ног, з вялікай чырвонай плямінаю на грудзіне, белы на твары і з упалымі вачыма, было відаць іншае: ён не проста прылёг у цяні ад вялізнага валуна, а быў мёртвы.

Вакол — на раўнінным полі за камянямі і каля пакалечаных коней — чуліся пакутлівыя ўздыхі, енкі і просьбы даць кроплю вады параненых і знясіленых гарачым сонцам воінаў з абодвух лагераў. Паволі па адным і купкамі, самі альбо на спіне сябрука ці на насілках вярталіся з поля бою знявечаныя валынскія і галіцкія ратнікі, цягнуліся да блізкага Сана, каб у яго плыні апаласнуць рукі і твар; здаровыя і вынослівыя вялі пад вартаю палонных. Ды Усяслаў не зважаў ні на кога, адрачона пазіраў на знаёмы дарагі і мілы з маленства, а цяпер застылы твар — перад ім ляжаў не проста нябожчык, а княжыч, апошні сын навагародскага[3] князя...

Ачуўся Усяслаў толькі тады, калі хтосьці апусціў на яго плячук дужую, але заадно і лагодную руку. Ён міжволі падняў галаву: па

---

[1] Гара, Гарбы — Карпаты.
[2] Карзно — княскі плашч.
[3] Правапіс згодна аўтарскага погляду.

знаёмых жоўтых ботах, па сінім карзне, па дарагіх даспехах, што блішчэлі паміж поламі карзна, адразу пазнаў: гэта — сам тутэйшы гаспадар, князь Даніла. Побач — белыя конскія ногі, а таксама боты Князевых целаахоўнікаў. Усяслаў паспрабаваў падняцца, але той поціскам далоні затрымаў яго і, здаецца, сам сумотна пазіраў на маладога княжыча, для якога сённяшняя бітва была першай і заадно апошняй — як сказалі яму, Усяславу, маладому княжычу ўцэліў мячом у шыю венгерскі рыцар.

— Обморок? — запытаў Даніла.

Усяслаў павёў туды-сюды галавою:

— Не. Горш.

— Преставился?[1]

Ён хітнуў галавой: якраз так. Хацеў сказаць: «Кажуць, упаў ад удару з каня і паспеў толькі прамовіць падбегламу дружынніку: «Мой бедны бацька...», але вымавіць такое не было сілы.

— Все в руках Божиих... — уздыхнуў Даніла.— Господь даша — господь взяша. Печалуюсь, что сие сегодня...

Усяслаў добра зразумеў, што сказаў і што мог яшчэ дадаць тутэйшы валадар, які папрасіў іх, навагародцаў і іхняга суседа-саюзніка Міндоўга, памагчы абараніцца ад войска венгерскага караля Бэлы і пляменніка Расціслава. Даніла-князь радаваўся за выйгранае пабоішча, бо сёння адразу забіў двух зайцоў — удала запыніў больш чым трыццацігадовую бацькавую і сваю крывавую спрэчку з венграмі і палякамі ды яшчэ даўжэйшае суперніцтва са сваімі князямі і баярамі, на гэты раз адолеўшы сына чарнігаўскага князя — зяця караля Бэлы.[2] Даніла-чалавек засмучаўся, што загінуў тут сын таго, хто пачуў не толькі вушамі, але і душой ягоную просьбу. Канечне, Даніла — князь і чалавек у адной асобе — не мог не падумаць ё пра далейшы лёс Навагародскай зямлі, якую ён лічыў сваім уладаннем: навагародскі князь Ізяслаў стары, а яго адзіны наступнік напаткаў тут смерць...

Усяслаў яшчэ ніжэй схіліўся над княжычам.

— Цяжка будзе князю Ізяславу вытрываць такое гора,— зноў падаў шлас Даніла.— Ніякіх слоў чалавека і брата[3] не хапае, каб хоць крыху суцешыць. Толькі, можа, адзін Бог уратуе яго і захавае яму дух.

Даніла зноў недагаварыў, думаючы, мабыць, пра сваё, запаветнае: за апошнія восем гадоў загінулі ўсе тры сыны навагародскага

---

[1] Памёр?

[2] Гэтая бітва адбылася ў жніўні 6753 года, альбо ў 1245 па сённяшнім календары.

[3] Князі называлі адзін аднаго братам, хоць і не былі такой раднёю.

князя. Старэйшы паў пры бацьку, калі з Міндоўгам і во гэтым Данілам хадзілі на Конрада Мазавецкага, серадольшы загінуў летась, калі яны, навагародцы, разам з Міндоўгам адбівалі адзін з крыжацкіх кападаў на іхнія землі, а самы малодшы, які супраць бацькавай волі рваўся загартавацца ў сённяніняй бітве, пакінуў гэты свет тут, на галіцка-валынскай зямлі.

— Скажу шчыра, ваявода, я марыў парадніцца з князем Ізяславам,— уздыхнуў Даніла.— Слаўнага вашага княжыча бачыў я сваім мілым зяцем, мужам маёй Дабраслаўкі...

Гэта значыла тое, пра што ён, Усяслаў, часта гаварыў з князем Ізяславам: Даніла пастараецца ярыелаць да іх у Навагародак дачку, каб яна паспрыяла вярнуць Навагародскую зямлю пад бацысаву руку. Рэч даўно ўжо вядомая: княскія жаніцьбы, сваяцтвы былі, ёсць і будуць не толькі па каханні, але і па задуме князёў ды ўладных баяраў.

З Усяслававай душы вырваліся нямыя боль і пакута — ён на ўсю грудзіну ўвабраў настоенага гарачынёй і пылам паветра, а пасля цяжка выдыхнуў; плечы яшныя ссутулился, а вочы затуманіліся слязьмі. Ён упершыню за сталыя гады заплакаў — моўчкі, скупым), але адчайнымі за заўтрашні лёс роднай зямлі мужчынскімі слязамі.

— Будзь, ваявода, такі ж мужны ў бядзе, які ты стойкі ў баі,— прамовіў Даніла і нечакана забраў з плечука руку і, здаецца, падаў сваім людзям знак.

Тут жа Усяслаў пачуў над сабой чужое дыханне — маладыя дужыя мужчынскія рукі падхапілі яго, паставілі на ногі. Ён стаў побач з Данілам. Абодва амаль аднагодкі (Даніла быў крыху старэйшы), рослыя, некалі з цёмнымі, але цяпер ужо з пасярэбранымі валасамі і барадамі.

— Вядуць палоннага Фільнія,— паказаў яму вачыма Даніла.— Не варта, каб вораг бачыў наш адчай і смутак. Няхай лепш бачыць нашу непахіснасць.

Фільній — вядомы венгерскі палкаводзец. Канечне ж, марыў сёння выйграць бой, замест ваяўнічага і грознага Данілы (а такім валынскі князь стаў для Еўропы і Папы Рымскага ў 1237 годзе, калі ён ушчэнт разбіў крыжакоў-набрыднікаў каля Драгічына) пасадзіць тут на пасад паслухмянага сына чарнігаўскага князя, але вось цяпер клыпаў не як пераможца над славутым князем і тайны ўладар гэтага краю, а як пабіты і запалонены няўдачнік. Усяслаў бачыў яго разы два, дык пазнаваў знаёмае аблічча: пажылы, на гадоў сем старэйшы за Данілу, смуглявы, з вялікімі чорнымі вусамі і выгаленым падба-

родкам, з кароткімі валасамі і ў дарагой бліскучай стальной кірасе, па версе якой быў шаўковы бурачковы плашч.

— Ну што, барон? — калі дружыннікі падвялі яго сюды, уджаліў Даніла.— Добра падсыпалі мы табе?

— Каб не Мендог і не яны,— павёў той вачыма па Усяславе,— дык, можа, герцаг, не я тваім, а ты быў бы маім палонным.— Апусціў галаву, зірнуў на мёртвага княжыча.— А ты, ваявода, дарэмна прынёсся са сваіх лясоў памагаць: герцаг Даніэль — не толькі наш, але і ваш, навагрудскі ды літоўскі, вораг. Мы, каб перамаглі сёння, на вашы землі не пасягалі б, а вось герцаг пасягаў і будзе пасягаць...

— Змяя ты, барон,— ухмыльнуўся Даніла.— Калі ўсходні тыгр Батыга[1] падыходзіў да Кіева, я сам прыехаў да вас, прасіў-маліў: памажыце адбіцца ад бязлітаснага звера. Вы ж спачувалі, ахалі ды охалі, але не пакраталі нават пальцам. Мабыць, думалі: Батыга паб'е Данііла[2], а да нас праз Гарбы не палезе. Не выйшла. па-вашаму, той знішчыў старажытны і слаўны наш Кіеў, віхурай пранёсся па галіцка-валынскай зямлі, пераваліўся праз горы і паразганяў вас, як мышэй. Цяпер вы акрыялі, дык рашылі пажывіцца, лічачы, што ў нас ужо няма сілы даць здачы. Ажно, бачыш, знайшлі яе. І не ўдасца вам сутыкнуць нас, праваслаўных, ілбамі...

Усяслаў добра разумеў Данілаву злосць: нядаўна ён сватаў свайго старэйшага сына, Льва, да дачкі караля Бэлы, але з гэтага нічога не выйшла. Бэла не хацеў умацоўваць уладнага ды славалюбівага суседа-суперніка, насуперак яму парадніўся з беглым сынам чарнігаўскага князя — як са сваім наёмнікам і стаўленнікам на гэтых во землях.

— Здаецца, гэты юны герцаг — апошні сын герцага з Навагрудка? — запытаў Фільній ва Усяслава, як чутно было, маючы неблагія звесткі пра бліжэйшыя славянскія землі.

— Не пляці інтрыг, барон,— абсек яго Даніла.— Яшчэ раз скажу: пасварыць нас табе не ўдасца. Цяпер сам час змушае нас і ноўгарадцаў быць разам.

— Вам і разам не ўстояць супраць воінаў веры Хрыстовай і мангольскага тырана,— ухмыльнуўся той.— Выбар для цябе, герцаг, невялікі: альбо немінучая пагібель, альбо быць пакорлівым васалам Батыя! Які ты не горды, але станеш перад ім на калені, як той жа

---

[1] Маецца на ўвазе тое, што Батый меў пайцзу (вярыцельную грамату) з вышэйшым у манголаў рангам — з адбіткам галавы раз'юшанага тыгра.

[2] У летапісах і ў гістарычнай, мастацкай літаратуры рознае найменне тых асоб: Данііл-Даніла, Бату-Батыга-Батый, Міндоўг-Мендог, Войшалк-Войшаль... Тут і далей аўтар выяўляе свой погляд на гэтыя імёны.

вялікі князь уладзімірскі Яраслаў, які літаральна выпрасіў у сталіцы Залатой Арды ярлык на княжанне ў сваёй зямлі. Так вымольваў, такую падакляраваў багатую даніну, што Батый падкінуў яму з міласціны яшчэ і руіны вашага славутага Кіева!..

— Гэта не твае, барон, а нашы, славянскія, клопаты,— ускіпеў у душы, але стрымана працадзіў скрозь зубы Даніла.— Нам самім рашаць: ці ісці на пагібель, ці... З кім-кім, а з табой, вераломным, не буду раду трымаць, што рабіць. Ды ты, барон, цяпер пакланяешся мне, станеш перада мной на калені, каб я не кінуў цябе ў загарадзь да галодных псоў. Злы я на цябе вельмі: шмат ты патаптаў маёй зямлі, пабіў маіх людзей. Нават параненых вояў не шкадаваў, даколваў і дарэзваў!

— У Марса свае законы, герцаг,— скурай адчуў Фільній, што жорсткі Даніла сваіх слоў проста так не кіне на вецер.

— Я не горш за цябе, барон, ведаю гэта. Але да параненых павінна быць у пераможцы літасць і спагада. Ты ж парушаеш і чалавечую спагаднасць, і законы сваёй веры, звыш меры неміласэрны.— І да дружыннікаў: — Вядзіце і бярыце на ланцуг! Вока з яго не спускайце! Я пагляджу, як цяпер са мной будзе гаварыць гардавус[1] Бэла! І ляхам ды крыжакам няхай гэта будзе ўрок! — Прытуліў Усяслава, давёў да ягонага каня.— Разам мы, ваявода, сіла!

Даніла падаў знак — дружыннікі падкінулі Усяслава на мяккае лямцавае з сярэбранай акантоўкай сядло; ён як трымаў на сагнутай левай руцэ свой бліскучы шлем з узорыстай насечкай, так і не падымаў яго; чацвёра гоных навагародскіх дружыннікаў — два спераду і два ззаду — паднялі і панеслі на карзне забітага княжыча. За імі панурыста пакрочыла княжычава і яго, Усяславава, варта.

З-пад Гары цягнуліся і цягнуліся параненыя; здаровыя вялі на павадах альбо конна гналі перад сабой сваіх і чужых скакуноў — сталыя, абабітыя ўжо ў сечах коні крочылі стомлена, але паважліва, нібы знатныя, не скораныя і ў палоне воі, а вось іхнія маладыя, ашалелыя ад нядаўняга пабоішча, крыкаў, стогнаў і паху крыві суродзічы — найперш венгерскія і польскія выпешчаныя ды свавольныя жарэбчыкі — мітусіліся, таўкліся адзін з адным ды з перапуду стрыглі раз за разам вушамі.

Князь Даніла, седзячы на пазалочаным сядле, ехаў на любімым арабскім белым скакуне побач, але ўжо моўчкі. Мінулі рыхлы ад тысяч конскіх ног жвірысты пляц, а потым перамяшаны з зямлёй прыбярэжны луг, што сённяшняй раніцай быў яшчэ зялёны ад травы. На

---

[1] Ганарлівец.

бела-жоўтым пясчаным беразе, дзе звычайна грэюцца на сонцы, корпаюцца ў пяску дзеці, Даніла запыніўся — ягоныя маладыя дружыннікі адразу ж падбеглі, памаглі спешыцца яму і Усяславу. Грузнучы ботамі ў мяккім і сыпкім рачным пясчаніку, яны пайшлі да броду, кудой перапраўляліся на гэты бок; Даніла, зняўшы шлем і перадаўшы яго дружынніку, першы ступіў у ваду, апаласнуў рукі, твар, валасы і шыю.

— Ух! — усцешыўся, выпрастаўшыся.— Вада — жыватворная!

З шумам, узбіваючы пырскі вады, увайшлі і ўбеглі з-за іхніх спінаў у раку сасмяглыя коні, але ім не давалі шмат піць, толькі дазволілі некаторым з іх упасці і закачацца, падняць угору ногі з бліскучымі падковамі на капытах, змыць з сябе пот і пыл, ад чаго вада ў Сане стала зусім мутнай.

Канечне, падумаў Усяслаў, добра было б і ім, людзям, скінуць з сябе цяжкія даспехі, скажам, вось яму — зіхоткую, сям-там апырсканую чужой крывёй кальчугу, шырокі скураны пояс з сярэбранымі бляшкамі, на якім вісеў падараваны князем Ізяславам прыгожы і трывалы меч (падарунак гэты быў яшчэ гадоў дзесяць таму, калі князь, Рада і веча благаславілі яго быць навагародскім ваяводам), а заадно мяккую, але потную паддзеўку, нырнуць да халоднага дна, каб змыць з сябе ўсё непрыемнае і набрацца ад зямлі і жывой вады новай сілы. Ды цяпер не да гэтага.

— Хадзем, ваявода,— прамовіў Даніла і, паглыбляючыся па калені, запрасіў яго на той бераг, у свой стан.

Усяслаў пакрочыў за ім — імклівая халаднаватая вада зносіла ўбок, але заадно асвяжала ногі, а пасярод ракі і паясніцу.

— Цёплай вады, свежую апратку і шацёр ваяводзе,— на беразе адразу загадаў сваёй чэлядзі галіцка-валынскі валадар.

— Дзякуй, князь,— сказаў яму Усяслаў,— але я не магу застацца тут начаваць. Мушу, як толькі пасвяжэе, падацца ў дарогу. Шлях няблізкі, дні спякотныя — трэба давезці княжыча як мага ў лепшым выглядзе.

— Разумею цябе,— сёння, як ніколі, той быў памяркоўны.— Зараз жа мае людзі паскачуць у Яраслаў, зробяць ладдзю[1] і прывязуць з пограбаў старога лёду, потым пачаруюць мае лекары — княжыча адправіш, як і хочаш, уначы. Але сам затрымайся, дарога твая доўгая, дагоніш сваіх яшчэ на Берасцейскай зямлі.— І, наблізіўшыся, каб ніхто не пачуў, прашаптаў: — Хачу аддзячыць табе шчыра і шчодра.

[1] Князёў-нябожчыкаў у старажытнасці везлі на санях альбо неслі ў ладдзі.

Баяры мае казалі: князь Ізяслаў гардавусам стаў, не прыйдзе памагчы і цябе не пусціць. Але ты прыйшоў і Міндоўга прывёў.

— Мендог сам прыйшоў,— адказаў Усяслаў, не хочучы нагаворваць на суседа-саюзніка, якога даўно ўжо недалюблівае Даніла, а то і лічыць за аднаго з самых небяспечных ворагаў: былі на тое свае прычыны.

— Хоць вы ўступілі ў бой пазнавата, але ваш прыход добра падняў наш дух і ашаламіў ўграў ды ляхаў,— прызнаў горды Даніла.

— Ты, князь, хораша сказаў Фільнію: цяпер нам трэба быць разам супраць ворагаў, што абкружылі з усіх бакоў,— прамовіў негаваркі Усяслаў і тое, пра што думаў, і для таго, каб усыпіць Данілаву насцярогу да іх, навагародцаў.

— Дзякуй, Усяслаў,— сказаў Даніла, усцешыўся.— Мой сябар маленства, кароль Бэла, бач, палічыў: мы цяпер зусім слабыя, дык ён возьме мяне голай рукою і пасадзіць на маё месца зяцька Расціслава. Свярбіць яму ўсё ж дадаць да свайго тытулу «рэкс Галіцыэ эт Ладамірыэ»[1], хоць яшчэ яго бацька ведаў: не ўдасца ім гэта. Вось чаму мы і невялікай сілай, у тры тысячы конных і пяць сот пешцаў, стаялі насмерць. А калі ўгры і ляхі, прадчуваючы перамогу і спажыву, кажу, угледзелі пыльную хмару ад ног вашай конніцы, дык разгубіліся і пабеглі.— І зусім шэптам: — Шчыра дзякую, Усяслаў, і за мой паратунак. Вельмі ж ціснулі ўгры, мае дружыны пачалі адступаць — мусіў сам кінуцца ў гушчу бою... Каб не твая падмога, дык, можа, і паланілі б, аддалі б на згубу Расціславу...— Прыхіліў і пацалаваў.— Я твой вечны даўжнік, дружа!

Іншым разам Усяслаў, можа, і ўсміхнуўся б: што бывае вечнае ў людзей, тым больш у князёў? Сёння, калі рады і вясёлы, той-сёй з іх дзякуе, а заўтра...

Усяслаў добра ведаў Данілу яшчэ з часоў першай сутычкі з мангольскімі набежнікамі на Калцы, калі яны, маладыя, былі як след пабітыя і ледзь выратаваліся ўцёкамі (параненага ў грудзіну Данілу выімчаў верны конь); за апошнія дваццаць гадоў яшчэ болей пазналі адзін аднаго ў розных баях і спрэчках — не раз плячо ў плячо хадзілі на яцвягаў, на Конрада Мазавецкага, адбівалі крыжакоў і нават прыйшлося сутыкнуцца ў баі адзін з адным. Да слова, тады, калі яны, навагародцы разам з літоўскімі князямі, рашылі памагчы Пінску, калі той сабраў досыць вялікую кааліцыйную сілу супраць Данілы: пінянам надакучыла ўжо зацяжное пасяганне паўднёвага суседа. Праўда, сталыя і хітрыя галіцка-валынскія верныя баяры падказалі маладому

[1] «Кароль Галіцыі і Валыні» (лац.).

Данілу, як раз'яднаць іхнія сілы, зноў падпарадкаваць Пінск[1], але з таго часу піняне затаілі помету і тайна саюзяцца з Навагародкам і з Міндоўгам, дазваляючы таму і іншым літоўскім князям набягаць праз іхнія землі на Данілавы ўладанні. Праўда, піняне ў той жа час не замінаюць Данілу і яго брату Васільку ісці ў пагоню за літоўцамі, а пасля «святкуюць» разам з паўднёвым уладаром перамогу. Палітыка. Яны — употай змоўленыя навагародцы, ваўкавысцы, свіслачане, слонімцы, піняне, тураўчане і берасцейцы — былі пільныя і добра сачылі, каб і Данілу аслабляць, і літоўцаў не ўмацоўваць, каб спакваля набірацца моцы самім. Адным словам, Даніла і Усяслаў няблага ведалі, хто мае якія звычкі і нораў, сілу і спрыт, развагу і рашучасць. Што да Данілы, той лагодны і шчодры, калі ўсё выходзіць так, як ён хоча, але калі штосьці не па ім, дык тады гнеў і жорсткасць ягоныя не ведаюць межаў. Хіба не пра гэта гаворыць тое, як ён у свой час абышоўся з цесцем Мсціславам: той са сваёй сілаю памог выгнаць чужаземцаў, асядлаць некаторых непакорлівых і мяцежных баяраў, узвысіў над Галіцка-Валынскай зямлёю, вадзіў яго на Калку, а ён адплаціў таму чорнай няўдзякай — праўда, потым, пасля Мсціслававай смерці, наракаў, што іх перасварылі некаторыя зламысныя баяры: маўляў, уладны цесць хацеў яго мець толькі за васала...

— Затрымайся, Усяслаў,— прамовіў Даніла.— Хачу штосьці сказаць табе, а пра штосьці запытаць і пачуць ясны адказ...

## 2

Майстравыя людзі хутка паставілі драўляныя падпоркі, нацягнулі вяроўкі, абкрылі скурамі, дыванамі — неўзабаве ўжо стаяў шацёр на палавецкі манер для Усяслава.

Ён, распрануты да пояса, мыўся пад струменем цёплай вады, што ліў са збана яму на шыю і рукі ягоны верны дружыннік-ахоўнік Цішук, фыркаў, асвяжаўся, хоць сёння ад асалоды не цешыўся: не мог ні на хвіліну забыць княжычавай пагібелі. Калі зажмурваўся — і на дварэ, і потым у шатры, лежачы на палавецкіх пухавіках,— зноў і зноў, нібы на выяве малявальніка, бачыў карціну сённяшняга бою на той час, на які ён заспеў яго. Вось так, заплюшчыўшы вочы, бачыш увечар грыбы ці ягады, што збіраў удзень.

Калі ягоная дружына пасля полудня перайшла Сан, мінула ўжо досыць ускапычаны луг, дык на жвірыстай раўніне і на камяністым перадгор'і яны ўбачылі стракаты і яркі вялізны людскі і конны мурашнік — у ім вялікія мурашы ў даспехах спляліся па адным і

---

[1] Гэтыя падзеі гісторыкі пазначаюць 1228-ым, 1229-ым, а то і 1230-ым годам.

малымі ды вялікімі гуртамі, калолі-дубасілі адзін аднаго коп'ямі, мячамі і сякерамі — нават у тупаце конскіх ног было чуваць, як там крычалі-енчылі-стагналі людзі, як звінела жалеза і сталь, і на вачах падалі на зямлю ўсё новыя і новыя забітыя ці параненыя.

Усяславу было даволі аднаго зацяжнога налоўчанага ваяводскага позірку, каб убачыць: князю Данілу — нявыкрутка. Няма ўжо ягонага рэзерву, няма ўжо яго самога на кіруючым узвышку каля княскай харугвы, усе — і маладыя, і самыя загартаваныя дружыннікі — у баі. Каб вораг не адкінуў і не ўтапіў у Сане, яны біліся зацята і адчайна — як Князевы вoi ў бліскучых даспехах, а некаторыя, найбольш выбітныя, і з залатым ланцужком на грудзіне, так і апалчэнцы, прыкарпацкія руснакі ды гуцулы ў белых, вышытых на спіне кашулях, у сініх і чырвоных шараварах і ў шарсцяных панчохах ды чорных мяккіх чунях, узброеныя самым нечаканым чынам — сякерамі з доўгімі тапарышчамі, кінжаламі, лукамі, а таксама і арканамі. На іх насядалі простыя і знатныя венгры — з іх многія былі, здаецца, у палавецкіх аблямаваных шэрсцю каўпаках, у кафтанах ды ў шараварах, нават з палавецкімі шаблямі.

«Ці абрабавалі ўгры палавецкага хана Кацяна, калі той папрасіў у іх паратунку ад Батыгі,— мільганула думка ва Усяслававай галаве,— ці полаўцы сілай змушаныя ісці са зброяй на саюзнага ім Данілу?»[1]

Разам з венграмі лезлі напралом нямецкія рыцары ў вялізных шлемах з адтулінамі для вачэй і рота, у бліскучых панцырах і шчытах з залатой насечкаю, а таксама насядалі крыжакі ў белых мантыях ды манаскія ордэнцы, на харугвах якіх была намаляваная сабачая галава з палаючым факелам у зяпе (можа, і ад таго іх празвалі псамі-рыцарамі). Далей, на ўзвышку, быў стан варожага палкаводца: там узвысілася блакітная харугва з залатой каронаю Стэфана, якую неслі два ангелы. Паблізу харугвы стаяў знатны коннік — мабыць, венгерскі палкаводзец. Можа, і Фільній: чуткі як пра яго храбрасць, так і пра яго жорсткасць даходзілі і да Навагародка. Добра бачачы зверху, як пад бел-чырвона-белымі харугвамі набліжаецца, імкнецца на падмогу Данілу Усяслававa конніца, той занерваваўся, штосьці закрычаў, замахаў рукамі — туды-сюды, у розныя бакі, паскакалі яго пасланцы, каб, канечне ж, перадаць старшым дружын ягоную новую каманду і перацягнуць больш сілы сюды: за імі спяшаліся і Міндоўгавы дружыны.

[1] Тагачасная жонка Данілы Галіцкага была дачкой былога наўгародскага князя Мсціслава Удалага і ўнучкай палавецкага хана Кацяна.

Хоць быў не маладзён ужо, не раз і не два біты, паранены ў баях і сутычках, аднак і цяпер Усяслаў адчуў трывожны прыліў хвалявання і страху перад хуткай сечай — і за сябе, і за моладзь; каб аспакайнець і стаць цвяроза разважлівым, ён, як заўважаў, а за ім услед і ягоныя дружыннікі на хаду залішне бязлітасна білі, аглушалі абчапляных жалезам рыцараў — тыя ці то спрабавалі падняцца на ногі ці, хістаючыся, пляліся на поле бою, каб ударыць галічанам і валынцам у спіны. Усяслаў падаў знак сваім трубачам — пачуўшы баявы кліч навагародцаў, дружыннікі князя Данілы пачалі расступацца, пакідаць ворага перад свежай сілаю; Усяслаў адціснуў княжыча ўбок, а ягоныя дружыннікі галопам ukliніліся ў рыцарскі стан і адразу ж молада пацяснілі ашаломленых рыцараў. У бой навагародцаў павёў тысядкі Бялян.

Застаўшыся ў тыле з княжычам і аховаю, пакрысе ўтаймоўваючы хваляванне, Усяслаў ужо не траціў позірк на ўсё поле бою, а ўчэпіста засяроджваў яго на мечаванні малых і вялікіх гуртоў, вызначаючы, куды трэба перакінуць сваю сілу. Вось цяпер ён ужо ваўсю адчуў стальны звон, конскі храп, людскія енкі і крыкі. Воі, пераадольваючы страх і набіраючыся злосці ды няшчаднасці (не заб'еш ты — заб'юць цябе, пасягнуць на тваю сям'ю і на тваё дабро), лаяліся, абражалі яшчэ адны адных:

— Элёрэ! Батран![1]

— Бжыдаль![2]

— Гидь![3]

— Зобачце: Навагрудэк![4]

— Элёрэ! Батран!

— Фрыш драуф![5]

— Аусгаррэн![6]

— Айн блёфэр кэрл! Айн троттэль![7]

— Гавкай-гавкай, гнды! Нагавкаеш!

— Геть, гидота! Геть, посипака![8]

Абмацваючы вачыма поле бою, Усяслаў вышукваў: дзе ж знаёмая Данілава харугва, дзе яго знаёмае карзно? І нечакана ўбачыў у

---

[1] Наперад! Не бойся! (венг.)
[2] Пачвара! (польск.)
[3] Гад! (укр.)
[4] Глядзіце: Навагрудак! (польск.)
[5] Смялей наперад! (ням.)
[6] Трымацца да канца! (ням.)
[7] Прыдурак! Абэлтух! (ням.)
[8] Прэч, брыда! Прэч, паслугач! (укр.)

людской гушчэчы: Данілу з невялікай купкай людзей абкружылі венгры, той са сваімі дружыннікамі адчайна б'ецца, аглушае, скідвае з коней усё новых і новых ворагаў, але вось некалькі пешцаў злаўчыліся і сцягнулі Данілу за карзно з каня.

— Бачыш, княжыч? — запытаў Усяслаў.

— Што?— з маладым, неўтаймоўным хваляваннем усклікнуў той.

— Угры палоняць князя Данілу,— паказаў мячом туды, дзе з дзесятак венгерцаў спрабавалі абваліць і жывога звязаць разгарачанага галіцка-валынскага ўладара.— Трэба адбіць яго.

— Мілы дзядзька![1]— аж падскочыў у сядле малады княжыч, замахаў мячом.— Дазволь мне выратаваць князя Данілу!

— Паспееш яшчэ праліць нечыю ці сваю кроў,— ужо спакойна прамовіў ён.— Было і яшчэ будзе шмат сечаў ды пабоішчаў.

— Але павінен жа я калі-небудзь праверыць руку не толькі ў гульні, але і ў баі! — не мог спакойна ўседзець у сядле той, з мужчынскай зайздрасцю бачачы, як яго аднагодкі скульваюць з коней рыцараў.

— Князю трэба не толькі твая дужая рука, але і ясная, разумная галава,— усё не дазваляў выхаванцу рынуцца ў атаку Усяслаў.— Глядзі ўважліва за боем, вучыся бачыць, як ён ідзе, думай, што і як рабіць, каб пераламаць яго на сваю карысць. Суцішвай эмоцыі і парывы, развівай здольнасці страціга. Ты ж — наш будучы князь!

— Я так ніколі не пабуду ў баі,— надзьмуўся той.— Да сівых валасоў буду отракам, тваім вучнем,— а пасля нечакана, парушаючы дамову з бацькам, неслух рэзка тузнуў свайго каня, ударыў яго шпорамі і сваволна панёсся туды, дзе на валаску вісеў лёс князя Данілы. Канечне ж, нарэшце хацеў паадолець свой першы, самы вялікі страх перад першым сур'ёзным боем і заадно молада хацеў паказаць усім, што ён смелы і добра ўжо навучаны, варты таго, каб на яго ўсе, найперш равеснікі яго юнай дружыны, а таксама і князь Даніла са сваімі баярамі, глядзелі ўжо як на харобрага!

«Ну, княжыч, пачакай! Падсыпле табе князь!»— з такой помслівай думкай Усяслаў кінуўся ўслед за выхаванцам-неслухам — каб прыкрыць яго. Той са сваёй аховаю (а ўзначальваў яе Усяславаў зяць, баярын Васілёк) уклініўся ў непрыяцельскі гурт, сек-церабіў дарогу да князя Данілы; Усяслаў замечаваў і заадно намагаўся бачыць княжыча хоць краем вока, крычаў, каб той вярнуўся ў тыл, ды той не слухаў, задзірыста наскакваў то на аднаго, то на іншага непрыяцеля, і адразу

---

[1] Дзядзька (пястун) — выхавацель.

было відаць: у яго яшчэ няма халоднай развагі і лучных удараў, ён зашмат марна траціць энергію і сілу.

Не пайшоў-пабег, а марудна пацягнуўся час нямала ўжо вырвалася і панеслася ў неба мужчынскіх моцных слоў, стогнаў, непрыязнага шалу і ап'япення ад сечы, нямала вылілася поту і крыві, прагучала апошніх, перадсмяротных і звернутых да маці ўскрыкаў, пакуль, нарэшце, не адбыўся адчайны пералом:

— Венгжы ўцекаен!..[1]

— Аллес цурук! Аллес цурук![2]

І трэба ж, калі ён, Усяслаў, уцягнуўся ў бой, калі князь Даніла зноў ускочыў на каня і павёў за сабой усіх у наступ, дык вось у гэтую радасную хвіліну Усяслава нечакана ахаланіў старшы яго аховы Цішук:

— Ваявода, княжыч паранены!

На табе! Толькі нейкі міг не бачыў таго, але за гэтае імгненне вось такое. Недагледзеў! Дзядзька! Дай бог, каб княжычава рана была лёгкая. Тады яна будзе радасцю і славай для маладога нашчадка ўладара іхняй зямлі, першым ягоным баявым хрышчэннем. Ды... Як толькі Усяслаў пад'ехаў і ўбачыў на зямлі абкрываўленага і збялелага юнака, сэрца яго рэзка ўстрапянулася, а пасля зайшлося ад болю і адчаю...

...— Ваявода,— дыван каля ўвахода адхінуўся — у шатры пачуўся ціхі Цішукоў голас.

Усяслаў адплюшчыў вочы, вярнуўся ў думках з успамінаў у цяперашні час: у шатры было ўжо цемнавата, з двара сюды праз адхінутую занавеску даляталі ружова-чырвоныя водсветы ад недалёкіх шматлікіх вогнішчаў.

— Я не сплю, Цішук,— падаў ён голас крыху маладзейшаму, але смеламу і кемліваму вою, даўняму сябру і паплечніку з простых смердаў[3].

— Да цябе дворскі Андрэй, сын Іванаў.

Андрэй — дворскі[4] і ваявода князя Данілы, важны чын і знатная асоба Галіцка-Валынскай зямлі, любімец тутэйшага ўладара і ягонага брата Васількі.

---

[1] Венгры ўцякаюць!.. (польск.)

[2] Усе назад! Усе назад! (ням.)

[3] Смерд — селянін.

[4] Дворскі — упраўляючы княскай гаспадаркай.

Усяслаў падняўся і выйшаў з шатра, у мігатлівай ад блізкіх і далёкіх вогнішчаў паўцемені падаў невысокаму, яму па плячо, худому, але настойліваму, хітраму калегу руку.

— Прымі, ваявода, і ад мяне шчырае спачуванне ў вашым горы,— прамовіў той.— Вялікая бяда і князю Ізяславу, і вам усім.

Яны прытуліліся плечукамі і памаўчалі хвіліну-другую.

На полі, дзе гарэла мноства кастроў, пачуўся тупат і пачалі слацца доўгія цені: вярталіся тыя, хто хадзіў у пагон за пераможанымі. Праз хвіліну-другую сюды падскочыла некалькі вершцаў на задыханых конях. Усяслаў спачатку падумаў, што гэта іхні тысяцкі, якога ён паслаў гнацца за ворагам, але гэта быў навагародскі сусед — князь Міндоўг са сваёй аховай і баярынам Хвалам.

Міндоўг хутка спешыўся і адразу рушыў да Усяслава.

— Якая бяда! Якое гора!— прыпаў да ягонага плечука, прамаўляючы на дрыгавіцка-крывіцкай гаворцы. Спачуваў і заадно нібы апраўдваўся за былое: той-сёй у Навагародку шчыра лічыў, што ён не без патаемных намераў не ўратаваў іхняга сярэдольшага княжыча ад крыжацкага мяча.

— Што будзем рабіць, Усяслаў?— па праве добрага суседа і павагі да яго запытаў Міндоўг.

— Княжыча хутка адправім з тысяцкім Бялянам,— адказаў Усяслаў,— а нам з табой, князь, трэба застацца тут. Князь Даніла просіць.

— Шацёр для князя Міндоўга гатовы,— уступіў у размову дворскі Андрэй.— Мыйся, князь, пераапранайся — хутка вячэра. Грэх не адсвяткаваць перамогу.

— Як Усяслаў, так і я,— адступіў той, даючы прытуліцца да Усяслава свайму баярыну Хвалу. І ўжо ўсцешана: — Пабілі ўграў і ляхаў, шмат паланілі, а астатніх загналі ва ўсе шчыліны Гары. Шмат даспехаў, коней непрыяцельскіх узялі. Вялікія лупы![1]

Усяслаў міжволі ўсміхнуўся: любіць сусед пажывіцца за чужы кошт. Як і ягоныя дзяды ды прадзеды, не раз і не два дзеля гэтага дзёрзка набягаў на смаленскую, наўгародскую і яцвяжскую землі, на аўкштайтаў, жамойцаў і крыжакоў. Праўда, са згоды і падбухторвання Полацка, а ў апошні час — і Навагародка ды Пінска, што засланялі яго зямлю з заходне-паўднёвага боку і з якімі ён мусіў саюзнічаць.

— Ваявода,— прамовіў Андрэй, калі Міндоўг і Хвал адышліся,— у нас мала часу, але нам трэба паглаголеці з вока на вока. Ёсць тое-сёе, пра што лепш перамовіцца без Мендога, ці не так?

— Я ўважліва слухаю цябе, дворскі, скупа прамовіў Усяслаў.

---

[1] Лупы — ваенная здабыча.

— Сарока, ваявода, пачала ўсё часцей і часцей прыносіць нам непрыемныя навіны з Ноўгародка... Андрэй «нача посольство правити».

«Іншым разам гэтую гутарку завялі б за вячэраю, калі пастараліся б напаіць і развязаць язык,— падумаў Усяслаў.— Цяпер ведаюць: сёння шмат піць не буду, дык князь Даніла даручыў прыціснуць мяне да сцяны цяпер».

— Хадзем у шацёр, прысядзем,— прамовіў уголас, рыхтуючыся лішне не прагаварыцца і не ўскіпець перад назольным і няшчадным Андрэем. Ён — як тая блыха: малая, але моцна джаліць.

— Пастаім тут,— сказаў той.— Я хачу сам бачыць, што нас не чуе чужое вуха. Дык чаму, ваявода, гэтыя навіны для нас непрыемныя?

— Я не ведаю, пра што пытае дворскі.

— Ліс ты, Усяслаў,— ухмыльнуўся, чапляючыся, Андрэй, кладучы локаць на кант блізкага шатра.— Такі, якім быў некалі твой цёзка, полацкі князь-ваўкалака!

— Давай, дворскі, не зневажаць продкаў,— нібы папрасіў, а на самай справе незадаволена сказаў Усяслаў.— Скажы, калі ласка, што ж непрыемнае табе настракатала наша сарока?

— Нечысцівае замышляеце вы. Князь Ізяслаў і ты са сваімі аднадумцамі.

— Нечестивому все в угоду...— Паспрабаваў аджартавацца Усяслаў.

— Добра ведаеш, ваявода: я і сам люблю жарты,— стрымана прамовіў той.— Але цяпер нам трэба пагаварыць сур'ёзна.

— Тады, дворскі, не хадзі кругамі, гавары ўсё ясна. Я не дыпламат, а вой, дык люблю яснасць.

— Ты — і вой, і дыпламат. Да ўсяго хітры і выкрутлівы.

— Перахвальваеш ты мяне вельмі, дворскі.

— Не першы год знаёмыя, розныя чуткі пра цябе чую, дык добра ведаю, хто ты. А калі любіш яснасць, дык яснае табе запытанне: чаму князь Ізяслаў гэтак зняважліва адгукнуўся на грамату князя Даніла? Чаму не прыслаў сюды вашы сталыя, баявыя дружыны?

— А хіба я не сталы?

— Ты то сталы, а гэтыя твае воі? Жаўтароцікі! Ды і тых жменька!

— Сталыя дружыны ахоўваюць нашы абшары, супрацьстаяць крыжакам,— спакойна адказаў Усяслаў.— А жаўтароцікаў, як ты кажаш, трэба рана-позна кідаць у бой, гартаваць. Вось я і прывёў сюды нашых дзецюкоў.

— Ты спажыў момант і наладзіў ім навучальны паход!— абурыўся той.— І прыцягнуўся так позна, каб мы ўзялі ўвесь цяжар бітвы на сябе, панеслі вялікія ахвяры і яшчэ болей аслабелі. Каб тваіх дзецюкоў ацалела як мага больш.

— Дык у цябе ні да мяне, ні да Мендога няма нават слова падзякі?

— Мендог прывёў большую сілу ды прыйшоў таксама позна, калі мы ўжо...

—...выдыхаліся,— перахапіў Андрэеву думку і дадаў Усяслаў.— І мы з Мендогам, як ні запазніліся, усё роўна здолелі памагчы пераламаць ход бою і выйграць яго.

— Дык ты, можа, хочаш, каб мы запісалі і тваё імя, імёны тваіх бязвусых дзецюкоў у наш летапіс? — уз'еўся той.— Нароўні з нашымі ратнікамі-героямі?

— Я не прагну вечнай славы,— сказаў Усяслаў.— Але і не магу пагадзіцца з тваімі нападкамі. Сам добра ведаеш, хто падсяліўся да нас і прагна клацкае зубамі, каб у спрыяльную хвіліну скочыць і перагрызці нам горла. Мы ў любую часіну дня і ночы павінны быць напагатове і трымаць для адпору вялікую сілу.

— Не толькі,— аскаліўся Андрэй.— Намеры вашы большыя.

— Якія, па-твойму?

— Вы, трэба сказаць, вельмі спрытна спажылі апошнія пяць — сем гадоў, калі манголы прайшліся па многіх землях Русі і спустошылі іх, а вас абмінулі. Вы, бачачы, што Валынь і Галіч разгромленыя, а князь Даніла мусіць шукаць паратунку ў Мазовіі, яшчэ больш падуладзілі Услонім, Ваўкавыеск, Гарадзен, перавабілі на свой бок Пінеск, Тураў, Бярэсце, прыручылі Мендога, а гэтым самым яшчэ больш узвысілі Ноўгародак! Канечне, вам было ўсё ў руку: вашы я землі непатаптаныя, весі і гарады непапаленыя, сталыя мужчыны непабітыя, а маладыя жанчыны і дзеці нязведзеныя ў палон! Вы спакойна назапашваеце хлеб, коней, зброю, гартуеце з дзецюкоў новыя дружыны і палкі! На вас ужо са страхам пачынаюць глядзець суседзі! Вы мала зважаеце на волю князя Данііла!

— Ты, дворскі, нібы папікаеш нас за тое, што нас абмінула мангольская віхура,— Усяслаў добра разумеў, чаго нібы конь капытамі б'е Андрэй, але гнуў па-ранейшаму сваё.— Што ж, нас Бог уратаваў ад дзікіх азіятаў, мы толькі пачулі грук, убачылі пыл з-пад ног капытоў мангольскіх коней, дым ад пажарышчаў на суседніх і вашых землях, але Бог пакуль што не зусім засцярог нас ад іншага ворага — вучонага, хітрага ды не менш крыважэрнага.

— Не спрабуй абвесці мяне вакол пальца, ваявода!— не суцішваўся той.— Ты падаеш нам свой Навагародак за галубка, а мы ў вашага птаха ўжо разгледзелі моцную дзюбу і вострыя кіпцюры! Ён вось-вось можа ўзляцець на паляванне!

— Куды, па-твойму?

— На суседнія землі, каб пабольшыць свае ўладарныя абшары, болей мець ежы і моцы!

— Перабольшваеш ты ўсё, дворскі. Ці ад страху, ці ад гнюсных нашэптаў.

— Не перабольшваю, а прачуваю ўсё. Праўда, пакуль што вы робіце без мяча, спакваля, ціха, перамовамі-змовамі, але, паўтару, умацоўваеце Навагародак. Ды, бадай, ужо існасць: Навагародак — сталіца Навагародскай зямлі альбо Вялікага княства Навагародскага. Нечакана-негадана. Менш чым за дзесятак гадоў. Хочаш ці не хочаш, але трэба прызнаць: князь Ізяслаў не ўпусціў момант, свой шанец, з васала Кіева, а потым князя Данііла стаў вялікім навагародскім князем альбо, як вы любіце гаварыць, Гаспадаром!.. Скажаш, не так?

— Не зусім.

— Аспід ты, Усяслаў! — скрывіўшыся, хітнуў галавою Андрэй.— Як і твой цёзка, палацескі князь Усяслаў! Як добра ведаю, не зусім выпадкова ты так шануеш таго! Не лік Уладзіміра Святаслававіча альбо Уладзіміра Манамаха, а якраз лік «Чарадзея» на сцяне тваёй святліцы!

— Мае далёкія продкі служылі ў князя Усяслава, любілі яго, дык і я, як ты кажаш, шаную іх.

— Ты найперш шануеш таго ваўкалаку за тое, што ён хітрасцю і вераломствам вывеў Палацеск з-пад улады Кіева. Табе мілая гэтая ідэя, ты ўжо нямала зрабіў, каб вывесці з-пад рукі князя Данііла Навагародак!

— Што ж,— уздыхнуў Усяслаў.— Князь Ізяслаў і я — цяпер найпершыя вашы ворагі!

— Не ўздыхай прытворна! — незалюбіў Андрэй.— Кажу ж, не абведзіцё нас вакол пальца! Спазналі вашы хады і новыя задумы! Ці ты думаеш, што мы ўсяго не ведаем? Да слова, пра тваю нядаўнюю паездку ў Палацеск? Ты туды падаўся без волі і згоды князя Данііла! Нават на малой Радзе ні слова не сказаў пра яе, а пашаптаўся толькі з князем Ізяславам!

— Што вы маеце віжавую службу ў Навагародку, для нас гэта не сакрэт,— адказаў Усяслаў.— А ездзіў я ў Полацак для таго, каб пагаварыць з князем Брачыславам пра тое, як нам разам засланіцца ад крыжакоў.

— А чаму ўтойваеш пра перамовы ад сваёй Рады, ад нас?

— Я ездзіў у Полацак як пасол князя Ізяслава, дык найперш яму расказаў пра перамовы.

— І да чаго вы дамовіліся?

— Пра гэта, дворскі, князь Ізяслаў можа сказаць толькі князю Даніле.

— Князь Брачыслаў — таксама аспід,— сказаў Андрэй.— Ён вельмі хітра спажыў турботы Ноўгарада. Каб мець князя Аляксандра[1] за саюзніка, аддаў за яго сваю дачку. Як кажуць, адразу забіў двух зайцоў: і разам з тым супраць крыжакоў, і заадно спрытна ўбіў клін паміж Ноўгарадам і Смаленскам. Цяпер ужо Смаленск не асмеліцца пасягаць на Палацеск! Ды нас непакоіць іншае: пра што перамаўляліся Навагародак і Палацеск?

— Я ж казаў табе пра гэта, дворскі.

— Што ты сказаў мне, гэта — толькі нейкая доля ўсёй праўды. Нас цікавіць, як дзялілі вы літоўскіх князёў (каго, апроч Мендога, хочаце прыручыць вы, а хто ў задуме палацескай палітыкі), як гаварылі пра тое, што Навагародак можа паказаць зубы нам? Даў на гэта Палацеск згоду ці не?

— Надумлівы ты, дворскі,— усміхнуўся Усяслаў.

— Не надумлівы, ваявода,— адразу ж адкінуў ягоную ўсмешку той, па-ранейшаму стоячы на сваім.— Ад вас цяпер можна ўсяго чакаць. Але ведайце і не забывайце: князь Данііл не будзе спакойна назіраць за тым, што і як вы робіце! А тым больш патураць!

«Ведаем і помнім,— мог прамовіць Усяслаў, але змаўчаў.— Таму і асцярожныя, не вытыркаемся раней часу».

— Чаго замоўк, ваявода? — з'ехідначаў Андрэй.— Разгадалі мы вашу крамолу! Бачым, разумеем кожны ваш вераломны крок!

— Адным словам, ліхадзеі мы, не пра тое дбаем! Ці як там яшчэ, па-твойму?

— Па-мойму, так: не гуляйце з агнём, навагародцы! Адмоўцеся ад сваіх гордых задумаў, не гнявіце князя Данііла! Ён ніколі, чуеш, ніколі не дазволіць таго, што вы замыслілі ў спакоі і цішы, добра пад'еўшы і ўзброіўшыся! Мы ўсё зробім, апошняе сваё патрацім, але не дапусцім, каб было, узвышалася Вялікае княства Навагародскае! Ці вы — нашы васалы, ці мы абкладаем вас і бяром на змор!

«Гэта мы яшчэ паглядзім. Не столькі ў вас цяпер моцы, каб вы здолелі зноў паставіць Навагародак на калені!»

---

[1] Маецца на ўвазе Аляксандр Неўскі.

— Нялюбыя табе мае словы, Усяслаў,— пацешыўся Андрэй.— Спеліш, акі аспід, на нас сваё джала!

— Я, Андрэй, вой,— зноў і зноў не даў сабе выбухнуць Усяслаў.— Раблю тое, што загадвае наш князь, Рада альбо наша веча. Каб падняць меч супраць вас, мне так яшчэ не загадвалі. Вось, дворскі, увесь мой адказ на твае насцярогі, папрокі і пагрозы. Больш нічога табе не скажу. Дазволь хоць крыху паважаць сябе.

— І не падымай! Ніколі! Будзь паслушны, дык не міне цябе наша міласць,— і ўжо нібы па-сяброўску: — Калі ж лічыш, што князь Данііл павінен быць болей ласкавы да цябе, гавары. Да слова, хочаш у жонкі нашу самую радавітую і прыгожую баярыню?

«Вось так вы купілі нашага Расціслава!» — падумаў Усяслаў, а ўголас прамовіў:

— Радавітыя ды прыгожыя ёсць і ў нас, дворскі. Ды я яшчэ нашў жалобу па сваёй Прамiславе.

— Задоўга без жонкі, ваявода,— пажартаваў ужо Андрэй.— Ажаніўся б з маладой і гарачай, дык найперш пра яе думаў бы... Так што прасі — дадзім красуню паўднёвую.

«Каб не мая і не Мендогавыя дружыны тут, дык ты, канечне ж, зусім іначай гаварыў бы,— з холадам на сэрцы падумаў Усяслаў.— І можа, на вячэры атруціў бы. Як у свой час хвалебны Манамах звёў са свету гвалтам захопленага, але непакорнага сына полацкага Усяслава — Глеба Мінскага. Той, хто прагне ўлады і славы, непераборлівы, ідзе нават на самае вялікае злачынства...»

3

У высокім і пакоўным княскім шатры было досыць відна ад свечак, што былі ўстаўленыя ў падвешаныя да кроквіцаў масяжовыя разгалінаваныя кандэлябры. Як падымаўся-апускаўся ўваходны полаг-дыван і хто-небудзь заходзіў, упускаючы свежы паветраны струмень, дык свечкавыя агеньчыкі выцягваліся ў доўгія языкі, хісталіся і мігцелі.

Пасярод шатра ляжаў вялізны дыван, а на ім былі самыя розныя пахкія і смачныя стравы ды напоі: выпатрашаныя падсмажаныя куры, перапёлкі і рабчыкі, падрудзелыя, з бліскучым тлушчам авечыя і свіныя тушкі, рыба, яйкі, зялёныя доўгія агуркі (насенне іх — падарунак купцоў з далёкай Індыі), галоўкавая вялізная цыбуля, клінковы сыр, буйны, нібы налiты дзённым яркім святлом вінаград, чорнасізыя слівы, збанкі з хмельным мёдам, вялікія звужаныя ўніз круглыя амфары (як казалі навагародскія простыя людзі, глякі) з дзвюма ручкамі і вузкім горлам, напоўненыя візантыйскім і каўказскім віном.

За гэтым наземным сталом, у цэнтры, па-палавецку падкурчыўшы ногі, сядзеў на падушках князь Даніла ў чырвоных шараварах, ружовай кашулі і кароткай цёплай безрукаўцы, з гладка зачасанымі сіваватымі валасамі, крыху воддаль з аднаго боку сядзеў ягоны брат Васількa — як здавалася, на першы погляд, лагодны, але на самай справе аддaны княскім інтарэсам і жарсткаваты таўсцяк, з другога боку ўсеўся сын Леў, а за імі бліжэй сюды, да ўвахода, размясціліся знатныя галіцка-валынскія баяры, тысячнікі і сотнікі. Таксама ўсе апранутыя па-свойску — у шараварах, кашулях і безрукаўках самага рознага колеру, а самыя пажылыя з іх былі ў сабаліных футрах.

— Сюды-сюды, госці дарагія,— уважыў іх вясёлы князь Даніла, паказваючы, каб Міндоўг сеў справа, паміж ім і братам, а Усяслаў — злева ад яго, каля маладога чарнявага сына.— Адсвяткуем нашу перамогу. Як казаў мой славуты продак Уладзімір Святаслававіч: «Руси есть веселие питье, не можем бес того быти». Налівай, віначэрп!

Пасля, калі ўсе трымалі напоўненыя паўшар'істыя пасудзіны (у князя Данілы, Васількі і Міндоўга чашы былі з золата, а ва Усяслава, як і ў іншых баяраў, пазалочаныя), Даніла пачаў «речь казати». Як і кожны ўладны і славалюбны, быў гаварлівы — прамаўляў пра тое, што цяпер робіцца ў свеце і на славянскіх ды суседніх землях, «поносил» венграў, палякаў, крыжакоў і сынаўца[1] Расціслава, з асцярогай «молвил» пра Батыя, які з хітрыкай аддаў «его» Кіеў іншаму князю і пільна сочыць за ім, падзякаваў за спачуванне Міндоўгу і Усяславу. Галічане і валынцы, цярпліва выслухаўшы гэтую казань, паслужліва пацягнуліся да свайго ўладара чашамі: «Здрав-здрав буди, княже!», з задавальненнем выпілі і накінуліся на ежу — рукамі ламалі птушыныя тушкі, адразалі лепшыя кавалкі са звярыных і разам з праснакамі ды зеленню ўпляталі са смакам, пакуль Даніла зноў не загадаў напаўняць чашы маладому чарняваму стольніку, які наліваў найперш у ягоную пасудзіну, адпіваў крыху, а потым падаваў яе яму, а ў гэты час слугі налівалі хмельны мёд альбо заморскае віно іншым.

Калі выпілі яшчэ па чашы-другой (за здароўе Міндоўга, за князя Ізяслава і навагародцаў) і перабілі голад, міжволі загудзелі, успамінаючы сённяшнюю бітву (князь Даніла добра адпіваў з чашы, але не п'янеў, быў лагодны, дворскі Андрэй толькі прыгубліваў, Міндоўг сёння, як ніколі, прыглядаўся да яго, Усяслава, і ўхіляўся асушваць чашу да канца, хоць яму нялёгка было ўстояць перад Данілавым прымусам). Усяслава не чапалі, дык ён пацягваў крыху і, як дворскі Андрэй, маўчаў ды пазіраў за ўсімі.

---

[1] Сынавец — пляменнік.

— Я і кажу Расціславу Міхайлавічу,— вось, скідаючы з сябе пясцовае футра і выціраючы ручнікам з высокага лба пот, загаварыў ахмялелы і радасны Данілаў канцлер і захавальнік пячаткі Кірыла, які перад бітвай ездзіў «править посольство» у стан чарнігаўскага князя.— «Доколе будешь аки пес? Пошто землю Даниила повоевал, с тестем своим угорьским Перемышль отъял? Возмездие творишь за наше добро, за то, что князь Даниил в свое время спас тебя от короля угорьского? Или за то, что тебя из ляхов вывели, когда ты туда утек от Батыги? Князь Даниил тебе же Луческ дал, отца твоего звал в Киеве сидеть! Галич отнять хочешь? Но то отчина князя Даниила!..»

Высокі і плячысты, падпіты і ўзбуджаны княжыч Леў, які сёння ўпершыню нароўні з усімі біўся плячо ў плячо з ворагам, па-юнацку зацешыўся:

— Ну, а ён што?

— А ён — гардавус! Хмурыцца: кажы ўсё, што табе князь Данііл загадаў сказаць. Я і кажу яму: добры і міласэрны наш уладар, толькі ты — крамольнік і непачцівец. Ворагаў навёў на Бацькаўшчыну! Скажы ім. каб ішлі за Гарбы, а сам упадзі на калені перад царом[1] нашым! Ты ж — яго сынавец! Родная кроў!

Зноў узнёслы Леў:

— А ён?

— А ён фанабэрыцца: скажы свайму князю, што не буду пад яго рукою! І міласціны — Лучаска — мне не трэба. Яго і Галіч сабе мячом вазьму!

— Акі пёс!— абурана ўсклікнуў княжыч, сёння зусім не асцерагаючыся выскакаць паперадзе бацькі-князя: той звычайна не дазваляў лішняга нават сваім дзецям, пільна сачыў, каб ва ўсім першае слова было толькі ягонае. Цёпла блішчэлі вочы і ў таўстуна Васількі, які быў верны брату і любіў пляменнікаў, як родных дзяцей.

Стары, сівы як лунь Данілаў пястун ваявода Міраслаў не стрымаўся:

— Клятае Альговічава семя!

Кірыла:

— Правучыў князь Данііл неслуха і яго хцівага цесця!

— Не забывайце, другі мае, што нам князь Мендог і ваявода Усяслаў памаглі,— зычліва ўсміхнуўся той, цешачыся і ад сённяшняй перамогі і цяперашніх ушанавання ды лісліваcці.

---

[1] Ужо ў XII стагоддзі асобныя вялікія кіеўскія князі спрабавалі іменаваць сябе якраз так.

— Князь Ізяслаў зусім малую сілу прыслаў! — зноў даў волю свайму настрою княжыч Леў.— Гэта — непавага да нас! А князь Мендог вельмі позна прыйшоў!

— Лепш мала, чым ніяк, сын мой,— лагодна прамовіў бацька-князь.— Лепш позна, чым ніколі. Прыйшлі памагчы ў бядзе — дзякуй вялікі за гэта.

Кірыла:

— Ваявода Усяслаў вельмі сумны. Не п'е зусім.

Княжыч Леў:

— Ваявода хітры!

— Не трэба, другі,— сказаў Даніла.— У ваяводы Усяслава гора вялікае. Ды яму перад вачыма грознымі князя Ізяслава трэба паўстаць.— Паклаў важкую руку яму на плячо.— Трэба памагчы табе, дружа.— І дворскаму: — Андрэй Іванавіч, ты не п'еш і мала ясі, дык табе легка пакінуць наш пір і адлучыцца. Будзь ласкаў, знайдзі пісара і складзі ад майго імя грамату князю Ізяславу. Няхай княскі гнеў не ўпадзе на нашага добрага друга.

Дворскі паслухаў, выйшаў.

— Налівай, вінач эрп! — зноў загадаў князь Даніла, але на гэты раз сам, як і Усяслаў, а за ім і Міндоўг, толькі памачыў вусны.

— Цар наш,— калі ўсе выпілі, падняў цёмныя вочы на Данілу Кірыла.— Дазволь мне слова сказаць князю Мендогу.

— Гавары, канцлер,— дазволіў той (можа, і па загадзя дамоўленай змове: на піры-балі заўсёды ды яшчэ пры такіх асобах ёсць тайныя замыслы).

— Ты, уладар, добры і шчодры, ты дзякуеш князю Мендогу нават за тое, што ён прыйшоў напрыканцы бою,— сказаў Кірыла.— Мы,— абвёў позіркам сваіх баяраў,— хочам запытаць, чаго прыйшоў сюды князь Мендог? Убачыць нас пабітымі? Ці зазірнуў на разведку?

Міндоўг — рослы, з выцягнутым тварам, атуленым рыжымі доўгімі валасамі і барадой, хмураваты — ажно ўстрапянуўся, падняў вочы на яго, Усяслава, але бачачы стрыманасць, перавёў запытальны позірк на Данілу:

— Брат, ты дазваляеш зневажаць мае добрыя намеры?

— Зусім не,— прамовіў той.— Але,— развёў рукі,— сам бачыш: баяры мае хочуць пра тое-сёе запытаць у цябе. Як у нашага пагрознага суседа. Думаю, ты зразумееш іхні клопат пра нашу бяспеку?

— Хіба мы цяпер, брат мой, не саюзнікі? — толькі Данілу, не пазіраючы на баяр, сваім пытаннем адказаў Міндоўг.

— А іншыя літоўскія князі? — падаў голас Кірыла.

— Я за іх не магу гаварыць,— крыху скасіўшыся на Кірылу, прамовіў той.— Іх шмат, многія з іх альбо не маюць сваёй вотчыны, альбо маюць яе зусім невялікую, дык зыркаюць спадылба нават на мае ўладанні. І не толькі, як ведаеце, зыркаюць. Часта нават ідуць на маю Руту з мячом, спрабуюць захапіць яе. І не раз, і не два захоплівалі, змушалі мяне шукаць паратунку ў Навагародку.

— Што ты, князь Мендог, часта хаваешся ў Навагародку, мы пра гэта ведаем,— гнуў сваё Кірыла.— Мы не супраць гэтага. Але да нас даходзяць чуткі, што ты і князь Ізяслаў сустракаецеся і гутарыце сам-насам больш, чым трэба таго для твайго паратунку ад князёў-супернікаў...

— Пра княскае, канцлер, я пагавару з братам Дашлам,—задзірыста адмахнуўся Міндоўг.— Таксама сам-насам. Не малады, ведаеш, што пра тое-сёе могуць гаварыць толькі князі, валадары сваіх зямель і падданых. Ды я не палонны, каб мяне дапытвалі чужыя баяры!

— Не гарачыся, брат мой,— прыхіліў Міндоўга Даніла.— Канцлер не абражае цябе. Ён па-сяброўску, за адным пірным сталом хоча толькі ўпэўніцца, што ў такі цяжкі час нам хоць не пагражае небяспека ад цябе, ад тваіх суседзяў і ад вашай, можа, змовы з Навагародкам...

Даніла супакойваў, але заадно і падкідаў смалячок у спрэчнае полымя.

— Ці не становішся ты наёмным баявым князем Навагародка? — спажыў гэты момант Кірыла.— Калі Ізяслаў стары і хворы, дык ты яшчэ ў сіле...

— Брат Даніла! — успыліў Міндоўг, ажио мігам вылецеў з яго хмель.— Гэта — не толькі знявага... Гэта... Я не дазволю апракудзіць мой гонар! Ваявода! — перавёў умольны позірк на Усяслава.— Пайшлі адгэтуль, дзе нам не дзякуюць за нашу помач і не паважаюць нас! — І першы паткнуўся падняцца на ногі.

— Сядзі, брат,— з усмешкай, але цвёрда сказаў Даніла і не прыбраў рукі з яго пляча, не даў падхапіцца.;— З шатра без майго слова ты не выйдзеш: не выпусціць мая варта...

Міндоўг, добра адчуваючы, што гэта і застолле, але заадно і пастка, дзе, калі што якое, пойдзе ў ход і кінжал, не суцішыўся, толькі загнаў гнеў усярэдзіну.

— Канечне, мой канцлер дазволіў сабе рэзкасць,— пачаў спакваля адступаць тонкі дыпламат Даніла.— Я пазбаўляю яго слова і загадваю прасіць у цябе, брат мой, выбачэння. Чуеш, Кірыла?

— Воля твая, цар,— адказаў той, прыпадняўся і прыклаў правую руку да грудзіны.— Выбачай, князь Мендог, за мае словы, што ты палічыў абразлівымі. Але ведай: яны не ад майго паганага характару,

а ад майго вялікага клопату пра інтарэсы Галіцка-Валынскай зямлі. Вось мы і хацелі з першых вуснаў пачуць тое, што нас непакоіць.

Кірыла сеў. Нібы пакрыўджана апусціў галаву.

— Задаволены, брат?— бліжэй прыхінуў да сябе Міндоўга Даніла.

— Задаволены,— буркнуў той.

— І даеш нам княскае слова, што ні сам, ні з іншымі не падымеш на нас меч?

— Даю.

— Давай, брат, пацалуемся! За вечны мір між намі! За вечнае добрае суседства!

Даніла і Міндоўг абхапілі адзін аднаго дужымі рукамі і моцна тры разы пацалаваліся.

— Віначэрп, налівай! Самага лепшага заморскага віна! Па поўнай чашы! — загадаў пасля Даніла.— Вып'ем ад усёй душы! — А затым, трымаючы ў руках сваю залатую паўнюткую віна чашу, пільна пазіраючы ў вочы Міндоўгу, выцягнуў з яе ўсё. Апаражніў свой посуд і Міндоўг, таксама не зводзячы немігатлівага позірку з Данілавых вачэй.

Пазней, калі стомлены Усяслаў пакідаў баль пераможцаў (к гэтаму часу той-сёй з баяраў ужо адваліўся ўбок і хроп, той-сёй яшчэ цягнуў з чашы і асалавела пазіраў у нейкую адну светлую ці, наадварот, цёмную кропку, а хтосьці цягнуў-падвываў падобную на песню мелодыю), ацяжэлы ад пітва і ежы князь Даніла пацягнуў яго за руку да сябе, пацалаваў, а пасля дыхнуў-апёк гарачым шэптам вуха:

— Сядзі ў сваім Навагародку ціха і смірна! Ён — вотчына дзяцей Уладзіміравых — мой! Не дазволю ніякай вашай замутні! Навагародак — мой фарпост, а то і плацдарм супраць Літвы, аўкштайтаў і Жамойці, супраць крыжакоў і супраць Палацеска...

Усяслаў адразу ж не толькі ўсё адчуў, але і зразумеў: не дае спакою Данілу ўлада і слава Уладзіміра, сына Святаслававага, карціць-рупіць стаць царом усіх праваслаўных і бліжэйшых неправаслаўных ці яшчэ нехрышчоных зямель. Каб у свой час не асадзіў Батый, дык, мабыць, з-за гэтага зноў бы палілася кроў людская, запалалі б весі і гарады на вакольных абшарах, зноў бы, і, канечне ж, найперш дасталося б здаўна непакорным Полацку і Менску...

— Чуеш? — запытаў Даніла і такім голасам, што не было ніякага сумнення: любую спробу Навагародка да волі будзе душыць у зародку. І найпершая кара — яму, Усяславу.

— Чую,— адказаў ён. З тонам пакорлівасці.

Даніла адхіліў яго і, не выпускаючы руку, сказаў уголас, каб чуў Міндоўг:

— За службу верную, за сённяшнюю помач дзякую. Дворскі к вашаму ад'езду падрыхтуе князю і табе гасцінец.

— Дзякую, князь,— намагаючыся з усяе сілы захаваць спакой, прамовіў Усяслаў.— Будзь здаровы і не трымай да нас лішняга недаверу. А цяпер дазволь развітацца. Мне ўжо хутка ў дарогу.

— Ідзі, з мірам,— адпусціў ягоную руку Даніла, але калі памкнуўся пайсці і Міндоўг, затрымаў таго.— Пасядзім яшчэ, брат, пагаворым пра нашы княскія турботы. Ты ж маеш час — выспішся, пахмелішся, а пасля адправішся ў свой лес да сваіх зуброў, мядзведзяў, ласёў, казуль, дзікоў і зайцаў.

Хоць натаміўся за дзень і крыху выпіў за вечар і ноч, Усяслаў не мог адразу ж заснуць. І ад зноў успомненай бяды, і ад уражліва пагрознай бяседы з дворскім Андрэем ды ад апякальна перасцерагальнага развітальнага Данілавага шэпту — усё гэта нашмат абцяжарвала далейшае яго жыццё...

Калі ж пачалі зліпацца павекі, і ён нібы падаў у прыемна мяккую бездань, сон перапыніў шум — здаецца, хтосьці рваўся ў яго шацёр, а ягоная варта таго не пускала. Прыслухаўшыся, пачуў: валтузіцца п'яны, але неўтаймоўны Міндоўг з ягонымі дружыннікамі:

— Кажу, пусціце мяне да Усяслава! Ён — мой сябра!

Усяслаў добра ведаў: Міндоўг не адчэпіцца. Калі ён п'яны, дык самы нечаканы: настойлівы, жорсткі аж да таго, што можа забіць і роднага брата, ці капрызны альбо чуллівы да слёз. Каб цяпер той не шумеў, не прываблівау вачэй і вушэй Андрэевых выведнікаў, Усяслаў падняўся з пухавіка і выйшаў з шатра. Як убачыў, на дварэ ўжо адчарнела ноч, збіраўся-спеў світанак: на ўсходзе над зямлёй выяснівалася, падбельвалася, нібы ад малака, неба, і ўвачавідкі гэтая светлаватая плынь сачылася ўгору. Міндоўг — у воўчай шапцы і заечым кажушку — адразу ўткнуўся ў ягоны плячук:

— Усяслаў, яны нам непрыяцелі!

Ён паляпаў позняга гуляку, які ледзь трымаўся на нагах і дыхаў, здаецца, адным хмелем, па плячы: супакойся, князь, не давай вол і эмоцыям!

— Бачыце, Даніла — цар! Цэсар! Ёсць прагненне, ёсіць тытул — трэба новыя землі і халопы! Ён уявіў сябе новым збіральнікам праваслаўных і іншых зямель! Чуеш?

— Чую,— супакойваў суседа-саюзніка Усяслаў.— Толькі, будзь ласкаў, не крычы так!

— Была Кіеўская, а цягіер, па-ягонаму, яе скіпетр і сцяг павінна ўзяць Галіцка-Валынская альбо, як ён з гонарам кажа, Чырвоная Русь! Ён жа, уладар яе, новы месія!..

— Кожны жук хоча паказаць свае рогі,— прамовіў Усяслаў,— а Даніла даўно ўжо, калі ўзяў Галіч, Кіеў, разбіў крыжакоў каля Драгічына, уявіў сябе царом і, як ты кажаш, месіяй.

— А чаму вялікую Русь не можа сабіраць Полацкая зямля альбо, як я чуў, Белая Русь? Ці Ноўгарад? Альбо князь уладзімірскі Яраслаў? Што — Даніла больш мудры і слынны за князёў Брачыслава, Аляксандра з Ноўгарада ці таго ж Яраслава?

— Даніла — нашчадак вялікіх кіеўскіх князёў.

— Але іхняй вярхоўнай улады не прызнавалі ні Полацак, ні Ноўгарад. Значыць, Данілавы прэтэнзіі — ...

— Цішэй, князь,— перапыніў яго Усяслаў.— Тут і поле ды луг усё бачаць і чуюць.

— А чаму мы іх павінны баяцца? — выпрастаўся, як жанчына перад сваркай з іншай жанчынаю, падпёр бокі кулакамі Міндоўг.— Тут не ў іх сіла, а ў нас. Давай вось падымем сваіх людзей і возьмем Данілу з яго баярамі голай рукою! Навучым іх нарэшце паважаць і твой Навагародак, і маю Літву! Давай я закамандую пад'ём!

— Няхай людзі паспяць пасля цяжкога пераходу, сённяшняй сечы і добрай вячэры.

— «Паспяць!» — перакрывіў той.— Мы так праспім многае. Нечага варажыць, калі пад носам ляжыць...

— Усяму свой час, Міндоўг...— ціха прамовіў Усяслаў.— Нам пакуль што трэба, як добра людзі кажуць, валіць дрэва па сіле... А што да Данілы, дык ён, пагнаўшыся па вялікае, можа некалі страціць і малое...

— Адвага або мёд п'е, або калодку на шыі трасе!

— Адвага — адвазе розніца. Калі яна неразумная, дык гэта ўжо дурнота.

— Тады я на адыходзе з Данілавых зямель пачышчу яго весі!

— Жартуеш?

— Не.

— Мала табе ўгорскіх, польскіх і нямецкіх лупаў? Данілавых падарункаў? Ці хочаш папляміць у людской памяці тое добрае, што мы зрабілі сёння?

— Эх, Усяслаў! — уздыхнуў той.— Які ты добры ці асцярожны!

— Усё, князь. Давай спаць.

— Усяслаў! — нечакана захлімзаў Міндоўг, зноў спрабуючы прыпасці да ягонага плечука.— Ты мяне не любіш!

— Ты ж не жанчына, каб цябе любіць,— пажартаваў ён, каб улагодзіць неўтамоннага госця.

— Я — няшчасны чалавек,— зажаліўся Міндоўг.— Для вашага люду я — па маці — лесавік, язычнік, воўк, а сярод свайго я — па бацьку — крывіч, з хрысціянскай крывёю: усе ж ведаюць, што мой дзед — беглы полацкі князь. Каб кіеўскія князі не выправадзілі ў Візантыю, уцёк і хаваўся ў нашай пушчы, завёў наш род... Ад яго і я — ваўкалака, пераварочваюся ў чалавека, то ў ваўка і бегаю ды бегаю. То нападаю, то ўцякаю... Ворагі мае — і чужыя, і свае, найперш сыны роднага брата, Даўспрунка. Сынаўцы лічаць, што гэта я звёў са свету іхняга бацьку, каб заўладаць нашымі землямі і верхаводзіць, вычэкваюць, каб ударыць мне ў спіну... Як і іншыя князі, якіх у нас процьма. Каб не сцены вашага замка, каб не ваша сіла і каб не ты, дык... Жонка з дзецьмі больш жывуць у вашым Навагародку, чым у сваёй Руце. Сын, Войшаль, аддадзены больш вам, чым мне. Князь Ізяслаў — яго настаўнік, а ты — можна сказаць, дзядзька-пястун. Ды і жонка, дачка сэрцам і душой цягнуцца да вас, да горада, да царквы, хочуць жыць так, як жывуць вашы баярыні... Адным словам, я — князь і не князь. Данілавы баяры праўду кажуць: я — ваш закладнік. Слуга ці найміт.

— Ты, князь, наш саюзнік і гаспадар не такой ужо малой сваёй зямлі,— свядома падліслівіў Усяслаў.— А твая полацкая княская кроў — зарука таго, што ты свой Поладаку і нам, і мы, крывічы-дрыгавічы, цябе ў крыўду не дадзім. Рабілі і, думаю, будзем далей рабіць тое, што трэба ўсім нам.

— Дык вы мяне паважаеце? — капрызнічаў Міндоўг.— Не толькі спрытна спажываеце маю незайздросную, хісткую долю?

— Ты можаш назваць, калі мы цябе абразілі ці пакрыўдзілі па праве мацнейшых? Не хочам, каб якраз ты гаспадарыў на сваёй зямлі? Выбачай, але не будзем пра гэта больш гаварыць. Сёння і табе павінна больш балець не ад тваёй самалюбнасці, а ад нашай страты.

— Княжыч...— застагнаў Міндоўг.— Я ж, Усяслаў, мроіў, песціў думку: мы пашлюбім яго і маю Дануту, змацуем наш саюз, злучым сілы і...

Усяслаў увішна закрыў далонню рот Міндоўгу: не хацеў, каб пра гэтае «і...», што было ў Міндоўгавай галаве (і не толькі ў ягонай), чулі не толькі Данілавы шпегі, але і Міндоўгавы ды яго ахоўнікі: вельмі ж запаветнае было тое.

Міндоўг падняў перад сабой указальны палец: усё, маўчу-маўчу, а тады шапнуў яму на вуха:

— Нем як рыба!

— Хадзем спаць, князь,— папрасіў Усяслаў.— Мне ўжо зусім хутка ў дарогу. А вы,— павярнуўся да сваіх і Міндоўгавых дружыннікаў,

што стаялі непадалёку адным гуртам,— нічога, што тут гаварылася, не чулі. Ясна?

Тыя са згодай заківалі галовамі.

— Не бачылі і не чулі! —па трос сваёй ахове кулаком Міндоўг.— А цяпер спаць, спаць, спаць!

4

Як усе ведаюць, з чужыны дарога дадому карацейшая, і коні, чакаючы роднага прытулку, сваіх сародзічаў, добрага харчу і адпачынку, спяшаюцца самі, без лішняй прынукі.

Атрад са здабытымі ў баі трафеямі і Данілавымі падарункамі вяртаўся памалу, а Усяслаў з маладымі воямі нёсся шпарка. За адзін пераход — асабліва па стэпах ГаліцкаВалынскай зямлі,— бывала, міналі да ста вёрст, спеіпваліся, давалі перавесці дых і падсілкавацца коням, перакусвалі і прылегвалі на гадзіну-другую, а пасля — зноў на сёдлы і трушком ды трушком наперад, упагон за атрадам з мёртвым княжычам.

Сёлетняе лета было гарачае, нават спякотнае і засушлівае (праўда, за гадоў сем-восем да Батыевага нашэсця лета было яшчэ гарачэйшае, тады тут, на поўдні, усё пасохла, быў вялікі голад і людскі мор), дык у прыродзе на ўсім ляжаў след гэтага — скажам, на Берасцейскай і Пінскай землях цяпер памялелі рэкі, былі даволі тупкія гаці праз балоты, а сям-там нават гарэлі старыя замлелыя ад сушы і прапахлыя смалой лясы ды лапіны высушаных балотцаў. Ад пажараў далёка поўз едкі, надта ж ад торфу, бела-шэры дым, засмужваючы прасторы і паднябессе, што былі шчодра пераграэтыя ўсё яшчэ нібы плаўкім сонцам, мігцелімроіліся, слепячы вочы і закружваючы ад спёкі І сухога паветра галаву. Бярозы, ліпы на шляху, а таксама вішні, яблыні ды грушы, вясеннія і летнія кветкі пры хатах (як наземных, так і паўзямлянкаў) мелі ўжо шмат жоўтага лісця; сена ў стагах на балоце, а таксама пры сядзібах у абарогах зрыжэла; жытнёвае ржышча, а там-сям яшчэ і мэндлікі ўжо трацілі залацістасць, праўда, у лагчынках сярод асцюкоў чаплялася за жыццё маладая зялёная трава; грэчка рудзела, хоць дзе-ндзе сярод яе былі яшчэ познія белаexistingружовыя кветачкі, як і сіне-блакітныя маруды паміж падсохлага спаднізу льну; на лугавінах і каля рэчак задумліва стаялі старыя буслы, а на прысадзістых зялёных дубах плоймаю сядзелі чаплі; каля кожнага паселішча скубліся статкі кароў і авечак; пастухі — старыя сівыя дзяды ў лапцях і зрэбных нагавіцах ды кашулях, з торбачкамі і кіямі, босыя малыя дзеці, найчасцей хлопчыкі і тойсёй з жалейкаю,— бачачы Усяслававу конніцу, што падымала на ўсю ваколіцу з дарогі

пыл, сцягвалі саламяныя капелюшы і схіналі галовы ў знак павагі да іхняй ратнай доблесці і спачування: ведалі ўжо, што загінуў апошні навагародскі княжыч.

Віталі яго ў гарадах і весях берасцейскія баяры, пінскі дружбацкі князь Міхаіл са сваёй світай, частавалі, праводзілі да меж падуладных княстваў і прасілі суцешыць у бацькоўскім горы гаспадара Навагародскай зямлі, а заадно не раз і не два гаварылі, што верацЬ у яго, Усяслававу, мудрасць і, кал і што якое, у ягоную падтрымку (казалі яму гэта адкрыта: сярод іх не было берасцейскага Данілавага пасадніка). Чым далей ці, лепш сказаць, бліжэй да Навагародка, дык сустракалі ўсё болей спачувальней 1 цяплей, слонімскі князь Васілёк прыпаў да яго як брат: «Ой, Усяслаў, якая нечаканая і вялікая бяда для нашай зямлі! Што будзе, калі не выдужыць гора князь Ізяслаў? Прышле тады Даніла сюды свайго сына альбо пасадніка, пабурацЬ яны тое, што мы збіраем па кроплі!..» — «Выдужыць трэба ўсім нам, князь,— адказаў ён.— Нічога не растраціць, а яшчэ набыць!» — «Трымайся, Усяслаў! Ты — і наш дзень, і наша будучыня. Я — твой сябра і брат. Заўсёды і ва ўсім спадзявайся на мяне і мае дружыны. Мы — князі ваўкавысцкі, свіславіцкі, гарадзенскі і я — нядаўна паўтарылі клятву: не пазіраць па баках, а трымацца за Навагародак. Ты — наш страціг, наша апора і надзея...» — «Дзякуй вялікі вам. Я казаў і яшчэ раз скажу: дружба мацней за сцены каменныя. Нам без яе не быць. Я ніколі не здраджу ні дзядам, ні ўнукам, ні інтарэсам нашым! Лепш ранняя смерць, чым ганебная здрада: я смерці не баюся, баюся смерці духу...» — «Ты — вой і муж з духам, Усяслаў».

З князем Васільком яны ехалі побач доўга і гаманілі шмат. На слонімскай, а пасля і навагародскай зямлі меншала балот, большала сосен і лісцевых дрэў, ляжалі пагоркавыя палі, адваяваныя не адным людскім родам агнём у бароў і падлескаў. Заадно былі звыклейшыя паселішчы, людзі, іхнія ўборы, была родная і падуладная Навагародская зямля. Якраз гэта захвалявала галіцка-валынскага валадара і ягоных баяраў: не толькі пад іхнім бокам, але, як яны лічылі і лічаць, на іхніх уладаннях, незачэпленая татарамангольскай віхурай, нечакана і нягучна, нават ціха пачала вакол Навагародка гуртавацца, багацець, набірацца сіл новая дзяржава... Пакуль што без шуму, без пазначэння тытулу навагародскага князя на граматах, але ўжо не ўскраіна і не правінцыя Галіцка-Валынскай зямлі. Гэта, канечне, асабліва пачало відаць Данілу пасля таго, як паў, стаў руінамі старажытны слынны Кіеў і патапталася Галіцка-Валынская альбо Чырвоная Русь, што мелася набыць моц і славу Кіева, а яе ўладар марыў і марыць прадоўжыць тое, чаго змог дабіцца Уладзімір Манамах і што пакрыху

страцілі яго наступнікі вялікія князі кіеўскія, якія вялікімі былі больш на словах...

Чым далей ад яркага і спякотнага паўднёвага сонца, ад Палесся, тым больш прырода была скупейшая, але і нібы болей здаравейшая ды трывальнейшая: лес тут не зусім сасмяг, а лугі мурожыліся атаваю, на пол і яшчэ сям-там стаяла паспелае жыта, паволі трацій зеляноту і паджоўчваўся авёс.

Калі Усяслаў ад'язджаў адгэтуль у далёкі паход, тут сама пачыналіся агледзіны — пакрыванне поля: на золку выйшла на княскае жытнішча маладзіца і пры сяброўках нажала жытнёвы снапок, абхінула яго ручнікам, а потым падкідвала ўгору, прыгаворваючы:

— Пакрыла ніўку На добрую спажыўку. Парадзі, Божа, Наша збожжа!

Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, хадзілі вакол яе і падпявалі:

— Крыта, крыта! Поўна жыта!

Першы снапок аддалі самому князю, а той шчодра пачаставаў і адарыў дзяўчат. Зажынкі пачаліся ўжо тады, калі Усяслаў быў у дарозе. Цяпер во ўжо канчалі жаць жыта.

Усяслаў, выехаўшы з лесу і зірнуўшы на пазалочанае ад сонца ржышча, ажно залюбаваўся, як увішна і хораша пажылыя і маладыя жнуць і цудадзейнічаюць сярпамі. Цяжкая гэта работа — цэлы дзень нагінацца, рэзаць пук сцяблін, выпроствацца, класці зжатае ў снапок, зноў нахіляцца. Параўняць замлелую паясніцу можна толькі тады, калі набярэцца за табой дзесяць снапоў і пачнеш зносіць іх і ставіць у мэндлік. Але... жанчыны не любяць мужчынскай засяроджанасці, длубу ды длубу, не могуць без жартаў і песні. Вось і цяпер перабівае нават конскі тупат чыйсьці звонкі, але мяккі пяшчотна-сумнаваты голас:

— Заходзь, заходзь, сонейка,
Ды за гару борздзенька.
Можа, вечар барджэй будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.
— Не горся, малодачка,
На яснае сонейка,
А горся, малодачка,
На сваю свякрованьку:
Бо я раненька сыходжу,
Цябе ў полі знаходжу,
А позненька забягаю,
Цябе ў полі пакідаю.

З-пад крайняга свежага мэндліка, з ценю, выскачыў высокі мужчына ў сіне-чорных, мабыць, выфарбаваных у бузінавым соку нагавіцах і ў белай з чырвонай вышыванкай кашулі, крыкнуў жанкам, каб замаўчалі і схілілі галовы. Гэта быў знаёмы паслужлівы, але жулікаваты княскі цівун Крук, які спрыяў красці іхняму дворскаму ключніку Расціславу і сам любіў пажывіцца дармовым.

Песня абарвалася; Усяслаў нават не паспеў зразумець, якая з жанок была гэтакая здольная гіявуння; пажылыя жанчыны, як правіла, мажныя, у доўгіх шараватых сарочках і ў белых хустках, босыя, пасхілялі галовы нізка і пачціва праводзілі дружыну, а вось не сказаць, каб танюткія, не вельмі высокага росту, але дзебелаватыя дзяўчаты пад белымі касынкамі, у бялюткіх прыталеных сарочкахсукенках са старанна выбеленага палатна, вышытых на рукавах і на выразах каля шыі, а таксама ў вышытых чырвонымі ці сінімі ніткамі паясах,— дык вось дзяўчаты толькі на міг апусцілі галовы, а затым паднялі іх і гарэзна пазіралі на дружыннікаў, якія былі амаль усе маладыя, свавольнікі і вісусы, але цяпер велічныя ад коп'яў, бліскучастых шчытоў і шоламаў, велічныя нават ад таго, што былі нібы падобныя на адзін твар, кожны маючы гучную назву «вой», а ўсе разам былі «воінствам», «віцязямі».

Ад родных краявідаў, жытнёвай нівы і мэндлікаў ды ад жанок Усяславу аж пацяплела на душы: хоць быў паджылы, меў замужнюю дачку, унука, але не мог не залюбавацца дзявочымі стройнымі спінамі і вабна акругленымі клубамі, а цяпер, калі яны павярнуліся, іхнімі маладымі, амаль ва ўсіх круглаватымі тварамі, усмешкамі ў лагодных вачах ды на поўных вуснах, спакусліва ўзнятымі грудзямі. Калі на Полацкай зямлі было шмат светлавалосых і блакітнавокіх, дык тут, дзе апроч крывічоў і дрыгавічоў пракідваліся яцвягі, валынцы, і бужане, балты, а пасля Батыевага нашэсця на Еўропу і люд з польскіх земель, пераважалі русявыя і цёмнавалосыя, з шэра-карычневымі альбо цёмнымі вачыма насельнікі.

Міжволі дысцыпліна ў дружынніцкіх шэрагах парушылася: тойсёй з маладых і бойкіх вояў не мог вытрываць ад жаночых чараў, ажывіўся, а то і ўзбудзіўся:

— Дзяўчаты, ці не трэба вам жнец добры?

— Гэй, рабацінiстая, паехалі са мной!

— Кірпаносая, з сінім пояском, у якой весі жывеш?

Усяслаў не перапыняў і не асаджваў зухоў: доля іх нялёгкая. Сёння ён жывы, здаровы, вясёлы, цешыцца жыццём і жаночай красою, а заўтра можа ўпасці на сырую зямлю паранены альбо забіты, не паспеўшы яшчэ хоць бы пацалаваць у слодычныя дзявочыя вусны, не

зведаўшы радасць і клопат мужа і бацькі. Для таго-сяго, можа, гэтае сённяшняе любаванне жаночым станам, тварам, адмысловым бляскам у вачах — апошні штуршок усхваляванага сэрца ды ўсплёск-успламяненне маладой крыві.

Некаторыя дзяўчаты пазіралі з захапленнем на тых, пра каго люд гаворыць з вялікай павагаю, як пра сваіх абаронцаў, асобныя бянтэжыліся ад дапытлівых позіркаў, а той-сёй з дзявочага гурту, выхопліваючы вокам з дружынніцкіх радоў гарэзнікаў, быў бойкі:

— Навагародскія «зайцэ!» (насмешка з таго, што многія карэнныя навагародцы экалі: «зайцэ», «грыбэ»).

— А ты не рабаціністы? Не пароў у маленстве ластаўчыныя гнёзды?

— Знайдзі, калі не баішся нашых дзецюкоў!

Усяслаў лагодна ўсміхнуўся ад гэтай міжвольнай перапалкі: так ужо ёсць спрадвеку, што маладыя амаль заўсёды знаёмяцца, прыціраюцца адно да аднаго дзёрзка, аж выклікаючы злосць, што, аднак, часамі не паспявае перайсці ў нянавісць, а перакідваецца ў гарачыя любошчы. Яны, праўда, не заўсёды прыносяць шчасце, бывае, заканчваюцца і дзявочымі слёзамі. Калі мінулі гэты лапік поля і жанчын, воі зноў пасур'ёзнелі, толькі, мусіць, у душы перажываючы незразумелыя светлыя і хвалюючыя пачуцці, што яшчэ доўга будуць вярэдзіць душу, а таму-сяму, можа, чамусьці запомняцца і на ўсё жыццё...

«А ўсё ж Данілаў дворскі праўду сказаў,— падумаў Усяслаў,— далёкі паход, кароткі, але ярасны бой, здабытыя лупы — добрая навука для дзецюкоў. Праліўшы нямала поту, акрапіўшыся сваёй і чужой крывёю, яны ўжо не пацешныя, а баявыя дружыннікі. З імі можна ўжо і абараняцца, і наступаць. У Навагародскай зямлі дабавілася сілы, і яна, канечне ж, хутка спатрэбіцца...»

Задумаўшыся, паціху калышучыся на таропкім кані, Усяслаў пачаў разважаць сам з сабою пра тое, што ўжо не раз непакоіла розум і бянтэжыла душу. А турбавацца было ад чаго: усе вакольныя землі, а то, бадай, і ўвесь свет — у жаху ад нашэсця качэўнікаў-саранчы з-за гор і стэпаў.

Як пішуць у старых летапісах і расказваюць старыя людзі, гэта ўжо другая жудасная людская лавіна адтуль. Першая была сем ці восем стагоддзяў таму, калі часціна таго ўсходняга люду пакацілася сюды і, падмінаючы пад сябе, нішчачы альбо гонячы перад сабой процьму іншых плямёнаў, ашаламіла, змяшала ўсё на свеце. Урэшце яны сталі вядомыя як гуны, а іхні правадыр, Атыла, праславіўся як дэспат-тыран. Як казаў яму, Усяславу, дзед, мудры бацькаў бацька, які хадзіў не толькі ў Кіеў, але і ў Іерусалім, шмат чаго пабачыў і

ведаў, казаў, што, можа, якраз тады, калі людзі цэлымі родамі сыходзілі са сваіх селішчаў і шукалі зацішак ды кормныя мясціны, сюды з-пад Дуная прыйшлі нашы продкі, абжылі і палюбілі тутэйшыя не толькі без гора, але і амаль без узгоркаў лясныя і рачныя краявіды. Што да той даўняй лавіны ўсходняга люду, дык яна ўрэшце захліпнулася і паволі памяць пра яе сцерлася.

У гэтым стагоддзі заявіліся адтуль іншыя качэўнікі — манголы[1]. Спачатку пра іх был і цьмяныя звесткі. Да слова, той-сёй казаў, што неяк адчыніліся вароты пекла і з яго сюды, на гэты свет, хлынула плынь здзічэлага ад страху і пакут люду, які ўцякае далей ад месца сваёй кары і па сваім шляху нішчыць усё да звання. Калі звестак пра іх стала больш, калі да Кіева, Навагародка і іншых гарадоў дайшло, што гэтыя манголы паваявалі шмат краёў, дык не вельмі спалохаліся іх — нават і пасля таго, калі тыя падманам выйгралі бой на Калцы і калі іхняя знаць адбалявала перамогу на дошках, пад якімі расціскалася ў блін ці не дванаццаць князёў са славянскіх зямель. Лічылі: білі іншых, паб'ём і іх. Але калі пазней тыя наваліліся хмараю, спустошылі мноства гарадоў і весяў русаў, спапялілі Чарнігаў, Кіеў, патапталі галіцка-валынскую зямлю, панясліся ў Еўропу, а потым вярнуліся адтуль і запыніліся каля Іціля[2], дык, бадай, ва ўсіх застыла кроў у жылах: заявіўся на свет вораг, якога нікому не па сіле адолець.

Князь Ізяслаў, ён, Усяслаў, пры першым зручным выпадку распытвалі беглых людзей, праезджых купцоў, паслоў пра манголаў, дык усё больш уражваліся: гэтыя манголы невыпадкова амацаваліся, узвысіліся над суседзямі і пасягнулі на ўвесь божы свет. У іх было тое, чаго не было ў многіх іншых. Яны, качэўнікі, не будавалі палацаў, крэпасцей і гарадоў, жылі паасобна ў шатрах і юртах у стэпе, многія не ведалі адзін аднаго, але пад пільным і жорсткім назіркам тых, хто меў шмат пашы і табуноў коней, ханаў, былі па законах пятлі ў адным кулаку. Усе воі, іхнія сем'і з дзецьмі — маглі праз гадзіну-другую спакаваць сваё дабро, сесці конна, сабрацца ў арду і паслухмяна рушыць хоць на край свету праз горы і пустыні, праз рэкі і снягі.

Як нідзе, у іх дабіўся неабмежаванай улады вярхоўны хан, каган. Вялікая моц была і ў іншых ханаў, розных вайсковых начальнікаў, багатых людзей. Кожны ніжэйшы па пасадзе пакорна гнуўся перад вышэйшым. Варта воіну недагледзець баявога каня альбо

---

[1] Спачатку качэўнікі Манголіі называлі сябе татарамі. Калі ж мангол Тэмучын у 1206 годзе стаў каганам Чынгісханам, дык па яго загадзе пачалі называць манголамі ўсіх падуладных.

[2] І ц і л ь — Волга.

паходны мяшок — пятля на шыю. За аднаго палахліўца ці няўдачніка ў дзесятку знішчаюць увесь дзесятак. Калі ж дзесятак не ратуе свайго, які трапіў у палон, зводзяць увесь дзесятак. Калі без дазволу пакідае бой сотня, дык забіваюць з яе кожнага дзесятага. Такая страшная смерць вісіць не толькі над простым воінам, але і над знатным ханам альбо палкаводцам: схібіў — загібель табе. Вось таму ўсе манголы імчацца ў бой, лютыя ў ім не толькі ад смеласці ці крыважэрнасці, але і ад страху, пагрозы ад сваіх.

Праўда, кажуць сведкі, каган можа і ўзнагародзіць. За смеласць, развагу і ўдачу простага воіна ставяць дзесяцкім, дзесяцкага — сотнікам і даюць сярэбраны посуд, табун коней, рабоў і жонак пераможаных знатных людзей, сотнік можа ўзвысіцца да тысячніка, а тысячнік — да цемніка, і кожны з іх бярэ ўсяго, што нарабавалі ў чужым скораным горадзе альбо паселішчы, у дзесяць разоў больш, чым ніжэйшы па ўладзе.

Усе апавядальнікі са здзіўленнем расказваюць пра мангольскіх коней. На першы зірк, зусім непаглядныя, але бойкія, вынослівыя і, галоўнае, незлічоныя ў працьме табуноў, яны і нясуць на сабе безліч люду, скарбу і кормяць ды пояць усіх сваім мясам, малаком і жывой крывёю. А да ўсяго гэтыя кон і ўмеюць самі здабываць сабе корм нават з-пад тоўшчы снегу ўдарам капыта.

Нямала многія гаварылі пра мангольскі моцны напітак, нейкі кумыс, што весяліць усіх у іхнім суровым жыцці. Кажуць, іхні каган, Чынгісхан, перад смерцю разам з мудрацамі склаў закон для манголаў, заклікаў зусім не піць, але паколькі, на яго думку, непітушчых цяжка знайсці, дык дазволіў выпіць раз на тыдзень, напіцца — раз у месяц. Кумыс — свяшчэнны напой, хто наўмысна ці нядбайна пралье хоць кроплю, той можа чакаць смерці. І свой, просты ці знатны, і чужы таксама. Дык як не крывяцца, скажам, князі з рускіх зямель ад такога пітва, але не адмаўляюцца, п'юць, і вельмі беражліва. Многія хваляць мангольскую авечую і вярблюджую шэрсць, са здзіўленнем расказваюць пра іхніх шаманаў, пра маркотныя песні, пра вынослівых манголак, якія ў паходах нават нараджаюць, гадуюць дзяцей і вядуць гаспадарку.

Усе з захапленнем і жахам расказвалі пра Тэмучына — былога бедняка, раба, але смелага, разумнага, справядлівага і ў той жа час бязмежнага ў жорсткасці чалавека, які стаў вялікім каганам Чынгісханам. Ён не толькі здолеў сабраць і закілзаць усю мангольскую сілу, падакляраваць суродзічам не многа і не мала, а пашу ва ўсім свеце, але кіўком аднаго пальца змусіў іх даверліва і паслухмяна

згарнуць шатры і юрты, ускочыць на коней і паімчацца з запаснымі табунамі за ім, Трасуном Сусвету.

Па аповедзе тых, хто ведае карту зямлі, манголы захапілі дзяржаву Каро[1], дзе, як кажуць, край зямлі, вялізнае мора, за якім узыходзіць сонца, заваявалі тангутаў[2], а пасля, звыкшыся ўжо з пустынямі, гарамі, шырокімі альбо бурнымі рэчкамі, спапялілі цёплы і ўрадлівы край шматлікага цемнатварага люду, які мае зялёны сцяг прарока[3], скарылі гордыя каўказскія плямёны, папоўнілі свае сілы полаўцамі-кіпчакамі[4], услалі трупамі зямлю русічаў аж да Ноўгарада, а потым, абмінаючы радзімічаў, зачапіўшы ўскраіны Турава-Пінскай і Берасцейскай зямель, зруйнавалі Кіеў і па Галіцка-Валынскай зямлі, гонячы перад сабой полчышчы больш чым з сарака паваяваных плямён і народаў, уварваліся ў «вячэрнія краіны», каб дайсці да апошняга мора[5], за якое заходзіць сонца, а гэта значыць, заваяваць Сусвет і ўладаром яго назаўсёды зрабіць манголаў.

Жах ад пяцьсоттысячнай віхурнай і згуртаванай арды Батыя — Чынгісханавага ўнука — зведалі многія польскія, венгерскія, чэшскія, мараўскія, багемскія, нямецкія землі (ахаваныя жалезам нямецкія рыцары лічылі сябе самай перадавою і непераможнаю сілай, але манголы разбілі іх ушчэнт). Валасы дыбам сталі ад страху ў італійцаў і франкаў, а Рымскі Папа, гаварылі, збег са сваёй рэзідэнцыі ў Францыю, а рымска-германскі імператар Фрыдрых II Гогенштаўфен у Сіцыліі ўпотай трымаў судна, каб на ім у самую небяспечную хвіліну збегчы ў Александрыю ці ў Бейрут. Ён, як і кароль франкаў Людовік IX, нібы не чуў слёзных просьбаў славян, якія спрабавалі запыніць манголаў.

Джыхангір — Заваёўнік Сусвету — Батый чамусьці (смерць у Карокуруме вялікага кагана Угедэя і тамтутэйшы неспакой? Боязь пакідаць агромністы тыл без вялікай сілы? Тайныя перамовы з Папам альбо яшчэ што-небудзь?) нечакана павярнуў сваю конніцу і, цяжка цягнучы напханы жывот, як тыгр пасля ўдалага палявання на буйнага звера, паволі адышоў. Ажно ў Каракорум. Там абралі новым

---

[1] Землі сённяшняй Карэі.

[2] Насельнікі паўночна-заходняй вобласці Кітая.

[3] Маюцца на ўвазе продкі казахаў, таджыкаў, кіргізаў, узбекаў, туркменаў, іранцаў і інш.

[4] Полаўцы-кіпчакі (куманы)— народнасць цюркскай групы — жылі ў стэпах Каўказа і Паўночнага Прычарнамор'я. Іхні галоўны горад Шарукань, мяркуюць, быў паблізу Харкава.

[5] Тады Зямлю ўяўлялі востравам, акружаным вадой, дзе за заходам сонца была суцэльная цемра.

вялікім каганам Гуюка, а Батыю зноў уручылі бацькаў Паволжскі край, і ён зноў вярнуўся ў палавецкія стэпы — уладаром над полаўцамі і Руссю, наглядачом над Еўропаю.

Як даходзяць чуткі, і Гуюк, і Батый, маючы вялікую сілу, зусім не тояцца, што зноў пойдуць на заходнія краіны, а пакуль што Батый у нізоўях Іціля будуе сваю сталіцу.

Той, хто пабачыў ужо Сарай-Бату, ажно хітае галавой: такога горада, як гэты, яшчэ нідзе не было: ён будуецца з усяго, што захапілі і цяпер бяруць манголы ад паваяваных імі зямель як на Усходзе, так і на Захадзе. З Нябеснай імперыі[1] мудрацы і грамацеі вучаць, як кіраваць дзяржавай і гаспадарыць, навучаюць кніжнай мудрасці і музыцы, а таксама адтуль дальнабойныя агнямёты і сухі пясок[2], што ўспыхвае і ўзрывае самыя тоўстыя сцены: дойлідства — візантыйскае, маўрытанскае, асіра-вавілонскае і егіпецкае, а таксама з Рыма, Русі, Каўказа, Егіпта, Сірыі, Палесціны, Ірака, Ірана, ад туркаў-сельджукаў, з Венецыі, Парыжа і Лондана. Каго з будаўнікоў, кавалёў, збраяроў, ганчароў, гарбароў, ткачоў, ювеліраў і іншых майстроў прывялі туды на валасяным аркане, хто, выцерпеўшы далёкі шлях і нягоды, прыбыў сам, каб зарабіць.

Батый і іншая знаць пасяліліся ў камяніцах, але жывуць там толькі халоднай зімою, улетку выязджаюць у стэп, у шатры і юрты. Як і раней, увесь люд (кажуць, у Сарай-Бату больш двухсот тысяч насельнікаў) можа сабрацца, ускочыць на коней і пайсці ў паход менш чым за гадзіну.

Там некалькі рэлігій, стаяць мячэці, праваслаўныя і каталіцкія храмы. З усіх падуладных краёў прыходзіць туды дзесятае ад усяго — дзесяты воін, дзесятая дзяўчына, дзесяты конь рознай масці і дзесятае ад любога статку, дзесятае ад жніва, прыбывае даніна і не з паваяваных зямель — кажуць, з далёкага Індыйскага царства, куды, гаварылі, Чынгісхан не пайшоў з-за спякоты.

Што да Кіева, Уладзіміра, Цверы і дальшых, паморскіх, краёў, дык іх манголы аддалі уладзімірскаму князю Яраславу як вярхоўнаму на Русі, але там, як даходзіць да Навагародка, пачынаюць усё больш гаспадарыць Батыевы намеснікі, баскакі. Яны сёлета ўзяліся мецiць, перапісваць усё і ўсіх на землях русічаў, каб лепш абіраць іх. Хто з князёў не стаў на калені, не вытрываў абраз і зняваг, таго пабілі, хто хоча ўратаваць сябе, сям'ю і падданых, той месяцамі выклянчвае ў Батыя ці ў далёкай мангольскай сталіцы за Байкалам ярлык на

---

[1] З Кітая.

[2] Маецца на ўвазе порах.

княжанне, а калі выпрасіў яго, як Яраслаў сабе і сынам, мусіць служыць Батыю пакорліва. І, мабыць, няма для тых іншага выйсця. Іначай Батый разбурыць, папаліць, звядзе ў палон і тое, што ацалела ці начало адраджацца. А заадно вялікая надзея на царкву, якую манголы не чапаюць, ды на пладавітасць маладых жанчын, якія дадуць роднай заняволенай зямлі і рукі рабочыя, і вояў.

Усяслаў, калі разважаў пра ўсё гэта, не мог не запыніцца на адным цікавым моманце: паміж дзвюма лавінамі з Усходу вялікі адрэз часу, шмат сплыло вады і шмат што змянілася ў свеце, сышлі ў нябыт адны і ўзніклі новыя дзяржавы, але, калі добра пакумекаць, ёсць адно, што яднае іх, гэтыя дзве лавіны. Найперш тое, што пры іх славянскім землям адначасова была пагроза як з Усходу, так і з Захаду. Раней тое, што не зрабілі тут гуны, здаецца, спрабавалі інтрыгамі альбо сілай дакончыць варагі — ваяўнічыя і хцівыя наёмнікі, віжы, купцы з паўночных і заходніх краін, а цяпер сюды, дзе не ступіла нага мангольскага каня, лезуць зноў жа заходнікі.

Быў ці не быў пошапт тых продкаў і нашчадкаў даўніх гунаў з варагамі — цяпер цяжка сказаць, вельмі ж шмат на ўсім гэтым гістарычнай павуціны і пылу, блытаніны ў напісаным і расказах вучоных людзей. Шмат не скажаш і пра варункі Чынгісхана, Рымскага Папы і мечаносцаў: нямала ва ўсім гэтым тайны, розных чутак, а можа, і супадзення.

Ды ўсё ж варта падумаць, чаму амаль у адзін час Чынгісхан пачаў азіяцкія заваёвы, рушыў на Захад, а мечаносцы ўзяліся спачатку асвячаць язычніцкія землі, а пасля палезлі на Усход, на ахрышчаных у праваслаўе славян? Хочаш ці не хочаш, але прыходзіць думка: усё ж невыпадковы адначасны рух манголаў і мечаносцаў насустрач адны адным!

Праўда, мечаносцы, а пазней тэўтоны не заяўлялі і не заяўляюць пра скарэнне Сусвету, «нясуць слова божае». Ды і язычнікі, і хрысціяне праваслаўныя хутка разабраліся, што няпрошаныя госціпрапаведнікі разлічваюць не столькі на сілу свайго вучэння, колькі на меч, а гэта значыць, што хочуць паваяваць, звычайныя захопнікі. Таму невыпадкова ўжо на тутэйшых аблогах набылі вялікую славу васал Полацка кукейноскі князь Вячка, Аляксандр з Ноўгарада і той жа Даніла з Холма, якія не толькі скрыжавалі мячы з набрыддзю, але і білі тых, змушалі ўцякаць. Ды мечаносцаў і тэўтонаў гэта не запыніла і не запыніць, не проста так яны, пабітыя, восем гадоў таму злучыліся ў адзін Лівонскі ордэн. Канечне ж, прыйдзецца яшчэ з імі, крыжакамі, сутыкнуцца. Канечне ж, трэба збіраць супраць іх вялікую сілу,

пільна сачыць за ўсімі іхнімі варункамі з манголамі. Іхні саюз — калі не пагібель, дык доўгая і цяжкая няволя для многіх славянскіх земляў.

Што змушала Усяслава думаць, што калі не такі саюз, дык такая змова магла быць? Ды тое, што манголы і крыжакі нібы разам абкладвалі славян. Калі восем гадоў таму Батыевы орды падышлі да Разані і замахнуліся на ўсю Уладзіміра-Суздальскую Русь, дык амаль гэтым жа часам магістр ордэна крыжакоў Б рун меўся рушыць з Драгічына на Галіч, Валынь і, па чутках, нават на Кіеў, ды яго апярэдзіў абачлівы князь Даніла, першы ўдарыў па Бруну і пабіў таго (гэта быў і першы яго, Усяславаў, бой з крыжакамі). Тады ж Рымскі Папа аб'явіў крыжовы паход... не, не на манголаў, а на язычніцкія і праваслаўныя землі. А калі ў 1240 годзе манголы цёмнай хмараю наблізіліся да Кіева, дык на Няве высадзіліся шведы, а ў 1242 крыжакі пасунуліся на ацалелыя ад манголаў Пскоў і Ноўгарад. Урэшце, канечне ж, не проста так, што рыцары — дарадцы як у Батыевым стане, так і ў мангольскай сталіцы. Што да крыжакоў, дык калі ім надавалі як след пскоўскія, ноўгарадскія і полацкія вої, дык тыя заключылі мір з Ноўгарадам і ў апошнія гады насядаюць па Заходняй Дзвіне і па Немане. Не толькі нечапаны манголамі, але і пабагацелы Навагародак для іх,— здаецца, цяпер вельмі спакусны і прынадны кавалак...

«Дзяўбі сваё, як тая птушачка, але і азірайся вакол...— ўздыхнуў Усяслаў.— Зазяваешся альбо пырхнеш угору ці ўбок не ў час — адразу трапіш у ястрабіныя кіпцюры... Трэба вялікая асцярожнасць і абачлівасць. Ні аднаго лішняга не толькі кроку, але і слова! Людзі добра кажуць: «Беражлівага каня і звер не з'есць!»

За Слонімам (Услонімам), калі яны пераправіліся ўжо праз Шчару і ехалі разам з атрадам, што праводзіў мёртвага княжыча, іх нагнаў Міндоўг са сваёй перадавой дружынаю. Падаваўся разам з імі ў Навагародак — балазе яго Рута была непадалёку, а заадно ён хацеў пабыць на пахаванні, а потым забраць з сабой сям'ю са світай, што на час гэтага паходу палічыла за лепшае ахавацца ў іхняй крэпасці.

— За гэтыя дні мае людзі нямала самі выпілі, нямала папаілі Данілавых дружыннікаў, дык добра пагаварылі,— едучы поплеч на белым кані, прамаўляў Усяславу Міндоўг, мабыць, крыху помнячы сваю п'яную гаману каля шатра ў Данілавым стане.— Даніла цяпер мае мала сілы, вельмі асцерагаецца Батыгі: прымае яго паслоў і ганцоў, як ніколі, ветліва...

Усяслаў добра зразумеў, куды той хіліць.

— Паглядзім, што будзе далей,— прамовіў уголас.

— А далей будзе тое, што Даніла паедзе ў Сарай-Бату, а то і ў далёкі Каракорум па ярлык,— сказаў-папікнуў Міндоўг.— На свае і на вашы, навагародскія, землі. Які не горды, але будзе біць чалом і, можа, выпрасіць іхнюю міласць.

— Можа.

— Я, Усяслаў, цяпер, якраз цяпер, калі Даніла слабы і не мае ярлыка, рызыкнуў бы адпіхнуць яго руку ад Навагародка!

— А па-мойму, лепш, каб ён лічыў: мы ўсё пад ім. Мы ж ціха будзем рабіць сваё і для сябе.

— Кал і Даніла будзе мець ярлык і на вашыя землі, дык ты ніколі, чуеш, ніколі не будзеш рабіць сваё і для сябе! Калі што якое, то ён навядзе на вас і на нас манголаў. Як яго продак Манамах наводзіў на Полацак кіпчакоўполаўцаў.

— Я не думаю, што Даніла пойдзе на такое.

— Пойдзе, Усяслаў,— запэўніў Міндоўг.— Таму, кажу, я на вашым месцы і рызыкнуў бы якраз цяпер зрабіць Навагародак вольным. Праўда, можа, з такой-сякой гульнёю...

— З якой, калі не сакрэт?

— Ты і сам ведаеш,— усміхнуўся Міндоўг.— Мы з табой ужо не раз блізка падыходзілі да гэтага...

— Патлумач Мендог,— прамовіў ён.— Як ведаеш, маўчаць я ўмею.

— Калі яно так і будзе, што Батыга адпусціць вашу і маю зямлю крыжакам, дык...— падумаў, нібы асцерагаючыся казаць тое, што таіў глыбока ў душы, а потым усё ж даказаў: — Дык я перамовіўся б з крыжакамі...

— Пра што? — усміхнуўся Усяслаў.

— Яны вельмі злыя на Данілу. За Драгічын...

— Лічыш: яны не пазважаюць, што і вы, язычнікі, і мы, праваслаўныя, не толькі стаім на іхняй дарозе, але не раз і адбівалі іх, няпрошаных?

— Я не пра гэта. Я пра іншае.

— Лічыш: яны стануць саюзнікамі? Шчырымі і дабрадзейнымі? Толькі з-за адной нянавісці да Данілы?.

— Не. Ты ж чуў: я казаў пра гульню. На крыжацкіх і маншльскіх інтарэсах.

— Небяспечная вельмі гульня, князь!

— Можа, не зусім для цябе, вельмі абачлівага...— пакпіў той.

— Сам ведаеш, я не баязкі,— прамовіў Усяслаў.— Але абачлівасць, лічу, ніколі не зашкодзіць. Я к ра з цяпер — злашча. Давай паразважаем. Крыжакі могуць ухапіцца за тое, каб памагчы нам адысці

ад Данілы. Але, думаеш, нічога не захочуць за сваю помач? Не! Пачнуць ліпнуць, каб перавесці наш люд у лацінскую веру, спачатку словам, а потым, можа, і мячом падуладзіць нашы землі папу рымскаму. Даніла, як толькі ўчуе пра наш пошапт (а ён рана-позна ўведае пра гэта), не толькі ашалее, але і настроіць супраць нас усіх праваслаўных. Нават нашых баяраў, дружыннікаў і наш просты люд. Каб утрымацца, мы, жменька змоўшчыкаў, будзем мусець абапірацца на крыжацкі меч. Дык што — самім спрыяць чужынцам заваёўваць сябе, ліць братнюю кроў, а ўрэшце і абяскровіцца?

— Ну і Даніла не дасць вам дыхнуць на поўныя грудзі!

— Але разам з ім мы будзем супраць крыжакоў, не зведаем гневу праваслаўных і паходу іхняга супраць нас.

— Тады князю Ізяславу трэба самому ехаць да Батыгі альбо ў Каракорум і прасіць ярлык на Навагародскую зямлю! — рашуча махнуў рукой Міндоўг.

— А ці варта самому сунуць руку ў тыгрыную зяпу? Ды...

— Канечне, князь Ізяслаў цяпер нікуды не паедзе,— уздыхнуў Міндоўг.

— Думаю, ён сам, па сваёй ахвоце, не паехаў бы ў Сарай-Бату, каб жыў і княжыч,— сказаў Усяслаў.— Можа, ён перамог бы ў спрэчцы Данілу, Яраслава і сцвердзіў бы, што наша зямля, наш люд былі задоўга да прыходу сюды войск вялікіх кіеўскіх князёў і што Даніла не мае права на нас пасягаць. Можа, нават болей — манголы маглі б прызнаць Навагародскую зямлю, але... Якая была б цана гэтай перамогі?

Міндоўг змаўчаў. Слухаў.

— Не сумнявайся, «дабрадзеі» паслухалі б нашы, славянская, спрэчкі і ўбілі б клін паміж Данілам і Ізяславам. Нас бы настройвалі супраць Даніла, каб не даць яму акрыяць, а Данілу, а то і ўсіх бы праваслаўных і неправаслаўных настройвалі б супраць нас. Каб не даць нам адужэць. А да ўсяго маглі б запатрабаваць, каб мы не толькі спраўна плацілі ім за ласку дзесяцінай усяго, але і пастаўлялі ім свае дружыны. І варта было б хоць адзін раз не паслухаць іх, дык аДразу навялі б на нас свае тумены, што пакінулі б на месцы нашых гарадоў і весяў папялішчы, а здаравейшы наш люд пацягнулі б на аркане ў палон! Дык хіба гэта трэба нам?

— Але Даніла, калі возьме ярлык, будзе пакорлівы іхні васал. І, павер, долю яго даніны будзеце плаціць і вы.

— Гэта, як той казаў, мы яшчэ паглядзім...— прамовіў Усяслаў.— Хоць лягіш страціць долю, чым усё. Хоча Даніла быць князем у сваёй вотчыне, прагне не адпусціць нас са сваіх аглабель — што ж, няхай

мае варункі з тыграм. Мы пабудзем і ў цяні. Нам найперш патрэбны, яшчэ раз скажу, спакой і час. Значыць, мы павінны не насцярожваць ні ноўгарадскага Аляксандра, ні Яраслава, ні Данілу і ні крыжакоў ды манголаў...

— Ты не толькі разважлівы, абачлівы, Усяслаў,— нібы пазайздросціў Міндоўг.— Ты — мудры палкаводзец і дзяржаўны муж. Табе быць бы ў вялікай дзяржаве для вялікіх варункаў!

— Я не прагну ні вялікай улады, ні вялікай славы, Мендог. Я хацеў бы дабіцца, можа, зусім малога: каб край і люд наш былі вольныя, самі сабе гаспадары, здаровыя і багатыя, каб яны паважалі сябе і іншых, а іншыя паважалі нас.

— Гэта — не мала, Усяслаў! — Усміхнуўся, хітнуў галавой Міндоўг.— Бо гэтага яшчэ трэба дабіцца! І мудрасцю, і сілай. І можа, на гэта пойдзе нават усё тваё жыццё! А то, можа, і ўнукава!

— Можа,— згадзіўся Усяслаў.— Але тое, пра што казаў,— мая запаветная мара.

— Тое, што я ўмею і магу, тваё, Усяслаў. Не бойся мне здаверыцца. Я пайду за табой і ў агонь, і ў ваду.

— Без гэтага, князь, не ўстояць ні табе, ні нам. Наша суседства цяпер само змушае нас толькі на еднасць і ўзаемную помач. І пра гэта мы мусім чым найменш гаварыць чужым людзям... Пінскі князь Міхаіл, полацкі Брачыслаў — за тое ж...

— Бачу я з непатаптаных манголамі Пінска-Тураўскай, Берасцейскай, вашай, Полацкай і Смаленскай зямель адну роднасную дзяржаву! А калі яшчэ...

— Памаўчым, Мендог! — усміхнуўся Усяслаў.— Давай, кажу, думаць, дбаць пра іншае: як і чым адагнаць ад нашых зямель жалезнага пса, як і чым усцерагчыся ад азіяцкага людажэрнага тыгра? А табе, думаю, яшчэ нямала клопатаў і са сваімі князямі ды з аўкштайцкімі і жамойцкімі кунігасамі...

— Нямала,— уздыхнуў Міндоўг.— Мне ніколі няма спакою. Ні ўночы, ні ўдзень. Дзякуй Богу, што ёсць Навагародак, князь Ізяслаў і ты, а то... Не ехаў бы вось цяпер з табой побач ці быў бы ў выгнанні...

## 5

Ужо незадоўга перад Навагародкам, на лузе каля невялікай рачулкі Нёўды, Усяслаў спешыў дружыну і загадаў усім чысціць коней, сябе,— якое не вялікае ў іх гора, але трэба вярнуцца ў стольны Навагародак, дзе выйдзе сустракаць іх увесь знатны і просты люд, ахайнымі, ва ўражлівым і захапляльным бляску даспехаў і зброі, ве-

лічнымі: войска ёсць войска, апора, гонар і слава княства ды ўсёй, як пачало ўжо гучаць, Навагародскай зямлі.

Асвяжыўшыся, паціху рушылі да Навагародка: наперадзе — два лепшыя вайсковыя трубачы, за імі — княскі сцяганосец з вартаю, а за імі — павозка з труной, накрытай дыванам, а за ёй — Усяслаў на любімым арабскім гнядым скакуне (падарунак сірыйскіх купцоў, якія не абміналі і Навагародак), Міндоўг з аховай, а за імі — спачатку знатныя, а потым маладыя дружыннікі. Па пяць вояў у радзе, кожны з іх у правай руцэ трымаў кап'ё з вострай бліскучай пікай, а на поясе — меч, ды ўсе былі ў бліскучастых шоламах і шчытах. За дружынамі цягнуўся абоз — павозкі з лупамі і ахова.

Знаёмыя весі з наземнымі пабудовамі, пажылыя людзі з нізка схіленымі галовамі, узрушаныя падлеткі са ззяючымі позіркамі на сур'ёзных, а то і строгіх вояў, цікаўныя басаногія дзеці ў кашульках, палі са збажынной, статкі кароў, авечак і коз, старажытныя, парослыя травой курганы і свежыя могільнікі з драўлянымі крыжамі, а сям-там і з агароджамі, а нарэшце пасад з могільнікам багатых людзей на поўдні і з многімі шыкоўнымі двух і нават трохпавярховымі цаглянымі і драўлянымі купецкімі і рамесніцкімі дамамі ў дэнтры і на поўначы і зусім нарэшце строгі дзядзінец на высокай гары — усё гэта блізкае, роднае ўсцешна і трывожна змушала ўтрапёна забіцца сэрца.

Навагародцам ужо данеслі жалобную вестку — купцы, рамеснікі, кавалі, ювеліры, ганчары, шаўцы і краўцы, чэлядзь, бацькі, жонкі і дзеці дружыннікаў сустракалі іх не з усмешкамі ды радасным галёканнем, як раней, а са смуткам, а заадно ўзіраючыся ў твары вояў: а мой, наш жывы? Убачыўшы роднага чалавека, не выяўляючы ўсмешак, аднак па-чалавечаму радаваліся ў душы: у вачах мільгалі шчаслівыя агеньчыкі. Як не было шмат старых, маладых і юных твараў па адзін і другі бок іхняй калоны, Усяслаў адразу ўбачыў сваіх слуг, дачку Звеніславу — тая, высакаватая, мабыць, не зусім з мяккімі, а мужнаватымі рысамі твару, толькі на міг абмацала яго вачыма, прывітальна махнула рукой і, выцягваючыся, пачала шукаць позіркам мужа-баярына, Васілька, які быў праваю рукой у княжыча-нябожчыка, адным са старшых у маладой дружыне,— а пасля, калі па апушчаным ужо мосце з аплазаваных моцных бярвёнаў праз гала-вакружны роў з вадою (яго глыбіня і шырыня больш чым у пяць ча-лавечых ростаў) мінулі шырачэзны, амаль трыццаць крокаў у камен-ным падмурку, і высокі, больш чым у тры чалавечыя росты і наверсе шырынёй у пяць крокаў абкладзены каменнямі земляны вал і ўехалі ў невялікі, але ўтульны дзядзінец, Усяслаў адразу ўтаропіў позірк у навагародскіх старэйшын, якія вакол князя Ізяслава, Міндоўгавых

Ганны, Войшалка і Дануты стаялі каля княскага двухпавярховага церама-палаца і чакалі жалобную працэсію. Пад'язджаючы бліжэй і бліжэй, Усяслаў бачыў на твары добра знаёмых радцаў не толькі шчырую жалобу, што была перад пасадам у вачах людзей больш нізкага звання: тут той-сёй засмучаўся, але той-сёй і ў жалобе меў свае тайныя помыслы. Затым Усяслаў чэпка зірнуў на баярына дворскага і ключніка Расціслава — той, старэйшы на гадоў пяць, тоўсты, з вялікім падволічам на шыі і з мясістымі шчокамі ды носам, таксама навёў на яго вузенькія вочкі, працінаў, нібы намагаючыся ўбачыць, колькі ж адчаю і болю ў яго, Усяслававай, душы, а потым, выяўляючы да яго пагарду, перавёў позірк на труну. Расціслаў і ён ужо даўно жылі ў паўтайнай варажбе, супернічаючы перад князем і Радай; тут, у Навагародку, улада і сіла была ў яго, Усяслава, але Расціслаў усё роўна стаяў на яго дарозе, заўсёды папраўляў і шкодзіў: меў апеку ад галіцка-валынскага валадара і ягонага дворскага, паколькі яго жонка Раксана — не толькі ўраджэнка тых мясцін, але і сваячка таго дворскага, Андрэя. Расціслаў быў тут найбольш буйным Данілавым выведнікам і апірышчам; усё, за што на днях папікаў Усяслава Андрэй-дворскі, якраз перадаў у Холм, Данілаву сталіцу, Расціслаў. Цяпер, калі такое гора, той, канечне ж, паспрабуе настроіць князя Ізяслава і Раду супраць яго, як спрабаваў раней спажыць у сваю карысць смерць княгіні, заўчасную пагібель старэйшых княжычаў.

Спешыўшыся, Усяслаў адразу ж падышоў да князя Ізяслава — высокага, худога, белага і з запалымі вачыма, ссівелага, сёння ў апратцы жалобнага княскага колеру — у цёмна-вішнёвай шапцы-стаўбуне, аблямаванай выдрынай скураю, у барвістым карзне, зашпіленым каля кадыкастай шыі не залатой, а простай фібулаю, а пад карзном была доўгая, ніжэй калень, барвістая туніка з набедраным карычневым, без ніякай пазалоты,поясам, са сціплым арнаментаваным карычневым падолам.

— Высокашаноўны князь,— схіліў, а потым зноў падняў галаву Усяслаў,— мы годна ўтрымалі твой сцяг, памаглі князю Данілу перамагчы, добра загартавалі нашых маладых рояў і прывезлі немалыя ваенныя лупы. Вось табе Данілава грамата.

Князь — а яго з аднаго боку падпірала пад локаць Міндоўгава Ганна, а з другога падтрымліваў Расціслаў — слухаў нібы безуважна, здаецца, нават ледзь-ледзь не ажываліся ягоныя некалі руда-шэрыя, жывыя, а часамі, у гневе, нібы агняна іскрыстыя, а цяпер выцвілыя і безжыццёвыя вочы, на высокім пажаўцелым лобе як былі, так і не здрыгануліся глыбокія маршчыны, вастраваты нос быў паніклы, толькі, здаецца, крыху варухнуліся бяскроўныя вусны. Ізяслаў быў

дужы і моцны чалавек, разумны і з непахісны́ай воляй, умелы палкаводзец і дыпламат, але вось гады, пастаянная барацьба з ворагамі і супрацьстаянне Данілу, а ўрэшце і агромністае асабістае гора калі не зламалі, дык састарылі і знядужылі яго. Цяпер ён з усёй сваёй некалі вялікай радні быў адзін як перст. Ён узяў пададзены пергаментны скрутак, змацаваны вяровачкай і Данілаваю пячаткай і нібы не ўтрымаў яго, бяссільна апускаючы руку.

Усяслаў дастаў са сваіх похваў ваяводскі меч і, падаючы яго князю, упаў на калена на вымашчаны аплазаванымі бярвёнамі дол:

— Я, толькі я, князь, вінаваты ў тваім новым і ніяк несуцешным горы: недагледзеў княжыча. Карай мяне за гэта па сваёй волі, хоць наш смелы і парывісты княжыч загінуў не на хмельным балі і не на паляванні, а ў ратным баі.

Ён гаварыў так не для позы і зусім не баючыся, што гэтым самым шмат чаго траціць і дае большыя шанцы іншым — найперш таму ж Расціславу.

— Брат мой,— пачуўся амаль побач Міндоўгаў голас.— Праўда, сын твой загінуў як храбры вой, але слаўны навагародскі баярын Усяслаў невінаваты ў яго смерці. Княжыч не паасцерагаўся, парушыў дамову і ў небяспечную для князя Данілы хвіліну кінуўся таму памагаць...

Князь Ізяслаў зноў нібы адчужана зірнуў на пададзены яму з пакорай меч і выслухаў заступніцтва за навагародскага ваяводу князя-суседа, а потым асцярожна вызваліўся, слаба махнуў правай рукою, у якой трымаў Данілаву грамату, каб Усяслаў падняўся з калена і схаваў у похвы свой меч, і, хістаючыся, падаўся да павозкі з труной:

— Пакажыце мне маё чада...

Дружыннікі хутка прыбралі дыван, знялі барвістую, з цёмна-вішнёвай накідкай накрыўку з труны, дык цяпер усе ажно ўздрыгнулі: юны княжыч, абкладзены падталым лёдам і зёлкамі, здаецца, не знявечаны і не мёртвы, жывы, толькі, праўда, залішне бела-сіняваты і застылы.

— Кроў мая...— Дрыготкімі пальцамі стары князь дакрануўся да княжычавага высокага і яснага, як і ў бацькі, лоба.— Чаму такі твой лёс? Гэта мне пара пакінуць гэты грэшны і мілы свет, а ты павінен быў род наш княскі цягнуць далей, зямлю родную аберагаць і ўзмацняць!

Да князя амаль на дыбачках падышоў баярын Расціслаў — у цёмным атласным жупане, паверсе якога быў венгерскі бурачковы шаўковы кунтуш з разрэзанымі і закінутымі на плечы рукавамі, у

бурачковай шапцы (апратку ягонай сям'і прывозілі з Холма) і лісліва ды ўгодліва заапекаваўся над бяссільным гаспадаром краю:

— Князь, горача, дык не трэба трымаць княжыча на дварэ. Няхай яго нясуць у цень.

Ізяслаў паслухмяна адступіў — па Расціслававаму знаку дружыннікі паняслі труну ў княскі церам-палад. Там, калі радцы і высокія госці пасталі вакол труны, баярын Расціслаў, спажываючы момант, зноў заверхаводзіў:

— Даручы, князь, выбраць малую раду з нас, каб дапыталі, як загінуў княжыч...

«Дапыталі...» Канечне ж, цяпер Расціслаў спрабуе найперш пасеяць недавер да яго, Усяслава, унізіць і аслабіць яго моц у Радзе.

Усе адчулі гэта, многія зморшчыліся з непрыемнасцю, але Расціслаў гнуў сваё:

— А тады добра ведаць будзеш, хто вінаваты, каго караць...

Ізяслаў стаяў па-ранейшаму задуменны, нібы не чуў гэтых галасных нашэптаў, толькі, здаецца, яшчэ болей спахмурнеў. Калі Расціслаў зноў разявіў рот, каб яшчэ штосьці сказаць сваё, князь нібы засланіўся ўзмахам рукі:

— Ідзіце. Усе. Я хачу пабыць адзін.

Праўда, павярнуў галаву і ўважыў Міндоўга і ягоную сям'ю:

— Выбачай, брат. Выбачай, княгіня.

Усе добра зразумелі Ізяславаў настрой і стан, ціха падаліся са святліцы; Расціслаў наўмысна марудзіў, намагаючыся быць побач з Усяславам і Міндоўгам. Тое, што яму не ўдалося цяпер, тут жа ўгаварыць, павярнуць на сваё князя і ўзяць верх над Усяславам, моцна разгубіла яго: як не таіў, але на твары была пакутлівая незадаволенасць. І ўвогуле ён здаваўся цяпер завельмі тоўстым і цяжкім.

— Ну што, баярын? — узяў яго пад локаць, ухмыльнуўся Міндоўг.— Засвярбела засадзіць Усяслава ў поруб?

Таўсцюк засоп, збянтэжыўся, што нават сусед зразумеў яго намеры, але зірнуў непрыхільна: маўляў, не лезь не ў сваё, чужынец.

— Не засадзіш,— зло цешыўся Міндоўг.— Не дазволяць князь Ізяслаў і дружыны. А вось павагу да сябе страціш.

— Я не за тое, каб каго засадзіць, я за тое, каб ва ўсім разабрацца,— той фыркнуў, надзьмуўшыся і пачырванеўшы, як індык.— І князь наш, думаю, будзе за гэта...

Без лішняй цырымоніі (што яму, каго апякае сам галіцка-валынскі ўладар, да князька-суседа, якога трымаюць навагародскія мячы!) вырваў руку і завалюхаў прэч з грыдніцы[1].

Як толькі за Расціславам зачыніліся дзверы, Міндоўг перадражніў, як грузна патрухаў Расціслаў, а потым павярнуўся да Усяслава:

— Добра ўсё чуў?

Ён разумеў усё і без гэтай перасцярогі.

— Будзь пільны,— адкрыта сказаў Міндоўг, бачачы вакол, як кажуць, сваіх людзей.— Сцеражыся: гэты аспід назапасіў на цябе яд...

Як убачыў, усе, хто застаўся тут з ім, тысяцкі Бялян, знатны дружыннік і старшы яго аховы Цішук, Міндоўгавыя жонка і дзеці, баярын Хвал, пазіраюць на яго шчыра і спачувальна.

— Не хвалюйцеся,— супакоіў ён.— Думаю, князь мяне зразумее. А калі пакарае, дык справядліва. А што да гэтага аспіда, дык свой яд ёсць на кожнага гада...

— Баярын Бялян,— папрасіў сярэдніх гадоў і рослага знатнага воя Міндоўг,— ваявода дазваляе сабе быць не зусім асцярожным. А ўсё ж варта трымаць напагатове дзесятак-другі сталых і адданых дружыннікаў. Бялян, ахоўвай ваяводу як сваё вока, як наш усіхны жывот.[2]

— Я згодзен, князь,— коратка, але ўдумліва адказаў негаваркі, але цягавіты і мужны ў баі тысяцкі, правая Усяславава рука.

— І ты, Цішук, будзь чуйны, глядзі ва ўсе вочы і слухай ва ўсе вушы,— папрасіў Міндоўг Усяслававага ахоўніка.— Расціслаў, можа, не здолее настроіць супраць Усяслава князя, можа, не асмеліцца ўзбунтаваць гараджан, але можа знайсці якую-небудзь поскудзь і падаслаць ва Усяславаў дом з кінжалам альбо з ядам. Дык ты, Цішук, не пускай у дом нават муху!

— Перастаньце,— ажно сумеўся Усяслаў.— Бадай, няма мне такой пагрозы, пра якую вы думаеце.

Да яго падышла княгіня Ганна — сярэдняга росту і сярэдняй паўнаты жанчына. Яна, маўклівая, сціплая, бадай, ніколі не ўбіралася ў багата-святочнае княскае адзенне, а цяпер, у жалобу, была зусім простая — у цёмным сарафане, акаймаваным паўз грудзей і да падолу яшчэ цямнейшай, з галінак і лісточкаў, вышыўкай, пад сарафанам была доўгая, да зямлі, рудаватая сукенка, а на галаве — звужаны ўверсе цёмны какошнік з цёмнай накідкаю на патыліцы. Як і заўсёды, Ганнін белы, з вялікімі вачыма і прадаўгаватым носам твар

---

[1] Грыдніца — пакой у княскім палацы, дзе прымалі гасцей.

[2] Ж ы в о т — жыццё.

меў сумна-пакутніцкі выраз. Можа, з-за яе пустэльніцкага ляснога ці частага беглага жыцця альбо ад сямейных звадаў. Сказаць шчыра, за гэтыя хвалюючыя і цяжкія для яго хвіліны сустрэчы з князем і баярамі Усяслаў нават не заўважыў: павіталася яна з мужам-князем ці не (апошні час, як здаецца, яны зусім зчужэлі адно да аднаго: Міндоўг, кажуць, зноў злюбіўся з іншай каханкай. Калі той толькі час ад часу, ратуючыся ад варожых суседзяў-князёў, прылятаў сюды ў пыле і поце, дык Ганна з дзецьмі жыла ў Навагародку больш, чым у сваёй Руце, была не толькі жаданай і прыемнай госцяй, але паволі стала ўважлівай і дабрачыннай апякункай старога і хворага Ізяслава. Тут, у навагародскай царкве, яна ўпотай ад Міндоўгавых баяраў і іхніх суседзяў-князёў-язычнікаў пахрысціла ў «веру от Востока» сына Вой шал ка і дачку Дануту. Можна сказаць смела, ён, Усяслаў, быў не толькі княжычаў, але і Войшалкаў пястун).

— Ты праўду чуеш, Усяслаў,— падышла, глыбока і цёпла зірнула яму ў вочы Ганна.— Сцеражыся. І для Навагародка, і для нас...

Гэтыя «для нас» Міндоўг, Войшалк і Данута, канечне ж, зразумелі па-свойму -— найперш як клопат пра іхнюю сям'ю і Руту, але для Усяслава пачутыя словы абзыўнуліся даўнім хваляваннем...

Гаротніца Ганна даўно ўжо ўведала: яму, ваяводзе, здароваму і дужаму мужчыне, у жыцці вельмі і вельмі нялёгка. З-за добрай, чулай, але зусім нездароўчай жонкі. Пазнаёміўшыся, Ганна хутка пасябравала з ёй, як магла памагала выцерпліваць цялесны і душэўны боль, гартавала хрысціянскую цярплівасць; Усяслаў радаваўся, што ў яго пакутніцы нечакана з'явілася такая высокашаноўная, адукаваная, з тонкай душою і высакародная сяброўка, клапоціцца пра яе і дачку, што яму, ведаючы гэта, лягчэй адлучацца з дому і быць у баявых паходах. Што да Міндоўга, дык ён, здаецца, зусім не раўнаваў, што яго Ганна заўсюдная госця ў доме навагародскага ваяводы — як усе кажуць, маладога пагляднага мужчыны, па якім ажно млее не адна навагародка, нават больш — жартаваў з гэтага і часамі з непрыстойнымі намёкамі, а то і нібы падштурхоўваў жонку і яго да блізкасці. Можа, і наўмысна. Можа, для таго, каб не толькі апраўдацца за свае гулі, але і каб развесься.

Усяслаў з Ганнай, што бывае рэдка паміж маладымі мужчынам і жанчынаю, шчыра пасябравалі, ажно пароднелі праз бяду і гора. Праўда, не раз запыняючы на ёй позірк, ён міжволі адчуваў: Ганна — не красуня, але здаровая, мае прыемную акругла-жаночую постаць. Жанчыны яе пароды звычайна, калі жывуць у дастатку, абласканыя мужам, маюць здаровых і разумных дзяцей, шчаслівыя, паволі, год за годам, харашэюць, з няўклюднага і нашатэранага гусяняці стано-

вяцца беласнежнай і градыёзнай лебядзіхай. Але Ганна не мела такіх спакою, ласкі, яна нават была зарана запакінутая, дык яе цела і душа не толькі не пышнелі, але запыніліся развівацца як след: не хапала іскрыстага бляску ў яе вачах, пакатасці і гібкасці ў плячах ды спіне, акругласці ў клубах, раскошы ў грудзях, лёгкасці і вабнасці ў хадзе, што ўсё разам пастулова робіць жанчыну ўсё мілейшай і непаўторнай. Як заўважаў Усяслаў, усё гэта, што мусіла запыніцца і чэзнуць, выбівала Ганну з каляіны: яна нечакана то ўспыхвала хваляваннем, усміхалася ці нават заходзілася ад смеху, то, наадварот, замаўкала, маркотнела, плакала ні з таго, ні з сяго альбо падхоплівалася і тут жа сыходзіла з іхняга дому. Усяслаў, паколькі сам шмат цярпеў і мусіў глушыць у сабе, пачаў разумець, што і чаму адбываецца з Ганнай. Праўда, не мог нічога пра гэта сказаць ёй, тым больш пайсці на большае — скажам, пазаляцацца, але, хаваючы глыбока ў душы сваё прадчуванне, а з ім і жаданне, пачаў больш, чым трэба, бянтэжыцца і ніякавець перад ёй; яна, ловячы яго адмысловы позірк ці бачачы яго разгубленасць, таксама пачала мітусіцца і асцерагацца застацца з ім сам-насам.

Такое доўжылася год-другі; ён і Ганна непахісна не давалі волі свайму ўзрушэнню і непакорнай плоці, хоць гэта было пакутліва. Можа, і не менш за тое, каб яны прызналіся адно аднаму пра ўсё ці нават па-грэшнаму зблізіліся. Адзін Бог ведае, што і як было б далей, каб не адна летняя цёплая ноч, калі яны трапілі разам у госці да ягонага сябра-баярына. У шчырай кампаніі Ганна зусім неспадзявана падпіла, развесялілася, хораша спявала, увачавідкі пахарашэла — можа, проста не змагла не ўспыхнуць жаноцкасцю і дзеля яго: ён не зводзіў з яе зачараванага позірку, любаваўся, жадаў прытуліць яе, саромеўся, ніякавеў — як ніколі, узбудзіў сэрца і душу, а то і сваю плоць. Потым, калі ўжо ў цемені, ён падводзіў яе да княскага палаца, яна, аблакочваючыся аб яго, бадай, упершыню за іхняе знаёмства зашаптала шчасліва:

— Усяславе, я — цвярозая, я — і зусім п'яная! Мне сёння вельмі добра! Як ніколі!

— Ты сёння незвычайная,— прамовіў і ён шчасліва.— Пекная. Чароўная.

— Праўда? — здзівілася, але цяпер не проста шчыра, а як гэта ўмеюць рабіць толькі прыгожыя жанчыны, весела і свавольна.— Я, дружа, сёння баламутніца.— Прытулілася гарэзна, абедзвюма рукамі сціснула ягоны локаць.— І табе, такому сур'ёзнаму, падабаюцца баламутніцы?

— Які я не ёсць, Ганна, але я ўсё ж жывы чалавек, мужчына,— усміхнуўся ён, таксама сёння цвярозы і заадно п'яны.— Дык чаму будзе не даспадобы вясёлая жанчына? Ды калі ведаеш: яна — зусім не ліхадзейка, а шчырая і добрая?

Ганна затрымала яго і зірнула яму ў вочы:

— Ты праўду кажаш?

— А хіба я табе калі маню?

— Не. Ты не маніш. Ты толькі штосьці тоіш ад мяне.

— Таю,— прамовіў і адчуў, як штуршканула ўзбуджанае сэрца маладым хваляваннем.

— Што? — спытала шэптам.

— Ты і сама ведаеш...

— А ты скажы. Можа, лягчэй будзе. І табе, і мне.

— А ты, княгіня, хочаш пачуць гэта?

— Я цяпер не княгіня,— ціха прамовіла.— Я цяпер, як сама лічу, баламутніца альбо, як ты гаворыш, не ліхадзейка...

Нават у цемені было відаць, як молада і прызыўна бліснулі яе зрэнкі, пасвятлеў і яшчэ болей папрыгажэў твар, пажадна смыкнуліся вусны. А можа, усяго гэтага і не было бачна, можа, Усяслаў найперш адчуў гэта, дзеля чаго непатрэбныя вочы, дзень, калі ёсць душэўныя святло і позірк.

Яны памаўчалі з хвіліну, усхвалявана дыхаючы, а потым яму здалося, што яна блізіцца да яго — ён таксама паімкнуўся, і яны прыпалі адно да аднаго і ўпершыню пазналіся вуснамі не як сябры, а як Ён і Яна. Ганна, закінуўшы яму на шыю рукі, цалавала доўга, прагна, ціхенька стагнала і блізка ціснулася станам, міжволі паказваючы, што ў яе ёсць усё жаночае і гэтак жа міжволі ўжо не толькі ўзбуджаючы, але і ўспламяняючы ягоную плоць, што, бадай, яшчэ ніколі не зведвала такога жару. Адчуўшы гэта, Ганна не адхіснулася, падалася яшчэ бліжэй, выяўляючы пяшчотны і ў той жа час магутны жаночы покліч — як не стрымаць у цёплай і вільготнай глебе зернейка, якое хоча абудзіцца і расці, так і ім абоім цяпер не было сілы стрымаць таго, што прагла свайго, дадзенага матухнай-прыродай і што бывае толькі паміж мужчынам і жанчынаю...

Потым, калі схлынулі, супакоіліся гарачыня і шал, калі вярнуліся існасць і памяць, Ганна ціха, нават задуменна крочыла з ім побач да княскага палаца. Ён, невялікі знаўца жанчын, добра не ведаў, што яна цяпер ад чувала ці пра што думала, а вось яму не ўдавалася паадолець сораму і віны — найперш перад ёй, такой безабароннаю і добраю. Калі на развітанне, непадалёку ад дружыннікаў вартавых, ён прыхіліў яе і пацалаваў, яна папрасіла:

— Заўтра пагаворым, добра?

Затым, не чакаючы, што ён адкажа, цмокнула ў шчаку і паволі пакрочыла да ўвахода ў церам. Ён так у тую ноч і не ўведаў, што ў яе на душы, а сам, на гэты раз не зазірнуўшы ў жончыну спальню, падаўся ў свой пакой, лёг і доўга не спаў, уражаны, нават аглушаны тым, што гэтак нечакана і бурна адбылося. Радаваўся, што меў у абдымках маладую і здаровую, ахвотную да яго жанчыну, што зведаў такую незвычайную страсць і яшчэ шмат чаго, што яшчэ не пазнаў у жыцці, але гэтую радасць вярэдзіў нейкі згрызотны адчай. Здавалася, цяпер ён не толькі кепскі муж, бацька, але і ўвогуле вінаваты за ўсё перад усім светам. Дагэтуль ён нават не здагадваўся, што мужчына можа гэтак уражвацца ад здрады жонцы.

Калі назаўтра ўлучыў хвіліну і спаткаўся сам-насам у святліцы з Ганнай — таксама змененай за гэтую, мусіць, амаль бяссонную ноч, прыгнечанай, але ў той жа час і нейкай новай, мяккай ды лагоднай,— прытуліў яе, дык яна зноў блізка падалася.

— Як ты? — зірнуў у яе ажыўленыя блакітныя вочы.— Каешся?

— Што адбылося, таго ўжо не адменіш...— цёпла і ціха адказала, але, як відаць было, не збіралася даваць яму вусны, закідваць за шыю рукі ды ціснуцца станам так, як гарнулася ўчора.

— Значыць, каешся,— сказаў ён, папраўляючы каля яе вуха пасмачку валасоў, што выехала з-пад яркага какошніка.— І, мабыць, клянеш мяне?

— Зусім не,— затрымала яго руку і прыціснула яе да сваёй шчакі.— Я дабілася таго, чаго жадала. Я пра гэта марыла ўжо даўно. Ты здагадваўся?

— Не зусім.

— Значыць, не вельмі разбіраешся ў нас, жанчынах,— усміхнулася, і чырвань заліла яе шчокі.

— Ты ж — не толькі жанчына. Ты — княгіня!

— І я — найперш жанчына, зямное стварэнне. Замужняя, маці, а закахалася ў іншага...

— Дык хіба гэта блага? — прыгарнуў бліжэй.

— Гэта няблага, мілы і да рагі мой чалавек,— пакратала язычком па ягонай руцэ.— Я ўчора была самая шчаслівая на свеце жанчына...

— А сёння?

— Сёння...— уздыхнула.— Сённяшняе...

— Ды яшчэ ў гэтым доме... — уздыхнуў і ён.

— Пра тое, што ўчора было, мы не скажам ні Мендогу, ні тваёй жонцы, Усяслаў,— апусціла галаву, узяла яго за локці.— Няхай гэта будзе наша глыбокая тайна. Пра Мендога я вельмі не клапачуся, ён

заслужыў, каб я здрадзіла яму. Ды я не столькі здрадзіла, колькі аддалася любімаму чалавеку. А што вось да тваёй жонкі, дык я ўсё жыццё буду Бога прасіць, каб ён дараваў мне грэх перад ёю: я ўчора забрала тое, што павінна было быць толькі яе...

— Дык ты...

— Больш у нас такога не будзе, Усяслаў. Я ўжо не дам вол і свайму каханню. І ты, калі кахаеш мяне, утаймуй сваё каханне.

— Ты лічыш: будзе легка заглушыць у душы тое, да чаго мы ішлі праз пакуты?

— Не, легка не будзе. Мы павінны бачыцца як мага радзей. А калі сустрэнемся, мусім быць як добрыя знаёмыя. Наша каханне рана-позна прынясе нам новы боль і новыя пакуты.

— Бачыш, яно і цяпер ужо нялёгкае.

— Ты ж разважлівы, цярплівы і мужны, Усяслаў. Ты адразу ж за гэта мне спадабаўся.

— І я, Ганна, зямное стварэнне, дык і мне хочацца ўсяго зямнога...

— Разумею, мілы і добры зямны чалавек,— ціха, без усхліпу, заплакала.— Нам бы было добра, але... Ёсць гэтае «але»...

Выйшла так, як і захацела Ганна. Пасля гэтага яны бачыліся і рэдка, і часта, былі нават сам-насам, але болей ужо не збліжаліся як мужчына і жанчына. Калі яна пазней нарадзіла дзіця, усхваляваны, ён дапытваўся, ці не ягонае яно.

— Чаму ты думаеш, што ты майстра толькі на дзяўчынак? — жартам адказала яна, папаўнелая і пахарашэлая пасля новых родаў.

— Я хачу ведаць: бацька я тваёй дзяўчынцы?

— Не ведаю, Усяслаў,— пацепнула плячыма.— Але я радая, што маю разумнага і здаровага сына, а цяпер вось ужо і здаровенькую і пекную дачушку. Назаву яе Данутай, не супраць? Данута — прыгожае дрыгавіцкае імя!

— Я не супраць, але...

— Ніякіх «але»!— жартам загадала, узяла і прыласкала яго руку.— Будзь спакойны. Я не толькі дагледжу сваіх дзетак, але і жыццё ім сваё ахвярую. Я жыву і буду жыць далей найперш дзеля іх. Калі што трэба мне ад цябе, дык толькі адно, Усяслаў: раз мой Войшаль гэтак горнецца да праваслаўнай веры, да Навагародка, княжычаў вашых і да цябе, дык дзядзькуй яго. Гадуй з яго мужнага мужчыну, воя і мудрага князя...

— Я згодзен, Ганна,— адказаў ён шчасліва.— Але я твайго сына-княжыча настаўлю на свой лад...

— Настаўляй так, як і сваіх княжычаў. Я цалкам давяраюся табе. А вось дачушку настаўлю сама. Можа, як жонку катораму вашаму княжычу.

Вось так тады пагаварылі. Затым, паволі астуджваючыся і маючы шмат клопатаў, ён сапраўды, пакрыху ўтаймаваў сваё каханне да Ганны, меў толькі і большыў да яе глыбокую пашану. Часамі нават думаў, пытаў у самога сябе: а ці не быў тады, той цёплай і хмельнай ноччу, дзіўны сон? Можа, не было той бліскавічнай весялосці, тых прагных пацалункаў і слодычных кароткіх, але і доўгіх, як вечнасць, хвілін? Можа, усё тое ён прыдумаў і ўявіў?

Ды не, вось праз гады нечакана пачуў гэтае «... і для нас». Што яно значыць? Усё ж пасеянае ў страсці яго семязерне ўзышло?

— Сцеражыся,— яшчэ раз папрасіла Ганна, мала цяпер падобная на княгіню, больш на богачынную манашку, праўда, замужнюю і маці дваіх дзяцей.

— Не хвалюйся, Ганна,— сардэчна сказаў ён.— Ні сябе, ні вас у крыўду не дам.

— Вось і добра,— усцешылася тая і адышла да дзяцей. Да рослага, як і бацька, але не рыжаватага і не пахмурнага, а русявага і з мяккімі, як у маці, рысамі твару Войшалка ды да сярэдняга росту і поўненькай вясёлай гаварухі Дануты — тая, як і заўсёды, пазірала на яго са збянтэжаннем. Нібы душой адчувала тое, пра што таілася яе маці. Ці, можа, маладзенькая, яна не магла не сумецца ад яго пяшчотнага позірку.

Праўда, цяпер і Войшалк, і Данута пазіралі на яго зусім незвычайна, з павагай і ў той жа час са шкадаваннем: упершыню ўбачылі, як ён, каго лічылі тут самым моцным, хто мог амаль усё, стаў на калена і апусціў перад князем Ізяслававам вінаватую галаву. Невыпадкова ж маці суцешвае яго і просіць быць пільным, а перад гэтым не на жарт устрывожыўся бацька-князь. Маладыя Войшалк і Данута, але добра ведаюць: Навагародак для іх — не толькі прытулак, але і крэпасць. І, канечне ж, найперш з-за моцы тут Усяслава.

Войшалк хацеў штосьці сказаць яму, але, здаецца, не знаходзіў самых патрэбных слоў, толькі мыляў вуснамі ды адкрываўся яму душой. Больш, чым любімаму пястуну. Адчуваючы гэта, Усяслаў, адыходзячы з грыдніцы, з падзякай пацiснуў яму плячук, але ні яго, ні іншых не запрасіў з сабою. Хацеў пабыць адзін. У бядзе і горы не кожны выходзіць на людзі, выяўляецца ўвесь як ёсць, той-сёй (а Усяслаў быў якраз такі) намагаецца пабыць сам-насам, адзін пазмагацца з нядоляй і з самім сабою.

У вымеценым і пасыпаным жоўтым пяском двары Усяслава сустракала толькі яго нешматлікая чэлядзь: старая Марыля (яна ў свой час прыслужвала яго жонцы і карміла сваімі грудзямі яго дачку, а цяпер была старэйшай на кухні), два маладыя стражнікі-дружыннікі, Мірaслаў і Любамір, а таксама хлеўны Дубейка і яго памочнік Крук — абодва слаўныя, але пакалечаныя ў бітвах дружыннікі, якім ён за былую воінскую доблесць даў тут прытулак, а з-за іх выглядала дачка яго цяперашняга знатнага дружынніка Цішука, Любка, яго пакаёўка.

Усе перажагналіся, радуючыся, што ён, гаспадар, вярнуўся жывы, а потым схілілі галовы ў пашане і вітанні.

— Дзень добры вам усім,— цёпла павітаўся ён са слугамі, якія і за жонку, і за дачку ладзілі яму ў дамоўцы цяпло, спакой і ўтульнасць.

Першая падняла галаву нізкая, дробная, але заўсёды жвавая Марыля, выцерла белым, з чырвонай нашыўкаю, фартухом рукі, пад вачыма, а пасля ступіла да яго.

— Дай жа, гаспадар і карміцель наш, я цябе пацалую,— ведаючы, які цяжар на яго сэрцы, пяшчотна, памацярынску, прамовіла і прыхілілася, пацалавала ў шчокі, што ён ажно расчуліўся ад такой спакойнай, нешматслоўнай і глыбокай дабрыні простай смердкі. Вось так шчымела душа, нагортваліся на вочы слёзы і пяршыла ў горле, калі пасля далёкага паходу яго сустракала маці-нябожчыца.

— Радая, што вярнуўся і што зноў можаш на мяне бурчаць? — як не было цяжка, але ўсміхнуўся ён.

— Жартуй сабе на здароўе са старой,— без крыўды адказала яна.— Але каб ты ведаў, як цяжка чакаць воя з паходу!..— І не вытрымала, усхліпнула.

Расчуліўшыся, дала волю слязам як жанчына — жонка і маці: у свой час чакала дадому мужа, потым — сыноў, страціла ўсіх, цяпер адна на свеце. Яму, Усяславу, за маці. Бурклівая, нават адна з усіх ягоных слуг пакрыквае часамі, але справядлівая, добрая і адданая яму. У паходзе ён, лічы, не хвалюецца за свой дом і гаспадарку: ведае, што Марыля ва ўсё ўнікне, усё дагледзіць, не дасць ніякай патолі іншым. Ён вельмі не дзякаваў ёй за гэта, нібы ёй якраз так і трэба было рабіць, але яна добра адчувала яго маўклівую павагу.

Марыля адхілілася, паднесла падол фартуха да твару і, прыгорбліваючыся, пайшла ў дом; слугі-мужчыны па-ранейшаму стаялі са схіленымі галовамі, а вось Цішукова дачка, Любка — стройная і прыгожая ў чырвонай скіндачцы з сінімі стужкамі, што падалі на спіну, у кароткім аксамітным вышытым гарсэціку, што хораша

аблягаў яе ўжо натапыраныя грудзі, у доўгім сінім, з чырвонымі клеткамі андараку, запрасаваным у складкі, а ўнізе з чырвоным арнаментам, з чырвонай калышкай на поясе,— дык вось гэтае ажанчыненае дзяўчо сёння пазірала на яго і са збянтэжаннем, і з захапленнем.

— Марыля павітала мяне як маці, а чаму ты не вітаеш як малодшая сястра?— міжволі, цешачыся яе маладосцю і яркай свежасцю, загарэзаваў ён.

Любка мігам запунсавела, апусціла зіхоткія вочкі, легка ступіла, ледзь-ледзь прытулілася, далікатна пацалавала яго ў шчокі і тут жа, не падымаючы галавы, адступіла. Божа, усё гэта адбылося за кароценькі міг, але нечакана, як і тады, шмат гадоў таму з Ганнай, па ягоных жылах пайшла-пабегла цеплыня. Ад хвалюючага дотыку дзявочых калень, жывата і пруткіх грудзей ды ад пяшчотных вуснаў.

Вунь які ўжо час бачыць яе, вунь колькі ўжо разоў гэтая Любка праводзіла яго і сустракае з далёкай дарогі, але сёння, як ніколі, усхвалявала сваёй дзявоцкасцю. Між тым гэтая неспадзяваная цеплыня перакінулася ўжо ў гарачыню і проста жарам укінулася ў плоць. Сумеўшыся (што з ім ды якраз цяпер, калі ў княстве такая жалоба, калі толькі што перажыў успамін пра даўні свой усплёск пачуццяў да Ганны?), нібы вінаваты за недазволеную правіннасць, ён ужо не мог спакойна пагаварыць са слугамі-мужчынамі, уведаць ад іх усе апошнія навіны, павярнуўся да пажылога і сівога Крука:

— Лазня гатовая?

— Гатовая, гаспадар,— адказаў той з наклонам.

І ў лазні (столь з аполкаў, наверсе — кастрыца, сцены з бярвёнаў, падлога з дошак, печ-каменка), кал і голы сядзеў, уваграваўся, пацеў на лаўцы, а потым ляжаў на палку і ажно крактаў-стагнаў ад пякельнага духу, што ўскідваўся парай ад гарачых каменняў і ад веніка, якім хлістаў Крук, а затым, калі мыўся, пераапранаўся ў бялюткую доўгую кашулю, калі, саромеючыся зірнуць у вочы дапытлівай Марылі, сілкаваўся і, урэшце, калі ўжо стомлены і ў той жа час амаладзелы ляжаў у сваёй спальні на чысценькай і свежа-халаднаватай пасцелі,— дык вось увесь гэты час яго не толькі не пакідалі, а нават узмацняліся ўзбуджанасць, адмысловы жар і покліч плоці. Ён і здзіўляўся, што такое яшчэ можа быць (думаў, што перагарэў ужо як мужчына-каханак ці, лепш сказаць, мусіў змарнаваць свой любоўны запал), і саромеўся, і разам з тым разумеў, што непатрачанае і нязведанае бярэ сваё. Ён, бачачы, што Любка-дзяўчо паволі, але нястрымна, як тая калючая і не кідкая шыпшына, расцвітае пяшчотнай і прыгожай кветкаю, абдзяўчыньваецца, не мог не захапіцца ёю. Не, ён

не меў юрлівага намеру, даваў старэйшай дачцэ яго вернага дружынніка і ахоўніка прытулак, каб пасля памагчы яе бацькам выдаць яе замуж і даць добры пасаг, зрабіць шчаслівай у аддзяку за верную службу яе бацькі, ён любаваўся ёю, як кожны любуецца кветкай — гэтым незразумелым, але цудоўным дарам нрыроды. Ды вось, мабыць, гэтыя захапленне і любаванне перараслі ў каханне. Не ў маладыя ўжо гады. Сорамна некаму, нават сабе прызнацца, што ўжо дзед, мае ўнука, ваявода — дзяржаўны і ваенны муж, мусіць дбаць пра Навагародак і ўсю Навагародскую зямлю, а ён усё яшчэ жыве не толькі па розуме, але і з пачуццямі. Ці, можа, гэта звычайна, добра, што ён умее і цяпер заўважаць хараство, любавацца, адчуваць трапяткое маладое хваляванне? Можа, дарэмна ён пасля мігу любові з Ганнай і жончынай смерці пачаў глушыць свае пачуцці, пазбягаць таго, без чаго не павінен жыць здаровы і чулы мужчына?

...Любка паставіла конаўку з хлебным квасам на зэдлік і, пачціва апусціўшы вочы, хацела выйсці. Бедная, яна, мабыць, зусім не здагадвалася, што ён не хоча адпусціць яе з пакоя, жадае бачыць, цешыцца яе красой і маладосцю, дабрэць, чалавечыць ад яе шчырасці і дабрыні — дзякуй богу, каханне, чуласць і сардэчнасць яе бацькоў перадалі ёй усё лепшае, а прырода да гэтага шчодра надзяліла яе красою. Канечне, Любка — навагародская красуня. І як казала гэтай вясной яму Ганна, красуня не халодная, не бязлітасная ды неміласэрная, а лагодная і прыстойная.

— Любка,— бачачы, што яна вось-вось сыйдзе, запыніў яе,— пачакай.

Яна, пачуўшы адменны ягоны голас, раптоўна запынілася і аж сцепанулася плячыма. Пастаяла міг знерухомлена, а пасля павярнулася, зірнула і сарамліва, і з нейкім незразумелым сполахам.

— Замкніся і хадзі сюды,— па-змоўніцку прамовіў ён, а калі яна паслухала і, здаецца, ажно заміраючы, падышла, паказаў вачыма на стол каля акна з шасцю зашклёнымі рамкамі.— Вазьмі тую хоўтку.[1]

Любка ўзяла прастакутны, з выгнутым вечкам, чорны, з залатымі кветкамі пудэлак, паднесла да яго.

— Адчыні вечка.

Адчыніла. У шкатулцы ляжалі шкляныя рознакаляровыя і пазалочаныя бранзалетьт, залатыя пярсцёнкі і завушніцы, розныя каралі — падарунак князя Данілы для ягонай дачкі.

— Падабаецца? — усміхнуўся.

[1] Х о ў т к а — шкатулка.

— Вельмі! — як і кожная дзяўчына, захапілася ад такога багацця і хараства.

— Гэта — тваё.

У яе мігам падняліся чарнявыя броўкі: усё гэта — мне? Ды гэта ж сама меней для баярыні! Мне можна насіць толькі простае, самае вялікае сярэбранае!

— Табе-табе,— запэўніў ён з уцехай, што можа прынесці ёй радасць.— Начапі тое, што табе найбольш спадабалася. Тут. Цяпер. Я хачу ўбачыць, як гэтыя рэчы не столькі ўпрыгожаць цябе, колькі ўпрыгожацца на табе самі!

Любка сумелася, зніякавела. Канечне ж, ёй былі даспадобы гэтыя ўпрыгожанні, але яе стрымлівала тое, што яны не для яе. Яны — для Звеніславы.

— Чаму ты не хочаш упрыгожыць золата, шкло, серабро і эмаль? Зрабі мне прыемнасць, пацеш мяне маладосцю і красой.

Яна зірнула на яго са здзіўленнем: ён ніколі не быў да яе такі строгі, як да іншых, але і не гаварыў вось так ласкава. Канечне ж, яна адчула: гэтая ласка да яе не як для дачкі паважанага ім чалавека, не як для пакаёўкі, а як для маладой і прыгожай дзяўчыны. Пасля выбрала самае дарагое і шыкоўнае, начапіла на вушы, на шыю і на рукі, ужо трошкі з выклікам стала перад ім: глядзі, вось якая я, гаспадар!

— Сядзь каля мяне, краса ненаглядная,— папрасіў.

Падышла, апусцілася на краёк ложка — бокам, не пазіраючы на яго.

З хваляваннем, як у падлетка, узяў яе невялікую, не агрубелую ад цяжкай і бруднай працы, але, як адчувалася, дужую ад сялянскіх генаў руку:

— Скажы шчыра: ты чакала мяне з паходу?

Змаўчала, ніжэй апусціла галаву.

— Прашу: скажы.

Ледзь варухнула вуснамі:

— Чакала.

— Як?

— Так, як і ўсе...

— Я ведаю, як ты чакала бацьку. Але я хачу пачуць, як ты чакала якраз мяне? Як свайго гаспадара ці і як чалавека?

Чуйная душой, дык пачала разумець, пра што ён дапытваецца. Запунсавела, як і нядаўна на дварэ.

— Скажы,— зноў папрасіў,— гэта для мяне шмат значыць.

— Чакала, і як гаспадара, і як чалавека,— амаль прашаптала.

— Зірні на мяне,— пацягнуў яе за руку.— Усю праўду скажы: радая, што я вярнуўся жывы?

Зірнула ўмітусь:

— Як і ўсе, радая.

— Я ж не пешчу вас усіх. Як вы кажаце, я строгі, а то нават часамі і суровы.

— Ты і справядлівы, добры...

— ...але стары ўжо, брыдкі...— падхапіў яе словы.

— Няпраўда! — па-маладому загарачылася яна.— Я так не сказала.

— Але хацела сказаць?

— Не! Ты яшчэ не стары і... харошы...

— Магу яшчэ падабацца жанчынам? Нават дзяўчатам?

Раптоўна пыхнула чырванцом, не адказала.

— Не маўчы, гавары праўду,— запатрабаваў, трошкі наўмысна смела, але з хваляваннем. Не дай бог, калі яна шчыра скажа, што ён шэпшаль ужо трухлявы, дык ён гэтага не вытрывае.

— Ты падабаешся многім... І жанчынам, і дзяўчатам...— сарамліва адказала яна.

— А табе?

Налілася ўжо чырванню, твар — яе паспелая каліна.

— Для цябе я ўсё ж застары, праўда? — паблюзнерыў.— Яшчэ раз скажу: гавары, і толькі праўду! Маны мне не трэба, яе я не дарую і табе, краса ненаглядная.

Плюснула павекамі, гатовая ледзь не заплакаць. Мусіць, не магла ўсвядоміць усяго, саўладаць з тым, што так нечакана абрынулася на яе яшчэ незагартаваную душу:

— І я ж казала: ніякі ты яшчэ не стары...

Ён разумеў, што як гаспадар, як сталы ўжо чалавек не павінен так размаўляць з маладой і сумленнай дзяўчынаю, змушаць яе гаварыць яму прыемнае, а то і ва ўсім падпарадкоўвацца яму, ведаючы, што сіла не за ёй, а за ім, але ён скрозь усяго гэтага прадзіраўся да таго, што было яму мілае і дарагое, што магло яму даць гэтае мілае зямное ці, можа, і нябеснае стварэнне.

— Не бойся: я не думаю цябе пакрыўдзіць,— сказаў ужо нібы з выбачэннем, але яшчэ бліжэй пацягнуў яе за руку да сябе.— Ляж са мной, калі я табе не прыкры.

Легла. Зусім пакорліва, але задыхала трывожна.

— Любка, паслухай мяне ўважна,— прамовіў з просьбай.— Думаю, ты добра ўжо ведаеш: той-сёй з гаспадароў паводзіцца вольна са сваімі слугамі-жанчынамі і дзяўчатамі, а то і змушае іх да граху. Я —

твой гаспадар, маю над табой уладу, але я не магу і не хачу быць тваім крыўдзіцелем. Я, мабыць, для цябе стары і брыдкі, ды побач з табой маладзею, хачу жыць, кахаць. Ты, маладзенькая, толькі адчуваеш, што гэта такое — каханне, імкнешся да яго так, як імкнуліся да яго нашы дзяды і прадзеды, але я, ведаючы ды не спазнаўшы гэтай чароўнасці і сілы, можна сказаць, цяпер з табой нароўні... Я мушу сказаць табе тое, пра што сам баюся думаць, чаго збаішся ты, што цябе можа нават глыбока абурыць... Выслухай. Будзеш супраць — так і скажы, я не пакрыўджуся і не буду помсціць, бо, сама ведаеш, гэта не ў маім характары, але калі ты зразумееш мяне, згодзішся на тое, на што я цябе хачу схіліць, ты мяне ашчаслівіш... Дык вось, Любка мая, скінь свой андарак, гарсэт!

Затрымцела рука беднай у ягонай руцэ. Але, як здалося яму, яна не абурылася і не зазлавала, толькі ўспыхнула сорамам:

— Брыдка ж!..

— Я ж, цяпер самая мілая і дарагая мне жаночая душа, прашу: зрабі гэта для мяне. Аднаго. Канечне, калі ты хочаш якраз мне прынесці радасць.

Яна вагалася, але калі ён узяўся памагаць застацца ёй без гарсэта і андарака, не супраціўлялася, а потым то ўздымала рукі, то прыпадымалася клубамі і спіной, каб урэшце быць без ніякага адзення. Праўда, потым хуценька накрыла агаленыя грудзі загарэлымі да локцяў рукамі.

Яму, спазнаўшы ўжо, што такое жыццё, колькі ў ім самага ўсякага — шчырага, чулага і разам з тым згрызотнага, зваднага, мярзотнага і балючага,— колькі бед, слёз і крыві, якое цяпер усіхнае навагародскае гора, радуючыся, што вярнуўся з новага баявога паходу ў свой любімы горад і дом, ляжыць вось на дыхтоўнай, уважліва дагледжанай жанчынаю пасцелі,— дык вось яму сёння, якраз цяпер, было замілавана і радасна бачыць побач тое, што зараз яго натхняла: дзявочае хараство. Як цяпер лепш убачыў, Любка была сярэдняга росту, але станістая, нават трошкі па-тутэйшаму камлістая, ды кожныя згібы, лініі на ёй былі грацыёзныя: паўнапытныя белыя да калень ногі, акругленыя сцёгны і рэзка, але вабна круглаватыя прызыўныя клубы, што былі яшчэ па-дзявочаму матава белыя, без ніякіх жаночых жылкавых разрываў; жывот, хоць і падцягнуты, быў таксама нібы круглаваты, з неглыбокім, але па-чароўнаму вабным пупком, грудзі пад заслоненымі рукамі бачыліся поўнымі і стромкімі. А да ўсяго цяпер нязвыкла і ўражліва хараша альбо нават чароўна кідалася ў вочы ўпрыгожанне на Любчыных вушах, шыі і руках.

— Ды ты ўжо жанчына!— усклікнуў ён з самым шчырым захапленнем.— Табе патрэбен ужо мужчына!

Чырвань з Любчынага твару начала спадаць; яна заплюшчыла вочы і пакорліва маўчала, чакала, што ён будзе рабіць далей.

— Мужчына паможа развіцца, закрасаваць гэтаму цудоўнаму целу, як сонца, дождж памагаюць расці, наліваціца цяплом і сокам маладому яблыку!

Не могучы раней, у маладосці, гаварыць такіх гучных слоў, тым не менш цяпер, нават насуперак сваёй волі, такое ён прамаўляў шчыра, нават па-маладому захоплена. Ён ведаў: каб дабіцца жаночай прыязнасці, ёй, кабеце, трэба нават і хлусіць, але вельмі спрытна і ласкава, але цяпер ён не маніў, ён за-хап-ляў-ся! Божа, якая гэта магутная рэч — захапленне мужчынам жанчынаю! Колькі пра гэта пісалася ўжо, колькі было і ёсць гаворак, але ў жыцці ўсё гэта непаўторнае!

Любка, чуючы яго шэпт, а таксама тое, што дазваляла сабе ягоная рука, маўчала, чакала іншага як непазбежнасці. Ён жа гарэзна зашарсціў далонню ёй пад жыватом:

— Была блізкая з хлопцам?

Адказала з заміраннем і шэптам:

— Не.

— Не маніш?

— Не.

— Але я сам бачыў, як ты ціскалася з дружыннікам Любамірам!

— Не-е! Ён лез, але я...

— Што — ты?

— Ну...

— Паддалася?

— Не-э! — горача запярэчыла Любка.

— А ты ўжо хочаш пазнацца з хлопцам ці з мужчынам?

Змаўчала, кроў зусім схлынула з яе шчок.

— Ты ўжо не дзяўчо, не падлетак, ты ўжо, як і трэба, сталая дзяўчына! Табе прыйшоў самы спрыяльны час, каб ты кахала і каб цябе кахалі. Ты адчуваеш, што такое каханне?

Зноў ні слова ў адказ.

— Любка, радасць і краса ненаглядная, я, ты ўжо ўсё сама добра бачыш, служылы чалавек, быў жанаты, бацька і дзед. Але я, павер, так і не зведаў, што такое каханне, з-за чаго столькі радасці, шчасця, бяды і слёз. Можа, і з-за гэтага я такі ж малады, нязведаны, як і ты. Дык скажы мне шчыра, люба мая: ты не супраць быць са мной блізкаю? Скажам, каханкаю?

Ці то зусім разгубілася, ці нічога не кеміла, пра што ён гаворыць.

— Прашу: скажы праўду! Тое, што цяпер у цябе на душы!

— Як скажаш.

— Ты ж ужо не дзіця, адчуваеш, чаго я жадаю! — дабраўся пад яе рукі, абмацаў адну і другую палавінкі яе тугіх грудзей.— Я хачу цябе! Як жанчыну! Толькі ведай: я не змушаю цябе да гэтага, не купляю тваю пяшчоту, я цябе кахаю! Чуеш ты, малая і бесклапотная: як вы ўсе лічыце, дзіўны, але суровы Усяслаў хоча галубіць мілую ягонаму сэрцу Любку! Ён жадае быць малады, радасны і шчаслівы! Нават больш — ён, калі гэтая Любка згодзіцца, зробіць яе сваёю жонкай! Ён будзе яе туліць, мілаваць, песціць, насіць на руках! Толькі б ты стала жонкаю вернай! Каб была са мной заўсёды! І ў радасці, і ў горы!

— Ты мяне не возьмеш за жонку,—нарэшце падала голас Любка.

— Чаму?

— Табе трэба слынная баярыня. Ці з Навагародка, ці з Галіцка-Валынскай зямлі. Я ж — з простых смердаў. Ды...

— Што, краса мая ненаглядная, «ды»? — прыпадняўся, зірнуў у яе ясныя шэрыя вочы ён.

— Князь, баяры, уся Рада не захочуць, каб мы злучыліся. Яны зажадаюць, каб ты, такі важны чалавек, сышоўся з важнай баярыняю, каб яна прынесла карысць вялікую Навагародку.

— А ты вельмі разумная,— здзівіўся ён.— Разбіраешся ў вышэйшай палітыцы.

— Я ж ужо не маленькая. Многае чую і бачу. Я не для цябе, гаспадар. Але я...

— «Але я...» — не даў дагаварыць ён ёй.— Але я ўжо адзін раз быў жанаты з добрай, але хворай і нямілай. Цяпер, калі я ажыў і яшчэ, як ты кажаш, не ападак, хачу быць з той, хто мне любы.

— Табе трэба баярыня...

— Дурнічка мая мілая,— усцешыўся.— Кажу ж, я пажылы ўжо, не раз і не два пабыў у розных краях, пабачыў многіх жанчын, але ты самая пекная. Каб ты не жыла ў маім доме, каб нашы дружыннікі і дзецюкі не баяліся майго гневу, яны ўжо даўно перабіліся б, ухапілі б цябе. З табой многія баярыні і княгіні не зраўняюцца!

Прыгарнуў, зусім адхінуў яе напружаныя рукі, сціснуў хораша ўзнятыя белыя грудзі і, пазіраючы ў яе пабольшаныя ад сораму і страху вочы, сказаў:

— Нікога, нават перад пагрозай смерці, не паслухаю: ні князя, ні баяраў, ні Раду, ні бацькоў тваіх, нікому, нават самаму прыгожаму і ўдаламу, не аддам такую красу, такое цела і такую, як у цябе, душу! Хай самый смелыя і закаханыя ў цябе б'юцца са мной не на жыццё, а

на смерць! Толькі ты, пакуль я яшчэ магу стрымаць сябе, скажы: ты згодная стаць маёй жонкаю?

— Як скажаш.

— Як скажу, як загадаю! — не выцерпеў.— А ты — сама? Супраць гэтага ці не? Згодная?

— Згодная...

Ён ад прыліву новых пачуццяў рэзка сціснуў яе — можа, і памядзведжаму моцна, бо Любка ажно застагнала; адчуўшы гэта, ён паслабіў поціск і, суцешваючыся, ужо залашчыў пяшчотна ад ног да галавы, надоўга прыпаў да яе, як адчувалася, яшчэ нецалаваных вуснаў. Неўзабаве цела яе пакрылася пупырышкамі, асабліва густа на сцёгнах і руках.

— Не бойся,— супакоіў, адчуваючы, што яму ўжо цяжка стрымацца,— табе зараз забаліць, але потым болю не будзе...— І асцярожна, каб лішне не параніць, узяў яе, зацiхлую і пакорлівую.

Адчуўшы яе дарослую, але яшчэ неадкрытую і неўзбуджаную для мужчыны плоць, ён змусіў сябе не ўрывацца, не даваць сабе лішняй волі; Любка ж, вытрываўшы першы боль, расслабілася і пазнавала тое, пра што нямала чула ад старэйшых жанчын і пра што ўжо думала сама — часамі, можа, нават са страхам. Як не толькі пра грэх, але і як пра калецтва для дзяўчыны. Паволі, здаецца, пачала адчуваць жарскасць, што была не менш пачуццёвай за балеснасць, а калі пасля ён вельмі моцна сціснуў яе і затрымцеў, яна таксама затрымцела — ад незвычайных гарачых хваляў, што нагортваліся і нагортваліся ў яе лона, змушаючы адчуваць штосьці невядомае і прыемнае, адкінуць убок на падушку галаву ў таксама невядомай і прыемнай знямозе...

Затым, калі іхнія целы разлучыліся і калі ўразумела, што здарылася, што яна дазволіла да шлюбу тое, супраць чаго перасцерагала маці, Любка, здаецца, пачала апамятвацца: з яе бліжэйшай вачніцы выкацілася і паплыла па шчацэ слязіна. Цяжка было здагадацца, пра што і як яна думала-перажывала цяпер, страціўшы цнатлівасць, набыўшы нялёгкай ношкай вялікі грэх, а заадно дзявочы сорам і адчай — мабыць, каялася і баялася сваёй будучыні. Усяслаў, спатоліўшы страсць і ацверазеўшы, таксама не адчуў вялікай палёгкі: ці варта было яму, пажыломму, гэтак настойліва спакушаць добрую дзяўчыну? Мусіць, ва ўсіх выпадках пахмелле нялёгкае, а то нават і пакутлівае. Ды, паколькі ўжо сталы чалавек, не раз і не два зведаў спаталенне поклічу душы і плоці, трэба суцешыць гаротніцу, якая гэтак даверылася яму.

— Вельмі баліць?— прыпадняўся, лёг на локаць і запытаў шэптам.

Зноў накрыла грудзі рукамі, адказала з заплюшчанымі вачыма:

— Не вельмі, але баліць.

— Пацярпі, галубка. Другі раз балець будзе менш, а трэці... А калі народзіш, дык потым вялікую прагу і ўцеху адчуеш... Не кайся цяпер і не кляні сябе ды мяне.

— Кайся ці не кайся... Позна ж ужо...

— Нічога не позна, хоць...— Падгарнуў яе, усё яшчэ гарачую, да сябе.— Не ўтрымаўся, цяжкой будзеш.

Нічога не прамовіла.

— Чуеш? — Адхінуў яе руку, пацёрся вуснамі аб яе грудзі.— Ці не разумееш, пра што я гавару?

— Чаму не разумею. Пра дзіця кажаш.

— Можа, і будзе. Наша з табой чада. Не бойся, чакай усяго так, як будзе. Слова свайго я не парушу. Пахаваем вось княжыча, адыдуць боль і жалоба — пойдзем у царкву. Грэх свой замолім, шлюб возьмем. Бацькам сваім пакуль што нічога не кажы, я сам з імі потым пагавару. А цяпер, галуба, ідзі ў лазню, пакуль вада там цёплая, а пасля пасцель гэтую зменіш і сама ўсё памыеш...

Яна адплюшчыла вочы, прыпаднялася і, убачыўшы, што на пасцелі, ажно жахнулася.

— Так і трэба...— Пацалаваў яе ў спрытны локаць.— Я цябе якраз за гэта сэрцам, душой сагрэю, усё сваё багацце табе аддам: ты ж мне аддала сваё самае дарагое, сваю цнатлівасць!

Пазней, калі пераапранутая, усё яшчэ пунсовая, сарамлівая, Любка змяніла яму пасцель, пяшчотна па яго просьбе сказала, што не каецца, будзе верная яму, пацалавала, ён хутка заснуў і спаў легка ды моцна, як ніколі за апошнія гады.

## Раздзел другі

### I

Шлях да дзвярэй у княскі палац баярыну Расціславу перагарадзілі скрыжаванымі коп'ямі два рослыя дружыннікі ў даспехах. Добра яго ведалі, але адзін, старэйшы, ваяўніча схмурыўся:

— Князь загадаў нікога не пускаць.

— І мяне?— ухмыльнуўся, але ў душы моцна занегадаваў Расціслаў.— Дворскага-ключніка?

Зноў строгі адказ:

— Твайго імені, баярын, не называлі.

— Дык дайце прайсці.

— Няма такога вялення.

— Але я на свае вочы бачыў: толькі што ад князя выйшаў ваявода Усяслаў!

Маўчанне; скрыжаваныя коп'і не разышліся ў бакі. Што ж, няма сэнсу спрачацца з баявой і вернай вартаю — усё роўна не пусціць у церам. Мусіў, нават не аблізнуўшыся, павярнуць назад. На душы аж закіпела: не дабіўся таго, дзеля чаго была спрыяльная часіна. Князь Ізяслаў загадаў яму рабіць усё, каб як след пахаваць княжыча, даў яму тут поўную волю, але зусім не паслухаў і не згадзіўся, каб яны, баяры, па-добраму разабраліся, чаму і як загінуў наступнік навагародскага княскага пасада. Калі ён, Расціслаў, пачаў проста чапляцца да яго, дык той адмахнуўся, як ад назойнай мухі: «Я веру брату Данілу, брату Міндоўгу, сын мой загінуў як сапраўдны віцязь», а сам-насам, як перадаў яму верны чалавек з княскага палаца, князь супакоіў гораснага Усяслава: «Я верыў і веру табе, дружа».

«Дружа!» Значыць, якое не агромністае гора, але стары і, як здаецца, нядошлы князь не страціў развагу і волю, а ваявода — першы сярод іх, баяраў,— і надалей застанецца ў вялікай сіле, будзе гнуць сваё і, можа, нават яшчэ ўладней падмінаць малую і вялікую Рады, навагародскае веча. Тым больш што сярод іх, баяраў, рамеснага і купецкага люду, дружыннікаў, смердаў ёсць такія, хто проста глядзіць таму ў рот, як самаму мудраму і непахіснаму дзяржаўнаму мужу і палкаводцу. Што да яго, Расціслава, дык ён наколькі ва ўсім зайздросціў Усяславу, настолькі баяўся і ненавідзеў яго, лісліві і заадно плёў супраць усякую павуціну, каб злавіць і заблытаць у ёй грознага суперніка. Ен здолеў пераканаць князя, Раду, што цяпер, калі на іх з Усходу шчумірыць вочкі Батыга, а з Захаду падкрадваюцца крыжакі, Усяслаў павінен найперш займацца дружынамі, а вось ён, Расціслаў, павінен узяць у свае рукі ўсю навагародскую гаспадарку. Паслухалі, удалося не дапусціць Усяслава да засекаў і спратаў, самому мець ад усяго гэтага ключ, але большага не дамогся.

Перад ягонай трохпавярховай шыкоўнай харомінаю (на яе пайшло нямала адборных каменя, цэглы і дрэва, шкла, серабра і золата як са свайго кубела[1], так і ўкрадзенага з княскай казны, а таксама дарэмнай рамесніцкай і смердаўскай сілы) сустрэўся з нізкім наклонам ягоны цівун Крук:

— Баярын, дазволь слова мовіць.

---

[1] К у б е л — папярэднік куфра.

— Што табе? — моршчачыся ад яркага сонца і цяжка трымаючы на поўных нагах-ступах таўшчэзнае цела, зл оспа і непачціва, як і да ўсіх, над кім меў уладу, рыкнуў на яго Расціслаў.

— Сёння дажынкі на княскім пол і.

— Ну дык дажынай.

— А што, баярын, з апошнім снапом? З «багіняю»?[1] Ёй прыносіць дажынкавы сноп князю?

— Якія цяпер гулі, пачастункі?— яшчэ больш закіпеў і запарыў Расціслаў.— У князя, у княстве — вялікая жалоба, а ты хочаш пацешыць чэрнь!

— А кал і без песняў і музыкі? — цівун прыкідваўся нясмелым і ліслівым, хоць на самай справе быў хітры, выкрутлівы і зладзюган першай маркі.— Можа, «багіня» няхай толькі падасць князю дажынкавы сноп? Князь жа любіць даўнія смердаўскія звычаі.

— Прэч! — замахнуўся вялікім, цяжкім, але зусім не моцным кулаком Расціслаў і паўз сваіх дружыннікаў-ахоўнікаў павалюхаў далей ад спякоты ў сваю хароміну.

Калі ўваходзіў у святліцу, дык амаль сутыкнуўся з жонкай, стрыечнай сястрой галіцка-валынскага дворскага і ваяводы Андрэя, рослай, некалі статнай і прыгожай, хоць і з драпежнаватай ад цёмных вачэй і зведзеных да пераносся нітачак чорных броваў, а цяпер мажнай, пераспелай, амаль заўсёды злой альбо бурклівай.

— Штосьці ты хутка вярнуўся! — Раксана, цяжка ьесучы вялікія грудзі І важкі жывот, абчапляная кіеўскімі залатымі колтамі І завушніцамі з перагародчатай эмаллю, шклянымі бранзалетамі і азіяцкімі сердалікавымі караляміі, зашамацела ўслед за ім доўгім шаўковым сарафанам. Амаль заўсёды гаварыла на сваёй мове, але вось цяпер падала шлас па-іхняму, па-дрыгавіцку.

— А ты вышыкавалася! — папікнуў.— Як на гульбішча!

— Я з харомаў нікуды не выходжу,— адказала. Яна не была і не ёсць верная ды шчырая да князя Ізяслава, пакланялася іншаму, князю Данілу Галіцкаму. Дык цяпер вельмі не ўбівалася па княжычу-нябожчыку, верыла, што праз нейкі час, калі памрэ Ізяслаў, галіцка-валынскі ўладар прышле сюды на княжанне аднаго са сваіх сыноў і што пры тым умацуюцца яе з Расціславам пазіцыі.

— Князь хворы, дык нікога не прымае,— патлумачыў ён, чаму не затрымаўся ў палацы.

— Дык цябе нават не пусцілі на парог?

[1] «Б а г і н я» — самая прыгожая маладая жняя.

— Пускалі, але што мне там рабіць? — дастаў залатую фібулу, расхінуў і скінуў з плячэй с ветла-руды кунтуш, застаючыся ў любімым атласным сінім жупане.

— Усяслава, пэўне, пусцілі, і ён ведае, што і як яму рабіць у княскім палацы! — уджыгнула Раксана, гарачая, кіпкая, як валынка, і кемна-развражлівая, як нашчадніца крыві варажскага баярына, які быў некалі на службе ў яшчэ росквітным Кіеве.

— Можа, і Усяслава не пусцілі.

— «Можа», «можа»...— перакрывіла яна.— А ты, ёлуп, і не запытаў пра гэта! Табе ўсё роўна, што Усяслаў знайшоў падыход да князя, а вас усіх трымае ў кулаку! Як сваіх васалаў!

— От, плявузгаеш! — незалюбіў. Сам-насам, а то і пры сваіх слугах яны з Раксанай не цырымоніліся вельмі, хоць, сказаць шчыра, не ён, а яна брала над ім верх, змушала рабіць тое, што задумвала сама ці што загадваў пыніць яе стрыечны брат.

— Не плявузгаю! — не адступіла яна і цяпер.— Добра ведаю: ты — анучка не толькі перад князем, але і перад Усяславам, перад тысяцкім Бялянам, нават перад старшым Усяслававай дружыны Цішуком! Каб не мой бабскі локаць, дык ты тут быў бы ніхто! Папіхач!

Яна гаварыла злацешлівую, але слушную праўду: ні знатнасцю, ні характарам, ведамі альбо за слугам і па службе ён не ўдаўся і не вызначыўся, дык трымаўся напаверхні таму, што яго падпірала Раксана. Зразумела, гэтая праўда была для яго вельмі пакутлівая: нялёгка быць пад жаночым пазногцем ды яшчэ, трэба сказаць, Раксана была добрая цаца. Яна зусім не задаволілася, што не трапляе ні ў стары, хоць заняпалы ўжо Кіеў, ні ў слынныя Чарнігаў, Смаленск, Ноўгарад ці хоць бы ў недружалюбны як Кіеву, так і Галіцка-Валынскай зямлі Нолацк, а што яе, красуню, з-за княскіх інтарэсаў стрыечнік прэ ў лясны і малавядомы Навагародак за нейкага, як усе кажуць, вахлюка. Мала таго, што не была радая ад Навагародка і яго, мужа, дык неўзабаве пасля першых родаў выявіла яшчэ сваю неўтаймоўную пажаднасць, пачала ліпнуць да яго суперніка, Усяслава (той не спакусіўся яе чарамі ды, пашэптвалі, закахаўся ў жонку суседняга князя Міндоўга), а потым, не спакусіўшы таго, хто ёй спадабаўся, вельмі не перабірала, валялася з усімі, хто не адпіхваў яе, не грэбуючы нават простымі дружыннікамі.

Ён спрабаваў яе ўшчуваць, біць, выганяў у Галіч, але сваяк-дворскі зноў прывозіў яе сюды, угаворваў іх паміріцца, і яна заставалася, зноў і зноў прыносіла яму ўсё новыя насмешкі і пакуты, нарадзіла ажно сямёра дзяцей,— з іх толькі, можа, першая дачка была яму роднай. Толькі гады крыху астудзілі яе гарачую кроў і плоць.

Праўда, пабольшала за гэты час іншага — злосці, сварлівасці, а да ўсяго яна ў Навагародку стала ахоўніцай нораваў, за што на яе было шмат за вочы кпінаў і здзекаў.

Цяпер, гутарачы з ім, Раксана запынілася каля покуця — каля стала, лаў і столакаў з дубовых абчасаных, пашкрэбаных шклом і нацёртым, як і падлога, воскам дошак. Над сталом вісеў абраз, шасцібалонкавыя вокны былі зашклёныя кіеўскім шклом, сцены былі атынкаваныя і размаляваныя фрэскамі альбо завешаныя дарагімі дыванамі (дываны, як і фаянсавы посуд, былі з далёкай дзяржавы Буідаў[1]), рознакаляровы дыван ляжаў і на падлозе, ажно да печы з дымаходам — Раксана любіла жыць раскошна і цяпер вельмі перажывала, што з-за мангольскага пагрому, можна сказаць, амаль запыніліся паступаць пышныя і дарагія тавары з Кіева і больш далёкага поўдня ды з Блізкага Усходу (цяпер ужо не ўбачыш тут дзіўных наўючаных вярблюдаў альбо аслоў, арабскіх коней, самае вялікае павозкі-калёсы з соллю з Галіцка-Валынскай зямлі), дык прыходзіцца задавольвацца ўсім звычайным тутэйшым, што можна здабыць у навагародскай альбо ў суседніх літоўскіх, полацкай землях ці ў Ноўгарадзе, куды завозяць свае тавары еўрапейскія купцы.

— Ты мог пахіснуць Усяслава, але не здолеў!— зноў папікнула Раксана.

— Твае ж любімыя князь і братачка далі яму ахоўную грамату! — агрызнуўся ён.

Як кажуць, трапіў у самае сэрца: Раксана, ведаючы пра гэта, была ўжыгнута, прамовіла са шкадаваннем:

— Канечне, князь Данііл залішне расшчадрыўся. Не мог не бачыць: князь Ізяслаў і Усяслаў выдзелілі яму зусім малую сілу, толькі для адчэпнага, а ён — грамату з падзякай і з апраўданнем Усяслава! Я так і скажу сваё слова Андрэю.

— Князь Даніла і твой сваячок хітруюць,— прамовіў, заступаючыся сам за сябе, Расціслаў.— Яны ведаюць: цяпер толькі пагрозай і сілаю Навагародак ужо не ўтрымаюць. Дык трэба абачлівасць і манэўры. Нават задобрылі і будуць задобрываць Усяслава, каб ён не павярнуў свае дружыны супраць іх, а мяне змусяць цяпер удваяутрая больш усё ўведваць, перадаваць ім і шкодзіць Навагародку. Баяры, канечне ж, убачаць гэта, і той-сёй яшчэ панепрыязнее да мяне. Колькі я пацярпеў ужо і колькі яшчэ прыйдзецца пацярпець за Данілаву палітыку!

---

[1] Землі сённяшняга Ірана.

— Але ты за гэта нямала і маеш, і будзеш мець, калі не прытупіш свой зрок і слых! Цяпер, як перадае праз свайго чалавека Андрэй, ты павінен проста віжаваць за Усяславам і за воўкам Мендогам, і за яго святым, але хітрым сынком.

— Навіжуй вельмі, калі яны шэпчуцца толькі самнасам!

— А ты вывіжуй і ўсё! Больш перадасі князю Данілу — больш той заплаціць.

— Кажу ж, Усяслаў — вельмі скрытны. І, як ведаеш, мне зусім не верыць, дык пры мне шмат чаго недагаворвае. І блізкія яму людзі верныя, як псы-дварнякі. Нікога не падкупіш ні золатам, ні віном, дык ніхто нічога лішне не скажа.

— І ўсё роўна трэба, каб сярод яго самых блізкіх людзей быў наш чалавек,— сказала Раксана.

«Можа, ты зноў паспрабуй падлезці: удавец жа...» — Хацеў пакпіць, але стрымаўся, ды слова «ўдавец» зусім нечакана выкрасіла неспадзяваную думку. Ён ажно ўсміхнуўся і гарэзна зірнуў на жонку-нягодніцу.

— Ну чаго рот разявіў?— ухмыльнулася тая, але бровы яе разышліся, дык яна ажно пахарэшала. Той, даўняй, красою.— Прыйшло што разумнае ў мазгаўню?

— Прыйшло! І не ў такую ўжо дурную галаву!

— Што? — ужо ўсміхнулася.— Ды разумнае?

— Гэта павінна было б прыйсці ў твой, як лічыш, кладзесь мудрасці, але ўсё ж бліснула ў маім мужчынскім розуме!

— Ну не цягні ката за хвост! — Паласкавела, аж гатовая нават прытуліцца.— Скажы!

— Мы ўжо маглі б і цяпер можам мець Усяслава каля сябе...

— Як?

— Здагадайся.

Крыху сумелася: што — ён намякае пра тое, даўняе? Але ж яна ўжо не тая. Не спакусіўся на статную і маладую, дык не пакваліцца на пажылую і тоўстую.

«Эх ты, халера! — Пацешыўся ў душы, адчуваючы, куды і на што хіліць распусніца.— Усё яшчэ юр у галаве!».

— Давай не тумань, гавары!— папрасіла, а заадно і запатрабавала яна.

— Усё вельмі проста,— прамовіў пераможна.— Усяслаў — удавец, а наша Дабраслава — удава...

Цяпер ужо Раксана разявіла рот. Нават разгубілася. Ад нечаканасці ягонай думкі.

— Яна — хітрая, як ліса, умее падкаціцца клубком да мужчыны,— падцяў (маўляў, якая маці, такая і дачушка).— Увойдзе жонкай ва Усяславаў дом, будзе яго добра цешыць, прагоніць яго чэлядзь, набярэ сваю — ведацьме пра кожны яго крок. Нават больш — пра тое, што ён сніць. Над усімі віжамі будзе віж!

Дабраслава — старэйшая іхняя дачка. Сёлета загінуў у сутычцы з крыжакамі яе муж. Цяпер адна з дзіцем, але, маючы матчыную кроў і красу, жалобы вельмі не носіць. Ён сам бачыў, як на днях хтосьці з баярскіх сынкоў світаннем вылазіў праз акно з яе будыніны.

— Дух заняло ці язык праглынула? — ухмыльнуўся.

— Ён жа застары для яе,— нарэшце апамяталася.— Ды і характары ў іх розныя.

— Затое, як сама кажаш, а то і зайздросціш, ён — багаты і ўладны. Калі Дабраслава будзе з ім хітрая, ласкавая, не будзе круціць хвастом, дык зможа аблапошыць, падаб'е рабіць тое, што трэба нам і твайму апекуну. Хоць ён, разумны і хітры, не здагадаўся пра тое, пра што даўмеўся я!

— Але ці возьме ён яе? — засумнявалася Раксана.— Ці яна згодзіцца пайсці за пажылога?

— Пагавары з ёй па-бабску, патлумач усё добра. І з Усяслававай Марыляй пашапчыся, сувісцель добры ёй дай, каб яна Усяслава ўгаварыла.— Усміхнуўся: — Ну што, не такі я ўжо няцямлівы, як ты лічыш?

— Можа, і добра прыдумаў,— згадзілася Раксана, палагоднела, дык была нібы і паважная ды сардэчная жанчына.— Калі ўсё ўдасца, дык і наша Дабраслаўка, і дзіця яе будуць дагледжаныя.

— Давай гаварыць шчыра: Дабраславе трэба не мяккі, а цвёрды муж. Такі, як Усяслаў,— сказаў ён.— Каб моцна ў руках трымаў і лішне волі не даваў.

Раксана, разумеючы, у чый гародчык ён каменьчык кідае, змаўчала: як не было ёй, жонцы і маці, непрыемна ад такіх здзеклівых намёкаў і слоў пра яе і дачку, але сёння муж меў слушнасць у іншым — можа, і ў галоўным...

## 2

Як і адчувала Раксана, гарачая і ганарыстая Дабраслава спачатку слухаць не хацела пра такога мужа, як Усяслаў (не кахала ды, прызналася, і баялася), хацела маладога і ўвішнага. Яна адкрыта сказала дачцэ: «Дурніца ты! Калі хочаш хадзіць у шоўку, смачна есці, мякка спаць, уладарыць не толькі над сваімі халопамі, але і над усімі навагародскімі баярамі, дык не толькі згаджайся, але бяжы сама да

такога чалавека! Ды, урэшце, на гэта ёсць і дзядзькавая воля, воля Галіцка-Валынскай зямлі». Капрызная і ўпартая Дабраслава здалася, толькі паплакала з-за матчынай перамогі.

Праз тыдзень-другі, уведаўшы, што Усяслаў па сваіх клопатах выехаў у валасць, Раксана падалася да яго будыніны.

Калі іхняя харэміна была ўвіта рознай разьбою, размалёваная (яе рабілі не тутэйшыя, а кіеўскія майстры на свой лад), дык Усяславаў дом быў зусім просты: першы паверх — з вялікіх абчасаных і змацаваных вапнаю каменняў і чырвонай цэглы, другі — з аплазаванага дрэва. Сякаятакая аздоба была толькі на вокнах ды ў шчытах: вокны знізу ўверх былі акаймаваныя дошчачкамі з узорам, а пад нізам і паверсе — ліштвамі з выразанымі пеўнікамі, а шчыты былі забітыя вузкімі дошкамі ў елачку. Гаспадар любіў усё простае і трывалае, тутэйшы стыль; многія дамы і двары навагародскіх купцоў, рамеснікаў былі нашмат заможныя і аздобістыя, чым дом гэтага знатнага баярына. Адно, бадай, чым шыкаваў і Усяслаў, было тое, што і ў яго будыніне былі шкляныя вокны і дымаход: у многіх суседніх гарадах, нават, казалі, у Ноўгарадзе, дымаходаў не было і ў многіх багатых людзей, палілі ў печы па-чорнаму — дым абаграваў хаціну.

Сёння Раксана не прайшла міма з паднятай галавою, а ветліва павіталася з Усяслававымі слугамі — Дубейкам і Крукам, прыязна ўсміхнулася маладому дружынніку Любаміру — той, як убачыла, расставіўшы рукі, гарэзна заступаў дарогу нібы незадаволенай Любцы, нават прыветна прамовіла вялікаму рыжа-беламу сабаку, які заліваўся брэхам і ажно рваўся з ланцуга, выскаліўшы буйныя зубы:

— Ты што — забыў мяне, дурненькі? Я ж шчанём цябе насіла на руках. Сціхні, супакойся: я ж — не тацьʼ[1]

Слугі, канечне, здзівіліся — і што яна завітала якраз сюды, дзе не была ўжо шмат гадоў, і што яна такая ласная, нізка схіліліся ў паклоне, а Любамір адчапіўся ад Любкі — тая, пунсовая, збянтэжаная, не прывецiўшы яе, шмыгнула ў дом. Праўда, дружыннік ітры дзвярах быў непарушны і, калі яна падышла, загарадзіў кап'ём дарогу.

— Ты не ведаеш мяне, вой? — запытала яна ў яго, незнаёмага.— Я — баярыня Раксана, жонка дворскага Расціслава і даўняя прыяцелька гэтаму дому.

— Баярын у ад'ездзе,— непахісна адказаў той.— Без яго я і цябе, баярыню, не маю права ўпусціць у харомы.

---

[1] Тацьʼ — злодзей.

— Я прыйшла не да баярына, а да Марылі,— сказала яна, здзіўляючыся, што цяпер тут такая строгая варта.— Пакліч яе хоць сюды, на двор.

— Пакліч Марылю,— прамовіў ахоўнік Любаміру.

Малады і статны дружыннік-красун паслухаў, падаўся ў дом і неўзабаве вярнуўся з Усяслававай кухаркаю. Яна, выціраючы рукі фартухом (толькі што крышыла моркву), нізка схіліла галаву. Як і раней, дробная, але борздкая.

— Марыля,— загаварыла да той з недаўменнем,— чаму цяпер перада мной зачыненыя тут дзверы? Я ж з нябожчыцай-баярыняй был і лепшыя сяброўкі!

Прыхлусіла, канечне: тая раўнавала, недалюблівала і баялася яе, здаровую і прыгожую, а сябравала з Міндоўгавай Ганнай, хоць, можа, якраз суседка-княгіня ўпотай цешылася з яе Усяславам. Здаецца, яе Данута падобная не на Міндоўга, а на Усяслава.

— Так, баярыня, Цішук загадаў,— адказала Марыля,— нікога староннята ў дом не пускаць без гаспадаровага дазволу.

— Дык вы і мяне не дапусціце? — усміхнулася.— Я — небяспечная? Але — чым і як? Магу падпаліць ваш дом? Ці, можа, надумаюся ў рукаве альбо пад падолам прынесці і скрытна падсыпаць яду ў той булён, што ты варыш гаспадару?

Марыля ніякавата зірнула на дружынніка-ахоўніка і на яго запытальны позірк падала знак — указальным пальцам ткнула сабе ў грудзі. Той адступіў, і яны, жанчыны, зайшлі ў дом.

— Выбачай, баярыня, але не магу запрасіць у гаспадыніную святліцу,— ідучы ўслед, як і заўсёды, зусім не ліслівa, толькі спаважна прамовіла Марыля.— Усяслава воля — не пускаць туды ні адну жанчыну. Мы, свае, заходзім туды толькі калі-нікалі. Працерці пыл ды праветрыць.

— Я, Марыля, не ганарлівая і не крыўдлівая,— прытуліла яе.— Я з табой пасяджу хвіліну-другую і каля печы. Ты рабі сваё, замінаць табе не буду.— А калі Марыля хацела завесці яе ў свой пакой, заўпарцілася.— Не-не, хадзем да печы. Мы ж з табой даўно ўжо не бачыліся, не гаварылі, хоць некалі былі таварышкі.

І цяпер прыманіла: якія яны былі сяброўкі! Яна, прыходзячы сюды, мела на розуме толькі сваё: залавіць тут аднаго Усяслава, самой прыціснуць яго ў кут ці, калі гэта ёй не ўдалося, прыкінуцца прыяцелькай Усяслававай жонцы, а на самай справе псаваць той, хворай, нервы. На яе Марылю заўсёды пазірала звысоку, як на чэлядзь. Тая цяпер добра адчула яе няшчыры тон, але не павяла нават

брывом, прыбрала свежыну, моркву і зелень са стала, запрасіла яе сесці на простым зэдліку.

— Як жывеш, Марыля?

— Дажываю, баярыня, сваё,— услед за ёй прысела пры стале на іншым зэдліку і тая.

— Ніколі не зойдзеш,— падакарала Раксана.

— Хіба я пара табе, баярыня, каб з табой гутарку весці альбо вар піць? — адказала тая, не падымаючы вачэй.— Ды заўсюды клопатаў шмат па доме і па гаспадарцы. Сама ж ведаеш, баярын наш не любіць трымаць шмат слугаў.

— Ведаю і цябе, і твайго баярына. Ты — не як мая неахайніца і зладзейка кухарка. Ты — увішная, спраўная, вялікая чысцёха, смачна ўсё гатуеш. Маленькая, здаецца, слабая, але трымаеш на сабе ўвесь дом. Баярыну-ваяводзе ты за маці. Ен шануе і любіць цябе.

— І мы ўсе шануем і любім яго.

— Ведаю,— сказала яна, адчуваючы, што будзе нялёгка падступіцца да гэтай простай, шчырай, але строгай і справядлівай жанчыны.— Яму, беднаму, як гаючая вада твая мацярынская спагада, дабрыня і ласка.

Марыля стрымана змаўчала: якая чуйная на кпіны, здзек і крыўду, такая ж чуйная і на лішнюю пахвалу.

— Ды...

Тая насцярожылася, падняла галаву і чэпка зірнула — здаецца, не ў вочы, а ў душу.

— Як ведаеш, мы з нябожчыцай добра ладзілі, гаварылі пра ўсё і шчыра,— павяла яна сваё далей,— дык я маю права сказаць і пра запаветнае. Пра твайго гаспадара. Якраз табе. Ты не супраць?

— Гавары, баярыня.

— Кажу ж, яму ўежна і ўлежна за табой, але ён яшчэ не стары. Зажалобіўся ён вельмі, зацяўся, засланіўся ад усяго жывога, зарана асудзіў сябе на адзінокую старасць. Хіба не так?

— Так, баярыня,— згадзілася Марыля.— І я не раз ужо яму казала: задоўгая жалоба, баярын, з'есць табе душу, састарэеш і аслабееш без пары, без часу.

— Яму, Марыля, трэба яшчэ жаночая ласка. Ці, кажы шчыра, мо я не тое гавару?

— Чаму не, тое,— зноў апусціла галаву Марыля.— Ды, кажу ж, ён не слухае. Лепш сказаць, паслухае і нічога не скажа. Толькі яшчэ болей задуменны стане.

— Трэба неяк памагчы яму. Бо, як у вас добра кажуць, і птушцы адной нудна...

— Трэба. Але каб толькі яшчэ болей душу яму не павярэдзіць.

— Я разумею цябе, Марыля, але, канечне ж, ты разумееш і іншае. Трэба, каб ён яшчэ жыў, радаваўся, як і кожны жывы чалавек.

— Трэба,— зноў згадзілася старая дабрадзейка. Значыць, яна, Раксана, знайшла правільны ход размовы.

— Ён і сам, можа, пра гэта думае, але і сам сябе дакарае,— пачала яшчэ бліжэй падступацца Раксана.— Ты ж жанчына разумная, абачлівая, найбліжэй да яго, дык улуч хвіліну і зноў, але больш разважліва пагавары з ім, памажы яму зрабіць нялёгкі, але патрэбны крок. У Навагародку ж нямала прышжых і добрых баярынь. Дзяўчат, маладых удоў...

Чарнява-сіваватыя Марыліны бровы падскочылі ўверх: ці не здагадалася, куды я на хіліць?

— Давай вось разам падумаем, як лепш з ім пагаварыць, каго яму paraщь узяць за жонку. Зайдзі днямі да мяне, параімся. Хто ж яму паспрыяе, верне яго да жыцця, калі не мы з табой? Добра?

— Добра,— яшчэ раз згадзілася тая.

Праз некалькі дзён Марыля зайшла да баярыні Раксаны, пашапталася з той і вярталася дадому са шчодрым падарункам.

Несла сілай увапхнуты адрэз візантыйскага шоўку, нібы прыгаршчы гарачых вуглёў і ненавідзела, кляла сябе: дурніца, якая старая путавумная! Як даверліва паддалася на хітрыкі і крывадушную ману вядомай усім ведзьмы, як спрытна абвялі яе вакол пальца! Зрабілі змоўшчыцай і памагатай, каб усунуць у іхні дом сваю дачку, а гаспадару — змяю, якая будзе быццам ласкава грэцца на ягонай грудзіне, а потым нечакана, калі трэба будзе ёй, смяртэльна джгне.

Марылю затрэсла не толькі тое, што яе, старую сумленную жанчыну, каму Усяслаў верыць, як сваёй маці, хочуць купіць за анучу і ганебна спажыць, але яшчэ і іншае: яна можа паспрыяць, што да іх прыйдзе маладая спешчаная, распусная маладзіца, злашкодніца, якая, канечне ж, загаспадарыць тут са сваёй мамуляй і пераверне ўсё ўверх дном. Пра такіх, як Раксана і яе Дабраслава, людзі добра гавораць: «Як восы злыя — і дарослыя, і маладыя».

«Божа! — каялася старая жанчына.— Чаму ты забраў ад мяне розум! Хіба Раксана здатная на добрае! Я ж павінна была адразу ўгледзець: прыйшла ліса красці курэй... Як мне цяпер, пасля ўсяго гэтага, зірнуць у вочы Усяславу?»

3

Усяслаў жа, нарэшце, у смак пазнаў, што такое моцны і спакойны сон, прачынацца раніцай з яснай галавою і з лёгкасцю —

проста-такі маладой, наліўною — ва ўсім целе. Вось і сёння міжволі — можа, і ад таго, што пачуў, як на двары пацягнуў ланцуг з будкі сабака, загаварылі конюх і дворнік ды ў ягоную спальню пацадзіўся світанак,— адным словам, нязмушана адплюшчыў вочы і адразу ж адчуў, што добра выспаўся, набраўся за ноч сілы і бадзёрасці, а заадно прыліла пяшчота і замілаванасць: да ягонага сцягна было прыціскутае іншае, цёплае, хвалюючае, і чулася побач ціхае і роўненькае дыхание. Пасля вячэрніх іхніх вуркатанняў ды ўцех і на гэтую ноч Любка засталася з ім тут нанач, засыпала на ягоным плечуку, пад яго дужай, але лёгкай рукою.

Ён асцярожна, каб не рыпнулі дошкі цвёрдага ложка (не любіў мяккіх пасцеляў, пухавікоў), прыпадняўся на локці, пільна зірнуў на яе: юны, гладзенькі, без ніякіх маршчынак дзявочы твар ужо асветлены, мілы і спакойны, высокая шыя і палова грудзей хораша аголеныя, матава белыя, вельмі вабныя, што так і хочацца пяшчотна пагладзіць іх.

Вось, можа, і ад ягонага позірку ледзь-ледзь уздрыгнулі яе цёмныя броўкі, пачалі прыпадымацца крыху навіслыя павекі, ажываць твар — і праз міг яе яшчэ сонны, але ўжо лагодна-радасны позірк, з-пад накрыўкі выплываюць яе стройныя, загарэлыя да локцяў рукі і казытліва-мякка скрыжоўваюцца на ягонай шыі. Ён мусіць апусціць галаў, цешачыся цяплом і адмысловым водарам яе грудзей, падпашак і ўсяго маладога ды крамянага цела, чуе, як спачатку роўна, а пасля часцей і мацней штуршкуе яе маладо.е сэрца, а калі ён пачаў лашчыць яе клубы, яно, яе сэрцайка, забілася ўжо трапятліва. Іхнія вусны стуляюцца самі па сабе.

У свой час ён мала бачыў, як прабуджаецца ягоная жонка, яшчэ радзей адчуваў яе ўцеху, радасць ад добрага сну і прагу да жыцця, дык і мала адчуваў мужчынскую чароўнасць усяго гэтага, слодыч ранішняга пацалунку. Ён даволі рэдка цалаваўся з жонкай, шкадуючы яе і не хочучы паказаць, што ён дабіваецца інтымнага ад яе, хворай, з бяскроўнымі, сіняватымі вуснамі, упалымі грудзямі і доўгімі танюткімі пальцамі, а вось Любку ён цалуе з ахвотай і з пажаднасцю...

Калі ён зноў ляжыць збоку, абапёршыся на локаць і пасля нядаўняга перарывістага шэпту і ўсцешлівага стогну пазірае на яе ўжо іншы, ажыўлены, а заадно і стомлены гарачай крывёю твар, позірк яе бліскучых вачэй адкрыты, смелы, немігатлівы, а на яе паўнаватых, падпухлых вуснах блукае шчаслівая жаночая ўсмешка, што бывае якраз пасля любоўнай гульні і ўцехі.

У пакоі ўсё бялее-залацее: недзе далека, за мангольскімі ўладаннямі, імкне перад сабой святло і цяпло, узыходзіць з-пад зямлі альбо з-

за агромністага мора сонца і ўзбуджае акрыяць усё жывое. Гэтая бель-залацістасць вельмі хараша ўпрыгожвае Любку, яна нібы купаецца, зіхаціць сваім целам у гэтай яснасці.

— Сонейка ты маё!— прамаўляе ён, адчуваючы, як глыбее і паўнее радасцю, дабрынёй і замілаванасцю ягоная душа.— Ты азараеш мяне, робіш жаданым дзень, што будзе наперадзе!

Маўчыць. Задаволеная і шчаслівая. Выпраменьвае простую і ў той жа час дзівосную ўсмешку, жаночую чароўнасць.

— Мне пара ўжо ўніз...— Сёння ўжо не шэпча з асцярогай і сполахам, а па-змоўніцку падказвае разважліва.

— А мне цяжка адпусціць цябе, краса мая ненаглядная, настроіцца на зямное, пайсці з дому. Мне хочацца апынуцца зараз разам з табой дзе-небудзь у глухім лесе альбо каля рэчкі на лузе, каб мы былі толькі адны! Каб я ўзяў цябе на рукі і нёс-нёс, а ты абдымала б мяне за шыю і туліла сваю шчаку да маёй!

Яна, здаецца, п'е гэтыя ягоныя словы як соладзь, бярэ іх на душу і паволі пазнае моц мужчынскага захаплення і кахання. Сама пачынае кахаць. Калі б прыкідвалася ці была колькі пакорлівая, дык не было б яе такога яснага і чароўнага душэўнага выпраменьвання.

— Любка!.. Якое слаўнае імя далі табе бацькі! Каб ты ведала, як ты мне любая! Ведай, уладарка мая, я не вытрываю, ты мяне загубіш, калі адвернешся альбо будзеш вось так з некім!..

— Я — твая.

— Назаўсёды?

— Назаўсюды.

— І нават тады, калі буду не пры ўладзе і не багаты, а гнаны, бедны, стары і слабы?

— І тады.

— Зможаш ахвяраваць сваёй маладосцю, красой дзеля мяне?

— Змагу.

— А ты хоць адчуваеш, што гэта такое — тая ахвяра?

— Адчуваю. Я ж не малая ўжо.

— Любка! Люба! Любоў! Але ідзі, а то я зноў магу напасці на цябе.

Яна борздка падхопліваецца, сяк-так апранаецца і вышмыгвае з ягонай спальні.

Босая, лёгкая, папраўляючы на сабе адзенне, Любка, як учора падымалася, так цяпер спускалася па лесвіцы з другога паверха асцярожна, узіраючыся і прыслухоўваючыся да ўсяго падазронага ў доме. Ды перад сваім пакоем нечакана сутыкнулася нос у нос з Марыляй — тая, мусіць, заходзіла падняць яе з пасцелі і даць работу. Была ўжо ў мяккіх атопках, у фартуху і хустцы.

— Ідзі сюды,— загадала тая шэптам і, азірнуўшыся па баках, пацягнула за руку ў яе пакой. Зачыніўшы за ёю дзверы, напала: — Дзе гэта ты ходзіш? У начной кашулі? Босая і такая разбэрсаная?

Любка ажно злякалася ад такой неспадзеўкі, ад дапытліва-асуджальных позірку і шэпту.

— Я... Я...

— Ну што «я»? Дзе была?

— Я выходзіла...

— Куды? — не адчэплівалася старая.

— Ну...— залоўленая знянацку Любка ніяк не магла супакоіцца, спрытна зманіць.— Трэба было...

— Што — «трэ было»? Каму? Гавары ўсю праўду!

— Мне, як толькі прачнулася, здалося: кліча баярын. Падышла да яго дзвярэй, пастаяла і вярнулася...

— Не мані! Не ўмееш! — не паверыла ні слову Марыля.— Пасцель сваю ты нанач не разбірала! Ды вочкі во бегаюць-лыпаюць!

Марыля прамовіла такое, і тут жа яе выцвілыя вочы ажылі, пабольшалі, а рот разявіўся, што яна аж закрыла яго далоннню ці то ад страху, ці то ад жаху. Пахітала сама сабе галавой, а тады секанула, нібы крапівою:

— Ты спала з гаспадаром!

Любка, анямеўшы, зірнула ўжо з мальбой і слязьмі: не чапай, ні пра нішто не пытай мяне, цётачка! Я не магу, не маю права табе нічога сказаць! Але тая, наадварот, не адчэплівалася:

— Кажы праўду: там начавала? На адной пасцелі з баярынам?

Слёзы ўжо заслалі Любцы вочы, а страх і боязь — розум. Яна не магла ні адмаўляцца, ні маніць, хоць дагэтуль ніколі не была без'языкая ці зусім нясмелая.

Марыля ж нібы пускала ў яе стралу за стралой:

— Узяў? Сілай? Па тваёй згодзе? Ці яшчэ нічога ў вас не было? Гавары, усё гавары, а то раскажу пра тваю ўсяночную бацькам!

Пачуўшы, як па крыху рыплівай лесвіцы важка спускаецца наніз Усяслаў, добра ведаючы, што гаспадару трэба будзе неўзабаве лёгкі сняданак, Марыля нарэшце адпусціла яе руку:

— Потым пагаворым. Цяпер пераапранайся, мыйся і бягом да мяне да печы. Баярынаву спальню потым прыбярэш.

Любка не магла не паслухаць тую, якую ўсе лічылі старшай сярод чэлядзі і якую паважала за прыязнасць да яе, памагала потым Марылі гатаваць сняданак і полудзень, праўда, стараючыся сёння не пазіраць старой у вочы, а заадно думала-перадумвала, што і як будзе затым гаварыць. Ужо залоўленая, прадчуваючы, што хутка, канечне

ж, усе ў доме, а з імі і Любамір, які з сёлетняй вясны не дае ёй прайсці на двары і які не раз шаптаў ёй на вуха, што заўтра-паслязаўтра папросіць баярына дазволіць узяць яе замуж,— дык вось хутка ўсе ўведаюць пра яе грэх. Тактак, пра грэх, бо тое, што яна ўчыніла да шлюбу, і ёсць дзявочая віна. Бадай, як ніколі, задумаўшыся пра сябе і свой лес, успамінаючы, калі, як і што здаралася з некаторымі нешчаслівымі дзяўчатамі ў Навагародку, яна пачала не так баяцца таго, што баярын Усяслаў ад яе адрачэцца, прагоніць, пакіне, можа, з дзіцем, колькі з незвычайным страхам асцерагалася бацькоў, людзей.і іхніх языкоў, кпінаў і насмешак. Каб яе спакусіў просты хлопец, той жа дружыннік Любамір, дык бы ёй спачувалі і асуджалі б нягодніка, а раз яна пайшла на ківок пальца баярына, уявіла сабе штосьці тое, што не для яе, то за гэта дастанецца нямала.

Яна які ўжо час, не меней аднаго сонцаварота, адчувала: у гэтым доме, куды яе ўзялі з вялікай, зусім не заможнай сям'і, толькі двое, з кім гаспадар абыходзіцца іначай, чым з іншымі. Гэтыя двое — Марыля і яна. Старую слухае і паважае, а вось яе, маладую, мае калі не за дачку, дык за шмат малодшую сястру: не толькі ніколі не накрычаў на яе і не абразіў, але нават не ўзбудзіў голасу, гаворыць з усмешкай і жартамі, купляе ў рамеснікаў і купцоў, прывозіць ёй здаля падарункі. Што да яе, дык яна спачатку бянтэжылася перад ім, нямела, як перад грозным навагародскім баярынам, чыйго толькі позірку баяцца і простыя і заможныя ды ўладныя навагародцы, а потым паступова прывыкла і пачала абагаўляць, як казачнага волатаасілка ці таго ж Усяслава Чарадзея, князя полацкага, пра якога, як чула, баярын шмат гаварыў княжычу і Міндоўгаваму сыну Войшалку. Калі ж ён нядаўна, вярнуўшыся з далёкага паходу (а яна, сапраўды, вельмі ўзрадавалася, што ён жывы і здаровы), паклікаў да сябе на ложак і ўзяў яе руку, дык ад дужасці і цяпла ягонай далоні ёй перадалося яшчэ штосьці і іншае. Першы раз яна аддалася яму з павагай, пакорай, зачараваная тым, што ён так хораша просіць. Пасля, бываючы часта з ім сам-насам, нават у пасцелі падоўгуд яна міжволі ўбачыла і іншае: ён жа — найперш маладжавы мужчына і да ўсяго лагодны, гуллівы, як і хлопец, прагны да жаночай ласкі і ўмее сам быць пяшчотным, змусіць забыць усё на свеце і цешыцца тым, што прачнулася ўжо ў ёй, а то кідае ў такі пачуццёвы вір, што потым нічога не разумееш, ходзіш як сама не свая.

Было ўжо на адзіноце, а цяпер вось удвая альбо ўтрая цвярозае і страшнае сумненне: што я раблю? Усё гэта патайное — не так, як у людзей, яна не павінна была дапусціцца да яго, гэта можа прынесці ёй бяду і кару.

— Ну, гавары праўду,— пад полудзень зноў схавалася з ёй у яе пакоі Марыля.

Любка апусціла вінаватую галаву і цяжка маўчала.

— Я ўжо тыдзень-другі прыкмячаю: надта ўбірацца ты начала... Праўда, то вясёлая, лётаеш, як на крылах, то задумен ная ці сумная. Гэта — не проста так у мал ад ой дзяўчыны. Відаць па вачах, хто ходзіць па начах... Прызнавайся: пазналася з баярынам?

Кал і яна зноў не выціснула ні слова, Марыля на гэты раз начала па-новаму:

— Не бойся. Я такая дапытлівая не таму, што надта цікаўная альбо хачу пусціць пра цябе нядобрую пагалоску і абняславіць. Каб ты была якая ліхадзейка, дык мне было б усё роўна. Ты для мяне як дачка. Каб ты ведала, я нават за цябе баюся: даў табе Бог усяго шмат. І рост добры, і паставу, і красу, і сэрца добрае. Гэта — вялікі дар для дзяўчыны, але і небяспека немалая. Хараство жаночае — вялікая спакуса для хлопца у і мужчын, яны з-за яго, бывае, што хочаш зробяць, а то і зусім здурнеюць. Вось, прадчуваю душой, і баярын наш неабыякавы да твайго хараства...

І далей:

— Ён трымае вялікі цяжар на сваіх плячах, нам з табой не разабрацца, пра што ён думае і дбае, але не зусім шчаслівы. Сівее ўжо, а можна сказаць, жаночай ласкі і не зведаў... Не бойся, прызнайся: па вяло яго да цябе, маладой, здаровай і пагляднай? Прылашчыў?

Цяпер, як ніколі, Любка верыла Марылі, але ўсё роўна не магла сказаць праўду, Не толькі з-за сябе, але і з-за Усяслава. Ды ён прасіў пакуль што патаіцца, не расказваць нікому нічога.

Марыля, здаецца, усё добра адчула і без яе слоў, адвяла вочы:

— Я з ім пагавару.

— Не трэба,— падала голас Любка і, мабыць, залішне з маленнем.

— Трэба,— пахітала галавой тая.— Бо трэба, дачка мая, думаць пра тваю долю. Бабай ты ў любы час станеш, а вось бабе дзяўчынай ужо не быць ніколі... Хочаш выйсці за Любаміра? Ён вачэй з цябе не зводзіць, малады, здаровы, баярын яго паважае.

— Не. Я не хачу за яго.

— Вы адно аднаму да пары. Што цяпер, як бачу, чэпіцца, гаворыць абы-што, дык на тое свая прычына. Маладое піва заўсёды шуміць, але выхадзіцца...

— Не.

— Не любы хіба?

— Не,— стаяла на сваім Любка. Сапраўды, ёй не зусім падабаўся Любамір, ды як яна магла цяпер думаць пра іншага, калі падакляравала Усяславу быць з ім заўсёды і ва ўсім.

— Маладая, дык не ведаеш усяго,— уздыхнула Марыля.— Пойдуць дзеці, будзе адна радасць і адна болька — злюбішся. Па сабе ведаю. Самым дарагім стане.

— Не.

— Глядзі, дачка мая, не падмані сама сябе,— прамовіла Марыля.— Можа, мне і не трэба гаварыць, але скажу: з нашым баярынам хоча парадніцца баярын Расціслаў... Яго ж старэйшая дачка — зусім маладая ўдава...

Пачуўшы такую пагрозную навіну ды раптам успомніўшы, што нядаўна сюды прыходзіла хітрая і л і хая баярыня Раксана, залівалася тут салоўкай, шапталася з Марыляй і запрашала яе да сябе,— дык вось цяпер ад усяго гэтага Любцы ажно шугнула ў галаву, пацямнела ў вачах: як яна і казала асцярожна Усяславу, навагародскія баяры захочуць ажаніць яго толькі з баярыняй і з той, якая трэба не толькі яму, але і ім.

— Дабраслава — гэтаксама вельмі паглядная,— нібы паспачувала ёй Марыля.— Але яшчэ болей хітрэйшая і зласнейшая за сваю маці. Не дай Бог прыйдзе сюды гаспадыняю — усіх нас адгэтуль прагоніць.

Павярнула галаву, і убачыўшы, што Любка ў адчаі закрыла вочы далонню і плача, прыхіліла да сябе:

— Так ужо, дачка мая, было, ест і будзе: не садзіся не на свае сані. Роўны роўнага шукае. Князь — княгіню, баярын — баяры ню, чалядзін — чалядзінку, а смерд — смердку. Ты ўжо не малая, дык і сама павінна ва ўсім гэтым добра разбірацца.

Не вытрымаўшы, Марыля таксама ўсхліпнула:

— Божа, як цешуся табой, але як і, кажу, баюся за цябе, дачка мая. Душа твая добрая спявае, а сэрца тваё залатое любіць увесь свет. Ты лётаеш. Але ты, дачка мая, не птушка, марна не жадай лятаць высока ў небе. Як і я, старая ды брыдкая, хадзі па зямлі, не думай панаваць, а служы...— А калі ў яе ад гэтых суровых слоў ажно ўздрыгнулі плечы, пачала супакойваць: — Паплач-паплач, дачушка. Слёзы жаночыя, бывае, мацней за ўсякі меч, але, бывае, і самыя лепшыя лекі... Вінаватая перад табой і я, старая дурніца, недагледзела: баярын наш — вой умелы і знатны, валадар вялікі, чалавек паважны, але ўсё ж мужчына...

Тым часам Усяслаў, не ведаючы, што разгарэлася ў жаночых душах у яго доме і што задумалі ўчыніць Расціслаў і Раксана, ціха ступіў у Князеву спальню.

— Заходзь-заходзь, ваявода,— слаба махнуў рукой Ізяслаў, лежучы на высокіх падушках.— Я не сплю, чакаю цябе.

У княскі пакой лілося ранне: у незацягнутае цяпер шаўковымі начнымі шторамі акно зазірала неба — паўкруглае, з нізкім сонцам, залацістае над полем і лесам, вышэй — шэра-блакітнаватае. Як усе ведалі, апошні час князь не любіў цемені і звонкай цішыні.

— Як пачуваешся, княжа? — запытаў Усяслаў, калі прайшоў па мяккім зялёным дыване, павітаўся і запыніўся каля ложа, на якім ляжаў без галаўнога ўбору і ў белай кашулі пад коўдрай Ізяслаў.

— Як кажа мой слуга, не хадун і не сядун,— уздыхнуў той.— Хвораму і на залатым ложку кепска.

Што праўда, то праўда: князь не толькі ссівеў ды аблысеў, але і ўсох, з глыбока запалымі вачыма і з доўгімі, нібы бяскроўнымі пальцамі на руках, як той спакутаваны пустэльнік, што падбіўся ў сваёй бясконцай і цяжкой дарозе.

— Адбыў ноч...— прамовіў яшчэ князь і паказаў вачыма, каб сеў на мяккім глыбокім крэсле, накрытым адмысловым не яркім, як і астатнія ў спальні, дыванам.

«Адбыў ноч»— значыць, і сёння не спаў ад цяжкіх дум і душэўнага болю.

— Развражаў пра сэнс свету, чалавека, пра яго жыццё... Сапраўды, як і напісана ў Святой кнізе, неба і зямля вечныя, а вось у чалавека ўсё толькі мітусня. Як у смерда, так і ў князя.

— Не будзь строгі да сябе, князь,— сказаў Усяслаў.— У цябе мала спешаніны і бязладнай бегатні.

— Было, ёсць, ваявода. І нямала,— пахітаў Ізяслаў сівой галавою.— Мітусіўся і як чалавек, і як князь. Дробязныя зямныя памкненні... Клубок незразумелых страсцей... Заўсюдны клопат пра хлеб штодзённы... Прага ўлады і славы... Падпарадкаванне чужой хіжай волі... Невялікі век сілы... Маленечкая жменька ўцех і шчасця... Расчараванне амаль ва ўсім... Хуткая і адзінокая старасць... Як бачыш, усё зведаў.

— Але ты, князь, нібы не хочаш бачыць, сказаць пра тое, што мы цяпер маем,— прамовіў Усяслаў.— А маем тое, чаго, выбачай, не дабіліся да цябе. Праўда, яны, твае продкі, спрыялі гэтаму.

— Можа, і не мне пра гэта гаварыць, Усяслаў,— адказаў той.— Няхай лепш пра ўсё скажуць нашы нашчадкі.

— Скажуць, князь. І добра.

— Не ведаю, дружа. Нашчадкі, бывае, дзякуюць, а, бывае, і забываюць, паварочваюцца спіной, а то і топчуць тое, што зрабілі дзяды.

— Я кажу пра разумных і талковых нашчадкаў, князь.

Ізяслаў дастаў з-пад падушак знаёмую і Усяславу кнігу ў новых скураных вокладках — перакладзены яшчэ ў тым стагоддзі на славянскую мову жыццёпіс у ста трох раздзелах даўняга палкаводца і ўладара Аляксандра Македонскага.

— Кажуць,— прамовіў,— гэтая «Александрыя» была любімай кнігай Уладзіміра Манамаха, які марыў пра такую ўладу і славу, што былі ў таго Аляксандра, сына Піліпа II і славянкі. Я не раз і не два чытаў гэты жыццёпіс і нямала думаў пра яго. Спачатку, маладым, захапляўся, трызніў Аляксандрам. Потым, у сталыя гады, пачаў думаць інакш. Ладна, шмат зрабіў удалых паходаў, шмат меў перамог Аляксандр, зрабіў сваю дзяржаву самай вялікай у свеце, але, як толькі памёр, тут жа ўсё развалілася. Яго хвалілі і хваляць, ім, кажуць, захапляўся Чынгісхан, захапляецца Батыга, але ці лягчэй стала ад яго мітусні, прагі ўладарыць над усім светам многім краінам і людзям? Ці не жылі б яны багацей і шчаслівей, каб ён не паліў іхніх хацін, не затоптваў палёў і не забіваў бацькоў, мужоў і сыноў? Ці вось славуты Уладзімір Манамах — любімы герой князя Данілы і яго дворскага Андрэя. Прагнуў сам узвысіцца і Кіеў узвысіць над многімі землямі. Колькі дзеля гэтага праліў крыві — скажам, у тых жа блізкім нам Менску, Полацкай зямлі, нават не грэбаваў наводзіць на Полацак полаўцаў-куманаў... Ну й што? Толькі памёр — сабраная мячом яго Русь распалася, Кіеў захізнуў, а цяпер дык зусім у руінах ад Батыевай навалы... Адзін толькі Бог ведае, наколькі ўсе бліжэйшыя да нас землі былі б мацнейшыя і багацейшыя, каб кіеўскія князі, а таксама і іншыя, хто замышляў такое ж, столькі не руйнавалі і не рабавалі іх!.. Вядома, як і цяпер кажа князь Даніла, трэба яднацца вераю, дружбай і сілай, адбіваць ворага, але колькі ўжо дабівацца таго яднання мячом і няволяй?

— Як казаў мне Андрэй-дворскі,— уздыхнуў Усяслаў,— так было, так і будзе.

— І было, і будзе,— зноў пахітаў галавой Ізяслаў.— Так пачалося ўжо з Каіна, калі ён з-за зайздрасці забіў брата Авеля... І, канечне, каб іншы час, каб меў сілу, дык той жа князь Даніла не дараваў бы нам, што мы пачынаем не чуць яго, уставаць з калень і выпростваць плечы. І як толькі адужэе, прыйдзе сюды на расправу, паспрабуе зноў паставіць нас на калені... Гэта ўжо, Усяслаў, будзе твой вялікі

клопат... Я сёння хацеў бы з табой пра тое-сёе пагаварыць, і яно пакуль што павінна быць толькі паміж намі.

Усяслаў ужо які час тут як тут не кляўся, што будзе верны: князь верыў яму. Ён счапіў на каленях далоні і наважыўся сур'ёзна слухаць. Тым больш што, здаецца, князь жадаў выявіць сваю волю, а то, можа, і запавет.

— Які не быў, ёсць сэнс жыцця, чалавека, але такі ўжо ўсталяваўся круг альбо пласт: адзін саступае месца і сыходзіць, другі нараджаецца і жыве. Дык вось старому Божы наказ: памірай, радуйся ці засмучайся, любі ўсё ці не любі, але жыта сей!

Ізяслаў прамаўляў з задышкай, час ад часу заціхаў і супакойваў дыханне.

— Стары ўжо ведае, як іначай трэба было жыць. За штосьці каецца, на штосьці лепшае настаўляе сваіх дзяцей і ўнукаў, хоць кожнаму — сваё... Я, Усяслаў, хацеў і хачу не толькі пасеяць сваё жыта, але хачу, каб яно пасля мяне і ўзышло, дало добры збор. Я ўважліва, дружа, слухаў, калі ты расказваў мне, з-за чаго і як нерваваўся ў гутарцы з табой Андрэй-дворскі, якім гарачым шэптам апёк твой слых князь Даніла, як паводзіўся п'яны Міндоўг каля твайго шатра і пра што гаварыў табе па дарозе дадому... Твой расказ памог мне дайсці да адной яснай думкі, асмеліцца на адзін рызыкоўны, але змушаны ход... І яго, паўтараю, прыйдзецца ўжо зрабіць табе — маёй надзеі.

Ізяслаў падняў уверх руку: маўчы, не перапыняй, слухай мае, можа, і перадсмяротнае слова.

— Я так разумею, Усяслаў: ні цяпер, ні ў хуткім часе князь Даніла не здолее дамагчыся таго, чаго дабіліся любімыя ім продкі: Уладзімір, сын Святаславаў, і Уладзімір Манамах. Як лічу, для яго цяпер ёсць тры шляхі: ціха, як мыш пад венікам, сядзець у сваім прыкарпацкім кутку, падуладзіцца уладзімірскаму Яраславу, які па мангольскім ярлыку цяпер верхаводзіць над усёй Руссю, альбо паспрабаваць выпрасіць у манголаў што-небудзь большае. Давай вось паразважаем, куды і да чаго ён схіліцца. Задавольніцца толькі галіцка-валынскім латкам? Не, для яго, уладнага, гэтага будзе мала. Бадай, не спанадзіць яго і падкочвацца да Яраслава. Яраслаў, хоць манголы аддалі яму былы стольны Кіеў, туды аднак не пераехаў, паслаў пасадніка. І не толькі таму, што Кіеў разбураны. Яраслаў, канечне ж, ведае: тое, што столькі намагаўся зрабіць Кіеў, не ўдалося і не ўдасца. Ён, думаю, ідэю Русі адзінай і вялікай будзе песціць там, на уладзімірскіх, суздальскіх, растоўскіх землях, у саюзе з Ноўгарадам, дзе княжыць сын яго, Аляксандр. Значыць, Яраслаў будзе найперш думаць пра сябе і сваіх сыноў, каб найперш каторага з іх

пакінуць пасля сябе за вялікага князя... Значыць, для Данілы застаецца трэці шлях. Я зусім не здзіўлюся, калі ён схіліць сваю гордую галаву і сам падасца ў Сарай-Бату ці ў Каракорум...

На Ізяслававым бледным лобе выступілі бліскучыя кроплі. Ён выцер іх дастаным з-пад верхняй падушкі ручніком, стомлена, але настойліва прадоўжыў:

— Канечне ж, Даніла будзе чапляцца за былое, пачне ўталкоўваць манголам, што ён — нашчадак тых, хто валодаў усёй Руссю. Каб супрацьпаставіць яго Яраславу і сынам, тыя могуць даць яму ярлык і на Бярэсце, і на ТураваПінскую, і нашу землі. Калі б дні мае былі не злічаныя ўжо, мы маглі б пабыць яшчэ яго васаламі і рабіць тое, пра што ты добра гаварыў Міндоўгу. Але калі мяне не стане, Даніла прышле сюды княжыць аднаго са сваіх сыноў. Той, завёўшы тут чад, пастараецца Навагародка ўжо нікому не саступіць, амацуе тут сваіх нашчадкаў і іхняе права на княжанне. Гэтага, канечне ж, не трэба дапусціць. Ты думаў пра гэта, дружа?

— Скажу шчыра, князь: думаў.

— І якое выйсце ты бачыш?

— Каб ты акрыяў і княжыў тут яшчэ доўга,— не толькі з-за спагады ці абачлівасці, але і з усёй шчырасцю адказаў ён.

— Пакняжу тут я сонцаварот ці болей — розніца малая: род мой перашчыкнуўся...— Той зноў засумоціўся.— Ды трэба, кажу, дбаць і пра будучыню. Праўда, крыху іначай, чым пра яе турбуюцца Даніла і яго дворскі... Так ужо наканаваў лес: смерць мая для Навагародскай зямлі — не проста адыход яшчэ аднаго князя з Рагвалодавага роду. Смерць мая можа стаць збаўленнем ад Данілавага, а гэта значыць і Рурыкавічаў, ярма і вестуном волі. Але, каб утрымаць яе, гэтую волю, трэба адзяржавіцца. Ды ці маем на гэта боскае права? LI.I па сіле нам?

— Вялікі выспраб даеш ты нам, князь!

— Дык адзяржавімся, ваявода?

— Як ні цяжка цяпер, але, здаецца, спрыяльны шанец ёсць. Толькі трэба ім як след распарадзіцца.

— Калі, Усяслаў, шчыра і прыязна дбаць пра лепшую долю дзяцей і ўнукаў, дык трэба і рызыкнуць, і, як ты кажаш, як след распарадзіцца, бадай, гхершым шанцам. І пачаць трэба будзе з таго, што ніяк нельга праспаць момант, не з Данілавай волі, а са сваіх інтарэсаў выбраць сабе новага князя. І таго, хто найперш патрэбен Навагародку.

— Каго-небудзь з Рагвалодавічаў, князь? — запытаў Усяслаў.

— З Рагвалодавічаў, ваявода. І каго, па-твойму, трэба будзе вам запрасіць сюды на пасад?

— Я легка адказаў бы табе, князь, на гэта, каб меў сыноў полацкі Брачыслаў...

— Але ж Рагвалодава кроў, ваявода, яшчэ не толькі ў яго жылах,— знайшоў сілу ўсміхнуцца Ізяслаў.— Але і ў таго-сяго зусім блізкага ад нас...

Усяслаў ажно ўскінуў ад нечаканасці галаву: князь бачыць свайго пераемніка ў Войшалку, каш ён як ваявода выдзядзькаваў на свой лад?

— Па" чале і вачах тваіх бачу,— усмешка ўсё не сыходзіла з Ізяслававых бяскроўных вуснаў,— цяпер ты ўжо добра здагадваешся, чаму я так прыручаў нашага няўрымслівага і ваяўнічага суседа, прасіў цябе, каб ты, якраз ты навучаў яго сына?

— Цяпер усё лепш разумею, князь,—прызнаўся Усяслаў.

— І што ты зразумеў, дружа?

— Ты бачыш на нашым пасадзе Войшаля. Маладога, але адукаванага, вернага нам, разумнага, хітрага і, калі трэба, жорсткага.

— Ты супраць?

— Не, князь. Але...

— Што — «але»?

— Князь Даніла добра ведае, што ў Мендога і Войшаля ёсць доля Рагвалодавай, поладкай крыві, што яны хрысціяне, але ніколі не прызнае гэтага. Дзеля сваіх інтарэсаў той гаворыць і будзе паўтараць: Рагвалодава кроў у Мендога — ягоная, полацкая, а то і наша выдумка, што ніякага полацкага дзеда-князя ў таго не было. Ён меў, мае і будзе мець Мендога толькі за язычніка, за варвара.

— Даніла мае свае інтарэсы, а мы — свае. Для таго, што мы задумалі. І памагаць нам спаўняць іх будзе... Мендог...

— Мендог? — ажно ўсклікнуў Усяслаў. Як зусім яшчэ малады чалавек.

— Мендог? Яго бачу я Гаспадаром Навагародскай зямлі. І не толькі яе...

Усяслаў, бадай, ужо сумеўся: адно — сябраваць з неспакойным, заўсёды збройным і хцівым суседам, даваць яму прытулак у цяжкія часіны, але зусім іншае — самім узвесці яго тут на пасад...

— Здзівіў цябе, ваявода? — здаецца, ажно пацешыўся Ізяслаў.

— Здзівіў, князь. Гэта — гульня з агнём!

— Разумею, усё добра разумею, Усяслаў,— зноў заклапоціўся стары князь.— Ды... Войшаль — якраз той, хто нам трэба. Але ён яшчэ ваўчаня, а нам цяпер патрэбен пажылы воўк, які дужы і

спрытны, умее паляваць, выскокваць з пастак і берагчы сваё логава. А да ўсяго нам патрэбна простая, цярплівая і ваяўнічая Літва[1]. Вам мой наказ: кал і памру і найперш ты будзеш гаварыць пра маю волю спачатку на Радзе, а потым на вечы, дык не толькі ўсё добра патлумачыш, але адразу дабівайцеся свайго. Міндоўг павінен будзе заявіць пра сваё хрысціянства, змусіць ахрысціцца сваіх баяраў-язычнікаў, перабрацца з Руты ў Навагародак, слухаць нашу Раду і навагародскае веча, падпарадкаваць Навагародку Літву — гэта значыць, дзе словам, а дзе і сілаю зрабіць першы крок да нашага адзяржаўлівання. Калі ён пачуе, што можа стаць Вялікім Гаспадаром, Валадаром Дзяржавы, дык дасць нам любую клятву і, думаю, будзе трымацца за сваё слова. Ды яшчэ прыдумаеш ты, як мець над ім строгі назірк і кіраваць ім. Нашы баявыя дружыны павінны быць вернымі найперш табе і ў цябе будуць ніці нашай віжавой службы і запас нашай казны. Урэшце найперш за табой павінна быць Рада і веча. Я першы паклапачуся пра гэта. Тое-сёе я прыдумаў ужо, пазней крыху раскажу пра гэта...

Ізяслаў перавёў дыхание, адпачыў, а потым пачаў разважаць далей:

— Што яшчэ цяпер за Мендога? Што і як з гэтага можна нам удала спажыць? Батыгава нашэсце нам паспрыяла ўжо. Яно аслабіла Данілу, памагло нам амацавацца, уздыхнуць вальней і падняць галаву. Цяпер нам лучыць крыжацкі націск са словам і мячом. Гэты націск занепакоіў прускія плямёны[2], земгалаў[3], латгалаў[4], ліваў[5], эстаў[6], аўкштайтаў[7], жамойцаў[8], яцвягаў[9], ён хвалюе Полацак і Ноўгарад. Калі палачане-хрысціяне шукаюць паратунку разам з ноўгарадцамі-хрысціянамі, дык нашы заходнія суседзі-язычнікі, як ведаеш, пачалі з

---

[1] Тагачасная, Міндоўгава, Літва — землі паміж сённяшнімі Навагародкам, Маладзечнам, Мінскам і Слонімам.

[2] Прусы, балцка-славянскія плямёны, насялялі ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем Віслы і Немана.

[3] Земгалы (земігола) — балцкае племя, жыло ў сярэдняй частцы сучаснай Латвіі (басейн р. Ліелупе).

[4] Латгалы (лецьгала, лоцьгала) — балцкае племя, жыло на Усходзе сучаснай Латвіі, там знаходзіліся гарады Герцыке і Кукейнос, падуладныя Полацкаму княству.

[5] Лівы жылі на ўзбярэжжы Рыжскага зал. на паўн. ад Зах. Дзвіны і ў ніжнім цячэнні р. Гаўі, паўн. ўзбярэжжа Курземскага паўвострава.

[6] Эсты — продкі сённяшпіх эстонцаў.

[7] Аўкштайты — найбліжэйшыя да Полацкай і Навагародскай зямель продкі сённяшніх літоўцаў.

[8] Жамойцы (жмудзь, жэмайты) — насельнікі заходняй вобласці і сучаснай Літвы.

[9] Яцвягі — заходнебалцкія, са славянскім элементам плямёны, жылі паміж Нёманам і вярхоўямі р. Нараў.

надзеяй пазіраць на язычніцкую Літву, на Міндоўга, на яго саюз з намі, хрысціянамі. А што гэта значыць? Яны цяпер не будуць супраць, каб Міндоўг яшчэ болей амацоўваўся. Яны нават просяць, каб ён супрацьстаяў крыжакам далека ад сябе, на іхніх землях. А гэта што дае? Яно рана-позна паспрыяе Міндоўгу яшчэ болей падпарадкаваць Булевічы[1], Дзяволту[2], Рушкавічы[3], Дайнову[4], Нальшаны[5], а то і праз аўкштайтаў ды жамойцаў выйсці да Варажскага мора[6]... Убачыўшы нашу моц, веру, да нас яшчэ болей пагорнуцца Пінска-Тураўская і Берасцейская землі, яцвягі... А з такой сілаю будуць ужо не такія страшныя ні Даніла з Васількам, ні манголы!

Усяславу глыбока запалі ў розум і душу гэтыя словы і, сказаць шчыра, ад іх па яго целе ажно пабеглі халодныя мурашкі: гэта — зусім новая навагародская палітыка! Шмат тут усяго, як кажуць, на мяжы, на рубе і ўпрытык, што можа ўсё і не склеіцца, не знітавацца: як ні рабі гэта, дзе з крыжом і словам, дзе з блінам і мёдам, а дзе з мячом, усё роўна ад гэтага навостраць вушы ўсе суседзі і, канечне ж, не ўсе з іх будуць спакойна назіраць альбо спрыяць адзяржаўліванца. Крыжакі, Полацак і Ноўгарад, Уладзіміра-Суздальскае княства, Чарнігаў, Галіцка-Валынская зямля, Куявія і Мазовія[7], а над усімі гэтымі супернікамі манголы — вось з кім, можа, прыйдзецца сутыкнуцца...

— Што на ўсё гэта скажаш, Усяслаў?— парушыў яго роздум Ізяслаў.

— Нялёгкую ролю і долю наказваеш ты мне, князь,— апусціў галаву ён.— Для ўсяго гэтага мала мець адну чалавечую галаву, а трэба сама меней тры. І несмяротныя. Каб адну адсеклі, а на яе месцы тут жа вырасла новая!

— Канечне, наперад усяго не прадбачыш, могуць быць самыя неверагодныя нечаканасці,— прамовіў Ізяслаў.— Але, думаеш, я выпадкова ці з-за тваіх прыгожых вачэй узвышаў, ушаноўваў якраз цябе? А калі ты ўлез у дугу, не кажы: не магу! Палкаводцам добрым

---

[1] Булевічы — зямля на правым беразе верхняга цячэння Нёмана (мабыць, у тым ліку і мясціны каля хутара Балевічы Хатаўскога сельсавета Стаўбцоўскага раёна).

[2] Дзяволта — мабыць, зямля ў цэнтральнай і паўночна-заходняй мясцінах сённяшняй Беларусі каля Ляхавічаў і Клецка.

[3] Рушкавічы — мабыць, зямля па суседстве з Турава-Шнскай зямлёю.

[4] Дайнова — зямля паміж Нёманам і Віліяй, па р. Котры межавала з Гарадзенскім княствам.

[5] Нальшаны — зямля на паўночна-заходняй ускраіне Беларусь Сталіца — Крэва (?).

[6] Варажскае мора — Балтыйскае мора.

[7] Куявія і Мазовія — польскія княствы.

ты ўжо стаў. А цяпер, дружа, трэба стаць і добрым дыпламатам ды палітыкам! Арлом! Арол жа, як ведаеш, мух не ловіць!

Што тут красамоўнічаць альбо гуляць? Князеў наказ ёсць найвышэйшая воля! Ды калі ўсё гэта для дзяцей і ўнукаў!

— Мендог, хоць узвысіцца, але будзе слухаць цябе. Без тваіх дружын ён ні тут, ні ў Літве не ўтрымаецца. Ты будзеш у яго дарадца, як Субедэй у Батыгі. Без цябе ён не павінен і кроку ступіць, усё рабіць толькі пасля тваёй ухвалы!

— Такім-сякім ваяром я стаў пры табе, князь. Без цябе мне не будзе такога апірышча.

— Хто ведае, дружа. Можа, без мяне яшчэ цясней згуртуюцца вакол цябе баявыя дружыны, тысяцкія, сотнікі, дзесятнікі, баяры, рамеснікі і купцы. Як казаў, я перадам табе сваю віжавую службу, ключ ад нашай казны-скарбніцы, найперш ты ведаць будзеш, адкуль і як паступаюць да нас золата, серабро, медзь і бронза, а ўрэшце напішу такую, якая трэба табе, грамату-наказ. Адным словам, хочаш ці не хочаш, але мусіш зрабіць для сваіх дзяцей і ўнукаў тое, што трэба. Сам будзеш аб'яўляць Пагоню[1]...

— Ясна, князь,— падняў галаву і з падзякай зірнуў у вочы старому дбайцу Усяслаў.— Твая воля — вышэйшы для мяне наказ.

— Дзякуй, дружа. Веру: ты з аднадумнікамі ўстоіш і ў сумятні, і ў таўкатні, і ў кругаверцях розных, зысціш тое, што я, бачыш, таіў доўга нават ад цябе, але дзеля чаго жыву, часамі ўніжаўшыся перад кіўескімі князямі, перад маладзейшым Данілам... Ну, а цяпер давай спусцімся з аблокаў высокіх на зямлю. Якія ты навіны маеш? Што хоча ад нас Міндоўгаў баярын Хвал?

— Літва — у вялікім руху, князь,— адказаў Усяслаў.— Хвал прыехаў з навіною і просьбай.

— Слухаю, Усяслаў.

— Навіна, князь, такая: каля дзесяці літоўскіх князёў пойдуць па лупы пад Таржок і Бежыцу,

— А ці не вельмі парыўча?

— Здаецца, як і раней, тут полацка-менская рука,— усміхнуўся Усяслаў.— Князь Брачыслаў памог зяцю[2] пабіць крыжакоў на Чудскім возеры, але каб спрадвечны супернік Ноўгарад не амацоўваўся, наводзіць на яго Літву... Прапўсціць праз свае абшары, а потым, калі трэба будзе, дык і прыкрые...

— Міндоўг таксама пойдзе?

---

[1] Маецца на ўвазе — аб'яўляць вайсковы збор.
[2] Гутарка ідзе пра тагачаснага князя Ноўгарадскай зямлі Аляксандра Неўскага.

— Не.

— Як жа ён утрымаўся, каб не пажывіцца?

— У яго цяпер іншыя клопаты, князь. Куроны[1] папрасілі яго памагчы ім адкінуць крыжакоў. Ён пытае нашай парады і просіць, калі будзе наша згода, пайсці разам з ім і мяне.

— А што аўкштайты і жмудзь? — запытаў Ізяслаў.

— Яны прапусцяць Міндоўга праз свае землі і, можа, нават дадуць яму невялікія атрады: якраз збіраюць новыя сілы супраць крыжакоў.

— А колькі вояў збірае Мендог?

— Тысяч за дваццаць.

— Сіла немалая, але... Што ж,— прамовіў Ізяслаў,— добра, што Мендог жадае памагчы няшчасным супраць варвараў, якія пад сцягам Хрыста і цывілізацыі хочуць парабаваць нас усіх. Пераможа — набудзе славу, пацерпіць паражэнне — можа, нам зноў прыйдзецца ратаваць яго... Што да цябе, табе трэба быць тут. Ці ты думаеш інакш?

— Не, князь. Распыляць нашы сілы не трэба.

— Але дай Мендогу даспехаў і зброі. Супраць цяжка абчапляных жалезам крыжакоў добра падыдуць нашы новыя цяжкія сякеры. Як мы з табой бачылі на свае вочы, якраз ад удараў такімі тапарамі і коні падалі і ніц, і рыцары кланяліся нашай зямлі пад Драгічыным.

— Добра, князь,— згадзіўся Усяслаў.— Сякеры ёсць. Як і коп'і ды лукі. Цяпер пачынаем больш каваць і шабель. Яны падыдуць добра, калі, можа, прыйдзецца сутыкнуцца са шматлікай мангольскай конніцаю. З ёй лепш змагацца лукамі і шаблямі. Як перадаюць нашы віжы, і ноўгарадскі Аляксандр, і брат яго Андрэй якраз так пачалі пераўзбройвацца.

Ізяслаў змаўчаў з ухвалай: што ж, гэта ўжо найперш твой, ваяводскі, клопат. Мой жа, княскі,— знайсці табе на гэта золата, срэбра, скуры, лён, мёд, воск і зерне.

— І яшчэ, Усяславе,— прамовіў Ізяслаў.— Не толькі пагарджай Расціславам, не толькі асаджвай. Больш хітруй, трымай яго пад пільным назіркам, а то і наблізь да сябе.

— Не магу, князь,— апусціў галаву ён.

— Змажы. Каб перахітрыць Данілу, табе трэба найперш аблапошыць Расціслава і Раксану, каб яны добра не ўбачылі, што і як робіцца ў іх каля носа.

---

[1] Куроны (куршы, корсь) — балцкае племя, жыло на Захадзе сучаснай Латвіі. Пазней разам з земгаламі склалі латышскую народнасць.

— Нялёгка іх абвесці вакол пальца.

— Абвядзі! Г Іера гуляй!

— Гэта самае цяжкае для мяне — гулящ, ды прыкідвацца!

— Ведаю,— знайшоў сілы ўсміхнуцца Ізяслаў,— але палітыка, дыпламатыя без гэтага не бываюць. А без іх не абысціся нават са сваімі...— А потым, уздыхнуўшы: — Каб пагаварыць употай, адпачыць, можаш карыстацца маім загародным палацам. Не трэба, каб ён пуставаў, траціў чалавечы дух.

— Я ж свой загародні дом маю.

— Які там твой дом!

— Хопіць мне і гэтага. Там мне ўсё дарагое і мілае: лес, Неман, невялікае, але ўтульнае, цёплае жытло, цішыня.

— Не будзь такі сціплы. Не шыкуй, як Расціслаў, але цану сабе ведай. Ты — ужо не толькі ваявода, але і пасаднік, мой намеснік. Няхай і ўсе гэта бачаць.

— Як скажаш князь, так і будзе,— здаўся ён.

— Я і кажу: карыстайся княскім па-княску. У гэтым штосьці ёсць сваё, непаўторнае і велічнае,— Ізяслаў уздыхнуў, а калі ён падняўся, каб пайсці і даць гаспадару адпачыць, дадаў: — Пакліч, дружа, усіх сюды. Я сказаў, каб сёння радцы затрымаліся ў грыдніцы.

Неўзабаве ўжо да князя зайшлі тысяцкія Бялян і Усяславаў зяць Васілёк (такую высокую насаду ён са зщды князя і малой Рады даў яму на днях), ахоўнік пячаткі Звеніслаў, свяшчэннік Кірыла — ён, можна сказаць, ужо некалькі гадоў, пасля Батыевага нашэсця на Кіеў і далей, на захад, быў за біскупа тут, у Навагародскай зямлі, чаго не хацеў прызнаваць за ім іншы Кірыла — з Галіцка-Валынскай зямлі, які найперш з волі князя Данілы лічыўся мітрапалітам усяе Русі, не маючы на гэта благаславення візантыйскага патрыярха. Тым не менш само жыццё ўжо змушала мець біскупства на Навагародскай зямлі. І ўслед за ўсімі ўсунуўся Расціслаў — здаецца, яшчэ больш патаўсцелы, як і заўсёды ў пышным уборы, з вялікімі чырвонымі плямінамі на сытых шчоках. Мабыць, перажываў, што князь столькі гаварыў самнасам з Усяславам, а іх гэтулькі ж не дапускаў да сябе.

— Радцы,— прамовіў князь да сяброў малой Рады.— Як бачыце, я змушаны адысці ад штодзённых турбот і клопатаў. Але мы не можам пусціць усё на самацёк у нашай зямлі. Ды яшчэ ў такі няпросты час. Нядаўна мы паразважылі з Усяславам, што і як рабіць нам далей. Цяпер майце Усяслава не толькі як ваяводу, але як і пасадніка пры мне, яшчэ жывым. Яго слова — мая воля. Святы ойча, дай пацалаваць усім крыж, каб я на свае вочы яшчэ ўбачыў, што лепшыя нава-

гародскія мужы верныя мне, прызнаюць уладу Усяслава, на плечы якога цяпер кладзецца вялікі цяжар і якому вы павінны памагаць.

Як ён заўважыў, верны яму невысокі, але плячысты Бялян застаўся спакойны, толькі пасвятлеў ягоны хмурнаваты твар; тонкі, яшчэ як след неаплечаны і па-юнацку прыгожы Васілёк молада ажно засвяціўся ад радасці; важкі стары хітры Звеніслаў лашчна ўсміхнуўся (ён быў з тым, на чыім баку была перавага); высокі і худаваты, з велічнай сівой барадою, самавіты Кірыла ў белым клабуку і чорнай апратды быў уважліва-непарушны (ён заўсёды сціплы, лагодны, праўдзіва-рэзкі), а вось у заплытых тлушчам вачах Расціслава ўсплыў з душы цяжкі цень. Расціслаў усміхнуўся, але разгублена, няшчыра, неяк яшчэ больш пацяжэў, але тут жа, адагнаўшы зайздрасць і скруху, апярэдзіў усіх і першы ступіў да біскупа, нахіляючыся да паднятага тым крыжа:

— Ва ісціну справядлівая і мудрая воля нашага слаўнага князя!

За ім пакляліся на крыжы і іншыя.

— Дзякуй, радцы,— прамовіў Ізяслаў.— Цяпер мне будзе спакайней на сэрцы. Усе можаце быць вольныя, займайцеся сваім, а ты, святы ойча, застанься. Мы складзем з табой маю грамату-запавет, што ты, калі будзе твая згода, асвеціш, будзеш хаваць у сябе і некалі аб'явіш на Вялікай Радзе, а то і на вечы...

## Раздзел трэці

### 1

Пасля Вялікай Рады — а на пачатку яе біскуп Навагародскай зямлі Кірыла сказаў усім пра волю князя Ізяслава, каб ваявода Усяслаў быў цяпер і за пасадніка — Усяслава проста адпіхнуў ад усіх сёння незвычайна варухлівы баярын Расціслаў.

— Пачакайце!— заўшчуваў той багатых і знатных старэйшын гуртоў залатнікоў, кавалёў ды купцоў з вакольнага горада. Тыя, даўнавата ўжо не трапляючы да князя, мабыць, хацелі больш уведаць пра новую навагародскую палітыку ды пагаварыць пра свае клопаты і турботы, а то і нечага папрасіць.

Усяслаў ведаў, што з тымі, хто мацуе Навагародскую зямлю, трэба паводзіцца абачліва і ўважліва, але Расціслаў вось не дапускаў іх адно да аднаго.

— Не пра ўсё адразу, дайце пасадніку паразважаць!— той стаў паміж імі.— Яму цяпер трэба пра ўсё рупіцца! Спачатку я яму раскажу пра сёлетні хлеб, параімся, колькі чаго прадаць, а што на зіму пакінуць. Гаспадарка — найпершая клапатарка!

«Пачакай, хітрун!— падумаў Усяслаў.— Цяпер то я добра праверу, колькі ў нас зерня, лёну, мёду і воску ды куды і за што ўсё гэта ідзе! Гэта ж — нашы сякеры, мячы, коп'і, даспехі, а таксама серабро і золата!»

Уголас жа, употай падміргнуўшы высокаму старэйшыну злотнікаў, Вежы, род якога ўжо рамеснічае каля двух стагоддзяў:

— Шыкуйце сваю зброю, давайце знак воям — неўзабаве сам выведу іх у поле, у лес ды праверу, ці не затупилея мячы і коп'і ды ці не аслабла ў апалчэнцаў рука?!

Знатныя людзі ведалі, што Усяслаў слоў на вецер не кідае, адчулі, што хутка пагамоняць з ім сам-насам, без Расціслава, дык з паклонам адступілі, а задаволены Расціслаў пачаў прыліпаць бліжэй:

— Скаржнікі! Заўсюды ім усяго мала, хоць багацей і за мяне, і за цябе, і за князя! Папусціліся мы ім, прыціскай іх, Усяслаў, мацней! Не давай крактаць, вытрасай з іх больш у няскую казну, на вайсковыя патрэбы! Каторыя, як гэты Вежа, гардавусы. «Мы грошы даём, а князь іх толькі траціць!» Не князь, бач, наш Гаспадар, а яны — гаспадары!

— Праўду ты кажаш,— думаючы пра сваё, прамовіў Усяслаў.— Трэба ўсім нам быць болей ашчаднымі. Трэба менш марнаваць дабра на гулі і ўцехі, а больш мацаваць нашу сілу.

Расціслаў стрэльнуў па ягоных вачах хітрым і дапытлівым позіркам маленькіх вочак: што замышляет ты, супернік-пераможца? Хочаш усё, даверанае мне таксама, узяць пад свой строгі назірк ды змусіць усіх нас не выпіць нават чашы віна?

— Цяпер тут твая воля,— аднак уголас прамовіў нібы з пакораю.— Што загадает, тое і будзе. Уся ўлада ў тваіх руках.

— Мне не трэба ўсёй улады,— схмурыўся ён.— Я ведаю яе смак і сілу, але ведаю яе цяжар ды пагібель.

— Ад улады — ды вялікай — адмаўляецца толькі дурань. А ты маеш разумную і светлую галаву, дык і кіруй намі годна. Мы ж, твае паплечнікі, падтрымаем цябе пад локаць.

«Не быў ты і не будзеш маім паплечнікам,— падумаў Усяслаў.— І локця майго не падтрымліваў і не падтрымаеш, бо ўвесь час бачыш мяне найперш на ражне. Але во хітруеш, пакольні мы цяпер без цугляў сваяка тваёй жонкі!»

— Калі ты такі добрапамысны для мяне, дык мушу сказаць табе шчыра адну рэч,— сказаў з ухмылкай Расціславу.

— Гавары. І, як кажаш, шчыра.

— Мяне вельмі хвалюе наша льняная гаспадарка,— загаварыў пра тое, пра што ўжо казаў і князю, і на Радзе, а цяпер вось чым

хацеў найперш абклапаціць Расціславадворскага.— Вялікая наша турбота, што і полацкія, і наўгародскія ды чужаземныя купцы пачалі менш купляць наш лён і менш плаціць за яго.

— Я ж казаў і князю, і вам на Радзе: вінаваты купец Богуш,— шпарка апраўдаўся той,— прывёз тампазалетась хворае семя з Ноўгарада. Не толькі кветку, але ўжо і маладое лісце, сцябло есць льняны вусень. Ды псуе валакно ржаўка.

— Я не думаю, што Богуш — зламыснік. Трэба як найхутчэй лячыць і семя, і поле. А гэта — ужо найперш твой клопат. Нам без добрага льну не абысціся. Ён — наш надзейны прыбытак.

— Лечым, Усяслаў, але...— Расціслаў развёў рукі.— У Ноўгарадзе таксама не могуць пазбавіцца ад льняной злыбяды. А там жа славуты княскі лекар ажно з самой Іудзеі! Абрагам!

— Не трэба грэбаваць нечыім розумам, але і грэшна ды зламысна не абапірацца на мудрасць нашых сталых гаспадароў.

— Не думай, Усяслаў, што я — нядбалец ці лянько,— нібы пакрыўдзіўся той.— Перажываю за гэта, баліць душа, князю, яго лекару, нашым старым гаспадарам вушы прагудзеў, але... Убілася ліха, не вывесці. Грэшны, ужо думаў: ці не спаліць усё хворае семя? Змяніць яго, поле, пацярпець сонцаварот-другі і ўзбіцца на здаровы лён.

— Час цяпер такі, што чакаць доўга няможна.

— Разумею, Усяслаў: час, як ніколі, трывожны,—уздыхнуў той.— Але і мае думы найперш пра нашу гаспадарку, пра нашу моц ды шчаснасць. Цяпер мы, дзяржаўныя мужы, павінны верыць адзін аднаму, памагаць. Ад гэтага толькі будзе толк. Для нас усіх. Ды... Скажу табе шчыра, я ўжо і не помню, калі мы з табой разам сядзелі за чашай віна альбо медавухі... Усё ладзім ды не паладзім...

Усяслаў змаўчаў.

— Цяпер во якраз вечар, хадзем да мяне, пасядзім ды пагутарым па-добраму. Я — не гардавус. І ты не будзь ганаркі.

Усяслаў сумеўся: ён калі-нікалі ўжываў моцнае пітво, але не хацелася рабіць гэта якраз з Расціславам і ягонай Раксанаю. Не былі яны шчырыя ды зычлівыя і не будуць.

— Не грэбуй мной, Усяслаў,— чапляўся той.— Не такі я ўжо благі, як ты часам думает.

Усё ж слабы па натуры чалавек, здаўся Усяслаў, пайшоў разам са сваім злодырам, хоць добра ведаў, што не трэба верыць таму.

— Адпусці, Усяслаў, сваю варту,— цяжка трусіў побач і ўсцешана гаварыў Расціслаў.— У маім доме табе нічога не пагражае. Даю табе сумленнае баярскае і чалавечае слова.

Усяслаў не азірнуўся і не падаў ніякага знаку, помнячы занепакоены наказ Міндоўгавай сям'і,— старты аховы Цішук з дружыннікамі ішоў ззаду моўчкі, а пасля засталіся ў Расціслававым пярэднім пакоі.

— Раксана! — радасна гукнуў з вітальні ў святліцу гаспадар.— У нас госць! Ды які!

Амаль тут жа тая выплыла ацяжэлай гускаю. У індыйскім яркім шоўку, абчапляная залатымі завушніцамі і бурштынавымі каралямі на залатым ланцужку, яна пацалавала яго як самага блізкага чалавека і запрасіла ў святліцу ці, як яшчэ казалі, белую хату — прасторны пакой, атынкаваны і афарбаваны ў чырвоны колер, з зялёнымі палосамі па верее сцен, з лікамі святых Барыса і Глеба, з чужаземнымі дарагімі дыванамі на падлозе і на глыбокіх крэслах. Пасярод пакоя, пад груваcткімі масянджовымі падсвечнікамі, стаяў масіўны круглы стол і ўжо, як на дзіва, быў не толькі засланы белым абрусам з чырвонымі карункамі знізу, але на ім ужо зіхацелі шкляныя рознакаляровыя, пазалочаныя ды з эмаллю, а таксама фарфоравыя, фаянсавыя талеркі і місы, а ў некаторых з іх была нават халодная закусь — марынаваныя грыбы з цыбуляй і алеем, смажаная рыба, адвараная ялавічына з морквай і яйкамі, нацёртая рэдзька са смятанай, сподкі з чорнай ікрою, якую лічаць за вялікі далікатэс і тутэйшыя князі, і замежныя каралі, талеркі з сырам, з воскам і мёдам, праснакі. А да ўсяго стаялі на трох ножках сярэбраныя падстаўкі, у якіх месціліся турыныя рогі — гладзенькія, пафарбаваныя ў чорны колер і з залатой акаймоўкай паверсе.

Усяславу стала ажно няёмка: значыць, яны ўпэўніліся, што ён усё ж зойдзе да іх.

— Колькі ж гэта, Усяслаў, ты не быў у нас?— аж заззяла Раксана.

Ён пацісннуў плячыма, хоць добра ведаў, колькі часу не зазіраў сюды і чаму не меў да гэтага ахвоты.

Раксана пазваніла невялікім цёмна-жоўтым званочкам — у белую хату амаль адразу шпарка ўвайшла маладая пакаёўка з крышталёвым збанам вады і шкляной мядніцай ды з беленькім льняным ручніком на плечуку. Калі памылі рукі, Расціслаў запрасіў садзіцца за стол.

— Якое віно жадае шаноўны госць?— усміхнуўся, седзячы насупраць з Раксанаю.— Бургундскае? Рэйнскае? Алікант? Мальвазію? Франкійскае белае? Альбо каўказскае чырвонае?

«Набор як і ў княскім паграбе!— падумаў Усяслаў.— У мяне такога няма. Ды мая першаўвага да медавухі і ягадных ці рабінавай настоек».

— Ці, можа, пад ікру і грыбы жадаеш моцную настойку? — авароржваў Расціслаў.— Гавары, якую? Перцавую? Анісавую? Ядлаўцовую? Палыновую? Што зажадаеш, тое і пададуць. У нас ёсць яшчэ такія-сякія старыя запасы.

«Дбаў і пра гэта. А я вось меў іншы клопат...»

— Вы, мужчыны, канечне, выпіце якой-небудзь моцнай настойкі,— каб спыніць мужа-хвалько, прамовіла Раксана.— А мне няхай пададуць бургундскага.

Расціслаў пазваніў — як толькі заявіўся ў шаўковым жупане з залатой абшыўкаю стольнік, паўтарыў тое, што сказала жонка. Неўзабаве ўжо той налівалў перад Усяславам у рог падфарбаванага — па паху, мусіць, настоенага на палыне — пітва са шкляной цёмнай карчажкі, размаляванай замежнымі дзівоснымі (белымі, з доўгімі хвастамі і шыямі) птушкамі.

— Мая здравіца за цябе, Усяслаў, і за наша сяброўства ды за шчаснасць Навагародскай зямлі,— затым падняў рог Расціслаў і паднёс яго да Усяслававага.

— Будзь здаровы, заступнік наш,— паліслівіла Раксана, таксама падносячы свой келіх.

Калі выпілі і закусілі халоднай закускай, падстольнікі прыбралі ўжываныя нажы, відэльцы, талеркі ды сподкі і прынеслі на вялікіх сярэбраных узорыстых падносах новыя, а потым падалі масіўную, прадаўгаватую цёмназялёную жароўню. Калі знялі вечка, дык у жароўні паказалася ружавата-карычневая авечая тушка, што яшчэ шыпела ў тлушчы.

Расціслаў сам, крэкчучы, па праве гасціннага гаспадара і ў знак вялікай павагі адрэзаў з авечага кумпяка вялікі кавалак і падаў яго Усяславу, сам паліў гэты кавал шафрана-чарнаслівавай поліўкай — што-што, а застольнічаць, весці тут рэй той любіў і ўмеў. Як толькі ён сабраўся пачаставаць яго яшчэ адной настойкай, тут паказалася гаспадарова старэйшая дачка Дабраслава. Як і маці, сярэдняга росту, паўнацелая, чарнявая, прыгожая, праўда, толькі крыху з драпежнаватым вы глядам тонкіх чорных броваў і вачэй. Яна сумелася, убачыўшы такога неспадзяванага для яе госця, хацела выскачыць адгэтуль, але яе затрымалі. Лепш сказаць, паспяшаўся гэта зрабіць Расціслаў:

— Усяслаў, ты не супраць, калі з намі пасядзіць і маладая баярыня?

— Кал і ласка,— адказаў ён, ужо крыху захмялелы.

Дабраславу пасадзілі каля яго па правай руцэ, падалі ёй, як і маці, невялікі прадаўгаваты крышталёвы келіх.

— Давай, Усяслаў, вып'ем за нашых слаўных дзяцей,— зноў падахвоціў яго да выпіўкі гаспадар. Дабраслава ж толькі на міг падняла вочы, і хоць была смелая ды бойкая, як і маці, але тут жа адвяла спогляд. Нават нібы засаромелася і прыгубіла толькі глыток віна.

На гэты раз Усяслаў хацеў толькі адпіць з рога, але Расціслаў проста змусіў яго апаражніць усё. Пасля гэтага яму здалося, што ён, ацяжэлы ад настоек і багатых ласункаў, не сядзіць, а нібы адарваўся ад долу і плыве: рукі, ногі зусім звялі, ён стаў нязграбны — вось упусціў відэлец, абярнуў падстаўку з рогам дый, мусіць, усміхаецца Дабраславе блазнавата.

«Не буду больш піць. Ні кроплі!» — загадаў сам сабе, але ён, гэты загад, зусім не такі, калі цвярозы і разважлівы, ён нібы гуллівы.

— Чаму ты, красуня, не хочаш выпіць з намі, самымі знатнымі навагародскімі мужамі? — міжволі вырываецца ў яго да Дабраславы. Тая вось падымае галоўку з какошнікам, пазірае нясмела, але ў гэтай нясмеласці вялікая жаночая сіла.

— Я не магу піць,— адказала яна.

— Але з намі трэба выпіць,— зноў міжволі настоіў ён.

— Выпі, донька, са слаўным баярынам,— папрасіла Раксана.— Ён жа гэтак уважыў нас.

— Адна? — запытала тая.

Расціслаў хапае карчажку, лье з яе ў ягоны рог. Ён замінае, адхінае рог — хмельная настойка льецца яму на рукі, на стол. Гэта, думае ён, пачынаецца ўжо звычайная, як часта бывае сярод баяр, п'янка. Зрэшты, не такая яна ўжо рэдкая і сярод князёў. Хтосьці хітры і, мабыць, вераломны выдумаў жа, як вось такім чынам не толькі падвесяліцца, але і затуманіць розум, даць волю языку ці рукам, а то і страціць звычайны чалавечы воблік.

Дабраслава прыгублівае, ён зноў выпівае — і пад настойваннем Расціслава да канца,— хмель, блазнота і бяссілле яшчэ болей запалоньваюць яго.

Неўзабаве ён заўважыў, што адгэтуль неяк незаўважна зніклі Расціслаў і Раксана, ён тут толькі з Дабраславай. Каб памагчы галаве ўтрымацца, ён падпёр падбародак далонню і навёў позірк на суседку — не, гэта не Дабраслава, гэта маладая Раксана — белатварая, з гожай шыяй і поўнымі грудзямі, вабная ды спакусная. Чаго вось варты яе пранікнёны, поўны жаночай поклічнасці позірк! Здаецца, гэтая маладзіца зараз схоніць яго на дзіва ўчэпіста за запясце і, як некалі, вар'явата, ціскане ягоную далонь да сваіх тугіх грудзей і зашэпча томна: «Усяслаў, мае грудзі спакутаваліся без тваёй дужай рукі!..» Ён будзе адсоўвацца, адрываць руку, а яна тут жа апынецца ў

яго на каленях ды апячэ сваім целам... Ды што гэта? Жаночы твар паволі расплываецца і паўстае ў змяіную галоўку, а незнаёмыя вочы проста зняможваюць апошнюю сілу і волю...

«Канец!» — мільгае ў яго свядомасці.

Змяя штосьці гаворыць, нахіляецца, дакранаецца да ягонага плечука (Дабраслава казала: «Баярын, табе, здаецца, блага. Хадзем, я пакладу цябе на пасцель».). Ад гэтага дотыку яго нібы пранізвае джалам. Ён падхапіўся, пасунуў цяжкі стол, а тое-сёе на ім і перакуліў (шкляны келіх упаў долу і пабіўся) і, спрабуючы ўстояць на ватніх нагах ды на нешта абаперціся рукамі, імтануў да вушака. Адразу за дзвярыма наткнуўся на Расціслава і Раксану, яны паімкнуліся ці падтрымаць, ці запыніць, але ён так вышчарыўся і, замахваючыся кулаком, ірвануў далей, што тыя са страхам адскочыліся, а ён выскачыў з вітальні ў баярскую грыдніцу, дзе, як паспеў яшчэ ўсвядоміць, упаў на рукі Цішука і дружын ні каў-ахоўнікаў...

2

Спаў, лепш сказаць, быў у забыцці доўга.

Калі нарэшце адплюшчыў вочы і вярнуўся да памяці — праўда, не зусім яснай, з вялікім болем, цяжарам у галаве, адразу ўбачыў паблізу сябе пры скупым святле далёкай свечкі Марылю. Тая скурчылася на падлозе і, здаецца, спала, паклаўшы голаў на край ягонага ложака. Калі паварушыў замлелымі нагамі, Марыля адхінулася і спрасоння, не зусім відушчымі вачыма ўгледзелася ў яго твар.

— Ачуняў?

— Ачуняў,— прамовіў ён, не могучы разабрацца, што цяпер: вечар альбо раніца. Акно вунь зацягнутае шаўковай начной фіранкаю, на двары ціха.

— Дзякуй Богу!— пераджагналася Марыля, паднялася на ногі і села на блізкае крэсла.— Напужаў дык напужаў ты нас, гаспадар!..

Цяпер пачаў усвядомліваць: ён не проста меў сон здаровага чалавека, ён вылежваў і выдыхваўся пасля гулянкі ў Расціслава. Ды дзе там гулянка — папоішча было. Зусім не помніць, як апынуўся дома, вось тут, на пасцелі. Толькі цьмяна ўспамінаецца, як ён грузна падымаўся з-за стала, як са страхам адхінулася ад яго маладая Раксана — не, пачакай, не яна, а яе маладая дачка-удава, Дабраслава, Раксану ён адштурхнуў за дзвярыма святліцы, а потым... Нібы суцэльная, хоць ты выкалі вока, цемра. Ва ўсім свеце.

— Шмат я спаў? — запытаў у Марылі.

— Ноч, дзень і во яшчэ адну ноч.

— Дык цяпер раніца?

— Хутка пачне ўжо світаць, голуб мой.

— Я — не голуб, Марыля,— толькі ёй адной мог сказаць тое-сёе з таго, што думаў і гняло душу.— Я — дзюдзя вялікая.

— Невінаваты ты, Усяслаў,— са слязьмі прамовіла старая жанчына і зусім нечакана бухнула перад ім на калені.— Я — вінаватая! Бі, а то і выганяй са свайго дома паскудніцу!

Ён спагадна паклаў на яе старэчы худы плячук, здаецца, усё яшчэ вялую руку:

— Хіба ты мне падносіла келіхі, а я піў па тваім змусе?

— Ты не напіўся, голуб мой. Цябе апаілі.

— Кажу ж, я — дзюдзя.

— Не! Цябе наўмысна захмялілі!

— Чаму ты так лічыш?

Марыля не паспела адказаць: у гэты час хтосьці заварушыўся, а затым падняўся з глыбокага крэсла, што было за сталом у паўцемені. Любка. Падышла сюды. Апранутая, як і на дзень. У андараку і гарсэце. Праўда, занепакоеная, а то і засмучаная.

— Другую ўжо ноч не спіць, бедная,— пашкадавала яе Марыля.— Наплакалася дык наплакалася па табе, баярын.

— Сядзь каля мяне, Любка,— папрасіў ён.

Яна павагалася, не асмельваючыся пры Марылі паказваць, што яна і Усяслаў такія ўжо зблізаныя.

— Сядзь, кал і гаспадар просіць,— загадала ёй старая.

Цяпер тая паслухала; калі прысела побач (праўда, апусціўшы вочы), Усяслаў узяў яе руку ў сваю і папрасіў:

— Выбачай мне, Любка...

Яна не забрала руку, але ўздрыгнула і ўсхліпнула.

— Баялася вельмі за цябе...— патлумачыла па-свойму ўсё гэта Марыля.— Усё дапытвалася: выжывеш ты ці не? Але, баярын, я хацела б расказаць табе тое-сёе... Няхай Любка ідзе, паспіць яшчэ крыху. Маладым патрэбен спакойны сон.

Любка памкнулася падняцца, але ён затрымаў:

— Гавары, Марыля, і пры ёй. Няхай усё чуе і ведае.

— Лепш, Усяслаў, пагаварыць без яе,— настойвала тая.— Яна яшчэ маладая. Ды і не ўсё ёй трэба ведаць.

— Што маладая, то гэта добра,— усміхнуўся.— А ведаць тое-сёе і ёй трэба... Так што, Марыля, падымайся з каленяў, сядай на крэсла і гавары пра ўсё нам абоім.

— Твая воля, баярын,— паслухала старая.— А скажу я табе пэўна: цябе, голуб, ахмялілі.

— Але дзеля чаго? Каб асаромець?

— Горш, Усяслаў. Каб ажаніць з Дабраславай.

Любчыная рука торгнулася ў ягонай далоні, а плечыкі яе ажно затрымцелі. Што ж, бадай, усё гэта праўда: упіўся б, страціў развагу ды памяць — завалаклі б на ложак, паклалі б побач голую Дабраславу і паклікалі б людзей у сведкі... Жах! Вось як мог бы ў сталыя ўжо гады трапіць у загадзя і хітра пастаўленую Расціславам і Ракcанаю пляніцу! Сам заняволіўся б, Любцы пакалечыў бы жыццё! Але хоць крыху папікні Расціслава — адразу ж адхрысціцца: што ты, дружа, я не меў такога намеру! Залішне ты недаверлівы і запасочаны!

— Яны ж, ліхадзеі, наўмысна для сваёй чорнай задумы выбралі злы дзень,— злавалася на Расціслава і Раксану Марыля.— У гэтым месяцы, у кастрычніку, два вельмі нешчаслівыя дні: адзінаццатага і трынаццатага. Надта ж благі адзінаццаты. А ты якраз на яго пайшоў да злыдняў.

— Біскуп Кірыла даўно ўжо мне гаварыў: твая Марыля — не хрысціянка, а паганка,— зноў сказаў ён з усмехам.— Патайна знаецца з чарадзеямі і варажбітамі, «чтааху» і «гатааху»[1] з імі. Глядзі, Марыля, адлучаць цябе ад царквы і загадаюць утапіць у Немане!

— А хіба я не гаварыла табе ў жніўні, што не ў той дзень ідзяце з княжычам у паход? — апраўдалася за сваё тая.

— Пра тое больш ні слова! — загадаў ён.— Гавары пра іншае: за што вінаваціш сябе перада мною?

— Я — ліхадзейка! Я ж прадчувала, што такое можа быць, але не перасцерагла цябе. Не ведала, як загаварыць з табою...

— Штосьці я цябе не зусім разумею, старая.

— Ды Раксана прасіла мяне, каб я ўгаварыла цябе ўзяць замуж яе Дабраславу!

— Вось яно што! — усклікнуў ён.— А ты? Памагала?

— Не! — усхліпнула ўжо Марыля.— Але, кажу, не паспела цябе перасцерагчы...

— Дык вось як вы хацелі мяне ажаніць! — «пакрыўдзіўся» ён.

— Павер, сын мой, я гэтага не хацела!

«Канечне, яна не зводніца,— падумаў.— А я дурань!

Знайшоў каму паверыць! Расціславу і Раксане! Што ж, няхай будзе мне яшчэ адна горкая навука!»

— Раксана — праўдзівая Лойма, чарціха,— Марыля ўжо зусім расхвалявалася.

— Чарціха, кажуць, непрыгожая, вусатая, а Раксана — красуня,— усміхнуўся ён.

---

[1] «Лічыць» і «варожыць».

— Але ў яе, як і ў чарціхі, вялікія, пад нос, цыцкі.
— Хіба вялікія грудзі не аздабляюць жанчыну?
— Чарціха яна!
— Ладна, няхай Бог карае яе ці не карае,— прамовіў ён.— Ты вось, старая, скажы мне пра іншае. Магу я ажаніцца ці не?
— Чаму не, ты ж яшчэ ў сіле мужчына,— адказала тая, выціраючы пальцамі пад вачыма слёзы.— Жаніся на здароўе, толькі не змяю, а добрую жанчыну ці дзяўчыну бяры. Каб яна табе не на бяду і гора, а на радасць была.
— Добрая парада. Матчыная,— пацешыўся ён і наўмысна мацней сціснуў Любчыну руку.— Дык каго ты вось параіш мне ўзяць за жонку?
— Воля твая, гаспадар,— адказала тая.— Цяпер ужо ні князь, ні баяры не змусяць цябе ўзяць нялюбую. Я куюю зажадаеш, тую і мецьмеш.
— Што ж,— пацвеліўся,— ажанюся. Што вось, Марыля, скажаш, калі папрашу стаць маёй жонкай нашу красуню, Любку?
— Жартуеш са старой,— махнула рукой тая, паднялася з долу і пашлэпала да бліжэйшага крэсла.
— Зусім не жартую,— сказаў ён, адчуваючы, што Любка зацішылася, а то і нямее ад дзявочага сораму і страху.
— Я хацела, баярын, пагаварыць з табой без яе,— прамовіла Марыля, па-ранейшаму маючы ў думках сваё.— Але калі ты пакінуў яе тут, дык няхай слухае.
— Кажы, Марыля,— падахвоціў ён.— Усё, што турбуе, гавары.
— Скажу я адно: песціш ты яе, Усяслаў...
— Ну-ну,— яшчэ болей натхніў.— Якія мае грахі?
— Я не кажу, што ты — ліхадзей. Але хіба ёй, падумай добра, такія беленькія ручкі мець, такія шыкоўныя ўборы насіць? Нашто ты яе гэтак срэбрам і золатам абчапляў?
— Няўжо, Марыля, яна, статная і гожая, не вартая шоўку, аздобаў усялякіх?
— Вартая, Усяслаў,— уздыхнула старая.— Але яна — не баярыня. Воява дачка. Ей, як і нам усім, трэба ўсё сваё, простае. Іначай сапсуецца. З добрага ж цеста добрая паляніца, а з добрай дзеўкі добрая і маладзіца!
— Дык што ты мне параіш?
— Пакуль яна не спесцілася, аддавай яе замуж за воя, за Любаміра. Дзяцюк аж млее па ёй.
— Позна, Марыля,— ужо сцішана і сур'ёзна адказаў ён.
— Чаму — позна? Любамір возьме яе хоць сёння.

— Наш люд, Марыля, добра кажа: «Хлопец на каня сядае, а дзеўка родзіцца і паспявае яму». Вось і Любка паспела старэйшаму.

— Каму ж гэта?

— Хіба я не казаў ужо табе пра гэта? — усміхнуўся ён.— Мне!

Любка ўнурылася, а старая, наадварот, ускінула галаву, намагаючыся ўбачыць: жартуе ён ці не? А можа, узіралася на Любку: тая кахае яго альбо мусіла паддацца?

— Гэты скарб, Марыля, ужо мой,— ён пацягнуў Любку бліжэй да сябе.— І пакуль жыць буду, нікому яго не аддам. Ты згодная, каб Любка стала гаспадыняй дому?

Марыля апусціла галаву. Цяжка было разабрацца, што ў яе на душы.

— Чаго замоўкла, старая? Не радая, што мы з Любкай злучаем свае лёсы?

— Нечакана ты ўсё рашыў, Усяслаў,— адказала яна.

— Чаму — нечакана? Хіба я сам не гадаваў яе для сябе, для новай сям'і? Хіба ты не аддавала ёй сваю душу? Калі цяпер яшчэ блаславіш нас, дык гэта будзе для мяне матчына блаславенне.

— Сыходзьцеся, жывіце разам,— прамовіла тая.— Ты будзеш яе шанаваць, яна будзе табе вернай. Але...

— Што — «але»?

— Але зведае яна баярскую зайздрасць і помету...

— Няўжо я не здолею абараніць сваю жонку?

— Дай вам Бог шчасце! — перажагналася Марыля.— Можа, з усіх нас хоць Любка пажыве па-людску, зведае радасную жаночую долю.

Старая паднялася з крэктам і пакінула іх удваіх у ягонай спальні.

— Вось што трэба мне табе сказаць...— Ужо днём запыніў на двары Усяслаў дружынніка Любаміра, маладога, але рослага, чорнавалосага воя. Захваляваўся, але заадно быў і рашучы, нават паўсвядома шукаў злосці.— Ведаю: ты заляцаешся да Любкі... Позна. Я сам хачу ўзяць яе замуж.

Звычайна смелы, нават дзёрзкі хлапчына-прыгажун аталапеў — падняў на высокі лоб густыя чорныя бровы, выцягнуў кірпаваты нос і паўразявіў нешырокі, з поўнымі вуснамі рот, паказваючы роўныя белыя, як часнок, зубы.

— Чуеш? — грозна запытаў ён, адчуваючы ў гэтую хвіліну непрыязь да свайго воя з-за таго, што той такі малады і статны.

Любамір пазіраў усё няўцямліва і ад разгубленасці замыліў ніжняй губою.

— Не чапляйся і не спрабуй павярнуць усё на сваё! — загадаў Усяслаў, сам здзіўляючыся, што можа быць гэтакі жорсткі з-за Любкі. Нібы тая — апошняя яго надзея, радасць і ўцеха, за што ён павінен змагацца з апошніх сіл.— Што да тваёй службы ў мяне, глядзі сам. Хочаш — служы, хочаш — перайдзі да іншага баярына.

Ашаломлены дружыннік так нічога яму і не адказаў, толькі схіліўся ў наклоне, калі ён адыходзіў.

Пазней, сустрэўшыся з Любкай, Любамір, поўны роспачы і крыўды, ужо не кінуўся ёй напярэймы, не развёў рукі, толькі зларадна скрывіўся:

— Баярыня!

Любка, падняўшы галаву і настырчана выставіўшы высокія грудзі, зусім не сумелася (к гэтаму часу бацькі блаславілі яе і Усяслава, дык яна перажыла ўжо сорам і боязь), зірнула ў вочы свайму залётніку спакойна, нават са спачуваннем: па характары была яна не злая, не гнеўная і не паганая.

— Са мной падражнівалася, а з баярынам гуляла!..— Папікаў-абражаў Любамір, у якога любасць раптоўна змянілася на варожасць. Ён ужо не ззяў вачыма, што бачыў яе гнуткі стан, а іскрыўся непрыязнасцю.

— Я ніколі і нічога табе не дакляроўвала,— не ў свае гады стала адказала яму Любка,— дык не маю ніякай віны перад табою. Калі ж ты сам чаго хацеў, дык я табе ў вочы казала: не чапай мяне.

— Ён жа стары для цябе,— Любамір у запале асмеліўся кінуць цень на гаспадара-баярына.

Адчуўшы крыўду — не за сябе, а за Усяслава,— Любка тут жа напала:

— Вось як ты любіш свайго гаспадара!

— А кал і гаспадар мне жыццё калечыць?!— вар'явата ўсклікнуў той.

— Эх ты! — папікнула з болем.— Як толькі твой язык паварочваецца такое гаварыць? Баярын не толькі нас, а ўсю нашу зямлю трымае, а ты!..

— Пагналася на багацце! — не слухаў яе і не сунімаўся той.— Радавітай захацела стаць!

— Не будзь такі зласлівы,— яна не пакрыўдзілася, нават шчыра папрасіла.

— А ты раскажы пра ўсё яму! Няхай садзіць мяне ў поруб! Сячэ бізунамі на канюшні! Альбо прывяжа ў лесе да дрэва і пакіне на галодную смерць!

Яна адчула, што гэта выкрыквае рэўнасць, наспачувала:

— Прашу цябе: не вінаваць яго, не лі бруд на мяне. Так ужо выйшла: я — яго. Да самай смерці.

Любамір, пачуўшы, што і як яна гаворыць, ацішыўся, а тады ці то са здзіўленнем, ці то са смуткам запытаў:

— Няўжо ён табе больш любы за ўсіх іншых?

— Больш.

— А што ты рабіла б, каб Расціслаў і Раксана змусілі яго ўзяць іхнюю Дабраславу? Пайшла б тады за мяне?

Любка адвяла вочы:

— Я тады ўтапілася б у Немане...

3

Усяслава вывелі з задумення чыесьці блізкія ўжо крокі. Ён азірнуўся: да яго паволі, спакойна, але зусім без непадступнай велічы крочыў іхні вярхоўны святаслужнік Кірыла. Чамусьці сёння ён, высокі, худы, з доўгай, па грудзіну, амаль белай барадою, у новым чорным карзне і белым клабуку, але не выпешчаны, як іншыя біскупы, здаўся вельмі старым і нядужлівым.

Усяслаў адразу ж павярнуўся і з пашанотай схіліў галаву — Кірыла, як і заўсёды, проста мусіў прыпадняць блеклую, з доўгімі паджоўклымі пальцамі руку і падставіць яе пад ягоныя вусны.

— Выбачай, дружа, калі перапыніў пасадніцкія думы,— калі Усяслаў выпрастаўся, зусім па-мірску прамовіў той, пацёр азяблыя цяпер, у кастрычніцкую слоту, рукі.

Усяслаў цёпла зірнуў у невялікія, глыбока запалыя і нібы выцвілыя, без жывой іскрынкі вочы біскупа, заадно заўважаючы, што ягоны некалі прадаўгаваты нос цяпер завастрыўся, а тоненькая і нібы без крыві, толькі сям-там з чырвонымі крапінкамі скура на шчоках абцягнула пашчэнкі, а паўнаватыя калісьці губы звузіліся і пасінелі. Ды Кірыла гаварыў усё яшчэ гучна і меў немалую духоўную моц, мог не проста ўспыхнуць, але абрынуць на нягодніка такі дакор ці гнеў, што з-за гэтага яго пабойваліся як смерды, дружыннікі і іхнія начальнікі, так і баяры. Ён нікога не абражаў і не крыўдзіў, але мог і ўмеў гаварыць кожнаму непахлебна, горкую праўду. Найперш ён, да слова, утаймоўваў баяраў Расціслава і Раксану, калі тыя, бывала, маючы падтрымку галіцка-валынскага валадара, дзёрзка паводзілі сябе з князем Ізяславам.

— Я збіраўся ісці да цябе, ваша правялебнасць,— прамовіў Усяслаў вельмі пачціва, каб добра пачулі гэта застылыя ля блізкай крапасной брамы дружыннікі-вартаўнікі.— Ды вось затрымаўся тут.

— Як разумею, ваявода і пасаднік якраз тут бачыць слабое месца ў абароне нашага замка? — запытаў Кірыла і перавёў позірк на блізкі абарончы вал, дзе была высокая, з абчасаных дубовых плашак і змацаваная жалезнымі паясамі брама, а вышэй і абапал яе, за тоўстымі шуламі, быў земляны насып, абкладзены камянямі. На ім, знадворку вельмі высозным, бадай, непрыступным, ледзь не да дзесяці сажняў[1] угору, стаялі яшчэ высокія, не дастаць рукой нават самаму выцягламу чалавеку, драўляныя сцены-гародні.

— Але, якраз тут вораг можа прарвацца ў наш дзядзінец,— цяпер ціха, каб не чулі вартавыя, адказаў ён.— Трэба спешна перарабляць гэты ўваход. Пакуль тут гэтыя брама і шулы, што састарэліся ўжо, нам няма поўнай бяспекі. Трэба пабурыць гэта і замест яго пабудаваць высокую, шматпавярховую і шырокую тоўстую мураваную вежубраму, каб яе ніхто нічым не пратараніў і не падарваў.

— Лічыш, нам не ўсцерагчыся ад чужой асады і атакі?

— Нават больш — яны непазбежныя...

Кірыла сумотна і нервова захітаў галавою. Каго могуць парадаваць хуткія беды?!

— Найперш наш цяперашні клопат — зрабіць дзядзінец непрыступным, абнавіць, папоўніць тайны спрат ежы і пітной. вады на многія месяцы. А для гэтага не варта шкадаваць ні срэбра, ні золата з княскага скарбу...

— Мудра думаеш, як сталы дзяржаўны муж,— пахваліў яго Кірыла, які, можна сказаць, быў іхнім казначэем.— Князеў наказ спаўняеш па-дзелавому...

Кірыла замоўк, але Усяслаў добра зразумеў: князь спавядаўся таму пра тое, пра што гаварыў з ім. Ясна, вярхоўны святаслужнік не супраць іхняй задумы.

Выйшла так, што яны, князь і Усяслаў, і Кірыла былі не толькі па-чалавечаму прыязныя. Яны спрыялі яму, сыну ўраджэнкі тутэйшых мясцін, заявіцца тут, паволі, год за годам, амацавацца і заснаваць біскупства на Навагародскай зямлі (праўда, памагчы яму здабыць большы, архібіскупскі, сан не здолелі: калі галіцкі Кірыла, каб лягчэй стаць мітрапалітам усяе Русі, нехаця згадзіўся на асобнае навагародскае біскупства і на амаль свайго, па маці, навагародскага біскупа, дык на большае ўзвышэнне іхняга Кірылы, зусім не рабалепнага перад ім, уладным, не дае згоды). А ён, біскуп Кірыла, спрыяе ім трымаць у паслушэнстве падначаленых святаслужнікаў, сярод якіх

---

[1] С а ж а н ь — крыху больш 2 м.

нямала галіцка-валынскіх прыхільнікаў, увесь навагародскі люд, памагае і на Радзе, і на вечы праводзіць іхнюю палітыку.

— «То не море топить корабли, то ветри,— словамі Данілы Заточніка загаварыў далей Кірыла,— не огнь творить ражежение железу, но надымание мешное; тако же и князь не самъ впадаеть в вещь, но думци вводять. З добрым думцею думая, князь высока стола добудеть, а с лихимъ думцею думая, меншего лишенъ будеть».

— Я, бедны розумам, так зразумеў, што ты, ваша правялебнасць, хваліш мяне,— зусім без гульні сказаў Усяслаў.— Аднак трэба найперш хваліць мудрасць нашага князя. Я — выканаўца ягонай волі. Да ўсяго грэшнік вялікі...— і цяжка ўздыхнуў.

— «Векую печална еси», сын мой? — ахаладалы і нядужлівы Кірыла пасміхнуўся з ягонага пакаяння. А з усмешкаю ўвачавідкі ажыла сіла, дужасць у моцнага духам старога.— Хадзем у храм, паспавядайся, аблягчы душу сваю, муж дзяржаўны і раб божы.

Яны рушылі да блізкага невялікага і невысокага трохапсіднага, з вапняковых бела-шэрых кубоў, з шырокай і плоскай абпаленай чырвонай плінфы, з трох бакоў абкружанай галерэяй прыгожай, з бліскучымі і ў слоту крыжамі царквы, якую пабудавалі ў мінулым стагоддзі полацкія дойліды, спалучыўшы візантыйскую пышнасць і сваю, полацкую натуральную і вабную прастату з тутэйшых камеи няў і цэглы, па-свойму прыдуманай муроўкі, дзе чар гавал ісся заглыбленыя і высунутыя наперад рады плінфы і цешыў вока прыемны двухколер.

Царква цяпер, у будні і хмурны дзень, была не зіхоткая і не ўрачыстая, сцішаная: у ёй скупа мігцелі толькі дзве свечачкі, астатнія, што былі на сценах пры абразах і на падвешаных да стол і срэбраных свечніцах з пазалочанымі ланцугамі, не гарэлі, дык абчасанае навошчанае сасновае і дубовае дрэва, што звычайна, пры святле, давала тут адмысловыя бляск і цяпло, мазаіка малых і вялікіх абразоў, велічны і строгі Саваоф з блакітнага і золатазоркавага купалу, суровыя і магутныя сівабародыя старыя на пасадах, за якімі цясніліся ў гурце белакрылыя юнакі, а таксама жаласныя абарваныя грэшнікі, пакліканыя трубой на Страшны суд (пры святле можна сярод іх пазнаць знаёмыя твары тутэйшых былых паганых баяраў, купцоў, старастаў),— дык вось цяпер усё гэта было ахутана своеасаблівым, халаднаватым царкоўным паўзмрокам. Але і паўзмрок не меншыў, а яшчэ большыў адменны велічны Дух, што навейваў суцішак, одум, пакаянне, даваў новую веру і духоўную моц.

Перад акенцам спавядальні, як і належыць кожнаму верніку, кім бы ты не быў, Усяслаў апусціўся на калені на пастаўленым услончыку,

апусціў позірк на біскупаву сівую ад валасоў і белую ад малакроўя шчаку і на вялікае блеклае вуха, бачачы ў ім знаёмыя доўгія белыя валасінкі.

— Дык якія твае грахі, сын мой?

— Не магу, святы ойча, устояць перад зміем. Вось і на днях заманіў мяне дадому баярын Расціслаў, наставіў усяго на стол, і я не ўтрымаўся, брыдка напіўся. Не толькі страціў развагу, але і чалавечае аблічча.

— Я чуў, што ты праз шмат гадоў зайшоў да яго і што, сапраўды, быў п'яны,— падаў голас Кірыла.— Што я магу сказаць? Толькі словамі Сіраха: «Віно карыснае для чалавечага жыцця, калі будзеш піць яго ўмеру».

— Я піў не ўмеру. Ды, лічу, Расціслаў загадзя падсыпаў у моцныя настойкі соннага парашку. Каб зваліць мяне з ног, пакласці на ложа з яго дачкой Дабраславай, паклікаць баяраў, цябе і паказаць усё гэта...

— І для чаго мог быць яго такі замысел? — па-зямному шчыра пацікавіўся Кірыла.— Каб асаромець цябе?

— Каб пачапіць мне на шыю сваю распусніцу і каб трымаць мяне ў сваіх руках, а гэта значыць, і ў руках галічан і валынцаў.

— Які бязбожнік! — абурыўся Кірыла.— Паганец! Напраўду, добра мудрыя людзі кажуць: не жывёліна ў статку каза, не звер сярод звяроў вожык, не рыба сярод рыбаў рак, не птушка сярод птушак кажан, не муж сярод мужоў, калі над ім жонка ўладарыць, не жонка сярод жонак, калі блудзіць з іншымі, не праца сярод работы — для жонкі даніну дастаўляць! Ведама: Расціслаў — папіхач у Раксаны...

— Я не ведаю, хто з іх вінаваты больш, а хто менш. Я не столькі скарджуся на прычыненую абразу, колькі дакараю сябе, ваша правялебнасць. Не павінен быў я ісці ў той дом, нічога не браць з багатага, але паганага стала.

— Грэх гэты ты хутка замоліш, сын мой, бо ён, гэты грэх, не такі ўжо вялікі.

— Затое, святы ойча, другі мой грэх большы.

— Я слухаю цябе, сын мой.

— Я спакусіў чыстую і высакародную душу...

— Патлумач, што тут і да чаго...— папрасіў Кірыла.

— Я спакусіў нязганеную, цнатлівую дзяўчыну, святы ойча...

— І хто ж не ўстояў перад такім спазорным мужчынам, як ты? Галіцка-валынская альбо літоўская баярыня? Ці якая-небудзь маладая польская шляхцянка-бежанка?

— Не, ваша правялебнасць. Я абжаньчыніў сваю пакаёўку. Цішукову дачку, Любку.

— Угаварыў ці ўзяў сілаю?

— Угаварыў.

— Засумаваў па жанчыне, не стрымаў жывую яшчэ пажаднасць?

— Гэтак і не гэтак, ваша правялебнасць.

— Дык што хочаш ад мяне: пакаяцца і папрасіць дазволу выгнаць яе з твайго дому ці, як робяць некаторыя баяры, хуценька аддаць яе замуж за якога-небудзь дружынніка?

— Не. Любка да вялікай спадобы мне...

— Слоў няма: яна простая дзяўчына, але красой сваёй можа зацьміць многіх сваіх і чужаземных баярыняў ды князёўнаў. Але...

— Я шчыра і моцна кахаю яе, дык хачу жаніцца з ёю.

— Ты, баярын, ваявода-пасаднік, першы пасля князя навагародскі муж, жадаеш узяць замуж дачку нядаўняга смерда?— здзівіўся Кірыла.

— Жадаю і мару. Я ж — не стары яшчэ мужчына, а яна, як ты добра сказаў, маладая і красы незвычайнай... Хачу жаночай шчырасці, любові, дабрыні, цяпла, быць мужам і бацькам, шчаслівым сем'янінам, бо дагэтуль, сам ведаеш, такога я не зведаў.

— Я разумею цябе, Усяслаў,— уздыхнуў спавядальнік.— Золата плавіцца агнём, а чалавек — напасцямі. Пшаніца, добра змолатая, дае чысты хлеб, а чалавек у вялікім смутку дасягае розуму сталага, а то і мудрасці. Ты зведаў шмат напасцяў і смутку, стаў мудры. Сказана: не павінны напасці, смутак, горнасць быць заўсёды, бо як моль апратку есць, так скруха доўгая — чалавечае нутро, лепш сказаць сэрца і душу. Калі ж хто паможа чалавеку ў бядзе і горы, у суме, усцешыць, узрадуе, а то і ашчасліўіць, то як вадой сцюдзёнай напоіць яго ў спякотны дзень. Дык гэтая Любка ажывіла цябе пасля жалобы?

— Ажывіла, ваша правялебнасць. Спачатку думаў, што люблю яе, як дачку сваю. Ды нядаўна зразумеў: не, кахаю яе, як жанчыну, жадаю, як жонку.

— Усцешваеш і трывожыш заадно ты мяне, Усяслаў.

— Чаму, ваша правялебнасць? Што — я ўжо не маю права на жанчыну, на сям'ю?

— Маеш, як і кожны зямны, здаровы чалавек,— уздыхнуў Кірыла даволі працягла.— Але...

— Ты не можаш блаславіць нас і пашлюбаваць?— занепакоіўся ён.

— Не ўхваляць цябе, дружа мой, ні князь, ні Рада і баяры, а то і дружыны. Ты ж чуў толькі што, каго я называў тварй суджанай. Дык жа, павер, думаюць і іншыя, нават больш — захочуць, каб жаніцьбай

сваёй ты, наш гонар і наша апірышча, падумаў не толькі пра сябе, але найперш пра ўсю Навагародскую зямлю. А для гэтага мала жаніцца з дачкой простага дружынніка...

— Ведаю. Усё ведаю, ваша правялебнасць,— сказаў Усяслаў усёй душой.— Але цяпер, сталы, буду непахісны: толькі Любка будзе маёй жонкай. Калі не законнай, царквой і Радай дазволенай, дык тайнай. Іншай жанчыны не будзе побач са мной на ложы! Ды Любка пачала ўжо насіць мае семя... Так што, ваша правялебнасць, накладзі на мяне суровую кару за тое, што ўзяў любае мне цела да шлюбу, але благаславі нас на наша шчасце.

— А Любка? Кахае цябе?

— Можаш, ваша правялебнасць, сам запытаць у яе пра гэта. Я ж веру: пакахала і яна мяне, хоча быць маёй жонкай.

— Што да мяне, Усяслаў, дык я не магу не благаславіць сэрцы, што кахаюць, імкнуцца адно да аднаго ў дабрамыснасці.

— Дзякуй, вялікі дзякуй, ваша правялебнасць. Ты ратуеш Любку ад сораму і ганьбы, а мне — мой гонар, мае імя, спрыяеш, каб я жыў паўней, як і ўсе людзі.

— Мне, Усяслаў, застаецца толькі паўтарыць тое, што мудра сказана ўжо: «Добра жена венець мужу своему и безпечалие». Веру, што красуня наша будзе сардэчнай і душэўнай, вернай табе жонкай. Дык пладзіцеся і размнажайцеся, доўжце род чалавечы і праведны. «Род правыихъ благословиться,— рече пророкъ,— и семя ихъ въ благословлении будеть».

— Дзякуй, вялікі дзякуй! — Усяслаў ад радасці і падзякі прыпаў вуснамі да біскупавай рукі.

Той жа, калі адспавядаў, назначыў сваю кару і прычасціў, папрасіў яшчэ застацца:

— Хадзем, пасаднік, пакажу табе тое, пра што ты і Рада ведаеце, але што цяпер павінен убачыць сваімі вачыма.

Усяславу прыходзілася быць не толькі ў храме, але і ў царкоўнай рызніцы, у склепе ды ў падвале (у рызніцы былі царкоўнае начынне і Кірылавы ўборы, у склепе — княскія ракі-дамавіны, а далей, у падвале,— сховы на выпадак пажару ці варожай аблогі, а таксама бочкі з ежай і крамянёвай, заўсёды пітной вадою. Тут, у падвале, ён нават ведаў тайны ход наверх, за дзядзінец); цяпер Кірыла, замкнуўшы царкву знутры і ўзяўшы запаленую свечачку, павёў яго па знаёмых сходках у вымураваны і абкладзены гладкімі камянямі цёмны падвал, куды ніколі не даходзілі ні нябеснае святло, ні зямныя гукі, дзе панавала падземная цішыня, у якой былі вельмі гулкія чалавечыя

крокі і нават шэпт, востра адчуваўся водар сырога пяску, вапны, камянёў, павуціння і дрэва ад паліц і бочак.

У праходзе — доўгім, таямнічым і нават трошкі страшнаватым, — каля сцяны з найбольш вялізнымі камянямі, перад спратам, Кірыла нечакана запыніўся.

— Запомніў, колькі крокаў прайшоў? — усміхнуўся.

— Не,— шчыра прызнаўся ён, хоць ведаў, колькі трэба ісці да спрата.

— Трэба будзе, дружа мой, добра запомніць. Якраз тут — патаемныя дзверы ў камору, дзе княскі скарб. Паспрабуй сам разгадаць таямніцу.

Усяслаў узяў пададзеную свечачку, падышоў з ёю спачатку да левай сцяны, пасля — да правай, прыгледжваўся да выцэментаваных пазоў паміж камянямі, стукаў па іх, прыкладаў вуха, намагаючыся адчуць, дзе глухі, а дзе больш гучны гук, нагінаўся, укленчваў, абмацваў выкладзены плінфай дол, стукаючы і па ім, але дарма, ніякага сакрэту адгадаць не змог.

— Каб гэтая тайніца была далей у нашым спраце, дык яе лягчэй было б знайсці і якому нашаму ліхадзею, і прышламу ворагу,— прамовіў Кірыла, супакойваючы яго за няўдачу.— Там бы запыніліся і шныпарылі б. І ўрэшце апаролі б. Тут жа, у праходзе, усе будуць ісці далей і чакаць, што там, наперадзе. Глядзі, вось куды трэба націснуць...

Той нагнуўся, упёрся адной рукой на верх, а другой знізу на, здавалася, звычайны камень — той разам з некалькімі камянямі падаўся ў сцяну, паказваючы няроўную, па форме камянёў, нішу, а потым гэтая цяжкая глыба лёгка пасунулася па жолабе ўлева, агаляючы краты з тоўстых, амаль у мужчынскае запясце, жалезных пераплеценых калоў, за якімі была прасторная камора.

Кірыла прасунуў знізу праз адтуліну ў кратах руку, мабыць, націснуў там на штосьці на адным з перакрыжаванняў, бо вось ужо лёгка пасунуў браму, але ўправа ўжо, у выемку, што была між дзвюма тоўстымі сценамі.

— Тут — і сховы для княскай сям'і ды радцаў, і княскі скарб ды яшчэ адзін спрат ежы,-пітва,— сказаў Кірыла, прапускаючы яго, сапраўды, у вялікую вымураваную камору, дзе стаяла нямала акаваных бліскучым, нержавейным жалезам драўляных скрыняў, бочак, было нямала тапчаноў і сталоў, паліц з пасудай і свечкамі.— Тут — і яшчэ адзін патаемны ход за дзядзінец, у тое месца, дзе ты, ваявода, павінен у ліхую часіну трымаць напагатове коней, вояў і запас ежы ў далёкую дарогу...

Сапраўды, ёсць далека за дзядзінцам адна непрыкметная мясціна сярод даўняга, заросла га кустоўем і дрэвамі кургана-могільніка, дзе па княскім загадзе ён мусіць тады, кал і вораг здолее ўварвацца ў дзядзінец, мець свежую конную дружыну там, за крэпасцю. Значыць, ён, гэты тайны ход, быў ужо і раней, перш чым пачалі будаваць тут царкву. Яго, мабыць, употай выкапалі па волі яшчэ Князевых прадзедаў, хоць, дзякуй Богу, ім яшчэ не было патрэбы пакарыстацца. Іначай ягоны бацька-ваявода, перадаючы яму навагародскія таямніцы, сказаў бы і пра гэта. Ці той не мог даверыць усяго нават яму, сыну? Можа, і так: прыйдзе час — уведаеш тое, што трэба табе знаць.

— Вось тут, Усяслаў,— Кірыла перапыніў яго думы і паказаў рукой на драўляныя скрыні,— наша золата, срэбра ў злітках і замежных манетах, бурштын, іншыя каштоўныя камяні, бранзалеты і пярсцёнкі тонкай работы. Усяго гэтага хопіць не толькі на задуманую табой мураваную вежу-браму, але і на большае, што можа спатрэбіцца Навагародскай зямлі. Дзе яно дастаецца і якімі сцежкамі-дарожкамі сюды трапляе, пра гэта ведае мала хто: князь і некалькі купцоў старэйшыны Богуша. Цяпер будзеш ведаць усё і ты. Але тут не ўвесь навагародскі скарб. Ёсць ён і ў Богуша ды ў яго купцоў, у старэйшыны залатнікоў Вежы, у гарадзенскага, ваўкавыескага, у слонімскага князёў, купцоў і залатнікоў. Ты, пасаднік, будзеш мусіць траціць нямала на патрэбы Навагародскай зямлі, але будзеш павінен і дбаць, каб вялікакняская казна не толькі не пусцела, а папаўнялася. А гэта значыць, што будзеш не толькі чэрпаць адсюль, але і браць ад тых, каго я толькі што назваў. Яны могуць крактаць, нават плакаць, што абяднелі, не могуць шмат даць нават на патрэбы ўсёй Навагародскай зямлі, але ты павінен будзеш быць цвёрдым і ўмець настояць ды прыціснуць тых, хто мусіць папаўняць казну, але хто намагаецца праз гэта весці сваю палітыку, нават князя спажываць для сваіх інтарэсаў...

— Ды не раз і не два бачыў, як прыходзілася князю Ізяславу збіраць на патрэбу ўсёй Навагародскай зямлі золата і срэбра, скуры, мёд ці валакно,— пахітаў галавой Усяслаў ды турботліва чэшучы пасівелую ўжо скронь.

— У адным з гэтых куфраў і грамата-наказ князя Ізяслава пра навагародскі пасад пасля яго смерці...— Зноў, як і на споведзі, нялёгка ўздыхнуў Кірыла.— Не выпадзе некалі паказаць гэта вечу мне — пакажаш ты... Так што велічыня тваёй улады, Усяслаў, ацяжарваецца яе бярэмем...

— Што праўда, то праўда,— уздыхнуў і ён.

— Хочаш — зірні на мноства зямнога багацця,— дазволіў Кірыла і, бачачы, што ён не прагне ўбачыць тое, што можа зварушыць у душы зайздрасць і хцівасць, сам падышоў да бліжэйшай, новай, яшчэ жаўтаватай ад свежасці і нацёртага воску скрыні, надняў яе паўкруглае века.

Ды Усяслаў не падышоў, не спакусіў ні вока, ні душу.

— Гэта металічная груда,— са скрухай прамовіў Кірыла,— дае хлеб, адзенне, віно, зброю, уладу. Але яна — і прычына аслепленай сквапнасці, многіх і вялікіх войнаў, гнюсных забойстваў, вельмі нізкага чалавечага падзення, хоць усё гэта рана-позна можа навекі быць пахавана пад зямлёю... Ды многія простыя і знатныя людзі, нават князі, цары і каралі дбаюць якраз пра гэта багацце, а не пра духоўнае і нябеснае... Што да цябе, дружа мой, дык я веру, што жывеш і будзеш жыць па запаведзі: «Галоўная патрэба для жыцця — вада і хлеб, і апратка, і дом, што прыкрывае нагасць... Будзь задаволены малым, як і вялікім».

— Ісцівая праўда ў гэтых словах, ваша правялебнасць,— сказаў Усяслаў, гэтым самым нібы даючы клятву не столькі аднаму з уладальнікаў таямніцы навагародскага скарбу, колькі вышэйшай духоўнай асобе, што ўведанае і ўбачанае сёння яго не спакусіць.

— Валодай усім гэтым, пасаднік, нашай зямлі на карысць, ды ўбераж цябе Усявышні! — цяпер ужо велягорна прамовіў Кірыла і асяніў яго хросным знакам.

Усяслаў у адказ не проста перажагнаўся — ад усёй душы і веры, заадно ад цяжару і велічы задуманага асвяціўся на дабрамыснасць.

— Запішам сёння ў нашым, навагародскім, летапісе,— усміхнуўся Кірыла.— «С сего дня нача правити посадник Всеслав».

— Не трэба, святы ойча,— шчыра папрасіў ён.— Дзякуй Богу, быў і ёсць у нас Вялікім Гаспадаром князь 1зяслаў. Яму і заставацца на скрыжалях гісторыі. Я — яго і Бацькаўшчыны сваёй слуга.

4

Упершыню за апошні час Любка не падкрадвалася ўпотай, а адкрыта, годна, як і трэба жонцы, праўда, апусціўшы вочы, ішла ва Усяслававу спальню.

Перад дзвярыма яе і Усяслава блаславілі, пацалавалі Цішучыха, Марыля і Цішук, і вось пасля вясельнай святочнасці, мітусні, гуляў і забаў яны засталіся толькі ўдваіх, у ярка асветленым свечкамі пакоі.

— Вытрымала тлум-шум, краса ненаглядная? — Усяслаў прытуліў Любку, ужо не ў белай, а ў свецкай, сіняй шаўковай

сукенцы, доўгавалосую, гуляючы, падёрся сваім даўгаватым носам аб яе роўненькі носік.

— Вытрымала, але не раз баялася: будзе амарока, дык асаромлюся перад людзьмі,— падаючыся да яго ўсім целам, радасна адказала яна.

— Значыць, цяжкая ўжо, дзіця носіш,— шчаслiва, як самае дарагое для яго на свеце, пагладзіў яе па стройных, пакатых плячах.— Нашае з табой чада.

— Мабыць,— спакойна, без пякучага ўжо дзявочага сораму, звыкаючыся з ім, з мужам, прамовіла яна, таксама пяшчотна пагладзіла яго па спіне.— Не было гэты раз на кашулі...

— Каго ты хочаш: здаровага і мужнага баярына-воя ці здаровенькую і прыгожанькую баярыньку?

— А ты?

— Я, канечне, хачу нашчадка, сына.

— Нараджу таго, каго ты даў мне...

— Малайчына, краса ненаглядная! — ахвотна і прагна пацалаваў яе ў шмат разоў цалаваныя за вяселле вабныя вусны, хоць раней быў не ахвотнік да пацалункаў.— Варты адказ жонкі свайму мужу! Але пара нам з табой адпачыць. Паклічу пакаёўку, каб прыбрала цябе да сну.

— Не трэба! — усклікнула.— Я сама!

— «Сама!», «сама!» — любасна папікнуў.— Ты ж — баярынава жонка! Баярыня!

— Але ўсё роўна я хачу глядзець за сабой і за табою сама. І не змушай мяне, калі ласка, на спешчанасць.

— Калі ласка,— усміхнуўся.— Тады я сам з радасцю распрану цябе і занясу на наша сямейнае ложа. Ці, патвойму, мне, баярыну, няможна такое рабіць?

А калі паспрабаваў памагчы расшпіліць ёй сукенку, яна сарамліва ўхілілася, папрасіла:

— Патушы святло.

Пакуль ён тушыў свечкі, Любка хуценька распранулася, кінула адзенне на мяккае крэсла, борздка шмыгнула пад пухавік і, мусіць, заходзячыся ад яго стыні, скруцілася ў клубок і молада заенчыла.

Калі крыху пазней, калі Любка, распрамленая, цёплая і свежая пасля нядаўняга мыцця, ужо ў цемені і цішыні ляжала на яго руцэ і тулілася голаў да ягонага плечука, з маладым трымценнем слухала, як яго другая рука пяшчотна блукае па яе сцёгнах, жываце і грудзях, нечакана ў дзверы лёгка пастукалі.

— Баярын,— пачуўся выбачальны Марылін голас.— Да цябе чалавек ад князя. Кажа, што з вельмі пільнай патрэбаю.

— Бачыш, краса ненаглядная,— ён запыніў далонь на яе тугіх і задзёртых угору грудзях,— быць баярынавай жонкай добра і нядобра. Могуць паклікаць мужа ад жонкі нават з сямейнага ложа! У любы час і надоўга!

— Калі трэба, дык трэба,— спакойна адказала яна.— Ты — пасаднік, дзяржаўны муж. Твае клопаты пра дзяржаву і ўдзень, і ўноч.

— Разумніца мая! — зноў зарадаваўся ён за Любчыну сталую не па ўзросце жаночую развагу, за яе, хоць і непісьменная, розум, пацалаваў яе і, накінуўшы на начную кашулю лёгкі і цёплы бухарскі чугай-халат (купецкі падарунак), падаўся са спальні.

За дзвярыма яго чакаў баярын Голуб — князеў старшы над усімі навагародскімі віжамі, засланымі ў чужыя землі (некалькіх чалавек накіравалі нават у далёкі і грозны Каракорум пад выглядам купца і яго слуг, хоць там уладны і фанабэрлівы вялікі каган ні перад кім не хавае сваёй вялікай задумы — намеру новага паходу на «вячэрнія краіны»). Голуб — пажылы, з пільным позіркам чарнявых вочак, амаль заўсёды маўклівы, у тым ліку і на Радах (калі гаворыць, дык мала, але важка, нібы сыпле золата), вусаты і барадаты, у сабаліным футры, з сабалінай шапкай у руцэ.

— Выбачай, пасаднік, што турбую ў такі адмысловы для цябе час,— схіліў галаву позні госць, які, як і ён, Усяслаў, можа заходзіць не толькі да баярынаў-радцаў, але і да князя ў любую часіну. Да слова, нядаўна, гэтаксама ўночы, той ужо завітваў сюды, перадаваў, што літоўскія набежнікі ўзялі мячом і сваімі грознымі дубінамі Тарапец і Таржок, шмат нахапалі лупаў, але наўгародскі князь Аляксандр даў ім цяжкі бой каля возера Жызца. Страціўшы ля дзесяці князёў і кінуўшы лупы, літоўцы мусілі ўцякаць, аляксандравыя дружыны імчалі за імі ўпагон ажно да полацкаменскіх зямель. Дык вось і цяпер Голуб зацікавіў: — Маю, Усяслаў, незвычайную навіну...

Пачуўшы гэта, Марыля шпарка пакінула іх удвух.

— Хадзем у грыдніцу,— запрасіў Усяслаў Голуба, заадно думаючы пачаставаць яго, паколькі той быў на вяселлі мала.

— Не варта,— затрымаўся і на знак ягонай рукі Голуб.— Я толькі скажу навіну і пакіну цябе.

— Што ж, гавары тут, дружа.

— Маю на руках тайнапіс нашага чалавека з Холма,— ціха прамовіў старшы віж.— Князю Данілу мангольскі ганец прывёз Батыгаву грамату.

Усяслаў наструніўся: Батыева грамата — гэта не проста сяброўскі ліст, гэта — пасланне магутнага мангольскага ўладара, перад якім трымціць Азія і Еўропа!

— У гэтай грамаце амаль адзін пералік Батыгавых пасад і тытулаў. А да яго ўсяго толькі два словы...

Усяслаў яшчэ болей напружыўся.

— Але гэтыя два словы, Усяслаў, ва ўсім мангольскія: «Аддай Галіч».

— Не два словы, а два валуны! — не ўтрымаўся, усклікнуў глыбока ўражаны Усяслаў, добра разумеючы, што «Аддай Галіч» — значыць «аддай усю Галіцка-Валынскую зямлю». А гэта ўжо сутыкае лоб у лоб з Батыем іх. Цяпер ужо не адседзішся...

Счакаўшы, запытаў:

— А што Даніла?

— Даніла, яго баяры ашаломленыя,— адказаў Голуб.— Вось усё, пасаднік, што магу пакуль сказаць табе пра навіну са сталіцы Галіцка-Валынскай зямлі. Вось такая яна, навіна...

— Навіна дык навіна!— яшчэ раз не стрымаў узрушэння Усяслаў.

— Вось які, Усяслаў, раблю табе вясельны «падарунак», змушаючы думаць не пра маладую жонку, а пра смяротэльную для нас усіх небяспеку.

Хмель, стома, сон — усё вылецела з Усяслававага цела і душы: іх выціснулі трывога і задумлівасць.

— Трэба дзякаваць табе, баярын, за такую свежую навіну, а не магу...— прызнаўся шчыра Голубу.

— Не трэба мне ніякай падзякі,— адказаў той.— Гэта — мая служба.

— Але за добрую службу трэба ўзнагародзіць. Хоць квартай медавухі.

— Часам, праўда, трэба выпіць, каб забыцца, але цяпер нам, Усяслаў, патрэбны ясныя галовы...— прамовіў той, паказваючы намер пакінуць яго сам-насам са сваімі думкамі.

— Добра кажаш, дружа,— сказаў Усяслаў, паціскаючы яму на развітанне руку.— Трэба добра падумаць, перамовіцца з князем, а потым параімся на Радзе. Ды новыя весткі з Холма павінны тое-сёе падказаць.

Вярнуўшыся да маладой жонкі, што чакала яго, Усяслаў зноў павандраваў далонню па яе пруткім целе, але, чуйна адчуўшы, што цяпер яго далонь не столькі пяшчотная ці поклічная, а шорсткая ды

гладзіць перарывіста, Любка затрымала ягоную руку на сваіх грудзях і запытала занепакоена:

— Нейкія непрыемныя весткі?

— Не,— не мог не схлусіць.— Звычайныя.

— Але ты змяніўся...

— Як, краса ненаглядная? — знайшоў душэўныя сілы, гарэзна прыгарнуў да сябе.

— Не такі, як быў нядаўна.

— А які?

— Інакшы. Далёкі нейкі.

— Выдумляеш ты штосьці.

— Не. Я адчуваю. Душой.

— Чуйная і харошая ты мая!— уцешыўся.— Вось гэта сапраўдная жонка!

— Дык што табе сказалі? — прыпаднялася над ім, хмелячы яго пяшчотным водарам шыі і грудзей, спрабуючы і ў цемені зазірнуць яму не столькі ў вочы, колькі ў душу.

— Кажу ж, звычайнае,— ён зноў уклаў яе галаў на свой плячук.— Ды не ўсё я магу гаварыць.

— Нават і мне? Цяпер? — нібы здзівілася.

— Нават і табе. Цяпер, краса ненаглядная.

— Не зусім верыш? — здаецца, у ёй успыхнула пачуццё крыўды.

— Веру. Зусім,— супакоіў.— Але ты сама нядаўна хораша казала, што я — дзяржаўны муж. А ў дзяржаўных мужоў былі, ёсць і будуць вялікія дзяржаўныя таямніцы. Павер, я, бывае, не ведаю таго, што ведае князь. І ніколі не падумаў нават крыўдзіцца на яго за гэта. Бо знаю: так часамі трэба. Ведай і ты, жонка мая любая: у мяне ёсць і будуць ад цябе такія-сякія сакрэты. Не мае, не сямейныя, а найперш дзяржаўныя.

— Разумею,— супакоілася, шэптам прамовіла Любка.

— Зноў ты — малайчына! Праўда, цяпер ты будзеш ведаць больш, чым ведала дагэтуль, але не ўсё павінна гаварыць не толькі сяброўкам, такім ліслівуцам, як Расціслаў і Раксана, але і маці з бацькам. Вось тады ты будзеш мне не проста жонка, а мае апірышча і надзея. Разумееш?

— Разумею, усё разумею. Я ніколі не буду чапляцца да цябе з лішнімі роспытамі.

Яна сцюцюрылася каля яго, як птушаня, папяшчоцілася і неўзабаве заснула, дыхаючы легка і спакойна, мабыць, і ў сне цешачыся за свой уладкаваны лес, за тое, што будзе дагледжаная і абароненая.

Ён жа, аберагаючы сон яе, маладой, шчырай, разумнай і добрай жанчыны, якую, можна сказаць, спакусіў, не мог не думаць пра новую небяспеку, што пагрозна дыхнула блізка: «Што будзе рабіць Даніла? Зноў прышле ганца і папросіць помачы ў нас і ў Міндоўга? Сваімі і нашымі сіламі будзе адстойваць сваё? Мабыць, не. Усёй нашай моцы, як і яшчэ моцы Яраслава і яго сыноў не хопіць, каб запыніць Батыгавы полчышчы. Дык што тады? А тады, бадай, адно: Даніла сам падасца да Батыгі, стане перад тым на калені і будзе выпрошваць права на сваю вотчыну ды яшчэ будзе хітраваць, шальмаваць сваіх: кажуць, у Батыгавым стане праваслаўныя князі нагаворваюць таму адзін на аднаго, і Батыга набліжае да сябе тых, хто найбольш яму дагодзіць. Ёсць звесткі, што туды на наклон паехалі ўжо наўгародскі князь Аляксандр і князь Міхаіл Чарнігаўскі — мабыць, самы большы цяперашні Данілаў непрыяцель... Хто можа загадзя ведаць, як усё там складзецца, але добра ясна і цяпер: калі там будуць перамовы, хітрыкі, нашэпты, пад'юджванні, спробы ўтрымацца ў сваім княстве хоць Батыгавым васалам, то князі будуць гандляваць і Навагародскай зямлёю, не пытаючы ў нас на гэта згоды... І, канечне ж, найбольш будзе спакушаць Батыгу нашым кавалкам Даніла...»

## 5

Сёння Усяслаў ехаў конна ў свой загародні дом ужо не толькі з дружынаю, але і з маладой жонкай. Не збіраўся везці яе з сабой, як раней не браў у паходы ці выезды першую жонку і дачку, лічачы, што ў дарозе лягчэй без жанчын і дзяцей, але перад Любчынай падзіцячаму ласкавай просьбай не ўстояў.

Цішук-цесць з маладымі воямі, асочваючы шлях і ўзгоркаваспадзістае наваколле, падаваўся паперадзе, Усяслаў з Любкай ехалі ўслед, удваіх, а за імі, прыкрываючы тыл і абоз з харчам ды адзеннем, рухалася астатняя ахова. Калі пакінулі ажыўленыя дзядзінец, пасад, а пазней мінулі мелкую Валоўку каля Гарадзечна — былога горада, папярэдніка Навагародка, калыхаліся ў сёдлах моўчкі, сцішана і радасна любуючыся высокай блакітнай нябеснай просінню і плыткімі, зверху да рэзі ў вачах беленькімі, колеру чыстага снегу, а спаднізу шараватымі аблачынамі, якія кідалі, гналі цень па зямлі, ці захапляючыся ясным, хвілінамі вельмі яркім сонцам, ад якога пал оса святла бегла ўслед за ценем, вычэрнівала аранае поле, вызяленьвала азіміну, азалочвала бярозы і выбронзвала клёны каля вёсак.

Такая пагода была другі дзень. Перад гэтым, пасля вераснёўскай пары, неба было нізкае, шэра-цёмнае, цяжкое, з яго ліў і ліў дождж.

Халаднеючы, ён астудзіў паветра, зямлю, напоўніў без меры рэчкі, лагчыны і разоры ды каляіны; гэтая мутная вада пачала траціць люстэркавую роўнядзь, сінела-змрачнела, то імчала да рэчачак ад націску плыні, то трымцела ад сцюдзёнага ветравею, то з мальбой пляскалася і пляскалася на бераг, нібы не хочучы спяшацца сплысці ў далёкі свет; лес ссырэў і ацяжэла застагнаў; пасля дождж і вецер заціхлі, дзень-два пабыло змаганне прыродных сіл, затым выяснілася, высыпалі ўночы зоркі на небе, з'явіўся месяц, ціскануў мароз, апёк, выжаўціў ці падрудзіў-падчырвоніў лісце на дрэвах, а ўслед за гэтым пыхнулі яснасць і цеплыня, абвяшчаючы пачатак сёлетняга бабскага лета — апошняй, развітальнай летняй ласкі, адмысловай красы звялай старой і маладой, ужо восеньскай зеляноты, грэючы душу прыемнымі ўспамінамі і наводзячы роздум пра блізкія змены ў прыродзе, а можа, і ў жыцці.

Час ад часу Усяслаў паварочваў галаву і радасна пазіраў на маладую спадарожніцу — Любка, здаецца, гэтай часінай таксама ззяла зямным сонейкам. У светла-рудаватай хусціне, з-пад якой высвечваўся залатымі завітушкамі край паўкруглага чырвонага аксамітнага каптура, у сінім карзне і чырвоных боціках, яна месцілася на сядле жвавай гнядой кабылкі смела і стройна: з маленства разам з братаМі ведалася з коньмі. Амаль тут жа адчуваючы ягоны захоплены позірк, таксама паварочвала голаў — вочы, увесь яе свежанькі, без маршчынак твар зіхацелі, а на поўненькіх вуснах блукала шчаслівая ўсмешка. Мабыць, ад уцехі, што ён, жадаючы не проста ўзаконіць сваю блізкасць з ёю, добра адчуў яе настрой, захаваў звычаі, яе дзявочы гонар — адным словам, быў нібы хлопец перад дзяўчынай: прыходзіў з Бялянам сватацца, заручацца і змаўляцца, падахвоціў, каб у яе бацькоўскім доме была зборная субота ці дзявочы вечар, весела, з бомкамі на дугах прыязджаў па яе з вясельнай дружынаю, сядзеў за сталом, шлюбаваўся, урачыста вёз дадому, дзе па яго просьбе Марыля сустракала іх за маці, а пасля дазволіў пышнае вяселле, нікому, ні знатнаму, ні чэлядзі, не шкадуючы хлеба, мяса і медавухі. Канечне, каб ён дбаў толькі пра сябе, ён ніколі не згадзіўся б на такія шыкоўнасць, тлум і шум, але, палічыў, усё гэта трэба найперш для Любкі, каб ёй усё запомнится назаўсёды, каб яна потым ужо, сталая, не ўспаміната сваё замужжа з сорамам і з дакорам. Цяпер вось яна пазірала яму ў вочы аддана і радасна, поклічна вабячы яго выспеленымі вуснамі. Ды ён пасаромеўся на людзях выяўляць сваю пяшчоту, дык не прыхіліў і не пацалаваў.

— Табе добра? — усміхнуўся толькі.

— Добра,— усміхнулася і яна.

— Хораша вакол? Хораша і на душы?

— Хораша. Цяпер — залатая восень.

— Можа, і залатая. Найперш для мяне.

— І для мяне. Аж не верыцца, што хутка Зюзя нагоніць зіму,— прамовіла, зірнула ўгору, агаляючы прыгожую даўгаватую шыю.— І дзе ён, лысы, барадаты, у расхрыстаным кажусе, босы дзед, хаваецца? Адкуль бярэ холад, снег? Няўжо там, у далёкай высі, лядоўня?

— Ты, як і старая Марыля, шчыра верыш, што ёсць Зюзя, Баба-Яга, Багнік, Балотнік, Ваўкалак, Дамавік, Лясун, Змей, Ярыла?

— Веру,— апусціла галаву.

— Але ж ты — хрысціянка,— без ніякага дакору, наадварот, з павагай у душы сказаў ён,— дык павінна прызнаваць толькі аднаго Бога, Творцу і Усявышняга.

— Павінна,— уздыхнула.— Але ўсе простыя людзі вераць старым багам, дык і я веру, баюся пакрыўдзіць іх. Памалюся катораму з іх — той мне і памагае.

— Каму ты малілася найбольш?

— Дзявоі ці, як яшчэ кажуць, Лялі.

— А цяпер каму будзеш пакланяцца?

— Цёці — багіні лета, замужняй кабеце.

— Ніякая ты яшчэ не хрысціянка, жывеш па законах старой веры,— прамовіў ён.— Але цяпер ды пры чужых, надта пры крыжацкіх ганцах, паслах і купцах, не гавары пра гэта. Яны лічаць нас язычнікамі, хочуць паваяваць нас мячамі, каб потым зрабіць нас «сапраўднымі хрысціянамі», гэта значыць быць над намі, сваім статкам, пастухамі.

— Я, мабыць, у душы не змянюся ніколі...

— Не мяняйся, але, кажу ж, не ўсім гавары пра сваё запаветнае.

— Як гэта нядобра, што трэба таіцца, хітраваць. Колькі зла ад гэтага.

— Такі ўжо свет гэты, Любка,— уздыхнуў ён.— Даўно ўжо, яшчэ ад нашых прабацькоў, Адама і Евы, Праўда і Дабро, мана і зло крочаць па ім побач. Бог, Творца і Усявышні, сочыць за першым, а грэшнік-ангел, злы дух, д'ябал, творыць другое, насупраць. Але каб д'ябал не меў лішняй волі, яго пасадзілі на ланцуг. Чым мы больш грашым, тым больш той ланцуг даўжэе...

Любка змаўчала, а ён, сказаўшы такое, чаму вучылі яго бацькі і што ў маладыя гады ўзяў на шчырую веру, падумаў, што і ён, мабыць, верным хрысціянінам не стаў: з гадамі задумаўся і ў многім засумняваўся. Вось лічыцца, што вяршыня чалавечых мары і шчасця — рай, той, нябесны, дзе некалі, да грэхападзення, жылі Адам і Ева.

Для таго каб трапіць туды пасля смерці, трэба тут, на зямлі, не тольКі працаваць, быць шчырым і сумленным, але і цярпець усё, каяцца за свае грахі і адкупліваць іх заўзятымі малітвамі, быць да ўсіх міласэрным, нават да сваіх уладароў і ворагаў.

Ды сам Бог не быў цярпімы і ва ўсім анельскі: ён няшчадна ды люта шпурнуў ангела-іншадумца з неба ў апраметную, а Еву і Адама, што пазналіся плоцямі, адчулі яе боль, любаярлівасць, насалоду і ў гэтым далі новае жыццё, свой працяг, завялі род чалавечы, выгнаў з раю. Канечне, з Евінымі і Адамавымі дзецьмі, нашчадкамі заявіліся чалавечыя велічныя справы і мітусня, радасць і смутак, каханне і нянавісць, узаемапомач і зайздрасць, хцівасць, нават братазабойства, пайшлі плямёны і народы белыя, жоўтыя і чорныя, просталюдзіны і паны, тайныя замыслы і змовы, мір і вайна, урэшце выйшла безліч чалавечых ахвяр і пакут, ды што было б, каб на ўсім вялікім свеце жылі толькі двое, Адам і Ева? Каб не было тваіх прадзедаў??? Бацькоў??? Цябе??? Тваіх дзяцей і ўнукаў??? Ці, скажам, каб ты, мужчына, не зведаў, не спазнаў жаночай акругласці, гібкасці ліній, лебядзінай белізны і свежасці, што, мабыць, не столькі ад праху, а колькі ад усяго зямнога, жывога — можа, ад жыватворнага дзённага і заварожлівага начнога святла, ад гонкай, а ўверсе кучомістай бронзаствольнай сасны, высокай, густой і востраверхай, зелянюткай елкі ці беластволай бярозы, што чамусьці вельмі захапляе альбо нясе лёгкі, асвяжальны смутак, ад розных кветак, рыб ці той жа лані??? А жаночая сарамлівая, хітраватая, тамлівая або іскравая злосная ўсмешка-ўспышка, яе смутак і плач, гулі ды прывярэдлівасць, яе замілаванне сваім дзіцем ці яе выгляд, калі яна, на.томленая і шчаслівая, спачывае??? А як жанчына, што кахае, падае ееііі згаладаламу на цяжкай працы мужу альбо як чакае яго з далёкага небяснечнага паходу, а пасля радасна бяжыць яму насустрач і прытуляецца, пяючы яму песню целам!!!

Дык што было б без ніякага грэху???

Ён не раз прызнаваўся на споведзях пра гэта айцу Кірылу, той не дакараў, хітаў толькі галавой: «І ты, ваявода, найперш чалавек, з цела і духу, і ты бражыш ды бунтуеш», тлумачыў усё гэта па-свойму, заклікаў каяцца і маліцца. З Любкай, канечне, пра гэта не пагаворыш: нашто муціць яе чыстую душу? Як сказаць ёй, маладой, але ўжо цяжаркай, што каханне, уцехі — гэта найперш грэх, што аддаляе ад Бога? Як жа ёй, незагартаванай яшчэ, жыць далей, у што верыць? Як ёй адкупляцца? А цалкам можна адкупіцца ад усіх грахоў толькі тым, што ўсё, што нарадзіла жанчына, павінна памерці! Але амаль усе жанчыны ўжо не толькі табе, але і самому Яму вочы

выдзеруць, калі ты замахнешся на тое, што яна нарадзіла ў любові і з болем!!! Значыць, і яны адагнаныя ад Бога??? Але ж царква бласлаўляе шлюб! Значыць, яна бласлаўляе і пэўны грэх! У імя сям'і, дзяцей, роду чалавечага, але і ў імя новага грэху! Вось і ў табе — Праўда і мана, Дабро і зло, Бог і д'ябал ды іхняя непрымірымая спрэчхса пра цела і душу, варожасць!!!

Праўда, каталіцкія святары глумяць сваю плоць, не жэняцца, як жывуць нежанатымі і крыжакі-рыцары, нібы бязгрэшныя перад Богам, але тое, што і як апошнія рабілі ў крыжовых паходах і цяпер робяць тут найперш змовамі, мячом і ядам, гэта — ніякая не святасць. Хоць многія цяперашнія святы я был і вялікія грэшнікі: яны, бачыце, пазналі сілу грэху І перамаглі яе, а шчырасць, цнота ва ўсім — мана, бо яна няведанне.

Дык што з усяго гэтага — будучи клік на Вялікі суд, узнагарода там праведнікам, а ўсім астатнім — вечнае пекла, якога ім, не па сваей вол і народжаным, хапала І тут, на зямлі? Што — сапраўды, адновіцца адзін пастыр, на ўвесь дабрадзейны статак і не будзе болей ніякіх спакусаў???

Калі пра гэта (і пра многае яшчэ іншае) добра паразважыць, дык няма ніякага дзіва ў тым, што ёсць нямала рознай ерасі, нават богаадступніцтва, што і царква, і касцёл не даюць, каб усе чыталі Біблію ды яшчэ на сваей, добразразумелай мове, змушаюць: вер, што мы кажам, і ўсё, будзеш праведны, заслужыш рай пасля адыходу ў іншы свет. Для сябе ён, Усяслаў, з усяго гэтага вывеў адно: жыві па дзесяці запаведзях, дзе ясна і мудра сказана, як трэба паводзіцца тут, на зямлі. Але хто, паклаўшы руку на сэрца, можа заявіць, што заўсёды і ўсюды спаўняе іх? І ці можна іх чалавеку споўніць?

— Што ж,— пасля гэтага роздуму Усяслаў усміхнуўся Любцы,— малілася Лялі, маліся і Цёці... Толькі, кажу, без лішняй агалоскі.

Усяслаў прыехаў сюды, у невялікі драўляны, абгароджаны высокім плашкавым тынам домік на высокім беразе Валоўкі, непадалёку ад нёманскага Лаўрышава (чамусьці вельмі любімай мясціны Міндоўгава Войшалка), не проста адпачыць пасля вяселля. Ягонае сямейнае загароднае лецішча было непадалёку Навагародка, ля гэтай жа Валоўкі, а вось тут знаходзілася яго ваяводскае прыстанішча, дзе ён звычайна запыняўся з аховаю, калі прыязджаў сюды па сваіх клопатах. Дабраўшыся, увечар папарыўся ў загадзя падрыхтаванай яго людзьмі лазенцы (у перапынку па маладой звычцы паплёхаўся ў сцюдзёнай Валоўцыт), павячэраў з Любкай і яе бацькам, добра выспаўся, дык назаўтра раненька борздка падняўся, пакінуў маладую жонку ў цёплай пасцелі і падаўся ў адно з блізкіх паселішч.

Ягоныя турботы тут, паблізу абшараў і ў нетрах Налібацкай пушчы, былі вялікія. Па дамове з Міндоўгам іхнія людзі тут разам, не замінаючы адзін аднаму, рыбачылі і палявалі, бортнічалі, а таксама здаўна капалі тут па балотах вакол Нёмана і Усы рыжа-бурую зямлю-руду. Яе звозілі ў некалькі мясцін — яны паволі, год за годам, станавіліся паселішчамі, а паселішчы — абшчынай-грамадой альбо валасцямі, дзе быў свой, абраны людам старац, які збіраў падаткі і сачыў за ладам, а таксама быў і княскі чалавек — цівун-баярын, які пыніў тут усё ад імя князя. Дык вось гэтыя паселішчы, воласці паволі станавіліся Руднямі ці Налібацкай альбо Пільнянскай Руднямі. Сюды прыводзілі жыць не толькі тутэйшых, але і захопленых у палон, а за апошнія пяць гадоў сюды (як і да суседа Міндоўга) трапіла нямала бежанцаў з разанскай, арлоўскай, курскай, бранскай, чарнігаўскай, галіцка-валынскай, польскай земляў. Зразумела, сюды бралі не ўсіх, а найперш наглядчыкаў за пажарамі і самавольствамі, сакальнічых, бабраловаў, ваўчатнікаў і мядзведзежатнікаў, бортнікаў, траўнікаў ды тых, хто ўмеў варыць і каваць жалеза, валодаў сілай раздзімаць кавальскія мяхі і гахаць молатам. З маладзейшага розназямельнага мужчынскага люду ён мог тут хутка сабраць некалькі моцных дружын, што ўмелі карыстацца зброяй і будуць мужныя ў баі. Вольнага доступу староннім у некаторыя новыя, яшчэ тайныя ад галіцкавалынскага ўладара і крыжакоў, вёскі не было. Сюды і дворскага Расціслава не ўсюды пускалі. Гэта былі ягоныя, Усяслававы, ваяводскія і ад княскага імя, уладанні, хоць уласна ягоных, баярскіх, паселішчаў, што здабывалі і яму свежы рачны ды лясны харч, тут мелася няшмат. Сям-там адным «дымам» ці адной-дзвюма сем'ямі, дварамі жылі спрадвечныя вольныя тубыльцы, а таемна ў норах ці бярлогах — беглыя, грабежнікі, забойцы і іншыя грэшнікі, дзівакі-пустэльнікі, стараверннікі-язычнікі, струплівыя людзі,— і ўсіх яму таксама трэба было трымаць пад пільным назіркам, таго-сяго вылоўліваць і караць, каб і тут, часамі ў непраходным лесе, усе адчувалі нядрэмнае навагародскае вока і цвёрдую руку, каб баяліся лішне сваволіць і нішчыць. Да ўсяго тут, воддаль, ад чужых вачэй, на абязлесеных і выраўняных мясцінах, былі сумесныя з Міндоўгам, як яны жартавалі, такавішчы, дзе навучалі маладых вояў у бегу на конях ці пешшу навыперадкі, уздагон, наладжвалі вайсковыя гульні і навучальныя баі для дружын і палкоў.

Едучы яшчэ прыцемкам па лясной сцяжыне з маладымі паўсоннымі дружыннікамі, Усяслаў узіраўся і ўслухоўваўся, хто і дзе, як і трэба, павінен яго неўзабаве запыніць. Хай толькі, сонныя цецерукі, не аклікнуць ды не перагародзяць шлях! Рухаліся ціха, але ад пры-

маразку пад капытамі коней шалясцела падшэрхлыя зямля і трава, пахруствала голле. Калі ўночы марозік, дык удзень будзе сонечна.

Вось ягоны гняды ўскінуў галаву, застрыг вушамі: непадалёку блізкія лахмаценькія елачкі з глыбай зямлі зрушыліся ўбок і з аголенай яміны спачатку выскачыў і заліўся брэхам шэра-руды, з чорнай спіною сабака крыжацкай пароды, а ўслед выімчалася трое вояў з лукамі і коп'ямі.

— Стой!— крыкнуў самы старэйшы. Як пазнаў адразу Усяслаў, дзесяцкі Мікула. Сярэдняга росту, у скураных ботах і ваўчыным кажушку. Пазнаўшы, узмахам рукі затрымаў ваяўнічага сабаку, вояў, нізка закланяўся:

— Дабрыдзень, ваявода.

— Здароў, Мікула,— затрымаўшы каня, з прыемнасцю адказаў пажылому вою.— Малайчына, што чуйны, не спіш, як мядзведзь у бярлозе.

— Сваю службу ведаем, ваявода,— той выпрастаўся, прыклаў руку да грудзіны.— І ўдзень, і ўночы бачым і чуем, якая птушка сюдою праляціць, які звер пройдзе.

— Дзякуй, стары служака,— Усяслаў нагнуўся і толькі аднаму Мікуле падаў руку. Няхай маладзейшыя на свае вочы бачаць, як цэніцца добрая служба. — Будзеш мець за гэта ўзнагароду.

Мінуўшы пост, яны рушылі да недалёкага вялікага паселішча. Чым бліжэй пад'язджалі да яго, тым выразней чуўся жылы дух — аселы і застылы ў лесе пах згарэлага прывезенага здалёк каменнага вугалю і зробленага тут, на месцы, з бярозавых і дубовых дроў свайго, драўлянага, а таксама заказытаў у носе водар распаленага жалеза, дыму. Перад высокім плотам-тынам, выйшаўшы наперад з навязаным на скурат мясцовым невялікім чорна-белым сабакам, іх запыніў высокі і плячысты самааховец. Угледзеўшы яго, бухнуў на калені і сагнуў да зямлі галаву так, што прыйшлося прытрымаць рукой аблавуху з аўчыны:

— Дабрыдзень, ваявода.

— Здароў, Ірвідуб,— адказаў, зноў рады, што і тут захоўваецца заведзены ім лад.— Адчыняй вароты, пускай нас у вёску.

Гэтае паселішча было падзеленае выезджанай калясьмі і вытаптанай нагамі дарогаю надвое: направа — гароды, а ля самага хваёвага лесу зямлянкі, накрытыя ўтравелым ужо дзірваном, паўзямлянкі пад учарнелай і парослай зялёным мохам саломаю, ціўноўскі драўляны дом з шыбінамі, а на ўзгорку драўляная цэркаўка з плошчаю для хрэснага ходу, вясковых сходаў ці суду, калодзеж з жураўлём, налева — складні з дрывамі і вугалем, задымлена-

закураныя паднавесы з печамі і кузнямі, дзе варылі і кавалі жалеза бежанцы, а таксама і тутэйшыя майстравыя людзі.

Усяслаў з аховаю ўехаў у вёску пад дружны сабачы брэх ды пад казытлівы пах дыму, што віўся праз шчыліны з зямлянак і паўзямлянак. Якраз насустрач яму ішлі гуртам ацішэлыя пасля ночы, загарэлыя ад сёлетняга яркага летняга сонца і заўсюднага блізкага агню, мурзаватыя варшчыкі і кавалі. Наблізіўшыся, уміг пасцягвалі з галоў аблавухі, агаліўшы русявыя, чорныя, светла-жоўтыя, як вычасаны лён, валасы ці жаўтаватыя лысіны, пазгіналіся, загулі на розных мовах:

— Дабрыдзень, ваявода.

— Здраствуй-здраствуй, господине.

— Добрыдэнь.

— Дзень добры, праваслаўныя,— хітнуў галавою і нахмурыся, што разам з імі няма баярына-цівуна, што той, мабыць, яшчэ храпе на ложку пасля ўчарашняй абпіўкі.

Разам з работным людам рушыў да прасторных аполкавых і накрытых дошкамі ці таксама аполкамі паднавесаў, спешыўся і адразу ж падаўся ў тую пабудову, дзе ў ранішнім зацемку спамораныя пасля бяссоннай ночы і цяжкой працы пажылыя і маладыя мужчыны запыньвалі дзьмуць мяхамі з мядзведжай і валовай скуры паветра ў печ, сабраліся каля яе шчыльным кругам. Калі ж згледзелі яго і хацелі ўшанаваць, ён строга замахаў рукамі: не, рабіце сваё, бо тут дарагая кожная хвіліна! Жалеза нельга недагрэць, але нельга і перагрэць! А жалеза — найбольшы тут мой клопат!

Тыя паслухалі, хутка адцягнулі мяхі, шпарка разбілі малатамі цэментоўку і вялікімі жалезнымі крукамі расцягнулі каменныя глыбыдах з печы, адвалілі адну, другую бліжэйшыя мураваныя з цэглы сцены — угору, убакі хлынул! зямныя, але пякельныя, слепкія яркасць і гарачыня, здаецца, адразу ж абсмалілі твар. Усяслаў не стрываў, адступіў ад пекла ці, лепш сказаць, ад пякельнай пашчы, а вось варшчыкі не схібілі, толькі заварушыліся-заскакалі і, крэкчучы, крычучы адзін аднаму, што і як рабіць, пачалі падхопліваць з усіх бакоў крукамі і вялізнымі клешчамі шараватую наздрыстую глыбу, што ляжала на раскаленым жары. Падчапілі, з гэханнем выцягнулі, кінулі на вымураваны дол і пачалі разбіваць на некалькі кавалкаў, сцёбаючы па баках яркімі іскрамі-каменьчыкамі, што магло прапаліць адзенне.

— Добра крыца! — усцешана за іхнюю працу бліснуў белымі, што часнок, зубамі чарнявы ад прыроды і яшчэ болей учарнелы ад сажы невысокі, але ўвішны, вясёлы валынец Міраслаў, борздка пад-

хапіў разам з варшчыкамваронежцам Сымонам адбіты кавалак клешчамі і, прысядаючы, паваЛок у суседні паднавес, у кузню, дзе гэтую крыцу адразу ж ускінулі на кавадла, што стаяла на тоўстай дубовай калодцы, і тут жа ўдвух пачалі дубасіць малатамі. Жалеза-крыца паволі сплюшчвалася і пакрысе траціла наздраватасць. Заляпалі вось і ў іншых кузнях. А каля разваленай печы ўжо, канечне ж, завіхаліся зваршчыкізменшчыкі — зноў ладзілі сцены печы, засыпалі туды новы вугаль і новую руду, накрывалі глыбамі, цэментавалі, прыладкоўвалі мяхі і дзьмулі, каб на другі дзень дастаць адтуль новы жалезны ўзятак.

Усяслаў любіў кавальскую работу, дык калі астуджанае паляпанае жалеза апусцілі ў горан, каб падагрэць яго, а пасля дасталі, ён шпарка скінуў з сябе, шпурнуў вобзем дёплае заечае футра, папляваў на далоні і пачаў перыць яркі кавал на пару з арлоўцам-асілкам Гаўрылам. З трох разоў, што яшчэ кавалі, ён усмак пагуляў з молатам тройчы. Кожны раз з новым напарнікам.

— О то молотобіець! — пажартаваў Міраслаў, расцягваючы рот і апушчаныя па краях чорна-сівыя вусы.

— Возьмеш памагатым? — падабрэла ўсміхнуўся Усяслаў.

— Вісьму,— загарэзнічаў той.

З хвіліну-другую ўсе разам і з гонарам пазіралі, як з гэтай кузні жалеза пераносілі ў суседнюю, каб там яго яшчэ лепей абладзіць, а потым пачаць кляпаць загатоўкі на мячы, сякеры, коп'і і шаблі, каб гэтыя загатоўкі перадаць яшчэ ў іншыя кузні, дзе іх будуць даводзіць да ладу, гартаваць, каб зброя не зазубрывалася і не ламалася аб чужую. Нейкую долю жалеза адправяць адсюль у Навагародак, у кузні і майстэрні на пасадзе, дзе з яго зробяць зброю з упрыгожаннямі, для знатных людзей, а таксама будуць кляпаць розныя прылады і начынне для гараджан і вяскоўцаў.

Пасля, выцершы рукавом жупана пот з лоба, Усяслаў моцна, пасяброўску ляпнуў па плечуку валынца, якога паважаў, нават любіў за кавальскую дбайнасць і вясёлы нораў, за душэўна-шчымлівыя песні. А калі азірнуўся вакол і нечакана ўбачыў ужо тут цівуна, каржакаватага і жывацістага баярына ажно з разанскай зямлі, Андрэя, які — чырвоны, нават азызлаваты — падладжваўся пад усіхны добры настрой і намагаўся лісліва зазірнуць у ягоныя вочы, рэзка і са злосцю ткнуў таму ў рукі цяжкі молат:

— На!

Баярын Андрэй скінуў з сябе паношанае, але ўсё роўна яшчэ шыкоўнае сабалінае футра, схапіў молат і пачаў ляпаць па новым

ярка-жоўтым жалезным кавалку — ды і нямоцна і не зусім у лад з напарнікам.

Ніхто з кавалёў, хоць многія з іх не любілі цівуна ўжо толькі за тое, што ён цівун, не хмыкнуў і не ўсміхнуўся з Андрэевай няўдаласці: кавалі — людзі цярплівыя, спаважлівыя і найчасцей маўклівыя, таксама ахвотныя да выпіўкі. А калі таўстун-цівун хутка змарыўся, дык яго тут жа падратаваў адзін з тутэйшых кавалёў, забраўшы з ягоных рук молат: жалеза хутка астывала, чырванела і пакрывалася шэра-цёмнай плеўчыыаю-луской.

— Якія маеце скаргі, просьбы, варшчыкі і кавалі? — калі ў гэтай кузні заціхла і пачалі ўжо ляпаць, рассякаючы жалеза на меншыя кавалкі ў суседняй, запытаў у прыціхлых ужо людзей Усяслаў. Ён добра ведаў, што дворскі Андрэй мала клапаціўся пра тых, хто здабываў для княства хлеб, мяса, мёд, воск ці лён, нават абіраў тых і не дазваляў скардзіцца, люта караў за «крамолу», але ён, Усяслаў, стараўся падуладны яму люд не крыўдзіць.— Не бойцеся, гаварыце мне ўсё.

Усе, нават тутэйшыя, пера вял і позіркі на самага смел ага, на ягонага любімца, Міраслава, ведаючы, што цівун Андрэй не асмеліцца пасля, кал і ён, Усяслаў, ад'едзе адгэтуль, нават пальцам зачапіць таго за праўду.

— Нуждаемся, баярын,— прамовіў той затурбавана.

— Якая ваша нястача?

— Нам трэба болей хліба, м'яса, взуцця[1]. Нам жэ, сам бачів, трэба сілы багато. А всі, бачыш, як у вас кажуць, вярнідубы! Дак і харчів всім трэба багато.

— Што яшчэ?

— І сімійнікі нашы ў етым нуждаюцца, баярын.

— Чу у? — і пры ўсіх Усяслаў грозна зірнуў на цівуна Адрэя.

— Слышал, воевода,— апусціў той галаву.

— Што— я вам мала абутку, апраткі, хлеба і мяса даю? Хоць раз сказаў табе, што гэтага ў нас мала, што нашы варшчыкі, кавалі мусяць недаядаць, хадзіць паўбосыя і паўголыя?

— Не.

— Дык не павінны калець і галець!

— Понял, воевода. Добавим всего.

— І не табе, а ім ад мяне па нядзелях па кварце медавухі!

— Как прикажешь, воевода.

---

[1] Абутку (укр.).

— Спасыба, ваявода,— пачціва падзякаваў яму нізкім наклонам Міраслаў.— Ты — наш заступнык. Многія з нас найпэрш дзеля тэбэ тут задэржуваліся.

— Строг, но справедлив и милосерд, господине,— закланяўся Гаўрыла — высокі, светлавалосы, плячысты, з расхрыстанай кашуляй на грудзіне, на якой на аборачцы вісеў драўляны крыжык.

У гэтых Міраслава, Гаўрылы і ў іншых, у таго ж баярына Андрэя нялёгкі лёс: гадоў сем — пяць таму манголы разрабавалі, спалілі іхнія гарады і вёскі, а сямейнікаў ці пабілі, ці звялі ў палон, дык яны, параненыя, ацалелыя ў адзіноце ці ў баярскай ахове, павінны былі ўцякаць з бацькоўшчыны і шукаць паратунку ажно тут. Праўда, многія, калі Батый адвалокся з Еўропы і папоўз да Іціля, падаліся адгэтуль дадому, але некаторыя, не знайшоўшы там на дзесяткі вёрст ні жылля, ні жывой душы, зноў вярнуліся сюды, каб асесці ўжо тут, у ацалелым і хлебным краі. Той-сёй ужо нават завёў тут новую сям'ю, мае дзяцей.

— Скажу шчыра,— Усяслаў прыклаў руку да грудзіны.— Я шкадаваў бы, каб мы страцілі такіх майстроў, як вы. Але таго, хто не палонны, не даўжнік, а вольны чалавек, я не магу няволіць. Ды, як самі бачыце, мы і палонных рана-позна адпускаем ці аблягчаем ім няволю.

— Спасибо за хлеб и кров,— зноў схіліў галаву Гаўрыла.— Будь, воевода, во здравии долгом, в силе большой, а мы поможем уж тебе для ратного дела.

— Ды ўжо разам павінны аберагаць наш край. Ад любога непрыяцеля, якімі б няўкорнымі, а на самай справе хіжымі намерамі ён не прыкрываўся б.

— Истинные слова,— згадзіўся Гаўрыла.— Есть ли угроза нам, воевода?

— Можа быць. З усіх бакоў.

— Давай знак, воевода. Все как один, мечи и копья в руки возьмем, край защитим. Хотя,— Гаўрыла перажагнаўся,— не доведи господь, чтобы сюда ринулись мунгалы. Злы и люты, аки дикие псы. Сами махонькие, лошадки ихние маленькие, но их тьма-тьмущая. Их не сдержать, все озверевшие, страшные, лезут и лезут друг за другом, бьют без пощады здорового и раненого, потом все расхватывают, жгут, арканят и тянут в полон, после них — попелища и мертвая земля... Русь Великую опрокинули!.. Теперь всех уцелевших держат в узде: и князьев, и бояр, и челедина. Всех душат за непослушание...

— Будзем, Гаўрыла, абараняцца і супраць гэтай дзікай і страшнай навалы,— прамовіў ён.

— Будем, господине.

Затым, калі ўднелай раніцай, пад нізкім няцёплым, але яркім сонцам, што вызяленьвала вакольны лес і высветліла вёску з чорнымі ад дыму саламянымі і абкладзенымі дзірваном стрэхамі, ішлі ўдвух з цівуном, Усяслаў не мог не абурыцца:

— Дзе тваё баярскае слова, Андрэй? На Радзе, перад самім князем Ізяславам кляўся не напівацца без меры, працаваць на моц зямлі нашай, але слова сваё парушаеш. Гэта — вялікая правіна і ганьба.

— Извини, воевода,— хмурна павініўся той, ідучы поплеч і раз за разам выціраючы рукавом футра халодны пот з лоба.— Уныние большое на душе, а бес тут как тут...

— Я разумею, што ты хочаш сказаць. Тое ж, што нядаўна добра сказаў Гаўрыла,— мякчэй прамовіў Усяслаў.— Кожнаму мілы той куток, дзе яму рэзалі пупок. Так?

— Может, и глубже...

— Кажу ж, разумею ўсё, але хіба табе, тваёй сям'і, людзям тваім тут кепскі прытулак? Вы ж для нас — не госці, адзінаверныя браты. Усе. Баяры і смерды. Здаровыя і параненыя. Старыя і малыя. Ты — княскі цівун над столькімі паселішчамі! Ты даеш жалеза! Зброю! Моц! Мы кажам табе: дзякуй вялікі!

— Так, воевода. Все так. Но, поверь, одолевает грусть. Я хочу в свою Русь!

— Тут табе зусім чужая Русь?

— Не чужая, близкая, но здесь, извини, все же другая Русь. Со своей стариной, со своими обычаями, со своим говором,— горача загаварыў Андрэй.— Поверь, у нас там другое раздолье полей, другое небо, солнце, другие морозы и вьюги, иначе хлеба растут, иначе женщины одеваются и поют! Другие игрища, шалости, удальство, ухарство, боевая потеха, дабы не только душу, но и кровь взыграть! Остановить пятерку-шестерку за колесо... Быка за рога одолеть... Итиль в лодке в ледоход переехать... Бои оглоблями, кулаками или стенка на стенку... Пить на спор, кто первый замертво упадет... Зазнобу-отраду у мужа украсть...— Супакоіўся, уздыхнуў.— Поверь, для меня все дорого, даже какие-то вздор, нелепица! Я вот за десятки верст езживал, дабы знаменитого враля послушать, дабы с гром-бабой, что мужиков ложила на лопатки, схватиться крест-накрест! А у вас все более умеренно, спокойно. Есть игры забавные, но... не дерзкие и не отчаянные...

— Які край, такі і звычай,— сказаў Усяслаў.— Але калі мусіш быць тут, дык, будзь ласкаў, не нарушай наш лад, не сей заганы і хібы. На жаль вялікі, усё, што праціўна праўдзе і дабру, плодзіцца

хутка і моцна. Хоць па веры сваёй мы павінны не паддавацца на зміевы спакусы, адмольваць грахі.

— Все так, воевода.

— Але мала слоў тваіх, Андрэй. Я табе казаў ужо і яшчэ раз паўтару: каб твая баярыня была не цяжарная, дык я даў бы табе коней, хлеба, апратку, ахову з тваіх людзей і адправіў бы з вачэй. Едзь куды хочаш, шукай больш цярплівых і зычлівых! Але не будзь злоўжытны, Андрэй! Спагада мая не без межаў! Чуеш?

— Чую,— вінавата пагадзіўся той.— Извини, пожалуйста.— А потым паддобрыўся: — Может, зайдешь позавтракать?

— Хочаш, каб жонка падала не толькі мне, але і табе медавухі? — па кпі ў ён.

— Нет.

— Іншым разам, Андрэй, можа, і зайшоў бы, уважыў тваю добрую гаспадыню. Сёння — не, каб не спакушаць яе гасціннасць. Ды з раніцы і ў будні дні не п'ю. А ты лячыся зваранай кіслай капустаю, «горячими щями», як вы кажаце. Добра выганяе хмельную смагу і пакуту!

6

Сціпла, але ўсмак паснедаўшы і заадно папалуднаваўшы ўсім поеным у тутэйшага знаёмага папа, а потым пакінуўшы вёску варшчыкаў жалеза і кавалёў, Усяслаў не мог не збочыць са сваёй дарогі, каб зазірнуць на бліжэйшае «такавішча», дзе, як яму сказалі яшныя пушчанскія дазорцы, сусед Міндоўг правярае і навучае свае дружыны перад хуткім паходам на крыжакоў. Што гэта так неўзабаве і пачулася: па лесе пакацілася рэха шматгалосага гулу і жалезнага ляску. Як і трэба, Усяслава з вартаю вось затрымаў літоўскі пост. Старшы, дзесяцкі, адразу ж пазнаў яго, павыбачаўся за затрымку і па ела ў тут жа ганца на кані ў Міндоўгаў лагер. Ганец хутка вярнуўся, з паклонам запрасіў гасцей да свайго князя, потым жвава прывёў іх да невялікай зацішнай і ярка асвечанай сонцам палянкі, да паходнага, абкладзенага выдубленымі скурамі шатра, дзе яго сустрэлі рослыя Міндоўг, ваявода Хвал і еярэдняга росту Войшалк.

Літоўскі валадар, Міндоўг, пры сонцы яшчэ болей агніста рыжы, быў у бліскучым, вызалачаным унізе стужкаю і ўквечаным бурштынам і іншымі каштоўнымі камянямі шлеме-шышаку з навушнікамі з завостранымі металічнымі ахоўнікамі і металічным нашыйнікам, у скураных латах з металічнымі завостранымі нагруднікамі, пры шырокім скураным, упрыгожаным залатымі бляшкамі поясе, з якога звісаў меч, у цёплых шарсцяных, паалеены х на каленях .скураю штанах і ў

мяккіх жаўтаватых ботах, быў кідка ваяўнічы і грозны для таго, хто яго не ведае. У гэткія ж баявыя даспехі апрануўся і светла-жаўтаваты на бровах і на вусах ды барадзе Хвал, толькі ўпрыгожанне на ім было найбольш са срэбра. Войшалк — а ён, сапраўды, болей надобны на маці нейкай адной белізною, вялікімі вачыма і з сумам-пакутаю ці з манаскім спакоем у іх — стаяў у лісінай, акаймаванай гарнастаем магерцы, у лісіным наўкажушку і ў такіх жа, як і ў бацькі, ботах. Значыць, ён у па ход на крыжакоў не збіраўся. Нават, можа, знаходзіцца тут не па сваёй, а па бацькавай волі.

Заўважыўшы, што Усяслаў асабліва цёпла пазірае на Войшалка, Міндоўг, падаючы яму руку, сказаў з лёгкім дакорам:

— Хвалаў і твой пястун не хоча быць баявым князем. Ён жадае дабівацца свайго не зброяю, а верай.

— І палітыкай, і дыпламатыяй...— заступіўся за свайго любімца Усяслаў.— А гэта таксама магутная зброя!

— Магутная, але найперш поспех прыносіць во ён,— Міндоўг вольнай рукою прыпадняў меч.— Кал і шмат сілы, дык тады любая твая дыпламатыя і палітыка возьмуць верх.

— Усяк бывае,— прамовіў Усяслаў, хоць добра разумеў, што Міндоўг якраз сілаю захапіў вяршэнства ў Літве, грозны ці патрэбны для суседзяў. З гэтым, канечне, нельга не лічыцца.

— Заехаў, князь, шчыра паспачуваць табе,— Усяслаў пасур'ёзнеў.

Усмешлівы дагэтуль Міндоўг звёў на пераноссі светларыжыя бровы і агладзіў такога ж колеру доўгія вусы і бараду, што амаль сыходзіліся, пакідаючы толькі шчылінку паміж чырванаватымі вуснамі, здаецца, вельмі здзівіўся: чаму спачуваеш, сусед?

— Восем баявых тваіх і нальнанскіх князёў страцілі вы,— напомніў Усяслаў нядаўнія літоўскія ахвяры ў паходзе на землі Таржка і Таропца, дзе іх дагнаў і пабіў князь Аляксандр.

— А...— даўмеўся Міндоўг, адпусціў яшную руку. Не засмуціўся, нават нібы абурыўся на нябожчыкаў: — Вояў шмат загубілі, палон не прывялі, амаль усе лупы пакінулі і самі без славы склалі галовы!..

«Шмат на Літве князёў, дык Міндоўг, мусіць, і рады, што іх, супернікаў, крыху паменела».

Пакуль той супіўся, Усяслаў за гэты час паздароўкаўся з Войшалкам і Хвалам-ваяводаю, з якімі нядаўна бачыўся на сваім вяселлі.

— Ну, як з маладою жонкай?— зноў усміхнуўся Міндоўг.— Маладзееш душою?

Усяслаў палічыў нявартым адказваць такім жа тонам перад юным Войшалкам: таму, як і яго маці, хапіла гаркоты з-за Міндоўгавых юру і шалу з іншымі жанчынамі.

— Ды не каюся, князь, што ажаніўся,— усміхнуўся.— Цяпер будзе наш клопат княжыча ажаніць,— і прыхіліў таго да сябе.

— О! — насмешліва махнуў рукой Міндоўг.— Мусіць, яшчэ не нарадзілася тая, якой бы ён захапіўся. Здаецца, абыякавы да жанчын, як і да ваярства. Нават з самымі красунямі вядзе толькі духоўныя размовы.

Усё гэта было якраз так, але Міндоўгу-бацьку не трэба было вось гэтак гаварыць пра свайго сына — ад пачутых слоў Войшалк уміг зачырванеўся, аж да плямін на добра выгаленых шчоках. Каб супакоіць маладога сябрука, Усяслаў падхваліў яго:

— А я вось веру: княжыча чакае вялікі і слаўны лес.

— Дай Бог,— супакоіўся Міндоўг, тут жа зноў ажывіўся: — Хочаш, Усяслаў, наладжу, як крыжакі кажуць, рыттэльтурнэн?[1]

— Калі будзе твая ласка, князь, дык пакажы, якія твае сталыя і маладыя вoi, якія хопкія, як умеюць абыходзіцца са зброяй.

— Мо і сам зажадаеш праверыць свае спрыт і сілу ў паядынку з маімі лепшымі воямі? У мяне заявіліся новыя асілкі!

— Паглядзім, князь,— адказаў ён,— хоць мне ўжо і не так лёгка змагацца з маладымі.

— Не хітруй,— па-сяброўску ляпнуў яго па плячы Міндоўг.— Ты і цяпер не збаішся сустрэцца сам-насам з мядзведзем, калі будзеш мець у руках нож!

— Цяпер я ўжо не шукаю такой сустрэчы, князь,— усміхнуўся Усяслаў, бо не раз за апошнія гады дакараў сябе за лішнюю, неразумную адвагу.— Часамі неабдуманая смеласць і дурнота — адно і тое ж.

— Але без смеласці не абысціся, Усяслаў. Яе вельмі баяцца непрыяцелі і ворагі. Найперш з-за смеласці квітнее Літва.

— Ды калі яшчэ яе прыкрыць грудзьмі Полацака, Менска ды Навагародка...— падкузьміў ён.

Міндоўг, ужо ідучы з гэтай да большай, нават агромністай паляны, на хаду прыабняў яго за плечы:

— Наша смеласць і ваяўнічасць ды ваша развага і мужнасць — вялікая рэч, дружа. Шкадую, што ты не ідзеш разам са мной на крыжакоў! Ім трэба моцна даць у зубы! Яны, як добра ведаеш, лічацца найперш з ёю.

---

[1] Рыцарскую гімнастыку (ням.).

— Ім, канечне, трэба адбіць ахвоту зырыцца сюды, на вашы і нашы землі. Але...— уздыхнуў Усяслаў.— Я не магу цяпер надоўга пакінуць князя.

— Іншым разам, скажу шчыра, падумаў бы, што выкручваешся ісці з намі, язычнікамі, на хрысціян, але цяпер ведаю: ты не павінен рызыкаваць сваім жыццём. Не трэба вельмі радаваць «цэсара» з Холма!..

— Я таксама толькі што падумаў пра таго, князь,— сказаў Усяслаў.— Яму прыйшоў ад Батыгі грозны загад...

— Які?— Міндоўг ад такой навіны ажно не толькі запыніўся, а прысеў, як абстраляны стралой заяц, залытальна ўперыў позірк у яго вочы.

Бачачы гэта, Усяслаў адразу ж прызнаўся ў тым, што ўведаў:

— Загад вельмі кароткі: «Аддай Галіч».

Як і ён на днях, так цяпер і Міндоўг ашаламіўся, найперш, канечне, падумаўшы пра сябе.

— Батыгавы і крыжацкія клешчы сціскаюцца...— Пасля той уголас выказаў свае думкі.— Ну, а што Даніла?

— Думае, абхапіўшы аберуч галаву.

— Ганца да вас не прыслаў?

— Не.

— І да мяне — не. Значыць, абараняцца не збіраецца,— зноў уголас паразважаў Міндоўг.— Тады — адно з двух: альбо яму пакорліва аддаць сваю вотчыну, каб яе ўручылі каму-небудзь іншаму, альбо самому ехаць да Батыгі і станавіцца на калені.

— Відаць, князь, ведаеш: паехалі да Батыгі Міхаіл Чарнігаўскі, Аляксандр з Ноўгарада, а яго бацька, Яраслаў з Уладзіміра, падаўся на паклон ажно ў Каракорум.

Міндоўг, па-рысінаму прыжмурыўшыся, скасіў вочы на Хвала: чаму я ўсяго гэтага не ведаю?

Нібы не заўважыўшы гэтага, Усяслаў дадаў:

— Значыць, Данілу застаецца толькі адно: імчацца ўслед, каб не запазніцца...

— Даніла будзе гандлявацца і вамі...— пахітаў галавою Міндоўг.

— Будзе.

— Дык, можа, мне не ісці на крыжакоў, прыберагчы сілу?

— Ідзі,— сказаў Усяслаў.— Хоць з аднаго боку, але не давай самкнуцца кляшчам. Гэты паход — не проста набег. Ён для нас і для нашых суседзяў — абарона і паратунак: ты апярэдзіш іхні паход сюды. Як ты добра сказаў, вось тут той выпадак, калі трэба ўжыць палітыку і дыпламатыю праз сілу.

— Пайду,— цвёрда прамовіў Міндоўг.— Сіла тут павінна даць яшчэ іншую палітыку і дыпламатыю: аб'яднаць вакол Літвы ўсіх язычнікаў, умацаваць там мае вяршэнства.

— Ёсць яшчэ і іншы ход,— нарэшце падаў гол ас маўклівы Войшалк,— трэба ахрысціць Літву, язычнікаў-суседзяў. Верою ад Усходу. Каб наш люд быў яшчэ бліжэй да навагародскага. А пачнем з таго, што манастыр паблізу, каля Немана, паставім.

Міндоўг, канечне ж, не раз ужо чуючы гэта ад сына (таму пра гэта ўкладвалі ў вушы князь Ізяслаў і ён, Усяслаў), ажно пыхнуў незадаволенасцю, але прамовіў ціха, скрозь зубы:

— Мой дзед, бацька, я, княгіня, ты — хрысціяне. Але хто — ты дакажаш іншым нашым князям і кунігасам, баярам, простаму люду, што старажытная язычніцкая вера горшыя за хрысціянскую? Што трэба не шмат багоў, кожны з якіх беражэ сваё — ці то лес, раку, звера, рыбу, кожную кузюрку, ці то дом і іхні лад,— а патрэбен адзін? Заваюеш давер і любоў, што новую веру будзеш уводзіць сілаю? Ды калі новай верай пачнеш разбураць сваю даўніну, свае звычаі? Калі пачнеш траціць сваё аблічча?

— Адзін Бог, Творца і Уладар,— як і часта было раней, мяккі і сарамлівы Войшалк загаварыў непахісна і жорстка,— умацуе тваю вярхоўную ўладу, што будзе ад Яго! Мунгалы заваявалі паўсвета, а то і ўвесь свет, апроч нас і нашых суседзяў, цяпер пад імі, але самі ідуць пад аднаго Бога. Што да хрысціянства, дык яно, як відаць па Навагародку не знішчае старую веру, а ўбірае яе ў сябе. Ды трэба мысліць цвяроза: наш язычніцкі астравок не ацалее, ранапозна яго ахрысціяняць. Калі не дыпламатыяй і палітыкай, дык мячом.

Міндоўг адвёў позірк ад сына, перавёў яго на Усяслава, але зірнуў ужо мякка:

— Скажы шчыра, суседзе дарагі, наша хрышчэнне па веры Усходу запыніць крыжацкую агрэсію? Запыняе яе на вашы, хрысціянскія, землі?

— Не,— шчыра адказаў ён.

— А што, суседзе дарагі, будзе значыць хрышчэнне па веры крыжакоў?

— Нянавісць праслаўнага свету і крыжацкая альбо рымакаталіцкая няволя.

— Чуеш?— Міндоўг рэзка павярнуўся да сына.— Я не меней цябе ведаю, што рана-позна будзем змушаныя хрысціць язычніцкія землі, але пакуль што рабіць гэтага не трэба. Мае ворагі ўміг спажывуць гэта: глядзіце, Міндоўг руйнуе бацькоўскія веру і звычаі! Уладу ў Літве, вяршэнства над усімі язычнікамі нацкаваны на нас люд

перадасць Даспрункавым сынам, а нас з табой ці зарэжуць, ці выганяць... Ці не так, Усяслаў?

— А кажаш, што найперш вой, а не дыпламат і палітык! — усміхнуўся ён.— Страціг! Адзін з буйнейшых у нашым часе!

Гэта, хоць і сказанае паўжартам, не магло не ўсцешыць самалюбнага і ўладнага Міндоўга. Ды хто не любіць пахвалы, нават часамі і ад нягоднага чалавека?! Ды, заўважыў, гэтая пахвала не зусім спадабалася Войшалку: той, як вядома, з бацькам чужаватыя адно аднаму.

— Не качан жа капусты, а галаву маю на шыі! — сам сябе пахваліў і Міндоўг.— Не дурнейшы за Данілу ці за хвалёнага Аляксандра з Ноўгарада, які павінен ганарыцца не толькі сваім розумам, сваёй сілай, але і магутнай падпорай Полацака! Яшчэ паглядзім: хто — каго!

«Добра разабраўся наш князь,— падумаў Усяслаў.— Як ніхто, нам патрэбен цяпер якраз Міндоўг. Праўда, закілзваць, накідаць на яго сядло і садзіцца туды трэба ўдала, цешачы, вельмі не выяўляючы сваёй волі...»

Яны зрушыліся, падышлі да агромністай добра разраўнянай і ўтаптанай, толькі дзе-нідзе з кучомкамі шэрай травы паляны, дзе забаўляліся, набіраліся спрыту Міндоўгавы апранутыя ў лёгкія, найбольш са скуры, даспехі воі: пешцы мечавалі паміж сабой, лучнікі цэліліся з лукаў у прыбітыя да слупоў драўляныя плашкі, конныя на хаду пароліі коп'ямі ці білі мячамі напхнутыя сенам і абшытыя скурай чучалы ў чалавечы рост, а яшчэ некаторыя на конях дубінамі ці баявымі сякерамі таксама на скаку лупілі па прыціснутых да слупоў чучалах, увабраных у захопленыя ў крыжакоў жалезныя даспехі,— правяралі моц чужога металу і дужасць сваёй рукі. Навучаў тут Міндоўгаў малодшы ваявода, разанскі баярын Яўстафій, які ўжо загартаваўся ў бітвах з манголамі.

— Дык хочаш рыттэльтурнэр? — запытаў Міндоўг ва Усяслава, бачачы, што яму падабаюцца варухлівыя і дужыя літоўскія воі, смеласць і сілу якіх многія суседзі зведалі ўжо з даўніх часоў.

— Што ж, рыстань — не толькі забава, але і навука, ваярскае ўменне,— адказаў ён.— Пакажы сваіх удальцоў. Можа, здолею ўбачыць які агрэх.

Міндоўг падняў руку — Хвал затрубіў у вялікі чорны, з сярэбранай аправай свой, ваяводскі, тураў рог; гульневы бой мігам запыніўся; усе павярнуліся на вядомы кожнаму сігнал.

— Полк!— зычна крыкнуў Хвал.— Пешцы — у шыхты налева, конныя — у шыхты направа!

Яўстафій, тысяцкія, содкія пачалі камандаваць сваім воям, што беглі, дзе каму станавіцца,— хутка па абодва бакі паляны насупраць адна адной роўнымі шэрагамі насталі баявыя сотні.

— Полк, зважай! — зноў зычна пачуўся ў цішыні Хвалаў голас.— Слухай князя нашага, Мендога!

Той, ледзь стрымліваючы закілзанага белага, у чорныя яблыкі жарабца, таксама азваўся гучна:

— Воі мае, нас наведаў слаўны навагародскі ваявода, муж і наш сябар баярын Усяслаў. Ён, як ведаеце, спрыяе нам, дык цяпер пакажам яму, што ўсё, што трапляе ад яго нам, дастаецца. ў добрыя рукі. Пакажам нашы сілу і спрыт, а ён няхай справядліва ўсё ацэніць.

Потым — па Хвалавай камандзе — яны усе разам убачылі паядынкі мечавікоў, сутычкі з чучаламі лучнікоў, сякернікаў, капейнікаў і дубіншчыкаў, а рыстань пачалі закончваць капейнікі на конях — тупымі канцамі коп'яў збіваць з коней седакоў. І ўсё гэта было пад гул, смех, выкрыкі соцень людзей, кожны з якіх хацеў вызначыцца сам, ухваляў пераможцаў і насміхаўся з няўдачнікаў.

— Дык жадаеш, Усяслаў, памерацца-падужацца з маім лепшым капейшчыкам? — усміхнуўся, пачаў спакушаць Міндоўг.

— Усё ж не церпіцца ўбачыць мяне скінутым з каня?— з усмешкам адказаў ён.

— Гэты можа скінуць. І цябе. Дык не супраць саступіць яму славу?

— Слава прыходзіць сама,— прамовіў Усяслаў.— Як суджана, то не міне.

Адчуў: не можа ўжо адступіць, хоць добра разумеў, што Міндоўг пакінуў для яго ці, лепш сказаць, для сваёй славы не абы-каго.

— Князь згодзіцца, каб я паводзіўся не зусім па рыдзельскіх канонах?

— Як хочаш,— адказаў Міндоўг.— Зможаш — дай урок маладому.

Усяслаў спешыўся з каня і пайшоў у шацёр Яўстафія пераапранацца. Той даў яму са сваёй радзімы цёплую паддзёўку, шолам з высокім, як у звона, верхам і доўгім шпілем, але без барміцы, пласцінкавы шэры панцыр, а ў гэты час, як чуў, Міндоўг паклікаў і штосьці гаварыў свайму вою. Калі Усяслаў выйшаў з шатра, дык убачыў ужо на кані свайш суперніка — незнаёмага, яшчэ маладога, толькі ледзь-ледзь з пачарнелым шчаціннем, але плячыстага, дужага дзецюка, які быў ужо з круглым драўляна-скураным, акаймаваным жалезам шчытом і кап'ём, пазіраў на яго спадылба. Сядзеў на кані стромка, бадай, толькі крыху цяжкавата.

Усяслаў сеў на свайго вернага каня, які разумеў яго, можна сказаць, з паўслова і на тон свісту. Яўстафавы дружыннікі яму, як знатнаму, падалі на выбар некалькі трохкутніх, з перагібам чырвоных, з бела-жоўтымі сярдзітымі львамі, што стаялі на задніх лапах, шчытоў (яны з радзімы Яўстафія), а таксама і некалькі коп'яў. Ён выбраў тое, на што легла вока, а пасля ўзважыла рука, і пад'ехаў да маладога ратаборцы, каб павітаць яго. Той, застылы, нават крыху збялелы (твар худы, з рыжымі крапінкамі, вочы блакітныя, валасы, здаецца, светлыя), адказаў яму яшчэ большым паклонам.

Раз'ехаліся на пазначаныя Яўстафіем пазіцыі. Усяслаў ехаў, разварочваўся, ямчэй браў у левую руку шчыт, а правай падбіраў, дзе лепш узяць, сціснуць мёртва дрэўка, каб яно хутчэй даткнулася да супернікавага шчыта і ўклала ўсю ягоную сілу, і не гадаў, як на самае маленечкае імгненне апярэдзіць, нават нібы зусім не думаў. На самай справе гэта была ўжо сталая, халодная развага. Калі па Яўстафавым сігнале ткнуў шпорамі каня і той падскочыў, рвануў наперад, ведаючы, што гэта паядынак, калі разважаў, як накіраваць свайго скакуна, каб той і не ўдарыўся персямі з тым канем, і не панёсся задалёка, бачачы, што малады вой нацэліўся з самага пачатку на ўдар, Усяславава мысленне само рашыла па-свойму: праверыць, як той сядзіць у сядле. Хоць малады асілак струнка наставіў тупы канец кап'я, цэлячыся яму ў грудзі, Усяслаў яшчэ не падымаў сваю зброю, а пасля, калі супернікава кап'ё было за локаць да ягонага каня, ён нечакана шпарка нырнуў галавой уніз, нават крыху нахіліўся набок, але не перашкодзіў каню несціся ў шалёным галопе. Чужое кап'ё прасвістала побач, а літовец праскочыў міма. Ён жа раптоўна асадзіў свайго гнядога, аж той узвіўся на заднія ногі і ледзь не скінуў яго з сядла, а калі павярнуўся, то ўбачыў: супернік уклаў такую сілу ва ўдар, што, бухнуўшы ў пустэчу, не ўтрымаўся, зваліўся і сваім цяжарам змусіў спатыкнуцца каня. Абое рухнулі долу, прасунуліся крыху па ім. Бедны конь адчайна задрыгаў заднімі нагамі, спрабаваў падхапіцца, каб не загнявіць ездака, але не мог. Не здольваў падняцца і ягоны гаспадар.

Воінскія шыхты загулі — ці то незадаволена ад нечаканага Усяслававага манеўра, ці то са спачуваннем ад промаху свайго асілка.

Калі нарэшце вой выблытаў нагу са стрэмені і даў каню падхапіцца, сам, паспеўшы выхапіць са стрэмені і другую нагу, лежачы на баку, павярнуўся да яго: у ягоных вачах застыла ашаломленасць, а правая шчака была садраная, скрозь бруд сачылася кроў. Усяслаў не захацеў прыціскаць яго кап'ём да зямлі, запыніўся побач і запытаў:

— Цэлы?

— Цэлы,— буркнуў той. У вачах ашаломленасць змяніў ужо сорам.

— Як зваць цябе, дзяцюк?

— Лоў.

— Табе ваш князь гаварыў, што мы будзем змагацца не зусім па рыдзельскіх канонах?

— Гаварыў.

— Ты сутыкаўся ўжо з крыжакамі?

— Яшчэ не.

— Дык ведай, Лоў: яны гуляюць, нават б'юцца па канонах толькі са сваімі і пры сваіх. У сечах з іншымі, з вамі, язычнікамі, найперш, яны мала зважаюць на свае каноны, робяць усё, каб перамагчы. Дык трэба быць з імі вельмі пільным. Як сам убачыў, можна скуліць з каня суперніка і бяззбройнаму: я ж нават не падняў кап'я, але ты вось на зямлі. У баі часта бывае такое. Дык выбачай, даруй за ўрок.

Той змаўчаў.

— Садзіся на каня, цяпер па канонах ужо праверым кемлівасць, спрыт і сілу адзін аднаго.

Праз хвіліну-другую вярнуліся на свае пазіцыі, зноў пры замёрлай цішыні і па Яўстафавым знаку сарваліся з месца і рынуліся адзін на аднаго з узнятымі коп'ямі, неўзабаве на шалёным скаку ўдарылі ў шчыты адначасна. Абодва ўклалі такую сілу ва ўдар, так сядзелі моцна на сядле, што дрэўкі не вытрымалі, зламаліся, і гэта ні аднаго не скуліла з каня. Што малады літовец аспакайнеў, мае асілкавую моц, Усяслаў адчуў па тым, як я гоны шчыт проста п рыл in да ягонага цела, нават прагнуўся, не зусім убярог ад магутнага ўдару плячук, што адразу ж заныў.

Воі па абодва бакі ажно загулі ад захаплення, ад такой дужасці свайш маладога таварыша і, як яны ведалі, слыннага навагародскага ваяводы. Аднак, як заўважылі, Лоў трэ левы плячук. Значыць, і яму дасталося. Усяслаў махнуў рукой: давайце нам новы я коп'і.

«Адной сілай яго не зваліш. Трэба збіць яго з тропу, бліжэй, у прыцірку, пусціць каня і апярэдзіць з ударам хоць на невялічкае імгненне»,— трэці раз стаўшы на сыходную пазіцыю, падумаў Усяслаў, а пасля калі несся ўперад, душой адчуў, што Лоў занепакоіўся, што не так, як хацеў, зближаюцца коні,— пачаў папраўляць свайго, але той не слухаў, прэ і прэ з храпам па-свойму. Значыць, Лоў ужо не будзе сабраны ў адзін нерв.

Усяслаў не згледзеў, а адчуў, што той вось-вось выкіне наперад руку з кап'ём, дык па звычцы ярасна выкінуў першы — Лоў так і не ўдарыў, наляцеўшы на яго дрэўка, ад ягонай непахіснасці і ад бегу

коней,— усё гэта спрыяла цяпер не яму,— паляцеў долу і так няўдала, што, кал і Усяслаў павярнуўся ўжо і бачыў усё, яго, зачэпленага адной нагою за стрэмя, доўга яшчэ цягнуў па зямлі паўз вар'я целы малады конь, а Лоў, канечне ж, абіваў-абдзіраў аб дол локаць, плячук, твар: адна яго рука, што трымала кап'ё, была вольная, а вось другая не магла выпусціць шчыт і стрымаць каня.

Вoi зноў загулі — мабыць, найбольш са спачуваннем свайму суродзічу. Яўстафій, яго воі кінуліся да Ловага каня, затрымалі, вызвалілі ездака — той сам не мог падняцца на ногі.

Да Усяслава пад'ехаў Міндоўг.

— Ты і ліс, і зубр заадно,— не вельмі радасна, але ўсё ж паважна пахваліў яго.

— Асуджаеш, што я напачатку збіў з тропу маладога? — запытаў Усяслаў, не радуючыся, а адчуваючы няёмкасць ад сваёй перамогі.— Лічыш ашуканцам? Вераломным?

— Не,— адказаў той.— Ты ж не даваў рыдзельскай клятвы трымацца іхніх правілаў. Ды рыдзелі, як сам ведаеш, у баі ўжываюць і не такое. Як вельмі не чвімімся і мы.

— Якраз так, князь,— павесялеў Усяслаў,— я сказаў і Лову.

Міндоўг падаў свой знак — Хвал затрубіў у рог. Усе выпрасталіся, сталі «на зважай».

— Слава пераможцу! — галёкнуў Міндоўг.

— Сла-ва-а! Сла-ва-а! Сла-ва-а!— тройчы лес ажно скалануўся ад рэха.

Калі яго ўшанавалі, Усяслаў падаўся да пераможанага. Каля таго, вызваленага ўжо ад даспехаў і пакладзенага на воўчыя скуры, абабітага, увіхаўся на каленях Міндоўгаў лекар.

— Вывіх ключыцы, князь,— патлумачыў той.— Але гэта не бяда. Дзяцюк здаровы, дужы, праз дзень-два зноў сядзе на каня.

— Не перажывай вельмі, дружа,— Усяслаў прысеў каля Лова.— Я, бывалы вой, не павінен быў паводзіцца з табой, маладым, так, як павёўся. Але, думаю, навука гэтая табе яшчэ спатрэбіцца. Твае ўдачы, подзвігі і слава гэтаксама наперадзе,— і падаў руку,— не трымай на мяне крыўды і злосці. Давай падружымся.

Лоў працягнуў сваю далонь, усміхнуўся. Канечне ж, нявесела.

— Мы з табой яшчэ плячо ў плячо будзем у не адной сечы,— падбадзёрыў яго, а заадно і павёў сваю палітыку Усяслаў,— бо ворагі нашы амаль адны і тыя ж... Каб біць, пабіць іх, трэба цяпер самім вытрымліваць удары і вывіхі, падаць, насіць сінякі. Адзін біты дзесяцярых нябітых варты!

Зразумела, Усяслаў вярнуўся дамоў позна і захмелены. Калі ўбачыў у сваёй вітальні спакойнага Цішука і занепакоеную Любку, ажно здзівіўся: жонка ёсць жонка, нават зусім маладая. І яго першая суженіца, доўга чакаючы яго, а пасля ўбачыўшы, што падвяселены, сустракала занепакоена, а то і запасочана: дзе, з кім быў?

— Выбачайце,— лагодна, як і заўсёды, калі падпіты, сказаў ён бацьку і дачцэ,— быў у Міндоўга, затрымаўся.— А пасля, згледзеўшы на Любчыных вачах слёзы знерваванай жанчыны, на гэты раз ужо не саромеючыся, пры цесцю, прытуліў яе.— Чаго смуцішся, краса мая ненаглядная?

Любка, прыпаўшы галавой да ягонага плечука, моўчкі, жалячыся, заплакала, ажно ўздрыгнулі яе хораша пакатыя плечы.

— Цішук,— папрасіў ён,— скажы дачцэ, а маёй любімай жонцы, што ёй не трэба гэтак хваляваццa.

— І я казаў, што няма чаго прадаваць дрыжыкі,— спакойна прамовіў той,— што ў цябе шмат клопатаў, дык ты мусіш затрымацца. Але яна як не чула. «А можа, яго забілі ліхадзеі!», «А можа...»

— Ліхадзеі ёсць, але хіба яны асмеляцца на мяне напасці? — сціснуў Любку за плечукі.

— Ліхадзеі ёсць ліхадзеі...— усхліпнула тая.

— Краса мая ненаглядная, любоў мая сардэчная і вялікая,— вось такія нязвычныя для яго словы самі па сабе вырываліся цяпер, ён радасна, шчасліва, а заадно, мабыць, і звыш меры моцна сціснуў яе,— ды я дзеля цябе з-за мораў і гор, з-пад зямлі і з неба заяўлюся! Нават з магілы выскачу, разочак на цябе зірну, палюбуюся, сцісну моцна-моцна, вось так, як цяпер, і зноў туды лягу!..

Чуючы яго больш чым шчырую споведзь, Цішук усцешыўся, але сумеўся, дык паспешна адвітаўся:

— Ну, вось і ўсё добра. Павячэрайце ўжо ўдваіх. Я найду, бо хачу спаць.

Каб іншым разам, дык Усяслаў затрымаў бы мудрага, адданага яму ўжо даўно і спаважнага цесця, але цяпер адпусціў, потым, памыўшы рукі, сам даглядаў за Любкай — даставаў з печы жароўні і гаршкі, падчэпліваў з іх відэльцам самыя мясныя кавалачкі дзічыны і ласяціны, найменш тлустыя слаі стушанай кіслай капусты, наліваў апалонікам буракова-мясную полііўку, падаваў пацёртыя, у соку журавіны і брусніцы, усяк заахвочваў, каб яна зрабіла хоць кус, глыток, а заадно гарэзаваў, цалаваў, калі яна слухала яго. Пазней, калі Любка, аспакайнелая, напоўненая маладой радасцю, аддана ляжала

галавой на ягоным плечуку і кожнай жылачкай шчасліва ўчувала, як яго далонь пяшчоціць яе, запытаў:

— Ну, супакоілася?

Калі яна моўчкі хітнула галавой, не проста прамовіў, а пакляўся:

— Я толькі твой. На ўсё жыццё. Іншыя жанчыны для мяне толькі для таго, каб убачыць, што няма з іх лепшай за цябе, што я валодаю вялікім скарбам! І, як той змей, павінен ахоўваць гэтае багацце!

— А я, прызнаюся, баялася...

— Чаго, краса мая ненаглядная?

— А можа, ты паехаў да другой?

— Да каго?

— Да той, якую ведаеш...

— Дурненькая мая. Мы ж табой зашлюбаваныя.

— Мала што. Ты — ваявода, ты ўсё можаш.

— Не ўсё. Што мне не па сіле, а што я сам ад сябе адганяю,— сказаў, а пасля нечакана нават для сябе самога прызнаўся, але нібы па-геройску: — Праўда, некалі, калі быў малады і неразумны, мог страціць развагу з-за адной жанчыны...

— Я ведаю.

— І з-за каго, ведаеш?

— Знаю.

— Ну, з-за каго?

— З-за Мендогавай Ганны...

Ён ажно анямеў і, мабыць, зноў не так, як звычайна, гладзіў Любку рукою: адкуль яна тое ведае? Ёй жа тады, калі тое было і было адзін раз, позняй ноччу, здаецца, без чужых вачэй, ішоў яшчэ першы год!

— Угадала?

— Угадала, але як?

— Гаварылі пра тое, а я чула, запомніла...

— Праўда, магло тады быць самае нечаканае...— прызнаўся ён.— Але Ганна захацела быць вернай свайму мужу, сям'і, а я — сваім... Мы абое заглушылі тое, што ўзбудзіла нашы сэрцы... Можа, тое, загнанае і затоенае, уваскрэсла, калі я зірнуў на цябе як на жанчыну...

Змаўчала, але задаволена, радасна. Ён жа адчуў, што праўду кажуць некаторыя юрныя мужчыны-урвіцелі: Бог даў вушы жанчыне найперш для таго, каб яна чула ад мужчын, якая яна прыгожая, мілая, добрая, жаданая. Хто больш і лепш нагаворыць такога, да таго яна і пахінецца. Часамі нават да самага што ні ёсць няшчырага, хлуслівага, а то і нягодніка. «Добрае слова і кошцы прыязнае».

— Можа, гэта і не ўзвышае мужчыну, Любка, але я не гулюн. Я адданы адной,— ён яшчэ бліжэй прытуліў яе да сябе.— Цяпер, падбіты ў дарозе і рознымі напасцямі, зняверана ў чалавечым шчасці, я акрыяў, зноў хачу жыць. Дык ты, краса мая ненаглядная, самае дарагое мне на свеце. Цяпер я непакоюся, каб ты хутка не збегла ад мяне, старога.

— Ніколі!

— Перасцерагаю: збяжыш — заб'ю! Сваёй рукою!

— Не! — загарачылася.— Я толькі твая. Да смерці. Ніхто іншы, малады ці пажылы, мне не спадабаўся і не падабаецца.

— А раптам счужэеш, ахаладнееш да мяне?— запытаў-загуляў ён.

— Не счужэю і не ахаладнею,— молада запэўніла яна.— А калі, не дай Бог, нават пад.прымусам саграшу, дык забівай мяне. Ды я тады сама сябе звяду са свету!

— Што б ні было, жыві і красуйся,— прамовіў ён.— Грэх вялікі некаму ці сабе зводзіць такую красу чалавечую!

— Я толькі твая,— супакоена, шчаслiва прашаптала Любка, ямчэй ладкуючыся на ягоным плечуку, шчасна атуманьваючы прыемным водарам і цяплом.

«Божа, калі ты ёсць,— падумаў Усяслаў,— як вельмі проста можа быць шчаслівы чалавек, але як яму мала даецца гэтага шчасця!.. Як нібы патрэбна, але няўцямна, памылкова яно падмяняецца чымсьці іншым! Мітуслівым, злым, згрызотным!»

Назаўтра, усцешаны і супакоены, загадзя ведаючы, што можна адпачыць, Усяслаў не змог сам прахапіцца, у цішыні і лагодзе дабіраў салодкі сон. Ды нечакана яго пабудзілі:

— Усяслаў,— заказытала яго пад пахай гарэзная з дасвецця Любка,— прачніся!

— Што такое? — падхапіўся, сеў ён, тручы заплюшчаныя вочы.

— На дварэ першы снег!

— Хачу спаць,— узмаліўся ён, адкінуўся спіной на пасцель.

— Які сон?! — затармасіла яго яна, седзячы побач на каленях у цёплай начной кашулі.— Зюзя прыгнаў зіму! Падыміся, зірні.

Тут, у спальні гэтага дома, было не акно, як у Навагародку, а толькі выраз між двух бярвёнаў, зашклёны, але цяпер адтуль, з двара, нібы адсвечвался сюды ясная, нават белая і халодная відната, напаўняючы пакой маладой свежасцю.

— Ды падыміся ты! — не адступала Любка.— Зірні! На новы свет!

Ён ужо не толькі расплюшчыў вочы, але і нехаця падняўся, накінуў на сябе ахаладнелы за ноч бухарскі халат і пад руку з Любкай паўсонна падшлэпаў у мяккіх тапках да акенца: двор, дрэвы былі зіхотка белыя, толькі чарнеліся ствалы ды найбольш тоўстыя галіны.

— Пабеглі на двор! — падюшчыла Любка.

— Чаго? — мармытнуў ён.

— Прабяжымся па снезе! Босыя!

— Я не пабягу,— сказаў, хоць у маленстве меў найвялікшую радасць прабегчыся, апячы ступакі прыемным холадам.

— А я хачу прабегчыся!

— Прабяжыся.

Любка пацягнула яго за руку, адшчапіла на дзвярах крук, потым яшчэ большы — у сенцах — і выскачыла на двор. Скінула тапкі і, загалёкаўшы, узмахваючы рукамі, пабегла па тоненькім снезе да лесу, пакідаючы за сабой шнурочак цёмных слядоў. Не ўтрымаўся, усміхнуўся: што ні кажы, маладая лань!

Вось хтосьці — ага, стары Цішук — сярдзіта крыкнуў, дык Любка зусім не спуджана, толькі паслухмяна павярнулася і па сваім следзе пабегла сюды, да доміка, а за ганкам у сенцах шпарка ўскочыла яму на рукі, прыціснулася, нягучна скавычучы ад стыні,

Пасля снядання, застаўшыся сам насам, засяроджаны Цішук, кехкаючы ў кулак, сказаў яму:

— Выбачай, але ты залішне песціш Любку...

— Яна ж твая дачка,— нібы апраўдваўся.

— Але ж табе жонка...

— Разумею, усё разумею, цесць мой дарагі,— Усяслаў ляпнуў па плечуку свайго вернага целаахоўніка.— Ды Любка наша яшчэ маладая, дык ёй трэба і маладая радасць. Ад маладой радасці і мы, старэйшыя маладзеем.

— Я і не знаў, што ты такі лагодны і чуллівы,— сардэчна ўсміхнуўся Цішук.

— І я ж жывы чалавек, з таго ж, з чаго і ўсе,— сардэчна адказаў і ён.— А гэтая любая нам стрыбаўка праз свой час павінна падарыць мне сына, а табе ўнука!

— Дай Бог! — сумеўся Цішук, перажагнаўся.

8

Пасля гэтага Усяслаў дні тры нікуды не адлучаўся з дому, прагульваўся (праўда, на другі дзень з'ездзіў ненадоўга на паляванне, сам падбіў дзіка), вылежваўся, адным словам, ляноціўся, адпачываў, як бывае, па тыдню, па месяцы-другім гультуюць, п'юць, ядуць, гуляюць

ці падоўгу даюць храпака іхнія альбо літоўскія князі і баяры. Ды, чуў, і на іншых землях знаць не лепшая, часамі без паходаў і баёў сумуе, ные, перакладаючы гаспадарскія турботы на чэлядзь, палонных ды на жанчын.

Калі затым пачаў адчуваць наплыў нуды і маркоты ад таго, што нічога не робіць вартага, зазбіраўся ў горад. Ды прыбыў да яго ганец з польскага аполля[1], ад магната Баляслава, з запросінамі ў госці.

— Едзь ты адзін,— нечакана заўпарцілаея Любка.— Я да вяльможных ехаць не хачу.

— Чаму? Гэта ж наш гурт!

— Бачыла ж, калі былі ў цябе: і Баляслаў, і яго Ядвіся вельмі ганарлівыя. Пазіралі на нас, тваіх чалядзінаў, надта ж звысоку.

— На мяне з табой так не зірнуць,— супакоіў.

— На цябе — канечне ж, не, ты ім блізкі па крыві, а на мяне... Дык я асаромлюся сама і цябе асаромлю.

— Любка! — бадай, упершыню заўшчуваў яе.— Ты — жонка навагародскага ваяводы! А ў мяне даволі ўлады і моцы, каб абараніць наш сямейны гонар! Ты ўзяла з сабой убор, што табе падарыла на вяселлі наша Звеніслава?

— Узяла,— паслешна адказала.

— Начапі, паўстань вяльможнай баярыняю.

— Іду.

Хуценька выйшла ў свой, жаночы, пакой. І жанчына ёсць жанчына: затрымалася надоўга. Пасля зайшла новай, чым дагэтуль, лягчэйшай і вялікомнай паходкаю. У тым, што сама вышыла і падарыла ёй ягоная дачка: у новенькім аксамітным чырвоным стаўбунку з вышытым золатам сонцам і абапал яго дрэвамі, акаймаваным пясцовым мехам, у доўгім раскошным светла-шэрым сарафане. На яго плечуках — залацістыя квадраты (знак поля), падзеленыя на чатыры часткі, у кожнай з якой была залатая кропка (знак зерня), такія ж квадраты былі і ўздоўж сцёгнаў і ног (рукам і нагам трэба сіла), на запясцях — сярэбраныя бранзалеты, падол сарафана быў вышыты раслінамі, кветкамі, птушкамі, якія ходзяць па зямлі. І да ўсяго ўпрыгожанне на хораша паднятых грудзях — маністы са старых залатых манет.

Акінуўшы Любку з ног да галавы нозіркам, ведаючы даўнюю, яшчэ, можа, прабабчыную сімволіку, якую вышыла Звеніслава, Усяслаў усміхнуўся: дачка наказала сваёй маладой мачысе

---

[1] А п о л л е (з польск.) — воласць.

падымацца з сонцам, дбаць пра іхні род і працаваць-працаваць, не ведаючы стомы!

Любка запынілася, потым крутнулася перад ім раздруг!: «Ну, як я?»

— Вяльможная! — падбадзёрыў яе і сам шчыра пацешыўся.— А калі яшчэ высока падымеш галаву і зірнеш звысоку!..

— Я так не умею,— узды хну.'і а.— Як гэта можиа — глядзець на людзей пагардліва?!

— Пагардліва — не трэба. Але ўзвысіць сваю і маю годнасць варта. Каб ведалі, што і мы людзі. Нічым не горшыя за іншых. Іначай нам абоім будзе непашанота.

Кемлівая Любка і ў яго паўжарце разумела праўду.

— Павітаць ці не павітаць знатнага чалавека з блізкай зямлі — не толькі ветлівасць,— бачачы гэта, ужо сур'ёзна патлумачыў ён.— Тут ёсць і разлік. Хто ведае, якія наперадзе нашы варункі? Блізкае знаёмства можа спатрэбіцца нам.

— Дык і я павінна ўцягвацца ў палітыку? — усміхеулася.

— А як ты думала! Калі твой муж дзяржаўны, дык і ты ўжо дзяржаўная! Нават, калі слова не скажаш, але ў тваёй паставе, у вачах тваіх будзе веліч! Хутка сама ўбачыш, як і з табой захочуць сустрэцца і даць табе багатыя падарункі не толькі паслы ц! купцы, але і баяры ды князі з усіх краёў!

— Для чаго? — шчыра запытала.

— Каб ты слова за іх закінула перада мной, каб памагла ім.

— Ух! — толькі ўздыхнула яго «вяльможніца».

Праз некалькі гадзін, праехаўшы конна па зацярушаным снегам, пашэрхлым беразе Валоўкі, а пасля збочыўшы, яны трапілі ў паселішча Няшеўкі, дзе жылі бежанцы з сандармзрскіх, кракаўскіх і іншых польскіх краёў, дзе сярод зямлянак, паўзямлянак і хат узвышаўся новы двухпавярховы, з ганкамі і калонамі, з узорнымі паддашкамі драўляны дом магната-бежанца з Кракава. На. адным з паддашкаў вісела апушчаная белая харугва — знак таго, што гаспадар мірны для ўсіх і сам просіць міру.

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус,— радавіты, сваяк былому кракаўскаму князю, некалі багаты і вяльможны, а цяпер найперш паўзгорблены стары чалавек, Баляслаў сам сустрэў іх каля ганка-пляцоўкі з дошак. Высок!, схуднелы, з яшчэ болей павастрэлым доўгім носам і з тонкімі, пасінелымі губамі, з некалі смелым, халоднапагардлівым, а цяпер спакутаваным, бяздольным позіркам. У падараным князем Ізяславам шыкоўным, але ўжо за апошнія гады

падношаным сабаліным футры.— Якая ўцеха майму ціхаму дому! Маю шчэнсце спатыкаць самого ваяводу з Навагрудка!

Павітаўшыся, гаспадар не па ўзросце варухліва павёў яго ў свой пакой, а старая прыслужніца запрасіла Любку ў святліцу да ягонай дачкі.

— Пан Усяслаў зусім млоды!— палісліўіў стары ці, можа, і пазайздросціў яму, пасвяжэламу ў лесе і пасля нядаўняй язды на кані.— Але, проша, не распранайцеся[1], тут зімна.— Падышоў да высокага, хараша выкладзенага паўкругам з чырвонай цэглы каміна, паднёс да яркага агню азяблыя бледныя рукі.

Усяслаў бачыў у Мазовіі, у князя Конрада і ягоных магнатаў, у крыжакоў каміны, але не спакусіўся на такую чужаземную завядзёнку: ад яе ў твар горача, а ў спіну холадна. Яму больш цікава сесці ў адзіноце ўвечар каля агню ў печы альбо грубцы ці ў любы час у лесе паблізу вогнішча, пазіраць на яркае полымя, слухаць, як патрэскваюць сучкі, як гамоніць агонь з комінам ці небам і думацьдумаць пра штосьці супакойнае.

— Як жывяце, пане Баляслаў? — ходзячы па ўвешаным і засланым дыванамі з Навагародка пакоі, запытаў Усяслаў, ведаючы, што спачатку прыйдзецца выслухаць аселыя на гаспадаровай душы скаргі і ўздыхі.

— Не жыву, а дажываю, пан Усяслаў,— цяжка ўздыхнуў стары.— Першы, малады, снег, а я не магу ўволю, усмак папалюваць! Ні коней добрых, ні хартаў, ні лоўчых! Ды і тое, што вызначылі мне вы з Міндоўгам, зусім мала для вольнэго і весялэго палявання!

Усяслаў цярпліва выслухаў знаёмую ўжо скаргу.

— Бардзо ценжка мне тут, пан Усяслаў. Я ж быў у сталіцы ўсёй зямлі, у Рыме, жыў у Кракаве! — настальгічна, як і раней, завёў сваё Баляслаў.— Тут нават ваш сусед, літоўскі ўладар, не мае таго, што маюць у нас радавыя шляхцічы!

— Князь Міндоўг жыве сціпла,— заступіўся за таго Усяслаў.— Яму не да раскошы, ён амаль заўсёды на кані, у руху. Мы ў Навагародку слынным таксама, як бачылі, не любім лішнія марнатраўствы і гульбішчы.

— Не ўсе. Ваш дворскі любіць багацце, гулянкі. Праўда, не з кожным. На мяне, абяднелага бежанца, пазірае з насмешкай...— Развёў рукі.— Хто я цяпер? Стары і, можна сказаць, жабрачы! Я, канечне, мог бы ўжо сказаць вам шчырае дзінькую і вярнуцца

---

[1] Ці не ад варункаў з палякамі ў ранейшыя і тыя часы, што тут апісваюцца, на заходнебеларускіх землях прыжыўся зварот на «вы»?

дахаты, куды мяне цягнуць мая вотчына, магілы жоны і сыноў, але... Мяне вельмі непакоіць новы паход Батыя на захад. Баюся страціць адзіную сваю ніць з продкамі і нашчадкамі — Ядвісю. Цяпер яна адна, хто можа працягнуць мой род далей. Скажыце, што не будзе таго паходу Батыя, дык я выберуся нават сёння.

— Я не магу такое сказаць. Ды, лічу, гэта рашае нават не сам Батый. Батый — грозны і моцны, але ён усяго толькі выканаўца вышэйшай волі.

Пачуўшы гэта, Баляслаў памаўчаў, запрасіў яго сесці на шырокім мяккім, накрытым мядзведжай скураю крэсле, сам сеў на суседнім. Хоць і выгнаннік, што страціў багацце, моц і здароўе, але хацеў пагаварыць пра лёсавырашальнае.

— Скажу шчыра, пан Усяслаў, з кожным днём мне ўсё цяжэй,— вось ужо які раз захітаў уніз-уверх галавою той.— Мяне непакоіць, нават страшыць, што не можа выйсці замуж Ядвіся і залішне доўга застаецца дзяўчынаю...

Як сам бацька, Усяслаў усё зразумеў глыбока.

— Ды люд ваш незадаволены намі...

— Вас крыўдзяць? Хто? Дзе? Калі?

— Як сказаць. Я пра іншае. Лічыцца толькі, што тут усе ахрышчаныя. Хрысціяне — знаць, тыя, хто жыве ў месце, а, як вы кажаце, вашы смерды, чэлядзіны — язычнікі. Яны пакланяюцца старым багам. Найбольш — Жыжалю, Богу агню.

— А хіба кепска, пане Баляслаў, калі на тое, што спрыяе нам жыць, ніхто не плюне? — па-свойму заступіўся за просты люд Усяслаў.— Тут — канечне, не Рым, сталіца ўсёй зямлі, не Кракаў, сталіца земель польскіх, але тут таксама здаўна жывуць людзі і маюць свой прадзедаўскі лад, які разумна не ганьбіць, а паважаць.

— Але ж... Лад гэты застарэлы! Жыжалю — першы сноп новага жыта... Агнём абносяць паселішчы, хаты, поле, калі баяцца хвароб, засухі ці ліўняў! А «гуканне вясны»! Паляць «зіму»...

— ВйГносяць з хаты, знішчаюць усё старое, бруднае... — падправіў Усяслаў.

— А перад Купаллем!..— не сунімаўся стары каталіцкі вернік.— Як у самыя паганскія часы тушаць па ўсіх хатах агонь, тады ўсе, старыя і малыя, мыюцца, апранаюцца ў святочнае і з песнямі ўсе разам ідуць у лес, да... вялікага агню!

— Зноў па-гаспадарску збаўляюцца там ад усякага хлуду: зносяць і паляць паламаныя граблі, бароны, патрэсканыя начоўкі, пагрызеныя мышамі рэшаты...

— Старэйшына высякае ў дуплістай вярбе агонь і, бывае, доўга. Аж далоні да крыві натрэ,— нібы не чуючы яго, узбуджана гаварыў Баляслаў.— Ён мармыча «сонейка», «Пярун», «барані нас», «ажыві, агонь» і над песні-галёканне здабывае агонь. Калі ж заўецца дым і бліснe жоўты язычок, дык усе ажно шалеюць: «Зніч! Зніч! Зніч!» Пасля ад гэтага агню кожны запальвае свой агеньчык і беражліва нясе яго дамоў! А Купала! Зноў — вогнішча, хлопцы скачуць цераз яго ці з дзяўчатамі ходзяць вакол! А капішчы! Ці вы, пан, Усяслаў, не ведаеце, што яны ёсць і на вашай, ахрышчанай зямлі?

— Можа, і ёсць,— адказаў ён, хоць добра ведаў, дзе яны.— Выбачайце, пан Баляслаў, але мне здаецца, што вы там, дома, жылі вельмі адарвана ад свайго люду, завельмі захапіліся Рымам і Кракавам. Вы не бачылі, што і ваш просты люд не адрокся ад сваёй даўніны. Як і нямецкі альбо свейскі. Мне прыйшлося быць у вашых весях, лясах, дык я не сказаў бы, што вашыя смерды вельмі інакшыя за нашых.

— Не буду спрачацца, смерды ўсюды ёсць смерды і, як ні дзіва, у іх чамусьці амаль адны забабоны,— прамовіў са згодаю той.— Але... На Міндоўгавых землях яшчэ ахвяруюць агню людзей! Нават болей — паляць хрысціянінаў, кшыжацаў! У наш час! Недарэмна ж так занепакоеныя пра гэта кжыжацкія ордэны і біскупствы!

— Я пра многае з гэтага ведаю, пане Баляслаў,— спакойна, але непрыязна-цвёрда сказаў Усяслаў.— Ды не раю пра тое ліць слёзы з крыжакамі.

— Чаму? — прыхавана ўхмыльнуўся той.— Трэба, павашаму, таіць, апраўдваць паганства і дзікунства?

— Скажыце, вы шчыра верыце ў дабрамыснасць крыжакоў? — не адказаў, а сам запытаў Усяслаў і, не чакаючы адказу, яшчэ болей напаў: — Вы нічога не чулі пра тое, як іхнія бацькі і прадзеды нішчылі праваслаўную Візантыю? Ніколі не задумваліся: а што іх вяло туды і што прывяло сюды? Што — яны, як Хрыстос, шчыра, без карысці для сябе, для ўсіхняга людскога шчасця нясуць слова Божае на яшчэ язычніцкія ці, як вы кажаце, паганскія закуткі? Але чаму ў іх такі нехрыстосаўскі гвалт, такі разгул мячу, такая воля яду? Чаго яны і тут напралом лезуць на даўно ўжо ахрышчаныя землі? Урэшце, чаму іхнія браты дарадцамі ў манголаў-язычнікаў?

Баляслаў змаўчаў.

— Дай Бог, пане Баляслаў, каб я памыліўся, але калі не нас, дык нашых дзяцей і ўнукаў можа чакаць вялікая бяда за слепату тутэйшых хрысціянскіх князёў: полацкага Валодшы[1] і Конрада Мазавец-

---

[1] Уладзіміра (?).

кага... — задумліва сказаў Усяслаў.— Валодша напачатку, яшчэ ў тым веку, сустрзўся з «хрыстовымі братамі», паверыў, што яны толькі ахрысцяць ліваў і земгалаў, а значыць паспрыяюць яму, хрысціянскаму ўладару, умацавацца там. А мечаносцы, кал і крыху закамліліся, адразу ж адпіхнулі яго ад Варажскага мора, з падуладных яму зямель, навіслі над самім Полацкам. Калі ж Валодша разабраўся, што ўпусціў у авечых скурах ваўкоў, сабраўся скінуць прышэльцаў у мора, дык крыжацкія шпегі атруцілі яго, а паход на іх сарвалі. Напачатку не разгледзелі воўчых зубоў у крыжакоў і на ў гародцы ды пскоўцы. І зусім ужо цяжка зразумець, як мог пасля гэтага так даверліва даць свае землі тзўтонам Конрад Мазавецкі! Тыя ж, калі снравяцца з прусам і, вось пабачыце, пойдуць з мячом на польскія землі! Зусім новы падкова пабітыя Вячкам, Усеваладам, а потым ноўгарадцамі, літвой і земгаламі, намі з Данілам над Драгічынам мечаносцы і тэўтоны пасаюзіліся, сабраліся ў адзін кулак! Дык, можа, нане Баляслаў, нам, хрысціянам, цяпер трэба не варагаваць ні паміж сабою, ні з язычнікамі, найперш з Мендогам? Ён — той, хто і пад маскай разгледзеў у крыжакоў ашчэр, б'е іх на далёкіх подступах... Ці я, пане Баляслаў, гавару не зусім тое, што трэба?

— Так, але...

— Што — «але»?

— Кшыжацы папікаюць, што вы, праваслаўныя, замінаеце ім ахрышчваць паганінаў, нават памагаеце тым. Каб князь Мендог, іншыя князі ўзялі веру ад Рыма, дык...

Усяслаў не выцерпеў:

— ...дык яны спачатку заняволілі б іх, а потым яшчэ больш напорыста рушылі б на нас, праваслаўных.

— А калі б вы, праваслаўныя, згадзіліся паяднацца з каталікамі прызнаць вяршэнства папежа?

— Дазволю, пане Баляслаў, запытаць: чаму ж вы тут не пераходзіце ў нашу веру? Ці вы скажаце, што вашая вера для вас больш праўдзівая, што гэта вера вашых прадзедаў, а ім вы не можаце здрадзіць?

Паколькі Баляслаў памарудзіў адказваць, дык Усяслаў узмацніў націск:

— А ці не залішне папа ўмешваецца ў палітычныя варункі каталіцкіх краін? Чаму, для чаго ён заклікаў крыжаносцаў у паход на праваслаўныя землі, калі туды рынуліся манголы? Чаму ён забараніў пастаўляць праваслаўным зброю, коней, іншыя рыштункі?

— Папа мог бы сабраць вялікую сілу супраць манголаў.

— Ён мог сабраць яе і ра ней, але не збіраў і, кажу, пасылаў сваіх вернікаў ударыць праваслаўным у спіну...

— Бачу,— ухмыльнуўся той.— Пан Усяслаў — зацяты вораг каталікоў і Папы Рымскага!

— Не. Я ні вам, ці Папу ніякі не вораг. Я хачу, каб паміж намі і вамі не было ніякіх ростыркаў ды сварак, каб мы шанавалі аднаго Бога, Творцу і Усявышняга. Але я супраць і рашуча, каб спекуляваць на веры.

— А праваслаўе, па-вашаму, не спекулюе? Не служыць палітыцы? Раней — Кіеву, а цяпер — Холму, Ноўгараду і Уладзіміру? Ці вы, Навагрудэк, не замышляеце ахрысціць Літву, каб падуладзіць яе? А хіба Полацак не меў такія намеры да ліваў і земгалаў?

— Я ж і кажу: цэркаў часамі займаецца не сваім, прыкрываецца верай і займаецца палітыкай, спрыяе не асвячаць, а заваёўваць чужыя плямёны. Ды спынім, пане Баляслаў, дыспут пра гэта. Мы тут як тыя два глухія: кожны гаворыць сваё, але тага не чуе... Лепш скажыце мне, хто вас тут крыўдзіць?

— Мяне, маю Ядвісю ніхто не чапае,— адказаў той.— А вось маіх рыцэжаў б'юць вашы смерды.

— Нявучаныя смерды — рыдзеляў? — усміхнуўся Усяслаў.

— Вашы смерды, пан ваявода, не ведаюць ніякіх рыцарскіх правілаў,— паскардзіўся той.— Вось на днях у аднаго майго слаўнага рыцэжа, што меў шмат подзвігаў у чужаземных землях, ваш просты смерд спачатку звычайным калом выбіў з рук меч, а потым збіў кулакамі. Выбачайце, пан Усяслаў, але гэта — дзікунства, абраза рыцэжу!

— Што ж, давайце разбяромся. Вы можаце паклікаць сюды пакрыўджанага рыдзеля?

— Магу. Ён у суседнім пакоі.

— Паклічце, калі ласка.

Стары падняўся з крэктам, выйшаў з пакоя, мабыць, сказаў сваё слова слугам, а пасля вярнуўся:

— І яшчэ вялікі мой клопат, пан Усяслаў.

— Які?

— За гэты час, што мы тут, знаць наша, канечне, захоўвае ўсё сваё. Веру, звычаі, мову,— занепакоена сказаў гаспадар, кладучы на аціхлы агонь новыя сухія паленцы.— А вось нашы простыя людзі пачынаюць жаніцца ці выходзіць замуж за тутэйшых, дык паволі трацяць сваё. Хто пераходзіць у вашу веру, хто гаворыць ужо на польскай і дрыгавіцка-крывіцкай мяшанцы, а дзеці іхнія, баюся, будуць зусім не палякі...

Усяслаў пацісnуў плячыма:

— Не ведаю, як тут вам памагчы. Думаю, каб, не дай Бог, мне з маімі людзьмі прыйшлося ўцякаць на вашыя землі, дык і нас там чакала б такое. І вы не мянялі б дзеля нас сваёй веры, гутаркі, сваіх звычаяў. Ды люд сам выбірае, як яму лепш.

— Вы добра гаворыце, пан Усяслаў,— стары бежанец зноў сеў на сваё крэсла.— Але ўсё гэта найперш на вашую карысць.

— «Карысць» наша, пан Баляслаў, пачыналася з таго, што мы шчыра далі вам, няшчасным, прытулак, падзяліліся з вамі сваім кавалкам хлеба,— як не хацеў, але мусіў напомніць пра ўсё ён..

— Я ж...— схамянуўся той, што лішне сказаў пра тое, пра што думаў і гаварыў са сваімі людзьмі.— Я ж толькі так кажу... Душа болі.

— А думаеце, пан Баляслаў, душа не баліць па Бацькаўшчыне, па сваіх звычаях, па гаворцы сваёй тым, хто мусіў апынуцца тут з чарнігаўскіх, бранскіх альбо разанскіх зямель?

— Ім усё ж лягчэй. Яны адной з вам і веры, у вас з імі і астатняе ўсё бліжэйшае.

— Выбачайце, пан Баляслаў. Мы гвалтоўна не пераводзім вас у нашу веру, на нашы звычаі, на нашу гаворку. Ды вы не дзіця, каб я вас супакойваў. Калі ласка, беражыцё ўсё сваё. Але, будзьце добрыя, у нашым доме паважайце і ўсё наша! Тады паразуменне між намі прыйдзе само па сабе.

Стары польскі магнат не адказаў: у пакой зайшоў доўгавалосы і хмурны хлапчына ў памятым панцырам скураным каптане, запытальна зірнуў на свайго гаспадара, а пасля — на яго, Усяслава, павітаўся лёгкім нахілам галавы.

— Якія твае крыўды, рыдзель? — запытаў ён.

— Я ж кажу, пан Усяслаў,— забег таму наперад стары.— У рыцараў свой кодэкс, але з ім тут ніхто не лічыцца.

— Чым цябе, рыдзель, як лічыце вы, нашы дзікуны абразілі? — зноў у маладога запытаў Усяслаў.

Той маўчаў. Як было відаць, гэтым маўчаннем Баляслаў незадаволіўся, бо панукнуў:

— Ну, гавары, шляхціч.

У дзверы пастукалі, а калі пачулі Баляславаў дазвол зайсці, у пакой увялі рослага, у зрэбных пафарбаваных нагавіцах і ў кажушку цёмнавалосага дзецюка, здаецца, на некалькі гадоў маладзейшага за польскага рыцара. Дзяцюк гупнуўся перад імі ўсімі на калені, апусціў буйную галаву і закамячыў у руках аблавуху.

— Устань!— загадаў яму Усяслаў. А калі той падхапіўся, запытаў:
— Ведаеш, хто я?

— Ведаю, ваявода.

— Як цябе зваць?
— Мікула.
— Гэта ты пакрыўдзіў польскага шляхціча?
— Я яго не крыўдзіў.
— Ён цябе збіў? — Усяслаў павярнуў галаў да рыцара.
— Ён, ён, мядзведзь гэты,— зноў за свайго шляхціча адказаў стары магнат.
— Гавары, чаму даў волю сваім кулакам,— строга сказаў дзецюку Усяслаў.— Толькі кажы праўду! Як за правіну, так і за хлуслівасць загадаю пакараць строга!
— Рыдзель бегае за нашымі дзеўкамі... Хацеў аблажыць і маю дзяўчыну... — падаў той голас.— Вот я і даў...
— Маеш сведкаў?
— Маю.
— Чыя праўда?— Усяслаў зірнуў на шляхціча.— І ты не мані, бо і табе не дам за гэта спуску!
Той нібы вады ў рот набраў. Сумеўся і Баляслаў. Можа, шляхціч і наманіў яму пра тое, за што яго адлупцавалі.
— Можаш апраўдацца і абвінаваціць гэтага «мядзведзя»?
Той — ні слоўка.
Усяслаў паказаў рукой дзецюку: ідзі. Той задам адступіў, потым выйшаў з пакоя.
— Маладыя, гарачыя... — уздыхнуў Баляслаў, а потым, бачачы, што Усяслаў хмурыцца і, мабыць, мыляе вуснамі, накінуўся на шляхціча: — Вон адгэтуль, вон! Падманшчык! Курвец! Я сам пакараю цябе! Сваім судом! Згодзен, пан Усяслаў?
Ён не адказаў, утаймоўваў абурэнне.
— Сумуе, нудзіцца без падарожжаў, подзвігаў шляхціч,— падняўся, зноў па-свойму патлумачыў усё стары.— І вам скажу, пан Баляслаў, не абысціся без рыцараў, смелых і ўдалых воінаў. Калі вы хочаце мець сваю дзяржаву, свой гонар і сваю славу, то павінны мець і рыцараў.
— Як бачыце самі, нашы дзецюкі б'юць рыцараў і без даспехаў і спецыяльнай вывучкі,— прамовіў Усяслаў.— А што да правілаў, дык сам бачыў: у баі рыцары мала зважаюць на іх, трымаюцца за іх толькі ў сутычках паміж сабою. Ды, добра ведаю, рыдзелі не толькі шукаюць прыгод, паняў свайго сэрца, подзвігаў славы, але яны і сапраўдныя рабаўнікі: забіраюць сабе чужую маёмасць, прыводзяць палонных і робяць іх сваімі рабамі. А пра іхнія крыжовыя паходы няма чаго і казаць. Гэта — дзікунства! У наш век!

Баляслаў, канечне ж, хочучы ўратаваць ад кары свайго шляхціча, а заадно перамяніць малапрыемную для сябе гутарку, запытаў:

— Млода, з якой пан Усяслаў прыехаў, ест ваша жона?

— Жонка.

— Выбачайце, пан Усяслаў, але...— запнуўся той.

— Што, пан Баляслаў? — ветліва, але напружана запытаў Усяслаў.

— Кажуць, ваша жонка не зусім са знатнага роду...— асцярожна, ведаючы, што чапляе вельмі асабістае, прамовіў стары знаўца розных канонаў і этыкетаў. «Не зусім са знатнага» — гэта толькі засланка, за іншае, сапраўднае — «з нізоў».

— Яна дачка майго старшага і вельмі знатнага дружынніка, цяпер ужо двараніна[1],— адказаў ён.— А сама — першая навагародскай красуня і вельмі знатная розумам, сэрцам і душою.

— Такі ваявода, як вы, пан Усяслаў, мог бы ўзяць не толькі любую баярыню, але і асобу з княскай крывёю...

«Значыць, і тваю дачку»,— здагадаўся пра ўсё Усяслаў, але ўголас сказаў без напругі ўжо:

— Я ўзяў за жонку, пан Усяслаў, тую, каго зажадала мае сэрца. Для яе і дзяцей нашых хопіць маёй даўняй баярскай радавітасці.

— Вшыстке розумем, пан Усяслаў,— згодна пахітаў галавою стары.— Цяпер ды тут, дзе вы ўзвысіліся да князя ці яго пасадніка, набіраеце моц з кожным днём, адзяржаўліваеце сваё панства, вы вольныя рабіць тое, што зажадаеце.— Вы — такі магнат, якім я некалі быў у Кракаве.

— Не ўсё я магу, пане Баляслаў. Раблю найперш тое, што даручае князь і што ў інтарэсах Вялікай Навагародскай зямлі. Праўда, як вы кажаце, тое-сёе спажываю і для сябе. Узяў вось замуж любімую ці, як вашы людзі добра гавораць, кохану.

— Розумем, вшыстке розумем, пан Усяслаў,— зноў, але на гэты раз задумліва пахітаў галавою Баляслаў.— Мая жона, ктуру ўбіенлі манголы, кеды яна кінулася ратоваць Ядвісю, была знатна кабета, але мне не зусім кохана...

Усяслаў змаўчаў, а Баляслаў, убачыўшы за адчыненымі дзвярыма свайго слугу-пакаёвага, запрасіў:

— Ходзьма, пан Усяслаў, перакусім.

---

[1] На Русі з 12 ст. дваранамі называлі т. зв. «вольных слуг», якія атрымлівалі зямельныя надзелы на час вайсковай службы ў князёў і найбольш багатых баяр.

У другім пакоі, у сталоўні, былі ўжо ў шыкоўным сваім уборы, хоць і пунсовая, але молада свежая Любка і гаспадарова дачка — на гады тры-чатыры старэйшая, вышэйшая і больш гонкая, з прыгожым паўкруглым бледным тварам, у зялёнай сукенцы з пазалочаным паскам, што спускаўся ўздоўж сцёгнаў і пры падоле быў прышпілены залатой спонаю, з сумессю велічы, пагарды, болю і сораму ў застылых карых вачах.

— Выбачайце, пан ваявода, не магу пачаставаць вас ні італійскім, ні бургундскім альбо рэйнскім віном, ні чэшскім ці іншым півам,— заныў былы багацей, паказваючы рукой на падрыхтаваны ўжо для іх стол.— Мой князь, Генрык Набожны, каб устаў з магілы, дык не паверыў бы, што я да такога дажыўся! Простыя наліўкі і медавуха!

— Я не вялікі знаўца він і піток, пан Баляслаў,— ухілліва прамовіў Усяслаў.— Хоць ведаю, што любое vinum lactificat cor[1].

Баляслаў і яго дачка амаль у адзін міг ускінулі падобныя, паўдугою, цёмныя бровы: бач, і ён тут ведае латынь!

— Калі пану Баляславу так не падабаюцца нашы моцныя наліўкі і медавуха, дык скажу дворскаму, каб падаслаў вам чужаземнага віна,— усміхнуўся ён.

— Ваш дворскі, пан Усяслаў, можа даць усё з любой зямлі, але запатрабуе ўзамен срэбра ці золата,— уздыхнуў той.— Баюся, ён хутка выцягне ад нас ужо і сямейнае, невялічкі пасаг панны Ядвісі.

— Татусь, не тшэба!— дачка нахмурыла лоб — высакаваты, нацягнуты гладка зачасанымі, сабранымі на патыліцы і змацаванымі шпількамі цёмнымі валасамі. Ад яго, Усяслава, сёння адводзіла позірк, не паказваючы цяпер ні прыхаваных цікаўнасці і выкліку, ні ўхмылкі з яго простасці, чым ахалоджвала першы раз, ні няшчырай ветлівасці, чым адорвала ў апошнія сустрэчы.

Баляслаў моўчкі запрасіў рукой Усяслава сесці злева, Любку — за Ім, дачку — справа ад сябе, а сам апусціўся ў крэсла з высокай выразанай спінкай пасярод стала. Ядвіся апусціла вочы. Мабыць, яе зусім не ўсцешылі яны, госці. Можа, у душы гарэла дзявочая рэўнасць, што нейкая просталюдзінка Любка выйшла замуж ажно за ваяводу, а яна — не і не бачыць тут нікога вартага сабе. Няўжо стары падбіваў яе спадабацца яму, і яна, не толькі не пакахаўшы, але нават і не паважаючы яго, Усяслава, была ўжо гатовая споўніць бацькавую волю? Апусціла вочы і Любка, што напружыла варункі за сталом. Усяслаў злёгку таўхануў пад сталом нагою і, не пазіраючы на яе, сам вышэй

---

[1] Віно развесяліць чалавечае сэрца. (лац.)

падняў галаву. Адчуў: выпрамілася і Любка і, бадай, змушае сябе вытрымліваць вяльможныя позіркі.

— Што ж, развяселім сваё сэрца медавухай,— прамовіў Баляслаў, махнуў рукой застольнаму слузе, каб той наліў ім пітва ў шкляныя, з пазалочаным абадком высокія і шырокія келіхі на вузкай ножцы, а на самым канцы ножКі — з шыракаватым кружочкам.— За вас, нашага зычліўцу і абаронцу, пан Усяслаў, і за вашу жону. Дай Бог вам здароўя, дзетак добрых і шчэнсця велькага!

Усяслаў падзякаваў, а калі выпілі, пачалі закусваць. На халодную закуску былі журавіны, звараныя, пацёртыя і палітыя смятанаю буракі, кіслыя грыбы з цыбуляй і алеем, стушаныя, але ўжо астылыя цецерукі, свежыя праснакі.

Пасля слугі прынеслі ў агромністай жароўні падрудзелую і шыпкую ад гарачага тлушчу, адмыслова пахкую ад стушанай кіслай капусты бараніну, а яшчэ пазней падалі набрынялыя маслам белыя аладачкі, а да іх — смятану і мёд. Баляслаў, ведучы рэй, час ад часу загаворваў з дачкой, каб яна хоць крыху павесялела і ажывіла застолле, але тая сёння была нацятая, буркне бацьку слова ў адказ і зноў, апусціўшы вочы, моўчкі і ціхенька, прытрымліваючы на талерачцы двухзубым відэльцам мяса, адчыквае нажом ад яго малюсенькія кавалачкі, лена бярэ іх у рот і доўга, не раскрываючы рота, жуе, а потым глытае нібы без смаку. Бачачы гэта, не налягала на яду, таксама больш для прыліку штукавала нажом і відэльцам і Любка, а калі ён пры першым жа зручным выпадку, калі ў яе нічога не было ў роце, загаворваў', дык яна адказвала нешматслоўна, але ўсё больш і больш нязмушана, з упэўненай усмешкаю.

— Прашу выбачэння,— урэшце не вытрывала, паднялася з-за стала Ядвіся,— мне болі глова, я пакіну вас.

— Цурка!.. — паспрабаваў змусіць яе адумацца бацька.

— Татусь, я ж поведзяла! — нервова абсекла яго тая. Ясна, мае пыхкі, злы характар. Ён не лепшае, а яшчэ горшае ад розных жыццёвых напасцей. Узор яго — характар Расціслававай Раксаны. Вечная пакута мужу: трэба не сэрца, а камень мець у грудзіне, каб не ўзрушыцца, не ўскіпець, а то і не даць волю рукам, кал і жонка то нечакана весела рагоча, то праз міг хмурнее, чапляецца, папікае, кляне, а потым істэрычна раве і б'е ўсё, што толькі трапляе ёй пад рукі.

— Дзякуй, панна Ядвіся, за смачны пачастунак,— падняўся, схіліў галаву Усяслаў. Можа, трэба было і выйсці з-за стала, пацалаваць ёй руку, як у іх заведзена, але стрымаўся.

— На здрове, пане Усяслаў,— спрабуючы ўсміхнуцца, адказала тая і Любцы кіўнула: — На здрове.

— Ох, гэты кобецы буль гловы!— калі Ядвіся выйшла, нялёгка ўздыхнуў Баляслаў.— Ён — вечны неспакой, клопат велькі мужу і бацьку! Няма страшнейшай на свеце зброі, чым жаночыя папрокі і слёзы!

Зразумела, некалі яму шмат дасталося ад багацейшай за яго, але капрызлівай жонкі, а цяпер вось хапае ад абяднелай і злоснай, што асенняя мужа, дачкі.

Калі ехалі ў Навагародак, Усяслаў ужо не пасаромеўся, пры ўсіх спадарожных прытуліў Любку да сябе:

— Малайчына!

— За што? — схамянулася ад задуменнасці тая.

— За сваю вяльможнасць!

— Якая там вяльможнасць! — Любка, здаецца, была незадаволеная сабою.— Як я апынулася разам з гэтаю Ядвісяю, дык яна спачатку агледзела мяне так, што аж мае пяты запацелі, а потым давай з ухмылачкай загаворваць са мной то на адной, то на другой чужой мове, а я нічога ж не разумею, маўчу, нямею!

— Канечне, не шкодзіць ведаць чужыя мовы,— адпускаючы яе, мякка прамовіў ён, сам могучы чытаць і пісаць лацінкай, па-нямецку ды ўсё разумеючы, што гавораць князь Даніла ці магнат Баляслаў.— Але зусім ніякая не бяда, калі добра ведаеш і любіш толькі сваю родную мову!

— Ледзь-ледзь, але я вытрымала, пакуль яна нацешылася. А тады і кажу ёй: «Я разумею, панна Ядвіся, што вы можаце сказаць пра мяне: праўда, я нідзе далей свайго Навагародка не была, хоць хацела б паглядзець свет вялікі, шмат чаму навучыцца. Але тое, што трэба мне, жонцы майго мужа, ведаю добра».

— Малайчына!

— А яна аж пыхнула, вочы па яйку сталі, але апомнілася, нічога не адказала, амаль адвярнулася, смыляе-смыляе губамі і пазірае ў акно на двор. Я ж сама села, супакоілася і чакала, пакуль нас не паклічуць.

— Малайчына! Ты добра збіла яе пыху.

— Чым?

— Сваёй красою, розумам і годнасцю.

— Мне здаецца, яна зненавідзела мяне, што я, такаясякая, стала тваёй жонкаю,— прамовіла Любка, а затым дадала: — Можа, і без радасці вялікай, але яна пайшла б за цябе.

— Я, па-твойму, так і заманлівы мужчына?

— Для яе найважней тое, што ты знатны і багаты, што за табой яна была б зноў вяльможнай.

— Скажу шчыра,— не маніў і ўжо не жартаваў ён.— Яны пра гэта са мной не гаварылі.

— Не паспелі...

— Затое я паспеў ухапіць цябе, краса мая ненаглядная,— усміхнуўся.— А мовам чужаземным, калі хочаш, навучу, самыя розныя разумныя і не нельм і цікавыя пісанні чытаць будзеш, размаўляць з людзьмі з розных зямель. Хоць, думаю, рана-позна яшчэ болей змусім, каб яны і нашу дрыгавіцка-крывіцкую мову добра вывучылі, каб і на ёй з намі гаварылі і граматы нам слалі!

— Бачыш,— усміхнулася і яна,— якія табе клопаты са мною...

— Ведаеш што, жонка,— паківаў пальцам,— не хітруй, не змушай, каб я цябе шмат хваліў, каб потым і мне было шмат турбот з-за твайго галаўнога болю! Маці Звеніславы,— вось так сказаў пра сваю былую жонку,— сама ведаеш, была напраўду хворая, мучылася бедная, але мяне не мучыла.

— Яна была добрая,— прамовіла Любка.— Як цяпер і Звеніслава. Яны мне як родныя.

9

Дома, ужо на змяркканні, калі пасля заходу сонца мацней паціснуў марозік і калі назіраў, як яго чэлядзіны даглядаюць пасля дарогі коней, Усяслаў хацеў адразу паслаць чалавека па баярына Голуба, каб уведаць усе тутэйшыя і чужаземныя навіны, але яму пазамінаалі: прыплёўся Расціслаў. Здаецца, за гэтую спакойную і ўежную для ўсіх іх восень яшчэ больш патаўсцеў, пабольшаў ягоны падволіч, ажно выпірае за мясістыя і выразна здаровыя шчокі, толькі вось ніжняя палова таўсматага носа адмыслова ліловая, нават з сiневатым адценнем ад празмернага піцця.

— Як з'ездзіў у сваю воласць, пасаднік? — лісліва запытаў той, калі павітаўся.— Добра адпачыў?

— Добра,— адказаў ён, незалюбліваючы, што яго называюць пасаднікам.— Але толькі, вяртаючыся дадому, успомніў, што забыўся пра адзін наш вялікі клопат.

— Кожны новы дзень нясе новы клопат, Усяслаў,— адмахнуўся Расціслаў.

— Да слова, гэта — найбольш твой клопат, дворскі,— Усяслаў падструніў таго.— Сваё, што задумваў, я споўніў усё.

— У чым, па-твойму, я лежань альбо нягоднік? — нібы пакрыўдзіўся Расціслаў. Падпіты, упараны пад цёплым сабаліным футрам.

— Ты так і не ўведаў, чаму сям-там хварэе наш лён і як яго можна вылечыць,— адказаў ён, больш пазіраючы на сваіх коней, чым

на няпрошанага госця.— Хоць лепш за ўсіх знаеш: добры лён для нас — гэта золата, а золата — гэта наша моц.

— Каб жа так лёгка было лячыць хваробы!

— Гэтую ты проста мусіш ці вылечыць, ці знішчыць. І тут найперш нам могуць памагчы старый нашы гаспадары. У многіх жа з іх чысты лён.

— З многімі з іх гаварыў. Але ці не ведаюць, ці не хочуць сказаць прычыну.

— Кепска, значыць, гаварыу.

— Усё ты незадаволены мною, Усяслаў,— болей хмялеючы, смялей забурчэў той.— Па-твойму, я — проста мярзотнік! А то і вораг! Князю! Табе! Зямлі нашай! Данілаў прыхвасцень! А я вось маю навіну, ад якой і ў цябе кроў застыне...

Усяслаў не паспяшаўся запытаць, што гэта за такая навіна. А Расціслаў ажно здзівіўся:

— Не хочаш пачуць тое, што можа шмат змяніць у нашых варунках з Данілам?

— Ведаеш — скажы.

— Скажу: князь Даніла і Андрэй-дворскі паехалі ў Арду, да Батыгі...

Вось чаго так узбудзіўся Расціслаў. Баіцца, каб не загінулі там яго заступнікі, якім ён служыць як вартавы сабака.

— Чаго маўчыш? — запытаў Расціслаў.— Страх узяў?

— Ніякага страху ў мяне няма. Я так і думаў.

— Што?

— Што князь Даніла туды паедзе, а замест сябе пакіне Васільку.

— І цябе не палохае, што князь Даніла падаўся да азіяцкага тыгра ці на ярлык, ці па смерць?

— Не.

— Чаму?

— Не будзе князь Даніла, дык будзе князь Васілька ці іншы гаспадар.

— Ты не любіш князя Данілу, ты супраць яго шэпчашся з Мендогам!..

— Гавары ды не загаворвайся! — сярдзіта сказаў Усяслаў.

— Скажаш, ты не хочаш аддзяліцца ад Данілы яшчэ болей? Не бачыш Навагародскую зямлю саму па сабе, над усёй Літвою, а сябе — уладаром пры нашым хворым ці чужым князі, як! будзе слухаць цябе?

— Глядзі ты! — пакпіў Усяслаў.— Я і сам не ведаў, што ў мяне такія прагавітыя намеры, самалюбнасць, а то і пыха! Выходзіць я мару пра сілу і лаўры ўладара!

— Скажаш, я — дурань, нічога не разумею? — Расціслаў не адступіў.— Не ведаю, дзе праўда, а дзе жарцікі?

— Ты сваёй праўдай ужо даўыю аглушыў вушы Андрэю-дворскаму.

— Канечне, я — яго віж! — пакпіў ужо і Расціслаў.— Не ра да to яму усе нашы таямніцы!

— Усе нашы таямніцы — ніякі не сакрэт для Андрэядворскага. Я сам летам усё адчуў.

— Не ўсё не толькі ён, але і я ведаю,— выскаліўся Расціслаў.— Тое-сёе тут знаюць толькі двое: князь і ты! І гэта найперш супраць князя Данілы! На яго вы збіраеце сілу!

— Ага, каб напасці! Вось, калі яго няма дома, хутка і папром туды!

— Не, я — не дурань! Мяне вакол пальца не абвядзеш!

— Ладна, разумнік вялікі,— ціха, каб не пачулі яго людзі, сыкнуў Усяслаў.— Прэч адгэтуль! Хуценька! Інач зграбу за каршэль і выкіну, як пса, за вароты! Зводнік! Падбухторшчык!

Сык гэты быў такі пагрозны, што і п'яны Расціслаў зразумеў, што трэба адступаць-сыходзіць. Як толькі ён ужо ў цемені пакінуў двор, сюды адразу ж сам завітаў Голуб.

— Што Даніла паехаў у Арду, я ўведаў раней за Расціслава,— ужо ў цёплай святліцы, за сі алом і гліняным кубкам прыемнай медавухі адказаў той, калі Усяслаў запытаў у яго пра гэтую навіну. Але я, выбачай, не паслаў да цабе ганца наўмысна. Хацеў, каб ты там пабыў болей, адпачыў крыху. Тым больш, што Даніла адтуль вернецца, калі вернецца, то не хутка. А Васілька без яго нас чапаць не будзе. У яго цяпер нейкі інтарэс у Кракаве, дык хутка пэдзе туды.

— Хто ж вернецца з ярлыком на Галіцка-Валынскую зямлю ś будзе зноў пасягаць на нас? — не ў Голуба, а сам у сябе запытаў Усяслаў.— Стары Міхаіл Чарнігаўскі ці маладзейшы Даніла?

— Хто ведае,— развёў рукі той.— Хто найболыд дагодзіць Батыгу, таму і будзе міласць. Ды яшчэ будзе нямала значыць і тое, за каш закіне слова Батыгаў дарадца па заходняй і паўднёвай Русі, па «вячэрніх краінах» рыдзель ордэна Святой Марыі Альфрэд фон Штумпенхаузен. Так што, Усяслау, спакойна пачака.ем, а хвалюецца няхай Расціслаў.

— Ён узбуджаны.

— Вельмі,— сказаў Голуб.— І вось што, Усяслаў. Калі ты ад'ехаўся з дому, твой дружыннік Любамір адразу ж пабег да Расціслава. Прасіўся да таго на службу. Але Расціслаў вярнуў яго да цябе. Баюся, што вакол тваёй грудзіны абвіўся змей-вуж.

— Прасачу.

— Я на тваім месцы выгнаў бы яго, Усяслаў,— параіў Голуб.— I сквапны дзяцюк. Яму давярацца не трэба.

— Пагляджу-падумаю,— адказаў Усяслаў, яшчэ не маючы вялікай злосці да таго, на каго да нядаўняга часу не было нараканняў.

## Раздзел чацвёрты

### I

Як часта бывае ў тутэйшых мясцінах, зіма сёлета таксама заваёўвала сваё доўга: як толькі дарываўся калючы сівер з поўначы, дзе звычайна доўга ляжыць снег, глыбока прамерзлы дол, а то, кажуць, за краем зямлі з маленечкімі елкамі, у моры, таўшчэзныя горы лёду, дык тады і тут люцеў, прабіраў да касцей холад, а з неба валіў вялікімі мокрымі і цяжкімі хлапінамі снег, калі ж гэтая сцюдзёная паўночная плынь слабела і запынялася, а замест яе паволі наплываў вільготны цёк з недалёкага Варажскага мора, то неўзабаве ўсё супакойвалася і мякчэла, а калі яшчэ даходзіў цяплейшы дух з поўдня, дык у паветры вільгатнела, снег вадзяніўся, а то і зусім раставаў, а ўслед крапаў дождж, праз некалькі дзён зноў выхалоднівалася і зноў марудна хлюпалі зверху ўніз цяжкія матылі.

Снежань быў пахмурны, самы змрочны з усіх месяцаў; вельмі рана, амаль пасля паўдня ўжо, цямнела, дык рана запальваліся лучыны ці сальнікі ў людскім жытле; мужчыны правілі хамуты, стары абутак альбо шылі новы ці высякалі, вырэзвалі розную ўсячыну з дрэва і касцей; пажылыя жанчыны ткалі, вышывалі, а дзяўчаты і дзеці драл і пер'е. Пасля Варвараў і Міколы Зімовага зіма ўсё ж выцвярдзіла на камень зямлю і накрыла яе белаю коўдрай, густа ўсыпала снежным інеем дрзвы, дык навокал запанавалі шэрань і бель, нібы ў казачнай снежнай краіне, а пасля каляд, ужо ў студзені (стычні), калі пасля сумнай Піліпаўкі загарэзавала моладзь, зіма таксама ўволю пацешылася, пасваволіла завірухамі, накруціла сям-там такія гурбістыя горы, што ў многіх паселішчах засыпала снегам не толькі невысокія зямлянкі, але і паўхаты. У лютым (снежыне), кал і ўдзень начало вышэць, падблакітнівацца неба і большаць, цяплець сонца, мяцеліцы пацішэлі, а потым, пасля Стрэчання, збеглі ў іншыя краі, а замест іх уночы ярэў такі мароз, што ад яго аж трашчалі-стралялі бярвёны ў дамах. Пакрыху пачало адліжыць — снег асеў, ашарпачыўся, дык адразу ажывіўся ў ваколіцах рух — люд узяўся вазіць назапашанае ўлетку на лугах сена, з лесу — дровы, зачасцілі ў Навагародак і паўз яго свае і чужаземныя купцы. Пад канец лютага зіма, баючыся вясны, брала сваё, як

кажуць, збягала начамі: удзень ужо ўладарылі ясната і цяпло, а ўночы збіраўся, туманіўся холад альбо ціха трусіўся скупы снег. Чым большую сілу набіралі адлігі, тым мацней тамілі яны чалавечую душу, а заадно галавакружна ўзбуджаць — надта тады, калі пачынаў казытаць нос пах адталых дрэў ці сцен хат, лапічак ашленай зямлі на прызбе. Цяпер ужо зусім іначай хвалявала нават начная зяба. Так паволі, але нястрымна ўсё ішло да Новага году[1], да гукання вясны.

Чым далей, тым болей вышэла і блакітнела неба, яснеў і шырэў свет ад пабольшанага і амаладзелага сонца — Хорс-бацюхна, што ўжо не толькі светла і ласкава ўсміхаўся Зямлі-матухне, але гуляў са снегам, змушаў успыхваць яго белым полымем, спрыяў збірацца пад ім вадзе, што пакрыху аточвалася долу, каб з кожным днём дужэй бруіцца з больш нагрэтых пагоркаў уніз. Яшчэ ніхто яе не бачыў, але, мабыць, кожны адчуваў, што яна ўжо ёсць, зліваецца ў зручнейшыя мясціны, каб у свой час выбіцца на паверхню, загуляць у каляінах і рытвінах, а потым, за адну цёплую ноч, заліць лагчыны, лёд на рэчках і ручаях, а яшчэ пазней, мабыць, пад канец сакавіка ці ў красавіку, паімкнуцца стаць морам, а не стаўшы ім, пад нейкаю сілай хлынуць паводкаю да сапраўднага мора, туды, куды імкнуцца, бадай, усе вялікія і малыя рэкі.

Усяслаў на пачатку зімы, хоць і было няўстойлівае, слотнае і сцюжнае надвор'е, пачуваўся аднак добра. Рабіў сваё ў Навагародку ці выязджаў за горад, у воласць, прымаў пасла нцоў з іншых краёў, з задавальненнем займаўся хатнімі гаспадарскімі клопатамі, цешыўся Любчыным каханнем — цяпер яна і пільна сачыла, каб ён заўсёды быў свежа ды хораша апрануты, смачна накормлены, і грэла яго цела, яго душу сваім целам і сваёю душой. Але вось пазней я гоны спакой па чаў парушацца. Яму ўжо і заснуць было нялёгка, а калі змружваў павекі, дык мог прачнуцца сярод ночы з нейкім незразу мел ым неспакоем і пасля доўга то ўспамінаць самае markup рознае былое, за многае сябе дакараючы, то думаць, нават пакутліва разважаць пра новае. Можа, гэта было і з-за таго, што зусім нечакана абрынулася нямала нeспадзяваных трывог. Яго вельмі непакоіла, што з кожным днём слабее і слабее князь Ізяслаў, які да сваёй старэчай нямогласці дадаў яшчэ і новую (ноччу, не хочучы будзіць сонную маладую пакаёўку, спрабаваў сам выйсці са спальні, але ўпаў і зламаў руку), усё больш хваляваўся, што пачала цяжка пераносіць цяжарнасць Любка, то ванітуючы ад непрыдатнага ёй паху ці кавалачка мяса, то зусім абміраючы. Але, бадай, найбольш затурбавала тое, што сусед-саюзнік,

[1] Тады Новы год адзначалі ў сакавіку.

Міндоўг, надта няўдала схадзіў у паход на куронскія землі, дзе не толькі не ўзяў крэпасці крыжакоў і не пабіў іх, але, знянацку атакаваны запасным крыжацкім атрадам у спіну, мусіў адмовіцца ад аблогі і ўцякаць, хавацца-абараняцца ад крыжакоў ажно ў сваёй Руце. Гэтае паражэнне вядомага грознага літоўскага князя-верхавенца не магло не ўзрадаваць, не натхніць крыжакоў на свае вылазкі на язычніцкія, а то і ахрышчаныя ў праваслаўе землі, а заадно гэтая няўдача не магла не раззлаваць падуладных Міндоўгу некаторых літоўскіх князёў, не падштурхнуць іх на тое, каб адабраць у яго вяршэнства, а з ім самім расправіцца. Пераможца ёсць пераможца, яму не толькі ад чэлядзі, але і ад знаці слава, пашанота, пакланенне, пакора, боязь перад ім, а ўсё гэта значыць адно — мацунак ягонай улады. Пераможанаму ж не толькі спачуванне, але і злосць, ускладанне на яго віны, а то і спроба прыбраць яго. Што да Літвы, то цяпер там найперш павінен уладарыць Міндоўг, нават толькі Міндоўг: іначай Літва можа апынуцца пад воляй Жамойці, што імкнецца супернічаць і слбраць літоўскія, а то і іншыя язычніцкія землі пад сваёй вярхоўнай уладаю. Няма ніякага сумнення, жамойцкі князь Выкінт, хоць і родзіч Міндоўгу, выношвае прагавітыя намеры і дзеля іх, канечне ж, як рысь ляся, будзе падпільноўваць якраз Міндоўга, каб у зручны момант скокнуць яму на карак.

«Трэба паклікаць Міндоўга сюды. Няхай тут пераседзіць цяжкі для сябе час».

Сёння яшчэ цёмнаю часінай (толькі што кукарэкнуў першы певень) Усяслаў абудзіўся з той думкай, з якой і засынаў. Пра князя Данілу. Праўда, перад сном і цяпер думаў не столькі пра самога галіцка-валынскага князя (таго ўжо два месяцы няма дома, і пра лес ягоны ў Батыевым стане пакуль што нічога не чутно), колькі думаў пра яго сям'ю: надоечы Голуб сказаў пра яе неспакойную навіну. Затрывожаная Данілавым ад'ездам да мангольскага ўладара над паўсветам, не вытрывала страху і журботы, памерла Данілава жонка, княгіня Ганна. Значыць, цяпер князь Даніла, калі і вернецца дадому жывы, будзе ўдавец. Калі яго старэйшая дачка і старэйшы сын Леў дарослыя ўжо (дачка — нявестка Конрада Мазавецкага, жонка Зямовіта, у якога Даніла і ВасільКа з сем'ямі перачакалі паход Батыя на «вячэрнія краіны», сына Льва Даніла сватаў да дачкі венгерскага караля Бэлы, але няўдала), дык меншыя, Раман, асабліва Мсціслаў, Шварн і Дубраўка, яшчэ зусім дзеці. Тром малодшым крышку болей за дванаццаць, адзінаццаць і дзесяць гадоў. Але яны — не проста чалавечыя чады, а львяняты, нашчадкі дара звяроў, дзеці гаспадара Галіцка-Валынскай зямлі, які не спускае вока і з Навагародка і які, як сам прызнаваўся,

марыў прыслаць сюды нявесткай князю Ізяславу Дубраўку. Цяпер, калі ацалее і будзе мець ярлык на сваю вотчыну і калі, не дай Бог, памрэ князь Ізяслаў, захоча прыслаць сюды кагосьці са сваіх сыноў... А Міндоўг — іхні, навагародскі тайны козыр — цяпер пабіты, без вялікай сілы, і кажуць, разгублены... Значыць, трымайся, Навагародак! Уся надзея на шчаслівы шанец альбо толькі на саміх сябе!..

Калі заспяваў другі раз певень і яшчэ болей настойлівей наклікаў досвіткі, Усяслаў, паколькі пастулова пацяжэлі і маглі самі па сабе закрыць вочы павекі, бадай, праваліўся б у сон, як яго абудзілі сабачы брэх, людскі тупат на двары, стук у дзверы яшнага хорама, а пасля — ужо і прыглушаныя сценамі галасы тут, у доме.

Паколькі яго патурбавалі гэтак рана і рашуча, дык ажно сцялося ад нядобрага прадчування сэрца: каненча ж, здарылася штосьці надзвычайнае. Не, ніякага нечаканага і вераломнага нападу на Навагародак не будзе, старожывартa з усіх бакоў не перасцерагалі пра якуюнебудзь небяспеку, дык няўжо, цьфу-цьфу! выйшла. іншае, непазбежнае? Няўжо гэтымі хвілінамі адышоў у нябыт князь Ізяслаў? Няўжо з сённяшняга дня пачынаецца ўжо новая, зусім невядомая эпоха для Навагародка?

Каб не пабудзіць Любку, якая, чуў, спала неспакойна, то раз за разам уздыхала, то варочалася з боку на бок і цяжка стагнала, ён ціхенька падняўся, накінуў на сябе любімы цёплы халат, усунуў ногі ў мяккія шлэпкі і асцярожна выйшаў са спальні. Там, на першым паверсе, у вітальні гарэлі ўжо свечкі, дык скупое святло ад іх падала і сюды, на лесвіцу, дык ён спусціўся па ёй спакойна. Адразу сустрэўся з сівавалосай, з накінутай на плечы цёплай хусткаю і са свечкай у руцэ Марыляй — яна, як было відаць, хацела падняцца наверх і пабудзіць яго.

— Што за шум, Марыля? — запытаў, мружачы вочы ад святла.

— Мендог, баярын,— адказала тая.

— Што — Мендог? — не зразумеў.

— Загрукаў у наш хорам так, што ўсіх на ногі падняў.

— Дык ён тут? У нас?

— У нас. У святліцы. Сам не свой. Аж страшна на яго пазіраць.

Усяслаў адразу ж рушыў у недалёкую святліцу — таксама асветленую ўжо свечкамі, зіхоткую ад яркіх дываноў на сценах і на падлозе. Там стаялі яго, Усяслававы, два дружыннікі ў паўдаспехах, а на крэсле пры стале сядзеў, аблакаціўшыся на локаць, Міндоўг. Праўда, сам не свой: без шапкі, са злямчанымі валасамі, у футры паверсе белай расхрыстанай кашулі, у белых споднiках, на адной яго назе быў знаёмы чырвоны бот, а другая нага была голая. Белы, як палатно.

Нібы звар'яцелы ад страху, злосці і адчаю, як зацкаваны і прыціснуты да вываратня раз'ятранымі хортамі бывалы, хітры, але знясілены і пакусаны воўк.

Усяслаў зразумеў усё адразу. Выйшла так, як і думаў: супернікі звінавацілі Міндоўга за няўдалы паход на крыжакоў, за вялікія страты і ахвяры, сабралі незадаволеных і далі яму бой. Як відаць вось, на яго апошняе прыстанішча напалі знянацку, дык ён, ратуючыся, мусіў уцякаць з пасцелі. Міндоўг, убачыўшы яго, падняў галаву і зірнуў жаласна, нервова кусаючы губы, а пасля зноў апусціў быццам вельмі цяжкую галаву.

— Прынясіце снегу і разатрыце князю нагу,— загадаў Усяслаў дружыннікам.— А ты, Марыля, падбяры цёплую апратку, абутак для князя, падай сюды глячок моцнай настойкі, закуску.

Калі ўсе выйшлі і зачынілі за сабой дзверы, Усяслаў запытаў са спачуваннем:

— Уцёк ад непрыяцеляў з-пад носа?

Міндоўг не адказаў: не мог стрымаць дрыготку. Найбольш тую, што біла яго ўсярэдзіне.

— Хто напаў?

— Змоўшчыкі,— ледзь выдыхнуў Міндоўг.

— Хто?

— Сынаўцы. Таўцівіл і Эдзівід,— Міндоўг адрывіста пацёр далонню твар, вусы і бараду, паспрабаваў зашпіліць кашулю на багатай на рыжае валоссе грудзіне, але не змог.— А сілы ім даў іхні дзядзыса, даўні мой «прыяцель».

Дзядзька, «прыяцель» — гэта родны брат маці Таўцівіла і Эдзівіда, жамойцкі князь Выкінт.

Пазней, калі Міндоўгу нацерлі снегам ахаладнелую нагу, калі пераапрануўся і абуўся ў цёплае, выпіў нагбом кварту пякучага пітва, ён пачаў апамятвацца і ўладаць сабой, загаварыў ужо ўсвядомлена:

— Таўцівіл і Эдзівід, канечне ж, па Вікінтавым нашэпце, спачатку пачалі крычаць усюды, што я не ўмею ваяваць, пасля няўдачы з крыжакамі аслабіў Літву, наўмысна загубіў іхняга швагра, мужа іхняй сястры Юраты, а потым падбілі супраць мяне амаль усіх князёў. Як казаў, Выкінт даў ім сілы, дык яны разбілі мае дружыны, а сёння хацелі схапіць мяне ў маёй схованцы.

— А дзе Ганна, Войшалк, Данута?

— У Руце. У іхніх руках. Там і твой сябар Хвал, іншыя баяры,— Міндоўг падняў галаву, умольна зірнуў у вочы.— Усяслаў, іх трэба ратаваць! Не марудзячы!

— Я не думаю, каб іх зачапілі,— адказаў ён, стоячы паблізу і скрыжаваўшы рукі на грудзіне.— Таўцівіл і Эдзівіт паважаюць Ганну, любяць Дануту. Таўцівіл і Войшалк — не толькі шчырыя стрыечнікі, але і найлепшыя сябры.

— Затое яны ненавідзяць мяне, лічачы, што гэта я звёў са свету іхняга бацьку, свайго брата. Ды там, кажу ж, яшчэ Выкінт — закляты мой вораг, які бачыць мяне толькі ў Marine. Каб звесці мяне, каб узвысіць паслухмяных яму Таўцівіла і Эдзівіда, падуладзіць Літву Жамойці, ён можа падбіць тых на ўсё. Нават на тое, каб яны загубілі прыязных ім людзей.

— Не, Таўцівіл і Эдзівід не зробяць такога. Загуба тваёй сям'і — не проста дзёрзкасць, помета і зло табе, гэта — і нахабны выклік Навагародку, твайму саюзніку. І Полацаку таксама.

— Ты добра не ведаеш Таўцівіла і Эдзівіда і мала знаеш іхняга дзядзечку,— Міндоўг сам наліў сабе з гляка настойкі, зноў выпіў поўную кварту, а да мяса, хлеба і кіслай капусты нават не дакрануўся.— Таўцівіл і Эдзівід, канечне, лічацца, што мы саюзнікі, што Навагародак багаты і моцны, а вось Выкінт і вас ненавідзіць. Яму Навагародак — костка ў горле, яна замінае праглынуць Літву. Ды я і свайго Войшаля не заўсюды разумею. Ён не толькі сябруе з Таўцівілам, маім ворагам, але і ўпотай ад мяне пра штосьці шэпчацца з ім. Яны, прадчуваю кожнай жылкаю, хочуць рабіць усё іначай, чым я, задумліваюць сваё. Я нікому з іх не веру! Толькі крыху сястры і яе сыну Траняце.

— І сыну свайму павер, князь,— сказаў Усяслаў.— Паспрабуй зразумець яго. А яго добрая прыязнасць з Таўцівілам можа яшчэ спатрэбіцца: ніхто добра не знае, што яго чакае...

— Я прачуваю: князь Ізяслаў, ты спрыяеце не толькі мне,— пахітаў галавою Міндоўг.— Вы ў сваіх інтарэсах прыглядваецеся і да майго Войшаля, і да Таўцівіла, пільна назіраеце і за іншымі. За Выкінтам, канечне ж, таксама. Але для мяне, Усяслаў, варункі з Таўцівілам, Эдзівідам, Выкінтам і іншымі могуць быць толькі адны: ці я — іх, ці яны — мяне! І вы, Усяслаў, калі хочаце, каб Навагародак і Літва падпіралі адно аднаго, павінны найперш памагаць мне. Мацёраму Ваўку, але па-сабачаму вернаму вам. Таму не адкладай, б яры сілу і ідзі на Руту. Пакажы ім, што не трэба, што вы не дазволіце,каб яны абкладалі мяне, трымалі заложнікамі маю сям'ю. Я ж, калі зноў умацуюся, пакажу ім усім, як на мяне руку падымаць! Біў, б'ю і буду біць непакорных! Паможаш — дык і Жамойць прыпром да мора, а то і паставім на калені! Як Выкінт жадае як мага далей адысціся ад марскіх берагоў углыб нашых лясоў, сенажацей і зямель, гэтак я мрою

дарвацца да вялікай вады, што злучыць нас са светам! Праўда, спачатку трэба будзе скінуць у мора крыжакоў, што замышляюць на нас злавеснае, хочуць парабіць нас рабамі! Чуеш, Усяслаў! Памажы зноў быць на волі, на ловах Ваўку! Я ж памагу нямала чаго аблажыць і вам!

— Адпачні, князь, супакойся,— суцішыў яго Усяслаў.— Пераначуем — штосьці новае пачуем. Ды ты ж ведаеш: не дазволім пакрыўдзіць тваіх сямейнікаў і цябе вернем у Руту. Зноў збярэш сілу, зноў заўладарыш у Лігве.

А потым наўмысна перавёў гутарку на іншае:

— Да слова, ці ацалеў у бітве з крыжакамі твой асілак Лоў?

— Ацалеў,— спакайней ужо прамовіў Міндоўг, бачачы, што разважлівы Усяслаў не збіраецца тут жа трубіць збор дружынам, весці іх, а з імі і яго, бежанца, у Руту, каб ягонымі рукамі захапіць там сваіх супернікаў і расправіцца з імі.

— Калі Лоў ацалеў, дык не застанешся без верных і спраўных вояў. А цяпер, праўда, паспрабуй заснуць, князь,— і падбадзёрыў усмешкай.— Не адчайвайся, вер у сваю шчаслівую зорку.

— Каб не вы, дык мая зорка ўжо даўно закацілася б, патухла назаўсёды,— пахмурна адказаў той, зноў пацягнуўся да гляка.

— Нам з табой, князь, наперадзе будзе яшчэ шмат клопатаў і турбот. Думаю, і табе прыйдзецца нам яшчэ памагчы...

— Цяпер, бачыш, памочнік з мяне ніякі,— сумна пахітаў той галавою, а пасля прагна перакуліў усё зь кварты ў рот, рукавом жупана выцер вусы.

— Цяпер ты часова страціў сілу і ўладу ў Літве,— сказаў Усяслаў.— Але за табой усё роўна тваё грознае і славутае імя! А гэта, сам ведаеш, шмат значыць! І для сяброў, і для ворагаў!

— Мае імя зноў будзе чуваць толькі пры табе і пры тваіх дружынах, Усяслаў,— Міндоўг зноў выпіў, але ва ўзбуджэнні, здаецца, зусім не хмялеў. Праўда, цяпер адламаў з лусты хлеба невялікі кавалачак, адшчыкнуў ад стушанай, цяпер халоднай гускі крыху мяса са сцягна і без вялікага смаку ўзяў у рот, паціху зажаваў, невідушча пазіраў долу ў кут, пакрыху напаўняючыся хмельнасцю і нібы ўвесь асядаючы. Значыць, усё ж моцная настойка брала сваё, мяняла кроў, затуманьвала свядомасць.

А паколькі Міндоўг пачаў спакваля п'янець, дык у яго не магло не выбухнуць з душы звычайнае чалавечае і адменнае княскае, добрае і непрыязнае, смелае, свавольнае і адчайнае ды тым больш, што ён ведаў: Усяслаў, магутны яго заступца, цярплівы і разважлівы, дык усё выслухае і шмат даруе.

— Праўду, зусім справядлівую праўду, Усяслаў, кажуць мае свае, літоўскія, і чужаземныя непрыяцелі: я — Воўк! Жыву далека ад гарадоў вялікіх і людскіх скопішчаў, у пушчы, трымаюся воўчых панадкаў! Воўк — невялікі, але разумны, хітры і люты звер! Ён не чапае зубра, мядзведзя, але і іх змушае лічыцца з ім. Абкладае з іншымі Ваўкамі і збівае з ног лася, каня і дзіка, адзін бярэ бабра, цяля, казулю, зайца. Не каля свайго логава — воддаль. А каб жыць так, набегамі, трэба не толькі мудрасць і моцныя ногі, але мусова быць пярэваратнем, ваўкалакам. Якраз такімі былі нашы далёкія продкі — неўры, велеты-волаты, якія пакланяліся найперш ваўку, насілі воўчыя скуры, а ў баях начэплівалі на твар воўчыя зяпы, Вялікімі Ваўкамі былі мае родзічы — няшчасны Рагвалод, грозны і славуты Усяслаў Чарадзей. Таму я, Усяслаў, ніколі не скарджуся, нават ганаруся, калі мяне называюць ваўком ці ваўкалакам: я пакланюся гэтаму зверу, бо мушу жыць так, як жыў, жыве і будзе жыць тут ён — гаспадар гэтага краю. І вы, навагародцы, Ваўкі, ваўкалакі, а ты, Усяслаў,— самы хітрун, спрытнюга і ўдалец, а цяпер і самы ўладны тут Воўк і ваўкалак! Скажы, хіба не так? Не па такіх панадках вы разважліва і спакойна выйшлі з-пад волі князя Данілы?

— Яшчэ не выйшлі,— адказаў ён.

— Выйдзеце. І якраз, кажу, такім манерам... «Ваўкі — лютыя звяры...» Вось і пайшло ўжо даўно: велеты-волаты — ваўкі — люцічы — Лютва — Лотва — Літва... Выць — вой-воін... Яшчэ і цяпер на землях Конрада Мазавецкага і асабліва ў вотчынах Данілы Галіцкага, Яраслава Уладзімірскага нас, Літву, лічаць чарадзеямі-лютадзеямі, Літвой палохаюць дзяцей. Для іх Літва — гэта набег грознай баявой дружыны, небяспека, гэта бітва не на жыццё, а на смерць:

Не наступай, Литва,
Будет с нами битва.
Будем битись, воевати
И девонек не давати.

Міндоўг выгаварыўся, а пасля падскочыў і, хістаючыся, схапіў яго за рукі:

— Усяслаў, мы — адно! Нікому не прадавайся, захавай нашу даўніну і сённясць, умацуй нашу будучыню! Выручы мяне, зацкаванага Ваўка! — пацягнуўся, абняў, заплакаў: — Усяслаў, каб ты толькі ведаў добра, што цяпер ад цябе значыцца! Ты — не проста чалавек, ваявода, дзяржаўны муж. Ты можаш павярнуць тут па-свойму саму матухну-гісторыю! Тваёй перамогай і славай будуць ганарыцца нашы нашчадкі!

— Ці могуць праклінаць, скакаць на магіле, а потым забыць...

— Ганьба такому дурному нашчадку, дзеля якога мы цяпер так пакутуем! — праслязіўся Міндоўг.— Але мы павінны дбаць пра іншых нашчадкаў — памятлівых, разумных, добрых, працавітых і зборных, якія нашу любоў да ўсяго роднага панясуць далей... Вырадкі ці прыстасаванцы будуць, але яны, апаганеныя, загадзя ўжо асуджаныя і самі свой род, свае паводзіны зганьбяць...

— Простыя, але залатыя словы, князь,— сказаў Усяслаў, спрабуючы пакласці на пасцель ап'янелага госцябежанца.

2

Усяславаў ганец вярнуўся з Руты ні з чым: Міндоўгавы сынаўцы не толькі не адпусцілі ягоную сям'ю, але і не дазволілі ганцу ўбачыцца з ёю — маўляў, тая хоча застацца дома, а Міндоўг можа сюды не вяртацца, а перабірацца да каханкі. Як ганец зразумеў, захопнікі Міндоўгавай сталіцы не толькі павяліся дзёрзка, але і намерыліся і расквітацца са сваім вярхоўным князем.

Канечне, такая парыўчасць маладых князёў не толькі раздражніла, але і абурыла Усяслава: ён добра адчуў за ёю чужы нашэпт. Ды ён, выслухаўшы ганца, нават брывом не павёў — наадварот, яшчэ ўхмыльнуўся: «Дзецюкі захацелі пагуляць ва ўладароў Літвы!» Параіўся з князем, а пасля затрубіў збор і загадаў Бяляну збіраць дружыну ў паход, а то і рыхтавацца да зімняй аблогі. Паехаў з імі і Міндоўг, бо без яго паход выглядаў бы ўварваннем у суседнія землі.

Падаліся перад сакавіцкім дасвеццем — яшчэ цёмным, з лёгкай вясновай маразянкай, што сцягнула за ноч ваду, пакрыла яе лёдзікам, а снег — цвёрдай скарынкай, дык снежна-лёдны дол пад конскімі нагамі храбусцеў, гулка парушаў перадсвітальную навакольную цішыню. Каб лепш бачыць дарогу і не расцягвацца ў цугу залішне, запалілі светачы — некалькі іх з бяросты, з прасмаленага пакулля было наперадзе і столькі ж ззаду калоны. Калі дагаралі адны светачы, ад іх прыпальвалі новыя, дык увесь цёмны час ехалі ў чырванавата-жоўтым мігценні святла, кідаючы ад сябе і коней цені ўбок, дзе згушчалася цемрадзь, і абдаючыся гаркаватым дымком. Калі цемната на небе і ў наваколлі пачала паволі траціць чарнату і цадзіць шэрань, каб неўзабаве скупа заяснецца, факелы патушылі. Калі пасля таго, як заднела і наліўся спачатку светла-шэрым, а потым жоўта-чырванаватым колерам усходні край неба, коні, прадчуваючы сонца і дзень, узбуджана зафыркалі. Усё болей сям-там у паселішчах, у багацейшых хатах, пачалі блішчэць акенцы-дыхнікі, а ў нос даваць дым з сасновых і бярозавых дроў, што сачыўся праз стрэхі. Паказваліся і людзі, што тапталіся пры дварах, насілі ваду, запрагалі коней у сані, а да ўсяго

іх, коннікаў, ярасна аббрэхвалі ахаладнелыя і засумаваныя за ноч сабакі. Пазней ехалі пад сонцам, што падымалася ўсё вышэй і свяціла, грэла мацней, а ўдзень нават пачало прыпякаць, ад чаго і ад трушковага бегу павільгатнелі спіны і бакі ў коней.

Калі перайшлі яшчэ накрыты тоўстым лёдам Нёман, дык у пушчы з высокай елкі ўгору нечакана струменьчыкам павіўся рэдзенькі, а потым клубам паваліў густы дым — значыць, літоўскі дазорца, што сядзеў на дрэве, згледзеў іх і даў знак сваім. Неўзабаве на іхняй дарозе паўстала ўжо конная літоўская старожа. Убачыўшы Міндоўга, які знарок выехаў наперад і грозна насупіўся, некаторыя воі з яе сумеліся.

— Ну што? — сярдзіта запытаў іх Міндоўг.— Здрадзілі, гатовы падняць на свайго вярхоўнага князя лукі, коп'і альбо мячы? За якую ж плату прадаліся?

— Князь, мне загадалі... — прамовіў дзесяцкі, пажылы вой у скураных даспехах і з мячом, але сказаў не зусім цвёрдым голасам.

— Што табе загадалі? — пыхнуў гневам Міндоўг.

— Захапіць цябе, звязаць і прывезці ў Руту.

— Хто табе такое загадаў?

— Князь Таўцівіл.

— Дык кідайся, хапай! — пакпіў Міндоўг.— Чаго стаіш? Чаму не спаўняеш загад «законнага вярхоўнага князя?» — І не чакаючы адказу: — На калені, здраднік! Ну!

Пажылы вой, бачачы перад сабой лес вострых бліскучых навагародскіх пікаў, мігам спешыўся, бухнуў вобзем. За ім упалі на калені і астатнія са старожы.

— Варта было б за здраду выпусціць вам кішкі, абматаць іх вакол дрэва і пакінуць вас на пакутлівую смерць,— раз'юрана працадзіў скрозь зубы Міндоўг,— але... Каецеся?

— Каемся, князь,— загаманілі ўкленчаныя ў нізкім паклоне.— Нас змусілі сілай падпарадкавацца.

— З гэтага боку ніякай небяспекі Руце няма,— Міндоўгаў голас пацішэў, але ўсё яшчэ быў суровы.— Дык ва ўвесь дух скачыце ва ўсе нашы высі, пушчанскія куткі і падымайце на ногі ўсіх вояў! Няхай ідуць на Руту і памагаюць выгнаць з яе змоўшчыкаў і маіх ворагаў! Хто не паслухае — таму смерць лютая.

Старожа неўзабаве мігам панеслася ў розныя бакі, а маўклівы Усяслаў і ўзбуджаны Міндоўг паволі, раз-пораз кідаючы позіркі па баках, рушылі далей абсонечаным уверсе, усланым перакрыжаванымі доўгімі ценямі, а сям-там і з ярка-белымі палянамі лесам наперад, да Руты, асцерагаючыся, каб засада не абрынула на іх загадзя пад-

сечаныя вялізныя і разлапістыя елкі альбо хваіны. Чым далей, тым болей большаў і гусцеў цень, мацнела лясная стынь: сонца, не набраўшы вялікай вышыні, увачавідкі паніжэла, паблекла, неба страціла блакіт, воблакі — падзалочаную белізну, а яснасць пачала па-вячэрняму сутоньвацца.

Вось нарэшце знаёмы стары лес парадзеў, а пасля зусім саступіў месца бярэзінам і альхоўю: пачалася сырая і цяпер балацявіна, а за ёю гусцілася самае рознае кустоўе, а за ім як на далоні адкрылася шырокае поле, на якое сцяною падаў цень з супрацьлеглага, заходняга боку, накрываючы сабою зямлянкі і паўхаткі; пасярод поля і селішчаў, на невысокім узгорку, стаяла асвечаная сонцам Міндоўгава сталіца. Не, гэта не быў горад, нават не было і гарадзішча: тут меліся роў, за ім — невысок! земляны насып, а на насыпе стаяла абгародагароднея — завостраныя пікамі ўверх высокія і змацаваныя адно з адным бярвёны, а за ёю, як добра ведаў Усяслаў, было некалькі дзесяткаў драўляных баярскіх і дружынніцкіх дамоў, пасярод якіх высіўся двухпавярховы, таксама толькі з дрэва княскі хорам. Як крэпасць Рута далека са ступал а Нолацаку, Навагародку, Менску, Ваўкавыску ці Гародні: там было нямала пабудоў з цэглы і каменю ды і сцены былі нашмат трывалейшыя.

На выездзе з лесу яны запыніліся і прыгледзеліся. За пікамі бярвёнаў былі відаць у звыклых літоўскіх даспехах вoі — яны стаялі на нябачных адгэтуль плашкавых насцілах, азіралі наваколле і, калі трэба будзе, могуць адтуль біць стрэламі, калоць коп'ямі, а калі хто няпрошаны палезе на сцяну, дык і секчы яго мячамі.

— Як лічыш, князь, дадуць нам бой ці не? — запытаў Усяслаў у Міндоўга, які запыніўся побач і сумна пазіраў на сваю сталіцу, куды яго не хацелі пускаць.

— Першыя не асмеляцца падняць на цябе меч,— пахмурна адказаў той.

— Дык і мы першыя не падымем на іх зброю.

— Я падкажу зараз самыя слабыя месцы, дзе нядаўна ледзь не зрабілі пралом крыжакі,— падахвоціў яго да атакі Міндоўг.— Бяры крэпасць, пакуль не сцямнела. А калі не возьмем да цямна, дык абкладзем іх з усіх бакоў, каб уночы нават мыш адтуль не вышмыгнула!

— Не, Міндоўг, трэба абысціся без крыв«. Такі Ізяславаў наказ.

— Яны загадалі захапіць мяне жыўцом, а ты што — пойдзеш з імі на перамовы?

— Найду.

— А не будзе гэта ўніжэннем Навагародку? Такі баявы ваявода, пасаднік просіць міру і ласкі ў жаўтаротых!

— Я не буду гэтага прасіць, я ім гэта параю,— спакойна адказаў ён.— Калі будуць разумныя, разважлівыя, дык мір і зшда захаваюцца.

— Толькі не ў мяне з імі. Нам ужо разам не па дарозе. Дык на ніякія перамовы я не пайду.

— Канечне,— уздыхнуў Усяслаў,— табе не трэба ісці туды. Ты, Таўцівіл, Эдзівід, а то, можа, нават і Выкінт не пагаворыце спакойна, адразу ж пачнеце крычаць, абражаць адно аднаго, а пасля схопіцеся за мячы, нальяце столькі крыві, што потым прыйдзецца не сонцаварот і не два разбірацца ды супыняць крывавую ростырку.

— Дык ты што — пойдзеш да іх сам? Адзін?

— Сам. Адзін.

— А калі які дурань ці здрайца пусціць у цябе стралу з крапасной сцяны?

— Вось тады Бялян павядзе дружыну на штурм.

— Не рызыкуй. Ды, кажу, патрасі кулаком, няхай яны едуць сюды, у наш стан.

— Яны могуць паасцерагацца выйсці з крэпасці. Тым больш, што ты тут у запале можаш перакіпець.

— Дарэмна ты будзеш разводзіць цырымоніі,— зморшчыўся Міндоўг.— Шчанюкі яны яшчэ, каб нароўні з выжлам мець варункі!

— Сёння — шчанюкі, а заўтра ўжо — самі спраўныя выжлы... — усміхнуўся шматзначна Усяслаў і загадаў Бяляну: — Давай пасольскія знакі.

Калі той заявіўся неўзабаве з навагародскай бел-чырвона-белай і спрэс белай харугвамі, яго Усяслаў запыніў, выбраў лепшы дзесятак сталых вояў.

Абаронцы на сценах неспакойна назіралі за імі. Канечне, хтосьці з нецярплівых ці падбухторлівых мог пусціць найперш у яго, Усяслава, стралу, але і таму пагражала б смерць ад сваіх за тое, што стрэліў у перамоўшчыка, а старшаму абароны — ганьба.

Непадалёку ад дубовай і акаванай жалезам брамы, перад расчышчаным ад снегу, глыбокім ровам, Усяслаў спешыўся. Канечне, цяпер найбольш рызыкаваў не толькі жыццём, але і сваім імем дый гонарам Навагародка: да яго маглі не выйсці і не адчыніць перад ім браму, як, скажам, у свой час не адчынілі ў Драгічыне вароты перад князямі Данілам і Васількам з сем'ямі, калі тыя вярталіся дадому з уцёкаў ад Батыевага нашэсця з вотчыны Конрада Мазавецкага і вялі з сабой чужую сілу, каб з той зноў заўладарыць у Галічы і Валыні.

Ды не, Усяслава не асаромелі: неўзабаве, кал і вялікае і чырванаватае сонца зусім нізка павісла над зямлёй, нешырокая, для праходу людзей, адчынілася брамка, і з крэпасці выйшаў малазнаёмы,

маладзейшы за яго баярын князя Таўцівіла, падышоў і стаў на крайку таго берага рова. Крыху памаўчаўшы, пасля лёгкага наклону запытаў:

— Што хоча сказаць нам навагародскі ваявода?

— Я прыйшоў сюды найперш як пасол нашага князя.

Паколькі спаўняю княскі наказ, дык магу гаварыць толькі з князямі Таўцівілам і Эдзівідам.

— Я перадам твае словы маім князям,— баярын адкланяўся і вярнуўся ў крэпасць. Праўда, даволі хутка адчынілася вялікая брама, а сюды, на роў, апусціўся на тоўстых ланцугах мост з абчасаных бярвёнаў.

— Як толькі зойдзе сонца, я павінен выйсці,— сказаў Усяслаў дзесяцкаму.— Калі не выйду, няхай баярын Бялян запатрабуе, каб мяне выпусцілі. Не выпусцяць — бярыце крэпасць.

Сказаў, пакінуў свайго каня, узяў трох рослых дружыннікаў і падаўся ў Руту. Мост за імі зноў паднялі, а браму зачынілі; Таўцівілаў баярын пад насцярожлівыя і запытальныя позіркі вояў павёў яго ў Міндоўгаў просты, але моцны з тоўстых абчасаных бярвёнаў хорам з невялікімі акенцамі-дыхнікамі. Мяча ад яго і ад дружыннікаў не забралі.

У асветленай ужо грыдні, куды Усяслаў зайшоў адзін, яго чакалі добра знаёмыя Таўцівіл і Эдзівід — абодва рослыя, з доўгімі светлымі валасамі, прыціснутыя на лобе і на патыліцы чырвонай з жоўтай пазалотаю стужкай, у аднолькава сініх кашулях і скураных, выробленых са скур аленяў безрукаўках. Таўцівіл быў худы, з доўгім носам і тонкімі губамі, а Эдзівід паўнеўся ружовымі шчокамі ды таўставатымі, яркімі, як у жанчыны, губамі.

Акінуўшы позіркам маладых настроненых князёў, Усяслаў адразу ж перавёў вочы на супрацьлеглую бурачковую аксамітную доўгую, да самай дашчанай, нацёртай воскам падлогі, занавеску: за ёю, ведаў, схаваны яшчэ адзін ход сюды. Там звычайна хаваліся Міндоўгавы целаахоўнікі ці тыя, хто па гаспадаровым знаку павінен быў нечакана выскачыць і забіць заманенага сюды непажаданага госця.

— Вечар добры, князі,— схіліў галаву Усяслаў.

— І табе, баярын, добры вечар,— адказаў больш рашучы Таўцівіл, а мяккі Эдзівід толькі кіўнуў. Праўда, абодва пільна сачылі за тым, што і як ён тут азірае.— Садзіся, баярын.

Сам сеўшы, Таўцівіл намагаўся быць спакойным, але голас ягоны ўсё ж уздрыгнуў. Добра адчувае, што пачаў ён тут не гульню, а калі гульню, то не малую, што вось захвалявала і саюзнікаў-суседзяў. Усяслаў сеў насупраць іх.

— Што прывяло цябе на літоўскую зямлю, баярын? — хоць раней Таўцівіл часта быў госцем у Навагародку, бо сябраваў з іхнім княжычам і хацеў бачыцца з Войшалкам, паводзіўся з пашанотай, а то нават і падлашчваўся да яго, Усяслава, каб ён дзядзькаваў-вучыў вайсковаму і яго, але цяпер вось запытаў халаднавата.

— Што пры вял о мяне сюды? — пазіраючы пільна яму ў вочы, усміхнуўся Усяслаў.— Тое, што вы, маладыя князі, наказал і нам свае кіпцюрыкі!..

Ад Таўцівілавага твару ад гэтых усмешкі і слоў адліла чырвань, пайшла-пайшла плямінамі белізна.

— Хіба вам? — мармытнуў ён.

— І нам, калі вы з нашым ганцом не адпусцілі ў Навагародак Міндоўгаву сям'ю,— без усмешкі ўжо сказаў ён.

— Княгіня, Войшаль, Данута не любяць Міндоўга, дык самі не захацелі ехаць да яго! — запаліста прамовіў Таўцівіл.— Можаш, баярын, сваімі вачыма ўбачыць: яны жывыя і здаровыя!

— Якраз такі наказ мне князя Ізяслава: спачатку ўбачыць Міндоўгаву сям'ю, а пасля пачаць перамовы з вамі. Я прыехаў сюды яе толькі як ваявода, але і як пасол.

Такі нязвыклы лядок у ягоным гол асе зусім астудзіў запал маладых князёў: спакойны, нават нібы заўсёды млявы Эдзівід заплюскаў доўгімі рыжаватымі павекамі, а звычайна смелы Таўцівіл дарэшты збялеў. Да ўсяго Эдзівід з дакорам зірнуў на брата, што не цяжка было угадаць ягоныя думкі: «Я ж табе казаў, каб ты не рабіў такое!»

— Кажу ж, усе Міндоўгавы сямейцы жывыя і здаровыя.

— Пакажы,— ска за ў Усяслаў.— На вялікі жаль, болей не магу верыць табе на слова.

Таўцівіл зірнуў на Эдзівіда — той адразу ж падняўся і, адхінуўшы бурачковую занавеску, выйшаў з грыдні. Але, здаецца, за патайнымі дзвярыма затрымаўся: адтуль пачуўся шэпт. Лепш сказаць, на Эдзівіда там хтосьці незадаволена засыкаў. Таўцівіл заўважыў, што Усяслаў усё чуе, дык. пачаў бянтэжыцца і ўжо чырванець — спачатку запунсавеліся вушы, а потым выплылі плямкі на шчоках.

— Малады дружа, я разумею, што і для чаго ты ўсё гэта робіш. Твае патайныя намерь? мне вельмі ясныя, Усяслаў быццам не зважаў на тое, што іх падслухоўваюць.— Не скажу: добра яно ці пагана. Але па-сяброўску параю, пастукаў пальцам па засланым зялёным сукном стале,— будзь асцярожны ў гульнях з агеём! Каму трымаць вяршэнства на Літве — гэта не толькі твая, Эдзівідава ці яшчэ нейчая іншая воля, не толькі воля Літвы. Гэта — яшчэ і пільныя інтарэсы суседзяў: найперш Навагародка., Полацака, Жамойці. Полацак і

Жамойць, канечне, не запярэчаць, каб якраз ты, малады, стаў вярхоўным на Літве, бо па бацьку — ты з роду полацкіх князёў, а па маці — з жамойцкіх. Але, павер, Полацак адразу ж не пацерпіць, калі ты станет васалам Жамойці. Што да Навагародка, дык зноў скажу табе, Таўцівіл, зусім шчыра: мы цяпер хочам, каб Літва не падпала ні пад волю Полацака, ні пад волю Жамойці. Мы, як ты не раз і не два чуў сам, цябе паважаем, хочам зберагчы. Як самога, так і тваю прыязнасць з Войшалкам. Але цяпер, у гэты час, вярхоўным князем на Літве павінен быць толькі Міндоўг. І мы зробім усё, каб ён ім і быў!

Усяслаў сек-рэзаў словамі, а Таўцівіл слухаў яго ўжо апусціўшы галаву, як шкодлівы шчанюк.

— Я, Таўцівіл, цяпер не магу раскрыць табе ўсе нашы інтарэсы,— мякчэй сказаў ён.— Прыйдзе час — усё ўведаеш, зоймеш тое месца, якога будзеш варты найперш ты. Але сёння, чуеш, сёння ж мужна прызнай вяршэнства Міндоўга і ўпусці яго ў Руту! Я табе за гэта скажу толькі дзякуй і назаву цябе разумным і дальнабачным князем, для якога Навагародак будзе сябрам!..

Таўцівіл адрачона маўчаў, часта, мусіць, ад роспачы заплюскаў павекамі. Можа, гэтае маўчанне зацягнулася б, але вось занавеска калыхнулася і з-за яе выйшаў Выкінт — пажылы, высокі, з кучмай сівых валасоў і з сівымі вусамі ды барадой. У мяккіх ботах, у якія былі запраўленыя суконныя порткі, у белай кашулі, паверсе якой была цёплая безрукаўка, хораша аблямаваная вавёрчыным мехам.

— Навагародак дыктуе волю Літве!— не вітаючыся, той акінуў яго, Усяслава, сцюдзёным позіркам, запыніўся перад сталом за крокі два.

— Здароў, князь Выкынт,— падняўся і ўшанаваў жамойцкага ўладара Усяслаў, а калі той таксама паздароўкаўся, зноў сеў. Некалькі хвілін яны, сталыя ваўкі, пільна ўпэрваліся адзін аднаму ў вочы.

— Дык што скажаш, навагародскі баярын? — Выкінт, бывалы князь і чалавек, зусім не разгубіўся ад яго позірку.— Чаму ўмешваецеся ва ўнутраныя літоўскія спрэчкі, не зважаеце на інтарэсы тут Полацака і Жамойці?

— Думаю, князь Выкынт, чуў усё, пра што мы гаварылі з князем Таўцілам,— таксама без ніякага збянтэжання, спакойна і ўпэўнена адказаў Усяслаў,— дык мне не трэба нічога паўтараць.

— Ты загадваеш Таўцівілу і Эдзівіду! Свае інтарэсы! Сваю волю!

— Я нічога не загадваю, князь. Я перадаю параду нашага князя тваім маладым сынаўцам.

— Але ты гэтую «параду» прывёз з баявой дружынай! — не толькі ўкусіў, але і ўскіпеў Выкінт.— А ў абозе — канечне ж, Міндоўг, які

прагне зноў тут заўладарыць і расправіцца з імі, каго ты называет сваімі сябрамі!

— Калі б не ўмешвалася з сілай у літоўскія спрэчкі Жамойць, князь, дык не трэба было б нам падаваць свой строгі голас.

— Я — госць сваіх сынаўцоў!

— У доме, з якога выгналз законнага гаспадара!

— Быў гаспадаром тут Міндоўг, а цяпер гаспадары тут Таўцівіл і Эдзівід.

— Не, князь. Быў, ёсць і будзе, колькі трэба, тут гаснадарыць толькі Міндоўт!

— Вось! Вось! — адвёў убок руку Выкінт, паказваючы на яго Таўцівілу.— Не Літва сама ў сябе ўсё рашае, а Навагародак!

— Годзе, князь, не спакушай маладыя сэрцы,— з іроніяй усміхнуўся ён.— Усё ты добра разумееш, толькі перакручваеш на свой лад. Ды ведай: ласа пазіраеш на Літву, хочаш пасадзіць тут паслухмяных сынаўцоў, каб ранапозна прыбраць край, але Навагародак гэтага ніколі, чуеш, ніколі не дапусціць! Дый літоўскаму люду, хоць ён у язычніцтве, а мы, хрысціяне, бліжэй, радней па даўніне, па звычаях, гутарцы навагародцы, чым жамойцы. Ён цягнецца да нас, а не да вас.

Усяслаў засек-зарэзаў словамі і Выкінту, як нядаўна Таўцівілу:

— Дык не спрабуй, князь, пасварыць нас і Літву! Мы — суседзібраты, інтарэсы нашы адны: устояць і ўмацавацца. А гэта можна зрабіць нам толькі разам. Ды і Жамойці не зашкодзіць саюз з нам!. Бо вас і нас могуць прыперці, увапхнуць у бочку, сціснуць абручом адны і тыя ж ворагі. Як з захаду, так і з усходу. Як з поўначы, так і з поўдня... Не так, князь? Можа, не будзем спяшацца трэсці адзін на аднаго мячамі?! Можа, умерым прагу і пыху, а больш цярпліва ды мудра пашукаем згоды і міру? Можа, і паступімся калі-нікалі сваімі дарагімі, але ўзрыўнымі інтарэсамі?

— Нічога не скажаш, і ваяваць, і гаварыць умееш,— спахмурыўся Выкінт.— Князь Ізяслаў можа быць табой вельмі задаволены: добра, цвёрда адстойваеш інтарэсы Навагародка. Усё, нават знешнюю небяспеку для ўсіх, спрытна спажываеш у сваю карысць.

Выкінт зажаваў сівыя вусы, адвёў вочы ўбок, а пасля самалюбна, але засмучана пачаў скорвацца:

— Цяпер за Навагародкам сіла. Што будзе далей, яшчэ паглядзім...

Усяслаў, адчуваючы радасць на душы, тым не менш стрымаў яе. Як і ўрачыстую пераможную ўсмешку.

— Спакойны ад'езд з Руты нам будзе? — змрочна запытаў Выкінт.— Па дарозе нам засад не будзе?

— Ты не верыш мне, князь?

— Цяпер цяжка каму верыць.

— Выбачай, князь, што, можа, пахвалюся. Я быў сярдзіты, зацяты, неміласэрны ў баі з непрыяцелем ці да здраднікаў і падманшчыкаў, але я не запляміў сябе подласцю. Дык не заплямлю і цяпер, каб нават мяне змушалі да гэтага. Думаю, твае сынаўцы, што добра ведаюць мяне, могуць пацвердзіць гэта. Калі ўсё добра з Мендогавай сям'ёю, дык вам ніякай замінкі не будзе. Хочаце перамовіцца з самім Мендогам — калі ласка.

— Не! Я не хачу яго нават бачыць! — горда ўскінуў сівую галаву Выкінт.— І ім,— кіўнуў на Таўцівіла,— не раю верыць на слова крыважэрцу і заставацца нанач з ім пад адным дахам. Я ім, сіротам, дам прытулак і абарону.

Усяслаў ведаў, што і ён не здолее прымірыць Міндоўга з Выкінтам ды з маладымі князямі, перавёў позірк на паніклага Таўцівіла і сказаў як мага лагодней:

— Не сярдуй на мяне, князь. Некалі ты сам зразумееш, чаму так зрабіў Навагародак і ацэніш гэта належна. Пачакай крыху, мы з табой яшчэ будзем разам заадно!.. Наперадзе, думаю, у нас з табой будзе яшчэ шмат адных турбот, бяды, роздумаў, а то і сумесных баёў! Ты, Войшалк і я можам яшчэ пайсці разам па адной дарозе!..

— Заадно магу пахваліць Міндоўга,— з ухмылкай паківаў галавою Выкінт,— ён усё ж добра разбіраецца ў людзях. Неяк раз за чашай віна ён добра мне сказаў: ты, Усяслаў,— і зубр, і ліс хітры!.. Спажываеш Міндоўга і пралічваеш, як, дзе і калі некалі спажыць яго сына ды яго стрыечных братоў! Канечне ж, найперш у сваю карысць, у карысць Навагародка, што ўжо выпускае моцныя кіпцюры і намерваецца ўхапіць вялікую здабычу!.. Але не вельмі спяшайцеся кідацца на яе: і на вас ёсць свой аролдрапежнік! Думаю, ён пільна сочыць за вамі, заўважае вашы выхілкі! Да слова, ён вярнуўся ўжо ад Батыгі ці не?

— Пакуль што яшчэ йе.

— Вось каго ты найбольш асцерагайся, а не мяне. Даніла самахоць ніколі не выпусціць вас са сваіх абшараў, з-пад сваёй волі.

— А ты, князь, не гуляй, не выгадвай на гэтым. Моцны Навагародак — гэта ваша заслона ад драпежніка з поўдня. Дый, кажу, і з іншых бакоў, калі будзем ладзіць. Будзеш мець час — прыязджай у Навагародак, перамоўся з князем Ізяславам пра ўсё.

— Пагляджу,— адказаў той, узяў пад локаць Таўцівіла, які ад наплыву горкіх маладых пачуццяў і няспраўджаных мар гатоў быў заплакаць.— Хадзем, сынавец. Сёння мы мусім адступіць.

— І не павячэраем разам, не вып'ем сузгодчую чашу? — усё ж не выцерпеў, пераможна ўсміхнуўся Усяслаў.

Выкінт нічога не паспеў адказаць: у грыдню пачалі заходзіць княгіня Ганна, Войшалк, Данута, Хвал і іншыя, дорачы Усяславу радасныя ўсмешкі.

— Усяслаў, будзь верны свайму слову, загадай сваёй дружыне затрымацца ў лесе, пакуль мы не выедзем з Руты,— папрасіў Выкінт, калі ён падалаваўся з вызваленымі з палону жанчынамі і парукаўся з мужчынамі.— Мы не будзем доўга збірацца, выберамся адгэтуль хутка.

Як ні ўгаворваў Усяслаў, ні Выкінт, ні маладыя дагэтуль дружныя з ім князі не зажадалі застацца на міравую вячэру — гэта значыць, пакутліва бачыць Міндоўгаву пераможную ўхмылку і чуць яго не вельмі далікатныя кпіны, а потым і п'яныя прычэпы, дык неўзабаве пакінулі са сваімі воямі Руту, а ў яе з навагародскай дружынаю ўехаў Міндоўг — зноў вярхоўным уладаром Літвы, радасны, толькі, мабыць, з кропляй горычы, што яму ўжо сёння не ўдалося расправіцца з супернікамі-праціўнікамі і што з імі наперадзе, канечне ж, спрэчкі, сутычкі, нават барацьба не на жыццё, а на смерць.

— Што — самі не захацелі падавацца да мяне? — не толькі не прытуліўшы, але нават і не павітаўшыся з жонкай-княгіняю, ухмыльнуўся Міндоўг.— Вам было добра і з імі, маімі ворагамі?

Ганна, апранутая ў сціплы цёмны сарафан і ў такога ж невясёлага колеру каптуры, з манаскай бледнасцю і пакорлівасцю на зарана пастарэлым твары, нічога яму не адказала на гэтую, без ніякай потайкі выяўленую пры людзях непачцівасць. Нічога не адказаў і засяроджаны, бледны і смутны, як і маці, Войшалк. Змаўчала звычайна смелая і вясёлая Данута. Нават апусціла вочы.

— Дазволь, князь, мне слова сказаць,— выступіў з-за іхніх спін спакойны Хвал.— Яны не чынілі нам ніякага зла, але з Руты не выпускалі. Князь Выкінг падбіваў тваіх і сваіх сынаўцоў даць вам бой, але яны стрымаліся, пабаяліся раззлаваць Навагародак. Пра астатняе няхай табе раскажа баярын Усяслаў, што перамаўляўся з імі.

— Ладна, веру, што вы не маніце,— усміхнуўся Міндоўг, падаў Хвалу руку, прытуліў да сябе Дануту, Войшалка ляпнуў па плячуку, а Ганне прыязна хітнуў галавою.— Клічце дворскага, цівуна, стольных, няхай усё самае лепшае падаюць на стол, будзем святкаваць нашу перамогу!

## 3

Праз некалькі дзён Усяслаў палавіну сваёй дружыны пакінуў у Руце, а з астатнімі воямі вярнуўся ў Навагародак. Пасля гэтай, дзякуй Богу, бяскроўнай, але ўсё ж узрушлівай і напружанай падзеі, зноў для яго павялося даволі звыклае жыццё. Без рэзкіх, неспакойна-трывожных усплёскаў, буйнай радасці ці пыхлівага гневу, са штодзённымі малапрыкметнымі, але патрэбнымі для княства, горада і сям'і турботамі ды клопатамі, што пасля, дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам, стагоддзе за стагоддзем, збіраюцца, спрасоўваюцца, асядаюць пясчынкамі ў вечны пясок, і новыя нашчадкі зусім альбо амаль нічога не ведаюць пра гэта, жывучы кароткі век і толькі на сваім адрэзку пазнаючы свет, чужое і сваё, самаўпэўнена, а на самай справе вельмі памылкова лічаць, калі хтосьці і зрабіў штосьці вартае, калі хтосьці што-небудзь і пазнаў, дык гэта толькі яны...

Хоць, калі быць зусім праўдзівым, сёлета ўсё ж і ў штодзённай звыкласці былі свае свежыя навінкі: да слова, Усяслаў цяпер неяк іначай, болей узбуджаней і радасней, чым раней, сустрэў сакавіцкае адліжнае цяпло, калі і без сонца, у цёплым, нібы парным тумане асеў, паплыў снег, калі нечакана ў Навагародак аднекуль прыляцела плойма гракоў, што зацьміла сабой рэдкіх сарок, якія дагэтуль мігцелі чорнымі хвастамі на сметніках і адляталіся, калі хто адчыняў дзверы і выходзіў з хаты, ці адзінокіх варон, што, насупіўшыся ці ўсё выцікоўваючы, цярпліва і ў халадэчу сядзелі на плоце альбо на кранасной сцяне ці дрэве, гракі ўміг абселі высокія бярозы, ліпы і ўсчынілі такі радасны галас-гвалт, што ад яго аж закладала ў вушах; любуючыся, Усяслаў назіраў за дружнымі і вясёлымі ручаінкамі, за вялікай шумнай паводкаю, а затым, калі яшчэ не ўвесь сыйшоў снег, і за раннімі гэтай вясной бусламі, жаваранкамі, якія незвычайна хараша, клічучы цяпло, заліваючыся, апявалі з вышыні неба і гоні, што ўжо мясцінамі лёгка і весела зацешылі вочы зялёнай рунню, чорнай, а на болей падагрэтых пагорках і шараватай зямлёю, лапікамі паплавоў са старой травою; люд з узрушэннем, нават незразумелай прагаю да работы ўжо ўскапаў градку-другую цяжкога сырнягу каля дому, пасадзіў моркву, буракі, а ў зацішным сонцапёку і капусту на расаду і з хваляваннем пачаў чакаць таго часу, каб выйсці ў поле з сукаваткам!, смыкамі, раламі, разакамі, драпачамі і баронамі. Калі ж прыляцелі і засвісталі каля сваіх дамовак шпакі, дык і зусім павесялела на душы.

Усяславаў настрой быў не толькі ад таго, што вось і яшчэ раз, але па-новаму ці на сталейшыя вочы ды розум ідзе, бярэ сілу вясна, але і таму, што, бачачы змены і навіны (скажам, вось пракурлыкаў ужо высока ў небе жураўліны касяк, ціхенька ўночы прашмыгнулі над

Навагародкам качкі да рэчак і азярын альбо вось ужо забухмаціліся коцікі на лазоўі, запахла зямлёй і падскочыла першая, дзікая зелянота, вельмі залівіста ўдзень звіняць дзіцячыя галасы, а ўночы чуецца адмысловы малады рогат ад узбуджанай, захмеленай крыві),— дык вось Усяславаў настрой сёлета падладжваўся і пад чаканне: вось тады і тады, калі тое ці іншае настане, абрадзініцца Любка.

Чым бліжэй да канца ачышчанага дажджамі і маланкамі, абгрුканага громам, азелянелага, пахкага ад асыпанага яблыневага і грушавага квету, ад зацвілага бэзу травеня, тым большае яго было душэўнае ўзрушэнне.

Праўда, перад красавіком усё ж адна пабочная навіна змусіла часцей, чым звычайна, забіцца сэрца, а то трошкі і выбіла з каляіны. Гэта ад весткі з Холма: туды з Батыевага стану вярнуўся князь Даніла. Яго самы небяспечны супернік, Міхаіл Чарнігаўскі, не стаў на калені і не ўнізіўся перад манголамі, дык таго забіў ударамі нагі ў грудзіну, у сэрца, мангольскі кат-велікан, а вось князь Даніла (як і Аляксандр Неўскі) скарыўся, выявіў такія паслухмянства і паслужлівасць, што яго не толькі адпусцілі жывым, далі яму ярлык на яго ж вотчыну, але задаволены Батый паабяцаў яшчэ і ў любы час, калі папросіць Даніла, даць яму сваю сілу, каб ён уціхамірыў суседзяўнепрыяцеляў (бацьку Аляксандра Неўскага, вялікага князя Уладзіміра-Суздальскай зямлі Яраслава, Батый адаслаў у Каракорум, на выпрабаванне самога вялікага кагана).

Хоць князь Даніла «велми печален еси» — мабыць, з-за выцерпленых прыкрых уніжэнняў у Ардзе ды з-за нечаканай смерці любімай жонкі,— але тое, што яму падакляравала мангольская ваенная помач для яго карных акцый на карысць сабе і Батыю, насцярожыла і засмуціла Усяслава: Даніла цяпер — не проста галіцка-валынскі ўладар і мангольскі васал, віж, наглядач, ён — і карнік над суседнімі землямі. Над Навагародкам найперш. Будзе, канечне, мець пад пільным назіркам і Літву, Яцвязію, бліжэйшыя польскія, венгерскія землі.

Пад канец красавіка, змірыўшыся ад укленчваняў у Ардзе і са стратай маці сваіх малых дзяцей, Даніла прыслаў у Навагародак ганца — каб якраз Усяслаў прыехаў у Холм пачуць ягоную волю. Князь Ізяслаў параіў яму не ехаць, не прысягаць на пакору, спаслацца на тое, што жонка «на сносях», а замест сябе паслаць Расціслава, няхай той, іхні ўгоднік і падлізнік, уважна, разявіўшы рот, выслухае ўсё і па-лёкайску запэўніць у вернасці. Расціслаў, праўда, крыху з насцярогай пачуў гэты «давер» сказаць слова за Навагародак, бо душой адчуваў іхні хітры ход, адгаворваўся, што ідзе вясна, хутка араць і сеяць, але ўрэшце падаўся з вялікім початам і падарункамі.

Вярнуўся пад канец травеня і князю, яму, Усяславу, ды на Радзе хваліўся, што яго сустракалі з пашанотай (Голубаў чалавек з Холма перадаў іншае: князь Даніла вельмі незадаволіўся, што не прыехаў на паклон якраз ён, Усяслаў, ваявода, доўга не хацеў дапускаць у свой хорам іншага навагародскага пасланца: «Зачем мне этот жирний и ледачий[1] кабан?!», але ягоны дворскі Андрэй усё ж угаварыў зміласцівіцца і сустрэцца з «негарной»[2], але «услужливой нам людиною»), а яшчэ Расціслаў аж з захлёбам гаварыў пра тое, якую вялікую моц цяпер мае Даніла, што той ледзь не Батыеў дарадца па гэтым кавалку Еўропы і што той цяпер больш зоймецца Навагародкам, зноў верне яго пад сваю волю. Калі трэба будзе, дык і сілаю, нават і мангольскай. «Так і сказаў князь Даніла,— выпінаў Расціслаў,— Навагародак — вотчыну дзяцей Яраслававых — не адпушчу і Нікому не аддам! Гэта — мае, толькі мае ўладанне!» Адным словам, Расціслаў фанабэрыўся, што ён зноў у сіле, ён нават па Данілавым наказе становіцца першым пасля князя Ізяслава. «Паехаў бы баярын Усяслаў у Холм, дык, можа, яму б была Данілава міласць,— не тоячыся, пераможна, нават дурнавата ў сваёй штучнай смеласці цешыўся Расціслаў.— Але баярын Усяслаў — адшчапенец-гардавус, яе захацеў нахланіцца нашаму вярхоўнаму ўладару. Вось за гэта ён і пакараны, мусіць саступіць тут сярод баяраў і на Радзе першынство мне».

Ні Усяслаў, ні іншыя не аспрэчвалі і не супынялі Расціслава, пільна выслухалі ягоную ўсцешлівую, нібы ў дзіцяці, пахвальбу. Праўда, толькі стары і хітры ахоўнік пячаткі, Звеніслаў, адчуўшы, што падзьмуў новы вецер, заліслівіў перад Расціславам, ужо не так аддана зазіраў у вочы Усяславу, Бяляну і айцу Кірылу, пачаў уголас хваліць князя Данілу: «О то леў! Цар звяроў!» Пасля гэтага рабілі тое, што ішло ад князя і што перадаваў Усяслаў, Расціслава цярпелі як назойную муху, каб ён ее абураўся і лішне не нагаворваў на іх праз свайго чалавека ў Холм, з ім нават нібы раіліся, слухалі яго доўгія і нудныя павучанні, але спаўнялі ўсё па-свойму, а калі назойны Расціслаў настойваў, дык слухалі яго ў нейкай дробязі, а заадно намагаліся і лішні раз-другі пахваліць за што-небудзь князя Данілу, Андрэя-дворскага, Расціслававу Раксану за яе цяперашнюю строгасць да баярскіх жонак і дачок.

---

[1] Лянівы, а ў пераносным значэнні паганы (укр.).
[2] Непрываблівы (укр.).

Вось паволі і настала ў чэрвені, пасля зацяжной гарачыні, нават некалькіх тыдняў пякельнай спякоты, а пасля выратавальнай вялікай навальніцы, што асвяжыла, напаіла зямлю, траву і дрэвы,— дык пасля гэтага прыйшла часіна, якой так чакаў Усяслаў.

У адну яшчэ зусім ціхую 1 цёмную раніцу ён прачнуўся ад ледзь чутных галасоў і крокаў, што былі чуваць не столькі самі на сабе, колькі ад таго, што ад іх парыпвалі маснічыны. Апрануўшыся, ён выйшаў са спальні і. адразу ўбачыў: на першым паверсе, адсоўваючы сюды змрок, скупа мігціць свечка. Калі пачаў спускацца па лесвіцы ўніз, дык нечакана ледзь не спаткнуўся: з Любчынага пакоя (Любка не захацела перабрацца ў пакой баярыні-нябожчыцы, вярнулася ў свой, дзе яе, тоўстую і цяжкую, як кажуць, ужо на россыпе, апошнія дні і ночы даглядала Марыля) пачуўся адчайны жаночы, канечне ж, Любчын крык. Калі ён асцярожна прачыніў дзверы, каб паткнуцца туды, дзе на ложаку то падхоплівалася, то падала на спіну, як бачыў пры святле свечак, знявечаная болем і страхам яго любіміца ў белай кашулі і з распушчанымі валасамі, дык яго, згледзеўшы, адразу ж выпхнула сюды, у вітальню, Бялянава маці, баярыня Купаліна:

— Табе, Усяслаў, няможна сюды!

Калі тут Купаліна, дык яна прыйшла быць бабкайпавітухай, каб пазней стаць хроснай бабкай, што вялікі шнар для кожнай пажылой жанчыны. А калі тут і родавая бабка, Марыля, дык ясна: сёння Любка павінна радзіць.

— Ёй вельмі баліць?— занепакоіўся ён, моршчачыся ад пранізлівага Любчынага енку.

— Гэта вам, мужчынам, толькі насалода ад таго, а бабе яно яшчэ і болем выходзіць,— пажартавала Купаліна, жанчына бойкая і вясёлая.— Так што такая яе ўжо доля цяпер — енчыць і тужыцца... Але не бялей, усё добра будзе. Мы з тваёй Марыляй ужо адагналі злых духаў і нажом, і ніткай чырвонаю, і абруч з дзяжы здымалі і надзявалі яго тры разы зверху ўніз на Любку...

— Вы ж глядзіце яе,— разгублена папрасіў ён.

— Хіба ты не чуеш, што кажу?— усміхнулася тая, поўная, але яшчэ статная жанчына.— Не першы ж раз буду бабіць немаўля, бо не хачу на тым свеце зайцоў пасвіць... А ты, чалавеча, не слухаў бы гэтай бабскай раўні, як і ўсе, сам сышоў бы з дому. Паенчыць, палямантуе ды і родзіць, як і мы некалі раджалі.

— Не, Купаліна, я пабуду тут.

— Але ёй лягчэй было б, каб тут нікога староннягa не было.

— Ідзі туды, Купаліна, спрыяй ёй неяк.

— Відаць, што любіш сваю Любку,— тая была непарушная і ўрачыста вярнулася да цяжарнай, зачыніўшы за сабой шчыльна дзверы.

Ён, хоць ведаў, што сапраўды цяпер лепш яму, мужчыне, было б пакінуць дом, але не выйшаў, тупаў сюды-туды па вітальні, супакойваўся, калі Любка заціхала, і ажно дранцвеў, дрыжэў, калі яна зноў адчайна і роспачна лямантавала на ўсе свае маладыя лёгкія. І паколькі енк-лямант усё часцеў і мацнеў, Усяслаў адчуваў: набліжаецца тая хвіліна, калі Любка павінна вызваліцца ад дарагога, але цяжкага бярэмя, выпусціць на гэты свет таго, каго клапатліва і з любоўю выносіла, стаць ужо не толькі паўнацэннай, мілай, але і свяшчэннай жанчынаю — МАЦІ. Калі пасля світання ўжо, калі святло ад свечачкі звузілася да невялікага жоўтага язычка на самой свечцы, Любчын адчай, роспач, боль, енк-лямант зліліся ў адзін зацяжны крык — мабыць, напружыліся аж да парываў яе мускулы і разыходзіліся косці. Усяслаў зажагнаўся і пачаў горача шаптаць: «Памажы ёй, Божа! Памажы ёй, Божа!», сам сабе, у думках, кленучыся, што, калі выйдзе ўсё добра, дык ніколі на Любку-пакутніцу не толькі не падыме рукі, але і не павысіць на яе голас. Калі ж яе крык перашчыкнуўся, замёр усярэдзіне, дык ужо загалакалі Марыля і Купаліна: «Не спі! Тужся! Крычы!»— і, здаецца, хлісталі яе па шчоках, змушаючы тую зноў абудзіцца і сіліцца.

Усяслаў змалку ведаў, што калі раджае цяжарная, дык усіх выганяюць з дому і ў дом нікога не пускаюць, найперш дзяўчат, а калі якая заскочыць, дык яе змушаюць расплесці касу, а то і даць са свайго роту вады парадзіхе. Паколькі ён быў у вітальні, паблізу ўваходных дзвярэй, дык ніхто не мог сюды нават паткнуцца; пасля, абдумаўшы, што яшчэ робяць, ён выйшаў на двор, і калі ўбачыў там Любаміра, які бадзяўся каля варыўні, загадаў таму:

— Бяжы да айца Кірылы і папрасі ад мяне, каб ён у царкве адчыніў царскія вароты.

Той, пачуўшы загад, не прамовіў ні слова, падаўся з двара. Невясёлы, нават пахмурны. Канечне, хацеў бы, каб сёння Любка нарадзіла дзіця ад яго.

Вярнуўшыся ў дом, Усяслаў зноў выйшаў на двор. І гэтак тры разы пераступіў парог. Потым тры разы абышоў стол на кухні, пастукваў нагамі аб падлогу, а венікам у столь — клікаў, прасіў дамавіка, каб той спрыяў Любцы.

Яна ж зноў, але на гэты раз яшчэ болей безнадзейна, нават нібы безвыходна зайшлася немым крыкам ды болем, а пасля зноў быццам праглынула свой лямант. Усяслаў наструніўся, аж халадна ўспацеў ды адчуў, што замірае сэрца: адтуль, з Любчынага пакоя, спачатку пачу-

ся тоненькі дзіцячы, але досыць звонкі піск, а за ім пачуліся ўсмешлівыя жаночыя галасы-ўсклікі, радасныя воклічы. Выдыхнуў паветра з грудзіны: дзякуй Богу, абрадзінілася, а дзіця жывое! Ён — зноў бацька! Цікава: хто ж у яго? Сын? Дачка?

Даволі хутка адчыніліся дзверы, і сюды вызірнула Купаліна. З усмешкаю ў лагодных вачах і на вуснах:

— Зайдзі, Усяслаў.

Ён, хвалюючыся не меней, чым некалі, калі станавіўся бацькам першы раз, паспяшаўся ў занавешаны і па-ранейшаму асветлены свечкамі пакой: Любка, белая, пакрытая потам, з пакусанымі і падсінелымі вуснамі, ляжала адкінуўшы набок галаву, а каля яе стаяла Марыля, шчаслівa трымаючы на руках у беленькім прасціраддле невялікі згортачак.

— Жывая, жывая твая Любуся, праз сонцаварот які зноў будзе вось гэтак крычаць на ўвесь белы свет!..— супакоіла яго тая, бачачы, як ён спасцярожліва азірае парадзіху.— Разгарні прасціраддлачка, пабач, каго вы прыдбалі!

Чамусьці саромеючыся, ён адхінуў край прасціраддла і, бачачы зморшчанае, чырванаватае, не сказаць, каб цяпер вельмі прыгожае дзіця, «засмуціўся»:

— Хлопчык!

— Сын! — усцешліва прамовіла Марыля, добра ведаючы, што ён, маючы ўжо дачку, канечне ж, жадаў мець і сына.

Усяслаў зноў, нават яшчэ больш «замаркоціўся»:

— Які непрыгожы!

— Скажы, хлопча, такому «нядобраму» бацьку: буду прыгожы! — «падакарала» Усяслава Марыля.— Скажы, бачыш, цьфу-цьфу, усё на месцы, усё гожае: вочкі, вушкі, роцік, ручкі, ножкі, стручок! Моцненькі, хунтаў[1] каля дзесяці будзе! Воін! Баярын і, можа, новы наш ваявода! Будзе дарабляць тое, што яго дзед пачаў, што бацька рабіў!

— Дай Бог,— усміхнуўся Усяслаў, адвярнуўся, плюнуў тры разы: сёння была серада, а той, як кажуць людзі, хто народзіцца ў гэты дзень, мае самую нечаканую долю: можа абагацець, быць здаровым і шчаслівым, а можа аднойчы ад самых розных выпадкаў страціць усё ўміг, памерці ў беднасці і цяжкіх напасцях. Вось ён, Усяслаў, нарадзіўся ў сераду на самым прыканцы травеня ці, як кажуць лацінцы, мая, што ў гонар іхняй багіні зямлі Маі...

— Паглядзеў, усцешыўся шчаслівы татка, а цяпер ідзі адгэтуль, бо ў нас тут яшчэ нямала бабскай работы,— ведаючы сваё права,

---

[1] Гутарка ідзе пра тагачасную вагу каля 4 кіло.

загадала яму Марыля.— Зараз пададзім табе паслед, закапай яго пад кутом хаты, каб дзіця любіла родны дом...

5

Пасля таго як прайшла досыць кароткая, але натужлівая, ранiцай і ўвечар з камарамі-крывапіўцамі, удзень з потам і млоснасцю, сенакосная часіна, калі тое, што нарасло за цёплы і дажджлівы травень ды налілося сокамі ў чэрвені, скасілі, высушылі і паклалі спаць да зімы ў стагі, застаронкі і абарогі, калі дзеці ўволю накупаліся і здаволілі ахвоту лавіць рукамі ды таптушкамі рыбу, наласаваліся сунiцамі, а жанчыны, вяртаючыся з лесу з лубкамі чорных ягад, прыносілі ў прыполе і адны-другія прыгаршчы жоўценькіх лісіц, калі потым у самую гарачыню зацвілі і паволі адкрасавалі мёдапахкія ліпы, мацавалі крылцы маладыя птушкі, ды асабліва тады, калі пачалося залатое жніво, на якім найперш маладыя дзяўчаты зведалі нямала болю ў руках і паясніцы, але, здаецца, як ніколі, радасна-засмучана-шчасліва абспявалі поле і свой жаноча-жнейскі лёс,— дык вось, калі залацілася ржышча, адліў сваё, адгрукаў громам і адсвяціў маланкамі Ілля, калі прайшлі рабінавыя ночы, пачаўся яблычны Спас і, пакаштаваўшы праснакоў, ужо наважваліся сеяць новае жыта, спякотнае лета пакацілася на спад. Паволі паслабелі блакіт на небе і сонечная яркасць, усё часцей і часцей заяўлялася засмужанасць, а на дрэвах усё болей жаўцела лістота, а пахаладнелая вада ў рэчках міжволі страчвала вясёласць, цяжэла і змрачнела, плыла туды, куды ёй трэба было імкнуцца, задуменная і самотная. Пачасціліся нізкія, густыя, а пазней і суцэльныя ад зямлі да неба сырыя і зябкія ад халоднай расы, а то і першай замаразі туманы, а днём, калі яны рассейваліся, віселі на кустах, гайдаліся на дрэвах ці плавалі ў паветры, блішчучы срэбрам ад сонца, доўгія ніці павуціны, не затрымліваючыся, плылі і плылі ў небе ўжо не зусім белыя, як улетку, воблакі — калі з поўначы на поўдзень, то на адно надвор'е, а калі наадварот, то на іншае: то на цёплае і сухое, то на непагадзь. Над навагародскімі ваколіцамі высока ў небе ўсё часцей закружылі буслы, нізка залёталі чароды невялікіх, можна сказаць, прыхатніх птушак — шчабятлівыя ластаўкі ці шумлівыя шпакі нечакана аднекуль усхопліваліся, плоймай абсядалі высокія дрэвы, галасамі выцiлiньквалі, мабыць, славілі прыязны гэты край, натхнялі сябе ў далёкую дарогу, а затым нібы па чыімсьці знаку, у імгненне, разам успырхвалі, знікалі, каб, мусіць, пакланіцца і іншай роднай мясціне.

Пад канец жніўня зрабілі засеўкі новага жыта, затым пасеялі яшчэ і вераснем, пад Баўтрамея; праз тыдзень паклапаціліся пра

ячмень. Верасень не менш жніўня ўсцешыў людскія сэрцы багаццем з поля і гародаў — збажынай, вялікімі сакавітымі буракамі і морквай, а пазней — ёмкімі, ледзь падняць, тугімі белымі качанамі капусты; з лесу навагародцы нанасілі грыбоў, з нізкіх, прыамшарных мясцін — ярка-чырвоных, з сокам нібы кроў калінавых гронак, з балот — буйных чырвона-бурых журавінаў.

На Багача ўжо ўсё прыбралі з поля і гародаў; буслы адляцелі — значыць, зіма сёлета магла быць ранняя і халодная; жанчыны пачалі даставаць верацёны, патроху прасці; на Здвіжанне амаль ніхто не асмельваўся паткнуцца ў лес: казалі, там ужо спаўзліся ў клубкі гадзюкі і вужы перад тым, як зашыцца ў карчы ці норы на зіму. Калі хто ўпотай ад людскіх вачэй падкрадваўся да тых змяіных скопішчаў, дык толькі са злымі намерамі: абсачыць сярод іх змяінага цара, лупянуць па ім, ухапіць з яго галавы залатую карону і збегчы — гэтая залатая карона спрыяе чарадзеям і злодзеям. За такое злыдушцаў заўсёды каралі. Вось і сёлета, як былі чуткі, у адным паселішчы злавілі такога зламысніка, і старэйшыны прысудзілі яму смерць: яму звязалі рукі за спіной, прычапілі камень да шыі і, разгайдаўшы, шпурнулі ў раку... Біскуп Кірыла не задаволіўся такім судом, пабурчэў, што не прывялі заблуднага да яго, але тых старэйшын не зачапілі...

Сёлетні кастрычнік, як і часта тут бывае, удаўся зменлівы: то гусціліся туманы, а пасля іх дабірала сваё сонца, то слязіўся ці ўжо нудна ліў ды ліў дождж, то нечакана зямля пакрывалася марозлівай белізною, але на Бабскае лета ночы сталі з высокім зоркавым небам, а ўдзень зіхацела ўжо не гарачае, але ўсё ж цёплае сонца, навакольле ажно гарэла ад жаўцізны і чырвані дрэў, а да ўсяго пачала ўжо цешыць на полі густая, дружная і вясёлая зелянота маладой руні.

Усё гэта паўтаралася з году ў год, але кожны раз было нібы пановаму, ніколі не надакучваючы. Наадварот, абнаўляла, узбагачала і змушала па-добраму хваляваццa душу ўсімі, часамі нават зусім незразумелымі адценнямі пачуццяў, калі ты пачынаў адчуваць, што ўсё гэта, ты таксама, не проста так, само па сабе, што ўсё вакол вечнае і ты вось крыху далучыўся да яе, гэтай вечнасці...

Не толькі княгіні, але і некаторыя баярыні (да слова, Расціславава Раксана, яе дачка) не заўсёды давалі грудзі сваім дзецям, знаходзілі ім карміцелек сярод маладых, здаровых і ахайных смердак. Любка ж, калі Усяслаў загаварыў пра гэтую завядзёнку знаці, рашуча адмовілася аддаваць сына, названага ў гонар яго бацькі Баярам, у чужыя рукі. «Ды я сама не адно, а двое дзяцей магу ўволю насыціць»,— запалiста, нават крыўдліва сказала яна, без ніякага збян-

тэжання абедзвюма далонямі падважваючы праз сарафан свае папаўнелыя пасля родаў грудзі.

Усяслаў і сам гэта добра бачыў, дык не настойваў. Тым больш што ён думаў гэтак жа, як і яго маладая жонка: маці павінна карміць сваё немаўля сама. Ён толькі папрасіў, каб цяпер Любка не тулілася ў лёкайскім пакоі, а "па праве гаспадыні дому, баярыні перабралася на Заночую палову нябожчыцы, а ў свой былы куток пусціла новую пакаёўку, якую ўзялі памагаць глядзець за дзіцем: гушкаць, мяняць мокрыя полачкі на сухія, падносіць галоднае хлапчаня да маці. Любка на гэты раз паслухала, дык пачала ўжо ўмацоўвацца як гаспадыня, цяпер нават сталая ўсёведайка Марыля часамі прыходзіла параіцца з ёю, што і як рабіць. Ды больш — стаўшы маці сына-баярына, Любка спакваля адчула сваё права і сваю моц. Не, яна не біла чэлядзь і нават не крычала на тую за нейкі промах, не зневажала, як Расціславава дачка ці Баляславава Ядвіся, але займела свой голас: трэба гэта і тое, ты зрабі так, а ты вось гэтак. І ніхто не аспрэчваў яе гэтыя права і моц, усе яе слухалі: чалавек, бывае, часамі нават не можа, пакутуе, што яму няма каму падпарадкавацца. Такая ўжо душа ў слуг і лёкаяў. Нават і ў некаторых баяраў. Хоць не бывае і без таго, што некаторыя з іх услугоўваюць з хітрыкай, з карысцю для сябе і чакаюць таго часу, калі ім можна паквітацца. Пагэтаму, да слова, Усяслаў гэтак асцерагаўся «любові» Расціслава і яго Раксаны. Тут трэба вялікая пільнасць, хоць, як ні намагайся, усяго недагледзіш, не ўсё зразумееш, а калі і адчуеш, дык усё роўна памылішся ці паступішся...

...Усяслаў, вярнуўшыся позна ўвечар дадому, спачатку памыўся, абагрэўся пасля лістападаўскай непагадзі, а потым, як заўсёды, не зважаючы на агаладаласць, падаўся аднак не да стала, не да Марылiных прысмакаў, а ў той пакой, дзе быў сын-любімец.

Пачуўшы яго важкія крокі, з сынавага прытулку яму насустрач вымкнулася Любка — у доўгім зялёным сарафане з зашнураваным жоўтай стужкай разрэзам ледзь не да пупа (разрэз такі для таго, каб ёй лягчэй было вызваляць з-пад гарсэта і даставаць грудзі), у хораша завязанай чырвона-сіняй хусціне, зграбная і поўненькая, са свежым, у меру з белым і з хораша разлітым чырванцом тварам, са шчаслівай усмешкаю.

— Краса мая ненаглядная,— прытуліў і пацалаваў яе.— Ну, што робіць малады баярын?

— Малады баярын спаў, а цяпер пачынае варушыцца і кракташь.

Баяр ужо не толькі падаў голас, але і незадаволіўся, усплакнуў.

Любка не кінулася, як раней, да дзіцяці, калі яно толькі віскне ці, наадварот, доўга маўчала («Што з ім? А ці жывы хоць ён?»), а ўжо спакойна, тое-сёе ведаючы, што трэба маці, падалася ў пакой, дзе маладое дзяўчо загортвала дзіця ў сухую белую полачку, каб пасля ўцяпліць яго яшчэ мяккай сабалінай коўдрачкаю.

Усяслаў схіліўся над невялікім, за гэтыя месяцы аблюджаным тварыкам, дзе, як усе казалі, яго высокі лоб, спакойныя вочы і роўны нос, пацмокаў. Малое звычайна пазнавала ўжо яго, адказвала ўсмешкай на ягоную ўсмешку, але цяпер плаксіва зморшчылася.

— Сынок! — паўшчувала яго Любка.— Гэта ж твой татка!

— Усё ж не хоча прызнаваць мяне...— «пакрыўдзіўся» Усяслаў.

Ён усяго недагаварыў пры пакаёўцы. Раней, напачатку, калі Любка па маладосці вельмі чуйна і раніма назірала, слухала, хто і што кажа пра яе дзіця (а за гэта большае перажыванне, чым за сябе), ён, бачачы гэта, часта з жартам пакепліваў: «Здаецца, у яго адно вока меншае і рудое, значыць, не мае, а другое — большае, шараватае, мае», «Здаецца, маларослы будзе, не па мне...».

«Няпраўда!— гарачылася Любка.— Вочкі яго адны. І вушкі, носік як і ў цябе!»

Калі ж ён не саступаў, дык Любка плакала, за што на яго без ніякай цырымоніі, сярдзіта нападала Марыля: «Што ты, стары конь, робіш? Ёй жа цяпер трэба быць спакойнай, іначай малако можа прапасці! А ты...» А Любцы: «Не слухай яго, маладзічка. Дзіця як дзіця. Цьфу-цьфу, здаровенькае і дужанькае. Усё на месцы: вушкі, вочкі, носік, роцік, стручок! І ў яго ўдалося. Як выкапанае. Усе крошкі падабрала».

Усяслаў ад радасці весяліўся, але, сказаць шчыра, яму, сталаму ўжо, нашмат старэйшаму за Любку, часамі было не зусім да жартаў: бывала, з рэўнасцю назіраў, як Любка вырываецца з яго абдымкаў і імчыць на дзіцячы плач ці на зацягненае маўчанне. Ён не мог не замілавацца, што яна гэтак палюбіла малое, але, здаралася, яму вярэдзіла душу іншае, можа, і недарэчна раўнівае: а можа, Любка, як і некаторыя жанчыны, перанесла ўсю сваю любоў на дзіця таму, што як след не кахае мужа і што будзе для яго праз год-другі вялікая небяспека з-за таго, што некалі гэтак паспешліва ўзяў яе?..

Баяр заплакаў.

— Баярыня,— ветліва зірнула на Любку юная русявая і круглатварая пакаёўка,— дзіця хоча есці.

— Добра,— сказала тая.— Падай яго баярыну, а сама ідзі.

Калі дзяўчо выйшла, Любка, ужо не адчуваючы чужых жаночых вачэй, села на ложак, расшнуравала на сабе стужку, расхінула сара-

фан, ззяючы белай грудзінай, дзе асабліва снежнага колеру, аж з адценнямі сінізны былі поўныя грудзі, якім было цесна пад гарсэтам. Калі Усяслаў падаў ёй на калені сына, дык яна смела і без сораму і калені расставіла і дастала для таго правую буйную, як сама казала, «цыцку», да якой адразу ж прагна прыпаў дзіцячы роцік.

— Ой, як смокча!— шчасліва ўсміхнулася Любка.— Маленькі, але гэтакі дужанькі!

Ён не мог не залюбавацца і Любчынай простай, але ад усёй душы шчырай, лёгкай, ззяючай усмешкаю, і тым, як мірна заплюшчыўшы вочкі, набірае ад маці жыватворную сілу яго нашчадак. Нават не пачуў, як сюды зазірнула Марыля. Пачуў ужо тады, калі яна загаварыла:

— Ды хопіць ужо любавацца сваім сыночкам! Гэтак вы так яго распесціце, што потым ён ні хвілінкі не пабудзе адзін, не злезе з нечых рук!

— Праўда,— хораша ўсміхнулася яму Любка.— Ідзі, Усяслаў, вячэраць. А то саслабееш.

— Дык і табе трэба мая сіла? — ціха запытаў у яе.

Любка, помнячы, што было ў іх патаемнае начамі, а то і ўдзень гэтым летам і восенню, усміхнулася ўжо з перажытай сарамлівасцю, без якой, аднак, не бывае сапраўднай уцехі і радасці паміж мужам і жонкаю ды асабліва тады, калі яна ажаньчынілася пасля родаў, адчула, чаго пачала жадаць яе плоць і калі яна, гэтая плоць, спатольвалася як след.

— Не затрымлівайся сёння,— шапнуў,— раней прыходзь да мяне. Я ўжо вельмі засумаваў без цябе. Аж тры дні ты не была са мной.

— Добра, — таксама прашаптала яму Любка.— Сёння прыйду.

Усё ж, павячэраўшы, а потым лёгшы пад пухавік, ён чакаў яе доўга. Да глухога вечара ці, лепш сказаць, да ночы. Пакуль яна разам з Марыляй выкупала дзіця, пагуляла з ім (малы пачаў ужо не толькі адказваць на ўсмешкі, але і патроху гудзець), пакарміла і сама паклала ў калысачку спаць. Усяслаў разумеў усе яе мацярынскія пачуцці і клопаты ды, маючы нейкую рэўнасць, загараючыся нецярпепнем, патроху самалюбна крыўдаваў, лічыў, што Любка магла б усё ж хутчэй прыйсці да яго. Калі нарэшце пачуў, як адчыняюцца патайныя дзверы, што ў сцяне пад павешанымі з аднаго і другога боку dыванамі злучалі іхнія спальні, Усяслаў наўмысна засяродзіўся на фаліянце ў новенькіх скураных вокладках — знаёмы крыжацкі купец, калі сказаў таму, што жадае глыбей пазнаць, а Любку навучыць нямецкай мове, прывёз яму некалькі напісаных па-нямецку рыцарскіх раманаў: Гартмана фон Аўэ, Вільфрама фон Эшэнбаха, Готфрыда Страсбург-

скага. Па іх ён вучыў Любку нямецкай мове, а калі ёй гэтая навука ішла туга, дык па яе просьбе чытаў і тут жа тлумачыў ёй па-свойму пра рыцарскія прыгоды.

— Дык дзе цяпер той рыдзель?— бачачы, што ён чытае, запытала Любка.

— Ён якраз кажа сваёй любімай: «Легэн зі біттэ аб».

— Што? — усміхнулася яна.— Што?

— «Распранайцеся, калі ласка».

— Там якраз так напісана?

— Так.

— А што яна адказвае яму?

— «Іх габэ ніхтс дагэгэн»,— зноў зманіў ён.— Нават больш — «Міт вэргнюгэн!»

— А што гэта значыць?

— «Я не супраць», «З задавальненнем».

— Ты выдумляеш!

— Нічога я не выдумляю: рыдзелева любімая хутчэй спяшаецца да свайго каханага, чым ты да мяне... Яна не кажа яму: «Эс іст нох фруг», «Эс іст шон шпэт...»

— Не разумею.

— Яна не кажа: «Яшчэ рана», «Позна ўжо...»

— Вось цяпер усё разумею,— села каля яго, апусціла яму галаву на грудзіну, хмелячы пахам выкупаных з мятаю, з хваёвымі галінкамі валасоў.— Баяр хацеў гуляць, дык забавілася з ім. Толькі як пасмактаў цыцу, дык заснуў. А карміць часта няможна, усяму свой час.

Супакоіўшыся, ён пачаў расшнуроўваць на яе сарафане стужку.

— Я сама...— прамовіла яна, паднялася. Але пры свечках засаромелася распранацца, дзьмухнула на іх.

Ён паклаў фаліянт на ўзгалоўе, яна, скінуўшы ў цемнаце сарафан і гарсэт, нырнула пад пухавік, прытулілася да яго:

— Які ты цёпленькі!

— Але нелюбімы...

— Любімы!

— Нежаданы...

— І жаданы!

Яго рукі самі залашчылі яе поўнае, але тугое, цела, а вусны пацягнуліся да вуснаў.

— Пачакай, не спяшайся...— прашаптала, адчуваючы ягоную нецярплівасць.

Раней, да родаў, яна часта, асабліва ў першую палову цяжарнасці, была з ім блізкая, але тады падпарадкоўвалася яму, а цяпер

любіла пагуляць-пасваволіць, падурэць і паступова пачала не проста, як раней, аддавацца, а кахацца з захапленнем, намагаючыся, каб ён дбаў не толькі пра сябе, а каб узбудзіў, запаліў незямным агнём яе цела, яе плоць і каб умеў на ўсю здольнасць сваёй душы і свайго цела ўладарыць гэтым агнём і ўмець патушыць яго. У Любцы па вол і матухны-прыроды пачала жыць Жанчына.

Вось і цяпер яна моўчкі, толькі рукамі і вуснамі запатрабавала, каб ён прагна, але ласкава запяшчоціў яе сцёгны, клубы, грудзі, а калі задрыжэла ў поклічным трымценні, дык сама павабіла да сябе. З хвіліну прывыкала, нібы ўбірала яго ў сябе, а пасля, пакольпі спрыяла цемень (яна, праўда, у заплюшчаных вачах іскрылася залаціста-сярэбранай імглою), лёгка і вольна завыгіналася станам, то яшчэ бліжэй імкнучыся да яго, то ўцякаючы ад спапяляльнага агню, якога было мала і мала, якога хацелася ўсё больш і больш, а ўрэшце застагнала:

— Я не магу! Паміраю!..

Да Любкі ён не зведаў ні такіх гуляў, абдымкаў і пацалункаў, ні такой шалёна-захопленай блізкасці, ні такіх жаночых стогнаў і крыкаў, дык ужо ў сталыя гады адчуў тое, што раней было яму амаль невядомае, пазнаў агромністую мужчынскую сілу і радасць як за сябе, так і з-за таго, што яму столькі прыносіць усяго невыказна пачуццёвага і слодычнага жанчына. Праўда, ён не траціў развагі, шанаваў Любку, дык у страсці і цяпер чуў, добра разумеў, што хоча яго і яе цела, плоць, панамагаўся ўберагчы яе.

— Не ўцякай! — сёння, мабыць, у незвычайным юры ўзмалілася Любка, моцна абхапіла яго худаватыя клубы, што ён мусіў даць волю сваёй плоці, каб яна ўжо як след усцешыла і яе плоць. Моўчкі, ужо сплёўшы рукі і ногі, слухалі гэтае насалоднае, нават, бадай, крыху і балючае ўсцешванне, новае яднанне, што суправаджалася, здаецца, бліскамі маланак, шумам-громам увушшу.

Толькі, мабыць, праз вечнасць Любка падала сасмяглы голас:

— Як мне хораша! Я ўся твая, а ты ўвесь мой!

— Але сёння...

— Маўчы!— папрасіла-загадала.— Я таго хачу, а ты слухай мяне!

— Слухаю,— згадзіўся ён, стомлена дыхаючы ёй у пульсуючую шыю, дазваляючы сваёй аслабелай плоці спакойна папяшчоціцца ў яе таксама супакоенай, але паранейшаму гарачай, пяшчотнай да яго плоці.

Задаволіўшыся блізкасцю, Любка сама выбрала тое імгненне, калі трэба было адарвацца ад гэтай пяшчоты і замяніць яе на ласку рук і слоў. Гулліва крактануўшы і паварушыўшыся, зусім не крыўдзячы яго, лёгка адхіліла набок, па-свойму апраўдваючыся:

— Ты ўсё ж такі цяжкі!..

6

Пабудзілі Усяслава рана, той часінай, калі яшчэ цягнулася доўгая асенняя ноч і зусім паволі набірала моц раніца, калі, бывае, яшчэ сама соладка спіш, а гэта значыць, і добра адпачываеш. Любкі побач ужо не было, яна, мабыць, прахапіўшыся ноччу, ціхенька вышмыгнула, каб пакарміць дзіця, а потым засталася на сваёй палове. Яму ж, Усяславу, як не хацелася падымацца, трэба было ісці ў княскі хорам: «Князь кліча». Дык мігам падхапіўся, хуценька апрануўся і борздка пашыбаваў туды, асвяжаючыся ад начной стыні, калючага ветру і вадзяніста-снежнай хлюпаты — зямля была яшчэ мяккая, ні разу яшчэ глыбока не прамярзалася, не пакрывалася трывалым лёдам, а вось снег падаў ужо. Мусіць, ненадоўга: той Зюзя, што наганяе зіму, толькі яшчэ раз-другі дыхнуў-дзьмухнуў сюды сцюжаю, страсянуў над гэтым краем рукавом, з якога паляцелі белыя матылі, перасцерагаючы, што ён, хоць не затрымліваецца тут, усё ж хутка сюды вернецца і заўладарыць ледзь не на паўгода.

У княскім хораме скупа мігцелі свечкі, уся чэлядзь была на нагах, але было вельмі ціха, і па тым, як усе не толькі пашанотна, але і з трывогай, нават са страхам пазіралі на яго, давалі дарогу, ён зразумеў усё непазбежнае, але жалобнае і пагрознае...

У княскай спальні было толькі трое: высокі і худы біскуп Кірыла ў чорнай апратцы, пажылыя, абодва мажныя, лекар і пакаёвы.

— Княжа, Усяслаў прыйшоў,— нагнуўся над хворым пакаёвы, а потым адступіў, даў яму месца.

Князь Ізяслаў — а ён ляжаў на спіне, заплюшчыўшы глыбока запалыя вочы, пад якімі былі цёмна-рудыя кругі, быў высахлы, жаўтлявы, а рэшткі валасоў, вусы і барада зусім збялелі — не варухнуўся, толькі марудна і вельмі цяжка прыўзняў павекі, зірнуў ужо не выцвілымі, а бясколернымі вачыма, з вялікім намаганнем варухнуў вуснамі і языком:

— Пакідаю вас, Усяславе...

Усяслаў душой адчуў: князь хоча, каб ён сеў побач, каб можна было цішэй гаварыць, але ўсё яму было чуваць.

Апусціўся на край ложака, запытаў з болем і спачуваннем:

— Вельмі ўсё баліць, князь?

— Не,— той варушыў толькі вуснамі.— Мне цяпер лягка, не чую ніякага болю, але... Смерць мая ўжо тут, каля мяне... Я яе бачыў ужо...

— Прымроілася табе гэта, князь.

— Не. І яе не баюся, няхай ужо забірае да маіх бацькоў і дзядоў. Час...

— Яшчэ не час, князь.

— Час, слаўны ваявода і мілы мне чалавек. Нялёгка табе будзе без мяне, але толькі табе ўручаю лес нашага Вялікага княства Навагародскага. Ужо з сённяшняга дня гэты цяжар, што мы валаклі разам, ляжа найперш на твае плечы.

Усяслаў узяў лёгкую, худую і халодную Князеву руку і, пацалаваўшы яе, паўтарыў сваю ранейшую клятву:

— Што не будзе пагражаць мне, князь, але я ніколі і ні перад нікім не адступлюся ад таго, што ты наказваеш нам...

— Ведаю, таму і паміраць мне не страшна. Такой бяды, што мяне хутка забудуць.

— Не забудуць, княжа.

— Забудуць. Помняць доўга таго, хто пачаў, выйграў ці прайграў вайну, праліў мора чалавечай крыві. Хто не толькі адбіваўся ад ворагаў, але і нападаў на суседзяў, дадаваў да сваіх зямель чужыя. Такія ціхія, памяркоўныя, як я, у людской памяці доўга не застаюцца.

— Не гавары так пра сябе, князь,— папрасіў Усяслаў.— Ты развагай, мірам, дбайнай гаспадарлівасцю ды мудрай палітыкай з дружнымі і хіжымі суседзямі зрабіў тое, чаго не ўдалося б дабіцца мячом. Ты спрытна спажыў зацішны шанец, што выпаў нам адзін раз за стагоддзі.

— Я не пра сябе думаю, Усяслаў. Пра іншую памяць...

Ён аж здзівіўся і ад цяперашняй свядомасці і розуму князя Ізяслава.

— Спажыць шанец — яшчэ не ўсё. Гэты шанец яшчэ трэба спраўдзіць, адстояць. І ўжо, непазбежна, мячом. Хутка, можа, нават і вельмі хутка пасля маёй смерці наш зацішак, мір сярод войнаў, што палыхаюць вакол, закончыцца і сюды таксама прыйдзе вайна. Каб забіць наш шанец...

— Што ж, прыйдуць да нас з мячом — возьмем у рукі мячы і мы.

— Дык вось калі будзе памяць пра слаўнае былое і прага лепшага новага, то ворагу будзе нялёгка скарыць вас. Устоіце, будзеце гаспадарамі на нашай зямлі, дзяржаваю сярод дзяржаў — усцешыце нас там, на тым свеце. Мы не будзем плакаць, адракацца ад нашчадкаў, што не занядбалі нас, наш запавет, сябе, будзем спрыяць адтуль. Калі ж, не дай Бог, нашчадкі змаладушнічаюць, забудуць нас, зганьбуюць сябе, то іхні род пачне выміраць... І заўладараць чужыя. І завядуць свой лад, дзе ўсё будзе неправеднае, хіжае, нявечнае, абы ўхапіць сваё ды дзень гэты пражыць... Толькі той край блаславенны ў

Бога, дзе шануюцца продкі і іхняе далей доўжаць нашчадкі. Калі ж гэтая повязь абарваная, дык нашчадкі няшчасцяць свой край, сябе, сваіх дзяцей і ўнукаў, а ўрэшце выраджаюцца і на гэтай зямлі прарастае наноснае семя... А там не толькі калоссе, але і пустазелле... Не табе, Усяслаў, гэта гавару. Баярам нашым, дружынам, чэлядзі, смердам — усяму нашаму люду. А ты скажаш гэтыя мае словы на Радзе і на вечы...

— Скажу, светлы княжа. Усё, што і як ты наказваеш.

— Абапірайся на сілу, на дружыны. Яны памогуць.

— Добра, княжа.

— Я , ж...— князь пачаў задыхацца.— Смерць... Хадзем... Хавайце не ў даспехах... Я не баявы, мірны князь... Я не ліў кроў...

Князь Ізяслаў і яшчэ штосьці гаварыў ці, лепш сказаць, спрабаваў вымавіць, але ягонага голасу не было чутно, угадвалася толькі мармытанне, а за ім пайшлі хрыпы. Нечакана ён напружыўся, аж уздрыгнула яго рука ва Усяславай далоні, шырэй, але неяк зусім не па-зямному адплюшчыў вочы, абвёў імі сваю спальню, а пасля запыніў позірк на куце, дзе вісеў вялікі абраз. Уставіўся, нібы анямеў, а потым увесь торгнуўся, нібы апошні раз выдыхнуў усё цяжкое з сябе і з палёгкай адкінуў убок галаву...

Усе яны перавялі вочы на старога лекара — той узяў ад Усяслава Князеву руку, прыклаў вялікі палец да запясця, паслухаў, а затым вымавіў са скрухаю:

— Преставился наш князь.

— Добры быў чалавек, дык лёгкая смерць,— перажагнаўся верны княскі лёкай.

Услед за ім перажагналіся і астатнія. Ніхто з іх, мужчын, не закрычаў, не заплакаў наўзрыд, толькі па-мужчынску ўсе зацяліся. Усяслаў ведаў, што князь памрэ калі не сёння, дык заўтра, добра ўсвядомліваў, што гэта не проста смерць князя і чалавека, але агромністае выпрабаванне для Навагародка і ўсяго Вялікага княства Навагародскага і не толькі на сёння ці заўтра, але, можа, і на стагоддзі. Цяпер, убачыўшы, што гэта адбылося, адчуў, што нібы ад яго адвалілася сцяна ці нейкая агромністая падпора, што ён нібы адзін з тым, што паслала ім воля неба і зямлі і што цяпер ужо ўвасабляецца ў выпрабаванн е!.. Яно пачалося! Хутка набярэ разгон, і адзін Творца, Усявышні ведае, ці будзе ў гэтым выпрабаванні выйсце,ці яно завядзе ў тупік!.. Вось такое жыццё: учора жыў і рабіў тое, што трэба, спакойна, радаваўся, зноў пазнаваў таінства і ўцехі кахання, а то, мабыць, даў пачатак яшчэ аднаму новаму жыццю, а сёння...

— Падымайся на ногі, сын мой,— паклаў яму руку на плячук біскуп Кірыла ды прамовіў шматзначна: — Спаўняй ужо Князеву волю, загадвай, каму што і як рабіць...

Ужо на світанні, калі ажыў Навагародак, бадай, усе ведалі сённяшнюю жалобную навіну.

Смерць нават простага смерда, лёкая, дружынніка, не кажучы ўжо пра знатнага воя альбо баярына,— гэта свежая, уражлівая падзея, што змушае неяк іначай, разважлівей і глыбей падумаць пра нябожчыка, пра жыццё, пра сябе, пазбавіцца ад усякай нечысці, паспачуваць, памагчы іншаму, згуртавацца ў бядзе і горы, каб пасля гэтага камусьці, праўда, толькі нямногім, жыць болей праведней, а камусьці, лепш сказаць, усім астатнім, існаваць па-свойму далей, да іншай нечай ці сваёй смерці. Жыццё, што не намі заведзена, мае свае законы, і не нам пры ўсіх нашых намаганнях, а на самай справе, можа, толькі маленечкіх спробах у ім разабрацца ды яго змяніць...

Але тут — смерць князя! Старога! Апошняга са свайго роду! Ні дзядзька, ні сын альбо сынавец — ніхто са сваіх, аднакрэўных, яго не заменіць! Значыць, тут рана-позна сядзе чужы князь, які, канечне ж, завядзе свой лад, а потым і свой род! Хто ж будзе гэты новы князь? Які яго характар, звычкі? Як ён будзе паводзіцца і са знатнымі, і з простымі? З суседзямі? Чаго чакаць далей? Міру? Звадаў і вайны? Такія думкі затурбавалі, выбілі са спакою і баяраў, і чэлядзь, што злучылі свае погляды на Усяслава, ведаючы і прадчуваючы, што цяпер ён тут галава. Ды Усяслаў нібы знік з Навагародка.

Радцы, пачуўшы жалобную вестку, наведалі ўжо абмытага і ўбранага ў велічна-святочна-тужлівую княскую апратку нябожчыка, а пасля разам сабраліся ў радніцы, паселі на сваіх месцах і пачалі паціху перамаўляцца. ТольКі адзін таўсцюк Расціслаў — у цёплых ботах, у расхінутым сабаліным футры, з узлахмачанай шапкай у руцэ — нервова выкрочваў туды-сюды па пакоі, а потым запыніўся і незадаволена запытаў ва ўсіх:

— Раніца, трэба нешта рабіць, а дзе Усяслаў? Дзе малодшы ваявода Бялян? Дзе Усяславаў зяць, Васілёк?

— Не спяць жа...— нібы сказаў тое, што ёсць, а на самай справе падбухторыў Расціслава стары Звеніслаў.— Дзеюць...

— Што?

— Тое, што ім трэба...

— І біскупа Кірылы няма!— не супыняўся і не супакойваўся Расціслаў.— Абодва, Усяслаў і Кірыла, не спяшаюцца аб'явіць нам ранейшы і сённяшні наказ князя Ізяслава.

Канечне, усе хацелі ведаць: што ў грамаце князя Ізяслава, якую ён перадаў біскупу Кірылу. Але Расціслаў хацеў ведаць пра ўсё найбольш. І, канечне ж, не толькі таму, што быў навагародскі дворскі.

— Усяслаў, можа, ужо спаўняе Князеву волю...— зноў ні за, ні супраць Усяслава-ваяводы сказаў Звеніслаў, але ў агонь Расціслававага гневу падкінуў паленца.

— Як гэта спаўняе? Адзін? Без рады з намі? — выпаліў Расціслаў, запыніўся, абстраляў усіх незадаволеным позіркам.— Дык хто мы? Радцы ці не? Давайце вось раіцца, з чаго і як нам пачынаць пахаванне?

— Без Усяслава? — хітра ўхмыльнуўся, зноў ціснучы Расціславу на болькі мазоль Звеніслаў. Добра ведаў характар, намеры Расціслава і ягонай Раксаны. Часта піў, шушукаўся з тымі, ставіў петлі для Усяслава, нацкоўваў на таго князя, хоць, трэба сказаць, няшмат яны дабіліся: князь верыў свайму ваяводзе і нават любіў яго, як малодшага брата.— Ты не баішся, што верныя Усяславу воі палічаць нас за крамольнікаў? Ды ў такі час, калі нам усім трэба быць заадно!

— Не разумею!— ускіпеў Расціслаў.— Ці ты, канцлер, пакепліваеш з мяне, ці асцерагаешся сам ступіць лішні крок?

— Я думаю,— ухілiста адказаў той.

— Цяпер мала думаць, цяпер трэба і штосьці рабіць! І не штосьці, а тое, што трэба!

— Прыйдуць біскуп Кірыла і Усяслаў — дык, канечне ж, адразу скажуць нам князеў наказ, а тады ўжо разам параімся пра ўсё... Найперш пра тое, каму ў нас сесці на пасад...— пры ўсіх намёкам на намёк адказаў захавальнік навагародскай пячаткі.

— Што тут надта мудрагеліць? — не мог саўладаць з тым, што яго турбавала, Расціслаў.— Трэба спешна слаць ганца ў Холм, да князя Данілы. Няхай ці сам зробіць ласку прыехаць у Навагародак, ці прышле свайго дворскага Андрэя. Вось з імі нам трэба як след параіцца...— А пасля, спахапіўшыся, недагаварыў запаветнае, толькі дадаў: — Пра ўсё...

Усе добра зразумелі ягоны празрысты намёк, усё, пра што ён затаіўся: Расціслава не проста захвалявала тое, хто і калі сядзе ў Навагародку на княскі пасад. Яму не цярпелася, ажно гарэла, каб яму і яго сям'і жылося лепей пры новым князі, чым пры старым. Праўда, ён нікому, нават каму верыў, не прызнаўся, што ён своечасова пачуў ад Усяслававага дружынніка, Любаміра, пра ранні выклік Усяслава ў княскі хорам, пра Князеву смерць. Як і не прызнаўся, што ўпотай паслаў ужо ганца ў Холм, каб там ведалі пра ўсё і каб не спалі ў шапку, а панамагаліся яшчэ не выпусціць Навагародка з-пад сваёй

волі, каб ён, Усяслаў, быў тут у моцы і ў дастатку. Тады, калі выйдзе ўсё так, як хоча князь Даніла Галіцкі, як жадае ён, прыйдзе яго час і ён будзе зусім іначай гаварыць, паводзіцца з усімі, а то і прыбярэ некаторых з дарогі. І, канечне ж, найпершы ўдар будзе па Усяславу... Абы толькі Холм не праваронiў, мігам умяшаўся ў навагародскія мітрэнгі, павёў усё далей пасвойму, як было да таго, пакуль не аслабілі, а то і спустошылі Галіцка-Валынскую зямлю манголы і міжволі не набралі тут моц, сілу князь Ізяслаў з Усяславам... Канечне, ні князь Даніла, як ні журбоцішча па жонцы-нябожчыцы, ні дворскі Андрэй, якога тут называюць «холмскім сваячком», маючы на ўвазе, што той — Раксаніна радня, не павінны ўпусціць тут тое, што мелі раней...

Расціслаў верыў, што цяпер ажыве яго мара, узыдзе і будзе яркай ягоная зорка, але глыбока ў душы і трывожыўся, што з таго часу, калі князь Даніла змушаў Навагародак слухацца, спаўняць яго волю, сплыло ўжо нямала вады, што ўжо ёсць, дужэе, пра што непакояцца ў Холме, Вялікае княства Навагародскае і што ўрэшце ёсць тайная грамата князя Ізяслава. Усяслаў — не з тых, хто разгубіцца ў цяжкую хвіліну альбо кагосьці збаіцца. Наадварот, пры напасцях Усяслаў надзіва разважлівы і мужны, мае добрае знаёмства, падмогу на Літве — і не толькі ў Міндоўгавай,— здаецца, паразумеўся і з непрымірымым супернікам раней Кіева, а цяпер Холма, Полацакам. Навагародскія дружыны за Усяслава гарой. Ён — іхні любімец і пястун, бацька альбо старэйшы брат. А іхнія дружыны — сіла, з ёй лічацца ўсе суседнія землі, князь Даніла таксама. Летась, калі той адбіваў наступ раці караля Бэлы і сынаўца Расціслава, проста мусіў праглынуць, як бобку перца, тое, што на гэты раз Усяслаў не кінуўся яму на падмогу з палкамі, а прывёў маладую дружыну пад канец бою не столькі памагчы, колькі даць дзецюкам прагуляцца, пабыць у баявым паходзе... Ясна, што і цяпер Усяслаў з дружынамі, найперш ім расказвае пра княскі наказ, падмацоўвае сабе падпірышча. А без яго біскуп Кірыла наўмысна сюды не ідзе. Таму хоць і не замінаді князь Даніла, мітрапаліт Кірыла стаць тут біскупам, хоць канстанцінопальскі патрыярх яшчэ не пацвердзіў гэтага біскупства, але ён памагаў князю Ізяславу і ваяводзе Усяславу весці навагародскую палітыку. Пакуль што няма тут сілы супрацьстаяць ім. Нават яго, Расціславаў, зяць-соцкі, калі быў жывы і марыў стаць тысяцкім, шчыра служыў не яму, а Усяславу.

...Усяслаў заявіўся ў горадзе, а пасля ў радніцы пад полудзень. Па тым, як быў апырсканы мокрай зямлёю на ботах і на полах плашча, было відаць: быў у дарозе, сам аб'ехаў прыстанкі бліжэйшых баявых дружын. Але і ўслед за ім біскуп Кірыла не прыйшоў.

— Трэба паслаць па біскупа,— адразу ж задзірыста сказаў Усяславу Расціслаў.

— Чаго?— нібы не зразумеў, пахмурна запытаў той. Сеў на сваім, вярхоўным, месцы, што займаў пасля таго, як злёг князь Ізяслаў, стомлена абцёр далонню высокі лоб, роўны важкі нос, густыя, трошкі ўжо сівыя вусы і бараду.

— Няхай аб'явіць нам князеў наказ, каб мы ведалі, што і як рабіць далей,— прамовіў Расціслаў. Раней, нават да нядаўняй паездкі ў Холм, дзе пабачыўся з князем Данілам, які вярнуўся з Іціля, ад Батыя, Расціслаў так смела і фанабэрыста не размаўляў са сваім супернікам, але, адчуўшы новую падмогу ў Галіцка-Валынскай зямлі, дазваляў сабе дзёрзкасць.

— Біскупу, святарам мы не павінны замінаць шчыра маліцца за душу нашага дарагога князя,— непарушна адказаў Усяслаў.— Наказ Гаспадара зямлі нашай пачуем на днях.

— Калі, па-твойму, трэба аб'явіць нябожчыкаву волю нават нам?— напаў Расціслаў.— Можа, толькі пасля пахавання?

— Можа.

— Але ж на пахаванне прыедуць князі, баяры з усіх бліжэйшых земель. Першае, што яны запытаюць у нас, будзе пра тое, як мы самі бачым далейшы лес сваёй зямлі? Чыйго, якога князя хочам мець на пасадзе ў Навагародку? Але што мы ім адкажам, калі не будзем ведаць нават князевай граматы?

Усяслаў не проста зірнуў, а абпаліў яго варам жывых, іскрыстых вачэй: ён жа ведае князеў наказ, тое-сёе ўжо робіць у тым духу, але не хоча нават намёкам прачыніць уваход да таямніцы, злуе, што хтосьці рвецца туды.

— Не глядзі як воўк на брахлівага сабаку!— пахрабрыўся Расціслаў.— Не ты адзін павінен ведаць і рашаць усё па-свойму! Ты такі ж радца, як і я! Роўныя мы! І род наш баярскі гэткі ж даўні!

— Князева цела яшчэ не астыла, а ты ўчыніў ужо валтузню! — зморшчыўся Усяслаў.

— Князя мы не падымем ужо. А мы, жывыя, дзяржаўныя мужы, павінны думаць і дбаць пра жывое, дзяржаўнае...

Усе астатнія да гэтай спрэчкі даўніх супернікаў, адзін з якіх трымаўся за князя Данілу Галіцкага, а другі — за князя Ізяслава, не далучаліся, слухалі і назіралі за ўсім.

— Думалі, дбалі і будзем думаць ды дбаць пра дзяржаўнае,— Усяслаў упарта не падпускаў нікога да сваіх сакрэтаў.— А пачнём з таго, што зараз жа пашлём ганцоў у Полацак, Ноўгарад, ПТскоў, Смаленск, Чарнігаў, Жамойць, Булевічы, Дзяволту, Рушкавічы, Дайнову,

Нальшаны, Яцвязію, Куявію, Мазовію, у нашы Ваўкавыеск, Слонім, Гарадзен, у Пінеск, Бярэсце, у Літву да Міндоўга...

— А ў Холм, да князя Данілы? — скрывіўся Расціслаў, што Усяслаў так і не назваў сталіцы таго, каго ён назваў бы першым.

— І туды пашлём.

— Зрабіў нарэшце ласку князю Даніле! Уважыў!

Усяслаў на гэты раз змоўчаў, адвярнуўся. Як ад нада-

кучлівай мухі.

— Мне ўсё стала ясна! Ты не хочаш запрашаць сюды князя Данілу! Не хочаш весці з ім ніякіх перамоў!

— Не пахмяліўся, дык пілуе, грызе душу зло? — ухмыльнуўся Усяслаў.— Ці нейкая пошасць і на мазгі перакінулася?

— Мае мазгі як мазгі, а вось у твае пошасць закралася! — не здаўся Расціслаў.— Калі мы жадаем дабра Навагародскай зямлі ці, як вы з гонарам вялікім кажаце, Вялікаму княству Навагародскаму, дык мы павінны нічога не таіць адзін ад аднаго! Верыць, памагаць адзін аднаму! А вось ты штосьці замышляеш тое, што таіш ад нас! Чаму? Для чаго? Дзеля сваёй карысці?

— Я сказаў князю Ізяславу сваё слова, прыйдзе час — скажу яго і вам усім,— прамовіў той.— А рашаць усё будзем разам. На Радзе і на вечы.

— Не разумею гэтых тваіх таемнасцей! — Расціслаў падаўся з радніцы, а потым услед за сабой так бухнуў дзвярыма, што ажно затрэсліся сцены.

Усяслаў добра ведаў Расціслава, як аблупіленага, дык разумеў, чаго той гэтак мітусіцца і шалее, хоча як мага раней уведаць таямніцу граматы князя Ізяслава. Расціслаў, хочучы дабіцца свайго, ужо спрабаваў паслаць у далёкі Холм ганца з весткай пра Князеву смерць (ганца за горадам перахапіла яго засада, і той, калі добра ўвалілі па рэбрах і задніцы, прызнаўся, хто яго накіраваў і з чым), а цяпер, канечне ж, хоча паслаць упагон і яшчэ аднаго чалавека, каб той пераказаў Андрэю-дворскаму запавет князя Ізяслава і тое, што збіраюцца рабіць у Навагародку.

Як ён і прадчуваў, Расціслаў не толькі хутка вярнуўся са слотнага двара, а проста ўварваўся ў радніцу. Палахлівец у душы, раней не раз біты Усяславам за розныя правіны, ён аднак цяпер быў раз'юшаны, з перакошаным ад гневу і дакукі тварам.

— Цяпер я разумею! Усё!..— ажно пырснуў слінай, пазіраючы з нянавісцю заплытымі ад тлушчу і частых выпівак вочкамі. Круглы мясісты твар чырвоны, як бурак.

— Што ўжо да цябе дайшло? — нібы ў хлапчука спакойна і ў той жа час з насмешкай запытаў Усяслаў. Заадно прыкінуўся прасцяком.

— Ты абкружыў Навагародак дружынамі, увёў іх у горад! — задыхаўся Расціслаў.— Самадумам! Без нашай згоды!

— Дык што цябе гэтак напалохала? Мой, ваяводскі, клопат пра лад?

— Які лад? Ты паланіў нас, хочаш змусіць усіх скакаць пад тваю дудку! Ты спажываеш давераную табе сілу ў сваю карысць!

— Астудзіся і адсапіся. Сядзь і больш надумай, чым плявузгаць абы-што.

— Ты перахапіў майго ганца ў Холм і без літасці дапытаў яго!

— А хто табе, дабрадзей ты наш, дазволіў такое рабіць без згоды ці волі Рады? — нахмурыў бровы Усяслаў.— Дзееш такое дабрачынна, без карысці для сябе?

— Я проста хацеў перадаць у Холм жалобную вестку,— пацішэў, але не супакоіўся Расціслаў.

— Не толькі.

— Толькі! — Расціслаў не садзіўся. Паклаўшы руку на стол, тупаў на адным месцы.

— Кінь,— Усяслаў, ведаючы, што нішто яму не пагражае, ад Расціслава ён і сам легка абароніцца, без ценю сполаху паставіў локаць на стол, падпёр далонню падбародак.— Кажы такія казкі дзецям, а не мне. Як і пра тое, чаму гэтак прагнеш чым раней уведаць князеў наказ. Для цябе гэта не проста цікавасць, а твая жыццёвая патрэба. Ты хацеў бы бачыць тут не нашы, а Данілавы дружыны!

— Хацеў бы! — Расціслаў перастаў ужо таіцца, нават зазухарыўся.— І яны рана-позна будуць тут, прывядуць і пасадзяць у нас таго маладога князя, якога прышле Даніла!

— А ты будзеш яму наюджваць на вуха! Рабіць усё, што загадае твая подлая душа!

— Буду! І ўсе вы, ты таксама, будзеце ў мяне пад кіпцем!

— Не спакушай сам сябе, бо не будзе па-твойму!

— Будзе! — Расціслаў, стоячы, пастукаў тоўстым сагнутым сярэднім пальцам па стале.— Ты, нават усе вы можаце цешыцца абычым, але князем у Навагародку будзе нейкі Данілаў сын! Мсціслаў, Раман ці Шварн — не важна, хто, але з Данілавага роду і дому! Так мне сказаў сам Даніла. А ён ад свайго слова не адрачэцца. Калі наша Рада і веча пойдуць за табою, не згодзяцца на гэта самаахвотна, дык ён узвядзе сына тут на пасад сілаю!

— Ты лічыш, што яе ў твайго апекуна і заступніка хопіць на гэта?

— Калі не хопіць сваёй, дык яе дададуць яму маншлы-саюзнікі!

— І ты гаворыш спакойна, нават радасна? — не толькі здзівіўся, але і жахнуўся Усяслаў.— За тое, што Даніла, як некалі Кіеў на Полацак, можа навесці на нас чужынцаў, дзікіх язычнікаў?

— А мне напляваць на гэта! — махнуў рукой той.— Каб тут меў волю Даніла, сядзеў на пасадзе яго сын і мне было ўежна і ўлежна, я гатоў на жываце паўзці ў Холм! Няхай будзе ў нас адзіная дзяржава, няхай усе кланяюцца чужынцам, абы мне было добра!

— Які ж ты мярзотнік! Вырадак!

— А вось я такі навагародзец!

— Чым ты хвалішся?! Лепш бы цябе, сабачае халуйскае адроддзе, маці яшчэ семем на крапіву выкінула!

— Я нарадзіўся на мяжы з Данілавай зямлёю, змалку ўвабраў яе дух, дык я не маю таго гонару, што маеце вы, народжаныя ў цэнтры Навагародскага княства!

— Ты, сволач, мог нарадзіцца і ў любой нары, бярлозе (Хрыстос вунь нарадзіўся ў стойле, у яслях, але даў свету сваё вучэнне), але не маеш права з-за шкурных інтарэсаў здраджваць роднай зямлі, прадзедам і нашчадкам! Нельга ж прадаваць усё гэта святое з-за свайго трыбуха!

— А ты... А ты...

— Ну, што я? Гэта к і ж прадажнік, лёкай, раб у душы, як і ты?

— Ды ведай ты: Даніла ніколі, чуеш, ніколі не адпусціць нас на волю! — ужо нібы павучыў Расціслаў.— Навагародская вольніца — гэта толькі выпадак, невялікі адрэзак часу!

— Ведаю і без цябе, чаго хоча Даніла. Найперш — мець, як і задумалі яго князі-продкі, Навагародак за вароты на Полацак, на Літву. Але, можа, хопіць нам быць дробным грошам у яго хіжых помыслах?!

— Ага! — аскаліўся -Расціслаў.— Не хочаш, не хочаш нават паслаць яму вестку пра Князеву смерць!

— Ды не спяшаюся.

— І тым больш супраць, супраць, каб тут закняжыў Данілаў сын!

— Супраць.

— І каго ж ты бачыш на нашым пасадзе? Якога літоўскага князя? Войшаля? Таўцівіла? Эдзівіда? Ці яшчэ каго, з палацескай, рагвалодавічавай крывёю?

— Таго, хто будзе служыць найперш навагародскім інтарэсам, хто яшчэ болей пашырыць, амацуе Вялікае княства Навагародскае, будзе абараняць яго ад няпрошаных вызваліцеляў! Хто паспрыяе нам адзяржавіцца як след!

— Дык хто ж, па-твойму, наш месія?

— Ацалелі б сыны князя Ізяслава, дык не шукалі б мы сабе князя на баку, рабілі б сваё далей самі,— сказаў Усяслаў.— Але гіерасёкся Ізяславаў род, дык мусім браць чужынца. Але такога чужынца, які палічыў бы сябе навагародцам, а то і быў яшчэ лепшым навагародцам, чым некаторыя нашы хітруны, прыстасаванцы альбо плюгавыя, нікчэмныя чалавечыкі!

— Дык не варта ўжо таіцца, назаві: хто ж ваш абраннік? Хто ж будзе служыць нам лепш за нас, нягоднікаў?

— Уведаеш усё на Радзе.

— На Радзе і на вечы я дам табе бой! — пастрашыў Расціслаў.— І яшчэ невядома, пойдуць нашы баяры, дружыны, простыя смерды за табой ці не?! Калі будзе тут воля Данілы, мы будзем жыць у міры, дастатку, за яго плячыма. Калі мы «станем гаспадарамі ў сваёй хаце», адвернемся ад Данілы і злучымся так ці гэтак з Літвою, то сюды прыйдзе вайна, і мы зведаем вялікі Данілаў гнеў, дужую і бязлітасную ягоную руку!..

— Што ж, можа, і не абысціся без гэтага,— пахітаў галавой Усяслаў.— Але выбар мы, веру, зробім не такі, на які штурхаеш ты, а іншы — годны, пачэсны, хоць і нялёгкі... Каб мы смела і сумленна пазіралі ў вочы сваім дзецям і ўнукам, не чулі ад іх праклёну, пагарды і абразы...

— Разумны ты ды не вельмі! — заўшчуваў і нават ужо нібы даверліва, шчыра Расціслаў.— Пакланіся Данілу — усё будзеш мець: уладу, сілу, багацце, будучыню! Не схіліш гордай галавы, запрагнеш марнага і недарэчнага, чаго не варты нашы смерды,— усё страціш! Апынешся ў порубе альбо і без галавы!

— Дзякуй,— хітнуў галавой Усяслаў.— Хоць раз ды пабыў ты шчыры. А за шчырасць можна паважаць нават і непрыяцеля.

— Ты мяне не паважаў і паважаць ніколі не будзеш,— адвёў вочы Расціслаў.— Я часамі нават здзіўляюся, чаму ты столькі церпіш мяне, не звядзеш са свету. Можа, толькі таму, што асцерагаешся Данілы.

— Не толькі.

— Дык яшчэ чаму?

— Каб бачыць усе хады адкрытага галіцка-валынскага віжа, які з-за псовай службы гатоў прадаць і маці родную.

— І табе дзякуй за шчырасць,— схіліў галаву Расціслаў.— Але ведай: цяпер гэты віж-здраднік можа памагчы табе. Канечне, за паслугу: цяпер я павінен быць першым тут пасля Данілавага сына. Ды ты не крыўляйся, не пахмыляйся, болей падумай не толькі пра нябеснае, але і пра зямное. Пра маладую жонку і малое дзіця. Клопат

пра сям'ю — не малая турбота. Дзеля яе, бывае, трэба ісці і на тое, на што душа і не згаджаецца...

— Асабліва, калі ў цябе такая жонка, як Раксана!

— Не заракайся! І тваё цялятка рана-позна будзе з рагамі!

— Кепская тая дамова, дзе вала бадзе карова!

— А не бывае, каб цябе што-небудзь ды не баданула. А цяпер ты і сам можаш сябе бадануць...

«Што ж,— нявесела падумаў Усяслаў,— бадай, нікчэмец кажа горкую праўду...»

7

Князя Ізяслава адспявалі, адслужылі па ім малітвы ў царкве, ушанавалі яго шэсцем дружын у баявых даспехах, а пасля ягонае дагледжанае лекарам цела паклалі ў выдзеўбленую з вялікага шэрацёмнага каменя ракудамавіну, накрылі яе абчасанай каменнай глыбаю, замуравалі і паклалі спаць вечным сном у царкве побач з саркафагамі яго бацькі, маці, жонкі і сыноў.

Навагародскі люд — кавалі, залатары, купцы, чэлядзь і іхнія сем'і з вакольнага горада, а таксама смерды, лоўчыя, ^ортнікі, варшчыкі жалеза з блізкіх і далёкіх сельскіх паселішчаў,— дык вось люд, які імкнуўся трапіць калі не да княскага хорама і ў царкву, то хоць бы ў дзяцінец, каб на свае вочы ўбачыць князя-нябожчыка і жалобна-ўрачыстыя пахавальныя цырымоніі, спакваля разышоўся па сваіх хацінах; Навагародак апусцеў, заціх у смутку; дружыннікі паранейшаму трымалі ўсё пад пільным назіркам, каб без іхняга ведама ніводзін чалавек з падазронымі намерамі не змог вышмыгнуць з Навагародка ці пранікнуць у яго, найперш употай абсочваючы Расціславаў дом. Расціслаў, не здолеўшы паслаць у Холм свайго чалавека ў першы дзень князевай смерці, не супакоіўся: паспрабаваў упіхнуць у людское скопішча, а пасля выімкнуцца на холмскі шлях не абы-каго, а дружынніка, Усяслававага Любаміра. Але пільная варта і яго перахапіла, а калі добра прыцiснулі, дык той прызнаўся, што Расціслаў хацеў праз яго перасцерагчы Андрэя-дворскага: князь Ізяслаў памёр, а перад смерцю наказаў Усяславу запрасіць у Навагародак князя з Літвы, так што не ўпускайце свайго, не давайце Навагародку і Літве вырасці ў вялікую сілу, шліце свае дружыны і з імі садзіце тут на пасад аднаго з Данілавых сыноў!..

«Як ты мог паслухаць змея і здрадзіць Навагародку? — сам дапытваючы з выбітымі зубамі і паламанай рукою Любаміра, ледзь не троссся ад гневу і крыўды Усяслаў.— Чым ён цябе спакусіў? Навагародак — твой жа родны горад, а ты...»

«Ты, баярын, вінаваты»,— адказаў той, моршчачыся ад болю.

«Я? Чым?»

«Ты адабраў ад мяне Любку».

«Дык ты з-за гэтага прадаў сваю душу? З-за помсты мне?»

Той замаўчаў, можа, і ўражаны, што яго гэтак знявечылі, а Бялян, які быў на допыце, ажно ўзарваўся: «На кол яго! Альбо гайню выжлаў спусціць на яго, паршывага сабаку!»

«Дурань ты, якая не была б любая табе дзяўчына, што пайшла за другога, але здраджваць з-за гэтага роднаму гораду, сваёй вотчыне — злачынства,— паўшчуваў Усяслаў.— Ідзі, падумай-паразважай. Захочаш крывёю змыць сваю віну — дам табе такі шанец. Не адумаешся — сам вырашу твой лес».

«Дарэмна, баярын, ты да яго такі мяккі,— стрымана, але незадаволена прамовіў рашучы і без літасці да здрадніцтва Бялян.— Змяюк ёсць змяюк. Не ўкусіў цяпер — джгне пазней. Ды і іншых такіх трэба было б перасцерагчы».

Ён — найперш з-за Любкі, каб не азмрачаць ёй настрой і не пакідаць на яе сэрцы камень быццам яе віны за Любаміраў лес — сказаў Беляну: «Давай дадзім яму выратавальны шанец. Усё ж ён добры дружыннік, а калі перагарыцьперадумае, дык, можа, і добрым чалавекам стане».

Праўда, калі хто-небудзь з гасцей шчыра ці наўмысна з хітрасцю пытаў, ці пасылалі ў Холм ганца, Усяслаў моўчкі ківаў галавою: так. А калі князі і баяры з падуладных Навагародку ваўкавысцкай, слонімскай, гарадзенскай, свіславіцкай, здзітаўскай зямель улучвалі спрыяльную хвіліну і пыталіся пра новага ўладара Вялікага княства Навагародскага, дык ён прасіў іх пачакаць, а на такі ж запыт захмялелых гасцей за жалобным сталом меў іншы адказ: «Не будзем тут разводзіць такую гутарку», а калі запрошаныя, праўда, паасобку, пры развітанні прасілі ўсё ж сказаць ім хоць слова пра лес навагародскага пасаду, дык ён толькі намякаў: «Усё хутка вырашыць наша веча».

...Ужо за Навагародкам, у полі, калі яны крыху адсталі ад маладых князёў, баяраў і дружыннікаў, Выкінт, павярнуўшыся бокам да сцюдзёнага ветру, што гнаў мокры снег, і закрываючы шчаку бабровым каўняром, задумліва прамовіў:

— Калі я пазіраў на княскія ракі, дык падумаў: які нечаканы паварот! Які лёс Навагародка!

Усяслаў, запыніўшыся поплеч, конь каля каня, сядло каля сядла, слухаў:

— Яшчэ і не так даўно, пад канец таго стагоддзя, ваш Навагародак — невялікі на вашых, славянскіх, землях гарадок-крэпасць, а

яго князі, Ізяслаў, сын Васількоў, а потым яго пляменнік, бацька гэтага Ізяслава, Мікула Валошка, княжаць па волі падуладнага Кіеву Гарадзена... І малады князь Ізяслаў пасля бацькавай смерці быў паслухмяны Гарадзену і, здавалася, верна служыў Кіеву, быў непрыязны да Полацака і яго саюзніцы Літвы. Ды спакваля не толькі выйшаў з-пад волі Гарадзена, але падпарадкаваў яго, замірыўся з Полацакам, раднёй па крыві, пасаюзіўся з Літвой, надта з Мендогам, вызваліўся спачатку ад улады кіеўскіх князёў, а потым і Данілы Галіцкага, узвысіў Навагародак і яго землі да Вялікага княства Навагародскага, а сябе — да вялікага Гаспадара!.. І ўсё без вайны, павольна, ціха, з хітрай палітыкай і з дбайным гаспадараннем!.. Нражыў аж восемдзесят сонцаваротаў! Зайздросны лёс! Князь-будаўнік! І гэта не меней за якогасьці ваяўнічага князя! Я нізка схіляю перад ім галаву!

«Гэта — цяпер. А пры жыцці ты яго не вельмі любіў. Асцерагаўся, а то і баяўся яго»,— падумаў УсясЛаў, а ўголас сказаў:

— Дзякуй, кунігас, за добрыя словы пра нашага князя. Праўду кажаш: князь і Навагародак, сапраўды, спакваля ўзвышалі адзін аднаго.

—...і да таго, што ўжо смела рашылі паказаць кулак Данілу...— нібы прадоўжыў ягоныя думкі Выкінт.— І, можа, не толькі яму...

— Не прыпісвай, кунігас, Навагародку таго, чаго ў яго не было і няма.

— Не было, праўда. Але няма ніякай зарукі, што і не будзе. У маладога драпежніка звычайна хутка расце смач і пожадзь.

— Нашы думкі, кунігас, пакуль што найперш пра наша гняздо. Як ахаваць яго і маладзенькіх птушанят.

— Ад цябе, ліса, іншага і не пачуеш,— усміхнууся Выкінт.— Але скажы шчыра: ні кроплі не палохае цябе самога выклік, што вы рашылі кінуць Данілу Галіцкаму?

— Я — не з тых, хто не ведае, што такое боязь, страх. Гэтыя пачуцці, думаю, павінен адчуваць кожны здаровы чалавек: яны бываюць і патрэбныя. Але...

— ...alea jacta est?[1]

— Мабыць, так, кунігас,— паспрабаваў усміхнуцца і Усяслаў. Яго, як і Выкінта, мігам аблеплівала мокрым снегам. Як і іхніх коней. Ледзь не белым прасцірадлам. Пакрываўся белізною і ўвесь навакольны свет.

— Дык прызнайся нарэшце: каго з літоўскіх князёў вы запросіце на свой пасад? — ужо сур'ёзна запытаў Выкінт.

---

[1] Жэрабя кінутае (лац.).

— Чаму — якраз з літоўскіх?— Усяслаў ужо ўзбіўся на паўжартаўлівы тон і хацеў не адпусціць таго.— Чаму — не з падуладных нам зямель? Альбо з пінеска-тураўскай? З яцвяжскай? Ці з вашай Жамойці?

— Адказваю сур'ёзна на твой жарт: вы і пінеска-тураўская зямля, Бярэсце цягнецеся адно да аднаго, але злучыцца вам не дасць Даніла. Ён жа, а з ім і Куявія з Мазовіяй не дазволяць вам пасягнуць на Яцвязію. Дык куды вам рушыць? На Літву! І лепш за ўсё з літоўскім князем, у жылах якога цячэ і славянская, полацкая, кроў!

— Argumentum ad hominem.[1]

— Не, ліс. Ad litteram![2]

— І каго ж, па-твойму, кунігас, мы намерыліся запрасіць на наш пасад?

— З Эдзівідам і Таўцівілам ты не пагаварыў самнасам — значыць, ніхто з іх вам чамусьці не падыходзіць,— сказаў Выкінт.— А дарэмна. Эдзівід альбо Таўцівіл — гэта непрыязнь з Мендогам, які цяпер больш чым ваш служка, затое мір з Полацакам і Жамойцю, супрацьстаянне крыжакам. Вось паглядзіш, успомніш мае слова: якраз з-за тых довадаў, што ты чуў, Эдзівід альбо Таўцівіл апынуцца ў Полацаку, калі там здарыцца тое, што здарылася ў вас.

— І я казаў, кунігас: зорка маладога пакалення Эдзівіда і Таўцівіла хутка ўзыдзе, і мы яшчэ, калі будзем жывыя, пададзім адзін аднаму рукі.

— Але якраз ім вы не хочаце падаць рукі! Значыць, намерыліся падаць Войшалю, каб ён, заўзяты хрысціянін, спакваля ахрысціяніў Літву і, блізкую вам па мове, звычаях і веры, прывёў яе вам на вяровачцы!.. Не выкручвайся! Скажы, гэтак?

— Што ж, калі настойваеш, дык скажу,— ведаючы, што неўзабаве ўсе, Выкінт таксама, уведаюць іхні намер, рашыў болей не гуляць, прачыніць доступ да іхняй таямніцы.— Гэтак, мы хочам увайсці з такой просьбаю ў Міндоўгаў хорам.

— Я так і ведаў, што вы запросіце таго, каго выхавалі на свой лад і капыл! — усклікнуў Выкінт.— Але перасцерагаю, ваявода: Войшаль — гэта таксама не вялікая повязь з Мендогам, бо Мендог будзе баяцца, што яго рана-позна адпіхнуць убок. Гэта насцярога ўсёй Літвы, Полацака і нас, Жамойці! А калі яшчэ дадаць гнеў галічан і

---

[1] Доказ, што грунтуецца не на аб'ектыўнасці, а разлічаны на пачуцці таго, каго пераконваюць (з лац.).

[2] Літаральна (лац.).

валынцаў, дык вы ў адзін час можаце апынуцца ў абручы, што сціснe вас з усіх бакоў!

— Усё можа быць, кунігас,— уздыхнуў Усяслаў.— Але няма зарукі ад таго, што і вы, Жамойць, можаце быць сціснутыя абручом так, што з вас будзе выскакаць дух. Дык, можа, давайце менш з-за Літвы касавурыцца адно на аднаго, а болей дбаць пра іншае, каб і нас, і вас не сціснуў абруч!..— А пасля, падумаўшы, дадаў: — І давайце ўлічваць: Літва аславяненая ўжо. Яна сама рана-позна далучыцца да славян. Вам жа, Жамойці, каб авалодаць ёю, прыйдзецца яе заваёўваць, браць сілай. Але і гэтага будзе мала, бо яна не сальецца з вамі. Дык давайце ладзіць наша суседства, ратавацца і ісці ў будучыню неяк іначай, па згодзе і павазе адно да аднаго!

— А ці бывае так, Усяслаў? — пахітаў галавою Выкінт.— Калі ты багацейшы і дужэйшы, дык ты дыктуеш, кал і я мацнейшы, дык я кірую!

— Калі прыцісне, калі можа выскачыць дух з абодвух, то трэба будзе і паразумецца па-іншаму, па здаровым сэнсе.

— Мы з табой перамовіліся, але мала да чаго дагаварыліся!..— не пераставаў хітацца Выкінт.

— Чаму, кунігас? — не згадзіўся Усяслаў.— І ты, і я сказалі адзін аднаму нямала. Думаю, мы яшчэ ўспомнім гэтую нашую размову, будзем яшчэ заўзята дыскутаваць, маючы свае інтарэсы, але, можа, некалі пачнём больш шукаць тое, што нас не раз'ядноўвае, а збліжае ды ратуе...

— Можа...— няпэўна пацiснуў плячыма Выкінт, падаў руку.— Ну, будзь здаровы, навагародскі ліс і зубр! З сённяшняга ж дня рыхтуйся да бітвы, а то і да вайны з тым, каму сніцца былая моц і слава вялікіх кіеўскіх князёў!

— Можа, і не абыдзецца без гэтага,— пахітаў галавою Усяслаў,— але хацелася б верыць, кунігас, што ты нам не нанясеш удару ў спіну!

— Каб вы запрасілі на княжанне Эдзівіда альбо Таўцівіла, дык, кажу ж, быў бы мір паміж вамі, Літвой, Полацакам і Жамойцю. Але ж у вас іншыя намеры, дык...— Развёў рукі.— Усякае можа быць. Пачакаем, паслухаем, якое будзе ваша слова, якія будуць вашы хады, намысслы і замахі... Паглядзім, якая будзе ваша desideratum!..[1]

8

Калі Усяслаў зайшоў з Войшалкам да Міндоўга, дык той — паколькі было вельмі цёпла ад стаяка ў рэзідэнцыі для высокіх гасцей,

[1] Мяжа жадання (лац.).

у мяккіх скураных ботах, у суконных чорных штанах і белай кашулі,— як было відаць, узбуджана хадзіў па пакоі. Можа, і ад таго, што ён, Усяслаў, сустракаўся, гутарыў з усімі князямі і баярамі, праводзіў іх у дарогу, а вось на яго, Міндоўга, нібы не зважаў, папрасіў толькі затрымацца ў Навагародку з сям'ёю.

Міндоўг, убачыўшы, што Усяслаў не адзін, а з яго сынам, не толькі запыніўся ды ўскінуў галаву, але нібы сцяўся ад страху, замёр і вырачыў, як казала надое чы Любка, нядобрыя вочы. Усяслаў адразу ж перахапіў гэты запытальна-насцярожаны позірк, але зноў нібы не пазважаў на яго, павярнуўся да Войшалка:

— Распранайся, княжыч, пасядзім, вып'ем медавухі: гутарка наша будзе не кароткая...

Ён спакваля зняў з галавы бабровую шапку, сабалінае футра, павесіў усё гэта на прыладжаныя да сцяны адпаліраваныя ласіныя рогі, памог распрануцца Войшалку (з ім яны толькі што пагаварылі пра княскі пасад у Навагародку, пра яго варункі з Літвою). Міндоўг абмацваў учэпістым позіркам то яго, спакойнага, то пабялелага, асабліва сёння з манаскім абліччам сына, намагаючыся адчуць, з чым яны прыйшлі да яго. Усяслаў жа дёр ахаладнелыя пасля сцюжы рукі, хукаў на іх і нібы выпадкова пазыркваў на Міндоўга — на яго асабліва рыжаватыя на фоне белай кашулі валасы, густыя бровы, вусы і бараду (усё валоссе не толькі адзалочвалася жаўтаватым бляскам, але і кучаравілася, што, як кажуць, сведчыць пра буйны, неўтаймоўны характар), а таксама зазіраў у вочы, што чамусьці часта мянялі колер. Былі то блакітнаватыя, то шэрыя ці нават зелянкавыя, а калі, бадай, ажно карыя. Сказаць шчыра, сам Усяслаў неяк вельмі і не заўважаў гэтага. Ды Любка падказала. І не толькі пра гэта, але яшчэ і пра тое, што Міндоўг пазірае надта ж па-драпежніцку, без літасці, што ад яго позірку ажно сцінаецца скура. «Так ён пазірае толькі на цябе»,— пажартаваў ён. «Чаму? — здзівілася Любка.— Я ж нічога благога яму не зрабіла!» — «Ты прыгожая і вабная, а Мендог ласы на маладых і паглядных». Любка зачырванелася, засаромелася, нібы з просьбай абароны зірнула яму ў вочы. Усяслаў адчуў: Міндоўг сам-насам з Любкай калі не хапаў у абоймы, дык пазіраў юрліва, падлешчваўся, а можа, нават і зайздросна сказаў слова-другое пра яе красу і стан. Усяслаў не насцярожыўся, але рашыў быць з суседам больш строгім.

— Дазволіш сесці? — паўжартам, але без лагоднай, як раней, усмешкі запытаў у Міндоўга.— Пачастуеш медавухай?

— Прашу,— спахапіўся той, паказаў рукой на невысокія, але шырокія і мяккія, пакрытыя вырабленымі мядзведжымі скурамі

крэслы абапал невысокага круглага з дубовага кругляка стала, на якім на сурвэтцы стаяў гліняны глечык з вузкім рыльцам і кубкі. А калі яны селі, сам наліў ім медавухі, пунсавеючы ад напружання, якое ўтаймоўваў.— Правёў і Выкінта?

— Правёў,— адказаў Усяслаў, беручы з вялікіх і дужых, усыпаных рабаціннем Міндоўтавых рук кубак.— Усіх правёў ужо.

— Пра што, калі не сакрэт, гудзеў табе жамойцкі шэльма? — пачаў здалёку Міндоўг.— Сватаў табе сваіх і маіх сынаўцоў?

— Сватаў,— прамовіў Усяслаў, адпіў крыху з кубка саладкавата-гаркаватага пахучага, мяккага, але моцнага пітва.— І Эдзівіда, і Таўцівіла.

— Каб праз іх не толькі сеяць варожасць на Літве, але і выйсці ўжо на вас! — Міндоўг, як адчувалася, апаражніў ужо кубак-другі, але п'яны не быў, развражаў ясна і абышто (тое, што ў цвярозага ў думках) у яго не вырывалася.

— Ён тлумачыў гэта тым, што такі ход не спадабаецца табе, але прынясе Навагародку прыязнасць многіх літоўскіх земляў, знойдзе разуменне ў Полацаку і Жамойці. А гэта — шыхт ужо супраць князя Данілы, які даўно ўжо чакае, каб пасадзіць у нас аднаго са сваіх сыноў...

— І што ты адказаў яму?

— Прачыніў таямніцу князевага наказу,— Усяслаў зноў крыху адпіў; Войшалк па-ранейшаму, нават у цяпле, быў бляклы, не пазіраў ні на нікога, утупіў вочы ў стол, здаецца, разглядаючы слаі ад тоўстага дрэва на стале; Міндоўг трымаў кубак у руцэ, але нават не прыгубліваў з яго, а цяпер вось яго рука ўздрыгнула.— Нядаўна пачуў яе Войшаль, а зараз пачуеш усё і ты.

Міндоўга рука яшчэ болей дробненька затрымцела: пра што ж яны гаварылі? Што — яго разумнаму, калі трэба мяккаму, а калі трэба дык і хітраму, жорсткаму, сыну будзе тут, у Навагародку, княскі пасад? А яго, Міндоўга, убок? У памагатыя сыну, які навагародзец па духу? Ды Міндоўг стрываў, не запытаў запаліста, што ж у запавеце князя Ізяслава.

Усяслаў не меў ні намеру, ні ахвоты гуляць.

— Канечне, як ты і перакананы, князь,— прамовіў ён,— у тым наказе супраць таго, каб тут закняжыў хтосьці з Данілавых сыноў, пусціў свой род і зрабіў Навагародак сваёй вотчынай, перадаваў яе сваім дзецям і ўнукам. У Навагародку павінен быць іншы род, які павядзе далей нашу палітыку.

Цяпер ужо Міндоўг апусціў рыжую і кучаравую буйную галаву, з утрапеннем слухаў, чакаючы галоўнага. Пацягнуў крыху з кубка, але, здаецца, без ахвоты і смаку. На твар яго ўсплыла цяжкая пакута, што

бывае ў людзей, якія гарачыя, дзёрзкія, самалюбныя, але змушаныя падпарадкоўвацца багацейшаму і мацнейшаму, цярпець, час ад часу выпускаючы толькі пару ў п'янстве і свавольніцтве, нават буянстве ў сябе дома.

— Вось я і сказаў Выкінту: наш новы князь будзе з Літвы,— вёў далей Усяслаў.— Калі ён убачыў, што гэта не будзе ні Эдзівід, ні Таўцівіл, дык астатняе яму было зразумець няцяжка: наш новы князь будзе з Мендогавага дому. Мне ўжо нічога не заставалася, як пацвердзіць: так, кунігас, з Мендогавага.

— А ён — што? — Міндоўг не падняў галавы, закруціў гладкі кубак у руках.

— Ён, канечне ж, не ўсцешыўся. Прыстрашыў сумятнёй і варожасцю некаторых літоўскіх зямель, Жамойці.

— Дык калі вы будзеце садзіць на пасад свайго выхаванца? — не толькі не аблашчыўшы, але нават не зірнуўшы на сына, хмурна запытаў Міндоўг.— Калі збіраеце Раду, веча?

— На днях,— адказаў Усяслаў і першы раз расслабіўся, усміхнуўся.— Гэтак і я, князь, думаў, калі летась мне самнасам князь Ізяслаў назваў свайго наступніка...

Міндоўг цяжка, нявесела падняў галаву, зірнуў спадылба. А Войшалк, адчуваючы бацькавую рэўнасць, гаркоту, яшчэ ніжэй угнуўся.

— Мудрасці тут вялікай няма,— амаль уздыхнуў Міндоўг.— Як толькі перад Гарбамі загінуў ваш самы малодшы княжыч, дык я тады адразу ж падумаў: хутка запросіце вы на свой пасад майго Войшаля, свайго любімца...— Што ж,— павярнуўся да сына.— З такім ваяводаю, як баярын Усяслаў, і Рада, і веча паставяць цябе тут князем. Так што, віншую і кланяюся табе, Гаспадар Вялікага княства Навагародскага! — і тут жа на адным дыханні выпіў усё з кубка, выцер вусны рукавом кашулі, не зважаючы, што пакідае на ім цемнаваты след. І да Усяслава: — Дзе думаеце трымаць яго? У Руце? Тут? Адным словам, кім сябе бачыш: ваяводаю пры князі альбо пасаднікам без князя ў Навагародку?

— Кажу ж, князь, і я тады думаў якраз так, як думаеш цяпер ты...— Усміхнуўся Усяслаў.— Ды князь Ізяслаў разлічыў крыху іначай.

Міндоўг не то насцярожыўся, не то здзівіўся.

— Цяпер вось, князь, скажу табе тое, пра што пакуль што ведаюць толькі біскуп Кірыла, Войшаль і я,— Усяслаў адпіў крыху з кубка і паставіў яго на стол.— І новы наш князь павінен жыць у Навагародку, узяць з усімі баярамі, з усім дваром, з дружынамі і слугамі веру ад Усходу, не толькі абараніць, але і ўзвысіць Навагародак. Як

зусім слушна кажа Выкінт, нам ужо трэба настроіцца на бітву, а то і цяжкую вайну з князем Данілам, з яго саюзнікамі. А сярод іх могуць быць самыя нечаканыя сілы. Можа, і твае сынаўцы, і сам Выкінт. Ён не даў мне слова, што не падыме на Міндоўгаў дом, на Навагародак меч. Сказаў толькі амаль так: пераначуем — штосьці новае пачуем... Абараніцца ж, узвысіцца Навагародак можа толькі ці, лепш сказаць, найперш за кошт Літвы. Значыць, яна павінна ўзбуйніць Вялікае княства Навагародскае. І, канечне ж, лепш за ўсё, каб гэта выйшла без мяча.

Міндоўг панік; у яго ўжо не толькі затрымцелі рукі, але і бязмоўна заварушыліся вусны. Толькі праз хвіліну-другую ён з намаганнем выдыхнуў:

— А я? Не толькі васал, але і Войшалеў наёмны баявы князь? Кажу ж, я лічыў, што вы возьмеце да сябе свайго выхаванца, паклічаце, каб я памог вам адбіцца ад князя Данілы і яго саюзнікаў, але я не думаў, што вы адвядзеце мне такую ролю... Канечне,— каб не паказваць дрыготку, пачаў церці, мяць рукі, ажно на белым целе паказаліся чырвоныя пляміны.— Хто і што я без вас? Я проста мушу слухаць вашу волю...

— Паклянешся?

— Тут не трэба і ніякай клятвы,—адвёў убок позірк Міндоўг.— Без вашых дружын я і дня не змагу застацца ў Руце, буду сынаўцамі і Выкінтам ці забіты, ці выгнаны са сваёй вотчыны. Тады змагу быць толькі чыімсьці наёмнікам.

— Не,— ужо не змог стрымаць усмешку Усяслаў.— Ты ўсё ж паклянешся? На Радзе і на вечы тут?

— А што я магу зрабіць іначай? — Міндоўг перавёў на яго адрачоны позірк.

— Будзь ласкаў,— Усяслаў вытрымаў гэты душазабойлівы боль,— скажы ясна: так ці не?

— Так.

— Дзякую. А цяпер вось слухай уважліва. Ты не ўсё разлічыў, дарэмна думаеш, што ўва ўсім гэтым няма ніякай мудрасці. Князь Ізяслаў не толькі прыкінуў: carpe diem![1] Ён шмат разважаў: як усё зрабіць належна. Я не буду расказваць табе ўсе яго закалюты думак, але ўрэшце ён мудра рашыў: князем у Навагародку будзеш ты, Мендог!

Міндоўг зноў вырачыў вочы і зноў змяніўся іхні колер, стаў нейкі зелянкава-жаўтаваты, як у ката ці ваўка.

---

[1] Лаві момант (лац.).

— Ты! — Усяслаў яшчэ хітнуў галавою, каб пацвердзіць свае праўдзівыя словы.

— Я? — той прыклаў далонь да грудзіны, дзе, мусіць, дробна, але шалёна закалацілася сэрца.— Не Войшаль?

— Я паўтару: нічога болей тлумачыць табе не буду. Думаю, здолею зрабіць усё, каб і ты закняжыў тут. Толькі, зразумела, ты перад гэтым дасі прысягу Радзе, вечу, пяройдзеш з усім дваром, хто зажадае ісці за табою ў Навагародак, у веру ад Усходу. Багацце, сілу, што займееш, спажывеш не на тое, каб паквітацца з непрыяцелямі, а каб далучыць да Навагародка Літву. Чуеш?

— Чую, але я... — першы раз за гэтую сустрэчу ўсміхнуўся.— Не зусім веру, што якраз такая воля князя Ізяслава.

— Якраз такая. І Войшаль, дзякуй яму, зразумеў мяне і не пакрыўдзіўся.

— Не пакрыўдзіўся? — ужо з усмешкай Міндоўг павярнуўся да сына.

— Не.

— Па-хрысціянску пакарыўся?

— Не толькі. Пакуль што так, як задумалі князь Ізяслаў і баярын Усяслаў, трэба. Гэта — мудрасць дзяржаўных мужоў. А ты, князь, дазволь сказаць табе, лішне не спакушайся,— праўда, зусім спакойна, разважна гаварыў Войшалк.— Цяжка табе, нам у Руце, але не лягчэй будзе і ў Навагародку.

— Ведаю, сын,— павесялела адказаў той.

— Але ведай, князь: Рада і веча не дадуць табе лішняй волі,— астудзіў яго крыху Усяслаў.

— Ды не саромся,— гэта Міндоўга зусім не збянтэжыла,— гавары, як ёсць і як павінна быць: ты — мой дарадца, настаўнік і начальнік.

— Без Рады, веча і я, князь, не буду мець шмат сілы. А Рада і веча будуць толькі за навагародскія інтарэсы.

— Ды згодзен,— працягнуў руку, пагладзіў яго па плечуку Міндоўг.— І не толькі згодзен, а клянуся. Ты будзеш ахоўваць, берагчы мяне, Войшаля, а мы будзем ахоўваць, берагчы цябе. Каго б я тут першага прыбраў,— сціснуў кулакі, патрос імі,— дык гэта вашага нячысціка, Расціслава! Ён — костка нам у горле!

— Прыйдзе час — разбяромся з ім,— сказаў Усяслаў.— А цяпер не будзем насцярожваць крывёю ні наш люд, ні Холм.

— Ён, канечне, не павядзе за сабою ні Раду, ні веча, але яго, Усяслаў, цяпер асабліва трэба асцерагацца.

— Ведаю. Няхай лепш непрыяцель і чужы віж будзе навідавоку, чым глыбока затоены. Ды ён, бывае, у запале ці па дурноце скажа такое, што вельмі разумны ўтаіў бы, зрабіў бы больш шкоды.

Міндоўгавы вочы ліхаманкава заблішчэлі — сапраўды, як у ваўка, які не толькі ўбачыў жаданую здабычу, але якога нечакана для хуткага палявання суродзічы абралі вадзілам зграі:

— Во будзе неспадзяванка, «радасць» і князю Даніле, і князю Выкінту з сынамі!

— Княжыч Войшаль, князь добра кажа: і нам, і табе наперадзе клопаты ды турботы! І з Данілам ды Выкінтам таксама! Напраўду, мір для Навагародка, як і для Літвы, заканчваецца. Хутка і, можа, нават вельмі хутка нам прыйдзецца брацца за мячы. Ніхто яшчэ і нідзе дагэтуль спакойна не назіраў, як багацее і мацнее сусед. Наадварот, стараўся яго абакрасці, аслабіць, а то і падначаліць.

— А я лічу: Навагародак злавіў свой момант!— ужо ўзбадзёрыўся Міндоўг.— Яго могуць абсадзіць, абрабаваць, нават захапіць на нейкі час, але ні ў кога з бліжэйшых нашых суседзяў не хопіць сілы, каб яго ўтрымаць надоўга. Навагародку — быць! — І пацягнуўся да глечыка з медавухай.— Грэх за такое не выпіць!

Міндоўгава радасць была зусім зразумелая: Яго вялікасць выпадак, а то і адзіны ў жыцці шанец ці нават сам гістарычны лес выводзіць яго з лясных глухіх нетраў і сцяжын на прасцяг і высокія навагародскія ўзгоркі, дзе, ужо навідавоку, яго, Гаспадара немалых зямель, чакае нямала непрадбачанага, але ваблівага і, можа, слаўнага. А хто, скажыце, з зямнога люду, няхай сабе простага ці княскага, не прагне іх, велічы і славы?!

*Канец першай кнігі*

1993-1995

## ХУТАР АМШАРОК[1]

Сказаць шчыра, быў час, калі я саромеўся, што нарадзіўся і гадоў пятнаццаць быў на хутары — не на далёкім, пушчанскім, глухім і дзікім, на самым блізкім ад вёскі Янковічы,— а ўсё ж на хутары.

Гэтая няёмкасць, можа, была і ад таго, што тады з хутароў вельмі кпілі, потым змусілі ўсіх самім разбурыць іх і перабрацца ў вёску (у нас застаўся на сваёй бацькаўшчыне толькі адзін чалавек — Іосіф (Юзік) Далідовіч, далёкі наш сваяк па мянуніцы Ганік, калека з маленства, без аднаго вока і без пальцаў на адной руцэ, глухаваты, але надзіва ўпарты і заядлы праваўнік. Яго жонка, старая ўжо кабета, і цяпер жыве там без электрычнага святла, без тэлевізара ды халадзільніка), з нас і пазней насміхаліся як з тубыльцаў, як з людзей, якія нявартыя іншых альбо і заганныя: да слова, калі той-сёй хацеў сказаць пра чалавека спакойнага, дбайнага, але скупаватага ці скварпнага, а то панурасуглобага, дык найменне яму тут як тут было: «Хутаранец!», «Куркуль!», «Кулак!». Нават некаторыя з нас, старэйшых і маладзейшых літаратараў, хто павінен быў добра ва ўсім разбірацца, дадалі сваё непачціваe слова да тых горкіх кпін і абраз. Больш — нават такі рускі пісьменнік, як Іван Бунін, кім я шчыра захапіўся ў студэнцтве, здаецца, таксама строга пісаў пра свой хутар. «Младенчество свое я вспоминаю с печалью,— чытаем мы ў ягоным «Жыцці Арсеньева».— Каждое младенчество печально: скуден тихий мир, в котором грезит жизнью еще не совсем пробудившаяся для жизни, всем и всему еще чуждая, робкая и нежная душа. Золотое, счастливое время! Нет, это время несчастное, болезненно-чувствительное, жалкое.

Может быть, мое младенчество было печальным в силу некоторых частных условий? В самом деле, вот хотя бы то, что рос я в великой глуши. Пустынные поля, одинокая усадьба среди них...»

Той юны Арсеньеў зведаў і хвалюючае ды светлае, але колькі ў яго на хутарах Каменка, Батурына было «грусти», «тоски», «одиночества», колькі ён пакутаваў ад «запустенья» і «распада!» Зрэшты, ён, той Арсеньеў, расчараваўся не толькі ў хутарах і вёсках, але і ў большым: «Рос я, кроме того, среди дворянского оскудения, которого опять-таки никогда не понять европейскому человеку, чуждому русской страсти ко всяческому самоистребленью. Эта страсть была присуща не одним дворянам. Почему, в самом деле, влачил нищее существование русский мужик, все-таки владевший на великих

---

[1] Апавяданне «Хутар Амшарок» з цыкла аўтабіяграфічнай прозы.

просторах своих таким богатством, которое и не снилось европейскому мужику, а свое безделье, дрему, мечтательность и всякую неустроенность оправдывавший только тем, что не хотели отнять для него лишнюю пядь земли от соседа помещика, и без того с каждым годом все скудевшего? Почему алчное купеческое стяжание то и дело прерывалось дикими размахами матовства с проклятиями этому стяжанию, с горькими пьяными слезами о своем окаянстве и горячечными мечтами по своей собственной воле стать Иовом, бродягой, босяком, юродом? И почему вообще случилось то, что случилось с Россией, погибшей на наших глазах в такой волшебно краткий срок?»

Сталы, зараз я лепш разумею пакуты таго Арсеньева — нашчадка збяднелага двараніна, які з маленства мусіў не шыкаваць у сталіцы, а існаваць у глушы, а пазней не па сваёй волі пакінуць Радзіму і дажываць на чужыне. Расія, канечне, не загінула і не загіне ды ў свядомасці Арсеньева-Буніна адбыўся яе крах. Я, грэшны, не з дваран і не з купцоў, а з сялян, якія таксама мусілі пасяліцца на хутары, але не ўспрымалі гэта як трагедыю, а да ўсяго за пятнаццаць гадоў, што правёў на хутары, я не бачыў там вялікага лайдацтва, марнатраўства, загулкаў і запояў, славаблуддзя, хоць там, як і ўсюды, жылі не зусім святыя, а звычайныя людзі. Але я іх усіх помню найперш дбайнымі гаспадарамі, якія хацелі выжыць, падняць дзяцей на ногі, каб тыя «не былі жадны кавалку хлеба» і «не раслі гледзячы на лес», былі шчырыя, адукаваныя, працавітыя і «вялі бацькавую гаспадарку далей» альбо «дбайна заводзілі сваю».

Цяпер, калі я, паўтараю, сталы ўжо чалавек, зусім не саромлюся, што заявіўся на свет, рос на сваім Амшарку і не магу напісаць, што я гэтулькі сваіх гадоў там толькі сумаваў, жыў абы дзень да вечара, уражваўся ад неўтаймоўных звычаяў і нораваў, ад марнення і гібення, што вялі да якогасьці краху... Не. Канечне, часамі падступалі смутак, нават журба і маркота, было шмат цяжкай працы, розных непрыемных, а то і прыкрых здарэнняў і прыгод, але нават і ў нас, дзяцей, было натуральнае разумение: мы тут не выпадкам і не часова. Сюды па сваёй ахвоце выбраліся твае дзед і баба, тут самі рашылі пасяліцца бацькі, тут прызвычаілася ўжо ўся наша сям'я, маючы жыллё, кавал зямлі, гаспадарку, і мы ўсе з кожным годам лепш апранаемся і ядзім, а праз год-другі нам павінна быць лягчэй і заможней.

Наша «матка» — вёска Янковічы,— мабыць, з даўніх часоў (на жаль, і я не ва ўсім цікаўны, ленаваты, дык яшчэ не ўведаў добра гісторыю сваіх карэнных мясцін) не вельмі вялікая, у лепшыя свае часы, да вайны, кажуць, у ёй было крыху болей ста двароў. Стаіць яна сярод прылеску Налібацкай пушчы; зямлі, сенакосу і пашы

няшмат, дык яшчэ ў тым стагоддзі той-сёй з янкоўцаў мусіў падацца на заробкі ў Амерыку, хтосьці — у расійскія гарады і на сібірскія бяскрайнія прасторы і нямала хто на пачатку ўжо гэтага стагоддзя выбраўся на хутары, каб пачаць адваёўваць зямлю, а значыць,сабе і сваім нашчадкам жыццё ў кустоўя і ў лесу.

Мой дзед па бацьку, Уладзіслаў, калі ажаніўся, таксама пакінуў цесныя Янковічы (пасля падзелу Беларусі на Усходнюю і Заходнюю), асеў за вярсты паўтары ад вёскі ў полі, у Амшарку, дзе займеў чатырох сыноў і дачку, крыху абжыўся, а свайго старэйшага сына, майго бацьку, вывучыў на каваля. Ды лес не пашэнціў майму працавітаму і разумнаму продку: зусім яшчэ малады, ён памёр перад блакадай ад таго, што ў яго нарваў зуб і сапсаваў кроў. Па такой хваробе ў спрыяльнейшы час, канечне, можна было б яшчэ доўга жыць. У блакаду не пашанцавала ні Янковічам, ні хутарам: іх немцы (калі быць праўдзівым, не толькі немцы, але і тыя, хто гаворыць на славянскай мове) спалілі да тла, а людзей вывезлі ў Нямеччыну. З усяго нашага роду толькі мой бацька адчайна марсянуў па дарозе ў Стоўбцы з абозу і пачаў бежанцам туляцца ў іншых вёсках, якіх агонь не зачапіў. Там ён спазнаўся з такой жа, як і ён, уцякачкай са свайго хутара (зусім блізкага ад яго), Янінай, і як толькі вайна пакацілася на захад, яны, маючы за плячыма толькі крыху за дваццаць гадоў, прыйшлі на парослы бадыллём хутар Амшарок, выкапалі паблізу ўжо ўтравелага, але яшчэ пахкага гарэлым зямлянку, абладзілі яе і пачалі ў ёй жыць, з хваляваннем чакаючы: вернецца янкоўскі люд дамоў ці не, адновяцца ці звядуцца Янковічы?

Некаторыя нашы сем'і, маладыя падаліся з Нямеччыны ў Аўстралію і ў Амерыку (бацькавыя браты і сястра, наслухаўшыся польскіх вярбоўшчыкаў, угаварылі маці не ехаць дахаты, на пустэчу, а падацца на землі, што адышлі Польшчы ад Нямеччыны, дзе ім, «крэсавякам», абяцалі даць абладжаную сядзібу выселенага нямецкага баўэра), але многія як з вёскі, так і з хутароў вярнуліся на Бацькаўшчыну, на свае селішчы. Між іншым, мая бабуля Аршуля ўсе свае больш чым дзевяноста гадоў размаўляла толькі «папросту», а вось дзядзькі і цётка (мая хрышчоная маці) хутка апалячыліся, а іхнія дзеці, мае стрыечнікі, лічаць сябе толькі палякамі. Некаторыя з іх, калі мы сустрэліся тут, у нас, і знаёміліся як радня, вербавалі мяне, каб я не пісаў на «ензыку, які муві тылька бабця», а вучыўся пісаць «культурна», на польскай мове, і, здаецца, ніяк не маглі і не могуць зразумець, што ёсць такі тып, як мы з імі: акаталічаны беларус. Для іх, як і для іншых заблуджаных альбо вужліва-хітрых, нібы закон: раз ты тут католік — значыць, ты толькі паляк! Зрэшты, і яшчэ многія малакемныя ці

ашуклівыя ў нас па дурноце або наўмысна паранейшаму тлумяць люду галовы: праваслаўная вера — руская, а каталіцкая — польская, а ты, значыць, выбірай, да каго табе прыхінуцца, каб не быць самім сабою, хоць праваслаўная вера не толькі ў Расіі, а каталіцкая — у Польшчы!.. Ды некаторым з нас, абэлтухаў, гэта ніяк не даходзіць, не ўмелі і не ўмеем цаніць сваё, а гэта значыць, і сябе!

Наш Амшарок — гэта травяністы ўлетку, заліты вадой ўвесну і ўвосень, абледзянелы альбо заснежаны ўзімку поплаў, пасярод якога была выкапаная сажалка, некалькі рослых, дзедавых, бяроз абапал поплава, невялікі пасаджаны бацькам і мной, старэйшым з дзяцей, садок, гародчык для кветак, грады, кузня, поле, і, урэшце, невысокія драўляная хата, хлеў, гуменца пад адной саламянай страхою, а ўсё гэта было абгароджана дзе акоранымі жэрдкамі, частаколам, а дзе, каб не лазілі куры, заплецены яловымі галінамі, а вакол нас, як тады мне здавалася, вялікае, як акінуць вокам, пагоркавае поле, дзе чарнаватае, а дзе і з жоўтым пясочкам. З хутаранцаў па гэты бок мае бацькі доўга былі самай маладой сям'ёю, астатнія гаспадары, іхнія дзеці был і нашмат старэйшыя за нас.

І праз болей трох дзесяткаў гадоў заплюшчу вочы і бачу дарогу з вёскі паўз нашу сялібу на хутары, бачу, якая цвёрдая яна была на ўзгорках і амаль заўсёды ці з ямінамі вады альбо гразістая ў лагчыне, а таксама бачу сцяжыны ад нашай хаты да іншых хат. Калі я тады станавіўся спіной да поўдня і вёскі (яна і цяпер цягнецца шнурочкам абапал адной вуліцы), дык пасярод поля бачыў астраўкі з пабудоў, дрэў і платоў: далека злева, на захад, асеў Жырневіч (сам бачыў, ад яго незвычайных вачэй енчыў і хаваўся ў будцы чужы самы зверываты сабака), бліжэй да нас — Далідовіч па мянушцы Масавіч (вельмі набожная сям'я, хоць гаспадар быў нервовы, лаяўся, адна з дачок яго, Бронця, пазней вырасла ў вясковую красуню і, можа, нават ад цяжару красы сваёй «звялася сама са свету» раней часу, асіраціўшы пяцёра дзяцей). Я да гэтых хутаранцаў, паколькі там усе былі нашмат старэйшыя за мяне, хадзіў рэдка, толькі па нейкай патрэбе. Зусім недалёка ад нас (крыкнеш — там пачуюць) жыў наш далёкі сваяк, Грыгарцэвіч (длублівы, талковы і вясёлы чалавек. У яго ўдаўся малодшы даваенны сын, з якім я хораша сябраваў і якога сёння ўжо няма). Амаль насупраць нас жылі Навіцкі і Паланевіч; калі выпадала вольная часіна, я бегаў і туды, цягнучыся да крыху старэйшых Мішкі і Данусі Навіцкіх і да аднагодка Антоніка Паланевіча (у яго на гарышчы стаяў куфар, а ў ім ляжала шмат зробленых бацькам у маладыя гады ў Маскве грошай, якія той па даверы абмяняў у нейкага круцяля на золата. Гаспадар усё чакаў,

што прыйдзе час і зноў пойдуць у ход тыя «керанкі», але пасля, зняверыўшыся, дазволіў сыну і мне гуляць з імі, а то, бывала, я выменьваў іх у Антоніка за якую-небудзь рэч). Правей, за пагоркам, перад Раўком, жыў Далідовіч-Ганік (у яго, пажылога калекі, был і дзеці, роўныя нам па ўзросце), за ім — Емельяновіч, якога я ў маленстве баяўся страшней за рознага Салаўя-разбойніка: ён, гэты Мікалай (як цяпер ведаю, адзін з самых памяркоўных мужчын у вёсцы), тады зойдзе ў хату і, строга акінуўшы позіркам нас, дзяцей, запытае: «Хто з вас не слухае маці? Каго мне забраць і змусіць пасвіць пчол?», дык нам — страх і жах: не толькі гэты асілак павядзе нас каторага з сабою, але і загадае, бачыш, пасвіць пчол, што кусаюцца! А тут яшчэ маці падсыпле боязі — калі што якое, дык пастрашыць: «Ну пачакай, неслух, прыйдзе Мікалай — аддам цябе яму! Няхай правучыць!» Правей гэтага страшнага для нас Мікалая, перад рэчкай і вялікім выкапаным возерам, каля якога да вайны быў млын, сядзелі некалі, за палякамі, адны з самых багатых, а значыць, і гордых людзей у вёсцы і нейкім цудам ацалелыя ў 1939 годзе ад вывазу ў Сібір: матчыныя родныя дзядзькі, а мае стрыечныя дзяды Ясь і Стэфусь Шабуні. Ясь быў бяздзетны, а вось са Стэфусевымі Мар'янам, Алькай, Раманам і Ядзяй (яны былі мне дзядзькі і цёткі, хоць Ядзя маладзей за мяне на тры гады) я і сваячыў, і сябраваў. Усе яны змусілі мяне называць іх толькі на «ты». Самыя ж блізкія мае сваякі, матчыная маці, мая родная бабуля Зося, і два яе сыны, мае дзядзькі Антон і Ян Чапроўскія, жылі праз Шабунеў лес у Ляйтарках, за якімі, праз зараснікі алешніку і рэчку Шуру, была невялікая вёсачка Крычаты. Я ў Чапроўскіх гуляў найперш з Антонавымі дочкамі, старэйшай Анелькай і равесніцай Яняй. Мы, стрыечнікі, былі тады вельмі дружныя, а цяпер нават не перапісваемся. Можа, усё з-за тых спрэчак, што выдумалі задоўга да нас: да слова, Анелька там, у Польшчы, спецыяліст па польскай гісторыі і яе, гісторыю, вывучыла толькі ў польскім духу, нашу Беларусь бачыць толькі за былыя польскія «крэсы», а пра мой погляд на Беларусь у эпоху Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай нават не хоча чуць...

На болей далёкія і лясныя хутары, у Ваўкавеньку, Ляжджа ці Падзеру, я хадзіў рэдка, найчасцей тады, калі мяне туды пасылалі (там жыў Антон Емельяновіч, з якім я і Антон Паланевіч хадзілі з нашых хутароў у Налібакі ў сямігодку і пасябравалі. Антон Емельяновіч, на жаль, памёр зусім малады ад хваробы веку), там жыло нямала Навіцкіх, з якіх у адных, Верабёвых, былі вельмі прыгожыя дачка і сын (з ім я пасля таварышкаваў), а яшчэ адзін Навіцкі, Стэфусь, пазней закончыў нізавую партыйную школу, быў доўгі час

нашым брыгадзірам, першы ў вёсцы назваў мяне, студэнта, па імені і па бацьку. Ён, неблагі чалавек і гаспадар, залішне даверліва спаўняў партыйныя догмы, разам з іншымі ваяваў супраць Бога, але калі, уночы ўрэзаўшыся на матацыкле ў грузавік, што стаяў пры плоце ў тумане, загінуў, дык яго Янковічы не клялі, а шкадавалі. Тым больш што ён, пазнавата ажаніўшыся, пакінуў дзяцей малымі.

Як цяпер разумею, усе тыя нашы хутаранцы былі цікавыя і бывалыя людзі: той-сёй з іх у салдатах альбо ў бежанстве ў першую сусветную вайну бачыў вялікую Расію, той-сёй нёс службу ў польскай арміі і, як казаў ужо, амаль усе пабылі ў Нямеччыне,— дык ужо ведалі, дзе і як жыве люд, дзе і што ёсць. Калі яны ў асенне-зімовыя вечары купкамі збіраліся ў кагосьці (найчасцей у таго, у каго было радыё ці хто выпісваў якую газету), слухалі навіны, гаманілі, дык іх было цікава паслухаць: яны шмат у чым разбіраліся і, калі не было чужога чалавека, гаварылі пра ўсё смела і яшчэ пры жыцці Сталіна ганілі яго як таго, хто «быў болей за цара, але парушыў лад і загубіў многа талковых людзей»: іхнія сцежкі-дарожкі сутыкаліся ў Заходняй Беларусі, Нямеччыне і з тымі, хто пабыў у савецкіх лагерах, неяк вырваўся з іх, з СССР і шмат расказваў пра той «рай». Праўда, як помню, калі Сталін памёр (у той год, увосень, я пайшоў у першы клас), дык разгубіліся і яны: што будзе далей? Пачнецца новая вялікая вайна ці не? Пабыўшы гадоў пяць у калгасе, бадай, палова нашых хутаранцаў і вяскоўцаў не вытрывала яго, а таксама старшыні, былога партызана, самадура, дарэчы, з недалёкіх ад славутага Буніна мясцін, і, маючы права на польскасць, ужо назаўсёды пакінула нашу вёску (з імі і мае дзядзькі Антон ды Ян з сем'ямі), каб там, у Польшчы, мець столькі зямлі, жывёлы, колькі ім хочацца, самім дажыць свой век «хамамі з-за Буга», а сваіх дзяцей і ўнукаў ужо цалкам аддаць суседняй краіне, каб некаторыя з гэтых нашых нашчадкаў на нас, янкоўцаў, а для іх «крэсавякаў», потым, будучы тут у гасцях, пазіралі, усміхаліся паблажліва, а то і звысоку... Так сказаць, па-панску ўжо...

Я ўжо тое-сёе напісаў пра нашых хутаранцаў — пра тых, каго ўжо не стала ў пажылым, а то і ў зусім маладым веку ці хто яшчэ, дзякуй Богу, жыве. Не ведаў бы я, да слова, бабулі Зосі, не чуў бы яе доўгіх, але прыемных мне расказаў пра былое, пра сваю маладосць (яе муж, мой дзед Іосіф-Юзік, памёр, калі яму было яшчэ толькі крыху за сорак, а яе сыны падаліся ў пяцідзесятыя гады ў Польшчу, дык я, падлетак, памагаў ёй, адзінокай калецы, назапашваць сена і дровы, начаваў у яе, каб ёй было смял ей), не знаў бы стрыечнага дзеда Стэфуся, Ганіка, старых Паланевіча і Грыгарцэвіча — не было б маёй трылогіі «Гаспадар-камень». Дазволю сабе нават сказаць так: я мусіў

пісаць гэтыя раманы, бо толькі я з усіх тых, хто піша, блізка ведаў названых людзей і мог сказаць пра іх слова. Як не мог не напісаць апавяданне «Спечаныя яблыкі на галінках» пра тое, як палілі ў блакаду нашы хутары і Янковічы, аповесць «Жывы покліч» з расказам пра тое, як мае маладыя бацькі адразу пасля вайны абжывалі Амшарок, трыпціх «Цяпло на першацвет» пра сваё маленства, аповесць «На новы парог» (Вялюгінская назва, мая была «Бабчын скон») пра лес «неперспектыўных» Крычатоў, урэшце, проста сам прасіўся раман «Заходнікі», дзе трэба было расказаць, як з'іначвалі лад усяго ў Янковічах, як паводзілі самі і да чаго давялі нас розныя Кураглядавы...

Канечне, напісаў я пра ўсё тое мала і не зусім так, як хацелася, але ёсць яшчэ дзе, з чаго чэрпаць і мне, і тым іншым маім землякам, хто, можа, таксама возьмецца пакінуць у нашай памяці тых, хто жыў і жыве ў нашым краі, варты ўвагі і пашаны, пра каго, скажу яшчэ раз, апроч нас, ніхто іншы нават не абмовіцца: іншыя, можа, напішуць і лепш, але пра іншых...

...Які мой самы ранні ўспамін з хутарскога жыццябыцця? Бадай, тое, што адбылося са мной у тры гады. Я не помню вельмі, што і як было, калі мне споўнілася чатыры, пяць, шэсць гадоў, нават пазнейшы час помніцца толькі асобнымі абрыўкамі, але той ранні эпізод урэзаўся ў памяць, мабыць, назаўсёды. Досыць прасторная чатырохкутняя паляна паміж маладога сасняку ў Ляйтарках, ужо невысокае, над лесам, але яркае і цёплае вераснёўскае сонца, яшчэ нядоўгі, не густы цень ад лесу, па сонечным пол і мой бацька ідзе за плугам і канём, дзядзька Антон падымае, падтрасае і завязвае мяхі, якіх процьма ўжо, бабуля Зося, мая маці, Антонава жонка і Анелька выбіраюць, як у нас кажуць, картофлю, а мы з Яняй, босыя, скачам праз агонь, што дагарае і дзе пячэцца бульба, і вось я спатыкаюся і ўлятаю нагамі ў прысак. У галаве, у вачах — маланка, у нагах — пякельны жар. Я, мабыць, нечалавеча лямантую, бо ўсе на полі раптам выпростваюцца і сюды першая кідаецца, таксама лямантуючы, маці... І ўсё... Далей — цемра... Як мяне выхапілі з прысаку, як я выў і роў начамі, як і чым мяне лячылі, ужо не помню, ведаю толькі з пазнейшых матчыных расказаў.

Яна апавядала, што я не раз і не два паддаваў ёй бяды і гора, рана пасівела яна не толькі ад вайны, але і з-за мяне, свайго першынца. Яна не заўсёды магла быць пры нас, у доме і пры дзецях, мусіла пакідаць нас адных, а мне даручаць быць нянькай, дык вось аднойчы, успамінала яна, я ў гадоў чатыры сцягнуў з сябе, шпурнуў у студню сваю апратку (улетку я амаль да школы бегаў толькі ў кашульцы), пагойсаў голы, а потым чамусьці залез да сабакі ў будку і

сцюцюрыўся каля ягонага боку. Маці, убачыўшы мае адзенне ў студні, вар'яцела ад жаху, бацька вылоўліваў мяне з вады «кошкай» і бугром, затым яны паднялі на ногі ўвесь Амшарок, і толькі нехта з суседзяў, убачыўшы незвычайны спакой нашага сабакі ў будцы, падказаў зазірнуць туды...

...Над намі ў Амшарку заўсёды было шмат неба — высокага, блакітнага альбо з кучмамі белых воблакаў, што часамі здаваліся мне галовамі веліканаў, статкам кароў ці коньмі, з мноствам святла, яркасці, гарачыні, ад чаго мігцела-мроілася далеч, усё тамліва млела, а таксама было нямала і іншага неба, калі на ім неяк незаўважна ўзнікала, як болька, цёмная плямка, набухала, патроху змрачнела, а калі перарастала ў сіне — чорную хмару, дык падавала зямлі голас спачатку далёкімі і невялікімі бліскаўкамі, глухім вуркатаннем, а пасля, зацягнуўшы сонца, увесь купал і абсоўваючыся на небасхіле, смаліла яркімі маланкамі, ляскала перуном і ліла як з вядра, пасля чаго ўсё свяжэла і дыхала парнасцю, калі люба было гойсаць па лужынах басанож, бачачы і не зважаючы ўжо, што ўгары ўсё яшчэ замурзанае, але пагрозная, страшная хмара папаўзла ўжо ўбок, і там цяпер чорна, бліскаўкі і глухі гром, там цяпер тое, што нядаўна было тут. Яго, неба, і ўвосень было нямала, хоць яно тады часта было нізкае, шэрае альбо з зусім апушчанымі дымнымі воблакамі, што плылі ледзь не па самым версе Шабуневага лесу, дзень за днём лілі і лілі, але рана-позна непагадзь спынялася і зноў заяўлялася сонца, блакіт, цяпло, хоць ужо і скупое. А зімняе, пры снезе, пры завірухах і завеях дзённае і блакітнае, пры беламатавых воблаках і пры мігценні незлічоных зорак начное неба, калі ты выпадкова ці па нейкай патрэбе выйдзеш на сцюдзёны двор, запынішся, сузіраеш усё гэта быццам нерэальнае, казачнае — тое, што табе нібы сніцца і калі ты, бадай, несвядома абхопліваеш далоньмі, пальцамі шчокі і скроні: ты бачыш гэта ці не, ты ёсць або цябе няма?! Пачынаеш разумець: вельмі ж вялікі, зменны і ў той жа час зусім пастаянны свет, каб ты ў чым-небудзь як след разабраўся, хоць і маеш добрыя вочы, вушы, а з ім, здаецца, нармальны розум ды душу, што павінны ўсё гэта, зямное і нябеснае, успрыняць!

Як казаў, было, як мне тады бачылася, і бязмежнае мора поля, з якога год за годам паволі знікаў снег, на якім чарнеліся праталіны, а над імі ў жмуркай шэра-блакітнай вышыні радасна абспеўвалі свае гнёзды жаўрукі, паволі адкрываліся, цешылі вока загоны зялёненькага жыта, а на шэрым і прыплеснелым каля старой травы полі выскаквала рознае жоўтае ці чырванаватае ад холаду раслінне, а затым паволі набіралася зеляноты, а каля дарог і на паплавах, як то-

лькі прыгравала сонца, удываньвалі ўсё дзьмухаўцы, пасля зазяленьваліся астатняя збажына, загоны бульбы, а пазней, за сенакоснай часінаю, пачынала палавець жыта, і было люба пазіраць, як па ім бягуць то цень ад воблакаў, святло, то хвалі ад ветру, калі ты, захоплены і ўражаны, стаіш, назіраеш ды выдумляеш сам сабе: можа, якраз цяпер бачыш невядомыя табе мора ці акіян, па якіх плылі некаторыя нашы хутаранцы, стоячы каля поручня і назіраючы, як плешча, а то бушуе за караблём вада, ды нямеючы душой ад таго, што ў гэтай вады такая тоўшч, што ніхто не дасягне яе дна... У канцы лета з году ў год поле то залацілася, рыжэла, шарэла, мясцінамі, калі былі дажджы, ускідвалася маладой зеленню, то ўвосень рабілася непрытульнае, то зімой пакрывалася вялізнай белай коўдраю — тады, куды ні зірні, адбірала вочы бель, і было дзіўна, куды дзеліся полчышчы чмялёў, пчол, жучкоў, konікаў, мух, якіх было безліч да гэтага, дык таму, можа, было асабліва цікава, чулліва назіраць, як па бялюткай роўнядзі паволі, але настойліва імкнецца да сваёй мэты адзінокая постаць з кайстрай за плячыма альбо, пераадольваючы глыбокі снег, лапоча, цягне конік сані з сенам ці дровамі... Усё з году ў год, але ўсё нейк нова, свежа і нечакана...

...Трывожна-радаснае чаканне ў хаце, калі і як ацеліцца наша карова, скажам, тая ж любіміца мая Guralька, шчырая ўцеха, калі мы, дзеці, убачым яе цялятка (здаралася, яго, слабое, але ўжо такое жыццеімклівае, прыгожае, амаль адразу з хлява прыносілі ў цяпло, каб засцерагчы ад марозу, што тады, як помняць старэйшыя, часамі быў вельмі моцны, калоў сцены і куты хат, замуроўваў вокны, за ноч заснежваў шчыліны паміж дзвярыма і вушакамі ды ўбельваў на дзвярах усе гайкі). Мы любілі тую Гуральку не толькі за цялятак, малодзіва, малако, смятану і тварог, больш — за нашу моц, веру і надзею. Калі яна, бедная, праглынула ржавыя цвічкі, пала на ногі, дык маці і мы, дзятва, плакалі па ёй, як па чалавеку. Між іншым, тады, улетку, вось што праявілі нашы хутары і Янковічы: паколькі гэтая страта ўзрушыла многіх, дык шчырнікі выкупілі ў нас амаль усё мяса і па такой цане, каб мы змаглі набыць новую карову-карміліцу. Я той нашай Гуральцы стаўлю помнік у сваіх думках: калі мне было гадоў пяць і я быў... не, не падпаскам, а яшчэ падпаскавічам, калі нашмат старэйшыя пастухі прымлелі на сонцы і заснулі, калі да нашага статку падкраўся воўк і хацеў схапіць авечку (на хутары гаварылі, што воўк мог накінуцца і звалачы мяне, бо я, малы дурань, пашлэпаў да яго: «Цюця! Цюця!»), дык наша Гуралька, тады яшчэ маладая, адна з усіх кароў у статку схамянулася, гнеўна замычэла, наставіла вострыя рогі і паімчалася на адзінокага лютага драпежніка.

Яе не было суткі, усе мы палічылі, што яна загінула ад воўчых клыкоў, але яна вярнулася, упала на ногі каля нашай сядзібы і з яе вялікіх чорных выразна-чуллівых вачэй, паверце, паплылі слёзы. Мы, маці і дзеці, абняўшы яе за шыю, плакалі разам з ёю... Мой бацька, здаецца, быў бясслёзны чалавек, мог і можа без шкадобы рэзаць і калоць жыўніну, але Гуральку,калі яна даходзіла ад іржавых цвікоў, сам не дарэзваў касой, папрасіў гэта зрабіць суседа...

...Мы, дзеці, радаваліся не толькі таму, што дае карысць. Мы цешыліся і ад таго, што ўжо можна пачапіць змайстраваныя з бацькам шпакоўні на бярозы, што каля іх ужо заявіліся чарнаватыя свістуны, падбіраюць і носяць у аблюбаваныя домікі сухую траву і апалае з курэй пер'е, любаваліся, калі шпачыха сядзела на яйках, а яе гаспадар радасна свістаў побач. Мы з нейкім незвычайным натхненнем ганяліся за майскімі жукамі (хрушчамі), чулі жабіныя спевы ў нашай копанцы, узбуджаліся ад кацянят, якія нечакана выпаўзалі са свайго тайнага сховішча і пачыналі, жаласна мяўкаючы, поўзаць-тыкацца па нашым двары (якраз у такую часіну наш бацька сачыў, якое кацяня кошка падбярэ першым і схавае, тое ён пакідаў, а астатніх... Я і сам, варвар, пазней некаторых лішніх кацянят, ездзячы на веласіпедзе ў школу ў суседнюю вёску, звозіў у торбе ці на згубу, ці на чуласць іншых людзей). Было, нідзе не дзенешся, і такое, і яшчэ іншае...

...Радасць, па-сённяшняму простая, звычайная, а часамі дзіўная, а то і дураслівая, была бязмежная:

язда-пацешка верхам на рахманым парсюку альбо на дурным то дурным, але непаслухмяным, па-свойму фанабэрыстым баране, першая спроба ўзабрацца з плота на спіну каня і, не адчуўшы пад сабой звыклай зямлі, паехаць, ледзь не заплюшчваючы вочы ад галавакружнай вышыні, ці, як здавалася, ад шалёнага бегу;

узрушэнне, калі здалёку пачуецца самалётны гул, а пасля пакажацца ён і сам, зусім невялікі, як бусел. Бяжыш пад ім, пасля ўслед, махаеш рукою і галёкаеш на ўсе грудзі. Мара на доўгія гады стаць лётчыкам;

ажыўленасць, калі ідзеш з бацькам у лес рэзаць дровы ці збіраць грыбы з сабакам, які вар'яцее ад волі, утрапёна носіцца то туды, то сюды, падбягае, ускоквае на заднія лапы, а пярэднімі лёгка штурхае ў грудзі, ліжа табе твар. Вялікай навіной выпадковая сустрэча з вожыкам, зайцам альбо з лісой, асцярожлівасць (нават і ў бацькі), кал і наткнецца на лася ці на дзікаву сям'ю;

здзіўленне, што перарастае ў вусціш, ад таго, што ў адну марозную светлую ад яркага месяца ноч па недалёкай ад нас пагонцы каля Масавічоў спакойна і смела ішла з Падзеры да вёскі агромністая

ваўчыная зграя, за якой мы з бацькам назіралі з нашага двара. Вусціш быў таму, што заціхлі, анямелі ўсе сабакі як на хутарах, так і ў вёсцы. Тая зграя, як мы бачылі, зусім крыху не дайшоўшы да вёскі, па яе дарозе-сцежцы непарушна падалася ў Налібацкі лес, у пушчу. Леснікі пасля казалі, што тую агромністую, але паслухмяную, ціхую зграю вяла мацёрая ваўчыца;

вялікая ахвота і прага схадзіць з маці альбо ўжо аднаму ў вёску, дзе шмат блізкіх адна ад адной сяліб, дзе дарогабрукаванка, па якой ездзяць не толькі на калёсах, але час ад часу і на матацыкле ці на машыне, дзе шмат люду, дзяцей, дзе ёсць магазін, а там можна купіць не толькі каністру газы, але і шмат чаго іншага, скажам, цукеракпадушачак і лікёравых пернікаў (там я па Мішкавым падʼюшчванні ў школьныя ўжо гады купляў раз-другі за ўкрадзеныя дома яйкі цыгарэты «Бокс» — «Будет Обратно Карточная Система», як аднойчы з жартам сказаў у нашай хаце за чаркай госць-упаўнаважаны з Івянца). У вёску я калі-нікалі з маладымі хутарскімі хлопцамі і дзяўчатамі хадзіў вечарамі ў кіно, купляючы ў кіншчыка білет-квіток за пяць капеек альбо за яйка (той жа Мішка білета ніколі не купляў, зашываўся за шырмаю ў які цёмны куток ці глядзеў разам з іншымі безбілетнікамі праз акно).

Урачысты быў паход пешшу ці паездка на веласіпедзе за вёрст сем па стаўбцоўскай дарозе ў Дзераўную — самую вялікую вёску нашых мясцін. Дзераўная ўражвала сваім вялікім памерам, у ёй было столькі вуліц і вулак, што я баяўся там заблудзіцца, а да ўсяго там былі клуб, школадзесяцігодка, амбулаторыя, аптэка, бальніца, пошта, самыя розныя магазіны, а пазней у цэнтры, на перакрыжаванні вуліц, заявілася і сталоўка, было шмат шыкоўных дамоў, люду і, як тады мне здавалася, як нідзе, нямала варожых да іншых вяскоўцаў падлеткаў. Там трэба было заўсёды трымаць вуха востра, пачнеш лічыць варон — тыя тут жа штосьці ўкрадуць з твайго веласіпеда (у мяне найчасцей у Дзераўной знікала з веласіпеда помпа).

Ды найярчэйшая асаблівасць Дзераўной — яе даўні, з 1590 года, дагляны касцёл. Цяпер я ведаю, што ён — кальвінскі збор, перабудаваны, помнік готыкі і рэнесансу, а тады ён мяне проста ашаламляў і сваёй тоўстай і высокай, не дастаць рукой, каменнай агароджаю, і сваім агромністым, як уяўлялася, ажно да самага неба, гмахам, вялікімі белымі сценамі з вузкімі, паўкруглымі ўверсе вокнамі, з вострай вежаю, на якой быў вялікі бліскучы крыж. Як я чуў, якраз тады яго, гэты касцёл, улады хацелі зачыніць, зрабіць з яго склад ці нават узарваць, як учынілі такое ў іншых вёсках, але дзераўнянцы з іншымі сваімі парафіянамі пачалі выстаўляць каля

касцёла сваю варту, не падпускаць да яго начальства і салдат з узрыўчаткай, напісалі ліст, сабралі пад яго не адну тысячу подпісаў і паслалі з ім дэлегацыю ў Мінск ажно ў «самое Цэка». Карацей, касцёл адстаялі, і я ў ім адбываў першую споведзь, пасвячаўся ў каталікі.

Чуючы, што такое касцёл, ксёндз, я, калі не сцінаўся, дык напружваўся, з хваляваннем, а то і са страхам мінаў жалезную брамку, заходзіў у храм, дзе спачатку былі толькі шэрыя сцены і раскрыжаваны, з апушчанай галавою і жалобна-велічны Езус Хрыстус, цалаваў пальцы яго ног, пасля ўкленчваў перад дзвярыма, жагнаўся і заходзіў усярэдзіну, дзе адбіралі вочы яркія карціны, статуі, а ў святочныя дні і люстры і дзе ажно кружыла галаву ад высознага купал у,, дзе, здаецца, было ўжо неба і там недзе строга назіраў за табой Ён, што кіруе ўсім светам. Дзіўна быў уваабраны ксёндз, які то чараваў за алтаром, то, жагнаючыся раз за разам і паварочваючыся то сюды, то туды, штосьці гаварыў на малазразумелай польскай ці зусім незразумелай, як казала маці, на лацінскай мове, і зусім нечакана на ўвесь запоўнены людзьмі храм разліваўся арган. Незвычайныя то былі гукі: ад іх, здавалася, недзе высока грыміць грозны гром, што набліжаецца ці аддаляецца, ад іх услед за громам плыла, зачароўвала мяккая, нябесная, нават райская мелодыя, што хораша ўзвышала душу... Каб першы раз паспавядацца і прычасціцца, я не адзін тыдзень вучыў з маці катэхізіс і пацеры. Мы абое перажывалі, каб не асаромецца перад ксяндзом, адказаць на ўсё, пра што ён запытае; я, бадай, ні ў чым не заблытаўся, на ўсё выстракатаў завучаным, дык дамоў вяртаўся шчаслівы: і экзамен вытрымаў, і іду вось упершыню ў новенькіх сандаліках, шкарпэтачках, у кароткіх портачках і беленысай кашульцы, ажно гордыя дзераўнянды пазіраюць на мяне і на маю невысокую, але зграбную і прыгожую чарнявую мамусю з захапленнем;

нецярплівае чаканне хрэсьбін альбо чыйгосьці вяселля на хутары. Так хацелася ўсё-усё — сваты, змовіны і запоіны, дзявочнік, вясельны картэж, дзе ўпрыгожаныя коні, дугі, хораша ўвабраныя людзі, паводзіны сватоў і маладых, жарты, гульні і танцы — бачыць на свае вочы і чуць на свае вушы. Не ўсім хлопцам і дзяўчатам, маладым мужчынам і кабетам падабалася, што мы, дзеці, такія на ўсё зыркія і чуйныя, што пасля будзем расказваць пра ўсё ўбачанае і пачутае дома, але... А калі нам траплялі цукеркі, кавалак пірага, дык шчасцю нашаму не было межаў! Альбо, наадварот — хвіліны смутку, жалобы і велічнай урачыстасці, калі хтосьці паміраў, ляжаў у хаце ў чорнай з белым прасцірадлам труне хораша ўвабраны, але ўжо зусім не падобны на ранейшага сваёй жаўцізною, запалымі вачыма і

выцягнутым носам, калі яго адспеўвалі, плакалі па ім, а пасля, паклаўшы труну на калёсы з лапкамі елак, везлі да магілы ў Налібакі, ціха рухаючыся жалобнай працэсіяй пагонкай, а затым Янковічамі, а там, каля глыбокай яміны з горкамі жоўтага пяску абапал яе, родныя апошні раз развітваліся з нябожчыкам, забівалі вечка, і чалавек назаўсёды знікаў. Толькі пасля ўсе нямала яшчэ ўспаміналі, як ён паміраў, што каму сказаў перад смерцю, а па ёй, лёгкай альбо цяжкой, меркавалі, як Бог прымаў чалавека;

незвычайны пах купленых мне не толькі адзення і абутку, але і буквара, сшыткаў, алоўкаў. Хваляванне, а то і нейкі нечаканы страх, як перад усім новым, за дзень да таго, як трэба было ісці ў першы клас. Было адчуванне, нібы штосьці ў мяне ўжо закончылася, пачынаецца новае жыццё, але якім яно будзе, не ведаў;

мая першая, дзіцячая, закаханасць. Не, не ў аднакласніцу альбо старэйшую вучаніцу. У нашу маладзенькую і вельмі прыгожую настаўніцу. І мая першая, дзіцячая, рэўнасць, калі я ^днойчы выпадкова, знянацку ўскочыўшы ў настаўніцкую, згледзеў, як яе там туліў муж...

Смутак, маркота былі ў мяне ў маленстве тады, калі мяне за што-небудзь каралі, ці калі я, не могучы зімой выйсці на двор, сядзеў каля акна на коленцах на лаве і пазіраў у яго — з чыстымі шклінамі ці праз прадзьмуханае, вылізанае языком празрыстае колца сярод замаразі, намагаючыся ўбачыць, адчуць, што цяпер робіцца-дзеецца ў Янковічах, у Дзераўной, у вялікім свеце, дзе, канечне ж, не ўсе так сіднем сядзяць у хаце, як я. Адзін пакой, то з долу — на печ, то з печы — на дол, вось і ўвесь мой прастор! Але тыя сум і маркота былі не нудныя і не адчайныя, у іх была свая вабнасць, нават, калі хочаце, паэзія.

Ярка помню: аднойчы дзядзька Антон ці не ў першы год калгасаў у нашых мясцінах, а гэта значыць, на пачатку пяцідзесятых гадоў, ідучы з канюшні, дзе быў конюхам, зайшоў па дарозе дадому да нас і, бачачы мяне, яшчэ малога, каля акна, спачатку падміргнуў, увесь засвяціўся на чырвоным ад маразу твары, пастукаў костачкай пальца па шыбіне, а пасля, Хоць і чуў я глухавата праз шкло, заваражыў радкамі:

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...

— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла,—

Можа б, ты на рэчку
Пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
Зараз жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

Не толькі я, а можа, і сам дзядзька не ведаў, што гэта напісаў наш не вельмі далёкі зямляк Якуб Колас, ды гэтыя радкі глыбока кранулі маю душу і тым, што яны сугучныя майму настрою і напісаныя «па-тутэйшаму», па-нашаму, што толькі пазней уявіцца, усвядоміцца як беларускае: на хутарах і ў вёсцы ўсе лічылі сябе палякамі, хоць ва ўсіх не было ніякіх польскіх карэнняў, а чытаць і крыху шаваліць па-польску маглі толькі тыя, хто за палякамі хадзіў у іхнюю школу (мая маці тады скончыла чатыры класы, а бацька нават сем класаў).

...Праз гадоў пяць у калгасе, калі многія пачалі задыхацца, што ў іх так мала зямлі, цяжка без свайго каня, вупражу, плуга і бараны і што гэтак цвёрда вызначаюць, колькі трымаць для сябе кароў, свіней і авечак, калі і колькі мець для сябе сена (бывала, мы, дзеці, нацягаем дзяружкамі, насушым, можа, і стог бярозкі, свірэпы ці і ўкошанага на межах ці ў лесе на палянах, а па загадзе старшыні прыедуць і ўсё гэта, ускінуўшы на калёсы, забяруць: маўляў, нават не думай паводзіцца «самочинно», цяпер галоўны гаспадар тут — старшыня калгаса, які доўга не мог разабрацца, дзе пшаніца, а дзе ячмень),— дык вось многія хутаранцы ўбачылі: вялікай сям'ёю цяпер не выжывеш. Сем'і, хутары пачалі абязлюджвацца, і найперш іх пакідалі маладыя, здаровыя хлопцы і дзяўчаты. Яны раз'язджаліся хто куды. З усіх хутаранцаў толькі лічаныя засталіся аднаасобнікамі, але старшыня так для іх усё абрэзаў ды так іх прыціснуў (лізнула карова што-небудзь калгаснае — штраф, выйшла курыца за гаспадарскі плот — зноў жа плаці за гэта!), што хутка і яны здаліся, пайшлі ў калгас, увабраліся ў гумоўцы і фуфайкі, пачалі жыць па-новаму, калгаснічаць, а калі ўліліся з хутароў у вёску, змяшаліся там, парушаючы ўсталяваны лад, дык маладзейшыя ўжо не імкнуліся надта ж шчыраваць, ліць пот, а некаторыя з цягам часу навучыліся красці і распіліся. Не буду маніць, я, пятнаццацігадовы, лёгка пакідаў хутар, вельмі хацеў жыць у вёсцы (мы перабраліся на дзедаў пляц, які дагэтуль ніхто не абжываў, шануючы наша права на сваю вотчыну), а вось бацька, везучы на калёсах наш апошні скарб, быў смутны, а маці шчыра плакала. Бедная, яна пажыве ў вёсцы толькі крыху больш дзесяці гадоў і, сустрэўшы ў бальніцы сваё паўстагоддзе ў несвядомым, інсультным

стане, пойдзе на той свет. Але вось дзіва: калі мяне паклікалі адтуль, дзе я ўжо настаўнічаў, і калі я заявіўся, падаў голас, дык у маці заварушыліся бровы, а пасля яна на міг адплюшчыла вочы і выдыхнула: «Іра...» Яна назвала імя самай малодшай сваёй дачкі, маёй сястры, якая тады яшчэ хадзіла ў пачатковую школу. Гэта быў наказ мне, старэйшаму ў сям'і, ужо жанатаму, дагледзець, вывесці ў людзі тую, што ў такім юным узросце застаецца без маці... Яна, маці, снілася, церабіла мяне ў снах да таго часу, пакуль наша Іра не паступіла ў інстытут...

... Я тады, на хутары, усё гэта, пра што тут пішу, адчуваў, бачыў чуў і перажываў, але, думаю, вельмі не моршчыў пра ўсё лоб, убіраў усё тое ў сябе, як дрэўца ўбірае ўсё ад зямлі і неба, каб мець лісце, кветкі і плады, хоць, канечне, многім мяне аблададжвалі бацькі, радня, суседзі, сябры, дык я пад канец свайго хутаранства нават вызначыўся. Мяне за тое, што шмат чытаю, у тым-сім разбіраюся, умею гаварыць з пажылымі людзьмі, пачалі падхвальваць на хутарах і ў вёсцы. Праўда, гаварылі добрае слова не толькі пра маю персону, а дадавалі да майго імені тое, што я «Вацікаў», гэта значыць Вацлаваў, а то і ўвогуле прамаўлялі так: «Вацікаў старэйшы хлопец». Значыць, пакуль што, да пары і часу, пашану, гонар выяўлялі майму бацьку: гэта яго заслуга, што ягоныя дзеці неблагія. Здаецца, тады ўсе прарочылі, што буду я настаўнікам, што «буду вучыць не малых, а старэйшых дзяцей». Зрэшты, так яно і адбылося, па прафесіі я — настаўнік-моваввед, а па маіх слядах пайшлі дзве малодшыя сястры...

...Урэшце ўжо незадоўга перад ад'ездам з хутара адбылася і яшчэ адна падзея — для кагосьці, бадай, звычайны, просты выпадак, але для мяне, таго, іменна з'ява.

Пятнаццаць гадоў — дзіўны ўзрост: ты ўжо не «малы», пакінуў дзіцячыя гулі, узвысіўся над малечай, але ты яшчэ і не «вялікі», сталыя яшчэ не толькі не дазваляюць курыць, піць, але і ўсё чуць ды гаварыць. Бывала, якія не адкрытыя, а то і проста-грубаватыя мужчыны, скажам, на сенакосе, калі ў вольную хвіліну ляжаць у цяньку, кураць і радыя пасля доўгага маўчання пагаварыць, з кагосьці пажартаваць, нават пакпіць, але калі ты побач, дык хтосьці абавязкова кагосьці і супыніць: «Ды не плявузгай ты абы-што: дзіця ж побач!» — «Ды гэтае дзіця,— быў адказ,— больш ужо за нас з табой ведае!» — «Усё роўна прытрымай доўгі язык». Жартаўнік мусіў стрымлівацца, але свая адукацыя калі не ад сталых мужчын, дык ад старэйшых на гады трычатыры юнакоў, якія блізка ўжо дачыніліся да дарослага свету, хадзілі да дзяўчат, а некаторыя нават паспелі і ажаніцца, усё ж была... Ды лепш, больш ужо сваё вока бачыла, а вуха чула... І глыбей адчуваліся

чыесьці нібы патайныя, але ўсё ж заўважныя позіркі і намёкі, нібы выпадковыя прытульванні ці шэпты на вуха, усмешкі альбо слёзы...

Дык вось улетку, незадоўга перад пярэбарамі ў вёску, прыехала дамоў з горада на адпачынак Грыгарцэвічава малодшая дачка, Тэця. І не адна, а з сяброўкай-гараджанкай. На хутарах і ў вёсцы адпачынак — з лежатнёй, са сном — у той час мог быць толькі ў нядзелю ці ў свята; каб, скажам, проста так у будні дзень ляжалі паўголыя і загаралі на сонцы жанчына ці дзяўчына, мужчына альбо хлопец — пра гэта тады не магло быць і гаворкі. Ды ўжо новае ішло і на хутар: як бачыў я, Тэця і яе сяброўка і ў будні дзень ляжалі воддаль ад сваёй хаты на поплаўчыку на дзяружках толькі ў купальніках. Калі я, маладзейшы за іх на гады чатыры, а значыць для іх, ужо складзеных дзяўчат, яшчэ хлапчук (гэта пасля дваццаці і асабліва пасля трыццаці — сарака такая розніца ў гадах зусім нязначная) падыходзіў да іх, яны зусім не бянтэжыліся, не хапалі і не накідалі на сябе халаты, як, да слова, чым хутчэй выскоквалі з рэчкі, хавалі адзеннем сваё цела нашы дзяўчаты і маладыя жанчыны, каб яго не агледзела чужое мужчынскае вока (мая маці, калі мылася ў начоўках, завешвала вокны дзяружкамі, а мяне апошнія гады выправаджвала на двор, каб і я ўжо не бачыў яе распранутую). Я адчуваў: для Тэці і яе сяброўкі я — яшчэ малеча, нібы коцік ці шчанючок, з якім міла пазабаўляцца, самалюбна перажываў, але чамусьці вельмі цягнуўся да іх, хацеў чуць, што і як гавораць яны пра горад, дзе я яшчэ ніколі не быў. «Цягнік», «трамвай», «тралейбус», «кінатэатр», «танцпляцоўка», «марожанае», «завод», «інжынер», «майстра», «бакалея», «парфюмерыя» — гэтыя і іншыя словы былі для мяне не толькі зусім новыя, але і невядомыя, загадкавыя, і я хацеў трапіць туды, у Мінск, каб убачыць усё гэта, хоць і асцерагаўся горада: там, казалі, шмат жулікаў і злодзеяў, якія вялікія спецы валізку свіснуць альбо брытвачкай кішэню прарэзаць і грошы выцягнуць.

У тпй памятны дзень я ішоў босы па знаёмай сцяжыне сярод высокага, роўнага з маёй галавою жыта і незаўважна наблізіўся да поплаўчыка Грыгарцэвічаў і раптоўна штосьці нібы штурхнула мне ў грудзіну і нават затрымала: праз радзейшую ўжо сцяну жыта я ўбачыў, што ў вялізнай балеі стаіць Тэціна сяброўка... зусім голая-голенькая. Яна разпораз нагіналася, чэрпала прыгаршчамі, мабыць, нагрэтую ўжо на сонцы ваду, пляскала яе на сябе, пацепвала плячыма, смяялася, цешачыся як дзіця.

Ды не, гэта было ўжо не дзіця. Раней мне выпадала бачыць распранутых дзяўчат, маладых жанчын у хаце, каля рэчкі, дык цяпер тое, некалі ўбачанае і нібы забытае, успыхнула ўва мне, і я ўпершыню

зірнуў на дзявочае цела са здзіўленнем і ўзрушэннем: Божа, якая краса! Усё адразу кінулася мне ў вочы, ашаламіла: высакаваты рост Тэцінай сяброўкі, яе спрытныя, з коратка пастрыжанымі і завітымі русявымі валасамі галава, даўгаватая і танкаватая зграбная шыя, не шырокія і не дужыя, худаватыя, але спрытныя плечы, за якімі былі вабны выгіб, тонкая паясніца і хораша акругленыя белыя клубы, ладныя даўгаватыя ногі, а наперадзе яе хораша аздаблялі белыя, з паўсіневатым адлівам пад пахамі, круглаватыя і буйныя грудзі з натапырчанымі смочкамі колеру недаспелых суніц, падцягнуты, з кідкім для вока пупком, а таксама тугія моцныя сцёгны. Ад такога незвычайнага жаночага хараства ў мяне ажно пацямнела ў вачах, я не мог больш таіцца і сачыць за ім, лічачы гэта сорамам і грэхам, паспешна адступіў і паціху пакрочыў дадому, каб убачанага ўжо не толькі не забыць ніколі, але пазней жыць пад яго ўражаннем.

Я доўга сумаваў, калі Тэця і яе сяброўка-красуня наехала ніяк не могучы разабрацца, адкуль і чаму мой той лёгкі, але ў той жа час і глыбокі смутак, з-за чаго ён так трывожна будзіць уяўленне і вярэдзіць таемствам душу. Больш яе, Тэцінай сяброўкі, я ніколі не бачыў, нават забыўся, як яе зваць, але яна тая, асвечаная, а то і азалочаная сонцам, мокрая, вясёлая ад сваёй маладосці і красы, не толькі часта ўспаміналася і ўспамінаецца, але, мабыць, паспрыяла мне ў далейшым з пачцівасцю адносіцца да жанчын, а да любімай жанчыны — пяшчотна, а да яе цела — з хваляваннем, здзіўленнем і зачараванасцю як да цуду, як да таго, што ўзвышае ўсё ў мужчыне. І яна, тая незнаёмка, падштурхнула мяне напісаць кнігу «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын», дзе я намагаўся вымавіць свой хваласпеў найперш той жанчыне, якую кахаюць і якая сама кахае...

...Сярэднюю школу ў Дзераўной я заканчваў, калі мы перабраліся ўжо з хутара і жылі ў вёсцы, праўда, толькі яшчэ ў адной абладжанай як след палавіне вялікай новай хаты, але расказ пра той і пазнейшы час для іншай гаворкі.

1995

## СТАСЯ І АКСАНА,
## або Смутак ад першага кахання

У іх, на хутары, дзеці змалку і неяк зусім незаўважна прывучаліся працаваць, па-гаспадарску мысліць і гэтак рабіць усё. Што да яго, Яся, дык ён, бадай, не помніць, калі, у якім узросце пачаў спаўняць тое, што яму даручалі: выганяць курэй з гародчыка, пільнаваць, асцерагаць квахтуху з малечай ад варон і ястрабаў (на куранят і

гусянят загараўся паляваць і кожны новы іхні кот, але маці пасвойму кожны раз адвучвала ад гэтага: як толькі вылупяцца з яйкаў маленькія жоўценькія птушаняткі, яна лавіла, падносіла яго, малога, але спрытнага драпежніка, да куранят, паказвала іх і хлістала дубчыкам: глядзі, бач, але не чапай! І той нібы ўсё разумеў, не падыходзіў блізка да куранят. Да слова, і Ясь так адвучваў не аднаго ката лазіць па бярозе да шпакоўні: падносіў паляваку, які шукае лёгкай здабычы, да дрэва і сцёбаў таго якой хлабзінаю — зыркай на старых шпакоў, чуй малады піск іншых шпачанят, але не лезь да іх і не сунь кіпцёрыстую лапу праз акенца ў шпакоўню!). Цяжка ўспомніць, калі ён, Ясік, як тады яго называлі, пачаў і падвышацца на службе — прыганяць дамоў гусей з сажалкі, пасвіць на выганчыку мацёру з парасятамі, карміць, паіць іхніх авечак, каровы, а пазней і каня, калі трапіў у падпаскі, для чаго яму сплялі новыя лапцікі і пашылі спецыяльную торбачку, калі пачаў памагаць бацьку рэзаць дровы і кавальнічаць (хадзіць на Каменную гару па жоўты пясок для формаў, раздзімаць мяхі, зубіць сярпы ды круціць тачыла) альбо калі навучыўся памагаць маці абладжваць грады ці жаць, а затым трымаць у руках сякеру ды касу. Усё гэта, як запомнілася, выходзіла неяк само па сабе, як і тое, што ён, старэйшы ў сям'і, у меру свайго ўзросту і ўмення быў апекуном-выхавальнікам маладзейшых сястры, двух братоў і яшчэ адной сястры (выхавацель з яго быў і такі, што ён, калі надакучвала прыбіраць за самым меншым, хто, скажам, і ўлетку не прасіўся па патрэбе на двор і, прысеўшы ўпотай за стаяком альбо пад ложкам, ціхенька скручваў там грушу, дык тады выхоўваў адмыслова — мог змусіць таго шкодніка загрэбці яе, тую грушу, сваімі рукамі і пад адчайны плач вынесці яе з хаты за сенцы. Ды і яшчэ нямала розных кар і экзекуцый ужываў ён — выхавальнік, як цяпер разумее, зусім не злаўмысна, а па нейкім сваім, дзіцячым, праве, дзе і любоў ды ласка, але і жорсткасць таксама, што маці, бывала, бачачы і чуючы, як яны на печы счэпліваюцца нават за тое, дзе, на якім месцы пакласці там лахманы альбо карчажку, часамі вельмі засмучалася: «Чаму вы, дзеці, такія? Вы ж родныя браты і сестры! Вы павінны не грызціся, як кот з сабакам, а шанаваць, любіць адно аднаго!»

Было... Самага ўсякага... Як і нямала светлых, радасных і шчаслівых хвілін, бо выпадала шмат і розных забаў, гуляў і ўцех. Усяго, як бы ні хацеў, не ўспомніш, бо іх было нямала не толькі кожны год, месяц ці тыдзень, але нават кожны дзень, а ўсё тое неяк хораша адклалася не столькі ў памяці, колькі на душы і нічым не абцяжарвае яе, дзякуй Богу, не гняце і не шчыміць, як у некаторых іншых — хворых, гаротных і няшчасных, хто, на жаль, і сваё маленства

ўспамінае са скрухаю. Калі ім, шасцярым дзецям сваіх бацькоў, цяпер зрэдку ўдаецца сабрацца разам ці хоць бы траім-чатыром, дык яны не могуць не ўспомніць той час, калі жылі на хутары (самая малодшая іхняя сястра нарадзілася ўжо ў вёсцы, калі ён, Ясік, хадзіў у дзесяты клас і быў ужо няштатным карэспандэнтам не толькі раённай, але і адной з рэспубліканскіх газет, меў такія-сякія свае грошы за тое, што друкаваў там штосьці), і кожны з іх — Ясь-літаратар, бухгалтар, трактарыст, рабочы і дзве настаўніцы — успамінае сваё, тое, што найбольш яму запомнится. Не варта таіцца, бывае, маладзейшыя нагадаюць Ясю і ягоныя розныя тыя «выхаваўчыя ўрокі», але паколькі цяпер ужо ўсе таты і мамы (а Ясь са старэйшай з сясцёр дык ужо дзед і баба), то ніхто ні ў чым яго сур'ёзна не папікае. «Так трэба было»,— усміхаюцца, а іхнія швагры і швагеркі, слухаючы гэтыя «мемуары», увачавідкі цепляцца вачыма, усмешкамі і таксама ўспамінаюць сваё тое, юнае: «І ў нас такое было!», і яны расказваюць, гамоняць, цешацца ўсім, што ўжо мінулася, але не знікла, як некалі ў вольную і вясёлую хвіліну гутарылі пра сваё маладое іхнія бацькі ў іхнім узросце!

Хуткі, а то і імгненны цёк часу, міг чалавечага веку, але і нейкая нязводнасць тых цёку і мігу ў ранейшых і новых пакаленняў, калі штосьці адно заўсёды паўтараецца (праўда, па-свойму) і яднае іх, злучае нябачнымі, але моцнымі ніцямі!

Свет Ясікаў тады не абмяжоўваўся толькі адной іхняй сялібаю: непадалёку на хутары Амшарку былі і іншыя паселішчы. Праўда, выйшла так, што з усіх навакольных хутаранцаў яго бацькі і два матчыныя браты доўгі час былі самыя маладыя сем'яніны, а гэта значыць, што і дзіцячы, юнацкі гурт на Амшарку і на суседніх хутарах быў розны. Яны, Ясік з роднымі і стрыечнымі братамі ды сёстрамі, лічы, усе, апроч старэйшай дачкі дзядзькі Антона, нарадзіліся пасля вайны, а ў іншых многіх сем'ях былі толькі даваенныя дзеці ці яшчэ па аднаму нашчадку, які заявіўся ў Нямеччыне, куды хутары і вёску вывезлі ў блакаду, і з некалькіх дзесяткаў сяліб было зусім мала, пералічыш на пальцах адной рукі, тых сем'яў, дзе пажылаватыя ўжо на той час бацькі, вярнуўшыся з палону дамоў альбо сталага ўжо веку ўдава і ўдавец, што сышліся, асмеліліся папоўніць сваю сям'ю «падскрэбкам».

Некаторых тых, хто нарадзіўся за гадоў дзесяць, нават пяць да вайны, Ясь слаба помніць: яны, ужо не баючыся адлучыцца з дому, адразу пасля вайны ці гуртам у першыя гады калгаса разбрыліся па ўсім свеце: хто падаўся ў бліжэйшыя гарады, у Мінск, а то і ў Данбас, Сібір, Карэлію, а пазней і на цаліну ці ў Польшчу і, на вялікі жаль, амаль усе патроху абрусіфікаваліся ці апалячыліся, а дзеці, унукі іхнія

ўжо, лічы, чужыя янкоўскаму краю людзі, прыязджаюць на радзіму бацькоў і дзядоў як турысты.

Да сваіх стрыечнікаў у Ляйтаркі было хадзіць далекавата ды праз лес, то туды Ясіка доўга аднаго не пускалі, як і ў небліжэйшыя Ляжджа ды Падзеру; з адзінай аднагодкай, далёкай сваячкай Яняй з Раўка ён чамусьці не вельмі ладзіў, дык былі тры самыя блізкія паселішчы, куды ён хадзіў часта, а то часамі і збягаў туды насуперак волі бацькоў, за што (было-было!) не раз «каштаваў» ад бацькі рэменя. Сцежкай па полі (і зімой, і ўлетку) ён шнураваў да бацькавай далекаватай радні (у іх яго, сваядтва, помнілі і помняць не менш чым да сёмага калена), да Грыгарцэвічаў, дзе знаўся з іхнім самым малодшым, Стасікам, які пабачыў свет перад самай вайною. Стась быў калека, меў адну карацейшую і нягнуткую нагу, якую проста валачыў, але ён, як і ягоны бацька, быў не пануры, нават яшчэ больш — гарэзны, па-добраму самалюбны і смелы, дык Ясік, на гадоў шэсць маладзейшы, цягнуўся да яго як да сталейшага, быў ягоным падпаскам, разам з іхнім сабакам па Стасевай камандзе бегаў і адварочваў каровы, а заадно любіў вучыцца ў таго драць сасновае карэнне, рэзаць лазу і плясці кошыкі, рабіць свісцюлькі і стрэлкі, хадзіць разам на Сядзіўную і лавіць таптухай рыбу, майстраваць лыжы і канькі (ён са Стасем, малаадукаваным, але разумным ад прыроды, таварыскім, сябраваў да самай яго смерці). Яшчэ ён, Ясік, быў часта ў Навіцкіх, дзе знаўся з Волесем, Стасевым аднагодкам (гэты Волесь, змалку, як усе ў іх казалі, «урэдны», мацюжнік і садалаз, на нейкае дзіва, маючы большую сілу, часамі проста любіў, цешыўся мучыць яго. Ен енчыў, плакаў, а то і роў ад Волесевых здзекаў, за што бацька не раз лавіў, заціскаў Волеся між ног і хлістаў таго рэменем па мяккім месцы, ад чаго той спачатку прасіўся, таксама енчыў: «Дзядзецка, больш не буду крыўдзіц, цапац вашага Ясіка!», а пасля, калі Ясік па нейкай незразумелай цязе зноў і зноў імкнуўся да Волеся, дык той здзекаваўся яшчэ больш і прыгаворваў: «Калі ты ясцэ (мацюкаўся) сказас пра мяне бацку, то я вусы (вушы) табе абарву! І не толькі вусы!» Ясік ужо не прызнаваўся пра новы гвалт над ім, але, бачачы на ягоных шчоках засохлыя рагі ад слёз, бацька махаў рукой: «Так табе, неслух, і трэба!», а маці прасіла: «Сынок, не хадзі ты да іх! Волесь — урэдны надта, ён табе не сябра, а непрыяцель твой, а іхняя Стася, паненка твая,— карэліца! Ад іх ты вошы наносіш у хату!»).

Стася — самае малодшае гэтых Навіцкіх дзіця, што нарадзілася ў Нямеччыне,— была старэйшая за Ясіка недзе каля трох гадоў, але паколькі яна раз і другі не пераходзіла ў старэйшыя класы, дык разам з ім і «падскрэбкам» Мішкам Паланевічам, блізкім суседам, Ясікавым

аднагодкам, разам хадзіла ў школу, а пазней адстала і ад іх, неяк дабіла вучобу ў пачаткоўцы і далей не падалася вучыцца — ад вясны і да зімы пасвіла хутарскія каровы, узімку глядзела чужое дзіця ў суседняй вёсцы.

Наша галава не ўсё запамінае ці, лепш сказаць, не абцяжарвае чалавека памяццю пра ўсе ўбачаныя, пачутыя і перажытыя драбніцы. Гэта так і трэба, іначай і яна, і чалавек усяго не выцерпелі б, як, бывае, той-сёй не вытрымлівае вялікіх страшных уражанняў і захворвае. Цяпер вось ён, Ясь, часта напружваецца, змушае сваю памяць абудзіцца, падказаць, памагчы зрокава ўявіць, калі ўпершыню спазнаў ён, што ёсць яны, самыя блізкія сябры ягонага маленства: гэтыя смольна чарнявы, шырокі ў плячах, але нізкі, кульгавы Стась, худы, вёрткі і з вачыма, карыя круглікі якіх вельмі неспакойныя, проста блукаюць туды-сюды, Волесь, тоўсценькая Стася і высакаваты, са светлым кароценькім чубком, што спадае на лоб, Мішка. Не можа ўспомніць. Паўстае перад вачыма цьмяна тое-сёе, што было перад самай школаю, а пасля ўжо выразней са школьных гадоў, асабліва ў тую пару, калі ён з Мішкам закончыў сямігодку.

Мішка, Стася і ён, Ясік,— гэта іхняя, амшароўская, тройка, што пятнаццаць хутарскіх гадоў не толькі па блізкім суседстве расла на вачах адно аднаго, але амаль столькі ж часу яны бавіліся разам ці па пары — Мішка і Стася, Мішка і ён, ён і Стася. Яны не маглі не гуртавацца ўтраіх: мабыць, сам лес зводзіў іх у адну сяброўскую купку. Зусім юнымі, падпаскамі альбо застаўшыся ў нядзелю ці ў свята адны, без бацькоўскага назірку, яны разам гулялі ў «ножык», «чыжыка», «немца», у «коні». Ён, Ясь, яшчэ нядаўна саромеўся камусьці прызнацца, як яны, дзятва, тады несвядома, але трапна імітавалі тое, што было на самай справе між коньмі — гэтымі прыгожымі жывымі істотамі, чые паводзіны яны і бачылі, і, канечне ж, міжволі захапляліся іхнімі грацыёзнымі целамі, колерам іхняй скуры і грывы, іхнімі гульнямі і злучкаю. Пазней, калі Ясь вычытаў у Адама Міцкевіча (здаецца, у «Дзядах»), што і той яшчэ ў тым стагоддзі з равеснікамі таксама гуляў у «коні», дык паспакайнеў: значыць, такія гулі былі і задоўга да іх, і нічога ў іх няма сарамяжнага, нездаровага альбо ганебнага. Як і ў забаўцы ў «гаспадароў». Неяк так выходзіла, што ў тых гульнях і Стася, і Ясік хацелі, каб Ёю і Ім был і яны, а каб Мішка быў «конюхам» ці «суседам». Мішка часта згаджаўся, але, бывала, калі бачыў, як Стася і Ясік так ці гэтак радасна ліпнуць адно да аднаго, усцешліва выяўляюць тое, што бывае паміж Ёю і Ім, чамусьці нерваваўся, а калі доўга было не так, як хацеў ён, дык пакідаў гульню. Зрэшты, калі яны саступалі і са Стасяй мілаваўся ўжо той, дык і ён,

Ясік, пачынаў чамусьці непакоіцца, абурацца і таксама ранапозна адмаўляся быць «староннікам».

У тыя часы, у раннім маленстве, Ясік не ўяўляў: Стася прыгожая ці не. Успамінаецца, што яна была вышэйшая і паўнейшая за яго, мела доўгую русявую касу, круглаваты, усыпаны рабаціннем твар, невялікія карыя, як і ў брата, але не блуклівыя, жулікаватыя, а спакойныя, нібы ленаватыя вочы і да ўсяго была нашмат дужэйшая і за Мішку, і за яго. Барукаючыся, яна валіла на дол на спіну і аднаго, і другога. Яна і Волесю, лічы, не саступала. Калі той сваімі здзекамі даводзіў яе да шалу, дык яна не раз спускала таму з носа кроў. Ясік тады проста прывык, што ёсць яна, Стася, і што тая падабае яго лепш, чым Мішку.

Цяжка ўжо ўспомніць, калі і як тое адбылося, але ў адзін летні дзень (а што той дзень быў якраз летні, дык пра тое напамінае цяпло і зелянота), калі Ясіку было гадоў дванаццаць ці, можа, ужо і трынаццаць, яго жыццё на хутары нечакана змянілася, а то і проста азарылася: да Мішкі прыехала з горада яго самая старэйшая сястра, сталая ўжо цётка, і прывезла з сабой дачку, Аксану. Тая, на год старэйшая за яго і Мішку, высакаватая, у беленькіх сандаліках і шкарпэтачках, у чысценькай чорнай спадніччы, у беленькай блузцы і ў банціках колеру снегу на стройнай галоўцы, уся ў ззянні юнай красы і грацыі, адразу ж змусіла Ясікава сэрца забіцца часцей.

Ён не разумеў, што з ім робіцца: цягнуўся цяпер толькі ў хату да Паланевічаў, але і там, і дома, калі Аксаніна маці прыходзіла з дачкой да іх, ён не мог падняць на вабную, нават вельмі мілую дзяўчынку вачэй, мабыць, пунсавеў, а калі Аксаніна маці, канечне ж, заўважаючы гэта, туліла яго да сябе: «Будзеш маім зяцем?», ён ажно палаў ад сарамлівай гарачыні, а ягоная маці яшчэ дадавала яму жару: «Дай Бог! Вельмі ж пекная будзе нявестка».

Паколькі гарадская красунька засталася ў Паланевічаў на ўсё лета і паколькі Мішку-дзядзьку нельга было быць Ім і Ею са старэйшай на год яго пляменніцай (і яны, дзеці, разумелі і шанавалі сваяцтва нават у гульнях), то цяпер Ім і Ёю былі Мішка і Стася, Ясік і Аксана. Усе былі задаволеныя такімі «сямейнымі парамі», апроч Стасі. Яна насуперак ім усім не жадала мілавацца толькі з Мішкам, спадылба пазірала на яго, Ясіка, і на Аксану, калі яны ў абдымку «ляжалі ў ложку», насуплівалася, як мыш на крупы, а пасля часта кідала гульню і сыходзіла, дзень-два не паказваючыся ім на вочы. Яны клікалі яе, але яна не ішла.

«Я разумею, чаму яна такая»,— аднойчы задуменна сказала Мішку і Ясіку Аксана.

«Чаму?»

«Яна любіць Ясіка».

Ён чуў ужо і не раз гэтыя словы ад старэйшых — «любіць», «не любіць»,— ды тады яшчэ не мог спасцігнуць іхняй сапраўднай глыбіні, толькі адчуваў ужо, што яны шмат значаць.

«А ты яе любіш?» — калі яны неяк засталіся сам-насам, запытала ў Ясіка Аксана.

«Не»,— паспяшаўся адказаць ён, не столькі разумеючы, колькі адчуваючы, што якраз такі адказ будзе прыемны Аксане.

«А ты хочаш любіць дзяўчынку?»

На такое запытанне ён ужо не мог адказаць хуценька: Аксана пыталася ў яго пра вельмі запаветнае, хоць і мала яшчэ ўсвядомленае, ды пра тое, з чаго кпяць з іх, дзяцей, сталыя. А да ўсяго трэба было, можа, прызнацца, што з усіх дзяўчынак, якіх ён ведае, яму найперш падабаецца яна, Аксана. А каб сказаць так, пачынаў ужо замінаць нейкі новы, не зусім зразумелы сорам: ужо тое, што наплывала на душу, вабіла мець за сваю таямніцу.

«Скажы»,— прасіла, дапытвалася Аксана, але ён нічога цямлівага ёй не прамовіў, з хваляваннем пачуўшы, што яна хоча сябраваць з хлопчыкам, каб пасля палюбіць яго. А калі запытала, ці хоча ён з ёю сябраваць, то ўжо тады радасна прызнаўся: «Хачу».

Пасля дзіўнай адчужанасці Стасі яны, Мішка, Аксана і Ясік, бавілі свой вольны час ужо ўтраіх. Хадзілі ў лес па ягады і грыбы, купацца на рэчку (плёскаліся зусім распрануўшыся і яшчэ не саромеліся гэтага), гулялі на Паланевічавым ці іхнім загуменні.

Ясік паволі паспакайнеў, ужо не так бянтэжыўся перад Аксанаю, якая была не толькі жвавая, смелая, але і калінікалі ўжо, як пазней зразумеў, капрызная альбо какетлівая,— гэта значыць, у яе ўжо праяўляўся і свой, жаночы, характар. Якраз яна першая неяк міжволі падвяла да таго, што яны пацалаваліся ўжо не ў гульні, як «тата» і «мама», а як дзяўчынка і хлопчык. Пасля гэтага, як толькі адасобліваліся ад Мішкі, яны падоўгу цнатліва туліліся адно да аднаго, цалаваліся ці браліся за рукі і ішлі ў лес альбо на луг, мабыць, аднолькава адчуваючы прыемную хвалюючую ўзрушанасць. З той пары шмат ужо сплыло вады, але і цяпер Ясь з асаблівым светлым, а то і мілым трымценнем помніць тыя Аксаніныя першыя пяшчотныя поціскі рук, лёгкія прытульванні і кароткія дзіцячыя пацалункі, цяпло, водар яе юнага цела і валасоў — усё тое было па-сонечнаму яснае і па-крынічнаму чыстае. Аксана тады абудзіла ў ім незразумелыя, пакутлівыя, але і глыбокія, радасныя пачуцці, што магла ажывіць толькі яна, дзяўчынка, якая гэтак хораша спадабалася яму.

«Я напішу табе ліст. Толькі табе. Добра?» — можна сказаць, па-змоўніцку чуйным унутраным голасам незадоўга перад ад'ездам у горад запытала яна.

«Добра»,— таксама па-змоўніцку і, здаецца, чулліва адказаў ён.

«Пакляніся, што ты нікому не пакажаш мой ліст! Ні дома, ні нашаму Мішку, ні Стасі!»

«Клянуся!»

«І я нікому не пакажу твой ліст! Ён будзе толькі мой! Я яго схаваю ў шуфлядцы свайго пісьмовага стала».

«А я тваё пісьмо схаваю на гарышчы!»

Калі Аксана з'ехала, дык, здаецца, на хутары не толькі паспакайнела, але і нібы з яго знікла яснасць, ззянне, а замест іх наплыла шэрасць, а то і пазмрачнеласць. Ясік вельмі засумаваў, з нецярпеннем чакаў з горада абяцанага ліста, а калі праз некалькі дзён не проста ўпершыню ў жыцці атрымаў яго, гэты ліст, а проста ашчасліўіўся ім, дык быў сам не свой. Ён доўга разглядаў прыгожы малюнак на канверце, прыгожыя літары на ім, якімі былі напісаныя іхні адрас, яго прозвішча, а на адвароце — зразумелыя і ў той жа час загадкава-таемныя словы: «Жду ответа, как соловей лета», а пасля з вялікім хваляваннем і перажываннем прачытаў ліст — зусім просты, найбольш пра тое, як яна, Аксана, даехала дахаты, што ёй купілі для школы, але і незвычайны. Гэта быў ліст іменна яму! Ад Аксаны! Цяжка сказаць, ці шчыра, ці жартам яго маці пакрыўдзілася, што ён утаіў ад яе той ліст, свой сакрэт, а калі да іх аднойчы завітала Стасева сястра, Гэля, скрушліва захітала перад той галавою: «Наш Ясік мае ўжо другую паненку і, здаецца, хоча жаніцца». Маці сказала тое, што было ў ягоных думках, хоць сваю жаніцьбу з Аксанай ён тады ўяўляў як тое, што пасля гэтага будзе гуляць толькі з ёю. Хоць, канечне, было ўсё і глыбей: каханне паслала яму свой першы, юны, светлы і, мабыць, па-сапраўднаму хвалюючы покліч, што клікаў, вёў з маленства ў юнацтва.

Стася, якая за тое лета за свае ўжо амаль шаснаццаць гадоў яшчэ болей адзяўчынілася (у яе ўжо, як і ў жанчын, пакруглелі лытачкі, клубы, узнялі-напіналі сукеначку грудзі, змяніўся, пасталеў позірк ахарошаных вачэй), нейкі час па-ранейшаму пазбягала Ясіка. Але неяк увосень, у нядзелю, калі ён трапіў да яе ў падпаскі і калі яны толькі ўдваіх селі каля цяпельца, яна, аблакаціўшыся на калені, а на рукі паклаўшы галаву, зусім нечакана трывожна цяла яго сваім занепакоеным запытаннем:

«Скажы, ты хочаш з ёю жаніцца?»

«З кім?» — ён усё зразумеў адразу ж, але прыкінуўся здзіўленым і няцямлівым.

«З «кім-кім»! — раздражнёна сказала яна.— З той, гарадской?»

«Не»,— няшчыра адказаў ён, адчуваючы, што цяпер і Стасі, як нядаўна Аксане, трэба гаварыць не столькі праўду, колькі тое, што ёй падабаецца. Ды ніяк не хацелася выдаваць, гаварыць уголас сваю запаветную тайну.

«Не лжы,— Стася тут жа выкрыла яго ману.— Ты з яе вачэй не зводзіў! А яна табе пісьмо прыслала! І напісала на канверце: «Жду атвета, як салавей лета!» Гэтак пішуць адно аднаму тыя, хто хоча ажаніцца, выйсці замуж».

Прамовіла так і плаксіва склала вусны, скрывілася:

«Ты на мяне ні разу гэтак хораша, як на яе, не зірнуў! Я ж не гэтакая файная, а рабацiністая! Вучыцца так не магу, як ты і яна»!

Яго збіла спанталыку і тое, што ягоная тайна — ужо ніякі не сакрэт, і тое, што Стася гэтак перажывае і папікае, нібы за нейкую вялікую правіну. Яна завяла з ім яшчэ не зусім дарослую, але ўжо і не зусім дзіцячую размову. Пра свае, як яна, здаецца, лічыла, абражаныя пачуцці.

«Ты не прыходзіш да нас, не хочаш са мной гуляць! — гаварыла яна, выкрываючы ягоныя грахі.— Ты толькі пра яе думаеш! »

«Не»,— зноў няшчыра пачаў апраўдвацца ён, прачуваючы, што цяпер, каб Стася паверыла яму, было б лепш за ўсё сказаць штосьці нядобрае пра Аксану, але проста не мог абразіць і за вочы тую.

«Скажы, што гэта не так?» — чаплялася і чаплялася Стася.

«Не так»,— бараніўся ён манаю, як, бывае, і сталы ўжо мужчына перад жанчынаю, якая чымсьці папікае яго.

Стася спачатку недаверліва, а пасля, ажыўляючыся выразнымі вачыма, зірнула на яго:

«Дык ты будзеш прыходзіць да нас?»

«Буду»,— падакляраваў ён.

«Мы будзем гуляць без Мішкі, толькі з табою! — Стася ажно засвяцілася, пахарашэла, але ўсё роўна зусім іначай, чым Аксана, кранула ягонае сэрца. Яно ўстрапянулася не ад пяшчоты і любові, а болей ад трывогі ды асцярогі за Стасіна пасяганне на яго.— Добра?»

«Добра»,— здаўся ён.

«Ты не рады?» — нібы здзівілася яна.

Ён зноў схітрыў, адказаў так, каб было даспадобы Стасі, а яна ўжо не так шчыра і проста, як раней, а зусім іначай, здаецца, нават з тонкай хітрыкаю, падлашчваючыся, заманіла яго гуляць у «гаспадароў», а калі ён лёг з ёю на «пасцель» з яе разасланага на зямлі паўсачка, дык з насцярогай адчуў, што яна цалуе яго не так, як дагэтуль, а прагавіта, моцна, балюча ўпіваючыся ў ягоныя вусны, а пасля сама

павабіла яго на сябе. Такое было і раней, з ёю і Аксанай, але цяпер ён упершыню ў такой вось гульні адчуў, што «жончыныя» ногі расхінутыя, а сцёгны, клубы — і тугія, і мяккія, поклічныя, а да ўсяго ягоную грудзіну цеплящь, нават гарачаць Стасіныя поўныя ўжо грудзі, а яго шыю моцна сціскаюць яе рукі.

«Ты — тата, а я — мама!..» — з хваляваннем зашаптала яна.

«Ага».

«Дык ты будзь татам!» — заклікала парыўчым шэптам.

«Я ж і ест тата».

«Не,— хоць ён, здаецца, зусім праўдзіва, як і раней, імітаваў «тату», запярэчыла яна.— Не так! Трэба інačай!»

«Як?»— запытаў ён, са здзіўленнем, а крыху пазней і з бояззю бачачы, як ад Стасінага загарэлага твару адлівае чырвань, а замест яе наплывае белізна, як усё яе дужае цела слабее, нібы мякне ды як яна застывае ў нейкай знямозе, а пасля трымціць, як у ліхаманцы. Ад усяго гэтага ў ім успыхвае незразумелае цяпло, нават быццам сухая гарачыня і з'яўляецца нейкі дзіўны козыт, што напружвае ягонае цела.

Стася некалькі хвілін патрымцела, нават чагосьці нялёгка і знямогліва пастагнала, а пасля нечакана ўстрапянулася і рэзка, па-дужаму адхіліла яго і абцягнула за поўныя бліскучыя калені, мабыць, выпадкова загорнутую на жывот сукенку і нібы сцебанула яго дубцом:

«Ты яшчэ малы!»

Ён не мог зразумець гэтай яе новай рашучай перамены, як і таго, што вось яна пачынае пунсавець, нават брацца на шчоках чырвонымі плямінамі, адварочваецца з пагардай і зняважліва не пазірае на яго. Яна пасля нават адышлася і да канца пашы больш не наблізілася, і ён адчуў душой, што з гэтага дня ягоныя дзіцячыя гульні са Стасяю ўжо закончыліся, што яны ўжо не падыходзяць адно аднаму, хоць ён не зусім разумеў, што і чаму іх разлучае. Мусіць, тое, што ён «яшчэ малы», а яна ўжо дарослая.

Так яно і выйшла. Стася перастала прыходзіць да іх, а ён — да яе, а калі як-небудзь выпадкова сустракаліся, дык яна адводзіла позірк, а ён чамусьці вельмі сароме́ўся, глыбока перажываючы за тое, што «яшчэ малы», а гэта значыць, яшчэ да нічога сур'ёзнага няварты. Зімой Стася пачала хадзіць з дарослымі на вячоркі і танцы, і яе, як падсочваў ён, ужо як дарослую ціскалі хлопцы, а яна нібы супраціўлялася, але звонка рагатала, пунсавелася і ззяла вачыма. «Ох, і рання ж дзеўка ў Навіцкіх,— чуў, як ягоная маці казала бацьку.— Аж гарыць усё на ёй. Можа ў любы час прынесці ў прыполе».

А ўвесну — здаецца, апошняй іхняй вясной там, на хутары,— аднаго дня яму і Стасі зноў прыйшлося разам пасвіць статак сваіх і

суседскіх кароў. Яна, Стася, была да яго ўжо спакойная, нават абыякавая, ляжала на сваім цесным ужо для сябе, папаўнелай і налітай сілаю, паўсачку, выставіўшы ўверх важкія клубы. Дык вось у той дзень да іх зусім нечакана прычыльгікаў Стась, якому ўжо, мусіць, бралася пад дваццаць і ў якога была ўжо кучаравістая шавялюра, былі шырокія плечы і ашчаціненыя шчокі. Стась, ззяючы, як начышчаны самавар, прагна азіраючы Стасіна моцнае цела, спачатку жартаваў, пры першым зручным выпадку хапаў, прытульваў яе, а пасля пачаў настойліва адсылаць мяне на рэчку: «Каровы добра пасуцца, Стася справіцца і без цябе». Тая адбівалася ад яго, але, як здавалася, не зусім рашуча, хіхікала, таксама ззяла вачыма. А калі Ясік праз паўгадзіны, не дайшоўшы з-за балота да рэчкі, вярнуўся, то ўбачыў на папары толькі статак, а іх, Стася і Стасі, не было на тым месцы, дзе іх пакінуў. «Схаваліся ад мяне»,— падумаў ён і падаўся ў блізкі бярэзнік іх шукаць. І неўзабаве яму нібы хто штурхнуў у грудзі і запыніў: на зямлі ў папаратніку разасланы паўсачак, на ім — на спіне Стася, а зверху распластаўся Стась, і ажно мільгаціць у вачах ад іхніх белых ног і клубоў...

«Яны гуляюць у тату і маму,— падумаў ён.— Але мы так не гулялі. Гэта ўжо так, як хацела летась гуляць са мной Стася...»

І ад таго, што Стась і Стася забаўляюцца іначай, здаецца, абодва крэкчуць ад задавальнення, яму стала крыўдна і тужліва. Ён яшчэ не разумеў, адкуль і чаму тыя крыўда і туга, але яны былі, запаланілі душу.

Пасля, калі тыя, абое пунсовыя, з чырвонымі плямінамі і з сорамам у вачах, вярнуліся да месца іхняй нядаўнай ляжанкі, здзіўлены Стась вельмі ж ужо заўзята дапытваўся, калі ён вярнуўся і кудою, а Стася ўпарта адводзіла позірк. Пазней і Мішка па сакрэце сказаў яму, што падглядзеў, як Стась распранае Стасю і спіць з ёю. А ўвосень, калі Навіцкія агледзелі, што іхняя дачка пачала круглець, і змусілі яе ва ўсім прызнацца, Грыгарцэвічы супраць сваёй волі змушаныя былі спраўляць вяселле свайму сыну-шкодніку.

Яшчэ пазней, калі Ясь быў ужо сам жанаты, ён не раз быў сведкам даволі вольнай размовы паміж па-ранейшаму нізкім, толькі болей паплячэлым і рана пасівелым Стасем і рослай, мажнай і дужай Стасяю, бацькамі чатырох чарнявых дзяцей:

«Трапіла ж пад руку, дык не ўтрымаўся... Ды і на табе ўсё гарэла...»

«Сілай першы раз узяў чорт крывы...»

«Дурны быў, лепшых не бачыў...»

«А хто лепшы за цябе пайшоў бы? Я некалі хацела Ясевай быць, але я ўжо на дзеўку бралася, а ён тады яшчэ горкім дзіцем быў... Ды не пара я яму, а вось з табой мы — Стась і Стася...»

Але тут ужо забежка далека наперад... У тое лета, калі па-даросламу ўжо ўпотай ад усіх загулялі-зацешыліся паспелыя для «любошчаў» Стась і Стася, Аксана да Мішкі чамусьці не прыехала і, лічы, перастала пісаць Ясіку, а калі прысылала ліст, дык ён быў кароценькі і скупы на пачуцці. Заявілася яна на другое лета, калі Ясікавы і Мішкавы бацькі перабраліся ўжо ў вёску (праўда, тыя і тыя жылі яшчэ пакуль што толькі ў адной, абладжанай, палавіне дома).

Ясіка вельмі ўразіла перамена, што адбылася з Аксанаю за гэты час: гэта была ўжо не тая — у сандаліках і з банцікамі, тоненькая і вёрткая — дзяўчынка, а даволі высакаватае, вузкае ў таліі, але з па-круглелымі плячыма і клубамі, ужо не з завяззю, а ўзгорачкамі грудзей пад сукенкай таго фасону, што носяць сталыя жанчыны, дзяўчо. І да ўсяго з яшчэ больш разлітай, але ўжо аспакайнелай красою. Невыпадкова ж яго маці ўсклікнула з захапленнем: «Стэфіна дзеўка паненка ўжо!»

Цяпер Ясік, хоць перайшоў ужо ў дзевяты клас і лічыўся не «малым» (Аксана, значыць пойдзе ўвосень ужо ў апошні, дзесяты), болей разгубіўся, чым у тую першую сустрэчу. Ён, канечне, ужо не гуляў ні ў «ножык» ці ў «немца», ні ў «коні» або «гаспадароў» (з усіх гульняў ён цяпер захапляўся толькі футболам), ужо многае не толькі адчуваў, але і разумеў, з жыцця дарослых таксама, але Аксаніна манера — стрыманая, здаецца, нават ганарыстая альбо паблажлівая — змусіла яго сумецца, хваравіта зірнуць на сябе і адчуць: тое, што было ў іх з Аксанай раней,— гэта адно, ужо ўсё ў мінулым, дзіцячым, а цяпер яму ўжо не падступіцца да яе, усяго толькі на год старэйшай, але болей сталай, разумнейшай. Яе Мішкавы бацькі не толькі не змушалі, але і не дапускалі да бруднай работы, дык яна днямі ці ў хаце ў пры-гожым уборы, ці за гумном у купальніку на поплаўчыку чытала тоўстыя кнігі, а ўвечар з ім і Мішкам ішла да Супрановічаў на лаўку каля бэзу, дзе збіралася плойма вясковых «падшыванцаў». Аксана з цікаўнасцю назірала за імі, «деревней», стрымана, але красамоўна паблажліва ўсміхалася і нібы забылася пра ўсё тое, што было паміж ёю і Ясікам: не ўспамінала былога і не загаворвала пра новае. А калі яна аднойчы згадзілася пакатацца на матацыкле з Мішкавым суседам, які нядаўна вярнуўся з войска і фарсіў на купленай бацькамі «Яве», і калі той, не ведаючы Ясевых пачуццяў, задаволена пахваліўся, што яшчэ раз-другі правязе яе і яна будзе яго,— дык ён ажно задыхаўся ад рэўнасці і болю. Але сам не мог загаварыць пра ўсё, што

непакоіла яго, хоць добра разумеў: гэта ўжо новая Аксана, і з ёю трэба ладзіць па-новаму, пасталаму.

Ды размова ўсё ж адбылася. Ноччу, калі яны, Мішка, Аксана і ён, вярталіся з клуба з кіно і калі Мішка пакінуў іх удваіх каля сваёй хаты: «Пагаварыце, а я пайду спаць. Заўтра мне рана падымацца, паедзем з бацькам сена касіць».

«А я заўтра ад'язджаю»,— здаецца, зусім непарушна сказала яму Аксана.

«Чаму?» — са шкадобай запытаў ён.

«Мне тут сумна»,— уздыхнула яна.

«Але ж раней ты была тут усё лета».

«То раней. Табы была я дзіцем, мала чаго разумела. Ды веска не па мне, я — гараджанка...— А пасля нечакана: — Скажы, калі ласка, у цябе ёсць дзяўчына?»

Яму было балюча слухаць гэтае запытанне: няўжо яна не разумее, што ён кахае толькі яе? Ці ёй ужо абыякавае ягонае пачуццё, пачуццё вясковага юнака, які добра вучыцца і, як усе лічаць, «гжэчны»?

«Ёсць?»

«Не».

«Чаму? Ты ж ужо ў тым узросце, у каго можа быць першае сур'ёзнае каханне!»

Ён змаўчаў, зноў адчуўшы прыліў болю, ужо мацнейшы за той, што ціскануў нядаўна.

«А ведаеш, некалі я захапілася табой...»

«А цяпер, значыць, не»,— болем зайшлося ягонае сэрца.

«А ты?»

«Што я?»

«Ты захапляўся мною?»

«Вельмі»,— уздыхнуў ён.

«Мы з табой тады, помніш, шмат цалаваліся,— усміхнулася.— А цяпер ты не жадаеш пацалаваць мяне?»

Яна лёгка намацала ў цемені ягоную руку сваімі тонкімі і далікатнымі пальчыкамі, наблізілася, падымаючы ўздыхам грудзі, і ён з трапятлівым хваляваннем прыхіліў яе, тонкую, лёгкую, усю водарна пахкую, і іхнія вусны сышліся ў пацалунку.

«Ты яшчэ зусім не ўмееш цалавацца,— тут жа са здзіўленнем і з паблажлівай усмешкаю прамовала яна.— Ты яшчэ зусім юны...»

Ён адчуў: гэта — ужо другая ягоная адстаўка. Калі са Стасяй, якая зараз гадуе дачку, і павінна было так усё быць, як было і ёсць, дык вось страта Аксаны (а ён душой адчуў, што не ўтрымае яе) уявілася, пеканула яго вялікім жыццёвым ударам.

«Здаецца, я нашмат старэйшая за цябе...— сказала Аксана.— Ты яшчэ знаешся, гуляеш з падлеткамі, хоць у той жа футбол, а я ўжо знаюся толькі са старэйшымі. Не буду таіць: у мяне ёсць хлопец,— прызналася, але не выпусціла ягонай рукі са сваёй.— Ён ужо студэнт... Чуеш?»

«Чую»,— ледзь вымавіў ён.

«Але я табе ўдзячная...»

«За што?»

«За тое наша дзіцячае, але шчырае, харошае, светлае. Гэта прыемны ўспамін з майго маленства».

Ён зноў змаўчаў, намагаючыся суцішыць боль. Боль адрынутага дзяўчом хлапчаняці.

«Я, мабыць, ніколі не забуду таго і цябе».

«Але пакахала іншага...»

«І ты, прыйдзе час, пакахаеш...— Яна нібы ўгадала яго думкі.— Каханне, скажу табе, вельмі моцная рэч...»

Пасля яны пяшчотна развіталіся. Назаўсёды. Ён доўга (нашмат цяжэй, чым мінулы раз) не мог апамятацца, пакутаваў, што, бадай, самы нешчаслівы чалавек на свеце, але потым, у школе, у апошнім класе, паволі перагарэў, нечакана нават для сябе захапіўся маладзейшай аднавяскоўкай, сястрой свайго сябрука, але і з гэтага захаплення нічога не выйшла. Як і ва універсітэце з аднакурсніцай. Ажаніўся зусім з іншай дзяўчынаю, з той, з якой трапіў разам настаўнічаць у адну школу. Ды каханне да Аксаны ўсё ж асела на яго душы — не, не горычным і мутным асадкам, а нейкім светлым і прыемным слоем, каб пасапраўднаму абудзіцца, праразсці пазней, калі і яму, закаханаму, жаночыя вусны зашэпчуць, што ён каханы і самы лепшы на свеце...

Цяпер Ясь, як казалі ўжо, дзед, мае ўнука, якому хутка будзе год; Стася — удава, бабуля некалькім унукам; Аксана была двойчы замужам, урач, дзяцей чамусьці не мае, Ясь ведае ад Мішкі яе адрас, тэлефон, колькі разоў збіраўся пазваніць ёй, але ў апошні момант стрымліваўся, лічачы, што сённяшняй сустрэчы і размовы не трэба...

1995

## ЛЯЛЯ[1]

*З расказу Аляксея К.*

...Тады яны, Аляксей і Таня, разам вярталіся дадому.

Паволі ішлі па лясной дарозе з суседняй вёскі, дзе хрысцілі дзіця ў сваякоў. Сонца ўжо не было, але і тут, у бары, яшчэ не гасла дзённае святло, трымалася чэрвеньская вячэрняя відната. Ясна адсвечваліся сухім, з шэрым бляскам дзве шырокія тупкія каляіны на дарозе, добра бачылася тоўстае мазолістае, ababітае коламі і зацягнутае ўчарнелай смалою карэнне на ёй; паволі слаўся цень каля ядлоўцавага кустоўя і за камлямі старых сосен, але іхнія верхнія ствалы бронзава жаўцеліся; у небе сутоніўся блакіт, а яго заходні край палаў водсветам ад полымя; яшчэ не зусім суцішыліся птушкі, лагодна ціўкаючы сабе ў дзюбу ў гняздзе перад сном; мякка, прыемна струменілася цяплынь і водарна пахла нагрэтай за гарачы дзень смалой і карою, бярозавым лісцем і папараццю, а да гэтага прымешваўся саладкаваты пах сухога сена — яго вазілі сюдою на калёсах і трактарах, дык яно вырывалася голлем і шматкамі вісела на ім альбо ляжала на доле.

У такую часіну, калі ў лесе ўсё відаць, жыве і падае голас, яшчэ няма на душы страхлівага вусцішу, дык ідзеш спакойны, задуменны, успамінаючы, што і як было сёння, альбо пра штосьці летуценіш. Што да Аляксея, дык на яго душы было яшчэ маладое захапленне, узнёслася, і ён нібы лунаў увысі. Канечне ж, таму, што побач з ім крочыла яна, Таня, якую ў вёсцы чамусьці называюць Ляляй. Яна на гады чатыры старэйшая, ужо замужняя, невялікага росту, танклявая, дык спераду нібы дзяўчына. Але мае і іншае — светлыя завітыя валасы, круглаваты твар, на якім асабліва выдзяляюцца вялікаватыя, жывыя, усмешлівыя вочы, невялікія, але вабна акруглелыя рукі, хораша выпуклыя грудзі, прыемную авальнасць ў паўнаважкіх клубах, спрытныя ногі,— дык усё гэта паказвае ў ёй жанчыну, што ўжо раджала і пачынае зацвітаць жаноцкасцю.

— Пра што ты думает, Лёша? — вось перахапіла ягоны, здаецца, не зацягнуты і не ўчэпісты, а мімалётны позірк, запытала, як заўсёды, смела. Праўда, цяпер без вольных намёкаў і жартаў, што вельмі любіць. Пра яе язык некагорыя ў вёсцы кажуць, што ён з крапівою і перцам.

Ён не ведаў, што адказаць. Мабыць, з сарамлівай усмешкаю пацісnуў плячыма.

---

[1] Апавяданні «Ляля», «Мае ўцёкі» ад Леанілы», «Жыццё-быццё», «Іна», «Гэлька» — з цыкла твораў «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын».

— Добра на душы, дык і я іду, думаю, але не магу сказаць пра што.

Дабрыня ў яго і ў яе, можа, ад таго, што яны сёння любаваліся чужым дзіцем (як яно спіць, плача альбо есць), што яшчэ гадзіну таму сядзелі за багатым сталом, нязмушана жартавалі, спявалі і танцавалі (у яго і цяпер у вушах словы з песні «На танец! На танец! На танец!»), а цяпер, на лёгкім падпітку, былі ў палоне супакоенай лёгкасці і радасці, да чаго падбіраўся ўжо нейкі смутак — не, не цяжкі, не маркотны ці зажураны, а прыемна мройны, крыху сумотны ад'таго, што ўсё сённяшняе, добрае і шчаслівае, хутка пройдзе. Аляксей спрабаваў думаць, што на днях трэба везці дакументы ў інстытут, а Таня, можа, успомніла сваё двухгадовае дзіця і мужа, які падаўся ў Сібір у заробкі. А можа, думала і пра штосьці іншае.

— Давай пастаім крыху,— ціха прамовіла яна і запынілася каля тоўстай, са свежымі ранамі ад калёсных восей і прычэпаў прыдарожнай хвоі.

У яго аж дых заняло ад таго, як яна вабна абаперлася локцем аб хвою, а на кулачок — галавою, як яшчэ болей выпукліла грудзі, падцягнула жывот і выставіла з-пад чорнай спаднічкі вастраватае калена: столькі грацыі ва ўсім, яснасці і жывасці было ў гэтай невысокай і танклявай жанчынкі, што нельга было не залюбавацца ёю!

— Лёша,— зноў ціха і лагодна дадала яна,— ты ж цяпер мой кум. Дык скажы куме сваю тайну.

Ён здзівіўся: пра што ты хочаш ведаць?

— Ты ўжо кахаеш каго?

Як было ёй адказаць, калі ён, яшчэ нядаўні школьнік, пакуль што адчуваў толькі таінства, слодыч затоенай мары пра каханне: уяўляў сябе кімсьці — ці то смелым, гераічным генералам, нейкім самаахвярным паўстанцам ці спаважным да бедных разбойнікам — і ўяўляў Яе — прыгожую, добрую і адданую яму графіню ці, наадварот, маляваў сабе ў думках у каханыя бедную, але мілую графскую пакаёўку — адным словам, такую жанчыну, якой у іхняй школе была настаўніца біялогіі, асоба пісанай красы і нечуванай дабрыні. Што да зямнога кахання, да вясковых дзяўчат ягонага ўзросту, дык нішто з гэтага не было вышэй яго ўяўлення.

Ды і ўвогуле... Раней, яшчэ гады два-тры таму, ён, жвавы, вясёлы малец, вельмі любіў маці, часта падбягаў да яе, прытульваўся і цалаваў, яна, вабная, добрая і таксама жвавая жанчына, яго радасна галубіла, але затым яны пачалі нібы аддаляцца адно ад аднаго. Мабыць, пасля таго, калі ў яго забалелі набухлыя пупышачкі на грудзіне і пачаў ламацца на болей басавіты голас і калі маці з

усмешкай сказала, чаму гэта адбываецца. А калі яшчэ пазней ён пачаў сніць і такое з ім было ў сне, дык ён нечакана нават для самога сябе з порсткага хлапчука пераўтварыўся ў задуменнага і скрытнага, са сваім светам хлопца, які пачаў больш пільней пазіраць на жанчын і заадно пачаў іх саромецца.

— Дык ты кахаеш каго?

— Не.

— А цалаваўся ўжо з дзяўчатамі? — зноў чамусьці захацела пранікнуць у ягоны тайны свет Таня.

Яго, канечне ж, ужо вабіў юр цёмнай часінаю прытуліць да сябе дзяўчыну, дапасці да яе вуснаў, ён нават спрабаваў аднойчы пазнаць такое з Шумчыкавай Даротаю, але няшмат дабіўся, не зведаў таго, пра што мроіў, нават больш — аканфузіўся.

— У тваім узросце я там, у сваёй вёсцы, ужо ва ўсю цалавалася з хлопцамі,— не дачакаўшыся адказу, даверліва прызналася Таня.— Ніхто ж чужы, а якраз мой мужанёк празваў мяне Ляляй. За тое, што люблю, каб у хаце і на двары было ўсё чысценька, каб і самому быць заўсёды дагледжаным. Каб было прыемна іншым і сабе. Ды... Выбачай, Сяргей — ваш сваяк, але ён — пень неабчасаны. Малады яшчэ, толькі на тры гады старэйшы за мяне, але зусім ужо абмужычыўся. Устаў, працёр вочы, закурыў, перакусіў і да свайго электрапаяльніка, вярнуўся з работы, не абмыўся як след, пад'еў, паглядзеў тэлевізар і ў ложак. З ім не пагаворыш добра, не пагарэзіш. Прылашчуся, а ён «Ляля ты», «Кошка». Я, хоць маленькая, але хачу ўсяго вялікага — шчырасці, ласкі, любові. Ды ён не разумев гэтага, глядзіць на мяне як на патрэбную, але што заўсёды пад рукамі рэч... Якраз моцная тая сям'я, дзе муж і жонка ўважлівыя, далікатныя і пяшчотныя адно да аднаго. Заўваж, калі жонка задаволеная мужам, а муж — жонкаю, дык яны не толькі думаюць, разважаюць, робяць усё заадно, але нават ён становіцца падобны на яе, а яна — на яго. Але...— Уздыхнула.— Ты яшчэ зусім маладзенькі, хлапчук, то тваё пазнанне ўсяго гэтага яшчэ наперадзе.

— Мне васемнаццаты год,— ён заступіўся сам за сябе, самалюбна перажываючы, што і цяпер, калі ўжо не школьнік, некаторыя, як і вось гэтая Таня, лічаць яго яшчэ не зусім дарослым (хоць яшчэ ўзімку маці аднойчы, зірнуўшы на яго, пільна ўгледзелася і пляснула ад здзіўлення далонькмі: «Бацька, глядзі: у нашага Алёшкі вусы большаюць і цямнеюць! Яму ўжо галіцца трэба!» Бацька, які позна вячэраў адзін, падняў на міг на яго вочы, зыркнуў спадылба, але нічога не сказаў. А ён тады ледзь не згарэў ад сораму.).

— Лёша, чаму ты гэтак пазіраў на мяне за сталом і нядаўна тут, у лесе?

— Як? — вырвалася ў яго са збянтэжаннем.

— Кажу ж: гэтак?! — гулліва перапытала Таня.

Ён зноў няўцямна пацiснуў плячыма.

— Скажы праўду: я падабаюся табе?

Што з ёй сёння? Яшчэ ніколі з ім вось так, з нейкім паўнамёкам, не размаўляла!

— Скажы, кал і ласка,— узяла яго за руку і лёгка павабіла да сябе.— Не бойся, я не пакрыўджуся і не насмяюся з цябе.

— Падабаешся,— сумеўся ён.

— І ты мне падабаешся,— здаецца, без звыклага жарту, а шчыра сказала яна.— Усім ты ўдаўся: і ростам, і вабнасцю, і розумам. Каб была дзяўчынаю, то нікому цябе не аддала б. Каб ты нават і не хацеў, то ўсё роўна быў бы толькі мой. А Сяргея, ведай, я не люблю.

— Гэта — ужо тайна паміж імі, і яна непакоіць, хвалюе яго. Таніна рука вылучае, перадае яго далоні незнаёмае прыемнае цяпло, што ідзе-бяжыць па крыві.

— Ты хочаш пацалаваць мяне? -— тамліва запытала яна.

Ён наблізіўся, лёгка даткнуўся вуснамі да яе вуснаў, адчуўшы і цяпер, як яна, медычка, хораша пахне ёдам і эфірам. Таня ж амаль тут жа заматляла галавою:

— Не, не так.

Пазіраючы на яго, здаецца, не звычайнымі цёмнымі, а зіхоткімі, жыццярадаснымі вачыма, яна прыпаднялася на кончыкі туфелек і грацыёзна, нібы ў кіно, паклала лёгкія рукі яму на плечукі, блізка прытуліла да сябе і ўжо сама дала яму вусны. Калі ён спрабаваў абняць, пацалаваць Дароту, то адчуваў яе яшчэ худыя плечы, цвёрдыя, што няспелыя грушы, грудзі, вострыя локці, што ўпіраліся яму ў грудзіну, а вусны яе былі самкнутыя і таксама цвёрдыя, а тут — прыемная пакатасць плячэй, тугія, але і нібы мяккія поўныя грудзі і жывот, а да ўсяго раскрытыя вусны захопленыя, узгарачаныя і даюць незвычайны пацалункавы мёд. Ён хутка ўжо з сорамам адчуў ў сваім целе не цяпло, а гарачыню, што ўкідваецца і кружыць галаву, і плоць, што імкнецца да яе плоці. Таня не можа не адчуваць гэтага, але не адхінаецца, яшчэ цясней туліцца, а пасля падае яму галавой на грудзіну:

— Ты і хлапчук, і мужчына ўжо! Табе ўжо ўсё даў Бог любові Эрот! У цябе ўжо не толькі эрэкцыя, ты здольны і на аргазм ці на параксізм! Разумееш?

Ён паматляў галавою: не. Ягоныя рукі трымцелі ды і ўвесь ён трымцеў: Таня — не ўяўная паненка, як некалі пісалі, дама сэрца, яна — жывая жанчына. Мілая, жаданая і падатная. Ён адчуваў: калі будзе смялейшы, настойлівы, дык можа неўзабаве, пакуль Таня гэтак хораша туліцца да яго, упершыню пазнаць з ёю тое, пра што дагэтуль чытаў і пра што ўжо марыў, ды во няма гэтай смеласці. Каб, скажам, рэзка, як, можа, і трэба, схапіць яе на рукі і панесці далей ад дарогі...

Папяшчоціўшыся на яго грудзіне, Таня ўздыхнула і даволі рашуча адпіхнула яго:

— Што я, жанчына, раблю? Якія гульні заводжу з юнаком? Пайшлі! Забудзем, што тут было!

Яна затым, пакуль ішлі да сваёй вёскі, перавяла размову пра зусім іншае, ужо жартавала, але неяк ненатуральна, а ён перажываў пякучы сорам. Канечне ж, за сябе.

— Паміж намі нічога-нічога не было, добра? — на развітанне Таня зноў узяла яго руку, але толькі за пальцы.— А калі хочаш больш ведаць пра інтымнае, дык заходзь да мяне ў медпункт, дам тое-сёе пачытаць. Хоць,— усміхнулася,— усё гэта пасягаецца жыццёвымі універсітэтамі!

Можна лічыць, сапраўды, нічога ж такога незвычайнага не здарылася ў яго з Таняю, але і тое пачуццёвае, што нечакана выйшла, доўга не дало яму ў тую ноч нават самкнуць вачэй. Не, яно, тое, было, ёсць! Ён упершыню так, як, мусіць, і трэба, пацалаваўся з жанчынаю! Ды болей — упершыню яго пацалавала жанчына, якой ён падабаецца! Няхай сабе толькі ў парыве хуткацечнага настрою! Ён шмат чаго ўжо адчуў, хоць пазнаў гэта з грэхам, з віною перад Сяргеем, Таніным мужам. Бянтэжачыся за гэтыя грэх і віну, ён намагаўся не сустракацца з Таняй, назіраў за ёю толькі ці здаля, ці праз акно ды з жахам разумеў: яму хочацца яе пяшчоціць і адчуваць ласку, панаднасць яе грацыёзнага цела. Цяпер ён па-ранейшаму ўяўляў сябе кімсьці, але ўжо ў асобах графіні ці яе пакаёўкі бачыў толькі Таню. Ён і клаўся спаць і падымаўся амаль з адной думкай: ёсць, ходзіць побач, усміхаецца, жартуе, а то і з кагосьці кпіць яна, гэтая невысокенькая, гібкая і прыязная Таня, ад чаго яму радасна, добра, але і неспакойна на душы. Ды аднаго дня Таня сама запыніла яго на вуліцы, зірнула са знаёмай гарэзнасцю, бляскам у маладых і жвава кіпучых вачах:

— Забыў мяне, кум?

— Не,— з сарамлівасцю адказаў ён.

— А чаго пазбягаеш мяне? — запытала гулліва.— Калі саромеешся зайсці да нас дадому, дык зазірнуў бы да мяне ў амбулаторыю.

— Калі? — наіўна вырвалася ў яго.

— Можна сёння, увечар. Калі я вярнуся з суседняй вёскі. Пагамонім пра жыццё-быццё.

Як ён чакаў, калі нарэшце зашарэе і прыцямнее, але як яно, гэтае летняе змярканне, доўга не наступала! Ён верыў і не спадзяваўся, што Таня прыйдзе на сустрэчу, якую сама назначыла так позна. Яна ж можа не толькі адумацца, але і пажартаваць над ім, як лічыць, яшчэ нясталым! Што тады? Як яму быць?

Яна, хоць і затрымалася, але заявілася. Услед за ёю, зладзеявата азіраючыся па ўжо прыцямнелых баках, зайшоў у амбулаторыю і ён.

— Начны, пазаўрочны прыём, без ніякага збянтэжання, па-змоўніцку сказала яна, замкнула за ім дзверы.

Узяўшы за локаць, Таня павяла яго, замлелага шкодніка, цёмным і пахкім ёдам, эфірам калідорам у свой прыёмны пакой, дзе гэтыя пахі былі яшчэ мацнейшыя. Толькі яны туды ступілі, як іх чакала нечаканка: на небе ўзышоў месяц, дык тут стала не толькі светлавата ад акна, што дагэтуль адбівала дзённы бляск, а нібы з усяго свету сабралася тут бледна-блакітная віднота — месяц на небе шырока асвятляў белыя лёгкія воблакі, а вакол сябе, яркага кружочка, густа выблакітніваў нябеснае сутарэнне. Ад гэтай відноты былі бачны стол з разгорнутым календаром, зашклёная шафка з бутэлечкамі, пераносная шырма, за якой пераапранаюцца хворыя, і засланая цыратаю вузкая канапка.

— Ах ты, няпрошаны сведка! — сказала Таня і зацягнула акно, як было відаць, ружовай шторую. У пакоі не столькі сцямнелася, колькі цьмяна заружавелася.

Таня падышла да яго:

— Як вы адчуваеце сябе, пацыент? Ёсць якія скаргі? Нараканні? Просьбы?

— Не,— Аляксей спрабаваў падхапіць яе тон.— Я здаровы.

— Дык што — прыйшоў не як пацыент да лекара, а як кум да кумы? — наблізілася, лёгка паклала яму на плечукі рукі.— Частаваць? Каваю? Віном?

— Не.

— Ды што хоча сказаць кум куме? Уночы? Сам-насам?

Ен змаўчаў, нямеючы ад страху і сораму.

— Вельмі гаваркі госць!

Праўда, «гаваркі»!

— Не ведаю, як быць з такім кумам...— уздыхнула Таня, але не цяжка, як тады, у лесе, а задуменна.— Ці праганяць, уцякаць як мага далей ад цябе, ці...

У яго яшчэ болей зачасціла трымцець сэрца ад гэтага, апошняга, «ці». Ён зноў разумеў, што, кал і да яго горнуцца, трэба быць іншым, бо ягоная нясмеласць змушае яе вагацца, але якое было магутнае жаданне сціснуць яе ў абдымках і зацалаваць, такая ж была і вялікая моц нерашучасці, боязі і стрымлівання.

— Божа,— апусціла галаву яму на грудзіну, заказытаўшы валасамі яму падбародак,— што са мною робіцца? Душа мая разрываецца... Я ж замужняя жанчына, лекар, дык ужо ўсё ведаю... Ты рослы, амужчынены ўжо, але яшчэ горкі хлапчук!

— Я не хлапчук,— запярэчыў ён.

— Малады чалавек?— прытул ілася.— Лёшка, я не проста ў той вечар запытала, ці кахаеш ты каго. Кал і любіш дзяўчыну, любі. Каханне прыходзіць само, але не заўсёды тады, калі хочаш, і не да кожнага!

— Я не кахаю ніякай дзяўчыны,— паспяшаўся запэўніць ён.

— Я яго не зведала, але баюся, што яно прыйдзе. Разумееш мяне?

— Разумею.

— Што ты разумееш?

— Што ты і я, я і ты...

— Што — мы?

— Пакахалі...— не сваім голасам адказаў ён.— І баімся гэтага...

— Разумненькі мой! — Таня прыўзнялася, пагладзіла яго мяккай далоняй па валасах на патыліцы, а потым паімкнулася насустрач ягоным вуснам, і яны, абняўшыся, заціхлі ў доўгім слодычным пацалунку, што зноў, як і ў лесе, мігам успеніў, узгарачыў кроў, а тая, гарачая, хмелем шыбнула ў галаву, укінулася ў плоць.

— Давай патанцуем. Без музыкі,— папрасіла яна, і яны закружыліся ў вальсе, ад чаго дробненька зазвінелі шыбы, бутэлечкі ў шафцы.

Мабыць, ад танцу і ў яе яшчэ болей закружылася галава: Таня ўпала яму на грудзіну:

— Мне кепска. Завядзі мяне на кушэтку.

Аляксей, хоць і вадзіла ўбакі галава, падвёў яе да канапкі — Таня сама легла на спіну, выпрасталася і прыкрыла далонню вочы, не зважаючы, што кароткая спаднічка агаліла яе бела-матавыя круглаватыя сцёгны.

— Расшпілі мне блюзку,— ледзь чутна папрасіла.

Аляксей спешна нагнуўся і дрыготкімі рукамі пачаў спраўляцца з белымі гузікамі на белай блузцы, міжволі любуючыся яе стройнай

шыяй і бела-матавым пагруддзем, жыватом, на якім хораша абазначалася ўпадзінка ад пупка.

— Скінь станік...

Яна прыпаднялася, выгнула спіну, і ён доўга ды няўклюдна спрабаваў расчапіць аплічкі на шыракаватых шлеечках. А калі нарэшце яму гэта ўдалося, пачулася новая яе незвычайная просьба:

— Памасажыруй грудзі...

Ён паслухмяна прысеў на краёчку канапкі, пасунуў станік уверх, і яму дзівоснае святло дало ў вочы: паказаліся яе маладыя белыя круглаватыя грудзі з цемнаватымі пупышкамі і кружкамі вакол іх, а ўсё яе бела-матавае цела цяпер здалося зусім не дробным, а моцным, хораша падагнаным. Калі пяшчотна пацісную адну, другую палавінку тугіх грудзей, яна тамліва ўздыхнула і, варочаючы галавою, здаецца, запатрабавала:

— А цяпер рабі мне штучнае дыханне...

Ён, верачы ў тое, што ёй млосна, пачаў удыхаць і даваць паветра ёй, ды яна вось сашчаміла на яго шыі рукі, прагна пацалавала, і ён зразумеў, што яна хітруе.

— Ляж...

Калі Таня прашаптала і гэта, кал і бачыў, што ўдваіх на канапцы не прымосцішся (лёгчы можна толькі твар у твар з Таняй),— дык цяпер ужо сам, па магутным мужчынскім поклічы пачаў адступаць сорам, а замест яго захопліваць пожадзь.

Неўзабаве ўжо здарылася і тое, што было вышэй яго развагі, боязі — ён, не могучы стрымаць трымцення ва ўсім целе, адчуў тое, што адчуваў у сне, але цяпер гэта быў не сон, а была ява.

— Зараз мне добра,— прашаптала Таня.— А ты слухай маю лекцыю далей. Уяві, што ты цяпер іграеш на скрыпцы. Можна смычком пілікаць, а можна выводзіць цудоўную мелодыю. Шукай-шукай яе, гэтую чароўную музыку...

Ён не ведаў, як шукаць яе і ўвогуле што гэта значыць, але шукаў па інтуіцыі, а неўзабаве, нібы захлынаючыся ад пякельнай хвалі, у адчаі ўтуліў твар у Таніну пульсуючую шыю, упершыню спазнаючы ў зямным жыцці з зямною жанчынаю і невыказную насалоду, і заадно пранізлівы боль.

Ды вось ацверазенне. І якое! Яшчэ большая роспач, сорам, грэх, віна і нават расчараванне — усё мігам абрынулася на яго.

Калі яны здолелі ўдваіх прымасціцца на баках на канапцы, Таня пяшчотна пагладзіла яго па плечуку і руцэ:

— Табе было добра са мною?

— Добра,— ледзь вымавіў ён.

— І мне было добра,— здаецца, зусім спакойна сказала яна.— Ты — моцны і ласкавы — цяпер ты ўжо мужчына. І, калі ласка, не перажывай за тое, што мы мелі. Я пакахала, хацела цябе, а ты пакахаў, хацеў мяне. Так?

— Так.

— А цяпер ты палашчы мяне, скажы мне добрае слова.

Аляксей гладзіў далонню яе цела і маўчаў.

— Гавары.

— Што?

— Ці прыгожая я? Ці жаданая і любая?

— Прыгожая, жаданая і любая.

— І яшчэ гавары.

— Што?

— Сам, кум-каханік мой, сачыняй. Я ж казала, што люблю ласку. Калі ты будзеш хораша лашчыць мяне, дык я захачу быць тваёю, зноў аддацца табе, жаданаму і любаму. І мы з табой спазнаем незямную ўцеху. Хочаш яшчэ быць блізкім са мною?

— Хачу.

— І будзем яшчэ не раз блізкія, і ты паволі больш зведаеш, што значыць прыносіць любімаму чалавеку радасць і самому спазнаваць яе ад таго...

Пасля, калі апрануліся (ён начэпліваў на сябе ўсё пахапліва, саромеючыся свайго, як лічыў, нязграбнага цела, а Таня ўбіралася спакойна, без ніякага збянтэжання паказваючы яму, што мае, дык яшчэ болей заварожвала яго), падала яму лісток са сваёй сумачкі. На ім былі два радочкі лічбаў.

— Зразумеў? — усміхнулася, расчэсваючы кучаравістыя валасы.

— Не,— пацiснуў плячыма.

— Гэта — мой каляндар ці, лепш сказаць, лісток непрацаздольнасці на ліпень і жнівень,— спакойна сказала.— Запомні. У гэтыя дні, як і сёння, мы можам быць зусім смелыя...

...Аляксей здаў уступныя экзамены, але не гэта было яго самай вялікай радасцю, а іншае: нецярплівае чаканне начных сустрэч у амбулаторыі, а потым свавольныя гульні і ўцехі з Таняю, якая ў жніўні прызнала ўжо: «Вось цяпер можна пускаць цябе ў людзі. Шкода толькі, што ты дастанешся іншай...»

«Я скончу курсы два, перайду на завочнае, ты развядзешся, і мы пажэнімся»,— па-маладому горача сказаў тады ён, не ўяўляючы, як ён будзе жыць далей без Тані, без яе ласак і жарскасці, на што ён адгукаўся не толькі маладой сілаю, але і ўсёй сваёй пяшчотаю. Бы-

вала, яны мілаваліся столькі, што потым ледзь брылі дадому, каб там адразу ж зняможана ўпасці на ложак.

«Будзе, Лёшка, вялікая аслава і мне, і табе! На ўсю вёску! Твае бацькі не прымуць мяне — нявесткі іхніх родзічаў, дый нашто табе чужое дзіця? Давай жыць так, як жывём: чакаць і сустракацца».

«Але я хачу, каб ты была толькі мая».

«Ці не эгаіст ты, Лёша?»

«Чаму эгаіст? Ты сустракаешся са мной, але, канечне ж, будзеш жыць і з Сяргеем, калі ён вернецца. А я ўжо нават ад думкі пра гэта вар'яцею».

«А хіба табе блага быць толькі маім каханкам?»

«Добра. Але я хачу быць тваім мужам, каб ты на іншага нават не зірнула».

«Гэта, Лёшка, гавораць твае маладыя пачуцці. Калі ты болей пазнаеш мяне — не такой, якая я з табой на спатканні, а якая кожны дзень, дык ты ўбачыш: Ляля — іншая, чым ты ўяўляў. Зямная і грэшная, звычайная баба. Ты можаш потым нават зненавідзець мяне. Ужо за тое, што ты сам гэтак памыліўся, ці за тое, што я так падманула цябе, паказала табе толькі сваё лепшае, а ўсё астатняе ўтаіла...»

«Ніколі гэтага не будзе!»

«Не заракайся, Лёша. Кожны з нас не просты, а супярэчлівы чалавек, дык ніхто не можа ведаць усяго нават пра сябе загадзя... Скажу шчыра, я асцерагаюся, што мы з табой можам спрачацца больш, чым я з Сяргеем. Мы з ім абое рабое, а я, простая акушэрка, для цябе буду не раўнёю...»

«Будзеш».

Яна гаварыла так, а яму было вельмі балюча. Ён не толькі не падабаў яе гэтых развяг, а нават, як яна казала, ужо амаль ненавідзеў яе за гэтыя словы.

«Кумок мой,— бачачы гэты ягоны зніч настрою, тулілася, лашчылася Таня.— Ты ж ужо мужчына, прывыкай не столькі браць на сябе абавязкі, колькі мець ад жанчыны, ад кумы тым больш, тое, што табе трэба. Іншы на тваім месцы...»

«А я не хачу быць іншым!»

«Бо ты яшчэ зусім маладзенькі і, выбачай, крышку ашалеў ад эротыкі. Пазней і ў цябе ўсё ўвойдзе ў сваю каляіну, некалі дзякаваць мне будзеш, што я сама не дазволіла табе пачапіць мяне на тваю шыю...»

Тое, што яны сустракаліся, пачало пакрыху выплываць на паверхню. Аднойчы, ужо ўзімку, на канікулах, калі спешчаны Таніны-мі ласкамі, а заадно дадзеты, што яна не спяшаецца разводзіцца з

Сяргеем, які ўжо вярнуўся дадому з заробкаў і прывёз вялікія грошы, Аляксей клыпаў дадому, яго нагнаў каля іхняй хаты сусед, калгасны вартаўнік.

«Ну, малец! — захіхікаў, стоячы побач у валёнках, у кажусе і дацягваючыся яму ледзь да пляча.— Малады ж яшчэ, халера на цябе, але такі ранні! Гэта ж якую пару ўжо ты нашу акушэрку ціскаеш! Ну і як яна, Ляля?»

Аляксей паспрабаваў паадмаўляцца, ды дарма. Але калі нячысты на руку вартаўнік пачаў нахабна спаганяць за гэтую тайну пляшку, прыстрашваючы, што раскажа пра ўсё яго бацькам, дык пайшоў у наступ і ён: «Калі, дзядзька, толькі намякнеш, дык я перадам міліцыі, што гоніш гарэлку, і пакажу, дзе хаваеш апарат». Гэтая тайна, як лічыў ён, захавалася...

...Увесну, калі зноў заявіўся дома і зноў сабраўся вечарам выйсці з хаты, маці, якая, як і заўсёды, хораша яго сустрэла, смачна карміла, але і ўвесь час чамусьці амаль не падымала на яго вачэй, сёння запынiла:

— Куды ты пойдзеш?

— Да сяброў,— адказаў і душою адчуў: маці запытала пра гэта не проста так, як і невыпадкова не сустракаецца позіркамі.

Цяпер у яе — сярэдняга росту, мажнаватай, але гожай на загарэлы твар, з маршчынамі каля вачэй, твар жанчыны, якой было яшчэ толькі крыху за сорак,— усплыў цяжкі цень.

— Скажы яму,— павярнулася яна да высокага, плячыстага і вельмі маўклівага мужа, які сядзеў за сталом і вельмі ж ужо засяроджана падшываў свой кірзавы бот,— што яму нікуды не трэба ісці.

Ды той нават не падняў галавы.

— Нікуды не ідзі, Алёша,— маці сашчапіла рукі і зірнула на яго з мальбою ў цёплых карых вачах.

— Чаму? — схмурыўся ён, адчуваючы, што ў гэтую хвіліну ў яго расце гнеў нават на самую дарагую яму жанчыну.

— Не думай, што мы нічога не знаем. Цеперся ўсё ведаем,— нарэшце агарошыла яго тая.— Брыдка, ох як брыдка павінна быць табе, сынок!.. І зарана пачаў сталыя гулі, і радні нашай гэтакую подласць робіш!..— Не вытрымала, усхліпнула.— Каб ты такое з якой дзяўчынай учыніў, дык нам лягчэй было б. А то з замужняй! Гэта яна, Ляля гэтая, падбіла цябе... Якой ёй трасцы, ні дома, ні на рабоце не перадасць, выспіцца, смачна паесць, нафуфырыцца, дык і цягне яе на любошчы...— І бачачы, што яе словы не даходзяць да яго, у адчаі ўжо закрычала на мужа: — Ды падымі ты галаў, скажы яму, свайму сыну, каб не лез у чужую сям'ю, не няславіў сябе і нас!

Бацька пакінуў сваю работу, але пахмурна зірнуў убок і цяжка ўздыхнуў.

— Я люблю яе,— зацята насуперак маці сказаў Аляксей.— Праз год які мы пажэнімся.

— Не ажэнішся, каб і хацеў!— маці расшчапіла рукі і выкінула адну з іх на яго, выпрастаўшы ўказальны палец. Нібы прысуд вымавіла.

— Ажанюся,— настойліва, мабыць, пабялеўшы, сказаў Аляксей. — Мне ўжо васемнаццаць, і я сам буду рашаць за сябе. Я люблю яе, а яна любіць мяне. А што яна мае дзіця, не бяда.

— А я табе кажу: не ажэнішся з ёю! Ніколі! — затрэсла кулаком раптоўна збялелая маці.— Яна, твая гэтая Ляля, ведаеш хто? Яна — кошка! Памаўзлівая кошка!

— Мама, як вы, жанчына, можаце гаварыць такое на жанчыну, якую кахае ваш сын? — ён, мусіць, ужо жорстка прыплюшчыў вочы і пазіраў на маці зусім не ласкава.

— Не раўняй яе са мною! — маці не адступілася ад свайго.— Я з тваім бацькам жыву ўжо звыш дваццаці гадоў, але за гэты час ні на аднаго чужога мужчыну не зірнула, не падумала ніколі і не падумаю, каб... Ты ж, дурань даверлівы ведай, што гэтая Ляля не столькі кахае, колькі жадае... Спадабаўся ёй хто — дык яна, надта не задумваючыся, пад яго... Не было мужа — да цябе падкацілася, не было цябе — замарцавала з другім! З новым нашым старшынёй калгаса. Ідзі, ідзі, на свае вочы ўбач: можа, і цяпер з ім качаецца ў амбулаторыі на софцы, а то і на падлозе! Ці паехала кудысьці на старшынёўскім «козліку!»

Аляксей ажно разявіў рот і не тое, што больш нічога не мог сказаць, нават не мог нічога падумаць: няўжо, няўжо гэта праўда? Таня, якая дала яму столькі ласкі і пяшчоты, сказала столькі мілых слоў і якой ён аддаў столькі сваёй душы, здрадзіла яму? Ён ужо, канечне ж, зусім змяніўся ў твары, бо маці з вялікім болем на сэрцы прыпала да яго:

— Мы ж, сыночак, не супраць, што ты ўлюбіўся. Дзякуй Богу, так і трэба. Але ж сэрца тваё маладзенькае палюбіла замужнюю і распусную! Няхай бы яно, сляпое, захапілася Веркай ці Даротаю! Яны абедзве, як кажуць у вёсцы, хацелі з табой дружыць. Харошыя дзяўчаты, а ты імі пагрэбаваў. Дарота сказала мне, што не хоча цяпер нават бачыць цябе, а Верка, думаю, згадзілася б з табой таварышкаваць, бо на днях ледзь не з плачам сказала мне: «Ваш Аляксей, цёця, мяне не любіць. Ён Лялю кахае».

...Сустрэўся Аляксей з Таняй перад ад'ездам у горад. Сам зайшоў у амбулаторыю. Удзень, калі Таня збіралася ісці дамоў палуднаваць і

ніхто іншы не мог зайсці. Яна стаяла каля люстэрка ў туфліках, кароткай спаднічцы, у новенькай куртачцы і ў заліхвацкім капялюшыку і сёння, бадай, як ніколі, мілая сваёй мініяцюрнасцю і грацыёзнасцю. Яна як трымала каля вуснаў памаду, так і запыніла руку, зірнула на яго і радасна, і вінавата ды сарамліва. Яму ж проста жах было ўяўляць, што яна, голая, стройная і моцная, стагнала ў абдымках на гадоў дзесяць старэйшага, жывацістага і нахабнавокага, з юрлівым масляным бляскам у невялікіх вочках старшыні і, як яму, у асабліва слодычныя хвіліны шаптала-крычала, што ён ёй любы і жаданы!

— Здароў, Лёшка,— Таня павіталася першая, хацела падысці, узяць яго за рукі, але, мабыць, яе стрымліваў яго адмысловы позірк.— Які дзень дома, а ні разу не зайшоў! Я і чакала, і каля вашых акон наўмысна праходжвалася!

— Бачыў,— упершыню за апошнія часы ён не абняў і не пацалаваў яе.— І сюды прыходзіў. Учора. У наш час. Ты была тут, але амбулаторыя была замкнёная.

Жывыя яе вочы зніякавелі:

— Я не была тады тут.

— Была, Таня. Бачыў, як ты з ім выходзіла адгэтуль...

Яна залыпала вейкамі, закусала вусны, успыхваючы чырванню:

— Лёшка, я патлумачу...

— Не трэба,— зусім без хвалявання, спакойна і холадна сказаў ён.— Я ніколі не чакаў такога ад цябе. Каб ты шчыра сказала, што не хочаш ці не можаш больш са мной сустракацца, дык мне было б лягчэй. Але ты абманваеш мяне.

— Даруй,— яна ступіла, прытуліла галаву да яго грудзіны. Але ён не падняў рук, каб прыгарнуць яе.— Выйшла так. Нават сама не ведаю, як і чаму... Ён выпіўкай, а потым сілай разгарачыў і ўзяў мяне... А табе я казала ж, каб ты не зусім ужо сур'ёзна адносіўся да нашай блізкасці, каб болей меў яе за раман з замужняй жанчынаю, якая нічога ад цябе не патрабуе...

— І яму ты лісток з лічбамі дала?

Таня ажно сцепанулася ад удару, што ён, мусіць, неміласэрна нанёс ёй.

— Кажы толькі праўду!

— А што мне застаецца рабіць?

— Сволач! — ён з усяе сілы штурхнуў яе ад сябе, што яна кулем паляцела на канапку, упала на яе, але не падхапілася, тыцнулася тварам у падушачку.

Бачачы, як уздрыгваюць яе плечыкі, у якой яна роспачы, ён адчуў, што гнеў, крыўда адыходзяць, а замест іх паволі наплывае

спачуванне. Яшчэ хвіліна-другая — і ён кінецца, стане перад ёй, графіняй ці каралевай, на калені, а яна зможа не толькі апраўдацца, але павярнуць усё на сваё, напасці і зрабіць ва ўсім вінаватым яго. Ён упершыню адчуў, што гэта за сіла, калі жанчына каецца і плача.

— Лёша, я... Ненавіджу сябе... Каб ты быў не хлапчук ці нікуды не ад'язджаў...

Пераломваючы сябе, Аляксей борздка падаўся з амбулаторыі і ў той жа вечар паехаў з вёскі, каб з'явіцца дома толькі ўвосень, пасля таго, калі вернецца са студэнцкай паездкі на цаліну.

Як уведаў, Таня не перастала гуляць са старшынёй калгаса, у яе сям'і — кожны дзень сварка ці бойка. Самалюбны, Аляксей ужо нават не набліжаўся да амбулаторыі; сустрэўся з Таняй міжволі, калі сама яна — у беленькай блузцы з заліхвацкім сінім банцікам на грудзіне, у белым прыталеным касцюмчыку, што хораша паўніў яе, з жвавым, крышку сарамлівым, ад таго і прываблівым позіркам у вачах, спакусна кволая і ў той жа час моцная — падышла да яго на аўтобусным прыпынку і, дыхнуўшы пахам добрага віна, шапнула яму на вуха: «Ляля аддае сваё цела іншым, але душа яе з табою! Ды страчанага не вернеш і не паўторыш!..»

Тое ж мог сказаць ёй і ён, але не прамовіў.

1995

## МАЕ «ЎЦЁКІ» АД ЛЕАНІЛЫ

*З расказу Янкі Д.*

Леанілу ў нашу вёску прывёз Уладзя Емельяновіч.

З усіх сяброў і знаёмых, калі быў я падлеткам, мне найбольш падабаўся якраз ён, Уладзік,— на некалькі гадоў старэйшы, гонкі, увішны і дужы, вабны хлапечай ці, лепш сказаць дзявочай, прыгажосцю, дзёрзкі і зухаваты. Мы жылі па суседстве, добра ладзілі сем'ямі, а я з Уладзікам, хоць былі не аднаго ўзросту, разам гулялі, пасвілі каровы, лавілі рыбу, хадзілі ў грыбы: як пазней зразумеў, ён, маючы верхаводскі характар, любіў камандаваць і апекаваць мяне, а я цягнуўся да яго як да старэйшага і прызнанага вадзілы ўсіх вясковых падшыванцаў. Калі трэба было, Уладзік мог пусціць у ход кулакі і надаваць нават старэйшым. І яшчэ тое-сёе ўмеў ён, што нікому з нас гэтак добра не ўдавалася: смела размаўляць са сталымі, на жарты і кепікі адказваць амаль кпінамі, дзёрзка і зухавата паводзіцца з дзяўчатамі, хораша спяваць, танцаваць і свістаць. Свістам ён мог перадаць любую, толькі адзін раз пачутую, мелодыю. Усім гэтым, як казаў яго бацька, ён удаўся ў дзядзьку-шалапута па матчынай лініі

(той пасля вайны з Нямеччыны падаўся ў Аўстралію, з яе перабраўся ў ЗША, з іх — у Аргенціну, а пасля, не ўладкаваўшыся ці прагнучы новых прыгод, ягоныя шляхі-дарогі павялі ў Афрыку, дзе ён згубіўся, дзе, як плакал і яго маці і сестры, «яго з'елі львы альбо чорныя людзі-людаеды»). Уладзікавы сестры былі зусім іншыя па характары, спакойныя, нават маўклівыя і дбайна працавітыя, як і бацька. Пасля, калі выйшлі замуж, усе яны сталі добрымі жонкамі і гаспадынямі.

Пасля васьмігодкі Уладзік пакінуў вёску, паехаў вучыцца ў Барысаў на трактарыста. Спачатку ён часта пісаў мне, але потым пачаў дасылаць лісты ўсё радзей, а на канвертах былі ўсё новыя адрасы: ён пакінуў барысаўскае вучылішча (казалі, яго выгналі адтуль за бойку з гарадскімі, што хацелі верхаводзіць у сваім квартале і найперш на танцах), затым ён падахвоціўся налаўчыцца на электрыка, а пазней штосьці пацягнула яго ў Эстонію, адтуль — у Карэлію, з яе — у Цюмень, а неўзабаве ён апынуўся ўжо на Далёкім Усход'зе сярод рыбаловаў. Дамоў заявіўся толькі праз некалькі гадоў, калі я ўжо заканчваў дзесяцігодку, быў, як жартуюць, ледзь «не первым парнем на деревне».

Не толькі я адзін, але, бадай, усе з нашай вёскі, хто ў той час тупаў ужо сваімі нагамі, помняць тое незвычайнае для ціхага, сціплага, усё яшчэ набожнага налібацкага кутка імгненне, калі Уладзік прыехаў у нашы Янкавіны. Вялікая навіна была для ўсіх іх, калі хто вяртаўся з бежанцаў ці з Нямеччыны, з высылкі альбо з новага савецкага войска, з заробкаў або з горада, куды нямала каго падалося пасля вайны будаваць новыя заводы і там яны пачалі сямеіцца з праваслаўнымі, а то нават і з людзьмі іншай веры, але Уладзік здзівіў і ашаламіў вёску больш за ўсіх: хоць ужо хадзіў са Стоўбцаў аўтобус, ды мой сусед прыкаціў з раёна на таксі. Праўда, перад першай вясковай хатаю выйшаў з «Волгі», нібы падаючы свой знак, засвістаўзаліўся салаўём, дык, канечне ж, не мог застацца незаўважаным — цяпер, зімою, у нябачаных дагэтуль у вёсцы бела-шэрых мехавых, з аленевай скуры ботах, у расшпіленым светла-шэрым сабаліным футры і агромністай чорнай валасістай шапцы,— крочыў як багаты сібірскі купец. Побач з ім клыпаў ніжэйшы і зусім сціпла апрануты чарнамазы дзяцюк, які ўслед за салаўіным свістам забрынькаў на гітары.

Уладзік нёс вялікі белы пакет з чырвонай паўаголенай жанчынаю, даставаў з яго адкаркаваную пляшку і кожнаму першаму-сустрэчнаму мужчыну наліваў у белую шклянкупакецік пітва, жанчынам і дзецям насыпаў у прыгаршчы цукерак. Калі пітво заканчвалася, бутэльку шпурляў пад плот і з пакета браў іншую, поўную: «Угощаю, пей!»

Я згледзеў гэтую абкружаную нашымі вяскоўцамі працэсію, калі яна запынілася каля Емельяновічавых варот і кал і Уладзікаў прыяцель асабліва гучна загітарыў. Убачыўшы мяне, Уладзік махнуў мне рукой і гукнуў ужо не панашаму, па-вясковаму, а па-гарадскому:

— Ванюша, ходь сюда!

Калі я падышоў, ён — амаль ранейшага сярэдняга росту, толькі паплячэлы, яшчэ болей прыгожы і з дзёрзкасцю ды зухаватасцю ў карых вачах — нязвычна для вясковых мужчын абняў і пацалаваў мяне, абдаўшы і перабрmicoджаным пахам выпіўкі, і водарам дарагога адэкалону.

Сына выбегла сустракаць толькі Емельяновічыха. Яе муж, як я потым уведаў, убачыў, якім чынам заявіўся дома сын, але з хаты насустрач не выбег, стаяў узбоч каля завешанага фіранкай акна і за ўсім назіраў.

— Здравствуй, маманя!— аблапіў і маці Уладзік.— Кто сказал, что земля имеет форму чемодана?! Прикотил вот к вам собственной персоной! Это мой друг — Рафиль, а там,— паказаў на доўгую белую машыну,— моя юная жена! Леонила!

Емельяновічыха — у абсыпаных мякінаю валенках і ў паношаных паўсачку, у хусце-канаплянцы, буйнарысая на загарэлым і цяпер, зімою, твары — ажно вырачыла вочы ад стольkіх навін, што адразу абваліліся на яе. Яна і я павярнулі галовы на легкавік: сапраўды, там, на пярэднім сядзенні, побач з шаферам, сарамліва і вінавата прымасцілася дзяўчо. Калі Уладзік выцягнуў яе з таксі — высакаватую, у кароценькіх, з апушанымі мехам чорных боціках, стройную, у блакітнай куртачцы і чорнай кепачцы, зусім яшчэ маладзенькую. Емельяновічыха не паверыла:

— Гэта, сын, можа, сястра твайго кулегі?

Нават на першы позірк было відаць: гэтая Леаніла — «наша», а вось вузкавокі, з шырокімі сківіцамі чарнявы Рафіль — чалавек «не з нашага боку», «здалёку», што і пацвердзіў Уладзік:

— Не, маманя. Она — моя законная жена. Брак наш зарегистрирован, о чем имеется соответствующий документ.

Леаніла, здаецца, была майго ўзросту, можа, самае вялікае толькі на год старэйшая. Емельяновічыха не кінулася, не павітала яе так, як трэба сустракаць жаданую нявестку, яшчэ раз зірнула на дзяўчо, як на штосьці зусім нечаканае і неверагоднае, а пасля запрасіла ўсіх у дом.

Калі там Уладзік кінуўся вітацца з «папанем», дык той, па-сапраўднаму рослы і плячысты, з яшчэ большымі, чым у жонкі, рысамі твару, спаважны, не даў прытуліцца да сябе свайму адзінаму сыну:

— Ну што? «Здзівіў» вёску?

— Папаня,— не вельмі збянтэжыўся той, немігатліва пазіраючы бацьку ў вочы,— кто сказал, что земля имеет форму чемодана?!

Строга-стрыманы Емельяновіч, але, бадай, аталапеў ад паводзін і чужых для янкавінцаў па духу сынавых слоў: сын — дарослы ўжо, не схопіш, не сагнеш і не апячэш яго мяккае месца сваёй далоняю! А той пераможна і нахабна скаліўся: прымайце, маўляў, мяне такога, які я ёсць! Ды я ж вам не чужы! Адзін!

Емельяновічыха — хітраватая і, бывае, для сваёй патрэбы часамі і ліслівая жанчына,— бачачы, як холадна сустрэў бацька сына, паспрабавала ўсё ўлагодзіць, паслаць мужа ў пограб па бульбу, але той так апаліў яе позіркам, што яна адскочылася і сама борздка выскачыла з хаты.

— Смотри, отец,— не разгубіўся Уладзік і, распакоўваючы клункі, пачаў даставаць з іх дарагія хусткі, кашулі, свэтры, шапкі, а таксама нямала шырокіх з прыгожымі наклейкамі і з надпісамі на замежных мовах бутэлек.— Единственный сын твой — не шалапут, не свистун, как ты думаешь, а богатый молодой человек! И это еще не всё!— І ў дадатак выклаў на стол перахопленыя паперкамі з рознакаляровымі палосамі пачкі грошай.— Здесь хватит и на мою свадьбу, и на тачку!

Емельяновіч не здзівіўся і не ўразіўся, як, да слова, я, але здаўся, утаймаваў сваю непрыязнасць да сынавых выбрыкаў.

Карацей, Емельяновічы мусілі зрабіць Уладзіку вяселле (на ім, што дагэтуль яшчэ ніколі не здаралася ў нашай вёсцы, не было бацькоў маладой: Уладзік, вяртаючыся дадому, заехаў з сябрам у смалявіцкую вёску, дзе тыя настаўнічалі, і за некалькі дзён ачмурыў іхнюю дачку, клубную бібліятэкарку, і яна паехала са спакуснікам насупраць іхняй волі). Мы, «кавалеры», як жартавалі ў вёсцы з нас такіх, як я, гэта значыць старшакласнікаў, ці тых, хто ўжо толькі што вярнуўся з вайсковай службы, цяпер пасля школы ці работы пачалі вечарамі, а нядзелямі па цэлым дні таўчыся ў ЕмельянОвічаў, дзе да ачмурэння рэзаліся ў карты, жартавалі і кпілі адзін з аднаго, але, здаецца, усе цягнуліся не толькі да Уладзікавай прыхільнасці, але па той прычыне, што тут была Леаніла, якую ў вёсцы перахрысцілі на Лёдзю.

Я тады таксама не быў зацяты сарамлівец, але ўсё роўна не мог рабіць таго, што дазвалялі сабе некаторыя іншыя. Бачачы, што іх лагодна сустракаюць Емельяновічы, а Уладзік і Леаніла-Лёдзя прагнуць нашай, маладой кампаніі, дык вось той-сёй пры першым жа зручным выпадку нападаў, ціскаў Леаніду — канечне ж, не з грэшных намераў, а з буйнасці маладых сіл, юру, нават нібы з таварысцкасці, а яна,

само па сабе зразумела, адбівалася, але не зласліва, нават весела. Я ж стрымліваўся гэтак даваць волю сваім рукам і таму, што Леаніла была жонкай майму сябру, і таму, што яна мне больш чым спадабалася, я адчуваў перад ёю, асабліва калі мы апыналіся сам-насам, незразумелае хваляванне да таго, што не мог зірнуць ёй у вочы, хоць любіў акідваць яе позіркам — русявую галоўку з праборам пасярэдзіне і з кароткімі, па танкаватую і гожую шыю, павіўкамі па абедзве скроні, нібы велаватыя, але не сонныя і не пазямныя, а ўважлівыя, запытальныя і цёплыя вочы, худаватыя плечыкі, рукі, вастраватыя грудочкі пад сукенкаю, што прыгожа звужвалася на стане,— да паясніцы яна была яшчэ кволая, юная, нібы дзяўчынка, а вось ніжэй паўшар'і клубоў і акругленасць лытачак паказвалі ў ёй ужо жанчыну. Уладзя, бывала, перахопліваў мой позірк на Леанілу, калі яна ішла стройна, легка крыху пагульваючы клубамі, і радасна ўсміхаўся-цешыўся: «Ну, Ваня, как моя зазноба? Тебе нравится? Ты желал бы иметь такую?»

Я, падлоўлены на патаемным, чырванеў, чым, здаецца, бянтэжыў і Леанілу, яна таксама пунсавелася плямінамі і намагалася менш пазіраць і размаўляць са мною, але ўсё гэта толькі пабольшвала мае жаданне чым болей побач з ёю, адчуваць нейкую страшнаватую радасць, памыснасць і яшчэ штосьці тое, што ўжо жадала мае сэрца, але чаму яшчэ супраціўляўся мой розум.

Неўзабаве пасля вяселля Уладзя падкупіў аднаго пенсіянера-інваліда, з'ездзіў з тым у сталіцу, у раён, «пагаварыў дзе трэба і з кім ды як трэба», і хутка пад свой вясёлы свіст прыгнаў дадому новенькі «Масквіч». Ды паездзіў, пафарсіў нядоўга. Нёсся аднойчы ўночы п'яны і,свішчучы, слізгануў на лёдзе і наляцеў на слуп — машыну пабіў, сам прытомнасць страціў. Яго ў час падабралі добрыя людзі, завезлі ў бальніцу, а пакалечаную і да ўсяго яшчэ кімсьці хіжым жыўцом абрабаваную машыну (з яе знялі колы, абадралі матор) пакінулі пры дарозе. Не вытрымаўшы, стары Емельяновіч папрасіў суседа-трактарыста, каб адцягнуў яе шкілет далей ад дарогі ўбок, у лес, дзе яго працягвае даядаць іржа і цяпер, праз столькі гадоў. Калі Уладзя вылечыўся і ад'язджаў з Леанілай на Далёкі Усход, Емельяновіч не вьщерпеў, даў волю свайму гневу: «Ну што, сын, адзін пшык з усяго твайго выйшаў? Адным словам, свістун ты! Не прасвішчы толькі ўсё сваё далейшае!»

«Кто сказал, что земля имеет форму чемодана?! — не нудзіўся той.— Силы есть, заработаем, все, что надо, купим!»

Уладзя паехаў без журботы, а вось, як здалося, Леаніла падалася ў далёкі свет не зусім вясёлая, з сумам і з патушаным бляскам у сваіх незвычайных вачах. Яны не падавалі знаку гады паўтара. Калі я, ужо

студэнт, аднойчы заявіўся дадому, дык уведаў: сюды, да Емельяновічаў, прыехала Леаніла з дзіцем, а наш вясёлы і бесклапотны Уладзя — у турме.

У кожны свой (тады часты) прыезд у вёску я амаль адразу ішоў да Емельяновічаў. Тыя сустракалі мяне радасна, зусім не асцерагаючыся, што я застаюся падоўгу з іхняй нявесткаю сам-насам, нават падахвочвалі: «Добра, Яначак, што ты зайшоў, раскажы Лёдзі пра гарадскія навіны, а то яна замаркоцілася тут»; ветла, нават таксама з радасцю вітала мяне Леаніла, была жвавая, гаваркая, з усмешкай, што харашыла яе і так папрыгажэлую пасля родаў: яе ногі яшчэ болей акругліліся, паўшар'і клубоў яшчэ болей папаўнелі, грудзі пабуйнелі, рукі, асабліва вышэй локцяў, не толькі пагладчэлі, але нібы іх падправіў, аграцыёзіў таленавіты майстра, плечы папакацелі, а стан, што заставаўся амаль без змен, сваёй вузкасцю яшчэ болей ажаночыў яе постаць. Нельга было не ўразіцца, як хутка дзяўчо пераўтварылася ў жанчыну. Да ўсяго я часта мімаходзь бачыў яе то аголенае вышэй калена таямніча і чароўна белае і прыцягальнае сцягно, то больш чым звычайна, расшпілены зверху халат, калі ў яго разрэзе проста зіхацела млечная белізна палавінак бачных са станіка тугіх грудзей, часта лавіў, узрушваўся ад яе то млява-тамлівага, то поклічнага, то ўсмешлівага альбо насмешлівага позірку, а то, бывала, быў сведкам яе задуменнасці і слёз ці, наадварот, бляску ў яе вачах, быццам выпадковых сяброўскіх прытульванняў...

Адным словам, на мае юнае сэрца абрушылася яшчэ большая лавіна жаночых чар, што я пачаў разгубліваццa і ад іх, і ад таго, што часамі не толькі займала, але паланіла мой розум, калі мяне пад'юджвала ўжо схапіць Леанілу, сціснуць яе ў абдымках, а потым кульнуць на ложак, што чамусьці заўсёды гэтак блізка каля нас, і захлынуцца ў пацалунку... Ды нейкая магутная сіла стрымлівала мяне ад гэтага, у кожны мой новы прыезд — а яны былі найперш з-за яе, Леанілы — я не мог даць сабе волі. Можа, і таму, што, яшчэ не маючы нічога сур'ёзнага з дзяўчатамі, не мог разабрацца ў жаночай душы, баяўся свайго апошняга рашучага кроку і Леанілінага пратэсту. Нават як след не ацаніў, не перадумаў і не пераінначыўся пасля таго, калі аднойчы ўбачыў: я выходжу з іхняга двара, а Леаніла праз акно пазірае мне ўслед, а калі згледзела, што я гэта заўважаю, мітнулася ўбок...

Неяк на маіх зімовых канікулах пры праводзінах увечар у Емельяновічавых сенцах я спачатку блізенька адчуў Леаніліна дыханне, пасля яе імклівы пацалунак у шчаку, а затым змоўніцкі шэпт: «Давай заўтра сходзім у кіно, добра?» — «Добра»,— шэптам адказаў я.

Не скажу, што не ўс хвал я вал а мяне тое, што Леаніла парыўча прытулілася, пацалавала і запрасіла пабыць удваіх у нашым клубе, але я ў той вечар яшчэ не перабольшыў усяш гэтага, лалічыў, што яна не столькі хоча адлучыцца з дому са мною, колькі жадае паглядзець фільм, на які прыйдзе нямала люду, і яна стараецца трапіць туды не адна, а з мужавым сябрам.

Хоць ужо нястрымна наступала эпоха тэлевізара і ў вёсцы, але яшчэ тады, у хрушчоўскія часы, не толькі дзеці, моладзь, але і пажылыя людзі, прагнучы відовішчаў, прыходзілі раз у тыдзень у клуб, куды кінамеханік з суседняй вес к і (які, між іншым, часта прыязджаў да мяне да хаты, каб пагаварыць пра навінкі беларускай літаратуры) прывозіў заляжалы ў сталіцы і ў вобласці кіношны друз — больш чым прасцяцкія фільмы пра шпіёнаў. А калі ён вывешваў афішы, што будзе індыйскае кіно, дык тады прывальвалі на яго I жанчыны, каб пад бясконцае мноства песень і танцаў пацешыцца каханнем маладых Яго і Яе, уволю наплакацца, калі зло разлучала тых і хтосьці з іх трапляў у вялікую бяду, а ўрэшце высушыць слёзы і парадавацца, што Яго і Яе ўсё ж знайшло вялікае шчасце.

Вось і мы з Леанілай прыйшлі ў клуб на індыйскі фільм, селі побач. Калі фільмовыя юныя героі сустрэліся, пакахалі адно аднаго, танцавалі вакол дрэў, прыгожых кветак, фанта на ў і спявалі вясёлыя песні, Леаніла, як бачыў, ціхенька, але з бляскам у вачах сузірала, адказвала ласкавай усмешкаю на мой позірк, а калі быў які смешны момант, то яна, разняволена смеючыся, знаёма прытульвалася да мяне плечуком ці каленам, а пасля, кал і багаты бацька героя забараніў сыну бачыцца з беднаю любімай і тая пачала выцерпліваць нястачы і жахлівыя напасці, не проста плакаць, але ліць слёзы ды галасіць паснямі, Леаніла таксама ціха заплакала, а затым схапіла і моцна сціснула пальцы маёй рукі ў адчайным парыве, нібы я мог памагчы той герайіі. Я не так глыбока, як яна, захваляваўся ад той любоўнай гісторыі, дык усміхнуўся ад такой чуллівасці маёй суседкі; кал і героі, вытрымаўшы расстанне і розныя беды, зноў сустрэліся, ажылі, зноў радасна і шчасліва закружыліся ды заліліся песнямі, калі па клубе пайшоў подых палёгкі, Леаніла, нібы апомніўшыся, аслабіла поціск, нават, здаецца, засаромелася, хацела адпусціць мае пальцы, але цяпер ужо я сціснуў яе руку і адчуў, што тая ўздрыгнула. Павагаўшыся, Леаніла не адабрала сваёй рукі, а яшчэ праз хвіліну неяк міжволі нашы рую апынуліся далонь у далонь, а пальцы спляліся. Ад гэтага адразу ж па целе пабегла маладая гарачыня, і мы сцішыліся ад яе, гэтай хвалюючай і елодычнай гарачыні ды, мабыць, ад хмелю, што шыбнуў у галаву.

З клуба ішлі па цёмнай вуліцы спачатку ў гаманкім гурце, а потым удваіх моўчкі.

— Янік,— першая падала голас Леаніла,— ты не павінен больш да нас прыходзіць...

Я ад такой нечаканасці ажно анямеў: што — я яе пакрыўдзіў? Але ж яна першая схапіла мяне за руку, а пасля лашчыла яе!

— Чуеш?

— Чую,— ледзь чутна адказаў я.

— Ты хочаш ведаць, чаму я такое гавару?

— Хачу.

— Учора ўвечар свякроў шаптала свёкру на вуха, што ты не ходзіш ні да адной дзяўчыны ў вёсцы, што мы, абое маладыя і пагляд-ныя, падоўгу бываем адны...

— Няўжо яны кепска думаюць пра нас? — і здзівіўся, і пыхнуў маладым сорамам я.

— Бачыш, усякае пачынаюць думаць... Скажы,— здаецца папрасіла Леаніла,— а ў Мінску ты маеш дзяўчыну?

— Не.

— Калі ласка, скажы праўду.

— Праўда, я яшчэ ні з кім не падружыўся.

— Хіба няма прыгожых студэнтак, гараджанак?

— Ёсць, але я яшчэ нікога не выбраў.

— А мяне ты хочаш бачыць?

Я змаўчаў.

— Прашу, адкажы.

— Хачу,— з хваляваннем прызнаўся я.

— Як сябраву жонку ці найперш як маладую жанчыну?

Яна, не чуючы май го адказу, зноў запытала, ужо нібы са скрухаю:

— Ты не хочаш пагаварыць са мной шчыра?

Я мог запытаць, а на што нам гэтая шчырасць, але не змог вымавіць такое.

— Ты мне верыш?

— Веру.

— Дык чаму тады замаўкаеш, ясна не адказваеш пра тое, пра што я пытаю? — Леаніла зноў і зноў была смялейшая за мяне.

«Не магу,— было ў мяне на языку, але так з яго і не сарвалася,— бо мне трэба нават на страх самому сабе прызнацца: «Я цябе кахаю», «Я цябе хачу». Але як такое сказаць, калі на гэта не маю ніякага права! Нават больш — гэта будзе маім ударам Уладзю ў спіну!»

— Усё ж адкажы,— зноў папрасіла яна,— ты хочаш бачыцца са мною?

— Хачу.

— Сам-насам?

— І сам-насам.

— І я хачу,— прамовіла і вось цяпер, здаецца, яе голас уздрыгнуў.— Нам, Янік, трэба пагаварыць. Пра таемнае. Пра тое, пра што ніхто не павінен ведаць, што павінна быць вядомае толькі табе і мне... Цяпер мы не можам запыніцца ці збочыць куды. У вёсцы і ў ночы не толькі вокны, але і сцены ўсё бачаць. Выйдзі заўтра, як сцямнее, і чакай мяне за вашым гумном. Добра?

— Добра.

— Ну, а цяпер спакойнай табе ночы,— прамовіла ўжо спакойна.— Не думай толькі пра мяне дрэнна, бо я думаю пра цябе добра.

Каля нашых варот Леаніла злавіла, на міг пацiснула маю руку і шпарка закрочыла да сваёй сядзібы.

Зразумела, ніякай спакойнай ночы тады для мяне не было. Дзе там! У галаве, здаецца, ажно віравала: што хоча пачуць ад мяне і сама сказаць Леаніла? Што яна не кахае Уладзю, але, спакушаная, вымушана была ісці за яго замуж? І што? Пакахала мяне? Калі так, дык што мне, Уладзеваму сябру, рабіць? Не зважаць на гэта, зажыць з Леанілаю? Але як яна можа жадаць гэтага? Каб было ўсё ўпотай? Ці яна, можа, хоча, каб я яе ўзяў замуж? Але ж я — яшчэ студэнт-першакурснік...

Я так і не звёў у тую ноч вачэй, пакутуючы пра тое, што для мяне «трэба» ці «нельга», «непрыстойна», а назаўтра, нядзельнай раніцаю, нічога не прыдумаў лепшага, як на здзіўленне бацькам хуценька сабраць сумку і марсянуць на першы аўтобус, каб уцячы ад няпростай размовы (і не толькі ад яе) з Леанілаю і каб ужо доўга не прыязджаць дадому.. Не, супакаення мне не было і ў студэнцкай мітусні: пякла прыкрасць, што я ўсё ж маладушлівы, а то і падманшчык, магу штосьці дакляраваць блізкаму чалавеку і парушыць сваё слова. Збаяўся нават паслухаць Леанілу: яна, можа, шчыра верыць якраз мне, іменна са мною хацела пагаварыць пра тое, што ёй баліць, пра тое-сёе параіцца. Можа, ёй трэба не тое, пра што ўспламянілася мае хлапечае ўяўленне, чаго патаемна, баючыся сам сябе, хачу ад яе я? Заадно хваляванне, самадакор пабольшылі смутак, Прагу кахання і пазнання жанчыны. Прызнаюся, якраз ад той буры ў душы я тады напісаў першае сваё апавяданне «Дзе ты, мая Гражына?», што надрукавалі ў нашай факультэцкай насценнай газеце і што прынесла мне славу «пісьменніка» ад адных і выклікала ўхмылкі, здзечыкі іншых.

Дадому наведаўся я толькі праз месяцы тры, калі бацькі не раз і не два прысылалі мне занепакоеныя лісты, а затым пазванілі ў дэканат з трывогаю, што здарылася з іхнім сынам, ці жывы хоць ён, за што, за няўвагу да бацькоў, мяне добра адчытаў наш дэкан, павучаючы, што я, калі думаю стаць пісьменнікам, павінен найперш любіць родны дом. Калі я, вінаваты цюцька, заявіўся дахаты, дык да Емельяновічаў не пайшоў, увогуле з дому амаль не выходзіў, але з Леанілай сустрэчы ўсё роўна не змог пазбегчы. Калі з поўнай сумкаю выйшаў праз некалькі дзён падавацца на аўтобусны прыпынак, дык амаль нос у нос сутыкнуўся з ёю — яна ў адной руцэ несла загорнутае дзіця, у другой — валізу. Мусіў павітацца, узяць з яе рук цяжар і разам ісці адной дарогаю. І без запытання было ясна: калі свёкар і свякроў Леанілу не праводзілі, значыць, яны пасварыліся, і нявестка пакідае іх, едзе да сваіх бацькоў.

— І сёння хацеў уцячы ад мяне, страшнай і паганай? — паколькі ішлі па вуліцы сам-насам, пакпіла Леаніла.

Мне, канечне, было няёмка, я хацеў неяк апраўдацца, а то і, скажу шчыра, зманіць, але не мог, дык толькі блазнавата ўсміхнуўся — з-за таго, што мяне зразумелі ці залавілі на месцы на чымсьці не вельмі прыемным. У аўтобусе мы селі разам на першае сядзенне; улагодзіўшы дачку на сон, Леаніла прыязна ўжо ўсміхнулася:

— Прызнайся, каго ты збаяўся? Мяне? Уладзю?

— Сябе,— прызнаўся.

— Дзівак ты,— сказала напаўголас.— Я ж кожную суботу вочы прагледжвала, стоячы каля акна: прыехаў ты ці не? Хоць ты, можа, думаеш, што я хачу пакінуць свайго свістуна і пачапіцца табе на шыю з дзіцем?

Я сумеўся і ад яе пільна-пяшчотнага позірку, і ад гэтага шчырага запытання: Леаніла разгадала ўсе мае мітрэнгі, я перад ёй нібы хлапчук.

— Я аж заплакала, калі тады прыйшла за ваша гумно, а цябе няма... Не захацеў яшчэ ўбачыцца, паслухаць мяне. Я хацела табе, толькі табе расказаць пра ўсё, што на маёй душы! Каб ты ўзяў маю руку ў сваю і, апусціўшы сарамліва вочы, як ты гэта ўмееш, слухаў! Але ты збаяўся... сябе... Чаму?

— Я разгубіўся...— прызнаўся я шчыра.

— Дык хіба нам не трэба пагаварыць? — Леаніла ўзяла маю руку і, сплёўшы са сваёй, зноў, як у клубе, запяшчоціла маю далонь, зноў раздзьмухваючы гарачыню ў крыві.— Свістун нам, Янік, ніякая не замінка... Я памылілася, бяздумна захапілася, што ён прыгожы, вясёлы, добра спявае і свішча: свістун ёсць свістун, цікавы, але пусты

чалавек. Яго зухаватасць не дасць добрай долі ні яму самому, ні яго родным і блізкім, а рана-позна не толькі прывядзе яго ў турму, але і зусім звядзе са свету. Але я ўжо адчула, што такое — кахаць...—І яна яшчэ пяшчотней загуляла па маёй далоні сваімі пальцамі.

Не толькі нашы рукі, але ўсім целам мы ажно затрышчэлі ад успламянёнага жадання. А калі я падняў галаву і зірнуў Леаніле ў вочы, дык у іх, нібы прымлелых, убачыў мальбу.

— Калі ты дасі слова, што прыйдзеш на сустрэчу, дык я праз тыдні два вярнуся,— прашаптала яна.

— Даю,— прашаптаў і я, таксама, мабыць, умольна пазіраючы ў яе вочы.

— Ты толькі не бойся,— па-змоўніцку запэўніла яна.— Я нічога благога не замышляю. Ты ж такі харошы, сціплы, добры, дык і я хачу быць з табой людскай...

«Гэта і ёсць прызнанне ў каханні?» — я запытаў гэта не словамі, а позіркам і поціскам-ласкаю рукі. Яна адказала мне тым жа.

— І ведай: калі ёсць сапраўднае каханне, страсць, дык для іх не павінна быць ніякіх перашкод! Найперш з-за гэтага, хоць з-за аднаго іхняга мігу, хочацца жыць і з-за яго нават не страшна памерці альбо загінуць! Павер, я — не вар'ятка, а жывы, з цела і душы чалавек! Жанчына! І яна, грэшная, не можа жыць без каханага і кахання! І яшчэ запомні: вагаешся, пакутуеш сам — прыносіш тое і іншаму! Дык трэба быць смелым і ўсё рашаць самому! Вось чаму свістуны хапаюць, маюць больш, чым людзі сціплыя і сарамлівыя, тыя бяруць усё на хаду!

У Мінску я, і пры людзях упершыню пацалаваўшыся з Леанілай, пасадзіў яе на цягнік, а потым, закаханы і каханы жанчынаю, як сам не свой пяшком ішоў з вакзала ў студэнцкі інтэрнат на Паркавай магістралі, сустракаў знаёмых хлопцаў і дзяўчат, але не бачыў *нікога*! Як і дакляраваў Леаніле, пасля гэтага дадому ездзіў кожны тыдзень; Леанілы аднак чамусьці не было, дык мы не маглі сустрэцца. Я і засмучаўся, і радаваўся гэтаму: перадумаўшы ўсё, рашыў: нельга мне здраджваць Уладзю. Некалі я лічыў яго не толькі сваім сябрам, але і кумірам, хацеў ва ўсім быць падобным на яго,— дык вось такому, часамі самаўлюбёнаму ганарліўцу і жорсткаму крыўдзіцелю слабейшых целам і духам, можна было б наставіць рогі,— але цяпер я спакваля ўсвядоміў: Уладзя, якому я зайздросціў і зайздрошчу, мабыць, вялікі нешчаслівец, як кажа Леаніла, чалавек з трагічнаю доляй. Такога падмануць, аблапошыць — грэх, нават і тады, кал і яго жанчына кахае цябе, а ты кахаеш яе. З-за такіх вось думак я зноў кінуўся ва ўцёкі: раней часу здаў вясенне-летнюю сесію і падаўся, як мы,

тадышнія, казалі, на студэнцкую будоўлю, на щипну, у Казахстан (дарэчы, там я нямала чаш пазнаў: не толькі нечакана пацiскаў ахвочую да любошчаў аднаатраднiцу, ад якой пасля ледзь выкруцiўся, але i пачуў ад старых насельнiкаў пасёлка сапраўдную гiсторыю гiбелi Чапаева, а седзячы на беразе ракi, дзе той утапiўся, неспадзявана. Падумаў, што Чапаеў — герой, але герой фальшывы: ён, як i iншыя героi грамадзянскай вайны, якiмi нас вучылi захапляцца ў школе, ваявалi ее столькi супраць замежных захопнiкаў, колькi супраць свайго народа! Значыць, будзь i ты такi — I табе будзе фальшывая слава! Значыць, сiстэма наша на фальшы!).

Калi ў канцы жнiўня я вярнуўся i заявiўся ў бацькоў, то ўведаў: ужо, раней часу, выйшаў на волю Уладзя (з пераламанымi ў турме касцямi i з гастрытам), забраў ад цесця Леанiлу, але яны цяпер жывуць ужо не ў Емельяновiчаў, а ў суседняй вёсцы, дзе Уладзю далi работу на трактары i кватэру, а Леанiлу ўладкавалi на працу ў дзiцячы садзiк. Леанiла, сказалi мне, «ходзiць другiм дзiцем».

Пачуўшы гэта, я зараўнаваў, пакрыўдзiўся i нават абурыўся на Леанiлу i, канечне ж, да iх не зазiрнуў. Пазней пачаў збліжацца са сваёй аднакурснiцай, але неяк няўпэўнена, не горача i не страсна, дык упусцiў яе, а затым заляцаўся то да адной, то да iншай, але i з iмi нiчога ў мяне не выйшла. А калi закончыў вучобу i трапiў у газету, дык зусiм нечакана нават для самога сябе ажанiўся са старэйшай на гады два карэктаркай, толькi пазней, з гадамi, разабраўшыся, што мне, дзякуй Богу, трапiлася не такая ўжо благая дзяўчына: не было i, бадай, няма нараканняў на яе як на жонку i мацi маiх дзяцей. Праўда, калi час ад часу ехаў дадому i адтуль на аўтобусе, праязджаючы вёску, дзе жылi Уладзя i Леанiла, дык не мог не затрымцець маладым, няспоўненым пачуццём...

...Убачылiся мы з Леанiлай ужо тады, калi i мне было ўжо за трыццаць. Хоць я даўно ўжо жыў у горадзе, прызвычаiўся бадзяцца па рэдакцыях i выдавецтвах, сядзець альбо часам i самому верзцi лухту на доўгiх сходах, весцi запаўночныя «кухонныя» размовы, тады-сяды выязджаць i далей Баранавiч ды Маладзечна, грэцца пад паўднёвым сонцам i купацца ў моры,— адным словам, па крысе ўжо а б i а раджа и i ўс я, але ўсё роўна мая сялянская душа ныла па вёсцы, i я тады, не меўшы яшчэ дачы, часта прыязджаў да бацькоў, каб памагчы iм садзiць i выбiраць бульбу, касiць, рэзаць i калоць дровы.

Тады, улетку, я прыехаў сенакоснай часiнаю. Паколькi я меўся дзень-два памахаць касою i яшчэ дзень-два граблямi, але ўправiлiся мы хутчэй (бацькавую дзялку перад маiм прыездам спляжылi

касілкаю), дык я займеў вольны час, таму рашыў крыху палайдачыць каля нашай рэчкі, а то і з'ездзіць на Кромань.

Калі ўвечар я па матчынай просьбе вёз на веласіпедзе малако, смятану і яйкі маёй замужняй сястры ў суседнюю вёску, то ехаў з хвалюючым прадчуваннем: сёння там убачу Леаніду. Канечне, мы ўсміхнемся адно аднаму, з жартам успомнім наш дзіўны «раман», пахітаем галовамі: «Ах, юнацтва, юнацтва!» і разы даемся, як разыходзіліся дагэтуль, каб кожнаму далей жыць сваім жыццём.

Я абгледзеў сестрыну кватэру, гарод, прыбудовы (сястра перабралася сюды нядаўна), пасядзеў крыху за стал ом, выпіўшы пару чарак, а пасля, калі прыцямнела, сабраўся ехаць дадому. Сястра выйшла праводзіць мяне, і мы, размаўляючы, вулачкай ішлі да блізкай шашы, за якой жылі Леаніда і Уладзя. Значыць, калі я сам не зайду да іх, то мы не сустрэнемся, нрадчуванне мае было ўяўнае. Канечне, заходзіць туды я не меўся, але лес ёсць лес: толькі мы з сястрой запыніліся на шашы, толькі сястра пажадала мне ўсяго добрага і пачала прасіць, каб я заязджаў да яе з жонкай і дачкой, як з суседняй вулачкі выйшла жанчына крыху вышэй сярэдняга росту і сярэдняй паўнаты, у гумоўцах, у цесным просценькім трыко і ў белай касынцы. З граблямі на плечуку. Леаніда.

— Янік! — радасна ўсклікнула яна, наблізілася і, як некалі ў Емельяновічавых сенцах, цмокнула мяне ў шчаку.— Янік!

— Вось дзе і як сустрэліся былыя суседзі! — усміхнулася сястра, у якой я нядаўна асцярожна распытваў пра Леаніду і Уладзю, дык уведаў, што «тыя жывуць як кот з сабакам: то спяць разам у адной будцы, то выдзіраюць адно аднаму вочы».

— Хадзем да нас, Янік! — загарачылася Леаніда, здаецца, цяпер на лёгкім падпітку.— Пасядзім, пагаворым. Нам жа ёсць пра што пагутарыць!..

— Цямнее ўжо, а яму ехаць на веласіпедзе без святла,— паспрабавала супыніць Леанідін парыў мая сястра.— Іншым разам зойдзе.

— Іншага разу можа і не быць! Я ведаю добра твайго брата! — паківала пальцам Леаніда і, моцна ўзяўшы мяне за локаць, змусіла пакаціць веласіпед да яе дома.

— Я прачувала, што ў нас сёння будуць госці,— радасна сказала.— І кот з раніцы мыўся, і далоні мае свярбелі! Ажно і праўда: госць! Ды які! Самы мне дарагі!

У сціплай, але дагледжанай вітальні Леаніда, як толькі ўключыла святло, прыперла кулачкамі мяне да сцяны:

— Заплюшчы вочы!

— Чаму?

— Я не хочу, каб ты бачыў мяне такой, стомленай і запыленай, паколькі я цэлы дзень грэбла, падавала на машыну сена. А цябе вось я хачу добра разгледзець.

Я не паслухаў, дык убачыў: за гэтыя гады яна, як і трэба, пасталела, яшчэ болей перарасла з дзяўчыны ў жанчыну, але гэтая –натуральная змена, як кажуць, вельмі не абабіла яе, не пастарыла на твары і не папсавала постаць. Яе русявыя валасы па-ранейшаму былі свежыя, падвітыя, мляватыя вочы зіхацелі маладосцю, твар папрыгажэў, высакаватая шыя была амаль без маршчын, плечы папакацелі, стан захаваўся вузкі і гібкі, толькі пабольшалі, але зноў жа хораша пажаноцкаму, грудзі і клубы.

— Ты змяніўся і не,— цёпла сказала яна.— Памужчынеў, пашырыўся ў плячах, але яшчэ зусім малады і, здаецца, поўны здароўя і мужчынскай сілы!

— А ты стала красуняю,— сказаў і я ёй цёпла.— Ты цяпер вельмі падобная на актрысу Паўліну Мядзёлку ў маладосці.

— Не жартуй,— легка ткнула мяне кулачком пад рабрыну,— я пераўтварылася ў звычайную бабу.

— Не ў звычайную, Леаніла. Ад цябе проста вее маладосцю, свежасцю, чысцінёй і абаяльнасцю.

— Навучыўся ўжо гаварыць прыемнае жанчынам,— яна пагуляла са мной вачыма і вуснамі, а пасля ўзяла мяне за руку і павяла ў суседні пакой. Як было відаць, у чысценькую, але зусім сціплую зальку.— Пасядзі крыху тут, уключы і паглядзі тэлевізар, а я хуценька давяду сябе да ладу, паўстану перад табой іншай, можа, як ты кажаш, і красуняю.

Неўзабаве я ўжо сядзеў на канапцы і глядзеў тэлевізар, а Леаніла, як чулася, плёхалася ў ваннай. Калі выйшла адтуль у тапачках, галаногая, у чорнай спадніцы і беленькай блузачцы, дык я не змог стаіць свайго захаплення: вось каму быць дыктаркай на тэлебачанні альбо здымацца ў кіно! Яна, бачачы мае захапленне, ажно засвяцілася ад задавальнення, села побач, спакусна адкрываючы поўныя бліскучыя калені, узяла мяне за рукі:

— Як жывеш, Янік?

— Досыць спакойна, Леаніла.

— Канечне, ты вучаны, вядомы, грошы добрыя маеш, жывеш у гарадской чысціні, жонка ў цябе, як я чула, памяркоўная, дык і жывеш спакойна. Не тое, што я.

— Ёсць свае хібы і ў спакоі, Леаніла.

— Можа,— уздыхнула яна.— Я не ведаю, што гэта такое — забяспечанае, спакойнае і задаволенае жыццё. Я жыву, як бачыш,

сціпла, у вялікім неспакоі, а то і ў калатнечы. Мой свістун, як ты, канечне, чуў, п'е бязбожна, сам чэзне без пары, без часу і мяне губіць. Каб я жыла лепш, дык, сапраўды, была б, можа, красуняй!

— Ты і ёсць такая.

— Гэта, Янік, выручае мае добрае здароўе, мая моцная воля і тое, што я ўмею радавацца. Я маю нежаночы дух. Можа, і дзеля дачкі ды сына.

Нечакана яна падхапілася і павабіла мяне ў суседні паўцёмны пакой, дзе бачыліся паліраваная рудая шафа, накрыты просценькай посцілкаю двухспальны ложак, стол.

— Што мы перастарэкваем абы пра што!— па-змоўніцку прашаптала.— Давай, нарэшце, хоць пацалуемся як след! — І закінула мне рукі на шыю, прытулілася.— Каб ты ведаў, як я знебылася па табе!

Я, мужчына, ужо зведаў прагу і слодыч пацалункаў з жанчынаю, але Леаніла цалавалася незвычайна — лёгка, пяшчотна, але ўсё больш і больш захоплена, жарска, то шукаючы мой, то даючы свой кончык языка. Ды яшчэ гэтая пяшчотная аксамітнасць яе шчок і рук, блізкае прытульванне!

Пасля яна зноў узяла маю руку і прыклала яе сабе пад грудзі:

— Паслухай, як усхадзілася маё сэрца! Проста ходырам ходзіць!

Сапраўды, яе сэрца білася моцна. Як і маё.

— І тваё нібы молат! — шчаслівa прашаптала і зноў прыпала да маіх вуснаў, даючы мне піць мёд пацалунку, а маім рукам натхненне лашчыць яе, а пасля ньтрнуць пад блузку да станіка.

— Што ты робіш? — выдыхнула, але зусім не асуджальна.

Я моўчкі неўзабаве ўжо вызваліў з палону яе моцныя, тугія грудзі і пачаў прыпадаць вуснамі то да адной, то да другой палавінак, час ад часу шэпчучы:

— Якія цудоўныя ў цябе грудзі! Якія грудзі!

— Яны, Янік, былі цудоўныя, калі ты некалі ўпотай лашчыў іх позіркам. Цяпер яны завялікія. Мне часам аж сорамна. Ды і хватымужчыны проста абрываюць іх.

Яе грудзі, матава белыя ў паўсвятле, былі не бедныя і правіслыя, як у маёй жонкі, а сапраўды, буйныя, важкія і па-маладому яшчэ стромкія. Ад маіх пацалункаў іх Леаніла адкінула галаву і застагнала:

— Каб ты вось так некалі!..

Мне ўжо добра знаёмыя былі гэтыя жаночае адкідванне галавы і стогн-шэпт, жаночы клік, дык я, ужо сталы, налоўчаны драпежнік, не запакутаваў развагамі і дакорамі, рэзка схапіў сваю жаданую здабычу на рукі і ў маласвядомым парыве проста кульнуўся з ёю на ложак.

— І каб вось гэтак ты некалі!..— прашаптала Леаніла, абвіла маю шыю, зноў дала мне вусны, слухаючы, як уладарыць мая рука. Спачатку над ёю, а пасля над сабой. І калі яе важкія, таксама вельмі аксамітна пяшчотныя клубы былі ўжо нічым не ахаваныя, густа пакрыліся нібы зярняткамі, расхінуліся, а яе стан падрыгваў, каб хутчэй прыняць мяне і спатоліць страсць, Леаніла нечакана паслабіла поціск маёй шыі, наструнілася, а пасля зняможана прашаптала:

— Чуеш, свістун дадому валачэцца!

Я замёр: сапраўды, чуўся далекаваты свіст. Хоць была пагроза, але я не меў сіл выпусціць з рук гарачае дужае жаночае цела і накрыў яго сабою. Я нібы патануў у ім, пажадным да мяне, упершыню так блізка спазнаючы Леанілу.

Леаніла з хвіліну паляжала нерухома, таксама ўпершыню спазнаючы мяне, маю плоць, а пасля горасна раскінула рукі ў бакі:

— Не хачу, не хачу, не хачу адпускаць цябе, але трэба! Падымайся, Янік, неяк трэба хуценька апарадкавацца.

Мы разлучыліся целамі; рукі, усё маё цела трымцела ад узбуджанай страсці; не магла ачуняць і Леаніла, бездапаможна лежачы і не саромеючыся перада мной, што на ёй толькі расшпіленая і загорнутая да шыі блузка. Ды вось паднялася і яна, хіснулася, абапіраючыся на мяне:

— Божа, які шал! На мне ўсё калоціцца! І чаму ён, як бывае, не заваліўся дзе пад плот!

Я пацалаваў Леанілу ў вусны, у яе цудоўныя грудзі і не сваімі, а нібы чужымі ці ватнімі нагамі падаўся ў залу, а Леаніла, як чуў, пачала шамацець адзеннем, потым выйшла з вялікімі чырвонымі плямінамі на шчоках, са змоўніцкай сарамліва-радаснай усмешкаю. Лагодна ўзлахмаціла мне чупрыну і пайшла на кухню.

Уладзя затрымаўся на двары, а калі ён зайшоў і пачаў, падаючы то на сцяну, то на падлогу, разувацца, дык я крыху супакоіўся: ён быў п'яны і не мог па маім і Леаніліным твары разгледзець, што мы нядаўна былі ў абдымках адно аднаго і нават зведалі міг блізкай жарскасці. Тым больш што Уладзя падаўся не на кухню і не ў залю, а ў ванную, дзе мыўся, фыркаў і свістаў.

— Не свішчы, злыдзень, у хаце! — стукнула ў сцяну кулаком Леаніла.

— Пайшла ты!..

— Трымай язык за зубамі: у нас госць...

— Твой хахаль?

— Выйдзеш — убачыш,— здаецца, ужо спакойна, разважна прамовіць Леаніла, ляскаючы талеркамі.— Не хахаль, а мой любімы чалавек. Самы любімы на свеце.

Праз хвіліны тры Уладзя — без кашулі, толькі ў штанах, босы, худы, што хрушч, некалі з прыгожым, а цяпер са спітым, зглумленым тварам — выйшаў і ўбачыў мяне.

— Янак! Друг!

Ён кінуўся, абняў мяне, і я адчуў: ён і зусім хворы, і слабы, ледзь-ледзь чапляецца за жыццё.

— Ды які ты рослы, дужы, прылізаны! — пазайздросціў ён.— Пан! Наш, савецкі, панок!

Ён, як і раней, меў самалюбна падціснутыя вусны, тонкі задзірысты нос і дзёрзкія зеленаватыя вочы, ва ўсім відаць быў ягоны выклік усяму свету, але адразу было бачна ўжо, што ён, гэты выклік, скіраваны не на важнае і сур'ёзнае, а на дробязі, а то і на дурноту.

— Жыве чалавек разумна, глядзіць сябе і сям'ю, дык і выглядае панам,— падала ўшчувальны голас з кухні Леаніла.— Не табе раўня.

— Заткніся,— груба абарваў яе Уладзя, у якога ўжо да ўсяго выветрыўся «рюскі» дух.— Стаўляй нам на стол пляшку.

— Мала табе было там? Казала ж: хадзем разам дадому, усяго не перап'еш, дык не, застаўся, рашыў дарэшты змарнаваць печань.

Калі зайшлі на кухню, Уладзя ляпнуў усё яшчэ пунсовую, але зусім не разгубленую Леанілу па клубе:

— Бачыш, Янак, якая мая баба гладкая! Ад мужчын адбою няма! Не аднаму ўжо галаву закружыла!

— Апроч цябе, толькі аднаму!

— Ды любіць пасцель!

— Але не з табою!

Для мяне была нязвычная такая грубаватая манера размовы. Леаніла, раз-пораз падымаючы на мяне прыгожа сарамлівыя вочы, заўважыла гэта:

— Паводзься культурней з культурным чалавекам.

Леаніла падрыхтавала мне пачастунак. Па-вясковаму просты: хлеб, куплёная вараная каўбаса, зялёныя парніковыя агуркі, яйкі. Яна, лічы, не піла, я таксама толькі прыгубліваў, а вось Уладзя апаражняў чаркі да канца і неўзабаве зусім акасеў, вёрз абы-што:

— Янак, я табе скажу... Я табе такое магу расказаць, што ты напішаш такую кнігу!..

Я толькі ўсміхаўся: да маіх бацькоў, калі я прыеду да іх, заўсёды заходзіць адзін наш аднавясковец, разумны, але, як і Уладзя, спіты, і ўсё мае памкненне мне «такое» расказаць. А калі я аднойчы пры-

чапіўся, каб ён нарэшце апавёў мне свой сакрэт, дык ён сказаў мне шэптам: «А ты ведаеш, што Антон крадзе вобмешку на ферме? Што Міхась забіў дзіка?», а потым яшчэ цішэй: «Чуў, што наш парторг мае ў Дзераўной бабу?»

Леаніла стаяла за Уладзевай спіною і ўвесь час не зводзіла з мяне захопленага, змоўніцкага позірку. Бачачы, што Уладзя намерыўся дапіць пляшку і ўрэшце звaліцца з ног, я заспяшаўся дадому.

— Начуй у нас,— міргнула мне Леаніла.— Дзеці ў мамы, дык месца ў нас хапае. Ляжаш у зале на канапе.

— Начуй,— забубніў і Уладзя.— Мы яшчэ з табой не пагаварылі.

Я ўяўляў, якая пасля нядаўніх варункаў з Леанілай будзе мая начоўка тут, жадаў таго, але ўсё ж змусіў сябе пайсці адгэтуль, вывеў веласіпед на шашу, што шэра льснілася ў цемнаце, паволі паехаў, думаючы, што вось яшчэ адзін раз уцякаю ад Леанілы і зноў з-за Уладзі.

Хоць я не напружваўся і не спяшаўся, спакойна перажываў хмельнае імгненне з Леанілай, усё яшчэ, здаецца, адчуваючы яе, але і пры ціхай яздзе я неўзабаве наехаў на штосьці вострае: пачало асядаць, ляскаць абадом па асфальце пярэдняе кола. Нічога не заставалася іншага, як злезці з веласіпеда і павесці яго ў руках.

Ішоў я гэтак з кіламетр. Калі паласнула святлом паўнеба, а пасля азначыла дарогу, мой вялікі цень на ёй машына, я, рыхтуючыся звярнуць налева (направа была дарога на Івянец), зусім не пазважаў на яе, машыну, толькі саступіў з сярэдзіны шашы на абочыну, але легкавік каля мяне запыніўся. Мабыць, хтосьці хацеў запытаць мяне, куды вядуць гэтыя развілкі. Рыпнулі дзверцы і з машыны вылезла жанчына ў чорнай спадніцы і белай блузцы. У мяне аж заняло дух: Леаніла.

— Не чакаў?— усміхнулася яна, калі я падышоў да яе, заўважыўшы і ў цемнаце, што яна трымае ў руках нейкі скрутачак.— Думаў, што і сёння ўцячэш ад мяне?

Я моўчкі прытуліў яе, і мы аддана адно аднаму пацалаваліся. Як і раней, лёгка, нібы шукаючы адно аднаго вуснамі, захопліваючыся і тулячыся. Ды вось зноў бліснула доўгім пукам святла новая машына.

Мы, не змаўляючыся, збочылі і пайшлі ўздоўж лесу па траве, а пасля, бачачы непадалёку ў жыце вялізны камень, вакол якога было неаранае травяністае поле, збочылі туды. Машына, гонячы перад сабой цемру і святло, праехала; праз імгненне — веласіпед на доле, а мы з Леанілай трымалі адно аднаго ў абдымку, зноў цалаваліся, мабыць, аднолькава ўтрапёна прадчуваючы нашу хуткую жаданую блізкасць.

— Ты змог бы сёння заснуць пасля таго, што толькі пасмакаваў?

— Не.

— І я не змагла б. Вось і кінулася за табой услед, маліла-прасіла Бога: паспрыяй, няхай мой жаданы праколе веласіпед, пойдзе пяшком і далека не адыдзецца. І бачыш, Бог нам паспрыяў.

— Паспрыяў.

— Ты заслужыў маю ўзнагароду, а я заслужыла тваю...

Леаніла разгарнула скрутак (а гэта была посцілка), паслала на зямлю і апусцілася, вабячы мяне за сабою. Мы леглі, распранаючыся і лашчачыся. Пасля мая левая рука апынулася пад яе шыяй, а правая пяшчоціла яе цела з ног да галавы, змушаючы мяне заміраць ад кожнага Леанілшага выгібу, ад кожнай тугасці ці мяккасці.

— Як я марыла пра такія хвіліны! Я ведала, што ты дужы і пяшчотны, што мне з табою будзе добра.

Калі мы зноў пацалаваліся і ад успыхнутага жадання зноў, як і там, у Леаніліным доме, затрымцелі, яна ўжо сама павабіла мяне да сябе, і мы зноў спазналіся целамі, цешачы іх і сваю душу пяшчотай і ласкамі. Спачатку мы яшчэ спрабавалі штосьці сказаць адно аднаму, а потым моўчкі нібы панесліся па імклівай рацэ, усё далей і далей, пакуль набеглая бурная хваля не выкінула нас на бераг, змусіла ляжаць стомленымі і бяздухімі...

Дзіўна, але потым, калі мы ляжалі побач (Леаніліна галава была на маёй руцэ), я сёння на адчуваў, як раней, сораму, няёмкасці альбо раскайвання: выйшла тое ды так, як і чакалася ўжо даўно. Можна сказаць, здарылася непазбежнае.

— Ты часамі не лічыш мяне распусніцай? — запытала Леаніла.— Я ж ужо столькі гадоў бегаю за табою!

— Я лічу цябе такой, якая ты мне ўяўляешся.

— І якой жа я табе ўяўляюся?

— Жанчынай, якая хоча і ўмее кахаць.

Яна ўтуліла галаву мне ў шыю і акрапіла яе цёплымі слязьмі.

— Ты плачаш?

— Ад радасці і ўцехі, мой дарагі ўцякач. Ад нейкай вялікай палёгкі.

— Баюся, ты мяне прыхарашыла ў думках, дык хутка расчаруешся, убачыўшы, што я на справе зусім іншы, звычайны мужчына.

— Можа, крыху і прыхарашыла. Але ты для мяне быў і ёсць не зусім звычайны. Я пра цябе ўвесь гэты час марыла. А цяпер я думаю пра іншае ўжо.

— Пра што?

— Калі ты ад'язджаеш?

— Паслязаўтра.

— Дык калі мы зноў сустрэнемся і дамовімся, дзе і як нам бачыцца далей? Ці ты ўсё ж уцячэш ад мяне і ўжо назаўсёды?

— Цяпер ужо не змагу быць без цябе. А сустрэцца мы можам тут заўтра. Ля гэтага вялікага каменя, што блаславіў наша каханне.

— Я прыеду на веласіпедзе сюды ўполудзень.

— І я.

...Пасля таго мы з Леанілай пачалі сустракацца ў Стоўбцах. На кватэры яе адзінокай сяброўкі — тая дала Леаніле свой ключ.

Звычайна кожную сераду я прыязджаў цягнікам раней, намагаўся як мага хутчэй прашмыгнуць ад вакзала ўзбоч аўтастанцыіі, шпарка крочыў у мікраараён да гаспадарчага магазіна. Адтуль, праз вялікае акно, я выгледжваў той момант, калі насупраць магазіна спыніцца прыгарадны аўтобус і з яго разам з іншымі вясковымі жанчынамі і мужчынамі выйдзе добра знаёмая мне постаць, кіне зацікаўлены позірк на гэтую будыніну і пакрочыць да недалёкага пяціпавярховага дома. Я вышчэрпліваў яшчэ некалькі хвілін, а затым іншым, больш кружным шляхам, спяшаўся туды, падымаўся на трэці наверх, дзе мне не трэба было званіць: дзверы перада мной адразу ж адчыняліся. А як толькі Леаніла і я кідаліся адно да аднаго, задыхаліся ў абдымку і пацалунку: «Як я чакаў гэтай хвіліны!», «А як я чакала яе!», а неўзабаве я, знемагаючы ад галавакружнасці і ўзгарачанай крыві, нёс ці вёў яе ў зальку-спальню да раскладзенай ужо і засланай Леанілiным беленькім прасцірадлам канапы, спешна распранаў, каб бачыць зноў тое, што бачыў ужо, але ўсё роўна не мог нацешыць вочы, зусім не зважаючы на просьбу-шэпт: «Пачакай! Не спяшайся! Дай апамятацца, быць свядомай!» Ды дзе там! Хутка мы абое ўжо, задыхаючыся ад поклічу і страсці, ціхенька стагналі ці штосьці няўцямнае, але падзячлівае шапталі адно аднаму, цешыліся плоцьмі. Толькі пазней, калі спадала гарачыня, вярталася свядомасць, мы пачыналі размаўляць, расказваць, як жылі пасля апошняй сустрэчы ажно цэлы тыдзень.

Пасля мы, яўляючы што толькі адны на вялікім свеце, пілі чай ці каву, маглі ўзяць і па кроплі чаго мацнейшага, гарэзнічалі, гулялі, сваволілі, як зусім маладыя, зноў кахаліся — ужо не парыўна і бурна, як на пачатку, а пяшчотна, з летуценнасцю і пошукамі няўлоўнага і чароўнага, што то набліжалася, то аддалялася, але заўсёды было цудоўнаю мелодыяй, што напаўняла, змушала спяваць нашы целы і душы...

...Неяк ужо зімой, калі пасля, як і раней, кароткага прывітання мы з Леанілай зноў апынуліся на пасцелі і далі волю сваім рукам, я

ўразіўся: на Леаніліных поўненькіх руках і буйна-тугіх грудзях цямнеліся сінякі.

— Што такое, Леаніла? — занепакоіўся.

— Гэта ж ён, свістун-гад, нарабіў.

— І па якой прычыне?

— Ён жа цяпер дайшоў да таго, што амаль нічога не можа мець са мною. Зацяпліцца — і адразу ачахне. Дык пазаўчора са злосці пачаў круціць на мне цела: «Ты не вянеш, не брыдчэеш, а ўсё цвіцеш — значыць, завяла хахаля, цешышся з ім, радая і задаволеная. Прызнавайся, гулюха, у Стоўбцах ён?» А калі я, не толькі не плачучы, але і слязы не пусціўшы ад болю, сказала, што нікога нідзе не маю, каб адчапіўся, дык ён не толькі не паверыў, але і дабіў сваёю праўдай: «Не дурны, бачу, як прыхарошваешся перад паездкай у Стоўбцы, па гадзіне-другой стоячы перад люстэркам!»

— Прыгожыя, мілыя мае,— шаптаў я і цалаваў яе рукі, грудзі, усюды, дзе былі сінякі,— вы варты пакланення, а вы церпіце такое жудаснае!

— Ён, канечне, не дурны: ад нашай любові мне палягчэла на душы, мне хочацца жыць і быць з табою,— Леаніла, цяпер плачучы ўжо, зусім не баранілася ад маіх пацалункаў.— Усе кажуць: я пахарашэла. Мусіць, абласканае і абцалаванае мужчынам жаночае цела, сапраўды, цвіце, а лёгкасць на душы весяліць вочы, кліча ўсмешку, радасць...

Са слязьмі Леаніла не проста аддавалася мне, яна давала волю ўсёй сваёй страсці і імпэту, не хацела ведаць ніякіх перашкод і стрымлівання, любілася аддана ды з упаеннем і гэтага ж патрабавала ад мяне, а пасля, калі мы разлучаліся целамі, яна жадала яшчэ не меншых ласак і пяшчоты — гэта значыць маіх прыемных ёй слоў, каб упаіць імі свой слых. Скажу шчыра, мы, мужчыны, усё ж не заўсёды як след разумеем жанчыну, больш думаем пра сябе, чым пра яе ды яе своеасаблівую душу, а калі даб'ёмся свайго, дык амаль адразу задавальняемся, лунаем сваімі думкамі ўжо далека, думаем пра штосьці іншае...

...Праз год мы пачалі бачыцца радзей: я ўжо не рваўся ўтрапёна на гэтыя сустрэчы. Яшчэ праз год Леаніла, якую бачыў усё больш задуменнай, лежучы пасля блізкасці на маёй руцэ, нечакана не проста заплакала, а залілася няўцешнымі слязьмі.

— Ты чаго, Леаніла? — не зразумеў я.

Яна доўга не адказвала, хавала свой мокры твар, але пасля, калі я настояў, прызналася:

— Ты да мяне ахаладнеў. Ты хочаш не проста ўцячы, а пакінуць мяне.

— Няпраўда,— загарачыўся запэўніць яе ў іншым. Але лепш сказаць, што паспяшаўся пераканаць у тым самога сябе.

— Праўда. Каб ты ведаў, як цяжка мне, жанчыне, што мяне хоча пакінуць той, якога я кахаю даўно, каго лічу лепшым на свеце і каму аддаю сябе ўсю!

— Ды я не збіраюся цябе пакідаць!

— Збіраешся,— не супакойвалася Леаніла.— Ты і не спяшаешся сюды, можаш прапусціць адну-дзве нашы сустрэчы, і ўжо не адчуваеш да мяне таго, што меў раней.

— Я і цяпер кахаю цябе, Леаніла.

— Але не так, як раней. Цяпер ты, можа, спаўняеш толькі абавязак!

— Які абавязак? — міжволі вырвалася ў мяне ад таго, што Леаніла так глыбока адчувае мае думкі ці зазірае мне Ў душу.

— Ты ж ведаеш, што я і цяпер цябе кахаю спаўна, чапляюся за наша каханне ўсімі сіламі, каб не адпусціць, не страціць цябе, каб жыць з марай, надзеяй і верай далей, дык ты проста мне за ўсё гэта ўдзячны.

— Я не магу быць няўдзячным, але...

— Не трэба гэтых «але», Янік,— яна пяшчотна пагладзіла мяне па грудзіне.— Я недзе вычытала, што вы, мужчыны, кахаеце зусім іначай, чым мы, жанчыны. Вы па сваёй прыродзе нават да любімай хутчэй звыкаецеся, халаднееце, чым мы да свайго любімага. Я не думаю, каб ты завёў іншую, апроч жонкі і мяне, але адчуваю: ты са мной, канечне ж, з-за мяне, захутка пазнаў усё, спатоліўся, і я, простая вясковая жанчына, стала табе нецікавая. Ты можаш яшчэ сустракацца зрэдку са мной год-другі, але гэта ў цябе, можа, будзе толькі блізкасць са мною, не больш...

Канечне, было мала тых скупых слоў, што я шаптаўгаварыў ёй пра сваё каханне і пра яе жаночую чароўнасць, нават было мала той страснай блізкасці, што мы мелі і цешыліся ёю. Трэба было мне даць ёй штосьці большае. Я ж яго не толькі не даў, але і пакрыху, як яна праўду кажа, траціў тое па меры таго як змяншвалася мая страсць да Леанілы, як яна з шаленістасці пераходзіла ў спакойнае ўжо русла.

— Я вось што, Янік, падумала: не трэба, каб ты кідаў мяне ці я кідала цябе... Мы неўзабаве пойдзем адгэтуль, дзе мы столькі ўсяго зведалі, але, на жаль, не можам ні пачаць спачатку, ні зведаць больш таго, і пакінем адно аднаго... З усім, што было, ёсць, будзе...

...Сапраўды, мы рассталіся адно з адным. Не напаміналі, што мы ёсць, не клікалі на сустрэчу. Мабыць, і Леаніла, як я, схавала ўсё тое наша глыбока ў душы, толькі, можа, час ад часу адчувала, як тое

ўсплывае само і азарае, змушае радасна біцца сэрца і шчасліва цешыцца душою.

Што гэта, бадай, якраз так і для Леанілы, я адчуў нядаўна, калі ехаў з жонкай да бацькоў і па дарозе ў аўтобус падсела Леаніла — цяпер, амаль у пяцьдзесят гадоў, мажная, з высокімі, але ўжо цяжкімі грудзямі, з важкім жыватом, пасівелая і зморшчыненая, як чуў, бабуля ўжо,— дык яна не магла падысці да мяне, але, заўважыўшы, што я еду, так молада, са ззяннем у ажыўленых вачах аблашчыла мяне радасным позіркам, што я не мог нават за гэты кароценькі міг, пакуль размаўлялі нашы вочы, раптоўна не ўспомніць і не перажыць ва ўсёй паўнаце тое, што бліснула маланкай паміж намі, не засмуціцца і заадно, мабыць, як і Леаніла, зарадавацца, захваляваўся па-маладому, што яно тое, бліскавічнае, не толькі жыве, але несмяротнае...

1995

## ЧЫГІР

Як толькі я павярнуў у свой двор, адразу ўбачыў доўгую драўляную лаўку, а на ёй — пажылога, а то, бадай, і старога мужчыну.

Чалавек быў у адмысловай позе: адной рукой трымаў на каленях паношаны чорны, сям-там працёрты, дык з белымі плямінамі партфель, другую звесіў паўз лаўку, адкінуўся на спіну і выцягнуў ногі. Ягонага твару не было відаць: туды аб'ехаў шэры капялюш.

Спачатку я, скажу шчыра, хацеў прайсці, не зважаць. Палічыў: прысеў і заснуў п'яны. Але і па наваксаваных чорных чаравіках, па ношаным, але адпрасаваным светлазялёным касцюме, гальштуку і гэтым старым, але нічым не абпырсканым, акуратным партфелі я адчуў душой: не, гэта — не п'яніца: старыя і асабліва адзінокія жлуктачы апушчаныя, брудныя, нават часамі, выбачайце, ужо і гідкія, а гэты мужчына — інтэлігент. Можа, нават з роду дзівакоў, што маюць вышэйшую адукацыю, чымсьці вельмі захопленыя, нават звыш меры, выхавалі ў сабе культ кнігі, ведаў, з-за іх не бачаць ні свету, ні жыцця, шануюць, любяць доўга насіць сваё любімае адзенне і абутак. З іх, бывае, пасміхваюцца, а яны нібы не бачаць гэтага, жывуць, паводзяцца па-свойму. Яшчэ нядаўна, калі жыў у іншым доме, адзін з суседзяў па пляцоўцы быў якраз такі дзівакпенсіянер, як гаварылі за вочы, «звіхнуты на летапісах». Можа, вось такі самы зайшоў сюды ці нават жыве тут — я перабраўся ў гэты стары, яшчэ з высокай столлю дом учора, дык яшчэ нікога з насельнікаў не ведаў.

Агледзеўся, заўважыў: двор наш не зусім бязлюдны. Блізка, каля агароджы дзіцячага сада і пад высокімі густымі таполямі, корпаецца

ў маторы легкавіка малады мужчына ў джынсах і красоўках, а воддаль, каля майго пад'езда, дзе стаіць ужо новы дом, сядзіць дзед у светлым касцюме і капелюшы. Праўда, абодва, малады і стары, не паварочваюць галавы, быццам не заўважаюць гэтага, можа, ужо і нябожчыка.

«Значыць, усё ж п'яны»,— рашыў я, вагаючыся: падысці да небаракі ці не. Пажыўшы з дзесятак гадоў у горадзе, не раз і не два бачыў: гарадскія амаль заўсёды абыходзяць як тых, хто ад гарэлкі страціў усялякі чалавечы воблік, так і тых, хто не браў у рот і кроплі, страціў прытомнасць зусім па іншай прычыне. Зрэшты, я і сам прызвычаіўся ўжо прашмыгваць каля такіх грэшных ці нешчаслівых людзей.

Можа, і з-за таго, што быў у сваім двары, сёння я не змог абмінуць бедака, наблізіўся і моўчкі патармасіў яго за худы плячук. Чалавек захістаўся ўвесь — неўзабаве з яго галавы ўпаў капялюш і агаліў вялікую жаўтаватую, з карычневымі кропелькамі лысіну, высокі маршчыністы лоб, акуляры на даўгаватым і шырокім унізе носе, выгаленыя запалыя шчокі. Не, гэты чалавек не быў на малым ці вялікім падпітку, ён хутчэй за ўсё самлеў. Я хуценька падняў яго апушчаную руку, прыклаў вялікі палец да запясця — рука не была цёплая, але і не халодная, а праз колькі хвілін я адчуў і кволы пульс.

Тады я шпарка падняўся ў сваю кватэру на чацвёртым паверсе і пазваніў у «хуткую». Адтуль доўга, выклікаючы ўва мне абурэнне, распытвалі, хто я, дзе жыву, а пасля ўжо зацікавіліся і гаротнікам. Але калі я выйшаў на двор, запыніўся каля свайго «пацыента», то «хуткая» заявілася тут неўзабаве. За ёю амаль услед прымчала міліцэйская машына.

Спачатку непрытомнага агледзеў малады рыжы лейтэнант, а пасля да таго падышла немаладая жанчына ў белым халаце і белай шапачцы.

— Не, не п'яны,— сказала амаль адразу.— І пульс адчуваецца...

Цяпер, неяк дзіўна павёўшы бялёсымі бровамі, лейтэнант змераў з ног да галавы мяне:

— Вы — хто?

— Я жыву ў гэтым доме. Пазваніў вось у «хуткую»...

— Прозвішча хворага ведаеце?

— Не.

Лейтэнант схмурыўся, зірнуў на мяне неяк грэбліва, павярнуўся і гукнуў маладому чалавеку, які ўсё яшчэ не адыходзіў ад сваіх «Жыгулёў»:

— Грамадзянін-вадзіцель! Вы ведаеце гэтага чалавека?

— Не,— буркнуў той, амаль не азіраючыся.

— Жыльцы аднаго дома называецца! — злосна кінуў лейтэнант.

Я змаўчаў. Дзеля чаго апраўдвацца цяпер, калі звычайна так і бывае, як сказаў гэты міліцыянер.

Дзеда ў белым лейтэнант не зачапіў. Відаць, не паспадзяваўся на ўдачу.

Пасля, калі я, узрушаны, у чымсьці не паважаючы самога сябе, вяртаўся дадому, мяне нечакана запыніў стары. Як я ўбачыў, невысокі, таўсматы, некалі чорны, а цяпер спрэс сівы, з арліным носам і таўстагубы.

— Выбачайце, малады чалавек,— ён падаў голас па-руску, але нібы з нямецкім акцэнтам.— Гэта вы ўчора перабраліся ў наш дом?

— Я.

— Вы добра ведаеце, каму толькі што памаглі??? — у выцвілых вачах старога бліснулі пагрозлівыя агеньчыкі.

— Пажылому і хвораму чалавеку,— трохі з выклікам адказаў я.

— Эх вы, гуманіст! — усміхнуўся дзед, але зноў незычліва.— Ведайце: гэты «пажылы і хворы чалавек» — адпеты нацыяналіст...

Прызнаюся, я не то ўспыхнуў ад гневу, не то заадно і разгубіўся: як тут адносіцца да аднаго і другога — чыёйсьці хваробы і такога ліха?.. Па-другое, я не чуў, каб тут, у нашым горадзе, цяпер, у наш час, жылі і гэтыя самыя — маманты ці што! Іх жа, «хто не хацеў Кастрычніка», «хто нюхаўся з Пілсудскім і фашызмам», як вучылі нас па падручніках гісторыі, усіх пазводзілі, а калі хто ўцалеў, дык за мяжою і адтуль, «з падваротні», як яшчэ нядаўна пісалі, «брэша на нашу слаўную краіну, на нашы поспехі і жадае нам бяды і гора». І раптам... Што — гэты выжыў, цяпер у адлігу, вылез з нары на свет?

— Разумееце,— свідраваў вачыма мяне дзед,— я болей пяцідзесяці ўжо гадоў кажу яму «здравствуйте», а ён мне сваё: «дзяньдобры»...

— Дык з-за гэтага сыр-бор? — непрыязна вырвалася ў мяне.

— Не толькі,— не сумеўся дзед.— Я ж кажу вам: ён — адпеты... Ён сядзеў. І ў наш час...

— Выбачайце, а вы хто? — запытаў я.

— Гэта не важна,— той схмурыў чорныя бровы і намерыўся адысці.— Я вас перасцярог: паберажыцеся, калі не хочаце мець непрыемнасцей... Перабудова перабудоваю, ад якой вы, маладыя, вельмі захмялелі, а такія рэчы... Ніякага спуску... Зразумелі?! — Прыплюшчыўся.— Ці спачуваеш такім, плачаш па «мове»? Мо нефармал альбо з народнага фронту?

Ад суседзяў па пляцоўцы я даведаўся, што прозвішча хворага — Чыгір, што ён гадоў пятнаццаць ужо на пенсіі, жыве ў нашым доме ў

аднапакаёўцы і што ён двойчы, пры Сталіне і пасля яго, сядзеў і нібы сапраўды за нацыяналізм.

«За што?» — спрабаваў я ва ўсіх дапытвацца.

«А Бог яго ведае...— звычайна паціскалі плячыма ў адказ.— Кажуць: нацыяналіст, і мы кажам... А так ён чалавек адзінокі, ціхі, культурны, нікому ў доме нават вока не запарушыў....»

Што да дзеда ў светлым касцюме, дык мне сказалі, што ён таксама пенсіянер, у свой час быў урачом. Занядужае хто ў доме, дык, бывае, бягуць да яго, і ён не адмаўляецца, памагае.

Назаўтра ці праз дзень мяне паслалі ў камандзіроўку, пасля яе было нямала іншых клопатаў у газеце і ў сям'і, а таксама захапіўся будоўляй на дачным участку — карацей, не пастараўся знайсці Чыгіра, зайсці да яго ў бальніцу, а ў яго, як пасля даведаўся, быў ужо трэці інфаркт. Не, я не баяўся сустракацца з такім чалавекам. На жаль, мы, цяперашнія людзі, такія: пакуль свой камар не ўкусіць, не можам адчуць болю, лічым людскую бяду найперш чужой і далёкай нам, а свае звычайныя клопаты лічым самымі важнымі на свеце...

Сустрэліся мы з Чыгіром, можа, толькі на чацвёрты месяц пасля нашага знаёмства, ужо зімой, калі не адзін раз падаў, знікаў, зноў налятаў снег, то браўся, то адступаў мароз, кал і адзін дзень было сыра, шмат вады, другі — шчыкліва, галалёдна, трэці — сухі мароз і белы снег, адным словам, ішла звычайная ў апошнія гады, няўстойлівая беларуская зіма. Дык вось, калі я аднойчы пазнавата, парыпваючы хрупкім снегам, крочыў дахаты, мяне пры святле блізкага ліхтара ўгледзеў Чыгір. Запыніў і падзякаваў за паратунак. Як і гаварыў дзед у светлым, размаўляў ён «на мове», і я, хоць быў невялікі знаўца, адчуў: Чыгір прамаўляе «чыста» — значыць, недзе з-пад Мікалаеўшчыны ці паблізу яе.

— Калі і вы ўмееце, хочаце размаўляць па-свойму, дык нас, такіх дзівакоў, будзе ўжо два ў доме,— усміхнуўся ён.

Спачатку, тыдзень-два, пры сустрэчы мы толькі віталіся, пасля пачалі загаворваць — то пра надвор'е, то пра публікацыі ў маскоўскіх газетах і часопісах.

— Паслухайце, Іван Аляксеевіч,— вырвалася аднаго дня ў мяне. — Я чуў, што вы прайшлі сталінскія і пазнейшыя лагеры. Давайце напішыце нам пра гэта.

Чыгір — а ён быў сярэдняга росту, у свой час, мусіць, каржакаваты, дужы мужчына, а цяпер высахлы, як вялены лешч, да таго ж кульгавы на правую нагу,— нічога мне не адказаў, толькі неяк раптоўна ўвесь нібы ўвайшоў у сябе, кроў быццам адліла ад ягонага твару, і ён вельмі бездапаможна ўжо абапёрся на самаробны кіёк.

Бачачы, як за міг счах чалавек, я пакаяўся ўжо, што, захапіўшыся журналісцкім азартам, гэтак неабдумана ляпнуў пра тое, што ўявіў для сябе «цікавым», а што для Чыгіра было жыццём, і жыццём, канечне ж, нялёгкім.

— Выбачайце, Іван Аляксеевіч...— адступіў я.

— Вы, калі ласка, выбачайце,— адказаў ён, дастаў насоўку і выцер пот на лобе.— Не трэба...

Я цяпер змаўчаў.

— Не магу, не хачу чапаць незагойную рану... Ды вы не надрукуеце. Думаю, на мне ўсё яшчэ тое страшнае кляймо...

— Што да першага, Іван Аляксеевіч, то глядзіце самі, тут вас ніхто змушаць не будзе. А што да другога, то я гэта магу ўзяць на сябе...

— Ды я вызвалены, але нерэабілітаваны....— выдыхнуў ён з болем.— Адпаведна, вам знацца са мной небяспечна...

— А калі я сам хачу ва ўсім разабрацца? — запытаў я.— Цяпер рэабілітоўваюць і тых, на якіх яшчэ да нядаўняга, як вы кажаце, стаяла жудаснае кляймо...

— На мне жудаснае кляймо, дарагі мой чалавек, нацыяналіста. А гэта, паверце, самае страшнае. Калі паставілі — то навек... За ўсё могуць дараваць, але толькі не за гэта... Чаму так — не ведаю, і вы ніколі не ўведаеце...

Пры апошніх словах са свайго пад'езда выйшаў знаёмы дзед — праўда, цяпер у белых ботах, у паліто з каракулевым каўняром і ў каракулевай папасе, адразу кінуў учэпісты позірк на нас — Чыгір замітусіўся, папрасіў у мяне выбачэння і борздка закульгаў у суседні пад'езд. Дзед буркнуў мне сваё «здравствуйте», затрымаў на хвіліну-другую спадылба позірк і падаўся на сваю вячэрнюю прагулянку.

Што да Чыгіра, дык я яго, здаецца, зразумеў. Яшчэ нядаўна, пры Чарненку, я браў інтэрв'ю ў аднаго пісьменніка да яго сямідзесяціпяцігоддзя. Калі папрасіў расказаць трохі пра ягоную «дзекабрысцкую эпапею», дык той збялеў, затросся, счах і нічога не сказаў. Праўда, разы са два прыходзілася быць у былым пісьменніцкім доме творчасці, у Каралішчавічах, дык там сёй-той, узяўшы чарку і прагульваючыся пасля вячэры па цёмных лясных сцежках, разнявольваўся і расказваў пра тое, што мы чуем цяпер.

Я не ведаю, што і як было б у мяне з Чыгіром, каб не яшчэ адзін выпадак. На другі ці на трэці тыдзень пасля гэтага нечакана памёр таўстагубы дзед. Адна з бойкіх ці найбольш душэўных насельніц нашага дома абышла ўсе кватэры, сабрала па рублю за вянок і кветкі нябожчыку: казала, што Мірман апошні час жыў адзін (жонка яго пайшла на той свет некалькі гадоў назад, а дзеці з унукамі падаліся за

мяжу), дык няма каму яго па-людску дагледзець. Канечне, я даў свой рубель. Але калі пасля праводзілі ад дома да жалобнага аўтобуса труну, то сярод тых, хто выйшаў на двор, я не ўбачыў Чыгіра. Увогуле ён не трапляў мне на вочы, можа, з тыдзень. Нават у свае шпацыры — старыя людзі, пенсіянеры звычайна выходзяць пахадзіць у адзін і той жа час. Я не вытрываў і пайшоў да яго — можа, не дай Бог, зноў злёг.

Не. Як пазваніў, неўзабаве дзверы адчыніў сам гаспадар — у доўгай карычневай, нібы бальнічнай, піжаме, крыху смешнаватым каўпаку на галаве, у тапачках. Праўда, белы-белы, згорблены і, здаецца, разгублены.

— Заходзьце,— запрасіў ён, адступаючы ў вузкім калідорчыку, дзе чулася цяпло, але цяпло трошкі цяжкаватае. Можа, і ад таго, што кватэру амаль не праветрывалі.

— Выбачайце,— сказаў я, павітаўся.— Не бачу вас, дык падумаў: можа, вы зноў занемаглі.

— Але, чуюся кепска,— адказаў ён.— Дык і не выходжу.

Ідучы па калідорчыку, а пасля і па адзіным пакоі, я не пераставаў уражвацца: усюды амаль ніякай мэблі, тым больш мэблі шыкоўнай, дарагой, як цяпер амаль у кожнай кватэры. Самаробная вешалка ў калідоры, пару старых драўляных крэсел, даўняя канапа, стол і кнігі, кнігі, кнігі на самаробных паліцах.

— О, каб не тыя дваццаць пяць гадоў, што я прамарнаваў па свеце...— Калі я сказаў добрае слова пра яго бібліятэку, сумна захітаў ён галавой.— Гэта — трэці мой збор. Лічы, на пенсію. Першы знік яшчэ да вайны, другі — у дзяржаўнай бібліятэцы. Другога, канечне, мне не шкода, няхай чытаюць людзі, а вось першага, сабранага да трыццаць шостага...— Уздыхнуў.— Большая палова ў ім была з дарэвалюцыйных рэдкіх кніг. У тым ліку былі і летапісы, прыжыццёвыя скарынінскія кнігі.

Памаўчаў, узіраючыся скрозь тоўстыя шкельцы на запоўненыя амаль ад самай падлогі да столі стэлажы.

— А занядужаў я ад смерці Мірмана...— сказаў пасля.— Грэх гаварыць кепска пра нябожчыка, але мы з ім знаёмыя даўно ўжо і не вялікія прыяцелі. Пазнаёміліся яшчэ тады, калі былі студэнтамі: ён — на медычным, я — на філалагічным. Потым, пасля вучобы, дарогі нашы разышліся. Ён недзе знік, а я паступіў у аспірантуру.

Чыгір сёння, бадай, упершыню са мной разгаварыўся, падахвочваючыся расказаць пра сябе. Я слухаў і намагаўся ні лішне не міргнуць, ні як-небудзь не так не дыхнуць — каб не перапыніць гаспадара. А ён нечакана нібы спахапіўся:

— Ды вы сядайце, калі ласка,— паказаў на канапу.— Можа, вам гарбаты?

Я хуценька сеў і замахаў рукамі:

— Дзякую-дзякую. Гарбаты не трэба.

Ён сеў побач, зноў, як і той раз на двары, увайшоў у сябе, але на гэты раз не счах, захаваў нейкую сваю загадкавую душэўную моц.

— Сустрэліся мы з ім у трыццаць шостым,— неўзабаве дадаў.— У мінскай турме, у вядомай многім нашым інтэлігентам «амерыканцы». Сустрэліся адмыслова: я — як вязень, ён — як турэмны ўрач. Калі мяне прыцягвалі ў камеру пасля допыту збітага, дык ён, бывала, прыйдзе паглядзець. Не, не лячыў. Спачатку толькі абмацваў позіркам, глядзеў, ці не аддам Богу душу, а пасля пачынаў гудзець, як авадзень: ведай, Янка, дарога сюды шырокая-шырокая, а назад яе няма. Зусім. Тут так: ёсць чалавек — будзе на яго справа. І чым болей чалавек разумны, вядомы — тым хутчэй трэба яе завесці. Так што не ўпірайся, расказвай, што думаў, рабіў супраць Савецкай улады, называй усіх хаўруснікаў, дык не будуць біць, адседзіш — і выйдзеш новым чалавекам...

Па першым часе я не мог разабрацца, хто ён: шчыры ці падасланы. Гудзеў, заганяў у кут, збіваў мой дух. Калі ж зламалі мне нагу, і ён пальцам не паварушыў, каб дапамагчы, то болей зразумеў. Пасля даведаўся: ён дастрэльваў збітых ці асуджаных вязняў — рабіў кантрольны стрэл... Пасля пяцьдзесят шостага яго перавялі галоўным урачом адной з нашых бальніц, ён лячыў, стаў доктарам медыцынскіх навук, атрымаў вялікую прэмію, шмат званняў, добрую пенсію, але... памёр, а пахаваць няма каму... Ды новы час міне, каго ён не лічыў за чалавека, даў нейкую надзею, а ў такіх, як ён, забірае тое, што яны ўзялі не так, як трэба... Праўда, яны не здаюцца, чапляюцца за былое «святое», выстаўляюць сябе анёламі, бурчаць, нават гатовы затаптаць новае, але... Хоць скажу вам папраўдзе: нябожчык — не самы страшны для мяне. Такіх, як ён, было нямала. А вось адзін з самых нялюдскіх, злавесных — Чорны чалавек...

— Кажаце, расказаць пра сябе, пра Чорнага чалавека? — калі папілі гарбаты з сухарыкамі, сумна ўсміхнуўся Чыгір.— Пра гэта можна сказаць коратка, як у анкеце, а можна апавядаць доўга, успамінаючы такое, што вам, маладому, можа, і не паверыцца... Ну, што я маю вам расказаць вось так адразу, за адзін вечар? Я ўжо, як бачыце, стары, трухлявы грыб, нарадзіўся яшчэ да першай сусветнай вайны, на хутары, паблізу Коласавай Мікалаеўшчыны. Мае маладыя гады — юначтва маіх равеснікаў, на долю якіх выпалі войны і рэвалюцыі, светлыя мары і жудасныя абманы... Калі, да слова,

пачалася вайна з кайзерам, мой бацька (а ён у гэты час жыў ужо ў Стоўбцах) падаўся ў бежанчы, аж у Саратаў. Там бацька ўладкаваўся сталяром, мачі мыла бялізну, а я глядзеў малодшых сясчёр і брата, там, як па-цяперашняму, скончыў тры класы. Хоць пакрыху абжыліся на чужыне, але бацькоў зноў чягнула дадому. І ў дваццаць першым, калі падпісалі мір з Варшавою, мы вярнуліся. Толькі ўжо не ў мястэчка, а ў бацькаву родную вёску, да яго брата. Гадоў колькі я памагаў бацькам па гаспадарцы, цёрся каля піянераў і камсамольцаў, бязбожнічаў разам з імі, а пазней, калі сталі на ногі, падаўся ў Мінск на рабфак. Прыехаў у самы пераломны час: ужо не толькі не пад прымусам, але і без лішняй агітацыі, сама па сабе ішла, як тады казалі, беларусізацыя, а заадно (чаго я, малады, гарачы, яшчэ не бачыў) пачалі ўжо ўрывацца халодныя вятры, што пачуліся выразней, калі я вучыўся ўжо ва універсітэце, калі пачалі ў навуцы, у культуры і мастацтве, а то і сярод партыйцаў выяўляць «шкоднікаў, што хацелі вярнуць стары лад, цара», калі цёмнаю хмараю пачало накрываць светлы небасхіл — надта ж над вёскай... У паветры занасілася: у нас ёсць нацдэмы! Спачатку я, як і многія іншыя, як і мая Надзя — а з ёй, студэнткай-хімікам, мы пажаніліся на апошнім курсе,— усе мы не ўбачылі вялікай пагрозы, паверылі: так, ёсць тыя, каму сніцца старое, хто не любіць новае, нас усіх. І калі пачалі браць «адшчапенцаў», мы толькі радаваліся: так вам і трэба, ліхадзеі! Тады ў вялікай цане былі горкаўскія словы пра ворагаў: калі яны не здаюцца, іх трэба знішчаць! Пасля універсітэта мяне пакінулі ў аспірантуры, і я пачаў вывучаць фальклор. Хутка напісаў дысертацыю, меўся абараніць яе, але... Уночы 15 кастрычніка 1936 года ў нашу з Надзяй і маленькім Пятром кватэрку пастукалі... Малойцы перавярнулі ўсё, забралі мае паперы, такія-сякія кніжкі і павялі... Адразу быў я сляпы, а можа, і дурны: бачыце, мяне арыштавалі па абмылцы, а вось іншых — справядліва... А іншыя так думалі пра мяне, з дня на дзень чакалі: выявіцца прыкрая памылка і іх адпусцяць як ні ў чым невінаватых... Калі мяне цягалі на допыты, калі нават, як казаў, зламалі нагу, я вытрываў, не нагаворваў ні на сябе, ні на іншых, але вось калі пусцілі «на канвеер» — калі следчыя мяняліся па чарзе, а мне не давалі спаць запар дзень, два, тыдзень, другі, трэці, месяц, то... Як ні брыдка, я здаўся, як і падвучваў Мірман, падпісаў усё, што падсунулі. Потым многім паказвалі той мой подпіс, потым той-сёй надоўга затаіў на мяне злосць... 15 мая трыццаць сёмага мяне судзіў і цяпер жывыздаровы чалавек, з тых, хто ядуць балычкі і ні ў чым не каюцца, нават больш — гатовы ў любую хвіліну да новай расправы... Карацей, далі мне восем гадоў за тое, што я, славячы наш фальклор, «ідэа-

лізаваў дарэвалюцыйнае мінулае, а гэтым вёў контррэвалюцыйную прапаганду»... Ужо там, у лагеры, у мяне паяснелі вочы і розум: расстрэльваюць, садзяць не толькі злодзеяў, бандзюг, шпіёнаў, але... самых звычайных — ды дзе звычайных, самых шчырых, сумленных, разумных! — вучоных, пісьменнікаў, інжынераў, урачоў, артыстаў, сялян, рабочых, старых бальшавікоў, хто сядзеў яшчэ ў царскіх турмах, рабіў рэвалюцыю і ставіў на ногі Савецкую ўладу. Сабраўшыся разам, агледзеўшыся, мы, так ужо выхаваныя, не кідалі ценю на партыю, на Сталіна, але не маглі не думаць: чаму, дзеля чаго гэта робіцца? Скажу шчыра, не разбяруся добра і цяпер, кал і столькі пра тое ўсё адкрыта. Няўжо быў адмысловы зуб на нашую краіну, на яе лепшых людзей? Няўжо хацелі адкінуць нас далека назад? Калі гэта так, то як можна было гэтак бессаромна, бязлітасна маніць, дэкляроўваць і ў той жа час высякаць пад корань?! Я трохі ведаю гісторыю, але ніколі і нідзе столькі не лілі крыві, слёз і пры гэтым так не абалванілі, не застрашылі народ, каб не кляў, не ішоў супраць, а маліўся, абагаўляў крывапіўцаў...

— Мне тым больш не разабрацца: ці тут, як кажуць, нейкая хіжая сусветная змова, ці нечы прыкры характар і памылкі, ці віной і залішняя падатлівасць нашага народа...— спажыўшы паўзу, сказаў я.— Выбачайце, дзядзька Ян. Вы казалі пра нейкага Чорнага чалавека. Хто ён?

Чыгір, узбуджаны, нават трошкі хваравіта пачырванелы ад успамінаў і свайго расказу, зноў раптоўна абмяк, а ягоныя рукі дробна затрымцелі.

— Ёсць дзевяціглаловыя, ёсць шасці і трохгаловыя Цуды-юды, а ёсць і аднагаловыя, такія, як і ўсе людзі,—прамовіў праз нейкі час Чыгір.—Гэтыя, апошнія, заўсёды побач. Бывае, яны ці ён — над душой кожнага чалавека... Мой Чорны чалавек — мой зямляк, з адной вёскі. Калі я вярнуўся з Саратава, ён зайздросціў, што я па-гарадскому апрануты, па-гарадскому размаўляю. Пасля бралі яго завідкі, што я хутка засвоіў як след беларускую мову, стаў ледзь не вясковым дырэктарам, пасябраваў з камсамольцамі, і яны лічылі мяне за добрага сябра. Я гэтага не бачыў. Я памог яму падвучыцца, паступіць на рабфак, а пазней — і ва універсітэт. Ён, лічы, на крок не адыходзіў ад мяне, ліпнуў, як аса да варэння, бялеў, чарнеў ад таго, што ўдаецца мне і што не па сіле яму, а я ўсё верыў яму, гаварыў з ім пра самае патаемнае. Расказваў яму і пра Надзею. Ды ён і сам бачыў, як у нас усё ішло добра. Паказваў: рады, што мы пажаніліся, што мяне пакінулі ў аспірантуры. Адным словам, тады я лічыў яго самым лепшым сваім сябрам... Толькі стаў відушчы, з жахам зразумеў усё на след-

стве, калі выпадкова агледзеў напісаныя ягонаю рукою ананімкі на мяне... Якраз ён падаў ідэю, што я, шануючы наш фальклор, ідэалізую царызм і не прымаю Савецкую ўладу... Калі я паехаў мерзнуць і рэзаць лес, яго кар'ера пайшла ўгору. Спачатку ён трапіў выкладчыкам у вайсковую школу, пасля — у органы... І, можа, самае страшнае для мяне — звёў, забраў Надзю... Паходжваў, прасіў адмовіцца ад мяне, «ворага народа», кленчыў, поўзаў перад ёю, а калі не змог дабіцца свайго ласкаю, запалохаў. Яна адраклася ад мяне, выйшла за яго і дала нашаму сыну ягонае прозвішча. Праўда, у сорак шостым, калі нас выпусцілі, і я працаваў настаўнікам у Пухавіцкім раёне, яна прыязджала да мяне, расказвала пра ўсё, плакала, прасіла, каб я дараваў, узяў яе з маім і з другім, ужо ад Чорнага чалавека, сынам, але... Канечне, каб яна прыехала з дзецьмі, каб я ўбачыў сыночка, я пакінуў бы яе, перагарэў бы і жыў. А так я зацяўся, не перамог сваёй крыўды. А 15 лістапада сорак восьмага года мяне зноў павезлі з Беларусі на канец свету. «Віны за вамі няма,— міралюбна сказаў мне раённы ўпаўнаважаны,— але ёсць загад таварыша Берыі выслаць усіх былых палітычна асуджаных»... Выслаць — і ўсё! У каго сіла, у таго і права! Вярнуўся я з Усурыйскага краю ў пяцьдзесят восьмым — пажылым, хворым, адзінокім і, галоўнае, адбітым ад любімай справы, нікому не патрэбным чалавекам...

— А Чорны чалавек?

— У тым жа пяцьдзесят восьмым органы ад яго адракліся, выпусцілі ў званні падпалкоўніка. Ён уладкаваўся ў аддзеле кадраў аднаго нашага акадэмічнага навукова-даследчага інстытута (дарэчы, вось так прыгрэліся многія, на кім нашы слёзы і кроў). Чорны чалавек, канечне, не мог не агледзець: я спрабую знайсці сваю дысертацыю і хачу ўладкавацца ў новы інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Пятро Глебка, дырэктар, трошкі помніў мяне па трыццатых гадах, згадзіўся ўзяць на працу, але... Чорны чалавек не толькі не павініўся, не паспачуваў, а стаў на дарозе. Куды я потым не патыкаўся — праз пэўны час усюды мне адмаўлялі з самымі рознымі адгаворкамі. У рэшце рэшт мне ўдалося ўладкавацца ў бібліятэку. Плата там, самі ведаеце, маленькая, але я не зважаў на гэта. Абы быць бліжэй да кнігі.

— І другі раз, у адлігу, вам зламаў лёс Чорны чалавек?

— Праз гады два-тры я асвойтаўся і напісаў новую дысертацыю, паспрабаваў абараніцца. Работа мая трапіла да майго былога знаёмага па універсітэце, а цяпер акадэміка-моваведа. І ён зарэзаў яе ўшчэнт. За «нацыяналістычны ўхіл», за «прапаганду лютых савецкіх ворагаў» і, як кажуць, і гэтак далей. Я зразумеў: развітвайся, Яне, з

навукай. Нікому ты не трэба са сваімі думкамі, ведамі, цяпер трэба тое, што і як пішуць многія ўгоднікі, калечачы нашу мову. Вось тады я падумаў пра самагубства. І, мусіць, засіліўся б, каб на маім шляху не сустрэлася Галя. Яна, маладзейшая за мяне на гадоў дваццаць, удава, сэрцам, душой адчула, што мне цяжка. Спачатку спачувала, грэла словам... Карацей, мы пажаніліся, і я памог паставіць на ногі яе хлопца, сам утрымаўся каля яе. Малаадукаваная, але вельмі сардэчная і культурная была кабета, я яе вельмі палюбіў у пажылыя ўжо гады... Я не пайшоў ні апраўдвацца, ні сварыцца з акадэмікам. Але аднаго разу мы выпадкова сустрэліся. Я хацеў абысці, ды ён затрымаў. «Дысертацыя твая выдатная,— кажа мне,— на галавы дзве, а то і тры вышэй за тыя, што абараняюцца, але... Ну, чаго ты прычапіўся да гэтых Тарашкевіча, Лёсіка, Ластоўскага? Я ведаю: яны былі высокаадукаваныя і культурныя людзі, незаслужана зганьбаваныя, загубленыя, іхнія працы, погляды не страцілі цаны і цяпер, але... Па-першае, яны не рэабілітаваныя. Толькі ўспомні іх — адразу дадуць у зубы. Вось і я табе даў. А па-другое, зразумей: я вось акадэмік, афіцыйны мовавед, перада мной здымае капялюш увесь наш корпус моваведаў, я атрымліваю звыш тысячы рублёў у месяц, маю дачу, езджу на «Волзе», п'ю каньяк, заядаю ікрой, дык што — я дазволю іх рэабілітаваць, уславіць, а сябе зацьміць? Ніколі!»

Я разгубіўся. Ну, мог такое сам думаць пра лжэ-вучонага, чыноўніка, але каб вось так той нахабнічаў! Дзікая злосць успыхнула ўва мне, але я стрымаўся: хіба зменіш што, калі трэснеш яму па сытым рыле?!

«І ўвогуле песенька нашай мовы спета,— ухмыльнууся ён.— Чуў: цяпер у сіле тэорыя зліцця моў?! Так што трэба не адставаць...»

«Сволач!» — сказаў я і пайшоў прэч ад гэтага мова-еда.

Нейкі час я пстрыкаўся: напісаў колькі артыкулаў, рэцэнзій. Калі ж рэдактары іх бязлітасна крэмзалі, змушалі выкрасліць адны і ўпісваць другія імёны, цытаваць таго акадэміка, я не дазволіў нічога друкаваць. Не скажу, што мудра рабіў, але палічыў: лепш маўчаць, чым подлічаць... Калі ў нас тут першым стаў Мазураў і захапіўся «зліваць мовы», я паслаў яму ліст. Мовы, пісаў я, не так проста зліць, а вось людскія розумы, душы — лягчэй. Але падумайце добра, які чалавек будзе без свайго розуму, без сваёй душы. Можа, з яго выйдзе паслухмяная рабсіла, але ў рэшце рэшт яна, сляпая, калі не ўсё запар, то вельмі шмат змарнуе, не будзе дбаць пра будучыню. Калі мы думаем пра будучыню, пра нашых дзяцей і ўнукаў, калі мы клапоцімся пра нашу зямлю і паветра, дык давайце не вытоптваць душы, выхоўваць патрыёта. А тое, што нашы людзі могуць быць не такімі, відаць ужо і

цяпер: паглядзіце, колькі ў нас бязлітасна высякаецца лясоў, колькі спрамляецца жывых рэчак, колькі будуецца шкодных заводаў, колькі людзей жыве толькі адным днём, абы сёння быў кавалак сала, колькі адракаецца ад роднай мовы, траціць інтарэс да кнігі — адным словам, мы на вачах трацім наш народ... Калі не задумвацца, угоджваць камусьці, то ўсё гэта можа здацца не страшным, нават больш — удачай. Мы першыя крочым у светлую будучыню! Не, мы першыя ідзём да сваёй вялікай бяды! Рана-позна дорага заплацім за цяперашнюю сваю дурноту! Пад канец я прасіў рэабілітаваць тых, хто гонар нашага народа, але хто па-ранейшаму зганьбаваны.

Адказу мне не было. Я не спыніўся. Напісаў вялікі ліст нашаму земляку, які займае вялікую пасаду ў Маскве. Якраз у гэты час, як на ліха, дырэктарам нашай бібліятэкі назначылі яго, Чорнага чалавека. З акадэміі яго выкурылі за хабар. І ўжо ён на сходзе, набіраючы «палітычны капітал», зачытаў той мой ліст у Маскву, застрашыў усіх і змусіў прызнаць яго «варожым, нацыяналістычным», а заадно перадаў яго ў органы... Мяне запрасілі туды. Малады ветлівы, але халодны таварыш пагаварыў са мной, параіў «не замінаць партыі праводзіць эксперымент», памаўчаць. Я, утрапёны, сам ішоў насустрач сваёй бядзе: напісаў ліст самому Брэжневу... Копія ліста зноў прыйшла ў бібліятэку... На гэты раз і старыя супрацоўнікі, што ўцалелі, і новыя, якіх сам набраў Чорны чалавек, не толькі асудзілі мяне, але рашылі вызваліць з работы, а маю справу перадаць у суд... Карацей, я зноў паехаў у казённым вагоне на казённых харчах у далёкі край, дзе адбыў тры гады... Само па сабе зразумела, новая мая дысертацыя, усе іншыя паперы зніклі... Галя не толькі чакала мяне, але за гэты час узбілася на дачу... І ведаеце: лёс, не, нейкі злы рок ці фаталізм проста дабівае мяне! Старшынёй таго садоваагародніцкага таварыства стаў Чорны чалавек! Я нікуды не магу ад яго ўцячы! Баюся: памру 15 чысла нейкага месяца і яго неўзабаве побач пакладуць, калі не выдзеляць яму нейкага іншага, больш ганаровага, месца...

Чыгір урэшце згадзіўся, каб я схадзіў туды, куды трэба, пагаварыў на яго справе, напісаў у газету пра ягоны лёс, але назваць прозвішча таго Чорнага чалавека адмовіўся. Але ведаючы, дзе разам вучыліся, працавалі, дзе маюць непадалёку садовыя ўчасткі, я даволі хутка выявіў: Чорны чалавек — Арцём Аляксандравіч Сыч. Увазнаўшы гэта, адразу ж уведаў і патрэбны адрас.

Аднаго дня я і пашыбаваў да гэтага Сыча. На мой званок амаль адразу адчыніліся абабітыя чорным дэрмацінам дзверы, але не шырока — толькі на кароценькі ланцужок.

— Кто там? — строга запытаў нябачны мужчына.

Я назваўся і назваў газету, дзе працую.

— Что вам надо?

— Пагаварыць з вамі.

— Пра што?

— Пра жыццё-быццё, пра ветэранаў...

— Вашы дакументы.

Я тут жа пасунуў пальцы ў верхнюю кішэньку пінжака, але, як на тое, газетнага пасведчання там не было. Забыў дома, у іншым пінжаку.

— Як — няма з сабою дакумента?! Ну і дысцыпліна ў вас, пісак!

Адчытаў як хлапчука і ляпнуў дзвярыма.

Я мусіў пайсці ні з чым. Спачатку, прадчуваючы нялёгкую гаману, думаў махнуць рукой на таго тыпа, схадзіць туды, дзе цяпер могуць рашыць больш, але ўсё ж хацелася зірнуць на яго, не міфічнага, а жывога сталінца, хто доўга правіў баль і цяпер «на варце святынь».

Карацей, гаспадар чорных дэрмацінавых дзвярэй зноў запатрабаваў дакумент і, калі я падаў яго ў шчыліну, узяў, доўга разглядаў, а пасля прабубніў сам сабе:

— «Орган ЦК КПБ».

Адкінуў зашчапку, упусціў.

Дагэтуль я чакаў: перада мной будзе ці бамбіза з бандыцкім выразам твару, ці, наадварот, ліслівы шпанючок. Зірнеш у вочы такому, а там сядзіць хтосьці іншы — хітры, жорсткі, бязлітасны. Я не раз ужо налятаў як на першых, так і на другіх, і трэба сказаць: другія, малыя ростам, кусалі больш, як трутні.

Не. Гаспадар быў трохі вышэйшы за мяне, чалавека сярэдняга росту, хударлявы і, як кажуць, не зусім выразны. На ім не было арыстакратычнай белізны, выпешчанасці, што звычайна бывае ў ягоных калег — дзяцей высокапастаўленых бацькоў, але не бачылася і яўных прыродных сялянскіх рыс, што кладуць след на твар ад ветру, сонца, марозаў і цяжкай працы. Як я сабе ўявіў: чалавек абгладжаны горадам. Што да характару, то на першы позірк здалося мне: супярэчлівы.

На Сычу былі скураныя тапачкі, насок правага быў падрапаны (па сабе ведаю: падобным тапачкам падымаў ніжнюю зашчапку на балконных дзвярах), паношанае, бліскучае на локцях, але шыкоўнае спартыўнае трыко з белымі лампасамі на штанах, на шчоках — роўны чырванец, на галаве — сівы вожык, а ў шэрых, ужо выцвілых вачах — чэпкі, калючы позірк. Чыгір перад ім, равеснік, на выгляд нашмат старэйшы і слабейшы.

— Праходзьце,— міралюбна сказаў гаспадар і неўзабаве першы стройна па-вайсковаму пайшоў па доўгім цемнаватым калідоры з

высознай столлю, са старамоднай лепкай калідора і павярнуў направа — у прасторны пакой, дзе каля балконных агромністых дзвярэй стаяў каляровы тэлевізар, злева высіліся кніжныя шафы з аднымі зборамі твораў, з партрэтамі вядомых вучоных, рускіх пісьменнікаў. На адной з паліц кінуўся ў вочы партрэт Сталіна — той быў у вайсковым мундзіры і з зоркай, нібы зычліва ўсміхаўся, хоць туманна і пагрозліва прыплюшчваў тыгрыныя вочы. Справа стаялі пісьмовы стол, заваленны педагагічнымі часопісамі, газетамі, і канапа.

— Я слухаю вас,— быццам не дома, а ў важным кабінеце сказаў Сыч, сеў на крэсла пры стале, а мне паказаў месца насупраць, на канапе, над якой вісеў шыкоўны дыван. Яшчэ болей дарагі дыван ляжаў на паркетнай падлозе.

— Я прыйшоў да вас як да чалавека, які нямала пражыў на свеце і шмат чаго пабачыў...— сказаў я, адчуваючы, што святло з балкона не толькі асвятляе, але б'е мне ў вочы, а вось гаспадароў твар у цяні.— Што вы, да слова, думаеце пра цяперашнія перамены?

— Спачатку ў мяне да вас два пытанні, малады чалавек. Першае: вы нейкім чынам ведаеце, дзе і кім я працаваў? Другое: вы прыйшлі сюды самі ці па заданні газеты?

Я адказаў тое, што ведаў.

— Там,— сказаў ён зусім сур'ёзна, хітнуў галавой,— пад пінжаком, маеш мікрафон?

— Не,— прамовіў я і паказаў, што пад штрыфлямі, поламі пінжака.

— Дык што ты хочаш пачуць ад мяне, ветэрана? — рэзка напаў ён, свідруючы цяжкім позіркам.— Пра змены-перамены? Пра якія? Пра тое, што найперш вы, пісакі, разышліся, бурыце ўсё, што мы мацавалі дзесяцігоддзямі? — Узяў са стала «Огонек», склаў яго і патрос перада мной.— Усё апляваліі: Сталіна, партыю, сацыялізм... А тое, што напісана пра правасуддзе, органы, увогуле ні ў якія вароты не лезе...

Зларадна ўхмыльнуўся:

— Што здзіўлены? Дыфірамбаў ад мяне чакаў? Не, дарагі. Не пачуеш іх ад нас, для каго на першым месцы партыя, Радзіма і... Сталін, які зусім не такі, як вы малюеце, а наш выратавальнік... А цяпер наце: ні мыла, ні шыла, адна балбатня ды разброд, нахабнасць нефармалаў, народнага фронту і здранцвенне ўлады... Вы яшчэ пашкадуеце, ох як яшчэ пашкадуеце, што так замахнуліся на наша мінулае!..

— Ясна,— сказаў я, не хочучы спрачацца.— Я ўласна, Арцём Аляксандравіч, прыйшоў да вас не дыскутаваць пра былыя святыні ці грахі, пра змены-перамены, як вы кажаце. Я вось пра што. Цяпер, як самі бачыце, аднаўляюць добрае імя многіх зганьбаваных у свой час

людзей. Як асабіста вы, Арцём Аляксандравіч, цяпер гледзіцё на лёс вядомага вам Чыгіра? Можа, хопіць ужо цягаць яму цяжкі крыж? Можа, ён выпакутаваў права памерці звычайным нашым чалавекам, а не ліхадзеем?

Сыча нібы ўджалілі — ён уздрыгнуў, наліўся крывёю, адвёў вочы і пастукаў кантамі часопіса па стале.

— Вы адкуль яго ведаеце? — запытаў.

— Як сусед па доме.

У гэты час зазваніў званок, і Сыч, здаецца, радуючыся, што можа адысціся, падаўся да дзвярэй. На гэты раз нібы трошкі згорбіўшыся. Па гомане я зразумеў: зайшлі дзіця і жанчына. Неўзабаве яны былі ўжо тут: поўненькі, нават пухнаты хлапчук гадоў сямі ў школьнай форме і маладая высакаватая прыгожая маладзіца ў чорных модных калготах, шэрай спадніцы і чорным світэры, трымаючы ў руцэ вучнёўскі партфель. За імі ўвайшоў Сыч, патлумачыў дачцэ ці нявестцы:

— Карэспандэнт.

— Хадзем, Толік, у залу,— сказаўшы мне калі не халоднае, то стрыманае «здравствуйте», жанчына абцягнула на сабе світарок, які напінаўся на высокіх грудзях, паправіла чорную шапачку і павяла сына з пакоя.

— Я папрашу: пры дачцэ, а то і ўвогуле прозвішча Чыгіра не называйце...— як нейкую ўмову паставіў мне Сыч і зноў сеў на крэсла.— Прызнайцеся: гэта ён вывеў вас на мяне? — запытаў, зноў узвысіўшы мяне на «вы».

— Ён не назваў нават вашага прозвішча, вас я вылічыў сам...

— Што вы хочаце ад мяне?

— Памажыце рэабілітаваць яго, Арцём Аляксандравіч.

— Вы лічыце: усе, хто тады сядзеў, толькі анёлы?

— Я не гавару пра ўсіх.

— Крымінальнага злачынства за ім няма. Але я не ведаю, як яго рэабілітаваць палітычна. Ён — нацыяналіст!

— Ёсць доказы?

— Ёсць.

— Якія? Даносы? Паклёпы? Урэшце, ён прапаведуе нашу выключнасць, сее варожасць да іншых нацый?

— Ну, цяпер гавораць, адкрыта пішуць больш, чым ён некалі,— памякчэў Сыч.— Але... Цяпер нібы можна, а тады...

— Дык давайце вернем справядлівасць, змыем з нармальнага чалавека паганае кляймо!

— Вы лічыце: гэта ўсё так проста?

— Не, не лічу. Але хто-хто, а вы можаце зрабіць для яго больш, чым хто. І добрага, і ліхога,— загарачыўся я.— А зрабіць добрае трэба нават дзеля апраўдання перад Чыгіром, які мог бы быць вядомым вучоным, шчаслівым чалавекам. Чыгір...

Сыч прыклаў палец да вуснаў: ціха! У калідоры пачуліся мяккія крокі. Тут жа сюды зайшла, як я хутка ўведаў, гаспадарова дачка. Мы заціхлі.

Маладзіца не была падобная на бацьку, удалася ў іншага чалавека, відаць, у маці, але цяпер, як і бацька, свідруюча зірнула на мяне, што я, скажу шчыра, сцяўся ад гэтага цяжкога позірку.

— Тата, што ты дазваляеш розным... чытаць табе натацыі? — накінулася яна на бацьку, і я здзівіўся, як можа на вачах мяняцца чалавек. Была красуня, тут жа — змяя.

— Выбачайце,— прамовіў я, узбуджаючыся яшчэ болей.— Я не мараліст.

— Надакучыла! — нервова ўзарвалася яна.— Надакучыла, як усякія папікаюць яго, як тыцкаюць на мяне: твой бацька тады і тады, тое і тое... Што — бацька быў галоўны, усё наладзіў? Бацька тады быў малады, выхаваны на рэвалюцыі і верна служыў. Можа, і ў яго былі памылкі, хібы, але... Не было, чуеце, не было столькі бруду, погані, крыві, як цяпер панапісвалі!

Яна прыпынілася каля кніжнай шафы, запунсавелася і, адчуўшы гэта, паляпала сябе прыгожымі пальчыкамі па поўненькіх шчоках, а пасля раз за разам пачала папраўляць масіўныя акуляры.

— Я ведаю гэтага Чыгіра, мамінага першага мужа,— дадала ўзбуджана.— Ведаю: мама кахала яго, ганарылася ім, верыла ў ягоную вялікую будучыню, як і ўсе маладзенькія дзяўчаткі. Хоць тата і выратаваў яе ад ганьбы, можа, нават і ад смерці, але яна пасля вайны хацела вярнуцца да Чыгіра, памагчы яму акрыяць. Яна згаджалася на ўсе ахвяры, абы быць з ім. Але Чыгір не перамог самалюбства, не ўзяў яе і дваіх дзяцей. Калі яго ў сорак восьмым зноў пасадзілі, мама кляла Цанаву, Берыю, Сталіна, пасварылася з татам. Мяккая, добрая, яна магла зноў загубіць і сябе, і ўсю нашу сям'ю. Яе змаглі суцішыць, але яна зненавідзела тату і вельмі рана пайшла на той свет. Дык, скажыце, гэты Чыгір ні ў чым невінаваты?

— Не нам судзіць яго, як ён пасля першага вызвалення аднёсся да вашай маці...— сказаў я.

— Не, я не пра гэта,— перапыніла мяне расчырванелая красуня.— Я асабіста рада, што ён адмовіўся ад яе. Ну, што ён даў бы ёй, дзецям, мне, каб быў маім бацькам? Нягоды і нягоднасць, пакуты і гібенне! А ён,— кіўнула на бацьку,— даў нам усё. Мы заўсёды мелі

хлеб і да хлеба, былі апранутыя і абутыя. І, галоўнае, паўнацэнныя! Я не з тых, хто ганарыцца нястачамі, тым, што з-за іх няшмат дабіўся ў жыцці! Я гляджу на жыццё цвяроза. Калі ласка: мамін першы сын — інжынер-будаўнік, лаўрэат, нікольві не пакутвае ад таго, што не носіць прозвішча Чыгіра, татаў сын, мой родны брат — армейскі маёр, я — кандыдат педагагічных навук, пішу доктарскую... Хоць я стала на ногі, але хіба мне кепска, што бацька мае вялікую пенсію, прымацаваны да добрага стала заказаў, прыладзіў нас да добрай паліклінікі? Хіба блага, што будзе забяспечана будучыня і майму дзіцяці? Дык, паўтару, што — мне ганьбіць бацьку?

— Выбачайце, я ж ні слова не сказаў вам пра гэта,— прамовіў я.— Прыйшоў да Арцёма Аляксандравіча зусім з іншымі, добрымі намерамі, я хачу папрасіць яго...

— Ведаем мы вас, газетчыкаў! — перапыніла мяне Сычава дачка.— Напішаце такое!.. А дзіця мае і так ужо траўміраванае. Не раз, калі па радыё, па тэлебачанні чуе жудасці пра тыя гады, пытае: мама, а што — і дзед наш быў такі, тое рабіў? Я не хачу, каб яно не паважала галаву сям'і, расло непаўнацэнным. Непаўнацэнныя — няўдачнікі ў жыцці...

— Ды, кажу ж, я не прыйшоў абняславіць Арцёма Аляксандравіча. Я хачу, каб ён памог Чыгіру.

— Не штурхайце тату туды, дзе яму можа пашкодзіць!..

— Ціха, Таня,— папрасіў Сыч.— І ўвогуле гэта ўсё ж мужчынская размова...

— Што — «ціха»?— зноў напала на яго дачка.— Не трэба маўчаць, лішняе дазваляць ахмялелым ад гэтай перабудовы... Дарэчы,— перавяла позірк на мяне,— я не чытаю цяперашніх газет, дзе пішуць пра Сталіна і пра ягоныя так званыя злачынствы... Скажу нават больш: Сталін, можа, і мусіў рабіць якраз так. У рэшце рэшт ён выйграў вайну, падняў на ногі краіну і навёў лад. Так што і такія, як мой бацька, рабілі тое, што трэба было... Мой муж, каб вы ведалі, там маёр ужо... І я ганаруся гэтым.

— Гэта ваша справа, Таццяна Арцёмаўна,— спакойна адказаў я.— Як і любіць ці не любіць перабудову.

— Я ненавіджу яе! — разышлася яна.— Жадаю ёй краху! І веру: прыйдзе той, хто завяжа распушчаныя языкі, зноў навядзе лад, ушануе тых, каго цяпер бэсцяць!

— А як з вашай маці?

— Што — маці? — здаецца, не зразумела маладзіца.

— Хіба ёй там, на тым свеце, не хочацца, каб нарэшце, калі можна, змылі пляміну з таго, каго яна кахала?

Сыч нахмурыўся, зацерабіў касмылістае брыво; яго дачка нібы сумелася, нейкі час завагалася, а потым, здаецца, ужо не мне, а якраз свайму бацьку сказала цвёрда:

— Не, тата нікуды не пойдзе! А калі не паслухаецца, дык я ніколі не дарую яму!

1989

## ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ

### 1

Жэня не толькі здзівілася, але і раптоўна анямела: сюды, на пошту, ішла Рая. Упершыню за гэтыя пятнаццаць гадоў, што жыла ў Сівіцы. Дагэтуль абыходзіла гэты будынак і яе за вярсту.

Зайшла, запынілася за парогам, прыхілілася да сцяны і пачала нервова кусаць некалі поўныя, ружовыя, а цяпер быццам бяскроўныя вусны.

За апошнія гады змяніўся не толькі колер Раіных вуснаў. Уся яна стала іншай, Некалі, калі прыехала з чужой вёскі і ўвайшла ў дом Буслоў нявесткаю, была поўненькая, крамяная, з маладым чырвонцам на шчоках, пасля, калі адно за адным нарадзіла двое дзяцей, яшчэ болей набрала вабнай жаноцкасці. Нейкі час, бадай, была самая прыгожая маладзіца ў вёсцы. Пазней, калі пачаў здраджваць, а заадно і піць яе Васіль, увачавідкі змарнела. Цяпер вунь высахлая, з тонкімі і няроўнымі нагамі, змаршчынелая і пасівелая. Аж не верыцца, што можа вось так хутка пакінуць яшчэ маладую кабету краса і здароўе.

Жэні, бачачы ўсё гэта, можна было б зларадна цешыцца: так табе і трэба, занямонка! Добра ж у свой час ведала, што ёсць яна, Жэня, і што ёсць у яе дзіця ад Васіля, але не, не пазважала, захацела збудаваць сваё шчасце на чужым горы. Але не зладзіла. Колькі спачатку хадзіла задраўшы галаву, звысоку пазіраючы на вёску і на яе, Жэню з байстручаняткам, столькі цяпер апускае вочы і адплаквае тое, што некалі аддала сваёй радасці. Ды Жэня не цешылася: дзякуй Богу, тое балючае, што ляжала ў душы на цёмнай глыбіні, не вынырнула і не затапіла яе спакутаванае сэрца.

— Ну, што скажаш? — першая падала цяпер голас, адчуваючы, што неспадзяваная госця-суперніца ніяк не можа выціснуць якое-небудзь слова.

— Вася просіць, каб ты зайшла ўвечар з Юляю...— устрапянулася тая, часта-часта заміргала і, здаецца, моцна закусіла ніжнюю губу.

У Жэні зноў зашчымеў даўні, глыбокі крыўдны і горкі боль — цяпер ужо ад гэтага Раінага ласкавага «Вася». Як той ні цяжка было апошнія гады, хоць і траціла без пары маладосць, бач, усё роўна кахае некалі рослага, прыгожага, а цяпер вельмі хворага Васіля. І пераадолеўшы некалішнія ды сённяшнія гонар, рэўнасць, сюды прыйшла таксама не з-за абыякавасці да яго, каго адабрала ў яе.

— Чаго нам ісці? — усхвалявана запытала Жэня.— Мы...

— Ён хоча з вамі пагаварыць...

— Пра што?

Рая, падняўшы галаву і ўбачыўшы яе вочы, аж разгубілася: канечне, усім чуйным жаночым сэрцам адчула яе ажылую пакуту.

— Усё ж ён — Юлін бацька...

— Ну й што? — ціха прамовіла Жэня.— У яго даўно ўжо сваё, а ў нас — сваё... Сама ж бачыш: я не замінала і не замінаю вам жыць. Ці мне было лёгка, ці мне было цяжка, што нават часамі хацелася налажыць на сябе рукі, а цярпела. Высільвалася дзеля Юлі. Ну, а пазней, калі мае сцежкі сышліся з Косцевымі, убачыла свет і шчасце. Павер, цяпер нават радая, што тады Васіль адрокся ад мяне: я яго любіла, а ён мяне — не. Настояла б мая радня ўзяць мяне замуж — ён бы зусім зненавідзеў...

— Памрэ ён, Жэня...— усхліпнула Рая, непрыгожа зморшчылася, расцягнуўшы сіняватыя вусны, першы раз за іхняе знаёмства назывaла яе імя спакойна і цёпла.

Чалавечае сэрца — не камень. Як не захлынаецца ад болю, крыўды, але не можа цалкам ачарсцвець, счужыніцца і да крыўдзіцеля, умее калі не зусім дароўваць, то наладжваецца на спагаду. Хацела ці не хацела Жэня, але зараз адчула: гэтае пачутае страшнае слова «памрэ», а заадно і тое, што да яе першая прыйшла суперніца і назвала па імені, расчуліла яе сэрца, змякчыла душу. Васіль, Васіль... Сам сябе зводзіць са свету з-за сваёй распусты ці ўсёдаравальнасці самому сабе, вельмі рана пакідае жонку ўдавою, а дзяцей — сіротамі...

— Дык што мне сказаць яму, Жэня? — запытала Рая, усё паранейшаму зняможана тулячыся да вушака.

— Не ведаю,— шчыра прызналася яна.— Пагавару з Косцем, з Юляю...

— Скажу табе як на споведзі,— разгаварылася Рая.— Спачатку, як ён папрасіў паклікаць вас, я аж слязамі залілася. Бачыш, жыве з адной, а пра другую думае! Але перагарэла, адумалася. Дык цяпер скажу ўжо спакойна: ты не прапала, а я шчасця вялікага не набыла... А ён... Гарэў, кідаўся, мусіць, не ведаючы, што ён і для чаго робіць, ад чаго ўцякае і што даганяе... А цяпер самы няшчасны з нас усіх...

Не таілася, паплакала. Жэня маўчала, пазірала перад сабою на стол, на кніжачку з квітанцыямі і ручку, а па яе шчоках самі па сабе плылі спачувальныя слёзы.

— Прыходзьце,— сказала на адыход Рая.— Няхай выгаварыцца, вас паслухае. Можа, усім лягчэй стане. І найперш — Юлі... Ёй жа ў свет, у людзі хутка ісці, дык трэба, каб яна мела ў душы не цяжар, не зло...

2

Жэня забрала з дзіцячага садзіка сваіх меншых дзяцей і накіравалася дадому.

Сёння пяцігадовая Верка пайшла не з ёю, а пабегла разам з суседкай-сяброўкай, а трохгадовы Юрык шлэпаў побач, узяўшыся за руку, і без супынку шчабятаў. Яна слухала, штосьці нават адказвала, але думкі яе былі пра іншае. Яна нават сама добра не адчувала, пра што ёй хочацца думаць: ці то ўспамінаць сваю маладосць, Васіля, які прыйшоў з войска і, высокі, стройны ў вайсковай форме і фуражцы, прыгожы, смелы, адразу паланіў яе, ці то шкадаваць Васіля сённяшняга, хворага і нямоглага. Гэтая няяснасць была ад таго, што не хацела вяртацца ва ўспамінах у той час, калі была маладая, закаханая, верыла кожнаму Васілёваму слову і гэтак неабачліва кінулася ў агонь свайго кахання, як і намагалася шмат не браць да галавы пра Васілёву хваробу. Урэшце хто ён ёй? Чужы чалавек. Нават больш чым чужы — падманшчык і крыўдзіцель. А тое, што цяпер ён у бядзе, дык навіна тут малая: не да аднаго яго такі жорсткі лёс. Ды ёсць каму яго шкадаваць, плакаць па ім. Аднак набыць душэўны спакой Жэня не магла: развярэдзілася не толькі яе старая рана, але і душа...

Узрушаная і разгубленая, быццам як сама не свая, яна руплівa ўхаджвалася па гаспадарцы, пыніла звычайную, нават надакучлівую, але патрэбную жаночую работу ў хаце, як ніколі дагэтуль клапатліва, ласкава сустрэла старэйшую дачку са школы, а мужа — з работы.

Як ні намагалася, але не магла загаварыць з Юляй пра тое, што пачула ад Раі. Пра гэтую размову расказала мужу. Пасля вячэры ў гаражы, кал і ён пры святле падвешанай да столі яркай электрычнай лямпачкі корпаўся ў маторы «Жыгулёў».

Косця — на гадоў дзесяць старэйшы, у чорным рабочым халаце і ў кепачцы, што прыкрывала яго лысіну,— выслухаў яе моўчкі. Праўда, калі ўсхвалявана гаварыла, ён не пазіраў у вочы, нібы спакойна, а на самай справе, мусіць, узрушана цёр-цёр анучкаю замасленыя рукі, моршчыў высокі лоб і моцна сцінаў таўставатыя, на першы погляд трошкі непрывабныя, але што ні ёсць звычайныя муж-

чынскія вусны — здавалася, ці то не ведаў, што знянацку адказаць, ці то, як і кожны муж, калі не прыраўноўваў, дык адчуў балючае шчымленне, што яго жонка спачувае свайму быламу каханку. Ён чалавек з нялёгкім лесам (яго першая жонка і дзеці загінулі ў аўтамабільнай катастрофе), стрыманы ў пачуццях, нават нібы нелюдзімы, але мяккі і спагадлівы, шчыра і моцна трымаецца за іхнюю сям'ю, дык цяпер, можа, чагосьці і збаяўся. Можа, і таго, каб раптам не парушылася тое, чаго ён дабіўся ўжо ў сталыя гады, пасля вялікай трагедыі ў сваім жыцці.

— Рашайце самі, Жэнька,— нарэшце ціха прамовіў ён.— Я замінаць не буду.

Яна хацела заспакоіць, каб ён дарма не трывожыўся, яна і Юлька, нагараваўшыся, сагрэліся душою каля яго, зажылі як след, таму да канца дзён сваіх будуць толькі з ім, ды і Верачка, Юрык ужо моцна звязваюць іх у адно цэлае і трывалае. Але не паспела сказаць нават слова: з веранды вымкнулася на ганак Юля і гукнула ёй:

— Мама, я — у клуб.

Гэта значыць, як і многія з вясковай моладзі, спяшаецца на ўмодненую ўжо тут дыскатэку, дзе яны, сабраўшыся, як аднойчы ўбачыла Жэня, уключаюць шматколернае мігатлівае святло, ад якога аж рэжа ўваччу, слухаюць неверагодна грымлівую музыку, крыклівыя, а то і лямантлівыя песні, танцуюць-таўкуцца ў вялікім гурце — гэтае незвычайнае святло, адмысловую музыку наладзіў новы загадчык клуба, малады, але без часу нейкі пакамечаны, лысы і барадаты Півонаў, які яшчэ нядаўна сам вішчэў у горадзе ў адным з самадзейных рок-ансамбляў і якога, кажуць, выгналі адтуль за распусту.

— Пачакай,— запыніла дачку Жэня,— хадзі на хвілінку сюды.

Юля запынілася, нібы павагалася, што далей рабіць, а пасля незадаволена падышла да гаража. Бач, маці зноў супраць, што яна «не туды ходзіць, займаецца абы-чым і што на яе залішне зыркае тое лысае і барадатае пудзіла!» Прыхілілася да вушака і зірнула спадылба: ну, хутчэй гавары сваю павучальную казань! Але я ўсё роўна пайду, бо ўжо не дзіця! Мне семнаццаты год!

У Жэні аж сціснулася сэрца: якая ж падобная на бацьку Юля! Рослая, чарнявая, такі ж настойлівы позірк у вачах, прамы нос і прызыўныя прыгожыя губкі, нецярплівая і рэзкая — усё, да крошкі, узяла ад Васіля. Толькі маці-прырода спагадліва адкінула грубаватыя мужчынскія рысы, а замест іх дала вабную гнуткасць, стройнасць, дык ужо і цяпер, яшчэ ў раннія гады, вунь красуня ў кароценькай чырвонай куртачцы і сініх штанах-джынсах.

— Юля,— прамовіла Жэня, бадай, упершыню не ведаючы, як гаварыць з дачкою.— Васіль... ну, твой бацька... просіць прыйсці...

Юля аж сцепанулася, быццам ад уколу, стрэльнула маладым, але пранізлівым позіркам. Пасля зірнула на ссутуленага айчыма — запытальна і недаўменна.

— Схадзіце,— не падымаючы вачэй і на падчарыцу, сказаў той.

— Вы — што? — ужо апамяталася і абурылася Юля.— Я? Да яго? Ніколі!

— Ён зусім хворы,— не Жэня, а айчым пачаў гаварыць з Юляю.— Ды не чужы табе чалавек.

— А хто ён мне? — рэзка запытала тая.

— Бацька.

— Не! — амаль крыкнула Юля.— Ён мне не бацька! Чуж-чужаніца! І яшчэ горш — здраднік, вораг...— Выпаліла з гневам, а калі ўбачыла, што айчым разгубіўся, а маці, перажываючы былое і сённяшняе, плача, супакоілася і пачала нібы апраўдвацца, нібы разважаць.— Мама, ну чаго мы пойдзем? Ён падмануў цябе, пацешыўся, растаптаў тваё каханне... Ён не адрокся ад мяне, ён больш — знявечыў маю душу... Я магу цяпер забыць, што мяне доўга, аж пакуль не прыйшоў да нас дзядзя Косця, называлі байстручкай, кожны мог пакрыўдзіць, я не магу нават забыць, як гэтая занямонка цябе аднойчы абражала ў магазіне... Але я век буду помніць той дзень, калі я з партфелікам, у формачцы з белым каўнерыкам і белымі манжэцікамі, з прыгожымі банцікамі і, галоўнае, радая, шчаслівая, што і я чалавек, вучаніца, вярталася ў першы дзень вучобы са школы, іду, а ён нясецца на матацыкле насустрач. Убачыў — нацягнуў брыль на мызу і не збочыў, а наўмысна наехаў на лужыну і абліў мяне з ног да галавы граззю... Я малая тады была, многага яшчэ не разумела, хоць добра ўжо ведала: іменна ён — мой бацька. Стаю тады і свету з-за жальбы, слёз не бачу: ну, за што так здзеквацца? За тое, што я ёсць, жыву, не даю яму спакою?

Юля выказала свой даўні боль у запале, а яны, старэйшыя, моўчкі яе выслухалі, а можа, нават абое і не ведалі, што цяпер сказаць ёй. Косця зацяўся, а Жэня заплакала ўжо наўзрыд: толькі вось цяпер яна ўведала, чаго гэтак галасіла Юля, калі прыйшла тады дадому брудная. Слоўка тады не прамовіла, што ў гэты светлы для яе дзень так зняважыў яе бацька. Пасля гэтага захварэла, здаецца, з тыдзень не падымалася з пасцелі.

— Дзядзя Косця,— ужо ціха прамовіла Юля.— Вы, толькі вы — ужо мой бацька. Толькі вас я павінна называць татам. І я пачну называць вас так, калі вы дазволіце...

Жэня перавяла позірк на Косцю: той моцна сціснуў анучку ў руках, мыляе-мыляе вуснамі, але нічога не можа сказаць ад нечаканасці, а пасля зажмурыўся — мусіць заціскаў, не пускаў на волю расчуленую слязу.

— Дзякую, Юлечка,— неўзабаве, пракаўтнуўшы задаўлены камяк, ажывіўся, усміхнуўся.— Я з таго дня, як увайшоў у вашую хату, лічу цябе сваёй дачкою...

Гэтая яго, ужо не стрыманая, а разняволеная радасць, нібы аж разгубіла Юлю. Яна, відаць, толькі цяпер зразумела, якая нябачная мяжа альбо сцяна разбурылася паміж імі. Трэба сказаць, Юля не паўставала, каб з імі жыў гэты прыезджы інжынер, але ўвесь час разумела, што ён усё ж ёй не бацька. Бачыла, з ёю ён добры, спагадны, але ўсё ж Верачку і Юрыка лашчыць з сапраўднай бацькоўскай любоўю, якой не мог мець да яе. Але цяпер Юля нічога больш не прамовіла, ужо не па-дзіцячы, а па-сталаму глядзела на ўсё, што здарылася, а можа, па-свойму і радавалася, што нарэшце добрага айчыма назвала бацькам, альбо па-свойму засмучалася, што ў запале сказала столькі злога пра чалавека, што даў ёй жыццё.

— Нічога не зробіш, як людзі кажуць, жыццё-быццё...— пахітаў галавою гаспадар і, каб ужо супакоіць іх, адарваць ад цяжкіх дум і пачуццяў, нібы па-зямному будзённа, а на самай справе мудра ледзь не загадаў: — Ну, вы схадзіце, праведайце хворага, а я за гэты час падрамантую ўсё як след. Паслязаўтра ў горад з'ездзім, у музеях пабудзем.

## 3

Удзень было сонечна, цёпла, а вось цяпер, увечар, закрапаў дождж, папоўз ці то зверху, ці то з нізін холад — канчаўся верасень, дык восень брала сваё, змушаючы адкрасаваць і апасці тое, што ўвабралася ў сілу за лета, астыць паветра і зямлю, запрашаючы сівер і зябкасць.

Жэня паволі крочыла да Буслоў — упершыню пасля таго, калі ажаніўся Васіль і прывёз у дом Раю. Не заходзіла сюды нават тады, калі памёр стары Бусел і амаль услед за ім далася Бусліха: тыя, працавітыя, заможныя, трохі фанабэрыстыя людзі, не зрабілі ёй вялікага зла, але і вялікай дабрыні не выявілі, лічачы, што яна, сірата, ды яшчэ не з ганаровага роду, не вартая іхняга сына. Праўда, перад смерцю абое нібы адумаліся, перадавалі праз дачку грошы, прасілі дараваць — Жэня ці то адчапнога, ці то падарункаў не ўзяла, але, калі іх хавалі, на могілкі хадзіла.

Жэня ішла адна: рашылі з Косцем не змушаць Юлю ісці сюды супраць яе волі. Няхай падумае, сама разбярэцца, што ў яе на душы і, можа, зойдзе пазней. Яна і так узрушылася сёння, што не пайшла ў клуб, распранулася і легла ў пасцель. Здаецца, нават з павышанай тэмпературай.

У Бусловай хаце трапіла якраз на вячэру. Рая борздзенька падхапілася з-за стала, пачала памагаць распранацца, падала тапачкі, а дзеці, сямікласнік Пятрок, выліты бацька, і пяцікласніца Люся, падобная на маці, сумеліся, паапускалі галовы — яны, змалку пра ўсё ўведаўшы, заўсёды саромеліся яе і Юл і, стараліся не трапляць на вочы.

Буслова хата была вялікая — ажаніўшыся і стаўшы лесніком, Васіль да трохпакаёўкі прыбудаваў яшчэ два прасторныя пакоі і веранду. Жэня ішла ўслед за Раяю па калідоры і пакоях, вельмі не прыглядалася, але міжволі бачыла: на падлозе і на сценах шмат дарагіх дываноў, усюды нямала новай мэблі, люстраў, аж два тэлевізары — малы, мусіць, чорна-белы і вялікі, відаць, каляровы.

Васіль ляжаў у бакавым пакоі на шырокім драўляным ложку, накрыты коўдраю ў бялюткім чахле і, можа, ад гэтай белі сам таксама быў вельмі ж бледны. Яна, які ўжо час не бачыўшы яго нават здалёку, цяпер аж разгубілася: які зблажэлы! Не мужчына, а цень ад яго! Злямчаныя валасы, нібы васковы лоб, запалыя вочы і шчокі, тонкая шыя і белыя, лічы, кастлявыя рукі.

Рая моўчкі падала ёй крэсла, а сама, не сказаўшы і слова, выйшла з пакоя.

— Садзіся,— прамовіў ён зліплымі сухімі і патрэсканымі вуснамі, а калі яна апусцілася зусім непадалёку, квола ўсміхнуўся: — Што — не пазнаць?

— Змяніўся,— шчыра адказала яна, адчуваючы нейкую няёмкасць, што яна цяпер такая папаўнелая, ружавашчокая і, можна сказаць, маладзей сваіх гадоў.

— А дзе Юля? — схмурыўся.— Не захацела прыйсці?

— Можа, і не варта настойваць, каб яна вось так адразу ўзяла і прыйшла сюды...— апускаючы галаў і абцягваючы на круглыя калені ў цёплых панчохах спадніцу, адказала яна.

— Можа,— згадзіўся.— Хоць папрасіць яе даравацьце, развітацца хочацца...

— Ты што — некуды пераязджаеш? — нібы нічога не зразумеўшы, запытала яна.

— Думаю пераехаць. За вёску, да бацькі і маці...— ціха прамовіў, і ў яго патухлых, нібы шкляных,вачах нагарнуліся слёзы.

— От выкінь дурное з галавы! — знарочыста сярдзіта сказала Жэня.— I сам трымайся, і сям'ю не мардуй.

— Не, Жэня,— прамовіў, пазіраючы не на яе, а ў столь.— Не жылец ужо я. Пракляты рак стачыў мяне, дык з кожным днём слабею і слабею.— На хвіліну замаўчаў, выцер рукавом белай кашулі скупыя, але адчайныя мужчынскія слёзы.— Думаў: сто гадоў пражыву. Век буду малады, здаровы, дужы. Але не. Знянацку нешта падсекла. I паратунку, душой адчуваю, няма.

— Кажу, выкінь абы-што з галавы,— паўтарыла яна тое, што найперш магла сказаць цяпер.— Пра другое думай. Пра тое, як жыць далей ды каб дзяцей падняць на ногі.

— Цяпер то я ўжо ведаю, як трэба жыць...— уздыхнуў і глыбока ўвабраў ў сябе свой цяжар.— А некалі гарачы, легкадумны і бесталковы быў. Якраз з-за гэтага зламаў табе маладосць. Ты мне падабалася, вабіла, але я, выбачай, не думаў браць цябе замуж. Думаў: пагуляю — і ўсё... Сказала ты мне са слязамі, што зацяжарыла, а я не толькі раззлаваўся. Зненавідзеў цябе, нібы найперш ты ва ўсім вінаватая. Таму і з Раяю ажаніўся лёгка, жыў без турбот. Але ішоў час і штосьці само па сабе пачало лезці ў галаву, грызці душу: не, даражэнькі ветрагон, не цеш сябе, ты не цаца, а падманшчык, двудушнік і мярзотнік! Заліваў няпрошаныя думкі і згрызоты гарэлкаю, бывала, піў ледзь не да смерці, на іншых жанчын кідаўся, звярэў, дзічэў, а лягчэй не было. Наадварот, станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Калі ты выйшла замуж, акрыяла, нават расцвіла, я адчуў: зусім дабіты. Я табе такога не даў бы. Я змучыў бы цябе, як вось змарнаваў жыццё Раі...

Жэня не перапыняла, слухала і, глушачы растрывожаныя пачуцці, боль, ціха плакала. Васілёвы словы не крыўдзілі, не абуджалі гнеў — не, яны супакойвалі, нават радавалі, што чалавек нарэшце зразумеў тое, што павінен быў ведаць даўно. Такой бяды, што гэтае пакаянне позняе.

— Які не цяжкі мой грэх перад табою, але я сябе магу суцешыць: ты не прапала, зажыла так, як трэба,— спавядаўся Васіль далей.— А вось перад Юляй няма мне даравання. Не за тое, што з-за юру, незнарок даў ёй жыццё, што жыве без бацькоўскай ласкі. Я не магу дараваць сабе адзін жудасны выпадак, які і яна мне ніколі не даруе. Як цяпер помню: яна, маленькая, харошанькая, чысценькая, ідзе са школы, а я лячу насустрач на матацыкле, бачу яе — і ўва мне, п'янага дзікуна, падымаецца, расце нейкая сляпая злосць. Не збочваю, а наўмысна наязджаю на лужыну і абліваю дзіця з ног да галавы...

— Я ўсё, Васіль, разумела, а вось гэтага — не,— пахітала яна галавою.— Я — адно, а вось невінаватае дзіця ды яшчэ ў такі для яго дзень — зусім другое...

— І ведаеш, найбольш пад'юшчыла тое, што Юля якраз на мяне падобная...— Прызнаўся, памаўчаў крыху, выціраючы рукавом спацелы лоб, а пасля дадаў: — Да гэтага веска адносілася да мяне яшчэ больш-менш нармальна: што ж, і такое бывае... Але вось пасля гэтага я адчуў: усё, людзі мяне не любяць. Амаль ніхто, апроч маці і бацькі, мне нічога не сказаў, але ўсе нібы адмяніліся... Каб ты ведала, як мяне пранізаў гэты іхні холад! Але я, ёлупень, не стаў на калені перад усёй вёскай, перад Юляю, а яшчэ болей зацяўся...

Жэня змаўчала, выцерла хустачкаю слёзы.

— Даруйце...— ціха, з просьбаю прамовіў Васіль, зноў, як і на пачатку сустрэчы, замыліў вуснамі.— А я сабе ніколі гэтага не дарую...

— На мне таксама віна ляжыць,— сказала яна, трохі суцешваючы яго.— Не паслухала старых людзей, не шанавалася. Не падпусціла б цябе — усё зусім іначай было б...

— Даруйце,— зноў папрасіў ён.— Бо якраз я ўсё гэта натварыў.— Павярнуўся, пасунуў руку пад падушку і дастаў адтуль невялікі згортачак.— Жэня, Юля налета канчае дзесяць класаў і, відаць, паедзе ў горад. Я хачу тое-сёе падарыць ёй на абновы.— Падаў дрыготкаю рукою.

— Не трэба, Васіль,— шчыра сказала.— Яна не возьме гэтых грошай, ды мы цяпер не без капейкі. Косця любіць Юлю, нічога ёй не шкадуе. Як і для свайго дзіцяці.

— Я разумею,— засаромеўся, нават нездароўча паружавеў.— Але хай бы была ёй памяць.

— Тое, што ты сказаў нядаўна, найлепшая памяць,— адказала Жэня.— А грошы аддай Петраку і Люсі.

Васілёва рука аслабела, апусцілася на коўдру. Жэня, адчуваючы, што настала хвіліна развітацца, паднялася, падышла і пацалавала яго ў шчаку. Ад нечаканасці ён нават не варухнуўся.

— Ну, будзь здароў,— прамовіла.— Гані прэч хваробу, думай пра жывое.

— Дзякуй табе, добрая душа,— усміхнуўся, пазіраючы на яе з любасцю.— Пагаварылі — і мне стала нашмат лягчэй.

— Ну то і добра,— падбадзёрыла яна, махнула рукой і хуценька, глытаючы салёныя слёзы, падалася з пакоя.

Неўзабаве, калі выпаў першы малады снег, Васіль памёр.

Разам з іншымі адпраўлялі яго ў апошні шлях Жэня і Юля. Спачатку яна, Юля, была пахмурая, блізка не падыходзіла да труны, да нябожчыка, нават чужанілася людзей, але на могілках, калі труну з бацькам апусцілі ў глыбокую сырую яміну, прытулілася да маці і заплакала. Ужо не дзіцячымі, а сталымі слязьмі. Ад страты нялюбага, але роднага чалавека.

1986

## ПЯТРО З ДАБРЫНІ

Міжгародні аўтобус.

Дарога далёкая, недзе за сем гадзін язды, дык міжволі нагледзішся і наслухаешся, што робіцца-дзеецца ў салоне, што за людзі твае выпадковыя спадарожнікі. Бывае, нехта спадабаецца паважнай гутаркай і такімі ж паважнымі паводзінамі, нехта насцярожыць падазронымі позіркамі і мітуснёй, нехта прыцягне ўвагу маўклівасцю і заклапочанасцю, а хтосьці так абрыдзе балбатнёй, выхілкамі, непавагай да суседзяў па паездцы, што зненавідзіш яго на ўсё жыццё. Адным словам, кожнае падарожжа — штосьці знаёмае, адно і тое ж, клопатнае і крыху стамляльнае, але разам з тым і асвяжальнае на ўражанні, на сустрэчы з людзьмі. Такое ж было і ў маёй леташняй паездцы па дарозе «Рэчыца — Мінск». Як помніцца, тады ў Светлагорску пасажыраў прыбавілася. Заскочылі маладзенькія, чырванашчокія дзяўчаткі-модніцы («З вёскі, паступілі некуды вучыцца»,— падумаў я), увайшла са старой, перавязанай аборкаю сумкай старая кабета («едзе ў Бабруйск альбо ў Мінск да дзяцей»), а пасля зайшла і аблюбавала за мной месца дзябёлая, рыжаватая і крышку рабацiністая, але вабная маладзіца і амаль услед, паставіўшы ў аўтобусны багажнік чамадан і развітаўшыся на пероне з пажылой кабетай, заявіўся гонкі, сіваваты мужчына ў сціплым шэрым касцюме, ведучы перад сабой малога, гадоў трох, паўнаватага, рыжанькага хлопчыка, вельмі падобнага на жанчыну, якая толькі што зайшла. Селі разам. Значыць, гэта была адна сям'я. Пра іх я падумаў тое ж, што маглі падумаць, мабыць, і вы: былі ў бацькоў, у адной з вёсак за горадам, а вось цяпер вяртаюцца туды, дзе цяпер жывуць. Зноў жа — у тыя ж Бабруйск альбо Мінск, куды неўзабаве памкнецца наш аўтобус.

Хутка вярнуліся з ведамасцю ад дыспетчара два шафёры, адзін сеў у кабіну, другі — на пярэдняе месца, і вялікі, з мяккімі, пакрытымі белымі чахламі крэсламі, аўтобус пачаў вырульваць з

перона на вуліцу. Кабета на пляцоўцы пайшла побач і замахала рукой рыжанькаму ўнуку і яго бацькам.

— Шкадуе, што рана ад'язджаем, што не ўсё яшчэ зрабілі...— незычліва прамовіла маладзіца.

Мужчына не адказаў, толькі, здалося мне, нялёгка ўздыхнуў і ўсеўся ямчэй — здаецца, адкінуў назад спінку крэсла і прылёг.

Як і казаў, хочаш ці не хочаш, але мне прыходзілася ўсё чуць. Спачатку я, канечне, не зразумеў, з каго і з чаго кпіць маладзіца, а затым, калі яна пачала болей гаварыць, пачаў пакрыху і здагадвацца.

— Я ўжо не раз гаварыла, а цяпер скажу цвёрда: больш да тваёй мамачкі не паеду,— ужо гнеўна дадала яна.— Добра гэта ці блага, залюбіш ты ці не залюбіш — мне ўсё роўна. Не пакажу больш носа — і ўсё. Ты як хочаш: не дарагая табе свая сям'я, не шкадуеш, не клапоцішся пра нас, даражэйшая мамачка і яе гарод — ездзі адзін, рабі. Даставай дровы, матэрыялы, хату рамантуй, гной выкідай, соткі ўпарадкавай. Аблізніся (яна так і сказала: аблізніся) — і назад. Ледзь упаўзі ў кватэру — і на канапу! Што табе з таго, што мне трэба дзяцей у школу адправіць, у кватэры прыбраць, абед падрыхтаваць, у час на работу паспець, а пасля пабегаць па магазінах, вячэру зрабіць, бялізну памыць ды прыглядзець, як дзеці ўрокі вучаць... Не, больш сюды я ні нагою. Не хачу ні сумак цягаць, ні здароўе апошняе лажыць на сотках. Не хачу, каб людзі з мяне смяяліся, што дурная як пень...

Слухаючы, я аж хітнуў сам сабе галавой: старая, як і гэты свет, гісторыя — нявестка не ладзіць са свекрывёю, адвабліваe ад яе сына.

Мужчына доўга маўчаў, а маладзіца ўсё выгаворвала і выгаворвала тое, што, мусіць, непакоіла яе ўжо даўно.

— Знайшла дурных! Калі якая цяжкая работа, дык адразу ж звоніць нам: «Прыедзьце, памажыце, Пятро і Зоя!» Што там вашы клопаты?! Галоўнае — мае. Але як памагчы, даць што — дык найперш Васільку і Верачцы...

Яна то гаварыла шэптам, то, забываючыся і абураючыся, павышала голас — скардзілася, папікала і тое, што не чула нічога ў адказ, здаецца, яшчэ болей распальвала яе. Я перастаў усміхацца: не, тут не звычайнае жаночае непаразуменне, тут — ужо сапраўдны канфлікт.

— Хоць бы калі разочак запытала: можа, і вам, Пятро ды Зоя, памагчы? Купіце ўжо і вы такую мэблю, якую маюць Васілёк і Верачка, а заадно вазьміце халадзільнік, тэлевізар каляровы. Усе жывуць як людзі, дык і вы пажывіце ўжо... Толькі падайце голас — памагу, падзялюся. Дык не. І не папытае ніколі пра тое, што трэба, і не дасць. І ты, цямця-лямця, не загаворыш пра гэта. Сорам, ніякавата ўсё табе! А вось Васілёк і Верачка не саромеюцца выцы-

ганьваць ад маці і ад цябе. Саплякі яшчэ, а ўжо вунь што маюць! Не ты, старэйшы, а Васілёк «Жыгулі» мае, а Верачка на «Масквіч» збірае. І збярэ. Ды што я кажу? Не збярэ, а забярэ ад маці, а то яшчэ і ў цябе апошняе падчысціць. А ты, дурань, укалвай і на сваёй рабоце, і на матчынай гаспадарцы, памагай ім грошы зарабляць! Сябе не глядзі: ат, не трэба мне пышноты-дурноты, я і так, як ёсць, пражыву. Не ў лапцях жа хаджу і не на лаве сплю!

— Перастань, Зоя,— ціха папрасіў мужчына.

— Што — перастань, замаўчы?! Згарчэла ўжо мне чуць гэтае тваё — «сціхні», «цярпі», «неяк жыць будзем, не згінем», «трэба ж адзінокай маці, меншым памагчы», «пажывём—лепшае нажывём»!

— Па-твойму, я павінен адвярнуцца ад маці, родных?

— А яны — якія? Твая любімая мамачка, як толькі ты падцягнуўся, выпхнула цябе з хаты, а сама прымака ўзяла. А яны, яе новыя дзеці? Ды яны ўсё жыццё ваўчанятамі на цябе зыркаюць, але, кажу, не саромеюцца ўварваць штонебудзь ад нас...

— Нашто ж так гаварыць, Зоя? Няпраўда ж гэта. Мама зусім маладая была, калі мой бацька памёр. Гадоў Дваццаць пяць толькі мела. Пакуль быў я дома, яна нікога не брала. А як сам падаўся ў горад, дык яна толькі тады прыняла дзядзьку Хведара. І то абое пыталіся ў мяне згоды. Ды і Вася з Верай не такія паганыя ўжо. Можа, праўда, не зусім кроўныя, блізкія. Яны ж без мяне раслі, у людзі пайшлі. Цяпер таксама без бацькі. Дык хто ж ім паможа, калі не мама?

— А чаму яны маме не памагаюць? Гной выкідаць, сена касіць, бульбачку выбіраць альбо дровы загатаўляць?

Мужчына змаўчаў.

— Ага, маўчыш! — пазлараднічала маладзіца.— Бо сказаць няма чаго. Па-першае, доўга пры маці і бацьку былі, не прывучаныя да работы, а па-другое, куды ім такую чорную, брудную работу пыніць: вучоныя, інцелягенты! Адзін — хірург, а другая — скрыпачка! А ты, Пятро, цёмны, дурны, ля станка стаіш, дык і ездзі, рабі тое, што ім сорам рабіць...

— Пасталеюць — паразумнеюць.

— Чакай-чакай! Перастануць чысціць матчын кашалёк, будуць усе выхадныя на сотках ці ў хлявах праводзіць, а цябе пачнуць паважаць, што малую адукацыю маеш, мала кніг чытаеш ды ў рок-музыцы не разбіраешся! Зашануюць і за тваю помач!

— Зашануюць ці не зашануюць — такой ужо бяды. Самае важнае, што я сам сябе не папікну, што маці адну не кінуў, ад іх, малых, не адрокся. А што для нас, няшмат дабіваюся, дык, па-

першае, вышэй сябе не падскочыш, а па-другое, не такія мы бедалагі ўжо. Добрую работу, неблагую кватэру маем, не прапіваем сваё здароўе і дабро, да чужых не ходзім, дзеці добра вучацца — дык хіба гэтага мала?! Будзем жывыя — дык будзе і болей ды лепей.

— Упарты і дурны ты, Пятро,— уздыхнула маладзіца.— Цяпер такіх дурных дурняў ужо і мала. Другія ўжо нават у свае адпачынкі не ў вёску да бацькоў едуць, а ў шабашку.

— Так, разумных дурняў ці дурных разумных завельмі...

— Не,— рашуча не згадзілася з ім гэтая Зоя.— Найперш ты — дурань!

«Але на такіх «дурнях» свет трымаецца»,— хацеў я ўмяшацца ў чужую сямейную гаворку, але стрымаўся. Праўда, ужо ў Мінску, выходзячы з аўтобуса, развітаўся з імі, незнаёмымі, і пажадаў ім, як кажуць, усяго добрага.

1986

## АСУДЖАНЫ

Суддзя — плячысты, з высокім загарэлым ілбом і з рэдзенькімі валасамі на бела-жаўтаватым цемені, пажылы мужчына — падняў галаву і строга прамовіў:

— Падсудны, ваша апошняе слова...

Сяргей вышэй ускінуў вочы: тут жа ўчэпіста, нават, як здалося, з пагардаю зірнулі на яго засядацелі: адзін — малады рыжы здаравец, другі — стары, спрэс лысы, з ордэнскімі планкамі на грудзіне. Абмацалі яго позіркамі і сярэдніх гадоў кучаравісты пракурор і кругленькі, пышны на здароўе адвакат, а ў зале паднялі на яго вочы гаротны, учарнелы муж нябожчыцы Стасюкевіч ды яго, Сяргеева, жонка — яна, з апушчанымі плячыма, у вельмі цёмным, ад таго нейкім надта ж чужым касцюме, з цёмнаю хусцінкаю на шыі, пахапліва і нервова пачала мяць рукамі маленькую чорную сумачку, а заадно жаласна замыляла прыгожымі, але цяпер непадфарбаванымі вуснамі.

Адзін Бог ведае, колькі ён сядзеў бы вось так, пазіраючы адразу на ўсіх ды задыхаючыся ад шалёнага сардэчнага стуку: лаўка пад ім нібыт гайданулася і паплыла. Ці не, гэта быццам ён сам паплыў-паплыў, хоць і сядзеў непарушна. Ці яму здалося, ці так і было на самай справе, але нечакана тут паярчэла электрычнае святло, зарэзала аж да слёз увачччу. Дык вось адзін Бог ведае, колькі ён сядзеў бы, нібы здранцвелы, каб не канваір. Той, маладзенькі, чорненькі, не па ўзросце насуплены, рэзка тыцнуў яму пад лапатку: пад'ём!

Сяргей, быццам уджалены, падхапіўся і міжволі з нешматлікага людскога гурту выхапіў позіркам толькі нязвыкла ссутуленую і прыгнечаную Вольгу, выдыхнуў найперш ёй:

— Я не вінаваты. Я не гвалціў і не забіваў Стасюкевіч...

Вольга раптоўна выпрастала свае хораша пакатыя плечы — і ў яе вялікіх, чарнявых, цяпер наплаканых, трошкі падпухлых вачах, бадай, упершыню за гэтыя месяцы, што ён быў пад следствам, зацяплілася надзея: а можа, ты, Сяргейка, сапраўды невінаваты? Можа, абылганы і звінавачаны зламыснікам?

Раней, калі ёй дазволілі наведаць яго, яна не бачыла свету з-за слёз — можа, шкадавала, а можа, яшчэ болей крыўдзілася: як ён мог, пражыўшы з ёю шэсць гадоў і маючы двое дзяцей, клянучыся, што кахае толькі яе адну, паквапіцца на іншую?! Здаецца, сапраўды Вольга не столькі перажывала, як больш пакутавала, што ён мог пасягнуць на маладзейшую і прыгажэйшую...

А можа, ён памыляўся. Можа, была іншая прычына Вользінай халоднасці да яго лесу. Можа, ёй абы-чаго нагудзела цешча, якая ў свой час была рашуча супраць, каб ён, шафёр, браў замуж яе адзіную дачку ды не абы-якую, а з музычнай адукацыяй: якраз з-за яго Вольга пакінула сталіцу, філармонію і вярнулася ў іхні гарадок настаўніцаю спеваў і кіраўніком харавога гуртка ў РДК. Можа, Вользіна стрыманасць была і ад сораму ды ганьбы: яе муж — гвалтоўнік і забойца! Перамяшалася, сплялося ўсё ў адзін вузел так, што горш і не прыдумаеш!

— Ну-ну! — пачуўся ў цішыні ўхмылісты і ў той жа час пагрозны суддзёў голас, а сам ён цяпер пачаў наліваццa пунсовасцю.— На следстве пра ўсё прызнаўся, падпісаў паперы, што вінаваты, а цяпер — бач, святы!

— Я падпісаў пад прымусам...— ціха прамовіў Сяргей, перавёў позірк на Стасюкевіча, амаль аднагодка, тонкага і, здаецца, вельмі нервовага маладога мужчыну.— Павер, Косця, я ніколі нічога не меў з тваёю Нінаю... Не я загубіў яе. Я...

— Пра які вы гаворыце прымус? — гнеўна перапыніў суддзя, паправіў далонню свой рэдзенькі вяршок на галаве. Падакараў: — Вы, падсудны, каяліся б, прасілі ў таварыша Стасюкевіча і ў сваёй жонкі даравання, у нас — літасці, а не... сачынялі б, разумееш, версіі!

— Мяне змусіў падпісаць пратакол следчы Сядых. Сілаю...— сказаў ён, як той тапелец, хапаючыся за апошнюю саломінку.

— Вы яшчэ і паклёпнічаеце на наш суд! — суддзя зморшчыўся, нахіліўся да пажылога, а пасля да маладога засядацеляў, перакінуўся

з імі словам-другім, а затым борздка падняўся і, не азіраючыся ні на каго, апавясціў:

— Суд выходзіць на нараду.

Яны, трое вяршыцеляў Сяргеевага лесу, пакінулі залу. Тут жа ўсе ажывіліся: сышліся ды міралюбна загаварылі пракурор і адвакат, хоць дагэтуль адзін дабіваўся для яго смяротнага пакарання, а другі прасіў мякчэйшай кары; Стасюкевіч, хістаючыся і абапіраючыся на спінку крэслаў, нібы не сваімі нагамі падаўся па праходзе на выхад, на калідор, дзе яго, мабыць, чакала недапушчаная на закрыты суд радня; Вольга нейкі час сядзела абяссіленая ад гэтага змрочнага «Суд выходзіць на нараду», а пасля, чапляючыся за крэсла, устала і нечакана памкнулася сюды, да загароды. Звычайна статная, кругленькая, цяпер яна была схуднелая, нават і пастарэлая, хоць ёй не было яшчэ і трыццаці гадоў.

— Не паложана! — выцягнуў руку і не падпусціў яе канваір.

Вольга запынілася ў кроках трох-чатырох, ашаломленая ад чужой сілы і сваёй бездапаможнасці, спачувальна зірнула, залыпала крышку навіслымі на вочы павекамі і зноў не стрывала, моўчкі заплакала. Пастаяла разгублена хвіліну-другую, паглытала слёзы, а пасля вярнулася на сваё месца і, не то скарыўшыся, не то адчаіўшыся, закрыла твар далонямі. Нібы адгарадзілася ад усіх і ўсяго, нібы ўся ўвайшла ў сябе. З горам і бядою.

«Хутчэй бы ўжо ўсё скончылася!» — падумаў ён, не могучы далей назіраць, як пакутуе Вольга. Хоць тут жа і паправіў сябе ў думках: не, дарагі, і пазней, пасля суда, нічога не скончыцца і добра не будзе: Ыіны не падымеш, ад яе бацькоў, Косці і дзяцей гора не адвядзеш, а таксама і Вольгу не ашчасліваш. Ды і яму, як сказаў адвакат, прыйдзецца адбухаць дзесяць, а то і ўсе пятнаццаць гадоў!..

Суддзя і засядацелі вярнуліся неўзабаве. Непрыступна і заадно вельмі ж урачыста суддзя пачаў сваю заключную прамову, ганьбячы Сяргея і яго «жывёльную амаральнасць», а потым, калі прамовіў «Суд пастанавіў...» і зрабіў паўзу, да яго, да Сяргея, рэзка нахіліўся малады рашучы канваір і ціха, але патрабавальна загадаў:

— Рукі!

Ён не зразумеў, што ад яго хочуць, азірнуўся. Убачыў: тут ужо не двое, а чацвёра салдат-канваіраў, і адзін з іх, дзябёлы, з маленькімі вусікамі сяржант, трымае бліскучыя наручнікі і не зводзіць прагнага позірку з яго рук. Здагадаўшыся, чаго ад яго хочуць, Сяргей паслухмяна занёс абедзве рукі за спіну — амаль тут жа шчоўкнулі замкі і яго запясці апякло металічным холадам, а суддзя спакойна дагаварыў сваё:

— ...прысудзіць да смяротнага пакарання...

Людзі, мэбля, зала, увесь свет патухлі ў Сяргеевых вачах: як — да смерці? За што?

Нібы праз глухую сцяну ён пачуў Вользін адчайны крык, напружыўся, ірвануў з жалезнага палону, ад смерці рукі — метал не вытрымаў яго неспадзяванай нечалавечай сілы, трэснуў, і ён, Сяргей, у роспачы ўскінуў рукі: людзі, свет, не будзьце гэтакія жорсткія!

На левай і на правай руцэ дужкі мёртва, са страшэнным болем сціскалі запясці, а вось ланцужок разарваўся амаль пасярэдзіне.

Усе — зала, суд — анямелі. І са здзіўленнем, і са страхам пазіралі на яго ўскінутыя рукі, на абрыўкі ланцужка ды, мусіць, чакалі самага нечаканага ўчынку. Але ён не паспеў ні скрануцца, ні штосьці выдыхнуць з сябе: канваіры, хутка апомніўшыся, схапілі яго за рукі, заламалі іх і пад ранейшае ўсіхнае аталапенне павялі яго адсюль.

У камеры ён ахамянуўся, нават па-свойму суцішыўся. Колькі дазвалялі, ляжаў на прымацаваным да долу ложку, адмовіўся ад ежы, адзервянела пазіраў на высокую мутную лямпачку, на дзіўныя ўзоры ад яе на столі альбо заплюшчыў вочы і, адчуваючы святло, ніяк не мог стрымаць іх падрыгвання, а то падхопліваўся і хадзіў туды-сюды па гэтай глухой яміне. Раптоўныя страх і жах мінуліся, разліліся па кожнай жылачцы жорсткай няўмольнасцю: ты — смяротнік, заўтра-паслязаўтра застрэляць цябе, як, бывае, зводзяць зброддівага ката ці валацужнага хворага, небяспечнага сабаку альбо драпежнага ваўка... Жыў, працаваў, кахаў, гадаваў дзяцей, верыў у штосьці светлае — і вось прапаў нізашто, знік, і ніхто не ўспомніць добрым словам...

...Ніна Стасюкевіч працавала ў іхняй бухгалтэрыі. Ёй было гадоў дваццаць пяць, мела двое дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку. Як жанчына была прыгожанькая, рухавая, вясёлая, нават нібы завельмі вольная з іхняй браціяйшафярнёй, але чэпка прытрымлівалася мяжы і змушала ведаць гэтыя межы і іншых. Праўда, вось з ім яна паводзілася неяк адмыслова: то гарэзнічала, як і з усімі мужчынамі, разварушвала, нават пад'юшчвала на заляцанне, то нечакана злавалася, папікала, церабіла за нейкую дробязь, то падоўгу не размаўляла, быццам не зважала, не бачыла, што ён і ёсць такі.

Яе гэтую сімпатыю-антыпатыю да Сяргея хутка заўважылі ўсё шафёры, і той-сёй з іх пусціў чутку: Ніна закахалася ў яго. Гэтая пагалоска пагуляла па іхнім аўтапарку, а пасля выпырхнула і ў горад, даляцела да яго Вольгі і да Ніінага мужа, інжынера-электрыка з рамонтнай чыгуначнай майстэрні. Як і трэба было чакаць, і ў яго, і ў Ніны самі па сабе пасыпаліся непрыемныя сямейныя размовы, спрэчкі. Яны не гаварылі пра іх адно аднаму, нават больш — намагаліся не

бачыцца, не размаўляць, але тое, што ў іхнія рэдкія суетрэчы яго чакалі то Німіна пяшчотная ўсмешка, замілаваны позірк, то яе зусім нечаканы гнеў, яшчэ болей кідалася людзям у вочы, падбівала іх на жарты і ўхмылкі.

У той трагічны дзень Нінін і яго лёс вырашыўся надзіва проста і звычайна. Ён паставіў аўтобус у гараж, пакручваўся ўжо каля сваіх «Жыгулёў», каб вось-вось паехаць дадому. Якраз у гэты момант, тут, на стаянапчцы за варотамі, і знайшла яго Ніна. Папрасіла цяпер жа завезці яе ў вёску.

Яму была непрыемная гэтая просьба, бо трапляў у нялёгкую сітуацыю: пазвані Вользе і скажы, што паедзеш з Нінаю адзін на адзін за дваццаць вёрст,— Вользе не спадабаецца такая яго паездка, не пазвані і нічога не скажы — дабра не чакай, калі даведаецца пра гэта. Ён спрабаваў ухіліцца, але Ніна так настойліва прасіла, што ён урэшце здаўся і, не перасцярогшы Вольгу, павёз тую да бацькоў.

Застаўшыся сам-насам са сваёй незвычайнай спадарожніцай, ён пачуваў сябе зусім няёмка. А яна, як ніколі, сёння была вабная — з кучаравай русявай завіўкай, у блакітнай сукенцы з глыбокім выразам, у якім хораша абазначаліся палавінкі высокіх грудзей, у меру поўненькая, са стройнымі, нібы точанымі рукамі, з цемнаватымі, жывымі, з агеньчыкамі вачыма і поўнымі, пажаднымі вуснамі.

— Ты перажываеш, Сяргейка, што я прычапілася?— усміхнулася яна, калі ўжо выехалі з горада і імчалі ўзбоч маладога хваёвага ляску.

— Чаго перажываць, Ніна Савельеўна? — адказаў ён, зірнуўшы на яе, але стараючыся не затрымліваць гэтага позірку. Каб міжволі не любавацца яе вабнасцю.

— Перастань! — таўханула яго спрытным локцем.— Якая я табе Савельеўна?! Называй проста: Ніна альбо Яня. А то можаш назваць і яшчэ ласкавей: Янечка, Янінка...

— Вы — адно, а я — другое...

— От! — наўмысна схмурылася, а пасля задумліва ўглядзелася на асфальтаваную сухую, мясцінамі з белымі плямінамі дарогу, на дзве сцяны старога ўжо лесу, міма якіх яны імчаліся. Потым усхвалявана дадала: — Ці ты не разумееш усяго, ці прыкідваешся, што не бачыш нічога...

Ён прамаўчаў. Толькі адчуў: устрапянулася, занепакоена замітусілася сэрца, пыхнула гарачыня ў шчокі.

Яна таксама крыху памаўчала, а затым, не пазіраючы на яго, заспавядалася:

— Можа, ты і шчаслівы, задаволены работаю, сям'ёю, жыццём. Я наўмысна, скажу табе шчыра, шмат употай назірала за табой і тваёй

Вольгай. Яна ў цябе няпростая, ганарлівая трошкі, але, здаецца, цябе кахае. Ты ўвогуле аддадзены ёй, дзецям. Я ж, Сяргейка, зусім абыякавая да свайго Косці. Я, бывае, жахаюся: як я магла выйсці за яго замуж! Некалі, яшчэ студэнтамі, мы выпадкова сустрэліся з ім у міжгароднім аўтобусе, пазнаёміліся; я спадабалася, нават зачаравала яго як жанчына, а ён уразіў мяне сваім розумам. На апошнім перад сталіцаю прыпынку мы зноў выйшлі з аўтобуса, прайшліся — і ён нечакана выпаліў: «Выходзь за мяне замуж». І я згадзілася. Праз два тыдні было вяселле. Але ўжо на вяселлі я з жахам убачыла: ён — камень, халодны валун, у яго вялікі розум, але зусім нетрапяткое сэрца... Далей — болей... Думала: будуць дзеці — прывыкну. Не прывыкла... Няўважлівы, нязграбны, панурысты і чужы...

Сяргей не падаваў голасу. Адчуваў: гэтая споведзь невыпадковая. Калі якраз табе жанчына расказвае, што яна не кахае мужа, то ты для яе неабыякавы чалавек. Але што ты можаш адказаць, калі ты сямейны і хочаш берагчы сваю сям'ю. Адхіліць чыёсьці пачуццё да цябе? Употай спажыць яго?

Ніна моўчкі схіліла голаў на яго плячук, але ён не дакрануўся да яе, хоць і хацелася пагладзіць пахкія прыемным шампунем, непаслухмяныя валасы, што добра па— казвалі Нінін неспакойны, нават непрыкаяны характар. Так, моўчкі, хвалюючыся ад блізкасці і змагаючыся з сабою, яны ехалі доўга, аж да вёскі, што паказалася за лесам.

— Харошы, добры ты чалавек, Сяргейка! — адхіляючыся, ціха прамовіла Ніна.— Я душою адчуваю: была б вельмі шчаслівая з табою. Не толькі жонкаю, але і...— Уздыхнула.— Нават каханкаю...

— Я, Ніна, звычайны,— адказаў ён.

— Можа, і звычайны,— сказала з душэўным цяплом.— Але я, павер, бачу ў табе незвычайнае... А калі такое жанчына бачыць, то...

Яна недагаварыла. Ён таксама не імкнуўся давесці размову да канца, моўчкі давёз яе да бацькоўскай хаты, пакінуў тут, а сам, нават не вылезшы з машыны, падаўся ў горад. Толькі калі разварочваўся і на міг зірнуў на Ніну, то ўбачыў: жвавыя вочы яе нібы патухлі, і яна махае яму вольнай рукою чамусьці адрачона...

...Назаўтра на рабоце, на адным з прыпынкаў, да яго аўтобуса падышлі тры міліцыянеры і папрасілі вылезці з кабіны. Пасля сказалі сесці ў іхнюю машыну. Спачатку ён не мог разабрацца, што ад яго хочуць, думаў, ці не лічаць, што ён п'яны, але пасля, у міліцыі, усё зразумеў. Не толькі зразумеў, але жахнуўся, калі маладжавы, з учэпістымі чорнымі вачыма і з тонкімі нервовымі вуснамі капітан Сядых ашаламіў яго:

— Ну, аматар слодычы, расказвай, як згвалціў і забіў Ніну Стасюкевіч...

На развітальную сустрэчу з Вольгаю яго прывялі ўжо ў паласатай апратцы, пасадзілі яго на адзін бок стала, а яе — на другі.

Вольга доўга не магла ачомацца ад яго адмысловага, незямнога адзення, якое само па сабе было цяжкім знакам, пазірала яму ў вочы і нібы не пазнавала — ні позірку, ні ўсяго яго. Мусіць, ёй здавалася: перад ёю зусім чужы чалавек. Каля стала, амаль паміж імі высіўся пажылы, але яшчэ дужы прапаршчык, заклаўшы рукі за паясніцу і сашчапіўшы іх у кулак.

Вольга — і сёння ў строгім чорным касцюме, такога ж колеру свэтарчыку і шапачцы,— як відаць было, таксама кепска спала апошні час. Змарнела, пад вачыма вунь нязвыклыя чорныя паўкругі, а ў вачах — застылая туга альбо нават і роспач.

Урэшце яна схамянулася, узяла з калень і падсунула па стале да яго цэлафанавы кулёк, дзе былі свежыя, здаецца, польскія яблыкі, а таксама і штосьці іншае, загорнутае ў белыя сурвэтачкі.

Ён сядзеў непарушна, па-ранейшаму моўчкі і пільна пазіраў у яе паглыбленыя цёмныя вочы.

— Ты абскардзіў прысуд? — запытала яна, і ён у яе зацікаўленым голасе адчуў і боль, і спагаду, і тое, што яна перамагла ўжо рэўнасць.

— Абскардзіў,— ціха, ледзь не шэптам адказаў ён.— Але не веру, што...

Нечакана яна працягнула загарэлую, з тонкімі, цяпер не падфарбаванымі пальцамі руку і накрыла яго за гэты час пабялелую, з выпнутымі тоўстымі сінімі жыламі правую руку.

— Можа, і зміласцівяцца...— падала незнарок.— Ты ж не мог забіць... Я душою адчуваю: ты яе не забіў. І, можа, нават нічога не меў...

— Дзякую, Вольга,— дрыготкім голасам прамовіў ён.— Ты скінула вялізны камень з маёй душы. Павер, з апошніх сіл пераканай сябе: я сапраўды не здрадзіў табе, невінаваты ў Ніністай смерці. Я — ахвяра выпадку...

— Раз'яднайце рукі! — строга загадаў прапаршчык, надзімаючы чырвоныя, бы нацёртыя цэглаю, шчокі.— Кантакт не паложаны.

Вольга не паспяшалася забраць руку, а вось ён адцягнуў сваю, ведаючы, што прапаршчык у любую хвіліну можа разлучыць іх. Ужо, відаць, назаўсёды...

Прадчуваючы хуткае развітанне, Сяргей намагаўся як лепш запомніць яе, прагна азіраў, пакутуючы, што яна такая яшчэ маладая,

прыгожая, несправядлівым лесам асуджана на такое цяжкае душэўнае глумление, на бясчасную трату маладосці.

— Усё! Хадзем! — спажыўшы іхнюю паўзу, крануў яго за плячук прапаршчык.

— Вольга,— адыходзячы сказаў ён тое, што думаў сказаць на развітанне,— калі што якое, ну, не... Праз два-тры гады выходзь замуж, няхай будзе ў дзяцей бацька...

— Сяргей! — падхапілася, закрычала Вольга, кідаючыся наўздагон, але рашучы прапаршчык тут жа штурхнуў яго з пакоя і зачыніў за ім дзверы.

З ім, з Сяргеем, застаўся толькі Вользін адчайны крык — усё, што звязвала яго з тым, вольным светам.

Пасля ён цалкам аддаўся ва ўладу тых, хто цяпер трымаў яго пад вартаю.

На трэці дзень яго аддалі ў іншыя рукі, і ўжо новы канвой, абмацаўшы яго і ягоныя сціплыя рэчы, спачатку павёў з сабою, а пасля павёз аднаго ў абабітай жалезам шэрай машыне. Везлі нядоўга. Высадзілі за знаёмым гарадскім вакзалам, дзе яго чакалі ўжо не меней дзесяці канваіраў з аўчаркаю. Пад іхнім пільным назіркам ён прайшоў метраў сто, а пасля залез у вагон з матавымі вокнамі.

Па доўгім калідоры, узбоч закрачаных «купэ» яго завялі ў самы канец вагона, у апошнюю невялікую камеру. Праз паўгадзіны пачалі заводзіць у вагон і іншых — мужчын, жанчын. Некаторыя з іх, нібы не зважаючы на сваю долю, жартавалі, смяяліся, яго, адзіночку-смяротніка, мусіць, не бачылі.

Ехалі яны, здаецца, сутак пяць ці шэсць. За гэты час канваіры часта выводзілі зняволеных з камер у туалет, дык тыя ўжо агледзелі яго; хто дапытваўся, за што ён асуджаны, хто спачуваў, а хто і пакепліваў: «Перадавай там, на небе, прывітанне ад нас усіх Богу!»

Калі ўрэшце кудысьці прыехалі, яго вывелі з вагона апошнім, аднаго пасадзілі ўсё ў такую ж абабітую жалезам і без акон машыну, завезлі ў двор змрочнага будынка і аддалі новай варце, якая пасадзіла яго ў невялікую, глухую, з маленечкім і высокім закратаваным акенцам камеру.

Ужо тут яму паказалі адказ на яго апеляцыю, дзе была адмова на яго памілаванне. Жыццё яго пасля гэтага пайшло пад адным спачатку вельмі трывожным, жахлівым, а потым даволі спакойным знакам калі і як будзе тое?

Ён сцінаўся, дзервянеў, калі яго выводзілі на кароткую прагулянку альбо вярталі з яе. Кожны раз чакаў хлёсткага стрэлу, балючага

ўдару ў скронь альбо ў патыліцу і раптоўнай цемені. Недзе на другім тыдні пажылы таўсматы сяржант, завёўшы яго ў камеру, сказаў:

— Пасля кожнага шпацыру ўсё больш сівееш. Хутка будзеш як лунь.

— Скажыце, прашу я вас, калі ўжо тое будзе? — не толькі запытаў, але ўжо і папрасіў сам таго ён.

— Не спяшайся паперадзе бацькі ў пекла...— усміхнуўся той, пакідаючы яго аднаго, асуджаючы на яшчэ адну бяссонную ноч.

Гэты ж непрыступны, здаецца, задаволены жыццём і сабою таўсцюк старшы сяржант аднойчы сярод дня неяк нязвычна зайшоў у камеру і, ужо не калюча, а неяк дзіўна зычліва пазіраючы на яго, гарэзна шпурнуў яму на калені чужое паношанае цывільнае адзенне.

— Пераадзявайся, дарагі.

Сяргей нібы прыліп да ложка. Што — прыйшла для яго, бачыш, «дарагога», тая часіна? Але дзеля чаго пераапранацца?

— Усё ж шчаслівы ты чалавек...— нібы не верачы сам сабе, хітнуў галавою старшы сяржант і, бадай, упершыню за іхняе змушанае знаёмства ўсміхнуўся. Быццам добраму сябру.

Сяргей здранцвела пазіраў на яго кароткія тоўстыя ногі, выпхнуты жывот, на масіўны карак, на мардатыя, але трошкі бледнаватыя, нават азызлыя шчокі, на вузкія шэрыя вочы — акідваў позіркам усяго з галавы да ног і нічога не мог зразумець.

— Учора ты павінен быў пайсці на нябёсы...— сказаў той, хаваючы вочы.— Ды зусім нечакана сапсавалася прылада. А сёння прыйшла папера, каб вызвалілі цябе. Выходзіць, ты невінаваты...

Сяргей адчуў: млее. Не, не ад радасці. Ад крыўды, горычы, што не толькі зноў абзыўнуліся, але навалілся на яго агромністым цяжарам.

— Эй!— напалохана крануў яго за плячук нечаканы дабрадзей.— Вазьмі сябе ў рукі, не звар'яцей ад шчасця...

Ён уздрыгнуў і, усё яшчэ не могучы адсунуць ад сябе тое, што трэба паадолець, прашаптаў:

— За што? Чаму?..

— Не зразумеў...— насцярожыўся старшы сяржант.

Як ні дамагаўся ад яго патрэбных яму слоў следчы

Сядых, як ні цяжка, нават невыносна было на судзе і пасля яго найбольш тут, але Сяргей ні разу не заплакаў. А вось цяпер не вытрымаў, здаўся, нават скарыўся — спачатку абмякла, заныла сэрца, штосьці зрушылася, не, не адтала, а закамянела ў свядомасці, а пасля затуманілася ў вачах, і нешта — відаць, сляза — апякло шчаку.

— За што?— зноў ва ўсяго свету запытаў ён. Тут, у гэтым каменным мяшку.— Чаму?

— Вазьмі сябе ў рукі, дарагі,— зноў сваё паўтарыў старшы сяржант.— Павер, і я збіты спанталыку: першы раз такое за маю службу... Дык сапраўды шчаслівы ты...

Пасля гэты падабрэлы чалавек даў яму дакументы, грошы на дарогу, вывеў за вароты гэтай пагрознай будыніны і, паціскаючы на развітанне руку, пажадаў:

— Ну, будзь здароў. Жыві, як і ўсе...— І зноў усміхнуўся.— Ну, а нас не памінай ліхам. Нават выпі зрэдку за нас чарку...

У свой гарадок Сяргей вярнуўся на світанку.

Калі ноч стаяў у калідоры і ў тамбуры, курыў цыгарэту за цыгарэтай і пазіраў то на цёмны лес, то на дамы без святла, то асвечаныя вакзалы, пероны, шлагбаўмы, думаў: прыедзе — нейкі час, пакуль уднее, пасядзіць на станцыі. Не варта сутоннем заходзіць дадому: убачыць у двары альбо ў хаце Вольга — абамлее са страху.

Аж яго намер не ўдаўся: яго сустракалі. Вольга, цешча і Косця Стасюкевіч. Усе яны, нібы ведаючы, дзе якраз ён знаходзіцца, стаялі насупраць выхада. Убачыўшы іх, ён аж памарудзіў, быццам баючыся сыходзіць на тую зямлю, па якой хадзілі яны. Але калі яго падагналі ззаду, ён павалі, адчуваючы дрыготку ў нагах і руках, спусціўся з высокай падножкі.

Нязграбна, як чужымі нагамі, ступіў раз-другі, не зводзячы позірку з Вольгі. Але ці то святло далекаватага ліхтара было скупое, ці то нейкая тумановая павалока нацягнулася на зрэнкі — ён не мог пранікнуць позіркам у Вользіны вочы. Яна ж, хоць на дварэ ўбіраўся ў моц лістапад, у знаёмым яму светлым плашчыку, у белай шапачцы, вобмегам кінулася да яго, абхапіла за шыю.

Хоць даўнавата ўжо, з мая, не быў вось так блізка з ёю, але цяпер мігам зноў адчуў знаёмы пах яе валасоў, своеасаблівы, быццам малочны ці пасля цёплай пасцелі, водар яе крамянога цела. Толькі вось яе дотык быў іншы — адданы, пяшчотны, але і ў той жа час зусім не той, які бывае пасля разлукі, па-свойму стрыманы, нібы мацярынскі.

— Сяргейка!— арошваючы яго твар слязьмі, абцалавала яго шчокі, павекі і вусны Вольга.— Сяргейка мой мілы і дарагі!..

Расхваляваная, узбуджаная, яна не давала яму варухнуцца, пазбаўлялася ад горычы і заадно радавалася:

— Любы мой! Адзіны! Самы-самы лепшы на свеце!

Ён бязвольна прымаў гэтую пяшчоту і, мусіць, ужо зусім не па-мужчынску плакаў. Бадай, яшчэ не ад радасці, а таксама, як і Вольга, ад горычы.

Неўзабаве Вольга схамянулася, абхапіла свае шчокі далонямі.

— О, божа! Які ж сівы. Як снег, белы!

Гэты яе ўскрык нібы абудзіў яго. Ён выцер далонямі слёзы са шчок і, мусіць, упершыню за апошнія месяцы ўсміхнуўся — можа, найперш ім, Вользе, цешчы і Косціку, раніцы, гораду, дожджыку, што вось заімжыў.

Спажыўшы момант, калі ён пачаў адтайваць душою, падышла поўная ў балоневай зялёнай куртцы цешча, пацалавала тры разы і прамовіла са слязьмі:

— Выбачай, сын. За ўсё...

У гэтую хвіліну ён сапраўды дараваў гэтай трошкі ганарлівай кабеце за ўсе яе папрокі, знявагі. Ужо валодаючы сабою, зноў усміхнуўся:

— Забудзем старое, мама...

Цешча аж уздрыгнула, упершыню пачуўшы гэтае ласкавае «мама», шчыра і расчулена заплакала. Можа, і ад уцехі, што і яе дачка, і ўнукі могуць ужо смела пазіраць людзям у вочы, не саромецца і не пакутаваць.

— Віншую, што вярнуўся...— падышоў, пацісну́ў руку Стасюкевіч, цяпер у скураным чорным паліто, са знятым капелюшом.— І заадно даруй, што я такое падумаў пра цябе...

Сяргей моцным поціскам адказаў Стасюкевічу, з сумам бачачы, што той асунуўся, учарнеў, а пасля ўжо ў яго, у мужчыны, ціха запытаў:

— Знайшлі ўсё-такі забойцу?

— Скора пасля твайго суда зноў знайшлі згвалчаную і забітую... —прамовіў той.— Дык я і падумаў: не, штосьці тут не тое... Пайшоў да яе,— паказаў на сцішаную Вольгу.— Кажу: хадзі, пішы ўсюды, каб лепш усё расследавалі. Вунь ужо трэцяя жанчына за год гіне. Значыць, ёсць нейкі злыдзень альбо злыдні, якія робяць сваё чорнае. Яе надта тут не паслухалі, адцерабіліся: маўляў, мы сваё ведаем і робім! Але калі напісала ў сталіцу і адтуль прыехаў следчы, дык той і раскапаў: трох, маю Ніну таксама, загубіў Вятроў з райсельгастэхнікі. Папаўся на чацвёртай, на міліцыянерцы, якая паспела аглушыць яго першая і начапіць наручнікі. Цяпер гэты маньяк, а заадно і следчы Сядых, які не аднаго чалавека ўжо звёў на той свет, цябе таксама ледзь не загубіў, арыштаваныя...

— Як усё, выходзіць, проста!..—уздыхнуў Сяргей.

— Не проста, сыночак...— выціраючы хустачкаю слёзы, пахітала галавою цешча.— Але дзякуй Богу, што ёсць на свеце справядлівасць!

— Хадзем, Сяргейка,— пяшчотна прамовіла Вольга і ўзяла яго пад руку.— Ужо, можа, нашы маленькія галубкі прачнуліся, чакаюць татку...

Сэрца яго аблілося мужчынскаю цеплынёю; хутка ён убачыць родную вуліцу, дом, які збудаваў сваімі рукамі, і сваіх дзяцей, якія цяпер не будуць кінутыя на волю лёсу, выратуюцца ад долі бязбацькавічаў.

Рушылі ў горад, што пачынаў прачынацца. У ім Сяргею трэба будзе навучыцца жыць па-новаму...

1985

## **ІНА**

*З расказу Альфрэда Р.*
*і з дзённіка Іны Л.*

1

— Калі ён зайшоў у наш кабінет, дык я адразу ж падумаў, што гэты крыху старэйшы за мяне чалавек незнаемы, але я яго недзе, можа, нават зусім выпадкова бачыў ужо.

Мне нагадалася ягоная постаць — сярэдняга росту, камлюкаватая, з кароткімі рукамі і нагамі, з тоўстай, як кажуць, бычынай шыяй, а таксама ўспомніўся позірк прадаўгаватых, амаль чорных зрэнак — цяжкі, змрочны ды з рашучым паглядам. Душой адчувалася, што гэты мужчына мае ўраўнаважаны, але цвёрды, а ў гневе няўмольны і раз'юшаны, як у вала, характар.

— Вы — Альфрэд альбо Алік? — не вітаючыся, учэпіста акінуўшы позіркам мяне з ног да галавы, з лядком у голасе, што аднак уздрыгнуў, запытаў ён.

— Я.

— А я — муж Інэсы Л., вашай былой аднакурсніцы і каханкі.

Не перабольшваю, у мяне ледзь не абарвалася сэрца. Я няўцямна падняўся з-за стала, мусіць, разгублена ды вінавата зірнуў на яго. Цяпер, у такім гнятлівым стане, ужо раптоўна ўспомніў, дзе бачыў яго, гэтага Мікалая: на фотаздымку, што паказвала мне Іна. Там была яна, яе дачка і ён, бадай, нават у гэтым цемнаватым і мяшкоўным касцюме, пахмурны і нібы адрачоны. Мне цяпер было няёмка, сорамна не столькі перад гэтым чалавекам, у якога я столькі ўкраў неацэннага, а перад Інаю: з ёю не толькі няўдала, але і прыкра я развітаўся.

— Вы ведаеце, што Інэсы ўжо няма?

— Не,— выдыхнуў я, здзівіўшыся-жахнуўшыся.

— Вось як вы цікавіцеся лёсам тых, хто не толькі маладое цела, але і добрую душу вам аддаваў! — без цырымоній папракнуў ён.— Яна атруціла сама сябе.

Я не мог больш пазіраць яму ў вочы. Не, не ад яго нямога спакутаванага дакору — ад таго, што апошнія гады тры, санраўды, пачаў забываць пра Іну, а калі ўспамінаў, дык ужо ні ў чым не папікаў сябе, а гэтым самым, канечне, быў калі не абыякавы, дык спакойны да яе далейшага лесу.

«Іна! Іна! — хацелася мне цяпер выдыхнуць з болем і віною.— Што ты, такая маладая і разумніца вялікая, нарабіла?!»

— Шлюб наш быў выпадковы,— сказаў госць.— Яна выйшла за мяне замуж таму, што я першы браў яе з дзіцем. Я кахаў яе, але...— Уздыхнуў.— Мы не маглі быць разам шчаслівыя...

Я ўсё яшчэ не мог вымавіць ні аднаго слова — ад такога страшнага зыходу, што выбрала Іна.

— Калі яна вучылася тут, у сталіцы, я прадчуваў, што ў яе з'явіўся хтосьці іншы. Часта здараецца, што муж можа быць сляпы, як крот, зусім не бачыць, што вытварае яго жонка. Я адразу ж усё зразумеў... Я, жывы чалавек, не мог не зараўнаваць, аднойчы пасля спрэчкі нават збіў яе, але не я, а яна перамагла мяне з радаснай усмешкай: «Можаш забіць мяне, але я ўпершыню пакахала, стала жанчынаю!» Я хацеў ужо тады знайсці вас, шчаслівўца, і застрэліць! Я ж паляўнічы, маю зброю. Ды пашкадаваў — не вас, яе... А затым, калі ваша каханне абарвалася, я паспакайнеў, палічыў, што цяпер, «пасля буры страсці», як яна казала, у нас усё наладзіцца. Не, не наладзілася. Яна больш не здраджвала мне, але ў яе з'явіліся бяссонніца, плач, слёзы, істэрыка без дай прычыны, а ўрэшце змора. Нават не верылася, што на такое нястрымнае здольная яна, жыццярадасная, моцная, з ясным і светлым розумам!

Я маўчаў.

— Іменна пра вас я ўведаў пасля яе смерці з яе дзённіка,— ён дастаў з унутранай кішэні невялікую, але тоўстую запісную кніжку ў бліскучых, перламутравых чырвоных вокладках, паклаў яе на стол.— Спачатку я хацеў спаліць гэтыя запісы: тут шмат непрыемнага пра мяне і добрага, захаплядьнага пра вас — ды не хацеў, каб калі-небудзь прачытала ўсё гэта Інэсіна дачка. Але перадумаў. Дзеля Іны. Няхай яе споведзь будзе ў таго, каго яна кахала. А вы ўжо, што хочаце, тое і рабіце з гэтым.— Пастаяў, пакусаў вусны.— Я ўжо дараваў вам, суперніку і ворагу. Ды цяпер не столькі мне, колькі вам ушаноўваць памяць пра Інэсу.

Прамовіў так і, не развітаўшыся, пайшоў.

2

«...І сёння былі сумныя лекцыі. Проста не верыцца: гістфак, такія цікавыя тут навукі, столькі забытага, займальнага, а некаторыя выкладчыкі бубняць-гнюсяць пра ўсё гэта са сваіх пажаўцелых канспектаў, што становіцца нецікава і сумна.

Ды сёння адбыўся выпадак, што вельмі ўзбудзіў мяне. Адзін наш студэнт, А., пачаў гаварыць на лекцыі-семінары па гісторыі КПСС па-беларуску. Выкладчыца, тоўстая, сытая, з залатымі зубамі, але няўклюдная капа, спачатку слухала ўважліва, вырачыўшы вочы, а потым паблажліва ўсміхнулася: «Вось і я ўбачыла жывога нацыяналіста!»

Усе мы, другакурснікі-завочнікі, наструніліся.

«Выбачайце, я не прапаведую нацыяналізм,— сумеўся А.— Ці гаварыць па-беларуску ў Беларусі — нацыяналізм?»

«Адукаваныя беларусы размаўляюць на языке, а калі яны гавораць на мове, то яны — нацыяналісты. Апроч пісменнікаў (яна так і сказала — «пісменнікаў»), настаўнікаў і некаторых вучоных-моваведаў».

Пачуўшы гэтую жывую перапалку, усе, хто ведаў і не ведаў беларускую мову, ажно ўгнулі галовы. Божа, падумалася мне, і гэта — гісторыкі, разумныя людзі, урэшце беларусы? Ды гэта ж статак бараноў!

«Глупства!» — не выцерпела я.

«Во яшчэ адзін нацыяналіст! — зларадна пацешылася выкладчыца, як казалі, жонка цэкоўца.— Хто ж гэта? Пакажыцеся, каб мы ведалі ў твар сваіх ворагаў!»

«Гэта сказала я,— мне прыйшлося падняцца і назваць сябе.— І паўтару: не гаварыце глупства, калі вы лічыце сябе сапраўдным гісторыкам. А ў беларускім нацыяналізме вы мяне не абвінаваціце: я руская, гавару, як вы кажаце, на языке, а мовы не ведаю, на вялікі жаль».

«Гэта вы гаворыце глупства! — успыхнула ўджаленая ідэйніца.— І патураеце месніцтву!»

3

— Сапраўды, было такое здарэнне-казус, калі мне ва універсітэце, як кажуць, прамывалі мазгі. Спачатку дзяўбла тая выкладчыца — свая, беларуска, якая абараніла дысертацыю пра тое, як КПСС мудра кіруе прафсаюзамі, гаварыла, як цяпер кажуць, на дземянцееўцы, у жыцці была наскрозь мяшчанка, але ў аўдыторыі звышадданая рэжыму (пазней на сходах, у друку грамiла нефармалаў,

БНФ, была супраць дзяржаўнасці «мовы», хадзіла ў калоне пад чырвонымі сцягамі, а ўрэшце ўбілася разам з мужам і дзецьмі ў камерцыю і адалярылася), потым павучалі іншыя. Сапраўды, тады заступілася за мяне толькі Іна.

Мяне і яе неяк аднойчы паклікалі ў дэканат, дзе, гнеўна блішчучы вачыма, у якіх самазадаволена застылі веліч і пагарда, упэўнена разваліўшыся на крэсле, сядзела кэпэсэсніца, а за сваім сталом прымасціўся наш дэкан — пажылы, кучаравы і сівавалосы, з буйным чырвоным носам мацак, які, гаварылі, бярэ хабар з бацькоў абітурыентаў і студэнтаў-завочнікаў, а таксама ласы на прыгожых студэнтак.

Дык вось ён, як было відаць, труслівы перад кэпэсэсніцай, пачаў павучаць нас: «Вы ж — будучыя гісторыкі, дырэктары школ альбо нават партыйныя работнікі, дык найлепш павінны разумець: рана-позна ўсе мовы, культуры ў СССР павінны зліцца ў адну, у абагацелую рускую мову і культуру. Мы, беларусы, маем вялікі гонар першымі падаць тут прыклад».

Скажу шчыра, я змаўчаў на такую тупасць альбо на свядомую подласць, а Іна не вытрымала:

«Гэты тэзіс быў модны пры Хрушчове, Мазураве і Машэраве. Цяпер іншая, больш узважаная, нацыянальная палітыка».

«Замаўчыце,— дэкан пачырванеў ужо ўвесь.— Іначай мы будзем вымушаны развітацца з вамі!»

«І яны маюць ступені і званні, вучоныя! — абурылася Іна, калі мы выйшлі з дэканата.— Невукі ці хітрыя прыстасаванцы-падлізы!»

Якая была гэтая Іна? Вышэй сярэдняга, амаль майго росту, даўганогая і танклявая, драбнаватая, як, скажам, англічанкі, на твары, не сказаць, каб ужо красуня пісаная, але абаяльная бландзінка з блакітнымі, здаецца, сумнаватымі вачыма. Што асабліва кідалася ў вочы, дык гэта тое, што яна заўсёды, як помню, насіла клёшныя ці джынсавыя вузкія, з рознымі замежнымі наклейкамі штаны і світэры альбо блузкі, а свае светлыя валасы прыпадымала да верху галавы, а там прытыкала іх шпількамі, а хвосцік ад іх апускала ўніз, а на яе высакаваты лоб звісаў падстрыжаны чубок, а каля адной і другой скроні — гарэзны завіток. Па характары, наколькі я ўжо ўведаў за паўтары гады, яна была жыццярадасная, але чамусьці часамі скрытная і сумотная. Да гэтага часу паміж намі была звычайная чалавечая ці, лепш сказаць, студэнцкая прыязнасць, калі і мы адно аднаго, бывала, падратоўвалі кнігамі альбо канспектамі. І не больш.

«Іна,— сказаў я ёй тады.— Ты, можа, не будзь з імі такая дзёрзкая. Я стаю і буду стаяць на сваім, бо мне ўсё гэта роднае і дарагое, а табе нашто непрыемнасці ды з-за чужога чалавека?!»

«Хіба мы зусім чужыя? — яна зірнула на мяне пільна, ясна і, здаецца, чула.— Хіба мы не калегі па жыццёвым шляху, не павінны памагаць адно аднаму?»

«Усё так, Іна,— адказаў я.— Але, бачыш, яны могуць падшыць палітыку, а то і сапсаваць лёс».

«Ты збаяўся няладзіцы?»

«Не».

«Дык і маўчы, калега. Не вучы, каб і я хітравала, была абыякаваю, безуважнай да таго, што дарагое іншаму».

Праўда, праз некалькі дзён, калі яна лабыла на выхадныя дома — у Барысаве, дзе служыў яе бацька-вайсковец, яна сказала мне: «А ведаеш, ты перасцерагаў мяне недарэмна. Калі я дома расказала пра цябе і пра той інцыдэнт, дык і бацька-падпалкоўнік, і маці, і мой муж-беларус напалі на мяне: будзь далей, не звязвайся з нацыяналістам!»

«Вось бачыш!..— усміхнуўся я.— Прыязнасць з ворагам небяспечная!»

«А ты хіба вораг? Каму?» — усміхнулася і яна.

«Выходзіць, усім. У тым ліку і самой Беларусі. Шаную, люблю яе ўсё — значыць, яе вораг. Хоць пры гэтым шаную, люблю і ўсё іншае добрае, прыгожае на свеце, у тым ліку і рускае. Ды ў нашых умовах трэба любіць толькі рускае. І пры тым не лепшае, а касмапалітычнае, масавае».

«Алік,— яна называла мяне, Альфрэда, якраз так,— я пра ўсё гэта не задумвалася дагэтуль. Раскажы мне калі ў вальнейшыя хвіліны пра вашу гісторыю, культуру, навучы вашай мове».

«Думаеш, я сам шмат гэтага ведаю? Мяне ж вучылі ў школе, а пасля ў сельскагаспадарчым тэхнікуме, у арміі выпускнікі нашага і іншых такіх дэканаў, такіх выкладчыкаў, як наша кэпэсэсіха. І працую я з такімі ж спецыялістамі».

«Але ж ты працуеш у вёсцы, дзе яшчэ, як ведаю, захавалася беларуская стыхія. Ды ты, як адчуваю, шмат чытаў, умееш гаварыць не калькамі, штампамі з нялепшай рускай мовы, а мысліш самастойна, арыгінальна. Цябе мне люба слухаць па-беларуску».

«А ты не баішся, што я цябе абеларушу, адлучу ад бацькоў і мужа?»

«Не баюся. Зусім».

«Ну, глядзі, каб потым не дакарала, што звязалася не з тым, кім трэба».

«...Сёння зноў позна вярнулася са студэнцкага інтэрната, дзе жыве А.

Вось села далей апісваць свой жыццёпіс (канечне, хтосьці можа ўхмыльнуцца: ах, якая значная асоба, каб весці дзённік! Няхай кпіць, але я не магу не запісаць — не, лепш сказаць, не пагаварыць сама з сабою!) і задумалася: чаго я хаджу пасля лекцый да А.? Што — я, сапраўды, хачу лепш ведаць той край, куды нас прывялі і, як кажа бацька, запынілі, можа, і назаўсёды шляхі-дарогі (тут, у Беларусі, кажа мой стары, нам будзе лепш, чым у роднай Расіі)? Ці я хачу пачуць усё гэта якраз ад А.? Ці я хачу найперш быць больш з ім? Я сама не разумею сябе. Мне чамусьці добра, што ён, старэйшы, можа, на гадоў пяць ці сем, ёсць, што з ім добра сядзець побач ў аўдыторыі, у чытальнай зале, размаўляць ці маўчаць. Далібог, я ўпершыню пазнала, што з чалавекам — не, не з жанчынаю, а з мужчынам — добра, хораша, прыемна і памаўчаць, адчуваючы штосьці спакойнае і радаснае а д н о. Я вось ужываю гэтае «штосьці», але сама цяпер не магу зразумець, што гэта такое: яно, гэтае штосьці, сыходзіць найперш ад А. Я не магу яму пра гэта сказаць, бо баюся яго напужаць: ён, можа, падумае пра гэта ўсё інакш, чым я, палічыць мяне іншай, горшай ці, чорт яго ведае, нават лепшай, чым ёсць я на самай справе. Ды ўсё ж я да яго цягнуся і буду цягнуцца, бо за ім ёсць нейкая сіла, моц, вера, перакананасць, пазіцыя, мужчынскасць, чаго так не хапае ў нашым жыцці. З ім ты адчуваеш сябе слабою, але ў лепшым сэнсе гэтага слова, а ад яго табе сыходзіць тое, з-за чаго хочацца жыць, кахаць.

Сорамна каму прызнацца: я — жанчына, маю дзіця, два гады ўжо замужам за іншым чалавекам, а я нічога яшчэ не зведала, што зведваюць за гэты час жанчыны. Мяне ў васемнаццаць гадоў спакусіў прыгожы жанаты, але хітры і памаўзлівы афіцэр. Мы былі блізкія толькі адзін раз. Я не сказала пра гэта ні сяброўкам, ні маці, дык спаўна паплацілася: мусіла раджаць. Пазней мяне папрасіў выйсці за яго замуж крыху старэйшы хлопец з нашай жа будыніны, які толькі што адслужыў, як потым уведала, на атамнай лодцы. Хлопец як хлопец, спакойны, непітушчы, добры слесар, можа, толькі з адной заганаю: у маладыя гады ўжо злыселы, дык з-за гэтага мусіць насіць парык. Праўда, ён мяне папярэдзіў, што не можа мець дзяцей. Падумалі-паразважалі мы з мамай, канечне, не самае лепшае гэта, што магу я мець, але бярэ з дзіцем, абяцае яго глядзець як сваё — трэба ісці (бацька дык перасцерагаў: глядзі, дачка, можа, ён ужо не мужчына!). Сапраўды, потым выявілася: ён, гэты Мікалай, не толькі

не можа мець дзяцей, але не можа нічога мець з жанчынаю. Ды я спачатку не насцярожылася, не напужалася: можа, і добра, што мне не трэба аддавацца мужчыне: я з-за таго афіцэра ўзненавідзела ўвесь мужчынскі род. Мікалай лячыўся, а я была спакойная. Але праз год я пачала нават на здзіўленне сама сабе мяняцца, не разумець, што робіцца з маім целам, з маёй душою. Мне не спіцца і не весяліцца, такая прага да таго, што патрабуецца самой прыродаю, такая ад гэтага пакута, што жыццё становіцца нямілае. Я адчула: не, не ўсе мужчыны — нягоднікі і што жыццё без мужчынскай ласкі, без блізказці з ім — не жыццё, а сям'я — не сям'я. Муж параіў, як наталіць маю прагу, мае жаданне, але я рашуча адхіліла ненатуральнасць. Як бессаромнасць, здзек і гвалт. Напала на яго: калі ты ведаў, што ты ненармальны мужчына, дык нашто ты жаніўся? «А я,— адказаў ён,— хацеў, каб усе лічылі мяне нармальным мужчынам, нават тады, калі мы развядзёмся.» — «Цябе, канечне, трэба шкадаваць, спрыяць, памагаць табе, але ты — усё ж сволач,— выпаліла я яму,— ты завязаў мне свет. Ды што скажуць пра мяне людзі? Тады нарадзіла дзяўчынаю, цяпер разводжуся! Дык хто я? А я за ўсе гэтыя гады толькі адзін раз была блізкая з мужчынам! І то ўсё тое было нібы ў сне, з болем і пакутаю! Я зусім не ведаю, што такое страсць, хмельны пацалунак і абдымак, любоўныя жарскасць і ўцехі, а ўрэшце — жаночае шчасце! Можа, другой такой жанчыны, як я, болей няма на ўсім свеце!»— «Што ж,— сказаў ён,— не хочаш разводзіцца ці пачакаць, пакуль я вылечуся, дык заводзь сабе хахаля. Але так, каб пра гэта ўсе ведалі!»

Вось якое мае жыццё, вось якая я! І нікому, А. таксама, пра гэта ўсё не скажаш, хоць яго, А., я, несумненна ўжо, кахаю, хачу быць ягонай. Ды... А.— жанаты і, здаецца, вельмі добры сем'янін!»

## 5

— Сапраўды, я пачаў адчуваць, што сум у Ініных вачах, што знікне на хвіліну-другую, а затым зноў усплыве, палоніць вочы, не проста так, а па нейкай прычыне. Ды я не мог запытаць у яе пра гэта, яна сама не загаварвала пра тое. Толькі ўсё часцей я пачаў перахопліваць яе задуменны, засяроджаны на мне позірк, ад чаго яна бянтэжылася і пунсавела.

Аднойчы, тым жа летам, калі мы ўвечар сядзелі з Інай у маім інтэрнацкім пакоі (мае аднапакаёўнікі, лічачы, што ў мяне з Інай ужо штосьці ёсць, які ўжо раз пакінулі нас тут удваіх), вярнуўся наш самы старэйшы студэнт — таўстатвары і вясёлы, часамі цынічны, але заўсёды, хітры і выкрутлівы, з думкаю найперш пра сваю карысць.

— Цяплынь, хараство вакол,— паўшчуваў адразу нас абоіх,— а вы, маладыя, прыгожыя, сядзіце ў душных чатырох сценах і тлуміце сабе голаў граматыкаю! З'ездзілі б лепш на возера ці хоць бы ў кіпо схадзілі!

Іне, здаецца, спадабалася гэтая паўнамёкавая парада, а я сумеўся: паездка з жанчынаю на прыроду ці паход з ёю ў тэатр — гэта ўжо значыць больш, чым звычайная вучоба ці нават сяброўства. А калі Іна выйшла, а я затрымаўся, каб упарадкаваць стол, таўсцяк зашыпеў мне на вуха:

— Гэтыя талмуды,— пастукаў костачкай сагнутага пальца па кнігах і канспектах,— толькі зачэпка. Пратры свае лупы: Іна ўтрэскалася ў цябе па вушы, жадае, каб ты яе не адукоўваў, а пацiскаў як след! А яна — бабец што трэба! Каб не ты, дык яе каторыя нашы хлопцы даўно ўжо цiскалі б! Дык чаму табе не зацiснуць яе: ты — жанаты, яна — замужняя! Пацешылі адно аднаго — і разышліся ў розныя бакі!

Калі я, можна сказаць, збянтэжаны, выйшаў з пакоя на калідор, Іна, убачыўшы мой стан, запытала з асцярогай:

— Ён сказаў пра мяне што-небудзь цынічнае?

— Не,— паспяшаўся заспакоіць яе я.

— Бадай, неабачлівая я: прыходжу да мужчыны, застаюся з ім сам-насам! — прамовіла яна.— Канечне, пра гэта можна ўсё, што хочаш, гаварыць. Ды я табе, Алік, веру і думаю, што ты абароніш мой гонар.

— Я нікому не дазволю абразіць цябе,— адказаў я, а потым загарэўся: — Давай сходзім у рэстаран ці ў кіно!

— Ты багаты, можаш патраціцца на жанчыну?

— Не багацей, але адзін раз у рэстаран звадзіць магу.

— Іншым разам,— усміхнулася яна. А кал і падышлі да трамвайнага прыпынку, папрасіла: — Давай пасядзім крыху ў парку.

Мы перайшлі рэйкі і на ступеньках спусціліся ў парк, знайшлі вольную лаўку, селі побач, пазіраючы, як перад намі, на абгароджаным пясчаным футбольным полі, бегаюць за мячом, гарланяць падлеткі.

— Мне тужліва, Алік,— упершыню яна загаварыла са мной пра асабістае сваё.

— Чаму? — упершыню гэтак спаважліва запытаў я.

— Я не бачу сэнсу ў жыцці...

— Такая маладая і прыгожая?

— Я маладая і, здаецца, як пішуць у газетных аб'явах, «прывабная жанчына», але... Скажы,— зірнула мне ў вочы так, нібы хацела ўбачыць маю душу,— ты шчаслівы?

Я паціснуў плячыма.

— У цябе ёсць дзеці?

— Сын.

— Жонка твая прыгожая, добрая?

— Звычайная.

— Ты яе моцна кахаеш?

— Можа, найпраўдзівей адказаць так: прывыкнуў.

— Па тым, што ты заўсёды такі акуратны, відаць, што яна добрая гаспадыня.

— Добрая.

— А я, Алік, каб ты ведаў, можа, самая нешчаслівая жанчына ў свеце...

— Чаму?

— Я люблю толькі бацькоў, дачку і яшчэ аднаго чалавека...

— Мужа?

— Не. Мужу я спачуваю, але не кахаю яго...

Я не мог запытаць, каго яна кахае, толькі раптоўна сэрца мае зайшлося: няўжо ў яе ёсць палюбоўнік?

Яна дастала з сумачкі фотаздымак і падала мне — там я ўбачыў яе, таксама ў штанах і пінжачку, малое дзіця і яе пахмурнага мужа.

Адчуваючы, што я ў гэты час думаю пра яе, яна накрыла маю руку, якую я трымаў на сваім калене, сваёй невялякай зграбнай рукою:

— Харошы ты, Алік. Спакойны, разважны, надзейны. За табой твая сям'я, мабыць, як за каменнай сцяною.

— І ты, Іна, харошая, вялікая разумніца і спагадніца, надзейная.

— Вось і прызналіся адно аднаму ў каханні,— пажартавала, паднялася.— Пайшлі, а то так нядоўга і да граху дайсці...

Я правёў яе да трамвайнага прыпынку і на гэты раз паімкнуўся пад'ехаць з ёю да вакзала.

— Не трэба, Алік,— папрасіла яна.

— Чаму?

— Не трэба,— настойліва паўтарыла, пасля цмокнула мяне ў шчаку і хуценька ўскочыла ў трамвай, як толькі адчыніліся там дзверы, памахала мне рукой, сумотна ўсміхаючыся.

Я паволі вярнуўся ў інтэрнат, спрабаваў чытаць, а пасля, перад сном, чуючы розныя гаворкі, анекдоты аднапакаёўнікаў, ніяк не мог пазбыцца думак пра 1ну. Мабыць, невыпадкова ж яна сказала, што

не мае любові да мужа і нешчаслівая. Але ж яшчэ некага не проста паважае, а кахае. Каго?

Нечакана ў мяне нібы перавярнулася ўсё на душы: а можа, той чалавек — я? Можа, яна мне ўжо выразна намякнула: як кажа наш таўсцюк, хопіць сушыць мазгі, давай сыдземся і возьмем усё, што даецца мужчыне і жанчыне ў маладыя гады?

Яна мне вельмі падабаецца, я хачу быць з ёй чым даўжэй разам, але... За пяць гадоў, што жанаты, жонка, канечне ж, не здраджвае мне, а я не здраджваю ёй. Як угадала Іна, мая Вера — вельмі дбайная гаспадыня. Кватэра наша, я, сын, сама яна, нашы соткі і агарод заўсёды дагледжаныя не проста добра, а лепш, чым у іншых. Можа, толькі Вера зарана паўнее, нават цяжэе, залішне з-за дробязей сварыцца з калегамі-бухгалтарамі ды хоча ўсяго звыш меры нацягаць у дом, не ўяўляе далейшага жыцця без каляровага тэлевізара і машыны, дзеля чаго ледзь не рабуе сваіх бацькоў і перасварылася з сёстрамі, а мне, механіку, спрыяе вучыцца таму, каб я стаў інтэлігентам, настаўнікам, а потым — дырэктарам школы, калі праз гадоў сбм пойдзе на пенсію гэты, цяперашні. Якраз з-за будучай маёй пасады яна пілуе мяне, каб я адрокся ад «сваёй нікому непатрэбнай беларускасці» (таму, да слова, нават ёй, жонцы, я не расказваў, як мяне абсякалі кэпэсэсніца і дэкан і як заступілася за мяне Іна. Зрэшты, пра 1ну я не апавёў яшчэ і таму, што Вера вельмі раўнівая). Вера такая дзелавітая, што нават блізкасць са мной найперш мае не тады, калі ўспыхне — ад убачаных мной яе калена, грудзей ці ад любоўнага позірку ці іншых сотняў, тысячаў натхненняў — здаровая пожадзь, а тады, кал і ёй «гэта добра будзе для здароўя». Я не раз пацяшаўся: «Ах ты, мой бухгалтар!», але пазней такі жончын разлік мне пачаў не падабацца, а значыць, і не спрыяць... Праўда, калі-нікалі Вера магла і пагарэзнічаць, але па-свойму дзіўна: скажам, паколькі ў яе вельмі халодныя рукі, нават улетку, дык яна любіла час ад часу падкрасціся да мяне і запусціць свае ледзяшы мне пад кашулю, незвычайна радуючыся: «Надо взбодрить соратннчка!», а калі я шчыра і жартам вішчэў, дык яна далей цешылася: «У мяне халодныя рукі, затое гарачае, добрае сэрца. А ў цябе цёплыя рукі, але халоднае сэрца». Ды... усё ж Вера — жонка і сусямейніца верная. Здаецца, яна не ўяўляе жыцця без сям'і, з-за яе, сям'і, яна пойдзе на ўсё, учэпіцца, абдзярэ кіпцямі самага роднага чалавека, самага вялікага начальніка, яна зусім не церпіць распусных жанчын і рэжа ім у вочы самую горкую праўду, абразу і пагарду, дык, бадай, не яна за мной, а я за ёй як за каменнай сцяною.

Да ўсяго, зразумейце, мне цяжка было ўявіць, як можна жанатаму лёгка сысціся з іншай жанчынаю ці дзяўчынаю, а пасля, як я чуў ад сваіх аднапакаёўнікаў, весела, задаволена расказваць іншым пра свае палюбоўныя прыгоды і поспехі ды з такімі падрабязнасцямі, што мне, ужо не юнаку, было сорамна. Тым не менш я адчуў: Іна неяк незаўважна ўвайшла ў маё жыццё, мне добра, хораша, што яна проста ёсць, мне радасна яе бачыць, з ёй размаўляць і падоўгу маўчаць, хоць я першы, канечне ж, не пераступлю той мяжы, за якой у нас раптоўна наступіць блізкасць альбо разлад. Я прадчуваў: калі такі, то Іна рана-позна адыдзе ад мяне і, можа, пагорнецца да іншага, да ўрвіцеля, які не задумваецца пра тое, што я высока падымаю як «можна» ці «няможна». Ад думкі, што Іна, такая абаяльная, свежая, можа апынуцца ў абдымках нейкага пройды, у мяне балюча занывала сэрца. Дык што — я, верны сем'янін, пакахаў іншую жанчыну? Але для чаго? Чаму розум мой цвярозы, сэрца захвалявалі мяне такой нечаканкаю?

6

«...я сказала яму наўмысна, што, апроч бацькоў і дачкі, кахаю яшчэ аднаго чалавека. Гэта значыць — яго. А. не запытаў, хто той мой абраннік, здаецца, усцепануўся, пахаладнеў на душы, што я кахаю іншага. Мне ж не трэба цяпер шмат слоў, я разумею: А. пакахаў мяне, хоць хутка і лёгка не скажа пра гэта. Не, я маніла яму, што не хачу жыць. Я, як ніколі, імкнуся ў жыццё. Я люблю яго, хачу чэрпаць з яго прыгаршчамі, і з іх, прыгаршчаў, піць самой і даваць яму, А., гэтаму «нацыяналісту», які на самай справе проста здаровы, разумны, зусім натуральны чалавек, які хораша ўмее быць самім сабою, асобай!.. Цяпер, мабыць, як ніколі, мала асоб і зашмат шэрасці, сераднячкоў, якія ва ўсім такія...»

7

— Пасля нашай недагаворанай размовы ў парку Іна больш да мяне ў інтэрнат не заходзіла. Калі яна адразу пасля лекцый падавалася на сваю кватэру, дык я зажурбочваўся, быў як сам не свой, блукаў без вялікай патрэбы па чужым да майго ўзрушэння і разгубленасці горадзе, а калі вяртаўся ў інтэрнат і браўся чытаць, дык толку было мала. Назаўтра ж, сустрэўшыся з ёю ў аўдыторыі, я не толькі радаваўся, але і бянтэжыўся, гаварыў ці тое-сёе рабіў зусім неўпапад.

...Навальніца — спачатку з лёгкім пацямненнем, а пасля з цяжка зацягнутым сіза-чарнаватым небам, з вялікімі разгалінастымі маланкамі і ляскатна-грукатлівым перуном, а пасля з уліўным дажджом,

пахкім свежай вадою і асаджаным гарадскім пылам-смогам, ад якога проста ўміг пацяклі мутныя ручаі, мужчыны ўжо не пераскоквалі бурных сцёкаў, а ішлі па іх у туфлях, а жанчыны, шануючы модны дарагі абутак, паразуваліся і нязвычна для горада весела крочылі босыя,— дык вось навальніца заспела нас знянацку. Ні ў мяне, ні ў Іны ў той ясны і сонечны зранку дзень не было парасона, дык мы, заседзеўшыся ва універсітэцкай бібліятэцы, пасля пастаялі ў вестыбюлі новага корпуса і, бачачы, што не перачакаем дажджу, пабеглі проста ў залеву. Тулячыся да сцен, час ад часу забягаючы ў скразняковыя пад'езды, каб неяк дабрацца да вакзала, да Інінага аўтобуса, мы вымаклі да ніткі.

Сёння Іна не затрымлівала, дык я ўслед за ёю ўскочыў на прыпынку з непагадзі ў прысадзісты цёплы аўтобус пад нумарам 69 і паехаў у Масюкоўшчыну, як і Іна, зусім не засмучаточыся, што мокры. Наадварот, адчуваў якуюсьці асвяжальную радасць ад такога спорнага ліўня.

— Які дождж! — усклікнуў я.

— І здаецца, надоўга!— таксама ўзнёсла адказала Іна, і мы ўсміхаліся адно аднаму ад уцехі, нібы сёння ў горадзе, у нас вялікая падзея.

Неяк міжволі ў мяне само вырвалася:

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ўдаль марудна праплывае.
Усё сціхла. Але вось паветра рассякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не сціхаюць,
І ўніз халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся.

— Сам напісаў?— Ініныя блакітныя вочы ўжо не толькі пазбавіліся ад сумотнасці, але і молада, захоплена заззялі.— Ты — паэт?

— Не, я не пішу вершаў,— адказаў я.— Гэта напісаў наш Максім Багдановіч, які амаль усе свае дваццаць пяць з паловаю гадоў пражыў на чужыне, выдаў пры жыцці толькі адну кнігу, але стаў класікам нашай паэзіі, перажыўшы ў літаратуры і некаторых старэйшых, і наступных, хто вінаваціў яго ў дэкадэнцтве, упадніцтве і ў нацыяналізме!

— Няўжо і ў вас быў нацыяналізм гэты?

— Каб быў ён, здаровы і моцны, дык сёння была б зусім іншая Беларусь. Ды не толькі яго, але і амаль усё нацыянальнае выпалалі ў

трыццатыя гады. А цяпер, сама бачыла, як высякаюцца новыя парасткі. А без іх, новых галінак, дрэва старэе і чэзне.

— Я пра такія рэчы дагэтуль зусім не задумвалася,— прызналася яна.— Скажу шчыра, нават радавалася, што тут нам легка і добра. Бо раней, у Сярэдняй Азіі, нам было няпроста.

— Вось што значыць павесціся з такім, як я. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся!

— Здаецца, на нацыянальнай глебе сутычак у нас з табой не будзе. Ды калі я яшчэ вывучу вашу мову!

Мы размаўлялі вось так, а на нас у аўтобусе пазіралі і са здзіўленнем, і з ваўкаватасцю. А сярэдніх гадоў, даволі з густам апрануты, праўда, п'янаваты мужчына павярнуўся да мяне і прыклаў руку да грудзіны:

— Я тожа беларус, але языка свайго не знаю. Як і рускага добра не ведаю.

— Дрэнна,— хітнула галавой уніз Іна.

— Знаю, што плоха. Інжынер усё ж! Але ведзь у горадзе ўсе сцясняюцца па-беларуску гаварыць, і я, дурак, сцясняюся, хоць язык беларускі, калі яго добра ведаць, сочны!

У аўтобусе загудзелі — хто за гэта, хто супраць, а я падаў знак 1не: не трэба гэтых выпадковых дыскусій. Тым больш што нам трэба было ўжо выходзіць. Калі пакінулі душнаваты аўтобус, шпарка пабеглі да недалёкага паўкружнага высокага гмаху.

— Вось я і дома,— прамовіла Іна, калі мы заскочылі ў вузкі і ветраны пераход-выгбу паміж дамамі.

— А я правяду яшчэ цябе да твайго пад'езда.

— Аз пад'езда — да дзвярэй кватэры?

— А што — нельга?

— Можна,— усмешка не пакідала Інiных вачэй і вуснаў.— Ды прыйдзецца запрашаць цябе ў кватэру, пераапранаць у сухое, ставіць пляшку, даваць чай, каб не прастудзіўся з-за мяне.

— У кватэру не прашуся: няёмка перад тваёй сястрою.

— А яна з сям'ёю ў ад'ездзе, дома я адна.

Іна сказала нібы між іншым усё гэта, а я адчуў, што трапіў быццам у зашчымку: ні напрошвацца ў госці да жанчыны, ні адступаць. Скажу шчыра, сэрца маё затрапятала, як асінавы ліст.

— Была я ў цябе ў гасцях — цяпер ты нанясі мне візіт у адказ,— здаецца, зусім спакойна запрасіла Іна.

Яна, проста вырataваўшы мяне, першая рушыла з прахадной, я падаўся за ёю, і мы поплеч пабеглі ўжо змрокам уздоўж мокрых,

пахкіх сваёй лістотаю бэзу, вішань, сліў, а па другой руцэ бліскучых рознакаляровых легкавікоў на вялікай асфальтаванай пляцоўцы.

— На другі паверх можна падняцца і без ліфта,— ужо ў доме сказала Іна, а калі мы апынуліся там, адамкнула адны, у калідор, пасля другія, у кватэру, дзверы і ўсюды першага ўпускала мяне.

— Зараз пераапранемся, пагрэемся чаем альбо кан'яком,— дзелавіта прамовіла, кал і разуваліся ў невялікай вітальні. Тут жа зайшла ў пакой, што быў насупраць,— мабыць, як я паспеў ухапіць зрокам за міг, у спальню гаспадароў — неўзабаве выйшла адтуль ужо ў доўгім цёплым халаце, што хораша аблягаў яе высакаватую постаць, а мне падала новае мужчынскае спартыўнае трыко і паказала, дзе ванная.

8

«...Божа, як я хвалявалася, калі хацела, каб А. зайшоў са мной у сестрыну кватэру! Не ведаю, ці заўважыў ён, але я змушана намагалася быць спакойнай. Можа, і не прыкмеціў: бедны, сам зусім сумеўся...»

9

— Мы, ажыўленыя, але, мабыць, са стоенасцю і напружанасцю ва ўсім (ад гэтага, бадай, і ў яе, і ў мяне часта штосьці падала з рук), выпілі па кілішку-другім кан'яку, прыкусілі, запілі каваю, паглядзелі кінафільм па тэлевізары. Пасля я сядзеў ужо нібы на іголках: пачала не даваць спакою думка, што трэба падымацца ўжо, ісці адгэтуль, бо стоенасць і напружанасць набіраюць яшчэ большую моц. Я чакаў, што, можа, Іна паспрыяе: усё, дарагі, час позні, табе пара дадому. Але яна не толькі не напамінала, але і не давала знаку пра гэта, хоць ёсць нямала спосабаў, як падаць іх, гэтыя знакі, што ты, госць, ужо нежаданы.

Урэшце я не вытрымаў змагання з самім сабою, падняўся з канапы, і яна, седзячы непадалёку ў крэсле і добра зразумеўшы мой парыўчы рух, падхапілася.

Ужо пара мне дадому збірацца,—
Вечар позны, а час не стаіць.
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць!

— Максім Багдановіч? — усміхнулася Іна.

— Ён.

— І тут няма ніякага нацыяналізму!

— Які нацыяналізм! Тут — жыццё!

Іна зірнула на мяне ўжо не з усмешкай, а з нейкай глыбокай умольнасцю. Гэты позірк пранізаў маю душу, і я нечакана нават для самога сябе ступіў, абняў і прыпаў да яе вуснаў — Іна не проста саступіла доўгім пацалункам, яе губы былі паімкнёныя насустрач, узгарачаныя. Як адразу адчуў я, мужчына, яе пацалунак быў не сяброўскі, а поклічны, хмельны, ад якога дробна і, здаецца, гулка аж у скронях тропатна забілася сэрца, а сухая гарачыня хлынула ў твар. Я прытуліў яе да сябе. Іна спачатку нібы ўперлася кулачкамі мне ў грудзіну, а пасля мякка падалася, заплюшчыла вочы і закінула рукі мне на шыю. Я сашчаміў у далоні адну палавінку яе грудзей і адчуў, як таксама шалёна трапечацца яе сэрца. Яна адкінула галаву, адплюшчыла вочы, і я ўбачыў у іх зіхоткі блакітны бляск.

— Іна!

— Алік!

— Я люблю цябе паміма сваёй волі!

— А я люблю цябе сэрцам і душою!

— Я ўжо не магу без цябе, чуеш!

— І я.

Мы зноў пацягнуліся да вуснаў адно аднаго, доўга цалаваліся і туліліся целамі, а пасля, калі ўсё ў маёй свядомасці патуманела, я лёгка скрануў яе, зусім падатную, і апусціў на канапу. Мы леглі, па-ранейшаму ў абдымку, цалуючыся. Я даў волю сваёй руцэ, упершыню адчуваючы яе моцнае, тугое, пяшчотнае і гарачае цела, а пасля мы зблізіліся. Спачатку і я, і яна штосьці спрабавалі гаварыцьмармытаць, а затым яна нібы ў адчаі застагнала, і мы, абое не могучы стрымаць трымцення, цешыліся нашай блізкасцю. Але праз нейкі час — ацверазенне, сарамлівасць і калі не жах, то нейкі сполах ад таго, што ты ўчыніў.

— Ты застанешся тут,— прашаптала Іна, тулячы твар у маю шыю.— Ты не павінен пакідаць мяне адну.

— Добра,— адказаў я, гладзячы яе аголены плячук. Пазіраў у бела-матавую ад тэлевізарнага святла столь, але ўсё яшчэ нібы бачыў Інінае цела — даўгаватыя худыя, але зграбныя ногі (невядома чаму яна заўсёды носіць штаны і хавае іх), таксама худаватыя сцёгны і клубы, моцны і ў той жа час пяшчотны жывот, буйнаватыя натапырчаныя грудзі, натхнёны твар з дробнымі рысамі.

— Пра што ты думаеш? — запытала яна.

— Пра тое, што здарылася.

— Ты каешся?

— А ты?

— Я, Алік, адчула сябе жанчынаю. Упершыню ў жыцці...

Я тады не ведаў усіх яе сямейных сакрэтаў, дык гэтыя яе незвычайныя словы (як можна толькі цяпер адчуць сябе жанчынай, калі ўжо некалькі гадоў замужам і маеш дзіця?) палічыў за добрую манеру, каб супакоіць мяне, палюбоўніка, чыйгосьці мужа і бацьку.

— Табе, Алік, было добра са мной?

— Добра.

— А я ашаломленая. Я ўсё яшчэ цябе адчуваю і зноў жадаю... Веру і не веру, што такое было, можа яшчэ быць!

— Было, будзе.

Першая наша сумесная ноч была амаль бяссонная, з ласкамі, размовамі і шэптам ды з такімі ўцехамі, што і я, мужчына, ашаламіўся — ад Інінай падатнасці і страсці, ад новага пазнання і ўпаення.

10

«...Я аддалася яму! Ды з такой прагаю, з такой радасцю і ўзамен адчула такія покліч, страсць і шчаснасць, што цяпер ужо з поўным правам магу сказаць: я — вялікая грэшніца, здрадзіла мужу, абакрала іншую, але я — Жанчына! І як добра быць ёю, калі ты целам і душою аддаешся любімаму, а ён — табе!..»

11

— Я не толькі перабраўся жыць да канца сесіі да Іны, але потым мы з'язджаліся і сустракаліся ці то ў Мінску, ці то ў Ініным Барысаве альбо ў нашым раённым гарадку, у Крупках, амаль кожны тыдзень, а на час сесіі наймалі асобную кватэру.

Я зажыў двайным жыццём: глядзеў сям'ю, меў блізкае з жонкай, якая не здагадвалася, што я ёй не зусім верны, нават падхвальвала, што я з гадамі ажыўляюся як мужчына, але з нецярпеннем чакаў нашых з Інаю сустрэч.

«Глядзі,— бывала, яшчэ болей зачароўвала яна мяне,— як я з табою развілася! Як папышнелі мае сцёгны і клубы, як напоўніліся грудзі! Я нават не думала, што ў мяне можа быць столькі жаноцкага!»

Ды чым бліжэй да канца вучобы, я задумваўся больш. Я не ўяўляў, як можна жыць без жонкі і дзіцяці, але я ўжо не ведаў, што будзе без Іны.

«Ты страціў запал да мяне?— гарэзавала яна.— Я табе, баламутніца, надакучыла?»

«Іна,— неяк аднойчы я не адгукнуўся на новыя яе гульні і пяшчоту,— нам трэба зрабіць рашучы крок!»

«Які? — асеклася і панікла яна.— Ты хочаш абарваць усё, што ёсць у нас?»

«Праз месяц-другі мы скончым вучобу і больш не зможам так часта прыязджаць у сталіцу. Дык што тады?»

«Я таксама пра гэта думаю і, пакуль мы можам быць разам, я — уся твая, а ты будзь увесь мой!»

«А пасля, Іна?»

«Не ведаю, Алік».

«Я, Іна, надумаўся развесціся і ўжо да канца дзён сваіх злучыць свой лёс толькі з табою».

«Я хоць сёння магу пайсці ад свайго нялюбага мужа, тым больш, што ён не бацька маёй дачкі. Але ты...— маркотнела і тулілася да мяне яна.— Табе, мілы і любы мой, будзе нашмат цяжэй адарвацца ад сваёй сям'і. Ты пасля будзеш калі не ўсё жыццё, дык доўга пакутаваць...»

«Дык што — загубіць наша каханне?»

«Не ведаю, Алік. Я хачу быць шчаслівай, але хачу, каб і ты не быў без радасці і ўцехі. Я хачу быць толькі тваёю, але я не пасягала і не пасягаю на цябе. Каб цябе, таго, хто вярнуў мяне да жыцця і паказаў, што такое каханне, не засмучаць, я магу ахвяраваць сабою...»

12

«...Ён кахае мяне, хоча быць маім мужам. Божа, якое шчасце было б быць яму жонкай, нарадзіць ад яго дзяцей і жыць моцнай сям'ёю. Ды ўсё ж, на жаль, ён не будзе зусім шчаслівы са мною. Ён не з тых, хто можа лёгка пакінуць блізкіх і родных яму людзей, ён будзе пакутаваць.

Дзе выйсце? Я ж, калі мы разыдземся ў розныя бакі з А., ужо не змагу ні дня жыць з Мікалаем і не ўяўляю, ці здолею пакахаць каго іншага, быць з тым такой блізкаю, як я была, ёсць з А. Дык што, калі я страчу А. назаўсёды, не пераадолею гэтага і не зблізкуся з кімсьці іншым, мяне чакае адзінота, сум, слёзы ў падушку і змарнаванае жыццё?..»

13

— Перад апошняй, як лічылася, паездкай у сталіцу, куды я павінен быў завезці сваю выпускную пісьмовую работу, а адтуль вярнуцца з дыпломам, жонка мая, як ніколі, была ўзбуджаная.

Я і цяпер добра помню той вясновы цёплы ад маладога сонца поўдзень, калі яна прыйшла дахаты паабедаць і аддаць мне новенькую зялёную папку, дзе роўненькімі лістамі ляжала перадрукаваная канторскай машыністкаю мая дыпломная.

—Вось,— падала яна папку мне і неяк уся засвяцілася знутры, канечне ж, па-жаночаму радуючыся, што нарэшце заканчваюцца

доўгія гады маіх і яе турбот, што хутка буду я пры сям'і і на добрай рабоце, што павага да нас у вёсцы ўзрасце: неўзабаве я магу стаць дырэктарам школы, а яна — галоўным бухгалтарам.

Цяпер, калі яна свяцілася і радавалася, мне было цяжэй, чым тады, калі яна за штосьці чаплялася і калі я меў да яе скрытную, зацятую злосць, а то і нянавісць, часамі пакутуючы, што мы сышліся ўсё ж досыць выпадкова і праз некалькі гадоў засталіся рознымі людзьмі. Цяпер я пазіраў на яе і шчыра шкадаваў, што ў яе на адной лытцы буйна выступілі жылы і часта прыносяць ёй пакуту, што яна такая мажная на клубах, жываце і ў плячах, што ў яе цяжкія для жанчыны рукі, што на яе круглаватым твары запоўныя шчокі і што ўрэшце я ўжо не захапляюся ёю, люблю іншую.

— Ты, здаецца, не вельмі рады, што заканчваецца твая валынка?— шчасліва ўсміхнулася жонка.— Што хутка, як цыган па драбіне, палезеш угору?

Прыкра было псаваць ёй добры настрой, ды трэба было рана-позна пачынаць цяжкую і непрыемную размову.

— Сядзь, Вера, пагаворым.

Яна апусцілася на новую і дарагую канапу, са здзіўленнем зірнула на мяне, сарамліва абцягнула падол спадніцы на поўныя калені.

— Вера,— чуючы, як гулка б'ецца сэрца, прамовіў я з намаганнем,— я перад табой і Толікам нягоднік...

Яна з лагоднай усмешкаю вырачыла вочы: што з табой сёння?

— Я пакахаў іншую жанчыну і прашу ў цябе разводу...

— Ну-ну!— падахвоціла яна да такой гутаркі, канечне ж, думаючы, што я жартую, што, наколькі яна ўжо ведала, я проста не мог паквапіцца на чужую жанчыну.— І хто ж тая, што хоча перабегчы мне дарогу?

— Я кажу праўду, Вера.

Яна спачатку застыла, а потым ад яе гладкага ружаватага твару адхлынула кроў, і ён пачаў бялець: цяпер сэрца, душа падказалі ёй, што ўсё гэта сапраўды магло здарыцца і што наша сям'я, наш дастатак, яе мары — усё можа раптам рушыцца, што яна абражаная і пакінутая.

— Так выйшла Вера...

— Вось цяпер я пачынаю многае разумець інакш...— памалу, слова за словам, зацадзіла яна.— Твая маўклівасць... Цяжкія ўздыхі ўночы... Частыя паездкі ў Мінск... Абыякавасць да мяне...

Яна перавяла позірк на дыпломную і, здаецца, першае яе жаданне было схапіць яе, скамячыць, а то і парваць усе лісты і шпурнуць гэта мне ў твар. Я абачліва прыціснуў папку да сваёй грудзіны.

— І хто ж тая лярва? Замужняя? Разведзеная?

— Яна замужняя прыстойная жанчына, але будзе разводзіцца.

— Прыстойная не будзе разбіваць сваю і чужую сям'ю!

— Мы пакахалі адно аднаго.

— І ты ўжо спіш з ёю?

— Выбачай, але я пра такое не магу гаварыць.

— Спляліся, як...— і далей у запале яна сказала такое непрыстойнае, што я мушу апусціць яго.

— Чаму ты лічыш, што гэта — звычайныя любошчы, распуста? Кажу ж, у нас вялікае каханне.

— А я табе нялюбая ўжо? Што ніколі ні на аднаго самага прыгожага мужчыну не зірнула? Што цябе лепш, чым сябе, гляджу? Што нашаму дзіцяці душу ўсю аддаю? Што кватэра. наша — поўная чаша і як музей? Што во гэтыя рукі ніколі не ведаюць спачыну?

— Я ж прызнаю, што перад табой і Толікам я нягоднік.

— Пайшоў ты... са сваім прызнаннем! Ты жыццё мне скалечыў! Ты...

І далей у яе пачалася істэрыка — са слязьмі, з лаянкай. Яна ў парыве гневу і роспачы пабіла шкло, паламала рамку і парвала партрэтны фотаздымак, дзе яна і я, маладзенькія, танклявыя і сімпатычныя, былі ў шлюбным уборы, а пасля рванула дзверцы ў шафцы і пачала хапаць, шпурляць на падлогу, біць чаркі, сподкі і кубкі, а калі я паспрабаваў яе супакоіць, раз'юшана накінулася з кулакамі на мяне...

Яна некалькі дзён ледзяніла маю душу маўчаннем, нянавісцю і пагардай, не варыла мне есці і не мыла маёй бялізны, паводзілася так, нібы мяне ўвогуле няма на гэтым свеце. Можа, чакала, што я ўрэшце не вытрываю такой вайны і пачну прасіць даравать мне, а яна, спагнаўшы сваю крыўду і злосць, пачуўшы мае раскайванне, клятву ў далейшай вернасці, пачне зжывацца з думкай, што трэба захаваць сям'ю, жыць са мной і такім. Калі я аднаго дня зноў папрасіў згадзіцца развесціся, дык яна ўся ўспыхнула, скруціла фігу і так ткнула ёю мне пад нос, што з яго аж пайшла кроў. «Во табе развод! Во табе прыстойную, маладую, прыгожую, танклявую і лёгкую!» У той жа дзень яна паслала тэлеграму маім бацькам: «Срочно приезжайте. Решается наш семейный вопрос». Тыя, канечне ж, адразу прымчаліся. Бацька маўчаў, а маці слязьмі і, галоўнае, абміраннем, просьбамі «не зводзіць яе раней часу ў магілу» (у яе, сапраўды, было вельмі слабое сэрца) дабілася таго, што я для яе спакою мусіў паклясціся, што запыню ўсё з Інай і застануся з Вераю ды Толікам.

...Іна адразу, па маіх вачах, зразумела ўсё.

— Я разумею тваю жонку і зусім яе не асуджаю,— сказала яна, калі мы выйшлі з універсітэта і прыселі ў ягоным дворыку на лаўцы.— Яна ведае, за што змагаецца.

Я пазіраў на Іну і не мог ніяк наглядзецца на яе: яе светлыя, з жаўтаватым адценнем валасы былі элегантна прыгожыя, блакіт яе вачэй нібы патух і выяўляў задуменнасць, драбнаваты твар свяціўся маладой свежасцю, рукі, аголеныя амаль да пахаў, уражвалі грацыёзнасцю, а грудзі, што ўздымаліся пры дыханні, вабілі акругленай паўнатою. Цяжка было падумаць, што гэтая зграбная і страсная жанчына больш не будзе ў маіх абдымках, што я ўжо не пачую яе ласкавых слоў, пяшчоты, не ўбачу яе спачатку поклічнай тамлівасці, а потым задаволенай азоранасці, што так прыгожыць яе...

— Каб не маці, дык я...

— Не апраўдвайся, калі ласка,— папрасіла яна, узяла маю руку ў сваю.— Не наш лёс быць нам разам... Ты прызначаны для іншай, а я асуджаная... Пакуль што нават няма той малітвы, што памагла б мне! Ды я не зусім нешчаслівая: у мяне некалькі гадоў быў ты і я з табой столькі ўсяго любага, добрага і велічнага пазнала! Я стала Жанчынаю! Цяпер шкадую, што не нарадзіла ад цябе. Няхай бы дзіцятка было няспыннай маёй любоўю да цябе, да ўсяго таго ўзвышанага, што было паміж намі!

— Я не ведаю, Іна, як буду жыць далей. Сына я любіў і люблю, але... Я прыхільнік, нават вялікі прыхільнік сям'і ды, калі вярнуся да жонкі, дык гэта будзе мае сямейнае турэмнае зняволенне...

— Звыкнешся пакрыху,— задумліва прамовіла Іна, а пасля зірнула на мяне пільна, нібы апошні раз.— Давай, любы, самы дарагі мне чалавек на свеце, развітваццца. Рэзка! Назаўсёды! Без ніякіх дакораў адно да аднаго! Бывай! — Яна паднялася, моцна пацалавала мяне ў вусны і, сапраўды, рэзка павярнулася і, закінуўшы раменьчык сумачкі на плячук, пайшла-пайшла, высока падняўшы галаву. Стройная, гібкая, у самым росквіце маладых сіл...

14

«...Я як мага хутчэй пайшла ад яго — не для сябе, а дзеля яго, беднага і змучанага. Не ён, а я павінна пакутаваць.

Дык вось плачу — не, не я плачу, а плача душа мая, мае цела, што ўжо не ведае яго ласкі. Адно — знаходзіць, мець, але зусім іншае — страчваць. Які цяжкі, жахлівы боль страты любага, мілага і дарагога! А. страціў волю, спакой, а я страціла свой лёс!.. Я не бачу цяпер сэнсу жыць...»

15

— І вось што праз пару гадоў выйшла з усяго гэтага. Іны няма, а я пры спрыянні жончыных сваякоў перавёз сям'ю — жонку, сына і маленькую дачку — у сталіцу, дбайны аспірант (жонка хоча, каб я стаў вучоным), клапатлівы сем'янін. Наша кватэра і ў горадзе — поўная чаша і нібы музей. Да ўсяго мы купілі легкавік, прыдбалі дачны ўчастак і напытваем па вёсках дом.

На днях я выбіўся са спакойнай каляіны і ўзрушыўся, калі пачуў, як мая яшчэ болей памажнелая жонка супакойвала новую сяброўку, якой здрадзіў муж: «Не гарачыся, не падавай на развод. Ён, твой мужанёк, пойдзе да яе, а ты, яшчэ маладая, застанешся з дзецьмі і нікому не будзеш патрэбная. Лепш саламяны муж, чым мілыя дзеткі. Скажу табе па сакрэце, і мой некалі спакусіўся на маладзейшую і стройнейшую, захацеў развесціся. Здуру і я хацела прагнаць яго ды адна разумная жанчына надавуміла. Дык я сама стала на дыбы, бацькоў яго паклікала, падсыпалі яму добра, дык адумаўся, перагарэў і во чалавек як чалавек! Можа, я, дурніца маладая, тады найперш сама была вінаватая,— не толькі спагадна, але і нібы радая, што спрыяе ў горы, якое зведала і сама, зашаптала жонка.— Як ён першы раз паехаў на завочную сесію, я ў той жа дзень вымыла посуд, падлогу і адзенне. А калі дарагі табе чалавек ад'язджае куды з дому, дык у гэты дзень не трэба нічога мыць у хаце. Вымыеш яго!»

Пачуўшы гэта, я пыхнуў гневам да той разумнай жончынай дарадніцы, болем па каханні з Інаю ды з сорамам, нялюбасцю да самога сябе, але паволі аціх, супакоіўся, пачаў далей пісаць сваю дысертацыю, каб праз год-другі абараніцца, стаць кандыдатам гістарычных навук, а пасля, можа, узяцца і за доктарскую, бо ў вучоным свеце ты без звання і ступеней мала што значыш...

1995

## ГЭЛЬКА

*З расказу Казіміра Д.*

1

— Падвязеш? — падарыла яму вельмі прыязную ўсмешку Гэлька, трымаючыся за ручку адчыненых дзверцаў і ўсоўваючы галаву сюды, у салон «Жыгулёў».

— Сядай,— адразу ж адказаў Казімір, прывязаны чорным рэменем да свайго сядзення. Прамовіў ветліва, але на самай справе з затоеным хваляваннем.

Гэлька, якая папрасіла падвезці яе з вярсты дзве, села побач, міжволі змусіўшы яго, сярэдніх гадоў жанатага мужчыну, учэпіста акінуць позіркам яе паўнаватыя, ужо загарэлыя да белых і трошкі бліскучых каленяў, сям-там з зажылымі і свежымі драпінкамі ногі, а ўслед за гэтым ягоныя вочы самі прагнавата каўзанулі па мажнаватых цяпер, калі Гэлька села, клубах пад чорнай спадніцаю. Вышэй хораша лашчыла вочы, аж, здаецца, выпіваючы зрок, сіняя блузка, туга напінаючыся на статных грудзях. Нібы не зважаючы на яго азіранне, Гэлька апусціла на прыпол пакоўную чорную гаспадарчую сумку і, зноў усміхнуўшыся загадкава, падала вачыма знак: паехалі!

— Куды везці? — само па сабе вырвалася ў яго ўзбуджана гарэзнае запытанне.

— А куды хочаш,— зусім спакойна прамовіла яна, вольна і перад ім, чужым ды яшчэ мужчынам, узяла верхнімі пальцамі абедзвюх рук каўнерык блузкі і захітала яе, каб туды, на яе белую грудзіну, нават, можа, і пад станік, трапіла свежае паветра.

Гэтыя дні было вельмі горача, мляўка, усё ў прыродзе ажно панікла і прагавіта чакала першай вялікай чэрвеньскай навальніцы — пасля авільгатнеласці, асвяжэлых лістоты і травы, шчодра напоенай зямлі і парнасці святло ды цяпло павінны былі аспакайнець, стаць лагодныя і працяглыя, і тады для вёсак пачнецца сенакосная часіна.

Зноў жа, не могучы стрымацца, Казімір перавёў вочы вышэй Гэльчынай блузкі — на яе высакаватую, з белай палоскаю пад вузкаватым падбародкам шыю, на поўныя і свежыя поклічныя вусны, за якімі ледзь бачна абазначаліся светлаватыя вусікі, агледзеў яе роўны не малы як для жанчыны, але вабны нос, загарэлыя паўнаватыя, з ямачкамі шчокі і зазірнуў у вялікія цёмныя, але жывыя і лагодныя вочы, што былі пад колер яе валасоў.

— Першы раз бачыш мяНе? — Нібы здзівілася Гэлька.

— Не першы, але ты сёння нейкая не такая,— сумеўся ён.

— А якая?

— Амаладзелая і пахарашэлая.

— Дык я, па-твойму, ужо старая і непрывабная?

— Не. Але сёння, праўда, іншая.

— Вось што значыць скінуць гумоўцы і фуфайку, апрануцца, падчапурыцца так, як і ў горадзе! — пажартавала Гэлька.— Недарэмна ж кажуць: убяры пень як след — і ён харошы!

«Ты і ў гумоўцах ды ў фуфайцы харошая»,— хацелася сказаць яму, але не змог: не ўмеў падлашчвацца да жанчын вось такім чынам. Хоць каб падхваліў Гэльку, дык гэта была б праўда: яна ў свае

трыццаць гадоў пышнела ад моцнага здароўя і непатрачанай жаноцкасці. Таму нібы апраўдаўся:

— Цябе, каб дазволіла, можна везці нават на край свету!

— І вязі! — зноў не збянтэжылася яна і ў знак згоды на такую нечуваную для вяскоўцаў рызыку махнула паўнаватай, аголенай вышэй локця, гожай рукою.

— Павязу! — падбадзёрыў сам сябе.

— Кажу ж, вязі!

Вось на табе! Думаў: ён, крыху старэйшы, пагарэзуе, возьме над ёю верх сваімі жартамі, ажно яны, гэтыя ягоныя жарты, няўдалыя, ад іх найперш няёмка яму. Ён нават не разумеў, чаму ў яго такі настрой, навошта ён так паводзіцца. Ды вось штосьці пад'юджвае ж, як таго пеўня, хадзіць калі не фанабэрыста, дык з нейкім выклікам ці форсам! Між іншым, не першы раз у яго вось такое з гэтай Гэлькаю, колькі разоў ён каяўся, лаяў сябе, што якраз такі, але заўсёды, сустрэўшыся з ёй, разведзенай зграбнай, памяркоўнай, па натуры добрай маладзіцаю, зноў і зноў чамусьці сваволіць, ведаючы загадзя, што схібіць і пазней будзе строга, а то і з нянавісцю дакараць толькі сябе.

— Каб ехаць на край свету, не хопіць бензіну,— нечакана вымавіў ён і тут жа зразумеў: нібы ратуецца ад аднаго, але на самай справе разгубліваецца і асаромліваецца ад іншага.

— Вязі тады ў Янкавіны,— ужо не задзірыста, а вельмі спакойна, нават быццам шкадуючы яго, прамовіла Гэлька і перавяла задуменны позірк на дарогу-брукаванку. А гэта значыць — перавяла вочы ад яго.

Іхнія Янкавіны — за паваротам, дзе заканчваецца бярозавы і алехавы прылесак альбо паслялесак, гусціцца лазовае кустоўе, а за ім пачынаецца невялікі луг, раптоўна ўскідваецца свет, яснее і большае, а за лугам — рэчка, не, лепш сказаць, гэта некалі была рака з рэзкімі паваротамі, ямінамі і вірамі, а цяпер спрамленая і аброслая травой ды самасейнымі кусцікамі канаўка, зразумела, на рэчцы мост, па якім і цяпер могуць вывалакаць з Налібацкай пушчы ў белы свет машыны ацалелыя старыя дрэвы, а за ім, трывалым мастом, на ўзгорку,— першыя вясковыя хаты.

Казімір крануў свае «Жыгулі», паволі пакаціў з горкі, намагаючыся пераадолець свой хіб, сваю няёмкасць. Цяжка і разабрацца, чаму так бывае: з усімі дзяўчатамі, маладзіцамі ён разважлівы, упэўнены, ніхто з іх, каб і хацелі, не ашаломіць, нават не збянтэжыць яго, а вось з Гэлькай ён не патрапляе ні спакойна гаварыць-разважаць, ні жартаваць. Ён адчуваў — глыбока, у спратах сваёй душы,— чаму гэта якраз так, але пра тое адчуванне баяўся прызнацца нават самому сабе: тое было ягонай, схаванай, бадай, зусім затоенай тайнаю.

— Была ў Дзераўной?— толькі вось так паспрабаваў ён паразумецца з Гэлькай, каб разам з ёю перайсці на іншую размову.

— У Дзераўной,— адказала яна, здаецца, зусім абыякава.

— Нешта добрае купіла?

— Дробязь. Тое-сёе з бялізны, а таксама — сякеру, цвікі, касу, бабку.

Апошняе — напамін пра сякеру, цвікі, касу, бабку — проста ледзь не крычала болем пра тое, што яна, Гэлька, жанчына, мусіць займацца тым, што павінен мець за клопат мужчына, але ён, Казік, зноў жа не знайшоў нічога лепшага, як схавацца за жарт:

— А віно, гарэлку купіла?

— А вось ты хочаш выпіць? — неяк захоплена запытала Гэлька.

— Я не святы, выпіваю.

— Ведаю. Але ты выпіваеш калі-нікалі і, здаецца, з самымі патрэбнымі табе людзьмі.

— Не зусім так,— сказаў ён.

— Патлумач,— папрасіла Гэлька, але па-ранейшаму пазірала толькі на дарогу.

— Я калі-нікалі выпіваю і з прыемнымі мне людзьмі...

— Са мной ты не хацеў выпіць. Значыць, я табе непатрэбная і непрыемная...

Ён змаўчаў.

— Чаго праглынуў язык? — павярнулася да яго, але чамусьці весела зірнула Гэлька.— Ці ты асцерагаешся такіх, як я, разводніц? З імі можна пажартаваць, пакпіць, іх можна куснуць альбо, наадварот, папрасіць у іх таго, чаго хочацца, але ўсё гэта рана-позна небяспечна, бо мы, разводніцы, адмысловы люд!..

— Дык ты дазваляеш калі-нікалі зайсці і да цябе на чарку? — бадай, упершыню з надзеяй запытаў ён.

Цяпер змаўчала Гэлька, неяк незвычайна пазіраючы ўперад, куды несла іх машына, і ён зразумеў, што і на гэты раз сказаў не тое і не так, што зноў у яго з Гэлькай свае недамовы ды што ён, старэйшы, жанаты мужчына, дзеіць не так, як трэба. Гэта — не столькі нерашучасць, гэта — штосьці большае, што зацугліваё яго, сямейнага, бацьку дваіх дзяцей. Ён можа гаварыць прыемныя словы, гарэзіць, апроч жонкі, і іншай жанчыне, але ўсяму гэтаму ёсць мяжа; гэтая мяжа сама жыве ў ягонай душы, ва ўсім, што ён засвоіў ад дзядоў, бацькоў, вызначае, што трэба ці няможна рабіць, дык вось ад яго, таго няпісанага закону, ідзе вера, перакананне, што ты, не зважаючы ні на што, павінен быць верны родзічам, жонцы і дзецям, не даваць

вол і сваім пачуццям і захапленням. Пра такіх, як ён, кажуць: «людзі даўняга сораму».

На павароце, мінаючы алехавы прылеснік і вымкнуўшыся на нешырокі яшчэ нядаўна балоцісты, а цяпер асушаны, а ў апошнія гады атравелы, але няўдала, з бародай высокай і жорсткай травы-кустоўяў луг, Казімір змусіў сябе разняволіцца і ўжо з пэўным намёкам апусціў далонь на Гэльчына прыемна халаднаватае калена і сціснуў яго.

Гэлька не ўздрыгнула і не адкінула ягонай рукі, толькі ціха папрасіла:

— Не трэба.

— Чаму?

— Ты зусім не такі, якім хочаш паказаць сябе мне.

— А які я?

— Пра гэта трэба нямала гаварыць, Казік...

«А чаму нам нарэшце не пагаварыць пра тое, што мы хаваем не толькі ад людзей, але і ад сябе?»— нецярпелася запытаць яму, ды не змог.

Ён зноў першы адступіў — забраў руку з яе калена, перакінуў яе на пераключальнік хуткасці і больш чым належыць, пранікнёна ўталопіўся на дарогу. Балазе якраз вымкнуліся, нібы самі бегучы насустрач, Янкавіны, дзе адна з нершых хат з гэтага боку была Гэльчыная.

— Дзякуй, што падвёз,— быццам і не было нядаўна паміж імі дзіўнай, а то і недагаворанай размовы, сказала Гэлька, а кал і ён запыніў машыну, тут жа сама адчыніла дзверцы і адразу ж выйшла, а пасля, не азіраючыся, спакойна і годна закрочыла ў свой двор, легка несучы сваё паўнаватае, але стройиае цела.

## 2

У іх былі госці.

Каля плоту прытуліўся «козлік», а ў ім, насунуўшы на твар белую, трошкі пакамечаную ўжо кепку і адкінуўшыся на спіну, марнаваў час шафёр Жэня — неблагі, крыху затурканы, але спешчаны, як і ўсе вадзіцелі начальнікаў, малады мужчына.

Той, пачуўшы рып тармазоў Казікавага легкавіка, вылез са сваёй машыны, рады бачыць знаёмага і, галоўнае, як лічыў, простага чалавека, і пагаварыць.

— Гутараць нашы партайгеноссэ?— падаючы яму, маладзейшаму, руку усміхнуўся Казік.

— Гутараць, Браніслававіч,— як і заўсёды, незадаволены сваёй начальніцай, уздыхнуў Жэня.— Ужо з гадзіну, не меней. Значыць, прыйшоў капут яшчэ адной тваёй пляшцы каньяку.

«Партайгеноссэ» — гэта Жэнева «гаспадыня» («хозяйка»), сакратар райкома партыі па ідэалогіі Рабцава і яго, Казікава, жонка, парторг тутэйшага саўгаса. «Партайгеноссэ», «партайфраў», «гаспадыня» — гэта Жэневы кепікі; Казік, пачуўшы іх, упадабаў гэта і спрабаваў гэтак пацешвацца з жонкі, але тая аж пазелянела аднойчы, сыпнула снапом іскраў з-пад сваіх акуляраў ды кінулася на яго з кулакамі: «Заціхні! Гэта — кашчунства!»

— Хоць не прысядай ты з імі, Браніслававіч,— папрасіў Жэня,— не паспеем да сямі вярнуцца ў горад!

Казік лагодна ўсміхнуўся, ведаючы, чаму Жэня хоча вярнуцца ў горад якраз да сямі гадзін вечара. Як расказаў той летась, аднойчы ён імчаў сваю «партайфраў» у горад у вялікі дождж, дык вось яна, п'яная, нечакана змусіла запыніць машыну, адчыніла дзверцы і, не вылазячы з кабіны, на яго думку, дурнавата ўсклікнула: «Які цёплы дождж! Якое водарнае паветра! Дыхай, Жэня, дыхай!» — «Зараза! — аж вар'яцеў тады ад злосці гэты Жэня.— Хутка сем гадзін, перастануць у магазінах прадаваць гарэлку, а ты: дыхай-дыхай! Нябось сама ўлімоніла добра, яшчэ зажадаеш у горадзе дадаць і змусіш, каб я стаяў каля сяброўчынага дома і чакаў цябе!»

Праўда, сёння Казік не паспеў ні пачаставаць сасмяглага Жэню кіслым бярозавікам, лустай хлеба з вяндлінай, ні зайсці ў хату ды пакланіцца «партайфраў»: Рабцава, сярэдняга росту, прыгожая, але нейкаю пошлай красою, гладкая, нават усыцелая, у строгім сінім касцюме ды сінім світарчыку, сыходзіла ўжо з ганку, а яе праводзіла ягоная высокая і тонкая, ссутуленая, таксама зашпіленая на ўсе гузікі строгага чорнага касцюма Вера. Абедзве вось пунсовенькія, вясёлыя, пад лёгкімі кроплямі поту — значыць, як і казаў Жэня, апаражнілі бутэльку каньяку.

— Здравствуй, Брониславович,— нібы па-дружбацку, але і ў той жа час паблажліва падала яму руку бойкая Рабцава.— Как живешь?

Як і заўсёды, «партайфраў» пыталася несур'ёзна, абы загаварыць, дык і ён, як і дагэтуль, адказаў так, каб толькі не маўчаць:

— Добра, Клара Авяр'янаўна.

— Вось гэта малайчына! — усцешылася тая.— Аптыміст! Ніякіх нараканняў і просьб! — І ўжо яго жонцы: — Добры ў цябе муж, Вера! За такога і я пайшла б!

«Каб і той, як я, быў дурнем, хатняй рабсілаю»,— свярбела пакпіць яму, паколькі ведаў пра нялёгкую долю мужоў, чые жонкі начальніцы, але не асмеліўся ды і не мог дапусціцца да такога.

Рабцава заўважыла яго маўклівы намёк, падкол, але не пазважала на гэта, перавяла гамонку на іншае:

— Затрымаецца, Браніслававіч, пагода?

Запытала ў яго як у «зкаўцы прыроды», лесніка.

— Ты ж знаўца прыроды, павінен усё ведаць.

— На днях будзе навальніца, а праз дні два-тры зноў апагаднее.

— Выдатна! — задаволілася тая.— Значыць, можам даваць каманду па раёне: пачынаць сенакос.

«Даць каманду» — гэта ў іх, у райкомаўцаў, у крыві. Казік не вытрываў, ужо не столькі ўсміхнуўся, колькі нават дайшоў да ўхмылачкі, успамінаючы, як гадоў пяць таму, кал і ягоная Вера з эканаміста-планавіка нечакана стала парторгам, была тут адна цікавая, нават, лепш сказаць, смешная гісторыя. Калі прыйшоў час жаць жыта, новы (цяперашні) дырэктар саўгаса паслаў камбайнёраў на поле; Вера завіхнулася пахваліцца пра гэта ў райком; былы дырэктар быў з партызанаў, меў сяброў у вобласці ды сталіцы, акнязіўся, дык яму многае тут дазвалялі, а зараз раптам — званок з раёна: адбой! Як так — зноў вы першыя пачынаеце жаць і зноў без «идеологической запевки?» Трэба пачаць іначай, «в честь нового исторического съезда», з музыкай, каб людзі лепш адчулі, што такое жніво «в стране развитого социализма!» Канечне, запынілі камбайны. Прыехалі з раёна райкомаўцы (во з гэтай Рабцавай), агітбрыгада, аўталаўка. На дварэ пякло, стаяла сухмень, жыта асыпалася, а каля поля сабраўся невялікі гурцік камбайнёраў і шафёраў, прыгнаных з вёскі дзядуль і бабуль, якія слухалі прамовы, музыку і песні. Канечне ж, сталыя людзі дакорліва моршчыліся, а потым, без начальства з раёна, зубаскалілі — з яго Веры таксама. Праўда, Рабцава — а яна тады пасля настаўнічання працавала ў ідэалагічным аддзеле і першая агледзела «идеологический просчет» — неўзабаве займела большую, сённяшнюю, пасаду. Праўда, Жэня неяк аднойчы сказаў яму, што яна — каханка «Хозяина» і мроіць, калі таго перавядуць у вобласць, каб разам з ім трапіць туды і самой.

— Казік,— калі Рабцава вальяжна села ў кабіну і дала знак Жэню ад'язджаць, млява пазяхнула Вера.— Я стамілася, хачу адпачыць.

— Канечне, цэлы дзень жала ці цэглу цягала! — пакпіў ён.

— Як ты не паважаеш, не цэніш маю працу!— без крыўды, але і не цёпла сказала яна.— Разумовую, больш стамляльную, чым фізічную!

— Як не аслабнуць, не зажадаць прылегчы, калі піць у такую гарачыню! — незалюбіў ён.

— Я не магла не пачаставаць яе.

— Кідала б ты гэтую дурную работу,— ідучы з падпітай жонкаю да ганку, зноў, як ужо не раз, сказаў тое, што было ў яго на душы.—

Тады быў бы большы толк ад цябе. Як ад эканаміста, так і ад хатняй гаспадыні.

— Несвядомы ты, а то і заземлены мешчанін,— лагодна паўшчувала яго, чалавека без вышэйшай адукацыі, Вера.

— Я, як кажа шафёр Жэня, просты чалавек. Муж і бацька. Але мне надакучыла быць і гаспадаром, і гаспадыняй.

— Што ж рабіць, калі мне трэба з раніцы да позняга вечара быць па-за домам? Ды ў раёне праз дзень-другі? Мне проста няма часу займацца гаспадаркаю!

— Кажу ж, адмаўляйся ад нежаночага занятку.

— А хіба я, жанчына, не спраўляюся са сваім, як ты кажаш, заняткам? Ці, па-твойму, па-дамастроеўску, бабе дарога — ад печы да парога? Усе бачаць, а ты ніяк не хочаш заўважыць: у мяне талент арганізатара!

— Ты паказала б лепшы, добры талент, каб была добрым эканамістам, прыкладнай жонкай і маці. Не ты, жанчына, а я, мужчына, дзяцей гадую, гаспадарку вяду.

— Ты ж не дурань,— зазлавала ўжо.— Хіба не разумееш: трэба пацярпець, каб мяне заўважылі і як след ацанілі ў раёне. Тады, можа, інструктарам у райком возьмуць, дык у горад пераедзем, пазбавімся гэтай гаспадаркі.

— Не трэба нам ніякага горада.

— Янкавіны табе любыя?

— Любыя!

— А мне — не. Тут — глуш і шэрасць. Я хачу ў горад, хоць бы ў раённы.

— Ніхто цябе туды не запросіць.

— Чаму гэта? Я ж адзін з лепшых парторгаў! Якраз так сёння мне Рабцава сказала.

— Ты сама ведаеш, каго бяруць на такія пасады...

— Маладых, прыгожых і падатных?

— Чаго пытаеш, калі сама ўсё ведаеш,— схмурыўся ён.

— Бяруць. Але не адкідаюць і непрыгожых, непадатных, але разумных.

— Такія найбольш у судзе, але ў цябе для гэтага не тая адукацыя.

— Як хочаш, але я настроілася толькі на горад. Таму і валаку тое, чаго іншыя не цягнуць. Таму і табе, кажу, трэба пацярпець.

— Надакучыла...

— Нідзе не дзенешся, патрываеш. Калі не для мяне і сябе, дык для дзяцей, якім я хачу даць добрую адукацыю, развіць усе іхнія здольнасці, каб хутчэй, чым я, занялі сваё належнае месца ў жыцці,

падняліся па службовай альбо навуковай, творчай лесвіцы. А незычліўцам сваім дзецям не можаш быць і ты, наіўна ўлюбёны ў вёску, у лес, ва ўсё простае, паколькі ніколі нічога лепшага не бачыў...

Як і дагэтуль не раз, «пагаварылі!» Казімір адстаў; Вера падалася ў дом, каб заваліцца на ложак і ў сне выцерпець хмель, каб зноў пакінуць на яго ўсе клопаты па гаспадарцы.

Некалі, калі яна пасля інстытута прыехала сюды, была не толькі тоненькая і худзенькая, але сарамлівая і нават безабаронная, мізэрнаватая ў акулярах. Ён, вярнуўшыся з войска, не думаў браць замуж яе, іхнюю кватарантку. Ды ўсё рашыла маці-нябожчыца: «Хлопец, не выбірай, не ганіся на жаночую красу, а бяры дзяўчыну вучаную, спакойную», «Верачка, былі дагэтуль у нас пастаялкай, а цяпер заставайцеся маёй нявесткаю». Пажаніліся. Спачатку Вера яшчэ нейкі час сарамацілася, але пасля, калі нарадзіла, займела голас, лёгкую пагарду да свекрыві, яго і вёскі, да яе звычаяў і нораваў, бэсцячы ўсё, што тут было да 1939 года, называючы іх то «заходнікамі», то «куркулямі». Ён цярпеў, але пазней, калі яна стала парторгам і аддалілася ад сям'і, начала жыць іншым, малазразумелым і не вабным яму жыццём, ён адчуў: яны — чужыя людзі. Яна ці не мела таго, што трэба, ці вельмі стамлялася на сходах ды семінарах, што нават страціла ахвоту да палюбоўнай гульні, пяшчоты, пачала мяняцца — яе клубы яшчэ болей павузелі і пахудзелі, грудзі паніклі і звялі, у вачах знікла жывасць, а позірк стаў халодны, уладны з ім і ліслівы з Рабцавай і іншым начальствам. Ды і голас перайначыўся, пасуровеў. «Паслухай,— бывае, проста загадвае,— ёсць неабходнасць зрабіць тое і тое...»

Яшчэ год-другі таму, калі яшчэ не пакутаваў ад адчужанасці, спрабаваў ажаночыць яе — да слова, мог нават удзень нечакана і гарэзна схапіць на рукі і па-маладому свавольна кінуць на ложак, шэпчучы: «Ёсць устаноўка, каб парторгі-жанчыны кахалі сваіх мужоў!» Яна не толькі не расслаблялася, не замірала пяшчотна ў абдымку, а рэзка выцярэблівалася: «Кінь свае жывёльныя страсці і кашчунства! Я табе не Ядзя альбо Гэлька!»

Ядзя і Гэлька — незвычайныя ў Янкавінах жанчыны, суперніцы. Гэлька зусім маладая, адразу ж пасля школы выйшла замуж за аднавяскоўца, які вярнуўся з войска з дысбата і закружыў ёй галаву формай і сваімі, як яна спачатку лічыла, смелымі і вясёлымі, а на самай справе паўблатнымі паводзінамі. Жылі яны няблага, праз гады два аддзяліліся ад мужавых бацькоў, перайшлі ў свой новы дом, завялі гаспадарку, а пазней купілі «Запарожац». Нешта зарабіў муж-шафёр, нешта прыдбала яна-кладаўшчыца, і, канечне ж, дадалі іхнія

бацькі. Добра то добра, але разам з іхняй заможнасцю крочыла і бяда: у іх не было дзяцей.

Гэльчын муж лічыў, што гэта адбываецца па жончынай віне, першы час цярпеў, а затым пачаў прыкладацца да чаркі, а выпіўшы, навучыўся прыдзірацца, папікаць. Яна, як ведалі ўсе ў вёсцы, была жанчына жвавая, смелая, не аднаму мужчыне, нават начальству, дала аплявуху, хто спрабаваў паваліць яе на мяшкі ў складзе, але, адчуваючы сваю віну, маўчала, цярпела мужавы прыдзіркі і папрокі, толькі сам-насам плакала ад болю і крыўды. Аднойчы той усчаў ужо сварку, а сварка перарасла ў бойку. Яна не вельмі паддалася яму, але ён, мужчына, усё ж набіў яе больш і мацней.

«Мы павінны развесціся,— сказала яна назаўтра яму, цвярозаму, глыбока ў душы спадзеючыся, што той адумаецца і будзе жыць з ёю па-чалавечаму,— Ці я пайду адгэтуль, ці ты ідзі».

Ён панікла змаўчаў за сняданкам, а ўвечар, зноў п'яны, сказаў:

«Пайду да Ядзі».

Ядзя, крыху маладзейшая за Гэльку, на той час удава, жыла з маленькай дачкою.

«Ідзі, каб вочы мае больш цябе не бачылі»,— са злосцю адказала яна, верачы, што Ядзя не прыме яго, такога пры крага.

«І пайду, і дзяцей у нас будзе многа!»

«Кажу ж, сыходзь к чорту. Што да тваёй палавіны нашага дабра, дык я сплачу за яе».

Сапраўды, ён укінуў у легкавік свае касцюмы, паліто, абутак, забраў тэлевізар, ашчадную кніжку ды паехаў на другі край вёскі да маладой удавы. І тая не выгнала яго. З год жыў з ёй не па законе, а пасля, калі стаў бацькам, развёўся і запісаўся з новай жонкаю. Яшчэ праз год тая нарадзіла другое дзіця.

Гэлька, здаецца, зусім не адчайвалася, што на вачах усёй вёскі пакінуў яе муж, не хадзіла, як іншыя, біць вокны ў Ядзінай хаце: спачатку веска, нават мужава радня спачувалі якраз ёй. Але калі той займеў дзяцей і стаў, як усім казаў, шчаслівы, нават пачаў менш піць, амаль усе перамяніліся: нібы па-ранейшаму былі за яе, не хвалілі яе мужа, але ўжо і не ганілі яго. Гэлька зразумела: веска ўжо не за яе, а за яго. Ёй ужо нібы прызначылі: жыві, як прыйдзецца ä не асуджай шчаслівага чалавека. Зразумеўшы гэта, Гэлька панікла.

Гады два намагалася лішне не трапляць людзям на вочы, не хадзіла на гулянкі, дзе мужчыны і жанчыны развясельваліся, але апошні час, здаецца, калі не пераламала сябе, дык знайшла моц, каб зусім не замаркоціцца. Сёлетняй зімой, кажуць, яе браў замуж нашмат старэйшы ўдавец з суседняй вёскі, але яна не пайшла за яго.

Адпрэчвала ад сваіх дзвярэй і начных залётнікаў, а ў складзе — розных спачувальнікаў ды ўрвіцеляў.

Што да Казіка, дык ён неяк міжволі пачаў больш чым трэба, думаць, назіраць за Гэлькай і неўзабаве быў уражаны ад таго, што ўбачыў у яе вачах: самоту, а то і глыбокі смутак, а з імі і незамутнёную чысціню, цёплую і лагодную мяккасць, што ішлі ад яе добрага сэрца.

Здаецца, яна адчула, што ён хораша думае, пазірае на яе, нават быццам зазірае ёй у душу і спачувае. Здаецца, адчула, што гэтае спачуванне адменнае, што ідзе не толькі ад чалавечай дабрыні, але і ад любові, і яна таксама міжволі пагарнулася да яго, Казіка, хоць часамі асцерагалася, а то і баялася сваёй гэтай памкнёнасці, нейкай светлай надзеі. Ды з ім іначай, чым з іншымі, гутарыць, усміхаецца, а то, бывае, так пільна і задумліва ўгледзіцца на яго, што аж працінае яму душу, вабячы непатрачанай жаноцкасцю.

Разы два Казік познім вечарам і на досвітку падыходзіў да яе сянец, браўся за клямку, але ні разу не зачапіў яе, стрымліваючыся не столькі ад боязі, што Гэлька не ўпусціць яго, колькі ад узмоцненага адчування віны перад сям'ёю, найперш перад дзецьмі. Калі ён пасля гэтага пачынаў абыходзіць Гэльку, не трапляць ёй на дарозе, дык у гэты ж час мянялася да яго і яна: выпадкова сустрэўшыся, кпіла, была дзёрзкая, і яму пачынала здавацца, што ён абы-што прымроіў сабе, Гэльцы ён не падабаецца, дык ён зусім дарэмна ўпотай мае нейкае спадзяванне на яе...

...Вось і ў гэты вечар, клеплючы касу, Казік падакараў сябе, што і сёння так няўдала паводзіўся з Гэлькаю. Ён то дае ёй нейкую надзею, то тут жа адступае, а маладзіцы патрэбна яснасць, патрэбен мужчына. Калі не муж, дык хоць надзейны каханец. Які ж год яна ўжо адна і, як усе кажуць, ні з кім не блізкая. А мае такі ўзрост, такое здароўе, што, канечне ж, жыць ёй без мужчыны пакута. Але што рабіць яму? Не тлуміць ёй галаву? Цярпець такую Веру? Жыць найперш дзеля дачкі, якой ужо чатырнаццаты год і якая пачынае ўжо затрымлівацца каля люстэрка, шэпчацца з сяброўкамі пра хлопчыкаў і чытае тыя кнігі, дзе пішацца пра каханне? І дзеля сына, які сёлета перайшоў у трэці клас і цягнецца за ім, бацькам, як нітка за іголкаю? Мабыць, так і трэба жыць, калі хочаш быць добрым мужам і бацькам, але хіба сапраўднае гэта жыццё, калі ты, сярэдніх гадоў чалавек, яшчэ поўны сіл ды імпэту, мусіш глуміць у сабе тое, што патрабуе волі, гарэзнасці і ўцех?!

3

Як і казаў ён Рабцавай, праз два дні спякота нібы выбрала сваю моц; белыя воблакі, што дагэтуль усплывалі на высокае блакітнае неба і падоўгу кучоміліся на адным месцы, цяпер хутка знікалі за небакраем, а новыя пачыналі згушчацца, шарэць і цяжэць. Урэшце, калі асабліва было млосна, шэрыя воблакі зацягнулі ўсё неба, схавалі сонца, пагрозна зацямнеліся, змусілі затаіцца на зямлі дрэвы і траву, пасля недзе далека, яшчэ без маланкі, вуркатнуў гром, пацягнуў, захістаў дрэвы што раз усё мацнейшы вецер, а затым пырснуў вельмі цёплы дождж. А з маланкай і ўжо моцным громам хлынуў уніз лівень, адмываючы стрэхі хат, платы, дрэвы, зямлю і напаўняючы наваколле ўсё большай свежасцю.

Пасля вялікай навальніцы ўсё на полі і ў агародзе пыхнула, пам-кнулася расці ды квітнець; калі зноў сцішэла, сплылі, абвіслі на адным баку неба сіне-чорныя хмары, павышэла і зноў паблакітнела неба, за-явілася яркім, гарачым, але ўжо не мляўкім кружочкам сонца, пачало ўсё паказвацьна працяглыя цяпло і суш, пачалася сенакосная часіна.

Паехаў касіць сваю дзялянку і Казік. З раніцы пляжыў траву на лугавіне, а пасля, калі пачало прыпякаць сонца і ападаць раса, выкошваў у кустоўі, а пад абед, па-добраму натомлены, сеў у машыну і пад'ехаў да недалёкай знаёмай яміны ў іхняй спрамленай рачулцы.

Ды нават не дайшоў да гэтай купальнай мясціны, мусіў за крокаў трыццаць хітнуцца з тваністай сцяжыны за куст: у яміне, як было відаць па са браных у вузел на патыліцы валасах, плёхалася жанчына. Гэлька. Мабыць, таксама касіла (цяпер яна жыла з маці, бацька памёр летась, а браты былі за светам, дык сама пыніла і мужчынскую работу, а цяпер, як і ён, зажадала асвяжыцца).

Няёмка было падцікоўваць, не тыя ўжо гады, каб зай-мацца такім цікаўна-пазнавальным хлапчукоўствам, але ногі нібы прыраслі да зямлі, а вочы не адарваць ад вады і жаночай галавы: Гэлька молада і ўцешна гуляла-дурэла ў лагоднай для яе вадзе. Дастаяўся да таго, што Гэлька насвавалілася, супакоілася, падплыла да берага, асцярожна выпрамілася і, паазіраўшыся вакол, павольна выйшла з вады. Высакаватая, белая (толькі ногі да калень ды рукі да локцяў былі загарэлыя), з поўнымі і стромкімі грудзямі, з падцягнутым прыгожым жыватом і ёмкімі, але хораша дапасаванымі да ўсяго цела клубамі. Ён зачаравана пазіраў, як яна спакусна выпучвала грудзі, калі падымала стройныя рукі і разбірала валасы на патыліцы, як яны, валасы, неўзабаве апалі і схавалі спіну з кідкім для вока раўчуком пасярэдзіне, як яна апраналася ў сукенку, а пасля падабрала касу, торбачку ды закрочыла берагам уздоўж рэчкі. Як на тое, у гэты час

воблакі закрылі сонца і сюды, на гэтую мясціну, кустоўе, лужок і рэчку ўпаў цень, просты, звычайны, але здалося цяпер, што, адыходзячы, адгэтуль забірае святло і змушае прыроду панікнуць Гэлька...

...Выпадкова ўбачанае з той хвіліны было для яго як наслань, мроілася штодня. І ўвечар, калі клаўся спаць, і раніцай, калі прачынаўся. Апалоньвала яго зусім нечакана, ні з таго, ні з сяго, азараючы душу нейкім светлым праблескам, нібы найвялікшымі марай і надзеяй, радасцю і шчасцем. Ён нават саромеўся, што гэтак захапіўся жаночым целам і не толькі думае, але нібы бачыць яго на яве, любуецца і трызніць ім. Больш — ён дакараў сам сябе: ці не абзыўнуўся ў ім самы што ні ёсць звычайны пажаднік з грэшнымі думкамі і помысламі? Каяўся, але...

4

...І сёння Вера рана завалілася спаць. Як і заўсёды, калі вып'е, на асобнай пасцелі.

Спалі ўжо і дагледжаныя ім дзеці, а вось яго сон не браў. Яго раздражняла, што Вера не спачывае спакойна, як і трэба жанчыне, а моцна, па-мужчынску храпе, а то варочаецца і стогне. На добры толк трэба было б ёй паспачуваць, але яно, спачуванне, не прыходзіла. Урэшце ён не вытрываў, узяў апратку, вобмацкам усунуў ногі ў тапачкі і вышаў на двор.

Там было цёмна і ціха. Веска спала.

«І Гэлька, мабыць, ужо спіць,— самі па сабе ўзніклі такія вось думкі, калі апранаўся.— Спакойна, хораша разняволіўшы сваё пышнае цела ды, можа, вабна падклаўшы далоні пад шчаку. Мусіць, яшчэ пахарашэлая ў сне...»

Гэлька... Падумаўшы пра яе, зноў быццам убачыў зялёныя луг і дрэвы, кусты, узварушаную ваду, жаночыя галаву, стройныя рукі і плечукі над ёю, а потым і ўсю Гэльку, што спаважна, але з насцярогай выходзіць на бераг і ўскідвае за галаву рукі...

Міжволі ён выйшаў з двара і затаіўся на вуліцы. Нібы які рабаўнік.

«Што гэта я? — ажно здзівіўся.— Ці не зноў самі мае ногі вядуць да Гэлькі, каб зноў запыніць руку на клямцы дзвярэй яе сянец?»

Пайшоў. Патушыў, кінуў долу цыгарэту. Каб ніхто не згледзеў агеньчыка ад яе. Неўзабаве ягоная рука была ўжо на знаёмай клямцы і, як раней, запынілася на ёй, а яго сэрца знаёма закалацілася, запаўняючы яго хваляваннем і нерашучасцю. Ды перамог сябе, рашыўся: лёгка, але бразгнуў раз-другі. І амаль тут жа сэрца нібы абарвалася: да аконнай шыбіны, што жухла адсвечвалася, прыпаў

чалавечы твар, а пасля адчыніліся дзверы ў хаце, пачуліся крокі ў сенцах.

— Хто там?

Гэлька.

— Я,— з неўтаймоўным хваляваннем вымавіў ён.

— Казік?

Чыркнуў з прабоя кручок — дзверы сенцаў адчыніліся. За імі — Гэлька ў белай доўгай кашулі, з распушчанымі доўгімі валасамі.

— Які такі клопат поначы? — здаецца, здзівілася.

— Вялікі, Гэлька... Упусціш?

— Заходзь. Не трымацк жа цябе за парогам, хоць і ноч, а я адна дома...

— Ведаю... — прамовіў і, адчуваючы ўжо дрыготку ў руках і нагах, абхапіў Гэльку, сплятаючы свае рукі на яе спіне.

— Ці не выпіўшы ты? — усміхнулася.

— Не.

— Дык ты ў начныя госці да мяне?

— У начныя госці.

— Я ж табе казала,— яна была наструненая, але не вызвалялася,— ты не такі!

— А які?

— Ты, Казік, сем'янін, верны сваёй жонцы.

— Не адмаўляюся: сем'янін. А вось што да гэтай веры, то я ўжо стаміўся ад яе... Бо зныў па табе...

Яна змаўчала і ўпнулася, калі ён паспрабаваў бліжэй прытуліць да сябе.

— Не трэба, Казік,— ціха папрасіла.

— Чаму?

— Нам з табой і цяпер нялёгка, а тады будзе яшчэ цяжэй...

— Чаму?

— Таму... Ды ты і сам усё добра разумееш.

— Разумею, але, кажу ж, знябыўся я па табе. Дзень і ноч бачу цябе перад сабою...

Уздыхнула. І вельмі нялёгка.

— Мы не павінны болей цурацца адно аднаго,— угаворваў яе і заадно сябе.— Нашы сцежкі-дарожкі сышліся...

— Ты якраз так лічыш?

— Якраз так.

— А што выйдзе з усяго гэтага?

— Не ведаю. Але няхай будзе тое, што выйдзе. Прашу: не адпіхай, будзь маёю. Я ж буду тваім.

— Хіба ты любіш мяне?

— Люблю,— прамовіў ён, і яна падалася ўжо на яго прытульванне.— Я не ведаю, як добра сказаць табе пра гэта, але болей ужо не магу без цябе, зусім знемагу.

Калі ён пацягнуўся да яе вуснаў, дык не адвяла свае, і яны надоўга сцішыліся ў прагным пацалунку. А пасля, калі адарваліся і перавялі дыханне, Гэлька схіліла голаў на яго грудзіну:

— Завязваем мы няпросты вузел, Казік...

— Калі я табе неабыякавы, дык і завязвайма!

— Каб ты мне быў абыякавы, то хіба я тут стаяла б і такое дазваляла? Але, можа, давай, любы мой, пакуль не зусім страцілі развагу, запынімся ў час! Я не пра сябе думаю, хоць таксама марнею, а пра цябе. Ты ж будзеш пасля пакутаваць. Калі не перад Верай, дык перад дзецьмі. Ты ж шчыры і сумленны чалавек!

— Можа, і буду пакутаваць, але затое не будзе маёй цяперашняй пакуты.

Гэлька зноў змаўчала, мусіць, спрабавала знайсці сілу, каб не дапусціць таго, што ўжо немінуча набліжалася, але і зноў адказала на яго пацалунак, ціхенька застагнала, адчуваючы, як ягоныя рукі пачалі блукаць па яе целе, пяшчотна лашчачы яго. Вось затрымцела ўжо і яна, і сэрца яе, як чулася, моцна забілася.

Ён моўчкі накінуў кручок на прабой і падхапіў Гэльку на рукі.

— Не трэба,— папрасіла яна,— сама ўжо завяду цябе ў спальню,— але калі ён панёс, дык ласкава абвіла ягоную шыю рукамі, хмелячы водарам валасоў і свайго маладога цела.

— Паляжы ціха,— шэптам папрасіла, калі ён пасля бурных пацалункаў і абдымкаў авалодаў ёю.— Дай пазнаць цябе!

Ён паслухаў, але ненадоўга: з'яднаныя іхнія плоці па мужчынскім і жаночым кліку хутка прызвычаіліся адна да адной, запатрабавалі свайго, бурнага і страснага. І яны далі волю гэтаму; спачатку абое штосьці мармыталі, намагаючыся выказаць сваё каханне і пяшчоту, а пасля, толькі стогнучы, цешыліся блізкасцю, палымнелі, нібы ў агні, здаецца, забыўшыся пра ўсё на свеце. Праўда, праз нейкі час, калі ён памкнуўся адхіліцца, яна не адпусціла яго, і яны абое зноў, але зусім па-новаму ўжо затрымцелі ў слодычнай знямозе...

Пасля доўга ляжалі моўчкі і спрабавалі апамятацца. Дзіўна, але Казімір не адчуў чаканага дакору, стаў нібы зусім новым чалавекам ці, лепш сказаць, мужчынам.

Гэлька павярнулася і ўтулілася тварам у ягоную шыю.

— А ты любкі!

— Як гэта? — запытаў усцешна.

— Так надта ж разважлівы, спакойны, а ў пасцелі гарачы.

— Бо і ты любкая, гарачая.

— Табе было добра?

— Не тое слова, Гэлька.

— Глядзі цяпер сам,— усцешна прамовіла і яна.— Можа, не чапай больш мяне, а то я, калі прывыкну да цябе, то ўжо не адстану, вып'ю з цябе ўсе сокі!

— Пі, колькі хочаш.

— Не баішся майго шалу?

— Не. Я якраз яго яшчэ і не зведаў.

— Ты мне даўно падабаешся,— прызналася яна.— Яшчэ з таго часу, калі была вучаніцай, а ты вярнуўся з войска. Ды ты надта ж хутка ажаніўся са сваёй кватаранткаю. Таму, можа, і я хутка пайшла замуж. А апошнія часы, ведай, любы, не спала з-за цябе не адну ноч. Ды пакутвала, ты мучыў і сябе, і мяне...

— І цяпер буду мучыць...

— Калі так, як сёння, то муч. Толькі перасцерагаю: ты пакуль што толькі распаліў у маёй цямніцы агонь, але яго трэба будзе і патушыць...

— Патушу,— жартам адказаў ён і неўзабаве, калі яны пагарэзавалі, палашчылі адно аднаго, зноў зблізіліся, зноў мармыталі і стагналі, а пазней, калі крыху акрыялі ад прыемнай стомы, Гэлька здзівілася:

— Зірні, любенькі мой, на вакно: днее...

## 5

Пасля гэтай ночы было безліч сустрэч — у Гэльчынай хаце, пакуль у сыноў гасцявала яе маці, а затым у лесе, па дарозе ў горад і з горада, у жыце, а ўвосень ён зноў прыходзіў у яе дом — толькі не праз дзверы, а праз загадзя прачыненае Гэлькай акно. Аднойчы, калі яны разгуляліся і забыліся пра асцярогу, нечакана ў дзверы спальні пачуўся стук Гэльчынай маці:

— Гэлька?

Яны, як дзеці-шкоднікі, заціхлі, але не выпусцілі адно аднаго з абдымкаў.

— Гэлька, чуеш ты ці не?

— Што, мама? — «сонна» запытала тая.

— Табе блага?

— Не.

— А чаго ты кідаешся па пасцелі, стогнеш, а то і енчыш?

— Сніла сон. Спі і ты, не замінай. І калі ласка, не зважай на мяне!

— Не пазважай, калі ледзь не плачаш, просішся, як бы хто душыць цябе.

Ды толькі здаецца маладзейшым, што можна легка падмануць старых. Вось і Гэльчына маці першы час нібы не здагадвалася, як цяпер жыве яе дачка, але падазрона пачала адводзіць убок вочы, больш не загаворваць пра яе замужжа. Аднойчы вечарам, бачачы, як Гэлька, вымыўшыся і змяніўшы на сабе адзенне, вычэсваецца каля люстэрка і ўсміхаецца сама сабе, запынілася за плячыма:

— Ты болей выхарошваешся на ноч, чым на дзень...

— Я ж яшчэ маладая, дык і ўночы павінна добра выглядаць,— аджартавалася Гэлька.

— Для каго?

— Для сябе.

— Толькі для сябе?

— І для вас, мама.

— І ўсё?..

Гэлька вельмі не збянтэжылася, але з хваляваннем адчула: яе сакрэт — ужо не сакрэт для маці. Ды нібы спакойна запытала:

— Вы на штосьці намякаеце, мама?

— Ды маю што сказаць...

— Гаварыце.

— Ды трэба ўжо сказаць...

Гэлька не азіралася, больш чым засяроджана разгладжвала шчокі, але напружылася ўся, чакаючы, што і як скажа маці. Пазней можа быць яшчэ страшнейшае — тады, калі зноў загаворыць пра яе ўся веска.

— Каго ты прымаеш?

— Калі?

— Не дурыся, дачка,— незадаволілася маці.— Не глухая, дык чую, як ты адчыняеш па начах акно і нехта лезе праз яго ў тваю спальню.

— Гэта ўсё вецер, мама!

— Вецер-шмецер! І з ім хіхікаеш, ложак ломіш?!

— Выдумшчыца вы, мама!

— Ага, «выдумшчыца!» Толькі вось думаю: той начны вецер — не халасцяк і не ўдавец, а жанаты мужчына! — А паколькі Гэлька змаўчала, дадала: — Найперш жанаты будзе не праз дзверы хадзіць, а праз вокны лазіць! Ды і ў вёсцы, ведай, ужо здагадваюцца пра ўсё. Не раз чула я ад кабет: проста на вачах твая Гэлька пахарашэла...

— Праўда, я пахарашэла, мама?— запытала Гэлька і нават крутнулася перад люстэркам.— Значыць, мне на карысць начны вецер!

— На карысць усё было б, каб той не лазіў употай да цябе ўхажорам праз акно, а хадзіў мужам праз дзверы,— папікнула маці.— Значыць, ён, кажу, жанаты, мўсіць таіцца.

— Ты, мама, добры следчы!

— Глядзі, скора нехта і іншы следчым стане! Той не будзе з табой перастарэкваць, а і красу тваю змарнуе, і вокны нашы памалоціць, што напраўду тады ў хаце вецер засвішча! І не паскардзішся нікому!

Гэльчыны рукі міжволі замёрлі, а на лобе сабраліся маршчыны.

— Мама,— прамовіла ўсёй душой.— Я кахаю яго, а ён кахае мяне. Мы вельмі шчаслівыя.

— Ён — жанаты?

— Жанаты.

— Хто ён? Ці не Казік?

— Чаму ты так думает? — здзівілася яна.

— Ды бачу ж, як ты на каго пазіраеш, як з кім гаворыш...

— Не скажу, мама, гэтага нават і табе. Але ведай і яшчэ адну вялікую таямніцу: я нашу яго дзіця. Памылкі ўжо няма: я — цяжарная.

— А божа! — успляснула рукамі старая.

— Ты не радая, што і я стану маці, зраблю цябе бабуляй?

— Чаму не, радасць вялікая, але...

— Я не баюся ніякіх «але». Я выпакутавала сваё шчасце.

Маці, як чула, цяжка ступіла крок-другі, апусцілася на канапу.

— А што скажуць людзі? Яны найперш не ўсцешацца, што ты радая, а пачнуць гадаць, хто бацька твайго дзіцяці!

— Ён хоча перайсці да мяне.

— О, божа! І ты хочаш, каб ён пакінуў жонку, дзяцей?

— Хачу. Ды наргойваць на гэтым не буду. Мне хопіць таго, што ён ужо даў мне.

— Я і не ведаю,— цяжка ўздыхнула маці,— ці ты распусная, ці не?! Грэшніца ці не грэшніца?!

— Я, мама, ніколі не была і не буду распусніцай. А вось што да граху, дык вінаватая. Зграшыла. З любімым чалавекам. І вось, як чуеш, грэх прынёс мне радасць.

— Радасць то радасць,— не сунімалася тая.— Але ж... Каб ён быў нежанаты, несямейны! Хай бы нават быў сляпы на адно вока, аднарукі альбо аднаногі, ды халасты ці ўдавец!

— Будзем, мама, прывыкаць і да такога. Я памру лепш, чым пайду ў бальніцу пазбаўляцца ад дзіцяці. Нараджу яго насуперак усім!

— А калі яно, беднае, некалі запытае, хто яго бацька?

— Хіба я, маці, не змагу яму ўсё патлумачыць? Няўжо яна, мая крывінка, мяне не зразумее?

Маці не адказала, толькі зноў і зноў уздыхнула з цяжарам на душы.

6

Мусіў Казік зажыць двайным жыццём. Па-адному — дома, з сям'ёй, на людзях, і зусім па-іншаму — з любай Гэлькаю, з якой адчуў сябе мужчынам і чалавекам. Ды... Ягонае жыццё, выходзіць, яшчэ больш зменіцца: як толькі што сказала Гэлька, яна нечакана нават для сябе зацяжарала ад яго.

Стомленыя пасля нядаўняй любоўнай гульні, сцішаныя пасля Гэльчынага прызнання, яны ляжалі побач нейкі час моўчкі.

— Ты, любы, можа, не рады, што я ашчасліўленая?— Гэлька прыўзнялася і панамагалася і ў восеньскай цемені ўбачыць Казікаў твар.

— Я думаю,— прызнаўся ён.

— Толькі не набірай абы-чаго ў галаву,— папрасіла яна, цалуючы яго ў шчокі, шыю і грудзіну.— Няхай усё будзе так, як выйдзе. Што б ні было, як бы ты ні павёўся, але дам пабачыць свет таму, каго нашу.

— А што мне рабіць цяпер? — сур'ёзна задумаўся ён.

— Для мяне, ведай, мой самы дарагі чалавек, хопіць ад цябе ўжо і таго, чаго ты дабіўся!— пачала супакойваць яго яна.— Я люблю цябе, а цяпер ты для мяне, кажу ж, самы дарагі чалавек, але я зусім не хачу адрываць цябе ад сям'і. Я маладая, здаровая, маю падмогу, дык вы-гадую дзіця. Перасцерагаю: калі ты цяпер пачнеш угаворваць мяне, каб я пазбавілася ад яго, дык я дзеля яго адмоўлюся нават ад цябе!

— Я зусім не хачу рушыць тваю радасць.

— То дзякуй вялікі, любы! Мілы! Родны мой!— яна пачала ўтра-пёна цалаваць яго, і ён не мог не адказаць на такі падзяклівы і гарачы парыў...

...Неўзабаве, як казала Гэльчына маці, як і грэба было чакаць, і ўся вёска ўведала: Гэлька цяжарная. Спачатку быў пошапт пра гэта, а пасля ён, гэты пошапт, успыхнуў у вялікую вясковую навіну, а яна, навіна, пачала не толькі перадавацца з хаты ў хату, але і абрасгаць рознымі чуткамі і здагадкамі. Ад іх зашчымела не адно маладое жаночае сэрца: хто ж бацька Гэльчынага дзіцяці?

Што да самой Гэлькі, дык яна не збянтэжылася і не засаромелася — наадварот, высока падымала галаву і годна насіла сваё папаўнелае цела і не прамінала сказаць, што магла б зацяжарыць і раней, з былым мужам, «але не хацела нарадзіць ад дурня». Калі ж у яе

найбольш цікаўныя дапытваліся, «з кім яна падгуляла», дык яна, адводзячы бяду ад любімага чалавека, зманіла, што, маўляў, «не ўстояла перад адным чужым маладым і надта ж харошым шаферам, які падвозіў мяне ў горад».

Цяпер прыйшоў ужо час апусціць нос, ніжэй нацягнуць на вочы брылёўку яе быламу мужу. Прыціхла і яго Ядзя — яна дагэтуль нібы ганарылася, што якраз яна здолела ашчасліўіць чалавека, якому не магла даць шчасця яна, Гэлька.

7

Калі ўжо сышоў снег, падсохла, было то маладое сакавіцкае неба, то ўсходжваўся вецер, шарэлася і крапаў халодны дождж, Гэлька нарадзіла сына.

Вясковыя кабеты, згараючы ад нецярпення, як толькі парадзіха з дзіцем вярнуліся дадому, адразу ж пашыбавалі да іх, пільна абгледзелі лобік, носік, губкі і падбародак малога, каб пераканацца: зманіла Гэлька ці не, нарадзіла ад чужога чалавека ці свайго? Пасля, сабраўшыся купкаю, як кажуць, паласкалі языкамі, але тайнага бацьку Гэльчынага сына не апазналі.

...Казік, улучыўшы хвіліну, калі на дварэ шарэла, а Гэльчына маці выйшла са сваёй хаты ў вёску, з нецярпеннем і хваляваннем зайшоў да Гэлькі. Адно, канечне, было, калі ён употай крочыў сюды да Гэлькі як да жанчыны, але зусім іншае было, калі ён ішоў сюды на сустрэчу і з ёю, і з іхнім дзіцем, што стала плодам іхняга кахання.

Гэлька — яшчэ папаўнелая пасля родаў, але рухавая і па-ранейшаму борздкая, у новенькім халаце — сустрэла яго яшчэ ў сенцах, радасна і з любоўю закінула яму за шыю рукі. Яны абняліся, пацалаваліся, як муж і жонка ў радасныя хвіліны свайго жыцця, калі адно аднаму вельмі любасныя і дарагія.

— Пакажы ж,— папрасіў Казік, калі перавёў дыханне пасля доўгага пацалунку,— што ж у нас выйшла!

— Зірні-зірні на сваё старание,— Гэлька ўсцешана павяла яго ў дом, у знаёмую яму спальню, да каляскі на колах.

Яна была радая, шчаслівая, а ён хваляваўся: у яго яшчэ адно дзіця, але пабочнае, тайнае ад людзей, з невядомым лёсам. У спальным пакоі было цемнавата, дык ён нагнуўся, пільна агледзеў невялікі зморшчаны тварык, па якім пакуль што было цяжка пазнаць, на каго падобнае дзіця, а пасля нагнуўся і пацалаваў малое ў шчочкі. І ў гэтую ж хвіліну тое заварушылася і закрактала.

— Учуў, што татка прыйшоў!— шчасліва прамовіла Гэлька, узяла дзіця на рукі і, не саромеючыся яго, Казіка, расшпіліла верхнія гузікі на халаце і дала грудзі.

— Каб ты ведаў, які ён хваткі!— азарылася ўсмешкаю.— У цябе пойдзе. Будзе рослы і дужы мужчына.

Ён з замілаваннем пазіраў і на яе, прыгожую, шчаслівую, і на яго, дзіця, што ўжо так прагла жыць. Пасля, калі накормлены мацачок зноў ляжаў і спаў у калысцы, Гэлька прытулілася да яго і прашаптала:

— Яму ж, Казічак, трэба сястрычка...

8

— Гэта — крах!..— позняй ужо восенню, лепш сказаць, перад самым Новым годам, не гледзячы яму, Казіку, у вочы і няўцямна трымаючы ў руцэ відэлец з падчэпленым кавалачкам агурка, цяжка выдыхнула за вячэраю Вера.

Ён, ужо які час жывучы раздвоена, з радасцю і смуткам, калі не ахаладнелы, дык ужо абыякавы да Веры як да жонкі, са шкадаваннем зірнуў на яе: на рана памаршчынены лоб, абапал якога на скронях засівелася кайма, на запалыя пад акулярамі звычайна халодныя, а цяпер разгубленыя вочы, на танкаватыя нервовыя нос і губы ды на непрывабны пушок на шчоках, што чамусьці страцілі свежасць і лёгкую пунсовасць. Да ўсяго Вера за апошні час яшчэ болей схуднела і заняпала як жанчына. Нібы была хворая, хоць на нездароўе вельмі не скардзілася.

— Пра які крах ты гаворыш?— з затоеным хваляваннем запытаў ён.

— Няўжо ты не разумееш? — незадаволена зморшчылася яна і яшчэ болей пастрашнела.

Ён увесь сцяўся і, паколькі ўжо дзеці выйшлі з-за стала і падаліся глядзець бясконцы замежны фільм па тэлевізары, настроіўся на цяжкую сямейную размову.

— Партыя пала! — скрушліва прамовіла Вера.— СССР паў!

Вось яно што! Значыць, Вера яшчэ нічога не чула пра яго і Гэльку, не можа ці не хоча падумаць пра тое, што, можа, якраз ён — каханец той жанчыны, бацька яе дзіцяці. Нібы для яе няма ў гэтым ніякай небяспекі. Дурніца ты, хацелася выпаліць яму, не прападзём, пражывём і без тваёй партыі, і без СССР, а вось з-за таго, чаго няма ў нас з табою, жыць далей разам проста няма як!

— Я ж табе не адзін раз казаў,— прамовіў уголас,— менш слухай хітрую і двудушную Рабцаву, больш глядзі сваю работу і сям'ю.

— Рабцава — распусніца і кар'ерыстка!
— А ты што — раней не бачыла гэтага?
— Я ж падумаць не магла, што яна так подла мне хлусіць, так падмане. Яна ж абяцала, ледзь не клялася перавесці мяне ў горад. Калі не ў райком, дык у райвыканком. Ажно рванула ўслед за Першым у вобласць і цяпер, калі партыя распушчаная, няблага ўладкавалася!
— Нічога новага і дзіўнага ў гэтым няма. Не тое дагэтуль у такіх, як Рабцава, было на хлусні і абяцанках.
Як не падабаліся і раней такія ягоныя размовы, гэтак загнявілі яны Веру і цяпер:
— Рабцава Рабцавай, а партыя партыяй! Партыя перамагла ўсіх сваіх ворагаў, фашызм, падняла СССР да ядзернай і вадароднай бомбаў, да спутніка, да звышдзяржавы!
І некалі, слухаючы тут, у гэтай хаце, бяседы Рабцавай і Веры, і ў гэтую хвіліну, калі чуў толькі адну жонку, Казік адчуваў здзіўленне: няўжо не толькі Рабцава, але і яго Вера думае якраз так, як гаворыць? Не раз і не два, ладзячы паляванні вышэйшым партыйным кіроўцам, чым Рабцава, бачыў, чуў, што тыя на падпітку гавораць пра партыю, на яе вярхоўных такое, што аж страшнавата робіцца: вунь яно што на самай справе! А вось Вера нават з ім, мужам, лічыць партыю святой. Нават цяжка зразумець: гэта ў яе ад шчырай веры, ці ад таго, што яна штосьці завучыла як малітву?
— Жывуць людзі добра, нават лепш за нас і ў невялікіх краінах,— сказаў ён.— У нас жа на зброю, на спутнікі, на развіты сацыялізм і камунізм выціснулі ўсе сокі, увесь дух.
— Разумееш ты! — зноў гнеўна бліснула вачыма Вера.— Цяпер тут у нас рвецца да ўлады Пазняк — нацыяналіст і фашыст!
— Ты сама добра ведаеш, што ён якраз такі?
— Рабцава... Ды ў цэкоўскіх лістках, у некаторых газетах пісалі пра гэта!
— А ты ўсё верыш і Рабцавай, і вышэйшым за яе, і іхнім газетам, паўтараеш услед за імі, як папу гай!
— Як магло такое выйсці?— проста жахалася Вера.— Было ледзь не дваццаць мільёнаў членаў КПСС, такая армія — і ўсё развалілася!
— Не ўсё.
— А табе радасць, што пал і партыя і СССР!
— Мне радасць будзе тады, калі не толькі партыйцы, а ўсе людзі будуць добра жыць.
— Без СССР такога не будзе! Беларусь адна не ўстоіць, не стане заможнай!
— Ды не думай ты за ўсіх...

— А пра што мне думаць?

— Як жыць далей табе, мне, дзецям...

— Ды ведаю, чаго ты, індывідуаліст, вясковы ўласнік па натуры, хочаш: каб я з табой засталася ў гэтай глушы, была і на службе, і закапалася з вушамі ў гаспадарку! Каб была я простаю бабай!

— Не ўсім жа парторгамі быць! Ды, можа, не так ужо і блага — быць жанчыне проста бабай!

— Ды гэта твой узор жанчыны! Як Гэлька! З-за пажаднага інстынкту вунь нарадзіла і без мужа!

— Дарэмна ты так зневажаеш яе,— заступіўся за тую.— Яна хоча быць простай жанчынаю, маці, дык і нарадзіла.

— А ты адкуль гэта ведаеш? — напала на яго Вера.— Ці, можа, ты з ёй спаталяў сваю пажаднасць?

— Можа,— паколькі пры такой размове мог сказаць праўду, дык і не стрымліваўся ад яе.— Бо хацеў быць проста мужчынам.

Па тым, што і як ён прамовіў, Вера не паверыла ў яе, ягоную праўду, дык фанабэрыста адмахнулася:

— Дык ідзі да яе! Гадуй байстручка, будзьце з ёю проста мужык і баба! Яна ж вунь якая гладкая, смызная і падатная! У яе, сапраўды, простым думкі, пра адно!

— Пайшоў бы, Вера, прмзнаўсй ён шчыра, каб не нашы дзеці.

Тая рэзка ўзняла галаву і, здаецца, ужо з недаўменнем, а то і з насцярогай зірнула яму ў вочы — ён жа сядзеў непарушна, прыжмурана пазіраў убок і па тым, што было ў яго нялёгкім позірку, яна, мабыць, нарэшце зразумела: не яна змучылася з ім, а ён пакутуе з ёю. Ды, можа, як і кожная жанчына, адразу не схамянулася, не падумала і не прыструніла сябе, а хапіла, як выкінутая на бераг рыбіна, паветра, захакала, моршчачыся ў плаксівай міне:

— Калі табе трэба проста баба, дык пакідай мяне, тую, якой быць найперш такой — мала! Я выгадую сваіх дзяцей і адна! А каб не мазоліць вам вочы, перавязу іх да сваіх бацькоў!

Ён, дагэтуль не раз разважаючы, як яму быць, не падумаў, што Вера можа, калі яны разыдуцца, пакінуць Янкавіны, іхні дом і перабрацца з адной вёскі ў іншую ды не проста выехаць, а звезці ад яго дзяцей.

— Ідзі! Ідзі! — ужо нервова спаганяла на ім свае крыўды і адчай Вера.— Я не трымаю!

Казік не зазлаваў, аднак і не суцешыў яе, з адчаю, але ўжо свайго, падняўся і выйшаў з дому на начны, халодны, ужо засыпаны снегам двор...

1992, 1995

# ЛІСТКІ ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

## I

* * *

Кажуць, маяк свеціць праз кожныя пяць секунд. Шмат часу, канечне, ён свеціць марна, без патрэбы. Але вось дзіва і цуд: прыходзіць міг, калі некаму няможна абысціся без кароценькіх пяці секунд святла!

* * *

Пры ўсёй нашай стрыманасці, нават і некаторай непачцівасці да народнай памяці ў нас цяпер[1] аднак выходзіць нямала цікавых кніг па гісторыі, культуры роднага народа. Напрыклад: «Слоўнік мовы Скарыны», «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», «Беларуская народная творчасць», «Жывапіс Беларусі XII — XVIII стагоддзяў», шматлікія выданні выдавецтва Белэнцыклапедыі і г. д.

...Купляем з сябрам новую цікавую кнігу па нашай гісторыі. Сябра трымае ў руках доўгачаканы томік, гартае і сумнавата ўздыхае: «Трэба абавязкова купіць, а то калі яшчэ перавыдасца? І наогул — ці перавыдасца?!»

Што гэта — нават у самім мысленні? Нявер'е?

І найперш — у самога сябе?

* * *

Карл Маркс: «Вялікі талент без перакананняў нараджае нягоднікаў».

На першы погляд, несумяшчальныя рэчы — талент і нягодніцтва. Але ў жыцці, на жаль, гэтая прыкрая з'ява даволі пашыраная. Нават больш — у некаторых, шчодра адораных прыродай, і шчодрыя, таленавітыя метады праяў зла. Як правіла, пад маскаю дабрачыннасці.

* * *

Ёсць ахвотнікі гаварыць пра нечы новы твор па адным прачытаным сказе альбо па першай жа знойдзенай імі карэктарскай абмылцы.

---

[1] Сустракаючы словы «сёння», «цяпер» і інш., чытачу трэба ўяўляць не год альбо дзень, калі ён чытае гэта, а той час, калі аўтар пісаў гэтыя радкі, калі была адпаведная атмасфера для яго эмоцый і разваг. Для гэтага выдання аўтар лічыць патрэбным не «падпраўляць» сябе.

Сам чуў, як адзін пажылы, баявіты, але штучны, халодны ў сваёй творчасці літаратар даваў заўвагу па вышэйназванай методзе маладзейшаму, болей таленавітаму калегу. Уразіла нават не сама па сабе такая сітуацыя, а іншае: колькі сатанінскай радасці, ахвоты да глумлення было ў патухлых вачах чалавека, які крытыкаваў...

* * *

У кожным вялікім гурце — у звяроў, птушак, насякомых і г. д. — ёсць свой лідэр. Роля лідэраў велізарная. Усе мы пра тое ведаем, таму няма асаблівай патрэбы шмат красамоўнічаць пра тэта.

У пісьменнікаў таксама ёсць свае лідэры. Вылучаныя талентам, сітуацыяй ці хітра выштурхнутых заканадаўцамі мод у літаратуры.

Чытаючы артыкулы, інтэрв'ю аднаго з нашых лідэраў (добрага творцы, між іншым), нельга аднак не здзівіцца, не паціснуць плячыма: з году ў год ён, шчаслівец, гаворыць толькі пра сябе, пра калег-лідэраў, а пра многіх тых, хто разам з ім цярпліва, мужна і плённа цягне мастацкі плуг, ні слова. Як і няма нікога і нічога вартага, нібы ён — адзін у пустыні.

Што гэта? Зорная хвароба? Лідэрская салідарнасць? Цяжка адказаць адназначна. Але адно ясна і бясспрэчна: літаратуры гэта мала спрыяе. Наадварот, тармозіць яе рух наперад: лідэру, згодна яго ролі, трэба не адштурхоўваць, а весці ўсіх за сабою. Іншая справа, канечне: а ці ўсе пойдуць за эгаістычным важаком?

* * *

Адзін вядомы, але абачлівы таварыш неяк у парыве шчырасці прызнаўся: «Дзе нясмелы, там і маеш рацыю, браце». Іншы вядомы, але яшчэ болей абачлівы калега, колькі ведаю яго, усё абгрунтоўвае, чаму не варта праяўляць рызыкі і смеласці. Маўляў, трошкі няўдала ступіш, скажаш, дык цябе адразу сатруць у парашок тыя, хто мае вялікую сілу. А тых, у каго ёсць вялікая моц, вельмі шмат. То і трэба, маўляў, быць вельмі асцярожным, не агаляць сваё сэрца...

Слухаеш-слухаеш такое і, бывае, думаеш: а ці не хітруеце вы, абачлівыя таварышы, ці не клапоціцеся найперш пра свой дабрабыт, урэшце, ці не з-за вас спакойна, сыта жывуць тыя, хто помсціць за рызыку і смеласць?

* * *

У кожнага вялікага ці малога народа была, ёсць свая вялікая альбо малая ідэя. Яна вядзе пакаленні праз стагоддзі, вызначае

будучыню. Без сэрцавіннай ідэі, мабыць, ні адзін народ не выжыве, знікне, як ужо зніклі многія плямёны.

Якая ідэя была ў нашых продкаў, скажам, у 1696 годзе, у год афіцыйнай забароны ўжывання беларускай мовы сеймам Рэчы Паспалітай? Ідэя выжыць у самых жудасных умовах?

* * *

Афіняне амаль 2500 гадоў таму мідзійцам: «Магутныя робяць тое, што яны могуць, а слабыя тое, што яны могуць выцерпець». Калі, дзе, чаму чалавек узяў на ўзбраенне гэты несправядлівы тэзіс: дзялі і ўладар?!

* * *

Ужо і на маіх вачах адышлі Міхась Лынькоў, Мікола Лобан, Аркадзь Чарнышэвіч, Мікола Лупсякоў, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Кулакоўскі і іншыя нашы выдатныя і добрыя празаікі. Вялікія і, можа, непапраўныя страты панесла наша літаратура.

І ўсё ж, пераадольваючы пачуццё асіраценасці, жывым апускаць рукі нельга. Наадварот, трэба ўдвая-утрая болей бачыць, разумець, перажываць і працаваць. Гэтыя звышнамаганні, можа, памогуць не толькі ўтрымаць тое, што было дасягнута, але і паспрыяць заваяванню новых вышынь і каштоўнасцей.

* * *

Цяпер усё часцей і часцей падаецца голас, каб засцерагчы прыроду, атмасферу ад забруджанасці, па гібелі. Ці не слушна побач з гэтым клопатам падымаць трывогу, што нам неабходна болей дбаць і пра чысціню людскіх душ, моладзі ў найпершую чаргу?

* * *

Чытаем у А. С. Пушкіна:

> Ты просвещением свой разум осветил,
> Ты правды чистый свет увидел,
> И нежно чуждые народы возлюбил,
> И мудро свой возненавидел.

Здаецца, той, хто заяўляе пра любоў да ўсяго свету, да роду чалавечага, не толькі не можа палюбіць свет, род чалавечы, але і бліжняга свайго, бо якраз, як падкрэслівалі старажытныя мудрыя, з любові да маці, бацькі, брата, сястры, сябра, да роднага дому і Радзімы пачынаецца любоў усеагульная, усечалавечая.

* * *

Нядаўна шмат пісалі пра бум у лацінаамерыканскай літаратуры. Некаторыя нашы «гарачыя» крытыкі нават заклікалі адмовіцца ад сваей «цягамоціны» і пераймаць лацінаамерыканцаў, у прыватнасці, Маркеса.

Нямала думалася: у чым жа сакрэт буму лацінаамерыканскай літаратуры? Многае, здаецца, памаглі зразумець самі лацінаамерыканцы. У прыватнасці, аргенцінскі выдатны празаік Х. Картасар у сваім інтэрв'ю ў «Вопросах литературы» (1981, № 11.)

«Нам, лацінаамерыканцам, — пісаў ён там,— дасталася ў спадчыну не літаратурная іспанская мова з яе глыбокімі карэннямі, а мова заваёўнікаў. Шмат стагодцзяў не было лацінаамерыканскай літаратуры. Перайманні былі — з іспанскай літаратуры, з англійскай, з французскай, з італьянскай... І вось гадоў трыццаць пяць — сорак таму, прыкладна ў час другой сусветнай вайны, мы пачалі ламаць літаратурныя каноны, адхіляць прызнаныя ў свеце ўзоры. У нас не было традыцый, і мы перад усім светам прызналіся ў гэтым. Мы стварылі сваю, новую літаратуру».

І яшчэ. Зноў яго, Картасарава: «...адкуль гэтая сіла? Літаратура наша нараджалася і мацнела ў пастаяннай смяртэльнай небяспецы. Ваенныя дыктатуры разбурылі і працягваюць разбураць культуру. Тысячы пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, журналістаў падпадаюць пад рэпрэсіі, выганяюцца са сваёй радзімы. Але вы ведаеце, у раі зусім не будзе літаратуры. Я веру — пісьменніка нараджае гнеў. Асабліва гнеў у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, у барацьбе за волю. Пісьменнік не павінен адчуваць стану задавальнення і самазаспакаення. Той, хто прымірыўся з рэчаіснасцю, асуджаны на паражэнне. Літаратура — гэта бунт супраць несправядлівасці. Літаратура павінна памерці, але не ісці на вяровачцы тых, хто мае ўладу, яна проста не мае на гэта права, — толькі пры такой умове яна карысная грамадству, яна выконвае тую функцыю, для якой заклікана на зямлю, толькі пры гэтай умове пісьменнік адчувае сябе не зусім бескарысным».

Калі чытаеш гэга, міжволі думаеш: якія ўсё ж агульныя пэўныя законы для тых, хто становіцца на ногі. Нашы Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч у XIX стагоддзі, Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі ў XX-ым пачыналі свой творчы шлях, забяспечвалі будучыню роднай культуры таксама ва ўмовах смяртэльнай небяспекі, у барацьбе супраць сацыяльна-нацыянальнай несправядлівасці, у барацьбе за волю, адмаўляючыся ад застарэлых канонаў, перайманняў, ства-

раючы сваю, новую літаратуру, рашуча адмаўляючыся ісці на вяровачцы царскага рэжыму...

* * *

Здаецца, часам непаразуменні паміж старэйшымі і маладзейшымі творцамі ўзнікаюць найчасцей прыкладна з-за вось такога парадоксу. Старэйшы: «Я чытаю творы маладых. У іх ёсць свае вартасці, але пагаворым не пра ўдачы, а пра недахопы...» Маладзейшы: «Чаму найперш падкрэсліваюцца нашы хібы? Нас свядома прыніжаюць!»

Мараль: ці не варта было б нам усім часцей не толькі ўспамінаць, але і браць прыклад з выдатнага рускага паэта Жукоўскага, які ўсё жыццё прысвяціў і літаратуры, і падтрымцы альбо нават выратаванню калег па творчасці?! Да слова, яшчэ ў 1815 годзе, калі юны Пушкін толькі падаваў голас, прадбачлівы і, галоўнае, зычлівы Жукоўскі пісаў Вяземскаму: «Нам всем надобно соединиться, чтобы помочь вырасти этому будущему гиганту, который всех нас перерастёт». А пазней, у 1824 годзе (перад гэтым, у 1820, падарыў Пушкіну свой партрэт з надпісам «Победителю ученику от побежденного учителя»), Жукоўскі пісаў: «Я стою на пустом берегу; вижу в волнах силача и знаю, что он не утонет, если употребит свою силу, и только показываю ему лучший берег, к которому он непременно доплывёт, если захочет сам. Плыви, силач!»

...Першае: як у наш час не хапае не толькі прыкладаў падараванняў партрэтаў з падобнымі надпісамі, але і звычайных своечасовых падказак, як і кудою плысці «к лучшему берегу». І другое: як не хапае і ўдзячнасці тых, каму памагалі. Пушкін, дарэчы, быў удзячны вучань. Пра гэта гавораць хоць бы наступныя яго радкі з ліста да К. Рылеева: «...не совсем соглашаюсь со строгим приговором о Жуковском. Зачем кусать нам груди кормилицы нашей? Потому что зубки прорезались?»

* * *

Рыгор Барадулін:

Вучыць не трэба маладых,
Не лашчыць,
Не даваць пад дых –
Ім думаць трэба даць магчымасць.
Дзяліць не трэба маладых
На гнедых,
Шэрых,

На рудых.
Абы яны былі з вачыма,
Дзе радасць і непрымірэнне
Нібыта ў першы дзень
тварэння.

Каб жа так, Рыгор Іванавіч, было ў жыцці!

* * *

Нялёгкая, нават цяжкая місія тых, каму даручылі штурвал у выдавецтве, у літвыданні ці творчым саюзе.

Трэба: клапаціся пра справу, пра іншых, а не пра сябе. Есць нямала прыкладаў высакароднага выканання такой пачэснай місіі, але, на жаль, ёсць і адваротнае.

Бывае, той-сёй з літаратурных сяржантаў альбо афіцэраў зайздросціць калегам, сохне ад іхніх поспехаў, замоўчвае, а то і спрытна шкодзіць ім, вышуквае ўсе магчымыя метады, каб пахваліць самога сябе.

Няўжо адшукаць у сабе крыніцу дабра цяжэй, а зла — лягчэй?

* * *

К. Пруткоў: «Многія людзі падобныя да кілбасаў: чым іх напхнулі, тое і носяць у сабе».

Сапраўды, той-сёй санавіты, велічны толькі на выгляд, а калі скажа два-тры словы, дык адразу відаць яго «начынка» — шэрая і прымітыўная.

* * *

А. Эйнштэйн: «Мала хто здольны спакойна выказваць думкі, што ідуць уразрэз з прымхамі асяроддзя. Большасць нават не можа ўвогуле мець такія думкі».

Дзе, адкуль тая крыніца, якая дае натхненне, азарэнне і мудрасць для выяўлення сваіх думак? І па-другое, чаму так не любяць тых, хто мае гэткую здольнасць?

* * *

Адносіны паміж творцамі і крытыкамі, нават паміж маладымі, заўсёды напружаныя. Праўда, у свой час І. Бунін, выдатны рускі пісьменнік, паспрабаваў заступіцца за «непрыяцеляў»: «...как пенять на равнодушного читателя, на враждебного критика! Что с него взять, когда у него даже кровь, может быть, совсем другая, чем у тебя?»

Безумоўна, у кожнага свая «кроў». Творчыя спрэчкі — рэч натуральная і патрэбная. Але, на жаль, часам спрэчкі маюць не зусім творчы характар. Сёй-той з творцаў нападае на крытыку толькі з-за таго, што тая свядома ці несвядома недаацэньвае яго работу, а то і не падхвальвае. А той-сёй з крытыкаў часам самаўпэўнена лічыць творцаў толькі чорнарабочым людам, а сябе — паміж творцам і Небам. Бачыце, яму сам Бог падказвае, каму ўсміхнуцца, каго пахваліць і захваліць, а каго не заўважаць, а то і наўмысна ганьбіць...

Тут справа, мусіць, не толькі «ў крыві». Яшчэ многае напластоўвае і групаўшчына, і звычайная чалавечая непрыстойнасць.

* * *

Вельмі цікава чытаць артыкулы некаторых маладых крытыкаў-навукоўцаў: бачыш, хто якому апекуну (кіраўніку дысертацыі) наследуе. Па прыкладзе свайго маэстра, адзін нававбранец любіць «на ўзроўні» тэарэтызаваць, другі — мець празмерную цягу да цытат-падпорак, трэці — захапляецца пэўнымі, у тым ліку і сумніцельнымі канцэпцыямі, «Падганяць» пад іх пракрустава ложа літаратурны працэс, чацвёрты — абапірацца на залашчаную ўжо абойму пісьменніцкіх імён, пяты — чытаць пісьменнікам курс лекцый па літаратуразнаўстве, вяшчаць ім прапісныя ісціны, шосты — дазваляць сабе судовую катэгарычнасць, нібы навучанне ў аспірантуры ці кандыдацкі дыплом дае права не толькі па-панібрацку адносіцца да творцаў, але і караць, і мілаваць іх, сёмы — паказваць цуды балетнага майстэрства перад масцітымі і танцы з шаблямі перад маладымі, восьмы — баіцца дыскусіі альбо не ўмее яе весці, дзевяты... і г. д., і г. д.

Калі ж натрапіш на артыкул, дзе не відаць нічыіх «вушэй», дык шчыра радуешся і пачынаеш уважліва сачыць за маладым таварышам, чакаючы і верачы, што ён скажа і свежа, і шчыра, і слушна!

* * *

Той-сёй «пільна» пачынае ўжо непакоіцца, што і ў некаторых нашых маладых пісьменнікаў, мастакоў моцная цяга да нашай гісторыі. «Пільныя» бачаць у гэтай цязе «не зусім здаровы дух».

Гэтыя «зычліўцы» — альбо абмежаваныя людзі, альбо наўмысна не хочуць разумець тых прычын, што выклікаюць павышаную цікавасць да мінулага. Пра іх, гэтыя прычыны, пра матывы вяртання цікавасці і любові да роднай зямлі хораша і грунтоўна сказаў выдатны рускі пісьменнік В. Распуцін у сваім інтэрв'ю часопісу «Литературное обозрение», 1985, № 9.

«Літаратура на зыходзе 20-га стагоддзя пачала гаварыць пра небяспекі, што нас спасцігнулі, болей узбуджана і паспешна, быццам адчуваючы, што наступае канец... — зазначаў ён. — Нават тое, што ў літаратуры адбываецца зараз працэс самапазнання чалавека ў сваёй гісторыі і нацыянальных карэннях, сведчыць пра яго неспакойную душу. Калі ўжо мы загаварылі пра адчуванні, то, можа быць, у гэтым адчуванне развітання. Пагрознага нам развітання. Чалавек хоча ведаць, што ўзяў ён сабе з мінулага і куды, у які бок крануўся з дадзенага яму родавага накірунку за сваё жыццё. Ен разважае, дзе і калі адбылося небяспечнае зрушэнне. У карэннях сваіх ён шукае жаданае апірышча, за якое можна зачапіцца, каб затрымацца на асвоенай продкамі зямлі. Да яго вяртаецца любоў да гэтай зямлі і ўдзячнасць да яе святыняў, але хіба ведаем, ці не спазніліся яны і ці магчымае поўнае вяртанне».

...Вось так, таварыш «пільны». Не спяшайся папракаць, абвінавачваць, спачатку разбярыся ва ўсім і зразумей усё — тады многія рэчы стануць для цябе не страшнейшыя за чорта, а зусім ясныя і вытлумачальныя.

* * *

Есць від птушак, што на мала зразумелых прычынах сам па сабе вымірае. І вось дзіва: птушаняты, яшчэ не паспеўшы як след вылезці з яйка ды прадраць вочы, пачынаюць адно аднаго задзёўбваць.

Зрэшты, ніякае тут, у братазабойстве, не дзіва, а самая сапраўдная трагедыя!

* * *

Большасць пісьменнікаў самі ідуць у літаратуру, найперш спадзеючыся на свае веды, на сваю шчырую і сумленную працу, часамі і на своечасовую зычлівую падтрымку тых, хто ўжо мае «вагу і голас». Некаторых сачыніцеляў альбо кволенькіх перамальнікаў чужога, сярэдненькіх журналістаў літаральна на руках уносяць у літаратуру «дзядзькі», распіхваючы моцнымі плечукамі іншых, нават і таленавітых, працавітых. Унесеныя «шчасліўцы» гучна фыркаюць, фанабэрацца пад хвалебныя літаўры, спачатку засланяюць сабой сапраўднае, але варта «дзядзям» апусціць іх на зямлю, пакінуць іх адных, як у большасці з іх адразу ж праяўляецца іхняя бездапаможнасць, і яны, бедалагі, акаменьваюць і застаюцца на доўгай цярністай дарозе на Парнас.

* * *

Здаецца, дасціпны Піліп Сямёнавіч Пестрак даў жыццё гэтаму трапнаму выразу: той-сёй з аглядальнікаў, суддзяў нашай літаратуры падобны на кішаньковую табакерку з тытунём. Той-сёй з масцітых, адчыніўшы яе, з асалодаю панюхае і, задаволіўшыся, зачыніць і зноў схавае ў сваю кішэню.

...Чытаючы інтэрв'ю малодшых калег напярэдадні нашага з'езда ў маладзёжным часопісе, з прыкрасцю ўбачыў, што «кішаньковы бацыл» заразіў і некаторых творцаў. Ім, маладым (здавалася б, шчырым, бескампрамісным, дзёрзкім), пагарэзаваць бы, узмуціць спакой! Аж не! Наадварот, некаторыя найперш паслужліва падносяць да носа ўладнага сваю табакерачку, каб той і тытунік нюхнуў, і задаволена фыркнуў,— каб па патрэбе прылашчыў угодлівага «прыхільніка»...

* * *

Кожны народ любіць пасмяяцца. Весела, гарэзна, са здаровым пачуццём. Мы — не выключэнне. У нашых казках, песнях таксама нямала іскрыстага, дасціпнага смеху.

Наш селянін любіў пацешыцца з пана, чыноўніка, папа, карчмара, сам з сябе таксама. Пасміхоўваючыся з іншых і з сябе, часамі нават прыкідваючыся дурнем, селянін усё ж быў разумнейшы за іх, выяўляючы сапраўдную народную мудрасць.

...Глядзіш у тэатрах некаторыя сучасныя камедыі. Есць смех, досціп, але разам з тым точыць душу і адно прыкрае назіранне: той-сёй з аўтараў паказвае сённяшняга селяніна не столькі вясёльм, колькі смешным, нават пустадомкам, вырадкам.

П'есы ідуць на «ўра», шырока знеслаўляюць нашу вёску, наш люд, і аўтар, захмялелы ад славы і залатога ліўня, задаволены...

* * *

Хто ён — шчаслівец альбо гаротнік, што па волі лесу пажыццёва прысуджаны толькі да пахвалы?

* * *

Можа, варта было падвучыцца ў літаратараў з іншых рэспублік, якія ўмеюць паказаць тавар з лепшага боку, а свае праблемы рашаюць найперш самі, дома?

* * *

Усе мы, само па сабе зразумела, з асаблівай цікавасцю чытаем выступленні і нашых літкіраўнікоў, і радавых творцаў у «Дитгазете». Я не збіраюся крытыкаваць усесаюзнае выданне але дазволю сабе задаць пытанне тым землякам, каму даецца месца на старонках газеты.

Ці Не суправаджае, таварышы, вас адна і тая ж неадчэпная думка пры чытанні матэрыялаў нашых калег, што нібы прысутнічаеце пры спаборніцтве: хто болей непачціва ўбрыкне сваю ж літаратуру? Ці не захапіліся асобныя выступаючыя «палемічнасцю», «прынцыповасцю», ці не занядбалі ўвагу, зычлівасць, радасць, падтрымку, клопат пра развіццё роднай культуры?! А заадно ці не перабольшваецца часамі ўласная непагрэшнасць?!

* * *

А. Лінкольн: «Вы можаце дурманіць частку народа ўвесь час, вы можаце дурманіць увесь народ нейкі час, але нельга дурманіць увесь час увесь народ».

* * *

Адзін калега сур'ёзна павучаў, што «трэба менш канфліктаваць з дэмагогамі, якія дыктуюць моды ў літаратурным свеце, а больш шукаць з імі разумнага супрацоўніцтва». Магчыма, гэта і так. Але назіраючы за паводзінамі дарадцы, часта думаецца: дзе ты, шаноўны, «разумна супрацоўнічаеш», а дзе, выбачай, увішна скачаш пад дудку гэтых дэмагогаў?

* * *

Ф. Дастаеўскі: «Есць такая тайна прыроды, закон яе, па якім толькі той мовай можаш валодаць у дасканаласці, з якои нарадзіуся, г. зн. на якой гаворыць той народ, да якога належыце вы».

Есць літаратары, якія адыходзяць ад гэтай тайны, ад гэтага закону прыроды. Дык вунь адкуль у іх беднасць моўнавыяўленчых сродкаў, вычварнасць, а то і без'языкасць! Вось чаму яны ненавідзяць тых, хто любіць побыт, малюе і ўмее пакарыстацца кроўным словам!

* * *

Чытаю ў Цюмені краязнаўчую кнігу пра сібірскі край. І раптам спыніла, уразіла фраза: «Нарымским уездом правил московский воевода от 2 до 6 лет — «чтоб не заелся».

Класікі, а рускія, можа, найбольш, цудоўна паказалі: кепскія норавы распаўсюджваюць найперш багатыя.

Чаму багацце кладзецца вялізным цяжарам, псуе чалавека, аснову грамадства? Чаму такое неадольнае імкненне да абагачэння, а пасля ад гэтага імкнення — беды і расчараванне, а то і пагібель? Дзе выйсце? У вечнай беднасці? Не, чалавецтва ўвесь час імкнецца да дабрабыту. Дык што — ісціна ў вечнай барацьбе? Нават з самім сабою?

* * *

Каб падпарадкаваць увесь свет, фашызм аб'яўляў народы непаўнацэннымі і «па праве вышэйшасці» заваёўваў іх, рабіў матэрыялам для дасягнення сваіх эгаістычных, чалавеканенавісніцкіх мэт.

Ведаючы гэты механізм, маладыя краіны Афрыкі, Азіі і Амерыкі, што нядаўна атрымалі незалежнасць, як адчуваецца па іхніх літаратурах, засцерагаюцца ад фанабэрыі, але ў той жа час пазбягаюць і самазнявагі. Самазнявага — як вядома з гісторыі, тая спрыяльная ўмова, пры якой лёгка заняволіць, разбурыць любы народ.

* * *

«Иностранная литература» (1984, № 10), мініяцюра Г. Бранстнера, а ў ёй наступныя словы: «Звычайна мы карыстаемся адной мовай, а іменна — сваёй уласнай... Але для афіцыйных мерапрыемстваў мы спажываем іншую мову, каб не псаваць родную».

* * *

Раней захапляўся прозай Ю. Казакова, а вось цяпер у аднатомніку «Поедемте в Лопшеньгу» з задавальненнем пачытаў і яго крытыку.

Крануў артыкул «О мужестве писателя». Хіба не жыццёва, не слушна: «Калі пісьменніку не хапае мужнасці — ён загінуў, нават калі ў яго ёсць талент. Ён стане зайздроснікам, ён пачне зневажаць сваіх калег». Далей. «Савецкі пісьменнік павінен помніць яшчэ, што зло існуе на зямлі, што фізічнае знішчэнне, пазбаўленне элементарнай волі, насілле, глумленне, голад, фанатызм і тупасць, фашызм і войны існуюць. Ён павінен па меры сваіх сіл пратэставаць супраць усяго гэтага, і яго голас, узвышаны супраць маны, фарысейства і злачынстваў, ёсць мужнасць адмысловая». А вось гэта? «Самае страшнае — калі пра цябе маўчаць. Калі ты выдаеш кнігі і ты ведаеш, што гэта сапраўдныя кнігі, але пра іх не ўспамінаюць,— вось калі трэба быць моцным!»

Хто можа быць раўнадушны, чытаючы такія шчырыя, праўдзівыя і мужныя прызнанні?

* * *

А. Пушкін: «Дельвиг не любил поэзии мистической. Он говаривал: «Чем ближе к небу, тем холоднее».

* * *

Кюхельбекер — Пушкшу: «Не слушай, друг Пушкин, ни тех, ни других, ни журналистов, готовых гадить тебе и ругать тебя, как велит им их выгода, — ни близоруких друзей твоих! Слушайся вдохновения — и от тебя не уйдет ни современность, ни бессмертие».

Дарэчы, на пачатку творчасці А. Пушкіна, калі яго пачалі заўважаць і хваліць самыя пранікнёныя знаўцы паэзіі, пустадомныя фанабэрнікі пацяшаліся нават з ягонага прозвішча: «Ну, что такое «Пушкин?» Какой-то конюх!» А вось Пушкін стаў «сонцам рускай паэзіі!»

* * *

Малады Максім Гарэцкі: «Прыйдзе час, і з'явяцца вялікія песняры і пісьменнікі беларускай зямлі, каторыя патрапяць дасканала паказаць прыгожым словам тое, што поўніць мае грудзі, а што выказаць не маю сілы...»

Колькі сціпласці, зычлівасці, моцы і веры, і прароцтва было ў Максіма Іванавіча, калі пісаліся гэтыя нялёгкія, але прадбачлівыя словы! Сапраўды, вялікія людзі вялікія ва ўсім!

*1980-1986*

## II

«Хлусня іншым ёсць часамі нявінная гульня, задавальненне славалюбнасці, — зазначаў Леў Талстой, — хлусня ж сабе ёсць скрыўленне ісціны, адступленне ад патрабавання жыцця».

У сталінска-брэжнеўскую эпоху тых, хто думаў і паводзіўся прыстойна, бязлітасна знішчалі альбо ганьбавалі, а тых, хто прыкідваўся, маніў іншым і сабе, лашчылі і падкормлівалі. Своеасаблівы катэхізіс — «История ВКП (б). Краткий курс» — умацаваў такія скрыўленыя погляды, такую скрыўленую мараль, што кожнаму з нас і цяпер нялёгка змяніцца: баімся іншых і сябе. Хлусня, боязь, што літаральна ўеліся ў нас, шашоляць і нашу душу, і арганізм усяго грамадства, не даюць узяць верх сумленнасці, праўдзе, сцверджанню самага простага і звычайнага, што побач, чаго патрабуе жыццё, здаровая логіка.

* * *

Аляксандр Герцэн: «Кожны адчуваў прыгнёт, у кожнага было штосьці на сэрцы, і ўсё ж усе маўчалі».

Чыёсьці былое і наша цяперашняе маўчанне, спроба прыстасоўвацца альбо затаіцца ў шчыліне і выжыць — па-першае, адтуль, з глыбінь стагоддзяў, калі ўлада змусіла нашых продкаў стаць на калені, схіляць галаву перад панам і царом, а па-другое, ужо і з новага часу, калі новым ўладныя хлусілі, крывадушнічалі звыш усякай меры, прадумана і неміласэрна не толькі высочвалі, высякалі тых, хто мог думаць і гаварыць, але гэтак жа разлікова не давалі нават падняць галаву тым, хто мог бы ладаць голас пазней, хто рана-позна захацеў бы стаць асобаю, духоўна ўзвысіць грамадства.

* * *

Антон Чэхаў, з запісных кніжак: «...разумны кажа: «Гэта хлусня, але паколькі народ жыць без гэтай хлусні не можа, паколькі яна гістарычна асвечаная, дык выкараніць адразу яе небяспечна; няхай яна існуе пакуль, толькі з некаторымі папраўкамі...»

Многія ў нас, асабліва з прывілеяваных ветэранаў і з некаторых апаратчыкаў, зубамі і рукамі за такую «філасофію». Нават больш — на з'ездах народных дэпутатаў, на высокіх партыйных форумах людзі з новым мысленнем за адрачэнне ад застарэлых догмаў і стэрэатыпаў, за рашучыя перамены ў нашым жыцці, а іншыя па-ранейшаму аб'яўляюць учыненае сталіншчынай і сабой святым, самае вялікае згаджаюцца на невялікія папраўкі. І пры галасаванні арыфметычнай большасцю бяруць верх. Можа, і ад гэтага мы, грамадства, недаравальна доўга топчамся на месцы, стамляемся ад дыскусій, а то ўжо і зняверваемся ў тым, чаго яшчэ нядаўна хацелі.

* * *

Цяпер у нас, як мы кажам, «рэвалюцыя зверху».

Пры рэвалюцыі, як вядома, адмысловая сітуацыя, пэўныя палярныя сілы. У свой час, назіраючы за падзеямі 1905 года, вялікі рускі пісьменнік і мысліцель Леў Талстой падкрэсліваў: «Цяпер, у час рэвалюцыі, ясна абазначыліся тры групы людзей са сваімі якасцямі і недахопамі. Першыя — кансерватары, людзі, якія хочуць ціхамірнасці і працягу прыемнага ім жыцця і не жадаюць ніякіх перамен. Недахоп гэтых людзей — эгаізм, якасць — сціпласць, пакорлівасць. Другія – рэвалюцыянеры — хочуць змен і асмельваюцца вырашаць, якія трэба змены, не баяцца насілля для ажыццяўлення сваіх намераў, а таксама і сваіх нягод, і пакут. Недахоп гэтых людзей — дзёрзкасць і

жорсткасць, якасць — энергія і гатоўнасць пацярпець для дасягнення мэты, якая ўяўляецца імі высакароднай. Трэція – лібералы — не маюць ні пакоры кансерватараў, ні гатоўнасці да ахвярнасці рэвалюцыянераў, а маюць эгаізм, жаданне ціхамірнасці першых і самаўпэўненасці другіх».

Мусіць, прыкладна такая сітуацыя і на сучасны момант. Праўда, нашы некаторыя кансерватары аб'яўляюць сябе добрымі і харошымі — «прагрэсіўнымі», а лібералы, што клянуцца ў вернасці перабудове, вычэкваюць: новы курс, «рэвалюцыя зверху» пераможа, рушыць наперад ці паверне назад...

* * *

Думаю, не трэба шмат тлумачыць, чаму кожны з нас уважліва сачыў за работай з'ездаў народных дэпутатаў. Назіранняў, розных думак мноства, але адзін аспект асабіста мяне асабліва ўразіў. Гэта — прамовы дэпутатаў «ад народа»: брыгадзіраў і старшынь сельскіх гаспадарак, дырэктараў заводаў і фабрык, якія любяць падкрэсліваць: «мы, сяляне», «мы, рабочыя»...

Многія з іх літаральна ашаламілі, паказалі: у многім наш сярэдні кіруючы корпус — цвёрдакаменны падмурак менавіта каманднаадміністрацыйнай сістэмы, па-другое, ён, прадстаўнік гэтага тыпу, гладзенькі і сыценькі, князькаваты, адарваўся ад знясіленага працай і пошукам мыла ды шыла простага народа, а па-трэцяе, калі і абапіраецца на «нізы», на «масы», то найперш на кансерватыўныя іхнія часткі і, самае страшнае, на сваю драпежную карысць. І некаторыя «народнікі» страшныя. Не шчырыя і сумленныя, а прыбліжаныя да ўлады, прыкормленыя. Скажам, яны, даволі справядліва патрабуючы «дысцыпліны і ладу», заадно фактычна падпяваюць уладцам у іхнім імкненні да дыктатуры і рэпрэсій, зусім не прадбачачы, што пры апошняй сітуацыі рана-позна могуць стаць ахкярамі і самі. Гісторыя яскрава паказала ж, па якіх прынцыпах дзейнічае махавік «адской машыны»: сёння ты некага адправіў за краты, заўтра — хтосьці ўжо цябе...

У свой час Герцэн засмучаўся: «...з кансерватызмам народа змагацца цяжэй, чым з кансерватызмам трона ці амбона».

Не можам не засмучацца і мы: калі б не было столькі кансерватызму, правінцыйнасці, руціннай цярплівасці і без'языкасці ў нас, беларусаў, то іначай ішла б у рэспубліцы перабудова, іншы быў бы апарат, іншыя былі б адносіны да нашых нацыянальных бедаў...

* * *

Герцэн мог дазволіць сабе сказаць: «...калі існуючы грамадскі лад апраўдваецца розумам, то і барацьба супраць яго, калі толькі ёсць, апраўданая». Мы сабе такога дазволіць не можам: за гэта тут жа абвальваецца жорсткая кара...

У нас яшчэ амаль любая крытыка мінулага ці сённяшняга ўспрымаецца як «замах на СССР, на сацыялізм і партыю...» У нас, калі хто жадае арганізавацца ў суполку, сумесна дзейнічаць нават дзеля абнаўлення грамадства, павінен падаць наверх сваю праграму, павінен прасіць дазвол на любы крок і кожнае слова.

Цікава: ці змаглі б бальшавікі прыйсці да ўлады, калі б цярпліва выстойвалі ў прыёмных сытых і задаволеных царскіх чыноўнікаў, чакалі, калі іх прымуць, калі прачытаюць, ператруць па костачках і адрэагуюць іхнюю праграму, дадуць дазвол на мітынг, на рэвалюцыю?!

* * *

«Не тая хвароба небяспечная, што навідавоку ва ўсіх, прычыну якой усе ведаюць,— зазначаў Фёдар Дастаеўскі,— а тая, што тоіцца глыбока ўсярэдзіне, што не выйшла на паверхню і што тым мацней псуе арганізм, чым непазнаная, далей застаецца незаўважанай. Так і ў грамадстве... Сілы самаасуджэння найперш за ўсё — сіла: яна паказвае тое, што ў грамадстве ёсць яшчэ сілы. У асуджэнні зла абавязкова схаваная любоў да дабра: абурэнне на грамадскія пошасці, хваробы мае на ўвазе вялікае жаданне здароўя...»

* * *

Невялікая, але красамоўная заметка ў «Известиях».

Супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі і пракуратуры Карагандзінскай вобласці вырашылі перагледзець крымінальныя справы, прысуды па якіх, парушаючы ўсякія законы і чалавечую мараль, выносілі ў свой час так званыя «двойкі», «тройкі» і «асобныя нарады». Аказалася, шмат дакументаў глыбока схавана. Былыя работнікі НКВД наадрэз адмовіліся памагчы і знайсці тое, што трэба, і рэабілітаваць нявінных ахвяр 1930-1940 і пачатку 1950-ых гадоў.

Але дакументы ўсё ж знайшлі. Толькі «тройкі» знішчылі 1437 чалавек. Толькі ў чатырох (!) з 1670 (!) спраў, што разглядаліся, ёсць доказ віны. У астатніх — домыслы і паклёпы.

Нельга не жахнуцца ад двайной амаральнасці: і ад таго, што і як некаторыя нашы сучаснікі рабілі раней, і ад таго, як яны паводзяцца цяпер. Якую халодную душу, якое каменнае сэрца трэба мець, каб

адмаўляцца аднаўляць справядлівасць, вярнуць добрае імя тым, хто павінен яго мець?! Мала гэтага, некаторыя з былых садыстаў не толькі жывуць прыпяваючы, моляцца на «мудрага з мудрых», ідэалізуюць яго лад, псіхалогію і мараль, ганарацца ўчыненым сабой, але на сходах рознага ўзроўню «б'юць трывогу», «выкрываюць экстрэмістаў», «нацыяналістаў», патрабуючы расправу з ім за іхнія погляды.

Можа, памыляюся, але, здаецца, асабліва агрэсіўныя пенсіянеры такога тыпу ў нас. Яшчэ і цяпер можна часта пачуць ад іх пад выглядам барацьбы за савецкую ці славянскую «еднасць», «святую справу перамогі над фашызмам» і г. д. самае звычайнае асуджэнне ўсяго новага і нацыянальнага.

* * *

«Чалавецтва разумела гісторыю як шэраг бітваў, таму да гэтага часу барацьбу лічыла галоўным у жыцці» (Чэхаў).

Дзе-дзе, а ў нас, здаецца, па-ранейшаму многія якраз так разумеюць, лічаць, а заадно нават у мірных дыскусіях вышукваюць ворагаў...

* * *

Нашы «Тутэйшыя» (літаратурнае аб'яднанне маладых пісьменнікаў. — Г. Д.) напачатку, бадай, былі самыя дзёрзкія, калючыя з усіх так званых нефармалаў. Невыпадкова, мусіць, і ў іх асобах некаторыя ідэолагі вышуквалі дыверсантаў, завербаваных заходнімі спецслужбамі, нацкоўвалі на іх, як і ўвогуле на ўсю беларускасць, былых бессардэчных спецаў нават па ўтаймаванні здаровага розуму і высакародных пачуццяў.

«Тутэйшыя» і іншыя, магчыма, дабіліся не вельмі шмат з таго, чаго хацелі, што маглі, але наскокаў, цкавання асабліва не збаяліся. Тым больш што ў лепшых пачынаннях іх падтрымала грамадскасць.

«Калі вялікія ідэі, што кіруюць сваім часам, — пісала вядомая руская пісьменніца Марыэта Шагінян (яна, дарэчы, разам з нашым Іванам Мележам атрымала Ленінскую прэмію ў галіне літаратуры), — абрастаюць, як караблі пад вадой, ракавінамі фармалізму, безжыццёвасці, мертвай абавязковасці, яны пачынаюць здавацца толькі абстрактнымі (рассудочными), толькі фармальнымі, і маладыя, новыя чалавечыя пакаленні, якія пачынаюць свой уласны век, непазбежна счэпліваюцца з імі ў баявой сутычцы, здзіраюць з іх ракавінкі, топчуць іх, уяўляючы, што топчуць, у пыл пераўтвараюць самыя гэтыя вялікія ідэі мінулага часу. Але ідэі не паміраюць. А стоптванне

ракавінак, якімі яны абраслі, выступленне супраць абстрактнасці — заўсёды карыснае.

Не толькі карыснае — неабходнае. Гэта патрэбна і для самога розуму і для новага чалавецтва».

* * *

Асуджаць, лаяць моладзь дзе трэба і дзе не трэба — справа не новая, даўняя. Але ёсць, здаецца, і адваротны бок медаля ў адносінах да моладзі. Іменна маладых спажывалі і спажываюць для самых дзёрзкіх, разбуральных і сваіх карыслівых спраў пад гучнымі і прыгожымі лозунгамі: у маладых мала сумнсння, развагі, дальнабачнасці, але затое шмат запалу таптаць, нішчыць «старое» і ўсталёўваць «новае».

Усе рэвалюцыянеры, бунтаўшчыкі і рэфарматары звычайна былі маладыя. І найперш яны звычайна прыносіліся ў ахвяру пасля ўчыненага. Піянеры, камсамольцы, гітлерюгендаўцы і г.д.

* * *

У свой час Герцэн дакараў Заходнюю Еўропу, што яна «показала удивительную неспособность к социальному перевороту», радаваўся за Расію, што яна «не гак не способна к нему» — г. зн. да рэвалюцыі.

Пытанне: калі цяпер тая Еўропа працвітае, а наша краіна, мякка кажучы, адстала ад яе, усе часцей і часцей працягвае руку з просьбай памагчы, то хто меў рацыю? Па-другое, што было б са светам, каб пасля 1917 гада перамагла «перадавая» сусветная сацыяльная рэвалюцыя?

*1990*

## III

Гадоў пятнаццаць таму вычытаў у Дастаеўскага: «Народ наш нищ и смерд, каким он был всегда, и не может иметь ни лица, ни идеи. Вся история народа есть абсурд...»

Шчыра прызнаюся, тады я вельмі балюча ўспрыняў такое самабічаванне, не залюбіў класіка за тое, што ён не толькі рускіх, але фактычна і ўсіх нас, усходніх славянаў, мякка кажучы ўнізіў. Цяпер ужо іначай адношуся да тых, канечне ж, балючых і для класіка слоў. Сапраўды, і гісторыя XX стагоддзя паказвае, што ў былых Расійскай імперыі і СССР — суцэльныя дзівосы. Мала, што на іх абрынуліся дзве сусветныя вайны з незлічонымі ахвярамі і стратамі, дык да гэтага іменна тут адбываюцца два гіганцкія пераломныя і спусташальныя эксперыменты: па будаўніцтве сацыялізму-камунізму (1917-1984) і па

ўдасканаленні ці згортванні іх (1985-...). Колькі самаахвярнасці і гераізму, слёз і крыві, падзення і ўздыму, колькі, здавалася, поспехаў і перамог, заклікаў ісці ў светлую будучыню, але... у асноўным мы былі і ёсць прыніжаныя жабракі. Пры савецкіх незлічоных прасторах, багацці, спрыце і ўмельстве!

Што, доля наша вечная — абсурд?

* * *

Сёння нельга не здзіўляцца: як, скажам, на X з'ездзе РКП(б) 717 галоў з рашаючым голасам ад імя 732521 члена партыі не ўцямілі будучай удушальнай пагрозы ад прапхнутай Леніным рэзалюцыі «Аб адзінстве партыі»? Альбо, да слова, чаму не насцярожыліся дэлегаты XI з'езда, калі з вуснаў кіруючага эталона злавесна прагучаў прыкладна такі тэзіс: дзяржава — гэта рабочыя, гэта — перадавая частка рабочых, гэта — авангард, гэта — мы?!

Няўжо лепшыя сілы партыі не адчулі: знішчэнне іншадумства і чалавечага «я», усталяванне, з аднаго боку, пакоры, а, з другога боку, выключнасці і ўсёдазволенасці жменькі кіруючага апарата вызваляюць яго ад сапраўднай адказнасці перад краінай і народамі, перад гісторьмй, перад укладам жыцця, культурай і духоўнасцю, урэшце, перад імі, партыйцамі? Ці малапісьменныя партыйныя масы былі асляплёныя ідэяй і барацьбой, глыбока не зразумелі замаскаваных хадоў разумовай эліты, якая не проста дзейнічала, а выконвала сваю місію ад імя самога камуністычнага бога — Маркса?

* * *

Для мяне было і ёсць загадкай ацалелы і ўзвышаны да бога з усёй ленінскай гвардыі Сталін. 1) Свядома, па-злачыннаму вёў яе лінію? 2) Па-азіяцку перасядзеў, перахітрыў, знішчыў яе і падрыхтаваў нам «мужыка» Хрушчова? 3) Ці па непазбежнай дыялектыцы міжволі падвёў краіну, партыю і сацыялізм да непасільных рэформ? Альбо ёсць яшчэ чацвёртае ды пятае?

* * *

Маркс: «Дзяржава калечыць сама сябе, калі яна робіць з грамадзяніна злачынцу».

Як цяпер ведаем, марксісты-ленінцы і ведалі гэты наказ, і дзейнічалі згодна яму. Спачатку яны ўзвялі ў ранг злачынцаў цара і ягоную апору, пазней — сваіх апанентаў і былых саюзнікаў, а яшчэ пазней — дзесяткі мільёнаў з народа і многіх са сваёй кагорты. Есць думка, што ў страшны лік «ворагаў народа» трапілі не толькі зла-

мыснікі, але і генафонд краіны. Гэтыя «зэкі», фактычна савецкія рабы, у жудасных умовах — без сям'і, сяброў і сваёй любімай справы, без утульнага жылля, школ, бальніц і г. д. спаўнялі «буйнейшыя сацыялістычныя будоўлі».

Народная прымаўка кажа: «Як гукнеш — так і адгукнецца». Мала таго што ўзведзенае пад ружжом, са слязамі і крывёй, узведзенае кіркай, рыдлёўкай і тачкай было не зусім трывалае і гуманнае, дык яшчэ рана-позна павярнулася вялікай бядой. Адтуль, з турмаў і лагераў, хлынула на волю, зашалоніла ў прынцыпе падарваны ўжо народны арганізм скрыўленая псіхалогія: «залажыць», «сука», «шасцёрка», «прыдурак», «начальнік» («ты начальнік — я дурань, я начальнік — ты дурань»), «раскінуць чарнуху», «цямніць», «туфта», «шарашкіна кантора», «пахан», «бугор», «цягнуць гуму», «даюць — бяры, б'юць — бяжы», «не рабі тое, што можна зрабіць заўтра», «а мне ўсё да фені» і г. д., і г. д.

Глыбока памыляецца той, хто лічыць усё гэта за звычайны дасціпны «зэкаўскі» фальклор, не, тут-свой лад, свая філасофія жыцця і дзейнасць, яркая карціна маральнага калецтва адной шостай часткі зямнога шара.

* * *

Цяпер ужо не толькі ленінскія «скарпіёны», але і сам Ільіч многімі залучаны ў сонм сатанінцаў.

Але вось парадокс: жменька бальшавікоў-ленінцаў здолела зрабіць дзяржаўны пераварот, захапіць уладу, асядлаць грамадства і навязаць яму сваю волю, а вось 18-мільённая армія «нічым незаплямленых» членаў КПСС, маючы ўсе механізмы і рычагі непадзельнай улады, не толькі не здолела перабудаваць «казармавы» сацыялізм на «дэмакратычны», але...

У чым жа прычына паражэння такой агромністай сілы? Няўжо толькі ад таго, што яе галоўнае камандаванне складалася не з самых разумных, сумленных і смелых, а з хітрых і паслужлівых, няздольных да самастойнай дзейнасці, а то і маральна разбэшчаных, літаральна прыкаваных да свайго сытнага карыта? А астатнія, непрыкарытныя члены КПСС? Ведалі яны па-сапраўднаму, што такое гуманізм, што такое сацыялізм-камунізм, па-сапраўднаму маглі працаваць дзеля гэтай ідэі? Ці, можа, такім вялікім гуртам адмовіліся ад яе?

Наш пэўны вопыт, а таксама пэўны вопыт многіх краін свету паказвае: шматлікія сацыялістычна-камуністычныя ідэі, калі яны ажыццяўляюцца не гвалтам, а па-чалавечаму, вельмі і вельмі прыдатныя. Думаецца, таго, хто будзе не столькі баяць байкі пра

суцэльнае святое мінулае, а дзелавіта распрацоўваюць тэорыю сапраўды дэмакратычнага і гуманнага сацыялізму, чакае будучыня.

* * *

«Старшы брат»... Гэты тэзіс, як разумею, сталінскай закваскі: па-першае, каб улагодзіць некаторых з вялікарускага асяроддзя, па-другое, каб пры яго дапамозе лягчэй падмяць «меншых» альбо «малодшых» і, урэшце, каб спрытней трымаць у руках на самай справе вялікі рускі народ.

Але нельга не задумвацца як след: а што ж гэта такое — Расія, велікарусы? З імі ж цесна звязаны і наш лёс.

Хочаш ці не хочаш, але мы маем справу з феноменам. Здарылася так, што лёс даў Расіі шанец не толькі ўзнікнуць, сцвердзіцца, але і ўвесь час пашырацца — туды, куды бачылі з-пад рукі «багатыры» альбо «землепраходцы» тыпу Ермака, сілай і са згоды далучаючы да сябе невымерныя абсягі ды дзесяткі іншых, часамі зусім чужародных народаў і па ходу пералепліваючы іх на свой лад. «А ну, чертенок, говори по-русски!»

Агромністыя прасторы, гарачыня і люты мароз, мяцеліцы; багацце, што літаральна пад нагамі; працяглыя і не ўсюды ўпарадкаваныя дарогі, на якіх не толькі нязручнасці, але і перахоп дыху альбо, мякка кажучы, розныя свавольствы; вабнасць чаканага агеньчыку, шынкі, гулянкі, песні, бойкі; старанная праца і спадзяванне на славутае «авось»; знясільваючая цяга да праўды і сумленнасці; бясконцыя войны, перамогі і святы; самаахвярнасць, гераізм і апатыя; вялікія поспехі ў навуцы і культуры; фанабэрыя, душэўныя пакуты ад сваёй велічы і незразумелай місіі; самаўніжэнне і пакланенне перад Еўропай... Усё гэта і іншае не магло не выхаваць фенаменальны, часамі непрадказальны характар. На яго няпроста накінуць аброць, змайстраваную па мерках Заходняй Еўропы, дзе многае ўсё іншае, абмежаванае ў памерах, не столькі пачуццёвае, колькі рацыяналістычнае ды ашчаднае.

Невыпадкова вялікі рэфарматар расійскага быцця Пётр Першы прышчапляў заходнія мадэлі сілай і гвалтам (насіллем пазней дзейнічалі і Ленін са Сталіным). Невыпадкова і тое, што нават сам народ, адчуваючы сваю «шырыню душы», асцерагаецца «смуты» і наклікае на сябе «жалезную руку», «гаспадара», даючы магчымасць умацавацца розным культам. Нарэшце зусім невыпадкова ў свой час Маркс у лісце да Засуліч зазначаў: яго тэорыі на аснове Заходняй Еўропы і для яе, бо ў Расіі, падкрэсліваў, усё іншае. Але...

...Асабіста я і з вялікай трывогай, і з вялікім пытаннем гляджу на нашага спакутаванага ды ўсё ж багатага і здольнага суседа, які рана-позна павінен акрыяць, стаць на ногі і зноў зірнуць удалеч з-пад рукі...

* * *

Леў Талстой: «Нельга змусіць розум разбіраць і выясняць тое, чаго не хоча сэрца».

Дэпутаты «ад народа» у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, асобныя кіраўнікі аграрных гаспадарак.

Люба слухаць, калі яны супраць «амбіцый», за «зберажэнне прыроды і зямлі, за лад ды кавалак хлеба для людзей», але, з другога боку, не можа не ўразіць іхняя агрэсіўнасць, катэгарычнасць і, выбачайце, чыста беларуская правінцыйнасць і абмежаванасць. Да слова, Беларусь і яе народ яны гатовыя бачыць без беларускага, як адно вялікае дагледжанае поле, як адну буйную наладжаную ферму з паслухмянай і больш-менш апранутай ды накормленай рабсілай пэўнага народнагаспадарчага рэгіёна. Клопат пра «усякую культуру» яны пакідаюць «на пасля», «калі пад'ядзім і апранёмся».

Не хочацца нікога абражаць, але ствараецца ўражанне: некаторым аграрыям (зрэшты і кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў) варта найперш займацца сваёй канкрэтнай справай і не імкнуцца ў вялікую палітыку, дзе трэба іншы, шырэйшы, дзяржаўны, кругагляд. Тым больш, што вопыт цяперашніх перадавых і квітнеючых краін свету паказвае: там быў і ёсць аднолькавы клопат як пра цела, так і пра душу, і гэта неабходная зарука ўсеагульнага цывілізаванага поспеху.

* * *

Яшчэ пра народных дэпутатаў-ветэранаў.

Цяжка, горка пісаць непачціва пра пажылых людзей. Але, на вялікі жаль, досыць вялікі атрад гэтых нашых парламентарыяў пакуль што яшчэ не праявіў як след уласцівых іхняму ўзросту вопыту і мудрасці: спачатку запета адстойваў былыя «святыні», што не ўсе былі такімі, паслужліва выконваў ганебныя даручэнні кіруючых партыйных структур і з усіх сіл не даваў вынырнуць з балота нашай рэчаіснасці «нефармалам» і «нацыяйалістам», а пасля пад ходам падзей увабраў галаву ў плечы, трацячы пазіцыі і грамадзянскае аблічча. Шкада, што ў многіх салідных людзей пад дарагімі касцюмамі, пад ордэнамі і медалямі так і не ажывілася чалавечая душа, замест яе як быў, так і застаўся высечаны на камені кодэкс былых

догм і стэрэатыпаў, што выключалі думку, сумленне і спачуванне, сапраўдны клопат пра беларускую нацыю. Зразумела, не ўсё мінулае трэба ахайваць, (некаторых якраз яно, у тым ліку і цёмнае, падняло на паверхню), не ўсё новае — перадавое, трэба мець разумныя прынцыпы, але ўсё ж трэба пазбаўляцца... не, не ад ідэі, а ад былога ідэйнага ідыятызму.

* * *

Незалежнасць Беларусі... За яе, гэтую волю, у свой час паплаціліся жыццём, цкаваліся і пасля гвалтоўнай смерці лепшыя сыны народа — і тыя, хто ўтвараў ВНР, і тыя, хто ладзіў БССР.

Цяпер гэтая незалежнасць літаральна звалілася з неба. Ды... не адзінкі, сотні і тысячы, а многія і многія, у тым ліку і нашы кіраўнікі, здаецца, разгубіліся, азіраюцца вакол ды абмацваюць позіркам нядаўні цэнтр: што рабіць? Я к жыць без загадаў?

Цяжка, а то і страшна выціскаць са сваёй душы паслужлівага выканаўцу ды няма вопыту адчуваць сябе, рэспубліку дзяржаўнымі. Нават ужо тое, што ў наш Вярхоўны Савет ніяк не можа ўвайсці гаспадыняй (а пакуль што толькі падчарыцай) беларуская мова, паказвае: у многіх няма элементарнага разумення, што гістарычная памяць, нацыянальныя каштоўнасці — адна з умоў сцверджання дзяржаўнасці, а сама дзяржаўнасць — не прыхамаць «нацыяналістаў», а жыццёвая патрэба кожнага развітага народа. Калі гэтага не разумець і не дабівацца, то гэта найпершая адзнака таго, што нацыя і яе сілы не зусім здаровыя. Лячэнне дзяржаўнасцю (агромністай каштоўнасцю, што выпрацавала чалавецтва) — надзейны паратунак ад пагібельнай для народа немачы.

Пакуль што беларускую дзяржаўнасць не столькі прызнаём і мацуем мы самі, колькі за нас робяць гэта іншыя краіны свету. Адно суцяшэнне: дасць нарэшце Бог — іншыя разумныя людзі навучаць нас розуму і павагі да ўсяго свайго.

* * *

«Как не любить Пушкина и Толстого?» — бывае, «б'е» хтосьці з велікарусаў і нашых русіфікаваных землячкоў, гакім вось прыёмам робячы з цябе і ворага, і недарасліка, а заадно каварна перакрываючы кісларод зняможанай беларускай мове і культуры.

Ніхто не мае права змушаць любіць Пушкіна і Талстога, гэта асабістая справа кожнага. Іншая рэч, што ты невысокай культуры, калі не паважаеш такіх вялікіх майстроў, як, скажам, Шэкспір, Гёта, Міцкевіч, Шаўчэнка, Нізамі, Дастаеўскі, Чэхаў...

Калі сыходзіць з гэтых высокакультурных пазіцый, дык чаму той-сёй дазваляе сабе «культурна» абражаць нашых выдатных майстроў, мову, на якой яны тварылі? На гэта асабісга я чуў розныя адказы. Напрыклад: «А беларуская мова непрыгожая», «Я не ведаю вашай літаратуры і культуры, але я іх не люблю» і г. д.

Наконт прыгажосці мовы не варта спрачацца (лухта гэта, што з некалькіх тысяч моў у свеце Бог найменш усяго даў нашай, беларускай), а вось пра тое, што ў многіх нашых людзей адбілі не толькі печань, але і гістарычную памяць, зглумілі душу і змусілі грэбаваць сваім, а ўрэшце і не ведаць яго, мы гаварылі і будзем гаварыць.

Ёсць спадзяванне, што цяпер, у новых умовах, ужо не столькі Закон аб мовах, а шырокая народная свядомасць дасць належны штуршок для выйсця беларускай мовы і культуры з куткоў і хутароў на шырокі прастор.

Калегі па пяры, журналісты з радыё і тэлебачання, з цяперашніх шматлікіх рускамоўных выданняў, давайце шчыра, належным чынам цэнячы здаровую нацыянальную канцэпцыю, паспрыяем гэтай справе! І найперш асабістым прыкладам!

* * *

Шаноўныя чытачы, ахвотнікі чытаць толькі на рускай мове, будзьце пільныя!

Улічваючы ваша такое аднабокае моўнае запатрабаванне, вас спрытна акалпачваюць розныя дзялкі. Яны на рускай мове агромністымі тыражамі і па вялікай цане выдаюць для вас не толькі высокамастацкія творы, але і розны сурагат, замешаны на пошлым сексе, на прымітыўных дэтэктывах і фантастыцы. Абы вы хапалі «клубнічку», абы набівалі іхнія кішэні!

Не ўсе творы, што пішуць беларускія пісьменнікі і выдаюць з-за няўвагі да іх чытачоў маленькімі тыражамі, — шэдэўры. Не. Але сярод іх нямала таленавітых і добрых, што маглі б зрабіць гонар самым развітым літаратурам.

...На вялікі жаль, а то і ганебна, што, прагнучы лёгкай нажывы, кінуліся выдаваць нізкапробны перакладны хлам і некаторыя нашы літаратары. Праўда, каб не было сорамна перад калегамі, якія годна служаць сваей справе, у выхадных дадзеных хаваюцца за псеўданімы...

* * *

Заўсёды і ва ўсім свеце найбольш у культуры дабіваўся той, хто не мадэліраваў з чужых узораў, а здольваў адчуць, перадаць многае са

зместу і духу роднага народа. Нават больш: лепшае з гэтых мастацкіх рэчаў — народны дар і здабытак.

* * *

Як узнікае свядомае, высокаразвітае асяроддзе, а то нават і грамадства? Ты шчыры і сумленны, ён, я — такія, усе не здаліся, не схібілі, паказалі ўсё лепшае — глядзі, і ўзнікае, развіваецца яно, свядомае і высокаразвітае...

*1991*

© OCR: Камунікат.org, 2012
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

**З М Е С Т**

Літаратурна-мастацкае вьтданне
ДАЛІДОВІЧ Генрых Вацлававіч
КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА
Раман, апакяданні, мініяцюры
Для старэйшага школьнага ўзросту
Рэдактар А. І. Хвалей
Мастацкі рэдактар К. С. Ракіцкі
Тэхнічны рэдактар С. А, Абрамчук
Карэктар Д. Р. Лосік
Здадзена ў набор 15.11.96. Падпісана да друку 16.04.97. Фармат 84ХЮЗ'/з2. Папера друкарская, Гарнітура тып Тайме. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 21,84. Ум. фарб.-адб. 22,26. Ул.-выд. арк. 24,13. Тыраж 6000 экз. Зак. 973.
Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь на друку. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўыага Чырвонага Сцяга гталіграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Далідовіч Г.
Кліч роднага звона: Раман, апавяданні, мініяцюры: Для ст. шк. узросту / Маст. У. І. Сытчанка.— Мн.: Юнацтва, 1997.— 414 с.: іл.

ISBN 985-05-0142-1.

Чытач трымае ў руках кнігу вядомага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генрыха Далідовіча: тут і раман «Кліч роднага звона» — пра першыя самастойныя крокі, узвышэнне Навагародка як горада, княства і цэнтра будучай дзяржавы ў далёкім XIII стагоддзі, і новыя апавяданні з цыкла «Жар кахання», і развагі сталага ўжо творцы пра жыццё і літаратуру.

Як і ранейшыя, новыя творы пісьменніка вызначаюцца навізной, заглыбленым псіхалагізмам, яркасцю мастацкіх карцін і сакавітай беларускай мовай.